# Іван Пташнікаў



Том

1

РАМАН
АПАВЯДАННІ

**МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990**

ББК 84Бел7
П 87

*Прадмова Серафіма Андраюка*

В первый том известного белорусского писателя, лауреата Государственной премии БССР Ивана Пташникова вошли его ранний роман «Жди в далеких Гринях» и рассказы, написанные в разные годы.

П $\frac{4702120201-133}{М302(03)-90}$ 104—90

ISBN 5-340-00509-7 (т. 1)

ISBN 5-340-00508-9

# ЧАЛАВЕК АБЖЫВАЕ ЗЯМЛЮ

«Тартак», «Мсціжы», «Найдорф», «Алімпіяда»...

Кожны з гэтых твораў стаў не толькі вызначальнай вяхой на творчым шляху таленавітага пісьменніка, але і з'явіўся прыкметнай падзеяй для беларускай літаратуры.

Сёння ж усе разам гэтыя творы (як і напісаныя раней раман «Чакай у далёкіх Грынях», аповесць «Лонва», апавяданні «Алені», «Алёшка», «Бежанка», «Сцяпан Жыхар са Сцешыц», «Агні», а таксама апавяданні апошніх гадоў «Эфка», «Львы», «Арчыбал») ствараюць такую самабытную і значную з'яву нацыянальнай літаратуры, назва якой — проза Івана Пташнікава. З'ява гэтая дастаткова выразна акрэслілася, раскрыла і глыбока выявіла свае ідэйна-мастацкія асаблівасці, жыццёвыя вытокі, сцвердзіла сваю мастацкую арганічнасць.

Заўважаецца мастакоўская паслядоўнасць, мэтанакіраванасць творчай дзейнасці. Пачынаючы з аповесці «Іллюк Чачык» і канчаючы раманам «Алімпіяда», апошнімі апавяданнямі, пісьменнік нязменна строга прытрымліваецца прынцыпу вернасці сваёй творчасці жыццёвай праўдзе. Смела можна сцвярджаць: ніхто не скажа, што творы ягоныя прыдуманыя, не адпавядаюць рэальнай жыццёвай аснове. Чытаючы апавяданні, аповесці, раманы, адчуваеш, бачыш глыбокую аснову жыццёвую, а не толькі, напрыклад, падзейную, фактычную, сітуацыйную. Жыццёвая ж аснова нясе ў сабе рысы выключна асабістага характару: па-першае — і гэта, бадай, самае галоўнае,— піша Пташнікаў выключна пра сваю «малую радзіму»; па-другое, піша пра тое, што знаходзіцца ў межах асабістага жыццёвага вопыту; па-трэцяе, пры ўзнаўленні жыцця імкнецца да максімальнай паўнаты і ўсебаковасці, багатай насычанасці падрабязнасцямі — бытавымі, пейзажнымі, псіхалагічнымі.

Ва ўсіх творах вельмі добра відаць нязменная прывязанасць пісьменніка да родных мясцін на партызанскай Плешчаніцкай зямлі. Там, у вёсцы Задроздзе, у 1932 годзе нарадзіўся Іван Пташнікаў, там прайшло ягонае дзяцінства і юнацтва. Вельмі нялёгкія, трывожныя. Менавіта там разгортваюцца падзеі практычна ўсіх

ягоных твораў: у родным кутку — увесь свет. Пісьменнік найлепш ведае тых людзей, з кім разам жыў, рос, выхоўваўся, хто народжаны той самаю, што і ён, зямлёю, хто дыхаў і дыхае тым самым паветрам — людзей роднага кутка зямлі. Іх ён адчувае знутры. У нечым самым істотным, вызначальным яны — гэта ён, а ён — яны.

Піша Пташнікаў выключна пра тое, што знаходзілася і знаходзіцца ў часовым і прасторавым абсягу ягонага асабістага вопыту. Вопыту, набытага духоўна і эмацыянальна ў гады дзяцінства і юнацтва. Пазней адбывалася яго грамадска-сацыяльнае паглыбленне і пашырэнне, яго асэнсаванне. Таму піша нібыта пра сваё жыццё.

Рэальную аснову падзей, пра якія расказваецца ў творы, Пташнікаў звычайна імкнецца падкрэсліць.

«Падзея, пра якую расказвае аповесць, адбылася ў нашых паўночных беларускіх лясах пасля вайны — у 1946 годзе. Людзі — сведкі яе — усе жывуць»,— зазначае аўтар на пачатку аповесці «Лонва». Гэта — нібы эпіграф.

У адным рукапісным накідзе І. Пташнікава можна прачытаць: «Трагедыю Дальвы 1944 года (вёска была спалена разам з жыхарамі; пра яе аповесць «Тартак».— *С. А.*) я сам перажыў, і яна стаяла ў мяне ў памяці да самых апошніх дзён, калі я пісаў аповесць, яна не дае мне супакоіцца і цяпер і не дасць, відаць, вечна. Бо таго, што было ў сорак чацвёртым, ніколі не апішаш. Гэта быў год, калі фашысты, чуючы сваю гібель, сама горш звярэлі на нашай Плешчаніцкай, Лагойскай і Бягомльскай зямлі — палілі ў агні вёскі з людзьмі. Ад гібелі ратавала людзей зброя, зямля, лес, але ўсіх уберагчы не магла. Пасля рэгулярных фашысцкіх часцей аставалася на месцы хат чорная зямля, і сухі, жорсткі, як жвір, яшчэ гарачы попел кляваў вочы і сушыў слёзы ў таго, хто аставаўся жыць».

Пра аповесць «Найдорф»: «Мне хацелася на былых рэальных фактах, сваіх вясковых, стварыць вобраз мужнага чалавека Вялікай Айчыннай, аратага і партызана, які тут жа араў, сеяў, быў верны сваёй зямлі і тут жа злёг у зямлю, баронячы яе ад фашызму». І далей: «Падзеі, эпізоды з жыцця герояў аповесці — рэальныя, яны ўсе адбываліся ў нашым баку; героі — не выдуманы; імёны камісара партызанскай брыгады імя Кутузава Рудава і партызана гэтай жа брыгады Алёшы Белановіча, якія загінуў у сутычцы з эсэсаўцамі, што рваліся з акружэння на захад,— не зменены.

Час, апісаны ў аповесці,— май — чэрвень 1944 года. Час самай жорсткай апошняй фашысцкай блакады ў нашым раёне, так званай аперацыі «Кармаран», якая праводзілася сіламі рэзерваў гру-

пы армій «Цэнтр». Мэта аперацыі «Кармаран» была — загнаць партызанскія брыгады Барысаўска-Бягомльскай зоны ў раён балот возера Палік, акружыць і знішчыць. Фашысты гналі ў «кацёл» да дваццаці партызанскіх брыгад: з партызанамі ішлі і людзі з вёсак...

Гэта быў час, калі гарэлі ў лютым агні беларускія вёскі... У гэты час згарэла Дальва з людзьмі, згарэла мая хата ў маёй вёсцы...

Гэта быў час, калі нас выратавалі ад гібелі салдаты Чарняхоўскага...

Такое запомнілася. І доўга яшчэ будзе ўзнікаць і стаяць перад вачамі».

Выказванні, характэрныя для разумення творчай пазіцыі пісьменніка. Пташнікаў настойліва падкрэслівае рэальную аснову твораў. І гэта не даніна модзе на дакументальнасць у літаратуры (а такая мода даўно існуе), а сцвярджэнне свайго мастакоўскага разумення сутнасці ўзаемаадносін рэчаіснасці і мастацтва.

Паглядзеўшы з улікам гэтых сведчанняў і меркаванняў на творчасць пісьменніка, нельга не ўбачыць і не зразумець, які глыбокі і значны след пакінула вайна ў яго жыцці, як назаўсёды ўвайшла ў ягоны творчы лёс, шмат у чым сфармавала гэты лёс.

Уважлівы погляд на творчасць, аналіз яе з пазіцыі галоўнага мастаковага прынцыпу адносін да рэчаіснасці (асабістае веданне ўсяго, пра што піша, веданне на ўзроўні перажытага) дазваляе зрабіць вывад пра другую (зразумела, па пераліку, а не па значнасці) жыццёвую крыніцу творчасці празаіка.

Крыніца гэтая — прырода родных мясцін.

У творчасці Івана Пташнікава, у кожным, па сутнасці, творы карціны прыроды, малюнкі, яркія, выразныя, эмацыянальна насычаныя, займаюць асабліва значнае месца, адыгрываюць надзвычай важную, у многіх адносінах вырашальную ролю. Прычым не пра апісанне можа ісці гаворка, а пра ўзнаўленне. Без разгорнутых, эмацыянальна яркіх карцін прыроды нельга ўявіць сабе ніводнага Пташнікавага твора. Падзеі, канфлікты, абставіны, агульная духоўная атмасфера, нарэшце, ідэйны змест — усё звязана з прыродай. А яе ўвасабляе лес.

І гэта натуральна, заканамерна.

У тым рэальным свеце, у якім прайшло дзяцінства і юнацтва будучага пісьменніка, лес для чалавека быў усім — домам, паветрам, паэзіяй, увасабленнем бясконцасці і велічы, таямнічасці і прыгажосці жыцця.

Гаворачы пра падзеі вайны і пра прыроду роднага краю як пра найбольш выразна выяўленыя, глыбокія і інтэнсіўныя крыніцы творчасці Пташнікава, не трэба забываць, што крыніцы гэ-

тыя (пры ўсім іх несупадзенні, знешне змястоўнай неадпаведнасці) жывяць тую плынь, якой з'яўляецца жыццё людзей роднага пісьменнікавага кутка зямлі.

Жыццё прыроды, жыццё людзей, іх праца, побыт, асабістыя ўзаемаадносіны, іх барацьба за незалежнасць і за аднаўленне краю, іх мужнасць і неймаверная трываласць, шчодрасць душы і сціпласць — усё гэта фармавала (відаць, дакладней: ва ўсім гэтым фармаваўся) духоўны свет пісьменніка. Фармаванне адбывалася натуральна, арганічна, у самім працэсе нармальнага чалавечага жыцця.

Творчасць Івана Пташнікава пачалася ў вельмі спрыяльных грамадскіх умовах, на хвалі вялікага грамадскага ўздыму ўсярэдзіне 50-х гадоў. Творчая індывідуальнасць у гэтых умовах мела магчымасць выявіцца адкрыта і поўна, талент раскрываўся свабодна, арганічна выяўляў сваю мастакоўскую адметнасць.

Кожная літаратурная з'ява (творчасць пісьменніка асабліва) заўсёды мае не толькі рэальныя жыццёвыя вытокі, але і літаратурныя. Такая з'ява не можа ўзнікнуць на эстэтычна неабжытым месцы, у эстэтычна беспаветранай прасторы.

Канкрэтных пісьмовых сведчанняў пра літаратурна-мастацкія сімпатыі і прыхільнасці Івана Пташнікава ў нас няма. Але з упэўненасцю можна сцвярджаць: значнасць пісьменніка для яго вызначаецца ўзроўнем мастацкасці твораў. «Художник» (гаворыцца па-руску) — у яго вышэйшая пахвала. Так называе ён Л. М. Талстога, А. П. Чэхава, І. А. Буніна, з беларускіх — Якуба Коласа, Кузьму Чорнага, Івана Мележа. Увогуле адчуваецца ў Пташнікава грунтоўная літаратурная падрыхтоўка. Але якіх бы то ні было слядоў запазычання, пераймання заўважыць немагчыма. Усё трансфармуецца, пераплаўляецца з улікам асноўных ягоных мастакоўскіх прынцыпаў, ягоных унутраных індывідуальных запатрабаванняў і схільнасцей.

Сёння талент Івана Пташнікава раскрыўся з усёй глыбіннай, нейкай быццам нават стыхійнай сілай. Сіла гэтая мэтанакіраваная, падпарадкаваная ўнутраным законам гармоніі, мэтазгоднасці. Творы пісьменніка, пры ўсёй іх адкрытасці ў жыццё, унутранай часамі як бы нязладжанасці, эстэтычна надзвычай цэласныя, арганічныя. Вось гэтая мастацкая цэласнасць і арганічнасць, думаецца, дастаткова пераканальна сведчыць, што талент гэты сфармаваўся, акрэсліўся і выявіўся — у дастатковай ступені — у сваёй сутнасці.

Асноўны прынцып мастацкага адлюстравання — малюнкава-аналітычны: жыццё ўзнаўляецца-паказваецца шырока, усебакова-аб'ёмна, у багацці дэталяў і падрабязнасцей. На першы план вылучаюцца асабліва яркія моманты (сюжэтна-сітуацыйныя, пей-

зажна-бытавыя, псіхалагічныя), самыя характэрныя, вызначальныя. Аналітычнасць дасягаецца за кошт выяўлення ўсяго багацця, усёй складанасці сувязей і ўзаемадзеяння характараў, фактаў, сітуацый, даследавання іх вытокаў, гісторыі, іх сённяшняга стану.

Той мастацкі свет, які стварае пісьменнік у сваіх раманах, аповесцях, апавяданнях, адкрыты ў прасторы і часе; ён не мае строгай сюжэтна-кампазіцыйнай ці жанравай абмежаванасці, падпарадкаванасці нейкай зададзенай ідэі. Ёсць жыццё, пэўная жыццёвая сітуацыя па-мастацку ўзноўлена-распрацавана ў яе самых шырокіх прасторавых і самых істотных часовых сувязях. Не жыццё само па сабе, а жыццё чалавека; не жыццёвая сітуацыя як падзея ці гісторыя (у плане бытавым), а сітуацыя, у якой засяроджаны лёс чалавека, яго вырашэнне. У гэтым свеце, унутрана надта рухомым, зменлівым у сваёй эмацыянальнай і змястоўнай устойлівасці, свеце, дзе ёсць грунтоўная заглыбленасць у мінулае,— у гэтым свеце заўсёды адчуваецца выхад у будучыню.

Складваецца ўражанне, быццам Пташнікаў не піша творы пэўнага жанру (хаця наўрад ці ягоныя жанравыя вызначэнні можна аспрэчваць). Ён па-мастацку ўзнаўляе жыццё, дакладней пэўныя жыццёвыя гісторыі, узнаўляе такімі, якімі ён іх адчувае, бачыць, якімі яны ў ім жывуць. У гэтым жыцці ўсё яму знаёмае, усё сваё, асабістае.

Творы пісьменніка па сваёй мастацкай структуры і жыццёвай аснове — нібы «кавалкі» самога жыцця, адкрытыя ў рэчаіснасць; яны з яе ў сваім змесце арганічна выцякаюць, сюжэтнае завяршэнне іх не надта строга акрэслена. Часовыя межы існуюць толькі для падзей знешніх, для ўнутраных жа, тых, якія «жывуць» у свядомасці, у памяці персанажаў, іх, па сутнасці, няма. І хоць падзеі ўсіх твораў празаіка адбываюцца ў адной і той жа мясцовасці, якіхсьці строга акрэсленых прасторавых межаў жыццё, якое ў сваіх творах паказвае Пташнікаў, не мае.

З'яўляючыся часткай агромністага, неабдымнага жыцця прыроды і людзей, мастацкі свет ягоны ўяўляе і сам непаўторны свет. Гэта — мікракосм, які нясе ў сабе, заключае ўсё неабходнае для яго існавання і жыццядзейнасці. У гэтым свеце (мастацкі свет успрымаецца як свет рэальны) няма, здаецца, нічога выпадковага ці непатрэбнага; кожная дэталь, падрабязнасць — гэта часцінка таго свету, у якім жыве чалавек, дзе для яго ўсё неабходна. Таму ўсе падрабязнасці, апісанні, карціны, сітуацыі не толькі жывапісна-яркія, выразныя. Яны насычаны чалавечымі пачуццямі; яны непасрэдна і неяк дужа асабіста звязаны з чалавекам (мастацкім характарам), пастаянна на яго ўплываюць, у сваю чаргу пастаянна этычна, эмацыянальна адчуваючы на сабе ча-

лавечае ўздзеянне; яны, нарэшце, падпарадкаваны адзінай стваральнай сіле, ёю сцэментаваны. Сіла гэтая — сіла чалавечай індывідуальнасці, унутраная сіла чалавечага характару. Такім чынам творы пісьменніка (у прыватнасці такія, як «Тартак», «Мсціжы», «Найдорф», «Алімпіяда») пры ўсёй сваёй знешняй жыццепадобнасці строга падпарадкаваны пачатку ідэйна-мастацкай унутранай арганізаванасці.

Свет, у якім жывуць героі І. Пташнікава, аб'ёмны, шматмерны. Для пісьменніка важна не проста паказаць вось гэтага канкрэтнага чалавека, а паспрабаваць яго вытлумачыць, знайсці і ўбачыць прадумовы і вытокі ягонага існавання. Адсюль пастаянныя экскурсы ў мінулае.

У аповесці «Лонва» перад намі праходзіць звычайнае жыццё звычайных людзей на сваёй зямлі. Жыццё з яго радасцямі і трывогамі, высокімі парываннямі і горкімі расчараваннямі, жыццё, у якім ёсць любоў да роднай зямлі, мара пра хараство, пра шчасце, светлае і шчырае каханне, у якім ёсць таксама і смерць, чалавечы боль, трывога, грубасць, хцівасць. І няхай сабе розныя бакі жыцця ў творы падаюцца пакуль што як бы эскізна, не ва ўсёй глыбіні сплаўленыя ў адзінае арганічнае мастацкае цэлае. Каштоўны сам падыход мастака да жыцця, такое ўспрыманне і бачанне яго, дзе адчуваецца, з аднаго боку, любоў аўтара да жыцця, да чалавека, унутранае імкненне падаць жыццё ва ўсім яго аб'ёме, захапленне непаўторным хараством роднай прыроды, з другога — здольнасць бачыць, адчуваць драматызм і трагізм жыцця — у самых звычайных, штодзённых з'явах і фактах, у чалавечых лёсах. Драматызм і трагізм нараджаюцца з разумення складанасці жыцця наогул, з усведамлення складанасці і супярэчнасці кожнага чалавека, невытлумачальнасці — часта — яго ўчынкаў і паводзін. Трагізм вынікае з падзей мінулай вайны, імі народжаны. Водгулле вайны ў аповесці чуецца ўвесь час. Яе перажылі ўсе героі-персанажы твора; яна жыве ў іх сэрцах, свядомасці, у іх побыце, моцна ўплывае на паводзіны, шмат у чым вызначае характар узаемадачыненняў.

Прысутнасць вайны ў гэтай аповесці падкрэслівалі рэцэнзенты. У прыватнасці, Р. Бярозкін пісаў: «У «Лонве» ўсё яшчэ дыхае вайною». І далей: «...Аповесць, па сутнасці, уся пра гэта — пра вынесеныя з агню, аплачаныя крывёю непераходныя маральныя каштоўнасці. Пра народ, які і мужны, і непахісны, і чалавечны, і добры. Пра ўласцівы чалавеку працы «інстынкт неадзіноцтва», пра тыя савецкія, сацыялістычныя формы жыцця, якія народ душэўна абжыў, лічыць непарушна сваімі і дзеля якіх ён ішоў на ахвяры, на смерць...»

Эмацыянальная аснова аповесці «Тартак» — успаміны пісьмен-

ніка пра ўсё самім перажытае, убачанае ў блакаду: вёска Дальва знаходзілася ў яго родных мясцінах.

Увесь твор насычаны прадчуваннем трагедыі. Здаецца, не толькі душы людзей, уся атмасфера твора насычана вялікай трывогай. Вакол страляюць, гараць вёскі, усюды страшная небяспека, ворагі — немцы, уласаўцы. Ахопленыя страхам, нервовай узбуджанасцю, людзі ў гэтым апошнім шляху (сямёра сялян вязуць збожжа па загаду ворагаў), нібы інстынктыўна, у думках вяртаюцца да свайго колішняга жыцця, згадваючы да драбніц, нібы перажываючы ўсё нанава. У гэтых успамінах усё псіхалагічна натуральна, верагодна, па-мастацку падпарадкавана раскрыццю і сцвярджэнню галоўнай думкі: фашызм, у якім бы абліччы ён ні выступаў, варожы жыццю; ён нясе з сабою смерць, вынішчэнне.

Ва ўспамінах кожны герой нібы пераносіцца ў мінулае, тое мінулае, дзе ён жыў. Жыве ў марах жыццём больш натуральным, больш адпаведным ягонай чалавечай прыроднай і грамадскай сутнасці, чым жыццё сённяшняе. Мінулае дае сілы, прымушае жыць.

Кожны ўспамін з мінулага герояў — своеасаблівы, непаўторны асабісты свет агульнага для ўсіх вялікага жыцця. У кожнага сваё разуменне і адчуванне рэчаіснасці, свой сэнс і свая паэзія быцця, кожны нясе ў сабе трагічны зарад.

Увогуле непаўторнасць індывідуальных лёсаў, непадобнасць індывідуальных светаў для пісьменніка мае такое прынцыпова важнае значэнне, што, нават аб'яднаныя агульнасцю апошняга шляху, агульнасцю ўсенароднай трагедыі, кожны герой як адзіна магчымы, непаўторны свет увесь час існуе самастойна. І сучаснае для ўсіх іх — працяг мінулага, заканчэнне яго.

Агульная трагедыя складаецца з трагедый індывідуальных. Трагедыя вайны, трагедыя Дальвы, трагедыя Тартака — гэта не нейкая абстрактная трагедыя, трагедыя наогул. За ёю і ў ёй смерць Тані, Насты, Махоркі, смерць дзяцей, бацькоў, смерць людзей. А ў кожнай чалавечай смерці, за кожнай смерцю — знікненне адзінага ў сваёй непаўторнасці, незваротнасці свету.

Пташнікаў выдатна паказвае, дае адчуць усю чалавечую унікальнасць кожнага персанажа, дае магчымасць зразумець, што ў кожным з іх памірае і што ў выніку страчвае жыццё.

Галасы ў агульнай апавядальнай плыні аповесці — гэта галасы людзей, якія нібы хочуць расказаць у што б там ні стала не толькі пра свае апошнія дні, але і пра сваё жыццё, пра сябе. Пісьменнік трагедыю паказвае як з'яву ў тагачасным жыцці штодзённую, бытавую. Этычна ж яна ўспрымаецца як неадпаведная адвечнаму жыццю, супраціўная яго сэнсу і зместу.

Змест аповесці «Найдорф» — гэта вельмі сумленнае ды сур'-

ёзнае мастацкае даследаванне глыбінных жыццёвых крыніц народнай сілы, мужнасці, трываласці, высокіх маральных якасцей, любові да сваёй зямлі і нянавісці да ворага, якія ў такой ступені выявіліся ва ўмовах вайны, ва ўмовах фашысцкіх блакад; гэта роздум над прызначэннем чалавека ў свеце, чалавека, існасць якога супраціўная разбурэнню і знішчэнню; гэта ўслаўленне ў жыцці стваральнага пачатку і страсны пратэст супроць вайны, смерці.

У аповесці Пташнікава як бы дзве жыццёвыя сферы, дзве жыццёвыя стыхіі — вайна і мір, жыццё і смерць, стварэнне і разбурэнне.

У раздзелах, непасрэдна прысвечаных паказу вайны, блакады (першая частка мае назву «Заслон»), увесь час, ва ўспамінах герояў, прысутнічае даваеннае іх жыццё. Успаміны пра гэтае жыццё разгорнутыя, шчодрыя на фарбы і багатыя на падрабязнасці, поўныя ўнутранай паэтычнасці, глыбокага сэнсу і значэння. Жыццё ва ўспамінах для Жаваранкі і Алёшы — сапраўднае жыццё; у гэтым жыцці грунтуецца іхняя сіла і няскоранасць у барацьбе, мэта гэтай барацьбы.

У агульнай апавядальнай плыні твора рытм успамінаў некалькі запаволены, тон — светла-паэтычны. Усё тут адпавядае ўнутранай прыродзе чалавека, усяму вераш: калі вакол вынішчэнне, агонь, смерць, самыя нязначныя факты, падрабязнасці, што не звязаны з імі, супрацьстаяць ім, набываюць асаблівы ўнутраны сэнс, асаблівую значнасць.

Агульная стыхія праўдзівасці, адпаведнасці рэальнаму жыццю, рэальнаму ўнутранаму стану людзей такая моцная, што мы не заўважаем пэўнай умоўнасці, пэўнай сімвалічнасці апісанняў мірнага жыцця. Яна — у асаблівай сканцэнтраванасці жыццёвага матэрыялу, моцнай эмацыянальна-рамантычнай насычанасці, узмоцненай дынамічнасці рытму апавядання. Мінулае працоўнае жыццё — не толькі ўспаміны. Гэта — мара, сэнс жыцця і барацьбы. Там усё прыгожа, паэтычна, велічна.

У раздзелах жа другой часткі, якая называецца «Дома» і прысвечана першым дням, нават гадзінам пераходу да мірнага жыцця, у сваім падзейным руху як бы некалькі запаволеных (жыццё нібы спынілася, не верачы ў іншы, не васпны свой стан), надзвычай багатых на падрабязныя апісанні,— і ў падзейнай аснове, і ў чалавечых узаемаадносінах, і ў самім эмацыянальным напаўненні моцна адчуваецца прысутнасць вайны.

Вайна жыве ў чалавечай свядомасці, у псіхіцы чалавека, як раней, у часы блакады, жыло ў чалавеку мірнае жыццё. Мастацкае суіснаванне гэтых дзвюх рэальных сфер, жыццёвых стыхій, рэзка супрацьлеглых па сваім змесце і сваёй пастраёвасці, іх па-

туральнае ўзаемадзеянне і ўзаемапранікненне надаюць твору Пташнікава, з аднаго боку, адчуванне арганічнай жыццёвай цэласнасці і завершанасці, з другога — напаўняюць надзвычай моцным драматызмам. Драматызм гэты народжаны непрымірымай рэальнай сацыяльнай барацьбой, антаганістычным супрацьдзеяннем розных духоўных, ідэйных, маральных светаў.

Мірныя даваенныя гады і дні, у самой што ні ёсць сваёй звычайнасці, штодзённасці, надзвычай моцна адчуваюцца ў «Найдорфе». Ахутаны яны асаблівай пяшчотнасцю і цеплынёй. Даваеннае мінулае і вайна ўвесь час прысутнічаюць у сэрцах і свядомасці і Жаваранкі і Алёшы — гэта іх жыццё.

Ваюе Жаваранка так, быццам робіць самае неабходнае (ды так яно і ёсць), ваюе, ведаючы, што «праз усё... трэба прайсці, прайсці з аўтаматам у руках — тады ён зноў павязе ў вазку зімой Кланю з Антунінкай па белым снезе... Павязе снапы з поля ад Рабога Калодзежа праз Гарбаты Мост... І дарога ля маста будзе пахнуць не гарам ад бульбы, а пылам з-пад калёс і ячменем. І на калёсах будуць мужчыны з вёскі, якіх параскідала вайна: збяруцца ўсе разам...».

Для Жаваранкі сям'я, жонка, дзеці, суседзі, аднавяскоўцы — усё адзіна-непадзельнае, свет яго жыцця. Малы?.. Вялікі?.. Пытанне не ўзнікае. Усё гэта — сапраўднае, рэальнае, насычанае аж да краёў пачуццямі, думкамі, дзейнасцю, чалавечае жыццё.

А такое жыццё заўсёды вялікае.

Творы Івана Пташнікава звычайна ўспрымаюцца як па-мастацку адлюстраваны пэўны этап у жыцці і гэтых людзей, і гэтага краю, як чарговая алімпіяда — гульня-барацьба жыцця і смерці. Алімпіяда патрабуе мабілізацыі ўсіх фізічных і духоўных сіл, выключнай унутранай сканцэнтраванасці. У гэтым сэнсе, відаць, можна гаварыць і ў адносінах да творчасці Пташнікава пра пэўную экстрэмальнасць сітуацый. Асабліва ў такіх ягоных творах, як «Алімпіяда», «Мсціжы», «Тартак», «Найдорф», «Эфка», «Львы».

Зразумела, экстрэмальнасць гэтая ў Пташнікава не так ярка выяўлена, як, напрыклад, у В. Быкава, не ў такім чыстым выглядзе. Але гэта ўжо больш адносіцца да формы, чым да зместу. В. Быкаў, напрыклад, у сваіх творах раскрывае характар, максімальна засяроджваючы ўвагу на ягонай сутнасці, на ягоным глыбінным змесце. Пташнікаў жа з аднолькавай увагай, з роўнай засяроджанасцю імкнецца і раскрыць характар, і даследаваць ягоныя вытокі, станаўленне.

Чалавека шмат у чым фармуюць абставіны — сацыяльныя, бытавыя, прыроднае асяроддзе. Іван Пташнікаў выключную ўвагу аддае мастацкаму ўзнаўленню жыццёвых абставін. У тых умо-

вах, умовах вясковай рэчаіснасці (а менавіта гэтая рэчаіснасць найбольш цікавіць пісьменніка), чалавек успрымае, адчувае, усвядамляе навакольнае жыццё ва ўсім бясконцым багацці яго праяўленняў.

Свет рэальнага жыцця, якім ён паказаны, па-мастацку пераствораны пісьменнікам, з аднаго боку, выключна жывы, зменлівы, натуральны, з другога — арганічна звязаны з унутраным светам чалавека, мастацкага вобраза. Свет абставін у плане эстэтычным усё больш падпарадкоўваецца свету чалавека.

У найбольшай ступені адносіцца гэта да свету прыроды, які ў творчасці пісьменніка займае асаблівае месца. Апісанні прыроды ў творах, калі чытаць іх адзін за адным па часе напісання, прыкметна мяняюць сваю функцыянальна-змястоўную ролю. Тое ўзмацненне духоўнага пачатку, паглыбленне яго, якое сёння бачыцца ў творчасці І. Пташнікава, звязана найперш з яго мастацкімі адносінамі да прыроды, з глыбокім разуменнем яе першаступеннай ролі ў фармаванні, вызначэнні сутнасці чалавечай асобы, у выпрацоўцы асноўных жыццятворных прынцыпаў добрасці, прыгажосці, чалавечнасці.

Змены ў разуменні мастацка-змястоўнай ролі карцін прыроды ў творах непасрэдна звязаны з філасофскім паглыбленнем канцэпцыі рэчаіснасці ў творчасці пісьменніка, з большай інтэлектуальна-гуманістычнай насычанасцю вобразаў, з узмацненнем у іх актуальна-дзейнага пачатку.

Асноўны канфлікт рамана «Мсціжы» — канфлікт паміж чалавекам, які «абжывае зямлю», і чалавекам спажывецкіх, драпежных адносін да зямлі і да людзей. Канфлікт гэты ў творы не агалены, не аднalінейны. Ён вынікае з узаемаадносін Вялічкі з іншымі героямі рамана, грунтуецца на дыяметральна-супрацьлеглых адносінах да зямлі.

Зямля для Вялічкі — усё. «Зямля са снегам пад нагамі зімой; з граззю, з сыпкім сівым пяском, з сасновымі шэрымі шышкамі і дробнай дзяцельніцай — летам; з цвёрдай, што камень, грудай, позна ўвосень, калі зямля грукала пад ботамі на ўвесь свет і аж звінела, як парожняя... Зямля, па якой ён ходзіць ужо скора паўвека...»

Зямля для яго — як жывая істота. Ён чуе яе самыя найтанчэйшыя пахі, іх адценні. Перадае гэта Пташнікаў вельмі дакладна, асязальна.

Можна толькі здзіўляцца здольнасці пісьменніка, таленту жывапісу, які так жыва-адчувальна перадае, малюе, калі так мовіць, пах вясковай вясны. Адчуванне пахаў перадаецца не наогул, а менавіта гэтага кутка зямлі; апісанне пахаў развіваецца, разгортваецца — адкуль такі пах? з чаго? калі бывае? што на-

гадвае? Верагоднасць ад гэтага моцна паглыбляецца — і верагоднасць, дакладнасць пахаў, і верагоднасць таго, што менавіта Вялічка іх адчувае.

Варта звярнуць увагу вось яшчэ на які момант. У Пташнікава, у яго́ных лепшых творах, у самых звычайных апісаннях, у самой малой клетачцы яго мастацкага свету, адчуваецца, прысутнічае гістарычны час, ёсць натуральны выхад у вялікае жыццё. Так, у апісанне пахаў ранняй вясковай вясны натуральна ўключаны ўпамінанні пра зямлянкі 1939 года. Адчуванне пахаў у Вялічкі — гэта не так нейкая фізіялагічная ўласцівасць, як сацыяльна-гістарычная. Успрыманне тых ці іншых пахаў, вызначэнне іх характару абумоўлена ўсім жыццём героя, пэўнымі зменамі ў ім.

Вясной, напрыклад, Вялічка заўважае, што «свежай зямлёй пачынае дома пахнуць з гародчыка рана, калі яшчэ толькі асядзе снег і пад прызбай ля хлева і ля тыну ад вуліцы пакажацца сівая пасля зімы леташняя трава — кавалак абчарсцвелай на сонцы мяжы», што «зямля пахне зямлёй, калі яе схопіць адразу сонца, калі вясна ідзе без слаты», што «пад раніцу пахла змочаная расой зямля, і здавалася, што чуеш зямлю першы раз, як нарадзіўшыся на свет...».

Зямля гэтая — ягоная, Вялічкава. Тут, у гэтым краі, у Прывіллі, ён усё ведае, усё ў ягонай памяці, свядомасці, у крыві. Але, сцвярджаючы гэта, неабходна звярнуць увагу на наступнае. Глыбока любячы зямлю, адчуваючы глыбінную еднасць з ёю, Вялічка ў той жа час не абцяжараны сацыяльнай уладай зямлі над сабою, пазбаўлены ў пэўным сэнсе эканамічнай залежнасці ад яе. Сувязь тут заснавана на глыбіннай духоўнай аснове. А такая сувязь самая моцная.

Зямля для Вялічкі — менш за ўсё зямля-карміцелька. Зямля — гэта і лес, і рэчка, і родная прырода. Зямля ў такім шырокім яе разуменні — тая адзіная глеба, на якой чалавек вырастае чалавекам, якая дае яму сілы і надзяляе хараством. Зямля і Вялічка — гэта штосьці арганічна адзінае: тут агульныя самыя глыбінныя жыццёвыя законы, адны і тыя ж жыццёвыя сокі жывяць іх, адно і тое ж паветра. Зямля патрэбна Вялічку, Вялічка патрэбен зямлі. Таму для яго кінуць зямлю, кінуць родны кут — гэта адарвацца ад той глебы, якая надае сілу, упэўненасць, жыццёвую ўстойлівасць; гэта тое самае, што парваць, вырваць карэнне. Карэнню патрэбна глеба, глеба родная, свая. Асабліва карэнню чалавека.

У рамане неаднаразова ўзнікае вобраз карэння.

Вобраз гэты набывае глыбокі змест. У самім галоўным канфлікце «Мсціжоў», канфлікце глыбока псіхалагічным, ён, вобраз гэты, адцяняе і падкрэслівае вельмі істотны аспект — сувязь з

зямлёю, надаючы тым самым канфлікту моцнае сучаснае грамадскае гучанне.

Вялічка — гаспадар на зямлі. Мсціжы для яго не проста вёска, дзе ён нарадзіўся і вырас. Яна — гэта і ён. Яна — глеба, на якой ён узгадаваўся, яна дала яму мэту і сэнс жыцця, тут ён пабачыў гора і перажыў радасці. Тут ягонае глыбокае карэнне. З гэтай зямлёю, з Мсціжамі Вялічка звязаны арганічнай узаемазалежнай сувяззю.

Пад канец рамана «Мсціжы» галоўны герой яго вырашае, у вельмі няпростай для сябе псіхалагічнай і жыццёвай сітуацыі, надзвычай складанае пытанне чалавечага быцця. Застаўся ззаду ўвесь цяжар супярэчлівых жыццёвых абставін, унутранай барацьбы. Вялічка, які ўсё сваё жыццё пражыў добра, сумленна, з карысцю для людзей, адчуваючы быццам падсвядома каштоўнасць усяго жывога, натуральнага, павінен быў прыйсці і прыйшоў менавіта да такога вываду. Ён павінен быў застацца, і ён застаўся ў родных мясцінах, на сваёй зямлі.

Намнога раней у творы была адна сцэна, можа, вызначальная для разумення жыццёвай філасофіі Вялічкі. Ды і іншых станоўчых герояў.

Перажыўшы шмат душэўных і жыццёвых бур, апынуўся неяк адзін Андрэй Вялічка ў сцішаным перадвечаровым лесе. Ён услухоўваецца ў лясную цішыню, чуе, як «стукаюць, лучаючы на цвёрдае на дарозе, сухія сасновыя шышкі: у лесе яны падаюць дзень і ноч, у лесе іх пачуеш кожны раз». Вялічка думае, «што любіць слухаць, як стукаюць, падаючы шышкі... Вечна б так стаяць і слухаць...». Думкі ідуць шырэй, паглыбляюцца: «Няма сканчонага зямлі — няма і людзям. Людзі рассыпаюцца па зямлі, як шышкі з дрэва. Вечныя людзі на зямлі, вечныя і звяры. І вечна адзін ідзе на другога. І верх за чалавекам. Бо чалавек абжывае зямлю, звер — толькі плодзіцца... Есць і плодзіцца... Есць і плодзіцца, каб есці».

У гэтых словах, афарыстычна сціслых і дакладных,— філасофія, ды і псіхалогія, узаемаадносін Пташнікавых герояў з зямлёю, з прыродай, з навакольным светам, унутраны пачатак глыбіннага канфлікту, які дае жыццё, дае несупынны рух усёй творчасці пісьменніка.

І. Пташнікаў умее прымусіць «працаваць» навакольную прыроду на агульны эмацыянальны лад твора, на яго ідэйны змест, на тую ці іншую — можа, асабліва важную, вырашальную — падзею, сітуацыю.

Аповесць «Тартак». Героі твора ўвесь час бачаць сонца, потым месяц у дыме, злавесных хмарах-тулягах. Ствараецца настрой трывогі, няўхільнага набліжэння страшэнных падзей.

Апісаннем страшэннага пранізлівага зімовага ветру пачынаецца раман «Мсціжы». Узнікае адчуванне нейкай агульнай няўстойлівасці, няпэўнасці. І гэты эмацыянальны агульны настрой дазваляе глыбей адчуць, выразней убачыць усю няпростасць жыццёвай сітуацыі, у якой аказаўся Вялічка, усю годнасць ягонага выбару.

У рамане «Алімпіяда» «ўдзел» прыроды ў стварэнні агульнай атмасферы, у вызначэнні тону, у пэўнай эмацыянальнай акцэнтацыі асабліва мэтанакіраваны і шырокі. Свядомае падкрэсліванне відаць у падзагалоўку («Воблакі шасцідзесятых»). Тое ж і ў назве першай часткі — «Лета. Пыл».

Пачынаецца твор — і чытач нібы акунаецца ў страшэнную гарачыню. Сонца пячэ неміласэрна. Усё заслана пылам. Ён адчуваецца проста фізічна — на целе, на зубах, у вачах. Пыл вызначае характар той атмасферы, у якой жывуць, дзейнічаюць людзі. Усе сучасныя падзеі адбываюцца ў гэтай атмасферы. Фізічна чалавек знаходзіцца, здаецца, на мяжы магчымага. Ён выпрабоўваецца на трываласць не ў апошнюю чаргу і прыродай. Вось гэтая атмасфера гарачыні, пылу, поту ў творы з'яўляецца асноўнай. Менавіта ў ёй характары ў найбольшай ступені выяўляюцца ў сваёй сутнасці.

Ёсць у «Алімпіядзе» адна характэрная пейзажная замалёўка. Міфодзя, афіцэр Савецкай Арміі, ідзе з бальніцы ад маці ў родную вёску Крамянец. Бачыць, як пусцее вёска. «За ціхімі старасвецкімі дубамі, недзе над Крамянцом, куды трэба было ісці, вісела вялікае цяжкае жоўтае халоднае воблака, займаючы ўвесь край неба. Сонца, заходзячы за сіні ў дыме лес, падсвечвала воблака, робячы яго чырвона-бурым, і здавалася, што яно старое-старое — вечнае. Вісела тут, калі яшчэ не было зямлі, і застанецца наўсягды. Над воблакам зажаўцеліся палоскі ад далёкіх самалётаў — два доўгенькія каласкі ячменю. Каласкі пасля выцягнуліся ў дзве вузенькія памятыя саломінкі і апусціліся за край зямлі».

Тут адвечнае і сучаснае, прыроднае і народжанае нашым тэхнічным часам зліліся ў адно. Але след самалёта — усяго маленькі каласок у параўнанні з воблакам.

«Алімпіяда» і «Воблакі шасцідзесятых»... Ёсць у гэтым супастаўленні загалоўка і падзагалоўка як бы нейкая выпадковасць. Але гэта толькі напачатку, адразу. Пачынаем чытаць — і адчуванне такое знікае зусім. Вецер у творы «прысутнічае» увесь час. Ён, неспакойны вецер, не толькі вызначае эмацыянальную атмасферу рамана, а як бы «ўводзіць» у твор, перадае сам характар, унутраны змест жыцця шасцідзесятых. Таго жыцця, калі асабліва неяк убачылася, адчулася абязлюдзенне вёскі, калі пагрозліва ўзнялася хваля алкагалізму, калі ў «вялікім свеце» так-

сама было не дужа спакойна (і гэта ў творы добра адчуваецца). Хаця, праўда, пісьменнік быццам бы і не вылучае нейкія асабліва драматычныя праявы, факты жыцця, не завастрае на іх увагу. Пташнікаў паказвае жыццё, жыццё звычайнае — звычайнага чалавека. Але жыццё ў нейкі пераломны для чалавека момант, у якім неяк засяроджваецца ўсё — успамінаецца толькі самае істотнае, усе падзеі, учынкі ацэньваюцца самымі высокімі маральнымі крытэрыямі, духоўная атмасфера — высокай чысціні: самая дробная неадпаведнасць ёй заўважаецца адразу.

Увогуле «Воблакі шасцідзесятых» увабралі ў сябе самыя глыбінныя супярэчлівасці часу. Праўда, не ў іх вылучанасці, падзейнай і сітуацыйнай завостранасці, а іх эмацыянальны адбітак, іх духоўны, маральны кандэнсат. Тут цяжка вылучыць канфлікты, супярэчнасці, складанасці, напрыклад, міжнародна-палітычныя, сацыяльныя, дэмаграфічныя, сямейныя, асабістыя... Як і ў самім жыцці гэта цяжка зрабіць. Усё жывое, усё адчуваецца ва ўсім. Ёсць жыццё. А ў ім нішто не знікае, усё займае сваё належнае месца, усё ўплывае на агульную эмацыянальна-этычную атмасферу, усё ўдзельнічае ў фармаванні глыбінных агульных законаў жыцця — жыцця наогул, жыцця сучаснага.

Калі прыгадаць усе апісанні прыроды ў рамане, то мы іх не так бачым, як адчуваем, перажываем. Застаецца эмацыянальны адбітак іх у душы. У «Алімпіядзе», як, відаць, нідзе раней у Пташнікава, навакольнае жыццё, навакольны свет, найперш свет прыроды, перадаюцца адлюстравана, адбіта ў душы, у свядомасці галоўных герояў, як свет імі ўспрыняты і перажыты. Закончаных, цэласных карцін прыроды, што было так характэрна для ранейшых твораў празаіка, у рамане, па сутнасці, няма. Але прырода жыве, увесь час прысутнічае, «дзейнічае».

Свет жыцця адлюстраваны, узноўлены таленавітым майстрам слова, здзіўляе сваёй праўдзівасцю — сваімі гаспадарча-сацыяльнымі параметрамі, сваім багатым прыродным зместам, сваёй арганічнай цэласнасцю і ўзаемаўзгодненасцю, багаццем і разнастайнасцю дэталяў і падрабязнасцей, сваім моцным і высокім чалавечым напаўненнем. Свет гэты вельмі натуральна адкрыты ў часовую і прасторавую бясконцасць.

І дзіўная рэч. Пташнікаў як бы спецыяльна падкрэслівае, што падзеі адбываюцца ў 60-я гады. Узяты практычна адзін калгас. А якое адчуванне вялікага жыцця! Жыцця ваенных гадоў, пасляваеннага, учарашняга, сённяшняга, заўтрашняга... Жыцця раёна, рэспублікі, краіны, народа...

Характэрныя заключныя радкі рамана.

Адзін з герояў, ад'язджаючы ад вёскі, азірнуўся: «Ззаду, на цвёрдай, як крэмень, зямлі стаяў Крамянец. Маленькая вёсачка

здалася вялікай — заняла перад вачыма ўвесь край неба пад белымі воблакамі...»

Такім бачыцца ў канцы твора Крамянец і чытачу, так узбуйняюцца ў ягоным (чытача) уяўленні маштабы рэальнай вёскі.

Гаворачы пра адкрытасць падзей у вялікае жыццё, пра іх пэўную як бы неабмежаванасць у прасторы і часе, ні ў якім разе нельга бачыць у гэтым мастацкую недасканаласць, бачыць толькі непасрэдную «спісанасць» з жыцця. Наадварот, менавіта мастацкая дасканаласць, эстэтычная арганізаванасць узноўленага свету, узаемаўзгодненасць усіх яго элементаў і частак надае раману глыбінны выхад у гісторыю, у няспынны час, у вялікае жыццё свету. Гэты выхад чытач адчувае ўвесь час. Героі адчуваюць таксама: само іх жыццё ў тым свеце, які іх акаляе, натуральна далучае да бясконцасці.

Свет, узноўлены, створаны сілай мастакоўскага таленту, атрымаўся вельмі цэласны, завершаны ў сваім руху, самадастатковы, акрэслены ў сваіх межах, выразны ў сваіх колерах: пісьменнік нібы спыніў жыццё. І разам з тым... Разам з тым свет гэты надзвычай рухомы ў сабе, рухомы ў сваіх праявах. Ён складаны, супярэчлівы ў кожнай падзеі, кожнай сітуацыі, кожным павароце, у сваіх колерах і фарбах, у кожнай жывой клетачцы.

Але галоўнае, што прываблівае, асабліва ўражвае, дык гэта тое, што раманны свет Пташнікава — пры ўсёй яго адпаведнасці жыццёвай праўдзе — вылучаецца выключнай адметнасцю і непаўторнасцю ва ўсіх сваіх праяўленнях і фарбах, глыбока асабістай духоўна-эмацыянальнай напоўненасцю. Тут нібы зліліся ў адно непарыўнае цэлае праўда факта і праўда сэрца. Бо пісьменніку ўдалося ў духоўных (і не толькі духоўных) пакутах героя, выпрабаваннях ягонага лёсу ўвасобіць пакуты нядаўняй гісторыі народа, выпрабаванні ягонага лёсу. А герой гэты — такое адчуванне — духоўна дзесьці вельмі асабіста блізкі аўтару.

Героі «Тартака», Андрэй Вялічка («Мсціжы»), Яхрэм Жаваранка («Найдорф»), Алімпіяда... Пры ўсім падабенстве, а можа, нават аднолькавай мастацка-генетычнай аснове і сутнасці гэтых вобразаў-герояў усё ж у кожнага з іх выразна бачыцца іншы ўзровень і некалькі іншы характар духоўнасці. Духоўнасць, напрыклад, у «Найдорфе» і «Алімпіядзе» мае больш актыўна-дзейсны характар; яе ўздзеянне адчувае на сабе ўвесь навакольны свет. Духоўнасць гэтая выпраменьваецца пастаянна — як сонечнае святло і цяпло. Духоўнасць і душэўнасць зліваюцца.

Як часта чытаючы мастацкі твор, мы гаворым пра яго філасафічнасць, яго інтэлектуальнае напаўненне, нарэшце, пра яго духоўную насычанасць. Звычайна бывае такое тады, калі духоўнасць гэтая знаходзіцца як бы на паверхні, выяўляецца ў інтэ-

лектуальных спрэчках, у філасофскіх маналогах, сентэнцыях. У Пташнікава таксама ёсць разважанні, роздум інтэлектуальна-філасофскага зместу, шырокіх абагульненняў. Аднак, калі мець на ўвазе раман «Алімпіяда», звязана гэта зусім не з галоўным героем. Але ж уся духоўная атмасфера, ідэйны пафас засяроджаны ў вобразе Алімпіяды. І яна зусім не вядзе, як кажуць, разумныя размовы, яе быццам зусім не цікавяць якіясьці глабальныя пытанні. Жыве Алімпіяда самым звычайным жыццём — сумленным, працоўным, шчырым, добрым. Такое жыццё становіцца жыццём значным, жыццём не так для сябе, як для іншых. Алімпіяда — чалавек вялікай душы. Душа яе напоўнена любоўю, спачуваннем да ўсяго навакольнага свету — людзей, жывёлы, прыроды. І гэта ні ў якім разе не зададзенасць, не дэманстрацыя, не парыў, а нармальны стан чалавека, стан ягонай душы. Такая духоўнасць у высокай ступені жыццятворная і жыццядайная, дзякуючы ёй жыццё чалавечае, жыццё грамадскае не губляе сваёй пэўнасці і ўстойлівасці.

Галоўным носьбітам аўтаравай ідэі чалавечнасці і дабрасці, стваральнікам адпаведнай гэтай ідэі атмасферы ў творы з'яўляецца Алімпіяда. У вобразнай сістэме рамана ў сваёй змястоўнай сутнасці яна з'яўляецца як бы выключэннем. Калі іншыя вобразы пададзены ва ўсёй іхняй складанасці і супярэчлівасці, з падкрэсліваннем, магчыма, дзесьці і свядомым, негатыўных момантаў у іх паводзінах, узаемадачыненнях, учынках, а найбольш у выказваннях, то Алімпіяда пазбаўлена гэтага поўнасцю. У ёй засяроджаны ў асабліва сканцэнтраваным выглядзе і ў форме надзвычай чыстай духоўныя якасці, уласцівыя характару народнаму ў яго ідэальным увасабленні. Такім ідэальным для нас можа быць толькі вобраз маці. Дарэчы, узаемаадносіны Алімпіяды з Мікалаем, мужам, паказаны выключна цнатліва, чыста. Як іх бачаць дзеці.

І. Пташнікаў, як ужо зазначалася, у сваёй творчасці — стварэнні вобразаў, апісанні пэўнага ўнутранага стану, прыродных з'яў, распрацоўцы пэўных сітуацый — надзвычай дакументальна-аўтабіяграфічны. Пра гэта гавораць вусныя і пісьмовыя сведчанні самога пісьменніка і мастацкі характар, асаблівасці адпаведных апісанняў, характарыстык, распрацоўкі сітуацый. Паглядзеўшы ў гэтым плане на галоўны вобраз рамана «Алімпіяда» — Алімпіяду, можна з поўнай адказнасцю сцвярджаць, што «спісаны» ён з маці пісьменніка. Сказана не зусім так. Пішучы гэты твор, Пташнікаў увасабляў вобраз маці, якой ужо не было, але якая жыла ў ягонай памяці, у сэрцы, якую ён бачыў менавіта такою.

У творы многія героі называюць Алімпіяду маці.

Маці...

Цяжка згадаць у нашай літаратуры твор, у якім з такой мастацкай сілай быў бы ўвасоблены вобраз маці, з такой глыбінёй выяўлена вялікае пачуццё мацярынскае. Без гучных слоў, заклінанняў.

Стварэнне вобраза Алімпіяды — прынцыповая ўдача пісьменніка, дасягненне сучаснай беларускай прозы, наогул літаратуры. Праўда, для самога пісьменніка ўдача гэтая не выпадковая: ішоў ён да яе настойліва, мэтанакіравана.

Да гэтага былі створаны трагічныя героі аповесці «Тартак», вобраз «чалавека на вятрах часу» ў рамане «Мсціжы».

У наш век, век, які проста разрываецца супярэчнасцямі самага рознага характару, знайсці, паказаць і сцвердзіць асновы жыццёвай устойлівасці і гарманічнасці, гарманічнасці як няспыннага руху жыцця, самаруху з вышэйшай чалавечай перспектывай — для літаратуры, для пісьменніка задача самая галоўная. Такая яна была заўсёды, сёння такой з'яўляецца асабліва. І як гэта ўжо было неаднойчы ў гісторыі задача вырашаецца проста. (Відаць, не дарэмна гаворыцца, што ўсё выдатнае, нават геніяльнае звычайна простае.) Нават вялікі Леў Мікалаевіч Талстой у канцы жыцця адказ на адвечныя пытанні чалавечага быцця знаходзіў у прастаце — у простым паказе звычайнага жыцця звычайнага простага чалавека. Звычайнага, простага, але ні ў якім разе не ардынарнага.

У такім адлюстраванні, узнаўленні чалавека для мастацтва заўсёды ёсць значная небяспека. Тут або можна зазямліцца да такой ступені, што ўсё з'явіцца афарбаванае ў цёмна-шэры колер, або, наадварот, так ідэалізаваць, афарбаваць у блакітны колер, што знікне ўсякае адчуванне рэальнасці.

Выратуе тут адчуванне, пачуццё мастацкай меры, пачуццё, якое падкажа заўсёды правільныя, арганічныя суадносіны рэальных жыццёвых фактаў і іх мастацкага ўзвышэння, паэтызацыі. Гэтае пачуццё мастацкага такту, эстэтычнай меры ў высокай ступені, думаецца мне, уласціва менавіта раману «Алімпіяда». Твор надзелены выключнай жыццёвасцю ў сваіх фактах, сітуацыях, падзеях, характарах, абставінах, пейзажах і разам з тым у высокай ступені насычаны паэзіяй, паэтычны. Прычым паэтычнасць гэтая народжана не проста мастакоўскім імкненнем бачыць жыццё лепшым, прыгажэйшым, чым яно ёсць у сапраўднасці; яна (паэтычнасць) выпраменьваецца самой рэчаіснасцю, даследаванай асабліва глыбока і поўна, раскрыццём і сцвярджэннем яе стваральнай сутнасці.

Ва ўсіх, па сутнасці, творах Івана Пташнікава ў цэнтры ягонай увагі чалавек, больш дакладна — лёс чалавека. Але лёс чала-

века, які падаецца не праз якіясьці найбольш вызначальныя перыяды жыцця, не ў абстрактна-абагульняльнай ягонай сутнасці, а ва ўсёй рэальнай узаемазалежнасці і ўзаемаабумоўленасці: чалавек у жыцці. Чалавек актыўных, зацікаўленых адносін да рэчаіснасці, чалавек душэўна чулы, сумленны,— у вышэйшай ступені чалавек жывога жыцця, гаспадар зямлі.

У гэтым сэнсе ў нацыянальнай літаратуры Іван Пташнікаў годна развівае тую лінію, дзе мастацкае ўзнаўленне народнага жыцця, нацыянальнага характару, духоўна-гістарычнай самабытнасці народа з'яўляецца вызначальным.

Гаворачы пра асаблівую мастацкую прывязанасць да глыбінных жыццёва-рэальных і мастацкіх асноў, трэба таксама ўлічваць і высокую чуйнасць пісьменніка да духоўных зрухаў свайго часу, да мастацкага руху ўсёй савецкай літаратуры. І «Алімпіяда», і «Мсціжы», і «Найдорф», і «Тартак», таксама як і «Эфка» ці «Львы» сваім ідэйным зместам, духоўнай праблематыкай, сваімі мастацкімі асаблівасцямі належаць да літаратуры канкрэтнага часу. Яны выразна прачытваюцца як у беларускім, так і ва ўсесаюзным гісторыка-літаратурным кантэксце. Разам з тым яны нясуць у сабе вялікі жыццёвы, духоўны ды і мастацкі зарад агульназначнага зместу.

Пісьменніка ўвесь час хвалююць праблемы ўзаемадзеяння адвечнага і часовага, глыбінна этычнага і сацыяльна мэтазгоднага, пачатку прыроднага і навукова-тэхнічнага, зменлівасці і ўстойлівасці. Яшчэ і яшчэ раз ён імкнецца асэнсаваць, зразумець усю глыбіню, усю сілу патрыятызму, мужнасці, самаахвярнасці, выявіць, даследаваць іх вытокі.

Іван Пташнікаў прайшоў немалы творчы шлях. Шлях гэты пэўны, мэтанакіраваны. Менавіта гэтая мастацкая і грамадзянская мэтанакіраванасць, што ідзе ад вернасці мастака бацькоўскай зямлі, часу, свайму таленту, ідзе ад глыбокага ведання стыхіі народнага жыцця, ад унутранага адчування першароднасці моўных крыніц, асаблівай прыхільнасці да самай глыбіннай нацыянальнай мастацкай традыцыі, абяцае і ў будучым значныя творчыя дасягненні.

*Серафім Андраюк*

# ЧАКАЙ У ДАЛЁКІХ ГРЫНЯХ

РАМАН

## *Частка першая*

## ...Дзе лета ў ціхім тумане

### 1

Лес маўчаў: суцішыўся, замёр.

Сонца скацілася да задымленага небакраю і вісела цяпер над далёкай прыдарожнай вёскай, куды, паласуючы сінечу, па цыбатых слупах паўзлі правады. Калі глядзець туды з-пад рукі,— здасца, яны вось-вось расплавяцца, як у горне, перашчыкнуцца і ўпадуць на астылы, свежы вечарам дол.

Шаша, ад самага моста прамая, як напяты пас, нібы падразала з бакоў лес. Удалечы блішчала ўся: ажно пераліваласяна ёй густое вячэрняе жнівеньскае сонца.

Яна намарылася за дзень, адвірыла, адгрукала па мастах грузам і — адпачывала. Здавалася, яна распласталася на няроўнай зямлі і, як той касец, што змардаваўся на сіўцы за дзень, хоча астыць, наліцца сілай.

Можа, і прынікла наваколле, каб не трывожыць таго, чые плечы так натруджаны ад рання? Цішыня вісне над дарогай, над лесам, як марыва, як тая жменька мошкі, што дрыжыць пад альшэвінай, бы пад страхою.

Такая ціша бывае пад канец лета, якое і папарыла, і пагрымела навальніцамі, а цяпер утаймавалася і палагаднела. Уляглі́ся вятры-рвуны, схіліла на спад гарачыня; пайшлі мяккія летнія дні, настаў жнівень, бы ў прыроду, як і ў хату, адчыніў дзверы спакойны чалавек-гаспадар.

Ісці выпадае лесам, яго не мінеш. Ёсць недзе зімовая дарога цераз Брады на Рудню; тудою мелі звычку ездзіць дзяды, калі яшчэ там, як кажуць, быў тартак. Бліжэй. А цяпер, калі ўсхадзілася пераступленая плацінай рака,

Брады заплылі. Ды і чаго патыкацца, лезці туды,— бывае, і вячэрнім часам шаша аж кіпіць ад машын.

Бывае. А вось сёння — ні гуку. Калі Леанід зноў выбіўся на дарогу, яму насустрач з-за павароту выскачылі дзве легкавушкі: вёрткія, прыземістыя, шэрыя, як мышы,— і ўсё. Шашу нібыта вымелі. Хоць ты вярні зноў на той благі тартак, але блізіцца вечар, цікуе з-за абгарэлых пнёў ноч, а там балаціны, месцам трэба ісці праз кладкі, ды і, халера яго ведае, хоць і лета, а каб на звяр'ё не натрапіць. А шаша ў цемені адсвечвае, як у поўню, бы хто па ёй расплёхаў пабелку, як па тых чалесніках у печы перад святамі.

Сонца кудысьці як праваліласяраптам; у лагчынах ля дарогі туман-паўзун лена ўкладваўся на шырокае лісце альшэвін,— значыць надоўга, на ўсю ноч. Шарэла нязвыкла хутка, можа, таму, што лес.

Леанід пакідаў на абочыне аж сёмы слуп-вярстак. На ягоных шырокіх жалезных вушах ужо цяжка было ўгледзець лічбы: чорнае глытала жаўцізну.

Туман прынёс аднекуль гарэлае: недзе блізка курэўся пасля пастухоў на вогнішчы корч, а можа, зусім дзе ў бары гарэў лес. У сёлетнюю суш варта толькі іскру здзьмухнуць з папяросы, як ад шкоды не абярэшся.

Шорхае пад падэшвай жвір; цягнуцца, каб аж у вочы дастаць, халодныя альховыя дубцы, калі сцежка, бывае, занадта ўжо завільвае на абочыну. Падстаў твар — а там пад'яловец або рагач. Так, бывала, траплялася не раз. Параніцца можна.

Далёка ззаду нешта загрукала, як хто кідаў з месца на месца сухое бярвенне. Пасля — завыла, аж застагнала,— і зноў сціхла, нібыта дзе машына брала пад гару. Хутка там выслізнуў з-за лесу вострыпражэктар і стух.

Леанід абрадаваўся. Яму адразу ўявіўся свой дом. Ён адчыніць дзверы — на парозе заклапочаная, спалоханая маці. На стале стыне бульба; прачакаліся яго, знебыліся...

Гул нарастаў і плыў здалёку, павольны, цягучы; мо таму, што доўга не раставаў у цішы, а можа, машын ішло шмат.

«Калона...» — першае стукнула ў галаву.

Машыны набліжаліся. Чорныя і грозныя сярод цёмнага лесу і на белай шашы, яны брылі ўсляпую, без святла. Калону вёў нехта мо добра знаёмы з шашою ў гэтых мясцінах.

На хвілю адпала ахвота прасіцца. Здратуюць, як выткнешся знянацку. Але ж наперадзе гэтулькі дарогі... На ўсю ноч.

Леаніда ўгледзелі.

Бліснулі ў пярэдняй машыны падфарнікі. Стухлі.

«Саступі з дарогі! Знайшоў з кім жартаваць...» — папярэджваў шафёр.

Леанід адступіў. Галасуй не галасуй — гэты не паслухае, бо не збаўляе ходу. Крыку не ўчуе: ад рэву стогне лес.

Пярэдняя абдала яго дымам і холадам. Крокаў за сотню была тармазнула: мігнуў вішнёвы агеньчык, хліпнуў раз-другі, знік,— як хто зацягнуўся цыгаркай і зацінуў яе ў жменю. Астатнія шыпелі, тармозячы: наперадзе цямнеўся мост.

Леанід разгубіўся. Пасля кінуўся, колькі было сілы, да моста.

Угледзеў-такі, што ў пярэдняй машыне ў кабінцы было дзяўчо ў белым. Высунулася нават, каб паглядзець. Белавалосае, ускудлачанае ад ветру.

«Такой, нябось, і месца знайшлі. Глядзі, пасадзілі...»

Ён не памятаў, як ухапіўся за борт, бо гэта здарылася ў адно імгненне. Ён усведамляў толькі, што вісіць над бяздоннем, у якім круціць віхор, цягне ў чорную прорву. Дрыжалі рукі, балелі локці,— яны трапілі на нешта вострае; кідала з боку на бок,— хтось шалёна намагаўся адарваць і шпурнуць прэч. Чалавек матляўся, як, бывае, сноп, што выпаўзе з-пад вяроўкі на возе і толькі трымаецца недзе каласамі, а тут з усёй сілы пруць каня па ўхабах...

Ён адразу не змог ускочыць у кузаў — высока! — а цяпер трэ было мець сілу, каб хаця ўтрымацца, не расцяць пальцы. За мостам пачаліся калдобіны, што звалі «прамгаскімі»,— тралёвачныя трактары выбілі іх вясной на старой шашы.

Шафёр зноў налёг на газ: у вочы з кузава сыпнула пацярухай і пілавіннем...

Леанід заплюшчыў вочы, і тут яму раптоўна ўдарыла пад рукі бортам і выбіла з пальцаў халоднае жалеза...

Яго адкінула ўбок, паставіла на ногі. Улавіўшы брук, ён прыпаў аж да зямлі, прабег колькі крокаў, не ўтрымаўся, і яго сілаю пацягнула на дол.

Адчуў толькі, як апякліся далоні аб гарачае каменне. Пасля з цёмнай дарогі дыхнула ў твар штось дымнае і слізкае...

Зноў раўлі маторы на ўвесь лес, доўга, не змаўкаючы.

Далёка ў цемрыве гайдалася цяжкае рэха. Назойлівае, хрыпатае...

Пасля наступіла цішыня. Шаша зноў заснула. Гэты раз на ўсю ноч.

## 2

З'яўляецца на свет чалавек — у хаце не думаюць тады, кім ён некалі стане. І калі маленькая Анэціна Верачка прыбегла на лог да мужчын і прашапялявіла Андрэю Дзедзіху: «У нас касец будзе...», то толькі таму, што дагэтуль чула пра касца не раз ад яго самога. Дзедзіха доўга не разважаў і, узяўшы Верачку за руку, адразу падаўся дадому.

...Белая столь, прасціна, белыя сцены, белыя — аж блішчаць! — нікеляваныя пруты ў ложку. Цяжка ў грудзях, ные спіна, ломіць у крыжы. Уцярпець, не раскрыць рот... Тады б, здаецца, не крыкнула. Але ж трэба дыхаць, дыхаць. Ад гэтага лягчэе.

— Га-а-а!..— нема, рэзка, на ўсю хату.

Адпусціла; можна папрасіць вады, каб змачыць вусны. Яны шорсткія, недзе аж патрэскаліся.

Думкі — пра тое, чаго не чакалася яшчэ сёння. Можа, толькі праз тыдзень. А тут...

Клятчастыя ўзоры, шэрыя палосы васмерыкоў... «Пасцілкі»,— здагадваецца яна. Шэрая тканіна адсунулася ад запечка, напялася, задрыжала, як на ветры, знікла. Яе адхінула сівенькая жанчына. «А-а-а... Гэта акушэрка, што да вайны была. Яна тады ўратавала мяне пры першых, незнаёмых болях. Ляцець па яе... Па тую старэнькую збавіцельку...»

Ломіць паясніцу, яшчэ горш балюча, невыносна.

Прывід знікае.

Ля ложка Андрэй, у яго дрыжаць плечы і рукі:

— У бальніцу трэба Анэту...

— Сю-юды...— натруджана, ціха. Можна падумаць, што Анэта просіць піць.— Га-а-а! — зноў суха і натужна крычыць яна. Аж звініць нешта ў парозе ад яе голасу...

Не адразу дзіцяня, калі пачынае вучыцца гаварыць, звыкаецца са словам. Анэціна Верачка спачатку доўга гаварыла ма-ню-ня, затым — манюна, пасля ўжо — машуна і толькі нарэшце — машына. Цяпер яна захліпала і пралапатала, ціснучыся да Дзедзіхі і спатыкаючыся на цяжкім слове:

— Каб па доктара на машуне...

— А дзіцятка... З мамкай дрэннага не станецца. А мы і без машыны хуценька прывязём акушэрку тую.

Ён яшчэ ўсміхнуўся ёй і, узяўшыся за клямку, неяк плячом піхнуў дзверы.

Налета Андрэю Дзедзіху будзе пяцьдзесят, а ён вясной сабраўся і перайшоў да Анэты,— надакучыла аднаму ды і пара была. Сям'я яго ў блакаду не вярнулася з Паліка. Жыў адзін на людзях. І клопат меў за людзей, а не за сябе. Анэта заўдавела маладою яшчэ, мела толькі дачку, а цяпер ён чакаў ад яе свайго дзіцяці.

З трывогаю ў душы, не гледзячы пад ногі, кінуўся ён гародамі да свайго пляменніка і — дарэмна: Аркадзь цяпер не сядзеў дома.

...Зноў белыя прасціны атулілі печ. Яны дрыжаць на шастку, пухнуць, коцяцца, як шары, на падлогу. Гэта — воблакі, раскіданыя, ускудлачаныя. Як авечкі на дзядзінцы.

Поле — у жнеях, іх процьма...

Трымціць, як ніткі, нагрэтае за раніцу паветра, бы там, пад лесам, снуюць кросны і нацягнулі кужаль-пражу.

Ад спякоты крычыць, аж заходзіцца, канюх,— просіць піць: сасмяг там пад сонцам. І чаго гэта вісець угары; няхай нырне за лес, да віроў; там нават выкупацца можна!

Ды гэта не канюх — ліха з ім! — то Андрэй просіць вады. Яна падае яму гладыш. Млосна, млява, ды вунь як мякка на душы, калі Андрэй так аддана глядзіць у вочы. Неяк дрыжыш уся, не ўстоіш, не ўтрымаешся, калі прыхінаецца яго цвёрдае ўгрэтае плячо. Ці не з таго і пачалося... Яна пайшла пад вечар аж туды, да паварoту дарогі, у самы кут поля. Пад Гальдараду...

Зноў ные над вірамі засмяглы канюх, трывожна і ўтрапёна. Ён уратуе, паможа... Анэта цягнецца ўгору, дзе чарнее палоска столі, знемагаецца, апускае руку і ловіць ля сябе Верачку. Яна плача.

...Расчыніліся дзверы, бразнуўшы аб вушак. На парозе вырас хлопец. Высокі, русаваты, шапка аж на патыліцы. Адна рука на бядры, у другой пуга.

— Па вас... Хутчэй. Яна недзе абрадзілася... Добры вечар... Крычыць на ўсю вёску. Барысаўна з бальніцы да вас паслала. З паперкай.

— Дзе гэта? — утаропілася гаспадыня. Яна як след не ведае яшчэ кватаранткі, а ўжо во як да той прыходзяць... Спакою не будзе.

Ён тлумачыць. Блытае і саромеецца.

— Сядзь. У мяне ўсё тут. У бальніцу заязджаць не будзем,— Галіна знікла ў пакойчыку.

Ён паслухаў. Прыткнуўся да ўслончыка. Моршчыўся і кусаў тонкія вусны,— нерваваўся.

— Куды гэта патарабаніш яе ноччу, га? Яна ж нідзе нікога тут не ведае. Учора толькі ў хату ўвалілася. Не агледзелася,— шкадуе гаспадыня.— Адкуль ты? — перапытвае.

— А ноччу яна нічога і не ўведае. З чым паедзе, з тым і вернецца. Ды ў Закалюжжы і няма надта чаго. Я, гэта, з Закалюжжа, аж з таго канца. Ведаеце, дзе Ульяна жыве? Вярсты з чатыры ад вашых Грынёў. Адзін жа калгас. Мы там мігам будзем. Сядзем вось так упобачкі,— узяў ён пугу пад паху,— і да нашай Дзедзіхі. Яе старому шчасце, во, уваліць. Ён — мой дзядзька, прыбег, калі цямнелася. Памажы, кажа, сын... Нідзе нікога не знойдзе, а сам адну кінуць баіцца. Любасць на старасці і да смерці...

— Ці можна так з хворай... А Ульяну, матку тваю, я ведаю. У праўленні яна. Ну дык вы ўжо, глядзіце, Галіна Фёдараўна, не баўцеся,— не кідала гаспадыня.

— Нічога. Ён мяне і назад прывязе,— Галіна махнула на яго набітай скураной сумкай.— Дарэчы, як жа цябе? Каб ведаць, хто першы вязе на хрэсьбіны...— глядзела яна яму ў вочы востра і таемна, нібы што надумала.

— У дарозе знаёмства завядзём. Ноч вялікая. Усё адно толькі на самыя хрэсьбіны, на ранейшае не дапнём,— гаварыў ён, прапускаючы яе наперад.

...Ноч ціхая і зусім светлая. Месяц застыў над беразнякамі. Даўно выплыў з-за лесу з туману, спаласнуўся ў расе і цяпер збляк, стаў белы. Неба шэрае, рыхлае, як поле, што наспех узаралі, навалілі скібаў і зацерушылі сівым пяском.

Яно сее бляклыя моракі, мякчыць душу, змушае яе дрыжаць неяк зусім нязвыкла. І дробнае тарахценне калёс — бы хто сухім дубцом водзіць па частаколе, і густа змочаны расою кужаль-туман, што апаў на дарогу, завалок нават калдобіны, і счарсцвелы ад летніх вятроў бярэзнік, што здалёку адлівае святлом, і сама ноч — вялая, зморaная, нерухомая,— усё такое лагоднае... а зусім жа незнаёмае.

Галіна адкінулася да ляжэйкі і ўгледзелася на Млечны Шлях. Па ім не блудзяць пералётныя птушкі, па ім шукаюць кірунак уночы і людзі. Ляжыць ён, стары-стары, бясконцы, нерухомы; свеціць з вялікага стухлага вогнішча-

неба і вечна зманьвае да сябе думкі. Але яго сёння цяжка распазнаць: хмары зацягваюць зоркі.

Наперадзе чорны каняка; шырокая спіна спакойнага, але, відаць, не зусім далікатнага хлопца, які ўжо справіўся яе пакрыўдзіць; адкінутая на ляжэйку яго рука з белым пугаўём. Ён мурлыкае сабе пад нос, як кот, нешта нязвыклае, тады насвіствае,— абрыд, як і дрогкая дарога, як і збітае сена пад плячыма, што муляе і прымушае падпірацца локцем.

— Паганяй жа, Аркадзь, ці як цябе там...— нарэшце ж нельга стрываць.— На помач спяшым, а не на вяселле. Хаця некаторым гэта ўсё адно — ці чалавек жэніцца, ці ў болях канае.

Ён маўчыць. Бы нават не чуў. І, толькі пачакаўшы, пытае:

— Ці не сюды вы на замужжа падаліся, раз так запелі? А я думаў, вы вёску лячыць падахвоціліся...

Не, Галіна не ўступіць...

— Ты падумай. І адкуль такі? Апчаціліўся... Няўжо ў вас усе хлопцы дзікаватыя, як ты? Тады тут і памрэш у дзеўках...

Ён збянтэжыўся. Найшла каса на камень... Што яму сказаць пасля гэтага?

— Вы рваліся? Вось вам пужка. Кабыле па хвасце, па хвасце... А я паляжу за вас,— ён адвярнуўся, пачаў уставаць. Галіна адкінулася на сена, закрыла далонню твар, можа, каб не бачыць ні гэтага недарэкі, ні блеклага месяца, які пачалі зацягваць рудыя пісягі.

Калёсы шпурляе з боку на бок, звініць увушшу. Ён не маніў, ён сапраўды спяшаецца, а марудзіў там, дзе калдобіны.

Рука спаўзае па шчацэ. Галіна бачыць, як уздрыгваюць ягоныя плечы, і думае пра яго.

Самыя гады: стукнула дваццаць. Колькі думалася пра тое, што там за вясковыя хлопцы. Дзікія і дзівакаватыя. Цюхцяі... Ажно — на́ табе. Самаму першаму палец у рот не кладзі. А тут мудрэйшыя недзе ёсць. Зялёны ж ён яшчэ, дык хоць бы ўвагу меў. А сам сімпатычны. Востры з твару. У яго нешырокі рот, раздвоены падбародак, вялікія вочы і доўгія вейкі. Густабровы, хоць і белабрысы. І ўвесь акуратна скроены, відаць, вясёлы. Такіх дзяўчаты любяць. Бегае недзе паўвёскі за ім.

А яна? Галіна стала думаць, якая ж яна, і прызналася

сабе, што падобна на яго. Такая ж белабрыска... Яна ўсміхнулася. Толькі вось недзе старэйшая гады на два.

Выехалі на перааранае поле. Конь плёўся паціху і не думаў варушыцца. Хлопец змоўк, абапёршыся на ляжэйку.

— Паганяй. Прасіла ж.

— А вы цікуйце на зоркі. У горадзе вы іх не бачылі. А Дзедзіхава жонка жыва будзе. Не першы раз. Ды ў нас і свае бабкі не вымерлі. Неяк жа людзі абыходзіліся, калі і вас не было.

— Павінен ведаць. Што, у школу не хадзіў?

— Не хадзіў, а ездзіў. Дзесяць год. Во гэтай дарогай. Дык адкуль жа ведаць.

— Ты падумай!.. Мудрыць яшчэ.

— Не мудру. Гэта з гарадскімі гаварыць цяжка...

— Адкуль ты ўзяў гарадскую?

— Па вачах відно. Нашы такімі вачыма на хлопцаў не зыркаюць. Саромеюцца.

— А табе няма чаго саромецца, маладзенькі яшчэ.

— Я мог бы і абразіцца, калі б год не нафталініў у куфры атэстат сталасці,— павярнуўся ён да яе, збіраючыся яшчэ нешта сказаць.

У яе такі выгляд, быццам нічога не ўцяміла.

— А чаму нікуды не падаваўся? Ці мо не прайшоў?

— І не думаў. Цяпер жа стаж трэба нажыць. Вось паважу вас, завяду медыцынскі стаж і паступлю на ўрача. Без гэтага цяпер...

— Стойце! Стойце! Зорка ўпала...— Галіна падхапілася.— Першы раз бачу, каб такая вялікая зорка. Паўнеба асвяціла.

— Гэта спадарожнік пайшоў вакол зямлі шнураваць.

— Ці бачыў ты яго калі...

Ён гаварыў ёй на зло, каб урэшце дапячы:

— Бачыў... Не толькі я, а і мой прычапны Пэрац. Так што можаце запытацца... Над гэтай самай дарогай, дзе едзем, на тым тыдні бачылі...— тарканулў ён недзе ўгору пугаўём, нібыта намерыўся прапароць неба.

— Ты падумай... Зноў мудрыць.

— Но-о-о!..— хвастануў ён недзе па абочыне пугай: ехаць яшчэ было далёка.

— Трактары-ыст...— нарэшце даўмелася яна.

Ён маўчаў. Не жадаў больш гаварыць. Пра што?

Яны выехалі на поле пад вёску. Туману тут не было, ён астаўся ў лагчыне.

У хаце згусла духата. Давялося расчыніць вокны і завесіць іх марляю. Гэта ад мух, якія лезуць цэлай хмарай.

Чыста вымецена падлога. Пахне аерам, што прывяў у куце пад лавай. На стале спяшаецца стары будзільнік, бразгае. На яго абвісла галінка вазона-бальзамінкі. На апырсканым вадою лісці палюе за спажываю-мухай няўклюдны рыжаваты павучок. А можа, хоча развесіць свае брыдкія сівыя кросны? Дарэмна: вазоны тут у доглядзе.

Моцна, глыбока, на ўсю хату дыхае Анэта, аж стогне. Бывае, стрымлівае сябе,— гэта, калі ўспамінае, што дома чужы чалавек. З-за стала Галіне відаць Анэцін твар, зморany, з рассыпанымі на падушцы валасамі.

Малое не плача. Галіна добра і не чула ягонага крыку. Гэта хлопчык. Ладны, што камлюк. У бацькі аж барада затраслася ад смеху, калі ўзяў яго на рукі.

Галіна не рада, дзе там! Чаго тады так спяшалася? А што застала? Маленькае ў беленькіх пялёнках, хворая дагледжана... Ёсць на вёсках з практыкай бабкі, а гэтая і медыцыну ведае, бо зрабіла ўсё як след. Галіна распытала, як і што, бо чалавек можа так і загінуць ад няўклюдных і нявымытых рук. Прыйдзецца яшчэ наведацца сюды пасля. А цяпер — дадому.

Вось і канцы турботам. Памагла, што кашы перац. Пакруцілася ў хаце — і спаць. Нібы толькі за гэтым і ехала. А думак... Першыя роды самой прымаць. Без кансультантаў, без пабочных вачэй, якія, бывае, адным позіркам пакажуць, што і як. Страх тады яшчэ наперадзе. А тут усё добра.

Яна расхінула пакарабачаны альбом, што трапіў пад руку — ляжаў на стале пад скамечаным вышываным абрусікам.

Пачула Анэта:

— Гэта ад пляменніцы прынесла Верачка. Яна цікаўная...

Чужыя твары, напятыя ўсмешкі. Цэлая кіпа паштовак, тых, што на рынках часам прадаюць. Безгустоўныя, расслабленыя паставы з непісьменнымі подпісамі пад сэрцам-рэпкай з чалавечым тварам пасярод. Тут і «Поздравляю з днем рождения», і «Целую тибя», і «Помни всигда». Усе як адна і адразу ж губляюцца з памяці.

Галіна перавярнула адну, акінула вачыма. Тое ж чужое сэрца, ветраныя думкі, слізкія словы: «Дарагая Аніч-

ка!!! Паздраўляю цібя з Днём раждзенія!!! Ты прыкрасна, слоўна роза...»

Пісала сяброўка. Цікава, што ў такія гады змогуць напісаць хлопцы? Як бы наслюнявіў той начны шарсцень?

Яна ўзяла яшчэ адну, дзе хлопец і дзяўчо з вясёлымі, падобнымі тварамі чокаліся вялізнымі келіхамі-вазамі. На адвароце надпіс дзявочай рукой:

Можа быць упірадзі будзе ноч біз зары
І не ўстрэцімся больша з табой
Вот тагда ты вазьмі і на фота ўзгляні
Знай што сэрцам усігда я з табой!!!

Нельга далей тасаваць халодную калоду... Агоркла. Няўжо таму дзяўчаці бракуе сваёй душы? Дзе расла яна? Наіўная. У яе наперадзе — не ноч без зары...

— Слюнявае скавытанне...

Стукнула кардонная вокладка аб стол, замёр, стаіўся ад страху на сучку бальзамінкі павучок.

Галіна падышла да ложка і ўзяла на рукі малое.

## 3

Яна адразу ўспомніла знаёмства...

Было ў ім нешта ад таго, калі людзі, не ведаючы адзін другога, шчыруюць і прыяюць, бо яны даўно зрадніліся. Але такія знаёмствы хутчэй імгненныя,— вось толькі адчуваў дабрату чалавека, і няма яго: знік у грамадзе, не развітаўшыся, і таму доўга яшчэ чакаеш, калі ж ён сустрэнецца зноў? І што перашкаджае спытаць імя, адрас? Не рашаешся, а пасля шкада.

Здарылася гэта тады нечакана.

...Горад ажыў з самай раніцы. Паліты на зары асфальт дыхаў свежасцю, бы гэта ён і паіў прахалодаю прысадыліпы. Мякка шумелі тралейбусы і легкавыя, напорліва бралі вуліцай туды, дзе яна падымалася ўгору.

Сонца яшчэ не выйшла з-за ліп у гарадскім парку, і скрозь сеялася празрыстасць. Калі глядзець уздоўж вуліцы, дзе ўзнімаецца тэлемачта,— дрыжыць, снуецца сінеча. Там растаюць моракі нядаўняй ночы. Неба густое, цяжкае. Значыць, будзе летні дзень у пагодзе і гарачыні, без ветру. Удалечы над рэчкаю тчэцца смуга, нізка-нізка — сцелецца па вадзе, бы хто асцярожна сцягвае, апаласкаўшы, выбеленае палатно; тут, ля моста, смуга рэдкая: яе з'ядае сонца.

У ценю пад збуялымі ад старадаўнасці клёнамі, што саступаюць аж да стромых берагоў,— халадок.

Добра ісці па алеі паўз вуліцу, мінаць свежыя ад начы каменныя будынкі. Яны яшчэ не сагрэты сонцам і ад таго цяжкія і цёмныя.

Галіна адна. Не спяшаецца. Куды?.. Экзамены мінулі. Сёння яна будзе на дачы. Мо аж да восені прыйдзецца пакінуць горад, дзе вырасла і вучылася. Хаця... Яшчэ адзін год, а там нехаця расстанешся. Цяпер так.

На плошчы ў цэнтры — нікога. Яна свежая, спаласканая, і ад таго ўтульная. Задумліва, імкліва ўзіраецца ўдалеч да сонца знаёмы ўсім на зямлі чалавек.

Знаёмая, родная плошча штораз здаецца інакшай. Гэта ад людзей і машын.

Ля помніка галубоў — што насыпана. Шызыя, белыя, у гарошак. Валюхаюцца ля кармушак. Кажуць, сама болей галубоў у Варшаве. Вось бы паехаць туды калі. І няўжо ў Маскве іх меней?

З-за помніка выбег хлопчык. У саламянай з брыльком кепачцы, у белым гарнітурчыку з кароценькімі штонікамі, у сандаліках басанож. Ад сілы гады два хлапчаняці. Растапырыў пальчыкі, прысеў і стаў карміць галубка з далонькі. Пасля ўжо другога, трэцяга. Неўзабаве да яго прыскочыла цэлая гурбачка. Галубы ўзрадаваліся, відаць, свайму знаёмаму: лезлі да рук, падляталі, каб сесці на плечы,— дурэлі.

Галіна стаяла і не адрывала воч.

— Нічога дзіўнага...— раптам загугніла ў яе за плячыма.— Дзецям уласціва дзяліцца апошнім. Шчырая душа гэты хлопчык. Вырасце чалавекам з добрым і вялікім сэрцам. Так бы ўсё ягонае пакаленне выгадаваць сярод галубоў і такога мірнага дня. Вось вам і камунізм і свядомасць.

Галіну ўразілі не словы, якія яна пачула. Ёй спачатку здалося, што за плячыма вырас сівы прафесар-філосаф. Такі ўжо быў у некага тон. Ажно яна азірнулася і ўгледзела юнака, можа, нават маладзейшага за яе. Пашукала вачыма таго мудраца на старасці і, не знайшоўшы, сказала:

— А вы не так на афарызмы, як палохаць здатны.

Хацела тут жа завярнуцца і пайсці, але «некультурны тып», як яна справілася яго ахрысціць, не толькі не папрасіў прабачэння, што, можа, сапсаваў ёй усю раніцу, а

нават зрабіў выгляд,— маўляў, не ўчуў цябе,— і працягваў:

— Толькі мірныя дні могуць узгадаваць мірнага чалавека. А галубы... Пасля таго, як звілі гняздо ў кованым шлеме Марса — бога вайны...

— Не думайце, што я не чытаю газет. Гэта з учарашняй...— бліснула яна вачыма і, падумаўшы: «Такога не адразу астудзіш», дадала: — І філасофія ваша — з барадой.

— Угадалі. Філасофія старая і для такога хлопчыка, як вунь той. Сапраўды, чымся пра філасофію, давайце лепш пра дзяцей. Я іх вельмі люблю.

«Сам ты дзіця яшчэ, надзімаешся толькі,— думала Галіна, гледзячы на незнаёмага «філосафа».— Не такі ўжо ў цябе і высокі лоб, каб абмазгоўваць што вялікае, і, яно відаць,— не сваё выкладаеш. Позні цытатчык знайшоўся...» — зноў ахрысціла яна яго ў думках і ўсё глядзела на ягоны смуглы не ад загару твар, на ладны кірпаты нос, на востры падбародак і чорны пушок пад носам, на тое, як рассыпаліся на два бакі цёмныя густыя валасы і адтапырыліся велікаватыя вушы. «А ў яго дробныя прыгожыя зубы, шэрыя разумныя вочы і ямка на правай шчацэ»,— заўважыла яна ўрэшце і ўжо недзе на дне душы мела намер і пагаварыць з гэтым мудрацом,— паслухаць, што ён яшчэ скажа.

Але не мімалётныя афарызмы ўрэзаліся ёй у памяць, не ягоная хлапечая абыякавасць да сваёй нетактоўнасці, а тое, што ён расказаў ёй пазней, калі яны сядзелі на лаўцы ў глухім кутку парка пад нізкімі лапамі клёнаў, дзе і днём спаваўся змрок. Яно запала ў памяць, як галасы бразгушак у маленстве, срэбныя, мяккія, ад якіх выдае, бы цябе, пакрыўджанага, нехта суцяшае і гладзіць па галоўцы.

Гэта была навела пра вялікую дзіцячую душу.

...— Помню, як цяпер...— ён расказваў тады і глядзеў на раку, дзе ўдалечы дыміліся трубы.— Танкі адрэзалі немцаў ад вёскі. Яны больш не адстрэльваліся. Здаліся. Усе дваццаць два, прыкончыўшы цыбача-афіцэра, што лаяўся і тыкаў тупы вальтэрык кожнаму ў грудзі.

Іх, запыленых, прысмірэлых і надзіва рахманых, вялі вёскай: Перапёлка — спаважны мужчына з аўтаматам, і Юзік Белановіч — гадоў дваццаці хлопец у нямецкім фрэнчы і з нямецкім карабінам. Гэта Юзік падскочыў уранні па старшыню сельсавета Перапёлку — учарашняга

яшчэ камандзіра брыгаднай разведкі катоўцаў; гэта яго, Юзіка, меліся ў нас абраць за калгаснага старшыню. Ужо два тыдні, як з'явіліся нашы танкі, бухала дзесь за самай Віліяй, і людзі нанава ладзілі калгас.

Перапёлка першы рушыў ім напярэймы і аўтаматнай чаргой адагнаў зноў у яр, а Юзік ужо імчаў конна ў Крашчанскі лес, дзе стаялі танкі.

Як добра, што яны прыспелі ў час...

Немцы, усе дваццаць два, сядзелі пасля на зямлі, ля гародчыка старога Янука, якога эсэсаўцы спалілі ў апошнюю блакаду. Варочалі галовамі, саплі. У вачах у іх быў страх і голад.

Ім уважыў Перапёлка. Хай адпачнуць, а можа, і падсілкуюцца, калі ў вёсцы знойдзецца лішні акраец хлеба. Да раёна, куды іх загадана адвесці, не блізка.

Юзік быў на нагах, хадзіў ля студні, неяк усё пакратваючы плячыма, відаць, прыглядаўся,— з кім бы з дваццаці двух памяняцца на фрэнчы, бо ў яго быў зусім ужо нялюдскі: зашмальцаваны, пакамечаны і вялікаваты.

Перапёлка сядзеў з аўтаматам цераз плячо, тут жа, за імі, ля самага гародчыка, адкуль праз зелень чырванелася размытая дажджамі печ на пажарышчы. Пахла глінай, гнілой бульбай і яшчэ нечым вострым — мусіць, потам ад угрэтых людзей.

Яны цяпер ужо зусім не варушыліся. Думалі, відаць, якая і куды чакае іх дарога, шкадавалі пуцявін, што вялі няйнакш дадому і якія, глядзі, зноў адрэзаны і, можа, назаўсёды... І, напэўна, праклiналі тых, якімі ступілі сюды, у гэты край, тры гады назад, у сорак першым...

І толькі адзін, абраслы і ссутулены, але, відаць, яшчэ не стары, бо вочы яго не паказвалі стомы, не мог ні ўлежаць, ні ўседзець.

Перапёлку ўзяла насцярога. Ён уліўся вачыма ў палоннага; пальцы неяк самі злавілі затвор аўтамата.

Абраслы і ссутулены раптам выпрастаўся, яшчэ больш скінуў з сябе гадоў і спрытна пасунуўся да гародчыка.

Астатнія ад змору і сонца, што бралася пад паўдня, ляжалі распластаныя на зямлі, змірыліся з лёсам, паверылі, што наступіў назаўсёды канец вайне, якая, апроч гора, нічога не прынесла, і ніхто не звяртаў увагі на тое, што сярод іх некаму не сядзіцца. Але за ім стаў сачыць ужо і Юзік, відаць прыкмеціўшы, што гэты неспакойны — самы меншы і зусім ягонага росту.

Перапёлка ціха шчоўкнуў затворам,— для таго аднаго,

калі той пасунуўся яшчэ раз да гародчыка, і тут жа ўчуў, што нехта ходзіць за плячыма,— неяк ужо вельмі асцярожна.

Аўтамат з таго, неспакойнага, павярнуў на гародчык. Перапёлка крутнуўся і ўразіўся... Там, за нахіленым, зялёным ад моху частаколам, не звяртаючы аніякай увагі на незнаёмых, зусім жа чужых людзей, тупала босымі ножкамі маленькае, ад сілы чатырохгадовае дзіцяня — дзяўчынка. Белагаловенькая, мурзатая, у жоўтай, расшпіленай ззаду сукеначцы.

Палонны, які быў ужо ля самага частаколу, дзіўна ўсміхаўся; дзяўчынка не спалохалася, калі ён аклікнуў яе чыста па-руску.

«Ведаў жа, нягоднік, мову, а маўчаў. І танкістам, і нам ні слова не сказаў пры допыце...» — падумаў Перапёлка.

Дзяўчынка павярнулася, схіліла галоўку, паглядзела на незнаёмага абраслага дзядзьку і, зноў нагнуўшыся над нечым у гародчыку, спыталася, расцягваючы словы:

— Ну ча-а-го та-а-бе трэ-э-ба?..

Ён зноў па-руску загаварыў да яе.

Дзяўчынка падышла аж да частаколу, схіліла галоўку і маўчала, цярэбячы ножкай аб ножку. У руках у яе былі два прасначкі, тыя, што напалам з лебяды і мукі пяклі ў вайну па вёсках. Яна разламала іх — кожны на дзве долі — і прасунула рукі між частаколін. Спачатку адну, пасля другую.

— Вазьмі ўжо, вазьмі... Калі гэтак хочаш... Яны добрыя...— пасля падумала, сумелася, зірнула спалоханымі вачанятамі на Перапёлку — ён жа быў са стрэльбай! — і сказала, цяпер ужо хутчэй і заклапочана: — Паляту... Мамка ж накрычыць...— Падумала, сказала яшчэ, трымаючыся маленькімі ручкамі за частаколіны і паказваючы зусім маленькі носік: — І яму дай, а то ён мамцы скажа, што я ўсё чужым аддала. І ўсім ім дай, дай... А я яшчэ паляту вазьму...

Ён узяў тыя разламаныя прасначкі сваімі вузлаватымі, нягнуткімі пальцамі; яны дрыжалі, калі сталі выціраць вочы. Ён дзякаваў, ён гаварыў і гаварыў. Глядзеў на папялішча, на дзяўчынку — ці не праклінаў сябе, што яшчэ гадзіну назад страляў з аўтамата недзе ў гэты гародчык...

За вёскай пасля доўга пыліла дарога. Іх, дваццаць два, павялі на гасцінец двое: Перапёлка і Юзік Белановіч.

...Як гэта ўсё далёка. За гарамі... Колькі ёй, Галіне, тады было? Ды і ці не пра яе самую гэты расказ? Калі

не,— то пра падлетка-аднагодку. Шмат з таго помніцца,— возьме калі ды ўсплыве. Вымыюць яго ўспаміны, як рачныя віры выносяць на паверхню ў паводку сцяжэлае палена-камень.

У дзяцінстве, жывучы на ўскраіне акупіраванага горада, Галіна бачыла немцаў. І ніводнаму яна, каб і канаў, не падала б укусіць чаго хоць раз. А ў той дзяўчынкі, можа, мяккае сэрца, а можа, яна не ведала, хто ёй учыніў гора?

Галіна наглядзелася пасля вайны і на палонных немцаў, калі тыя, як зялёныя жукі, поўзалі па рыштаваннях. Але то былі не такія, што бачыла тая дзяўчынка,— а накормленыя і ад таго леныя, непаваротлівыя. Возьме цагліну і будзе трымаць яе ў руках паўдня, покуль дзе ўладзіць. Абы выгляд, што заняты работай. І тыя палонныя ніколі ў яе нічога не прасілі, калі яна бегла ля іх у школу...

Галіна схамянулася... Яна злавіла сябе на тым, што так хутка даверылася гэтаму незнаёмаму хлопцу. Гэта пакрыўдзіла яе. Яна пасуровела, пасля ўзгарэлася тут жа на вачах, усхапілася і знікла на дарожцы ў парку.

І калі праз колькі хвілін яна азірнулася на знаёмае месца і нікога там не заўважыла, то падумала, ці не пусціўся ён даганяць яе. Збочыла на людную алею і накінула на галаву касынку.

Яны разышліся гэтак жа нечакана, як спаткаліся.

Успомнілася ўсё гэта тады, калі пад вечар яна вярталася з Краснага — самай далёкай вёскі ад Грынёў — ад бальніцы. Гэта добрыя чатыры кіламетры ад Закалюжжа, куды яна ехала на фурманцы.

Аказалася, што не такі ўжо хворы быў той калгаснік. Летняя прастуда, грыпок,— выпі гарачага чаю на сон і ўстанеш здаровы.

Брыгадзір, учуўшы, што яго «рабачай» не ад хваробы «разнюніўся», не толькі не адпусціў каня адвозіць доктара, а і самога хворага хацеў падняць з пасцелі. Галіна была ўзбунтавала, а потым уважыла. Жніво, конь патрэбен, ды і брыгадзір — стары мужчына, а так просіць: а ёй, маладой, прабегчы якія там сем-восем вёрст у такі час можна лёгенька,— і яна рушыла пешкі.

Выйшла з лесу па гэты бок Закалюжжа, сюды, пад Грыні, спусцілася з адхону. Невысокая, з блакітам у вачах і ўкладзенымі вакол галавы падкручанымі бялёсымі валасамі. Размахвала рукамі, спявала, ці не думала пра

вясёлае. А можа, была рада багатаму лету, калі жнівень разносіў вячэрні водар мурагу... Яна любіла кветкі і тут па дарозе амаль ля кожнай спынялася, нешта варажыла, нагнуўшыся; у руках у яе быў невялікі букет з красак летняга лугу.

Падышла да моста цераз шашу, спынілася, бо ўбачыла дзяцей. А ўбачыўшы, не магла размінуцца.

Тых чацвёра. Не. Іх — трое і адзін. Той, адзін,— з доўгай, аж да зямлі, бляшанкай, у якіх на вёсцы трымаюць гаспадыні ў студнях малако. Яна ўспомніла, што бачыла ягоную белую галоўку з-за прыдарожных лоз, калі сыходзіла ў лагчыну; ён ступаў ёй насустрач.

Ля моста яго затрымалі. Што рабілі тут тыя трое — невядома. Можа, былі і з гэтай вёскі, а мо і наадварот — з Грынёў быў той, белагаловы,— толькі тут сышліся не дружбакі.

— Глядзі!.. Белы... У смятану з галавой уваліўся... Белы-белы, белы-белы!..— крычалі трое, штурхаючы з усіх бакоў спалоханае хлапчо.

Яны выгуквалі яшчэ не дай бог чуць што, і ўжо адзін з тройкі, што быў кірпаты і ў саколцы-цяльняшцы, меў намер яшчэ больш пабяліць белагаловага: памыць яго малаком з бляшанкі. Было таму завадатару ад сілы год сем, астатнім — і яшчэ меней.

— Не будзеш больш швэндацца тут!.. Не будзеш выглядаць нашы акопы! У разведку ходзіш, шпіёнскі род? Накруцім яму хваста! — кірпаты ў паласатай саколцы пісклявіў больш за ўсіх і, відаць уявіўшы, што перад ім, можа, і праўда разведчык, пачаў быў валтузіць белагаловага.

Галіна пераступіла канаву:

— Ану, хто смелы? Адзін на адзін! Ну?! Ваякі...

Трое хлапчукоў ад неспадзеўкі адскочылі ад яе, як вераб'і ад парога, калі ляпнуць дзвярыма, пасля шмыгнулі ў лазняк.

Шлях белагаловаму быў адкрыты, і Галіна зноў спусцілася дарогай туды, дзе раслі вербы. Рвала з прыдарожжа васількі і рамонкі. Стала чамусьці неспакойная. Яе цягнула азірнуцца,— бы хтосьці нагінаўся над ёю. Усё ж агледзелася: здалося, што між кустоў мільганула белая галоўка. «Ці не той хлопчык цікуе?» — падумала яна, але напачатку не прыдала гэтаму ўвагі.

А мо ён усё баіцца іх? Калі ёй па дарозе,— правядзе яго.

Яна выйшла з ракітніку.

Белавалосы спачатку не мог сказаць ні слова. Стаяў, як вінаваты, і глядзеў ёй у вочы. У адной руцэ ў яго была бляшанка, у другой — жменька блакітных-блакітных званочкаў...

— Наце... вазьміце сабе... Спасіба...— нарэшце прашаняляпіў ён.

— А як жа цябе зваць? — прысела яна, беручы кветкі.

— Сярожка...

У яго былі такія ж блакітныя вочы, як і палявыя званочкі.

Калі заходзіла сонца, хлапчо было на самым пагорку, там, адкуль яна сышла, і яго добра было відаць ад шашы.

Ён абудзіў успаміны, устрывожыў душу...

...І чаму тады ў горадзе яны не спыталіся адно пра аднаго?.. Адкуль ён? Сама не ведаючы чаму, Галіна стала думаць і думаць пра таго хлопца, пра сустрэчу, якая адбылася вось ужо больш як год, і пра тое, што гаварыў ён.

Надзіва памяць добра ўсё захавала.

## 4

Шаша адгалінілася ад тракту Ілья — Барысаў за Дзераўном — раскіданай па полі вёсцы — і вяла то брукам, то голым выбоістым грунтам па ўзлессі сюды, у лагчыну, каб ад моста зноў узяць крута ўгору, завярнуць управа і, выпрастаўшыся, легчы на самым пагор'і. Адгэтуль яна рэзала поле — пасевы — і відаць была далёка-далёка за будынкамі на бясконцай роўнядзі.

Шаша вяла ў Крашчанскія лясы, пад Камена — да былой некалі пагранічнай заставы,— а цяпер — у суседнюю вобласць, туды, на Ілью і Краснае. Адгэтуль, з пагор'я, скрозь відаць поле, усё ў жнівеньскай жаўцізне, з мэндлікамі, раскіданымі на ржонні, і запыленымі, аж сівымі камбайнамі, што варушыліся тут цяпер кожны дзень ад рання да ночы. Адсюль можна ўгледзець, як тырчыць далёка на захадзе дзіда касцёла,— ён па той бок былой мяжы. Яго лёгка зблытаць з вострымі вярхамі елак, якія нерухома стылі бліжэй і правей яго над сінім лесам. Толькі дзіда касцёла была вострая і калючая, як шпілька, яна парола неба, а елкі лашчылі вока, вольныя і не строгія ад прыроды.

Дарога з пагор'я кліча ў свет, нараджае думы пра веліч і несканчонасць жыцця. Вымытая за век буйнымі

дажджамі, убітая фурманкамі і машынамі, яна адлівае адпаліраваным каменнем на сонцы; па ёй не боязна ступаць і босаму: буйны жвір і галька перамолаты і выдзьмуты вятрамі. Воды намылі сабе крыніц-разораў ад самага камення аж у лагчыны, папсавалі абочыны, далі турботаў дзяўчатам-дарожніцам, якія стракацяць тут сваімі ўборамі, латаючы дзірваном пясчаныя адхоны.

Сама прырода адарыла гасцінец прысадамі.

Бярозы, разгалістыя, з дробным і мяккім лісцем, абышлі яго з лагчыны аж далёка на пагор'е.

Прыгажэй за ўсё гасцінец пад вечар, калі канае дзень, нікне ў рэдкай смузе. Надвячорак патыхае свежым тарфяным вогнішчам,— гэта далёка на балотах вугліцца высахлае за лета карэнне дзікай травы і дымяцца тыднямі выпетраныя стагоднія пласты лёсу. Едкі дым вісне днём між куп'я на багунах і мхах, а блізка захад — паплыве ён да вёскі, снуючыся рэдзенькімі валаконцамі. Водар яго пабівае мяккія ад блізкай ночы пахі выспелай каляндры і медуніцы.

Лёгка ісці ад лесу, спускаючыся з гары ўслед за сонцам аж да самых Грынёў.

Не за гарамі восень, і на рудым ільнянішчы гарцуюць шпакі; вяртлявыя, яны не маюць спакою, чакаючы, калі возьме ды пацягне іх адгэтуль у край, багаты цяплом.

Яшчэ пад лесам ля мшар дастойваюць ячмені і аўсы. Хай толькі пабурэюць, іх адразу ж можна схіліць над сярпом.

Шаша не спіць цалюткі дзень, не хоча супакоіцца і папач. Яе доўга трывожаць машыны і жаночыя галасы. Пасля яна нікне ў спакоі. Толькі доўга яшчэ схіляюцца адна перад другой прысады, каб адшумець-адвітацца папач, а тады і яны замруць,— і іх атуляе шэрая ноч.

Ныюць, аж звіняць, тэлефонныя правады: яны вечна гамоняць з сабою. Тахкае і прарэзліва шуміць за Грынямі на рацэ калгасная лесапілка. Ды і яна ціхне к начы. Грыні заснуць, каб спачыць пасля дня ў турботах, толькі адны трактары будуць турчаць праз усю ноч,— але гэта далёка, пад Закалюжжам.

Грыні ў яміне між пагор'яў. Злева ад шашы, за калгаснымі садамі. Невядома, хто першы з грынёўцаў прыляпіўся ў гэтым сцішным кутку на беразе рачулкі, якая дагэтуль колькі во перасыхала і нарэшце высахла зусім у гэта лета...

Калі ў вясновую паводку стаяць і глядзець на Грыні з шашы, то выдае, што рэчка возьме ды разліецца, стане тут адно возера, а Грыні апынуцца на дне. І праўда, магло б надарыцца так, каб там, у канцы Грынёў, дзе лесапілка, падвысілі плаціну.

Будынкі ў Грынях драўляныя. Новыя, зграбныя, крытыя гонтай. Гаспадары адбудаваліся пасля вайны, бо іх жыллё ў апошнюю блакаду спалілі гітлераўцы.

І калгас перасыпаў будынкі. Старшынь тут пасля вайны пабыло не мнагавата, ды і цяпер грынёўцы напаткалі добрага гаспадара.

Любяць у Грынях песні і гармонік.

Эх, гармонік!.. І сам таго не ведаеш, які ты чарадзей... Ты нават старыя ногі змушаеш вырабляць чортведама што...

Чамусьці сёння, калі чуецца гармонік, усё — і праявы лета, і рэдкая вячэрняя зара, і неспадзяванкі, якія чакаюць у клубе, патанаюць у лёгкім, незразумелым суме.

Бывае, з'явіцца спакуслівая думка, падхопіць, закруціць і панясе цябе, як вецер жменю снегу, а потым знікне. І ты прыціх, улёгся, як і той вецер. Яго як і не было, і мрой тваіх не стала.

Сумна тады, калі так не выйшла адразу сказаць пра сваё.

Усё адно падмывае, і не можаш змоўчаць:

— Ёсць розны сум. Ды самы непатрэбны, відаць, сум па дзяўчыне...

— Што вы, Васіль Міронавіч? Сум па дзяўчыне — гэта ж каханне...— Галіна здзівілася.— Ды чаго сумаваць, калі пакахалі? — Апошнія словы сказаны бы не для яго.

— Вось сустрэўся з вамі, колькі тут... і засумаваў...— ён шмат чаго не дагаварыў.

Іх двое. Ён — высокі, танклявы; нагінаецца, ідучы, наперад,— і ад гэтага няскладны. Русагаловы, стрыжаны пад вожык, якога зачасаць уверх не ўдаецца, і ён спрабуе завярнуць валасы на правы бок. Твар круглы, нос з акулярамі і шышкай на канцы, як бульбінка. Вочы — шэрыя, бліщчаць. Разумныя, глыбока схаваныя пад ілбом, яны глядзяць пранікліва, з даверам. Чалавек зусім мяккай душы.

У Галіны на плячах яго пінжак, шэры, лёгенькі. Сама яна гарэзлівая, вяртлявая; толькі тое і робіць, што сашморгвае вусікі спелай прыдарожнай мятліцы і лапоча безупынку.

Удваіх яны першы раз. Што так здарылася, вінавата не адна Галіна.

Яна зайшла была з бальніцы цераз вуліцу да іх на двор выпіць халоднай вады і ўбачыла гэтага высокага, голага да пояса хлопца ля студні. Доўга не думаючы, узялася за яго:

— Добры дзень, гаспадар! Мыцца ля студні забараняю. Культура... Мыла расклаў з парашкамі. Нагнуўся над самай вадой. Вось дзе людскі край, які медыцына абышла...

— А гэта таму, што бальніца цераз вуліцу. Ніякая хвароба да нас праз плот не пералезе. Жывём як у бога за пазухай каторы ўжо год. Ды і з вашай Барысаўнай у нас... Скажаш — і ўжо ніводная там санітарка хлоркі на двор і не пакажа.

— Значыць, калі вам Барысаўна ні разу не насыпала ў зялёны калодзеж хлоркі, дык вы зубны парашок туды? А як Барысаўна на гэта паглядзіць, калі напомніць, што яна ўрач?

— Мы ж суседзі... Знаёмыя. Як вы гэтага не можаце зразумець... Знаёмства шмат на што вочы зажмурвае...

— Ці не хочаце вы і са мной пазнаёміцца, каб і я зажмурылася? — яна смяялася, ён адчуваў гэта, хоць і не глядзеў на яе.

Ён не хацеў?.. Ды ён аж надакучыў ужо нават Барысаўне... Хваліў Галіну, саромеўся, чырванеў, спачатку намякаючы, а пасля просячы пазнаёміць іх.

А гэта і віду, глядзі, не падасць. Лапоча толькі на чым свет стаіць. Голас яе аж звініць, нібыта струменьчык крынічны.

Мроі сталі явай. Ён быў ад рання да вечара на сёмым небе. Ён асмеліўся сказаць, каб пайсці разам у кіно, яна згадзілася і паабяцала, што зойдзе. Сама...

Ён узгарэўся. Адразу ж. Пасля раптам астыў: разгубіўся,— пра што стане з ёю гаварыць? Але ён чуў, што для смеласці п'юць, і выпіў. Ні многа ні мала — шклянач-ку. Чакаў канца дня, як чорт сканчэння свету. Пагаліўся занадта рана, і праклятая рыжая шчацінка адскочыла за дзень. Ён зноў узяўся за брытву. Намыленага, яго і заспелі дзяўчаты.

Пастукалі. Прывіталіся. Селі самі; не чакалі, пакуль запросіць, бо ён доўга не мог сказаць ні слова,— стукаў толькі аб стол брытвай.

З Галінай прыйшла Нінка. Чарнявая, вастратварая.

Валасы на галаве залізаны, ззаду каса ў вузле. Нінка не любіць гутаркі. Маўчыць, быццам выслухоўвае ўсё, потым засмяецца. А пачне гаварыць, здаецца, што ў роце ў яе зашмат зубоў і яны не даюць ёй варочаць языком. Нінцы — пайшоў дзевятнаццаты. Яна тутэйшая. Жыве ў канцы вёскі, з маці. Пасля Грынёўскай дзесяцігодкі прайшла школу медсясцёр у Ашмянах і ўжо два месяцы як асталася ў бальніцы. Сёння ў яе дзень без дзяжурства і яна вунь як рада, што Галіна Фёдараўна клікнула ў кіно. Пасябраваць яны не паспелі, нават добра не пазнаёміліся.

«Спеліся ўжо...— нерваваўся Васіль Міронавіч.— І чаго тая прыйшла? Пры ёй слова не абронііш. Ловіць усё, і пасля расказваць пачне. І гэтая...— падумаў ён пра Галіну,— сведку захапіла».

Настрой у яго апаў; усё тое, чым ён жыў днём, раптам асела глыбока пад спод душы. Бывае гэтак у пагодлівы дзень разгуляецца рыба, сігане з вады, блісне ў радасці на сонцы і зноў нырне ў цёмны вір, каб супакоіцца і спачыць у звыклай чорнай глыбіні.

Кінакарціна ішла старая, даваенная, цікавая; раней яе гналі без гуку, цяпер агучылі,— і людзей найшло.

Васіль Міронавіч звыкся, палагаднеў, бо неяк быў заўважыў, што «бялянка», як ён зваў Галіну, спрыяе яму.

Яна села поруч, з правага боку; Нінка прымасцілася за ёю. Значыць, гутарыць можна будзе толькі з «бялянкай»! І ўсё яна сама. Інакш бы...

Гукавыя апараты стаялі аж два, і яны адразу ж заглушылі людскі вэрхал, які ўзняўся быў, калі на экране паявілася калматая папаха белагвардзейца. На вясковую грамаду, бывае, і двух гукавых апаратаў мала: гаманкі народ. Як пачнуць жанчыны, там недзе прымасціўшыся ззаду, перапытваць з самага пачатку: «А божачкі, чаму ж ён так?», «А яна ж яго пацалавала...» Здаецца, што яны і заўтра дзе на рабоце праз увесь дзень яшчэ будуць гаманіць «пра такую хвацкую карціну»...

На экран Васіль Міронавіч не глядзеў. Ён нагнуўся да Галіны. Бачыў яе скроню з пасмачкай кароценькіх кудзерак, нос, што задзёрся ўгору, як у капрызнай дзяўчынкі, і вока, якое блішчала ў цемнаце. І ён пачаў шаптаць. Неўзабаве ўбачыў два цьмяныя вугалькі вачэй: яна паварочвалася да яго. Ён усё шаптаў і шаптаў ёй на самае вуха. Пра тое, што кахання няма, яно толькі на экране, што каханне — выдумка, бо во, яму ўжо дваццаць чатыры, а ніхто яшчэ і не заікнуўся, што кахае яго; ён спавядаўся,

што яшчэ і сам такога нікому не гаварыў, але так жадае сказаць... Яна ўсміхнулася.

І тады ён рашыўся. Ён жа чуў і чытаў, што спачатку «адваёўваюць» руку. Нагнуўшыся бліжэй, ён асцярожна паклаў левую руку ёй на плячо. Яна не варухнулася. Ён апусціў руку ніжай, патрымаў ля локця, нясмела сціснуў яго. Яна глядзела на экран і была сур'ёзная. О-о... Каб гэта можна было адразу смела ўзяць за гэтыя пальчыкі, сціснуць іх, перабіраць.

Галіна была спакойная; пасур'ёзнела і Нінка, ці не ўгледзела?

Ён узяў яе за палец, указальны палец на левай руцэ. Галіна і цяпер была спакойная. Нібы застыла. І бровы, і нос, і вочы,— усё нежывое. Толькі валасы на скронях ледзь прыкметна дрыжалі: яна часта дыхала.

Ён парашыў тады, што ўсё вельмі проста, і цісну ёй палец мацней, не адпускаючы.

Раптам Галіна тузанула руку, выпрасталася і яшчэ больш стала сур'ёзная. У зале зарагаталі. Васіль Міронавіч аж прыгнуўся, але смяяліся не з яго: на экране таксама заходзіліся ад смеху. Затое яго папрасілі «сядзець так», бо ягоная «галава круціцца, як гладыш на калку...». Ён перашкаджаў, бадай, не аднаму.

Асекся? Можа, і так. Але ён зноў заўважыў руку. Яе руку на ранейшым месцы! І пачалося спачатку.

Нарэшце ён дабраўся да пальца. Рабіў з ім, што хацеў — рука заставалася на месцы.

Яго ахапіла радасць. Ён пачаў лавіць адзін палец, другі. Уся рука ў ягонай далоні... Ён уздыхнуў моцна і доўга, як намарыўшыся. І тады зноў зарагаталі. Але смяяўся не ўвесь зал, а толькі двое — і ў яго над самым вухам. Ён не ведаў чаму і — разгубіўся. Апамятаўся, калі ўбачыў, што Галіна абедзвюма рукамі папраўляе кудзеркі на скронях, а ён з усёй сілы ўхапіўся за Нінчыну руку.

Ён падскочыў, як на іголках, выпрастаўся, адвярнуўся і ўтаропіўся на экран. Дзяўчаты доўга пырскалі ад смеху, і на іх пачалі шыкаць. Ён хацеў быў пайсці з клуба, але нельга было прабрацца да выхаду.

...А сёння ён зноў з Галінай. Дараваў усё, бо яна прыйшла і нават брывом не павяла, што ўчора нешта магло здарыцца. Папрасіла паказаць дубы, што з'ехалі з узгорка, вербы, што блішчалі лісцем здалёк, з-пад Лавацкага саду. Ён будзе за гіда, а яна дае слова ўсё, усё слухаць.

Ноч зычыла холад,— па зжатых палёх за туманам ужо блізка да вёскі кралася восень. Яна яшчэ нясмела ступала на спалавелыя летнія сцежкі, але жнівеньскія росы былі густыя, цяжкія і золкія; у паветры пахла спелымі канаплямі з агародаў.

Васіль Міронавіч быў поруч і ніяк не мог узяць Галіну пад руку. Памкнецца і назад. У горадзе, на людзях, гэта звычайная рэч, а вечарам, амаль сярод лесу? Іх ужо былі ўгледзелі ўчора разам у клубе, а калі яшчэ і тут, то што падумаюць? Але такой бяды... Хіба ён стане падладжвацца пад нечыя норавы, калі за ўсякай праявай хлапечага клопату ці спагады шукаюць немаведама чаго? А як жа тады быць вясковым дзяўчатам і хлопцам? Ён ніколі над гэтым не задумваўся. Хаця, самі робяць, самі ж сябе і судзяць-перасуджваюць, не вельмі разбіраючыся, хто можа быць за суддзю ў такім разе.

У Грынях шмат яшчэ чаго ў модзе, і гэта непакоіць не толькі яго.

— А чаму пры ўездзе ў вёску, на дзядзінцы, што свінні ўспаролі, крыж нядаўна вырас? І фартухоў на ім да гібелі, вянкі з дзеразы? Куды ж тады ходзяць камсамольцы? У царкву? Чаму Сабольскі да вайны быў як усе, а па вайне адразу ў папы падаўся? Так гаспадыня расказвала. О! Яна яшчэ многа чаго гаварыла...— Галіна глядзіць на яго такімі вачыма, бы ва ўсім гэтым вінаваты адзін ён.

— Як вам сказаць? Вы не зразумееце. Тут усё зліласяпераплялося...

— Нічога не пераплялося. Усё наверсе. Носам упрэшся.

Ён змоўк,— пакрыўдзіўся.

— А я і сама ўсё скажу. І не толькі вам, Васіль Міронавіч, а, калі хочаце, і ў райкоме. Крыж новы нядаўна змудраваў нейкі Платон Джвучка, а яму за гэта зносілі бабкі грошы. А вы, камсамольцы, што рабілі? Настаўнікі. Прапагандысты... Папоў за пазухай гадуеце.

Яго гэта збіла з панталыку. Ён спыніўся і глядзеў на яе. З тыдзень, як прыехала, а ўжо ўсё вясковае загінае на пальцах. І ўспела ж. Для чаго ёй?..

— Папоў у семінарыях гадуюць. А яны не забаронены. Трэба знаць.

— Не ў дзетсадзе ж... І без вас ведаю...

— Вось што значыць стаць да Пракурорыхі на кватэру...— толькі і змог ён яшчэ адказаць.— Але ж і яна сама грошы Джвучку ўсундычыла.

— Гэта што мяне не было. А вы, вы што зрабілі?

Добра ведаю, калі б адну Пракурорыху настроіць супроць Джвучкі, не ўпрыгожвала б вёску пафарбаванае палена.

— Давайце пойдзем ды вывернем, калі так... Гм?..— у голасе Васіля Міронавіча было запытанне — што ж на самай справе зрабіць, і з'едлівасць — знайшлася, падумаеш...

— Не цяпер такое вытвараць. Ды я і чужы чалавек у вас, куды мне...

— Галіна Фёдараўна, я сам б'юся як рыба аб лёд, кожны раз перад людзьмі. Пра гэта ж, пра гэта талкую...

— І яны смяюцца, як учора ў кіно, ці маўчаць? Хутчэй зусім не слухаюць. Так?

— А што б вы запелі? — ён зноў пакрыўдзіўся.

— А ці прыйшло вам калі ў галаву агітаваць саміх папоў? Што гледзіцё? Папоў, кажу. Каб яны самі з сябе рызы здзіралі. Многа ўжо і такіх было. Ад царквы тады людзі адсыплюцца...

— Гм... Але не кожны поп адмовіцца. Бо дзе знойдзеш такі заработак? Ну добра, няхай... Затым жа... На месца аднаго прышлюць другога. У нас былі Хатавецкага папка крытыкнулі ў газеце... Вы не ведаеце? Ну, што ён п'е, да баб ходзіць. Не па пісанню жыве. Факты — во! І што? Сінод праверыў, не гэта яшчэ наверх усплыло, і вышкурыў таго п'яніцу з царквы...— Васіль Міронавіч думаў, што Галіна ўхопіцца за гэта і дасць волю языку, але яна чакала, і ён працягваў: — А на яго месца новага прыслаў. Попік — во! Пальчыкі абліжаш, як у нас тут адзін кажа. Малады такі, у камсамоле б яшчэ быў, каб рызу не надзеў. Не п'е. Прыгожы. Вытрыманы. Голас добры. Ад таго адхлынуў быў народ, а да гэтага зноў падаўся.

— Ты падумай... Вось каб іменна гэты адрокся. Такога распрапагандаваць вунь як трэба. Малады ён? Мо і нежанаты?

— Папы ж жэняцца. Ёсць у яго матушка. З сабою прывёз. Спявае ў царкве і хорам кіруе. Рэгентша.

— Ты падумай... Да гэтага, відаць, не падступішся. А вось да вашага Сабольскага можна.

— У Сабольскага таксама матушка, і сам ён стары ўжо. Ды і зарабляе добра. Моліцца ж на два прыходы. У Грынёўскім і Краснянскім. Капліца там, крыж, фэсты бываюць. І матушка ў яго за псаломшчыцу. Заўсёды ўдваіх. На веласіпедах з царквы ў царкву. Абое.

— Затое ў Сабольскага «гераічнае» мінулае. На яго націснуць...— Галіна ўсміхнулася.— Ён жа ў вайну, гас-

падыня расказвала, на аперацыі выходзіў. Карове абуе лапці на заднія ногі і марш з хлева. А ты шукай яе...— Галіна засмяялася, усміхнуўся і Васіль Міронавіч.

— Ён яшчэ і не гэта вытвараў... Толькі некаторыя нашы забыліся пра тое, за выдумку лічаць. І царкву яму адрамантавалі. Сваімі траячкамі. Вы не бачылі яго?

— Адкуль? Але ўбачу. І пагавару. Моцна пагавару. Ніколі мне яшчэ не трапляліся папы...

Гутарка абарвалася. Галіна раптам схапіла Васіля Міронавіча пад руку і пацягнула ўніз з дарогі. Па гліне, па каменні...

Унізе быў халадок; туман снаваў у альшэўніку свае сівыя кросны.

Яны спыніліся. Стала ціха. Шуршэў угары жвір, ён сыпаўся ўслед.

— Чулі? Тут недзе... кліча нехта...

Ён нічога не чуў і вінавата глядзеў ёй у вочы.

— Сю-ю-ды-ы!.. Г-а-а... Во табе, во! Сю...— голас дзяўчыны, спалоханы, рэзкі.

Нехта валтузіўся і задыхаўся,— тут недалёка, праз кусты, пад вёску.

Галіна знячэўку скінула з сябе пінжак і знікла ў альшэўніку. Мякка зашамацела мокрае лісце, і зноў усё сціхла. Сагнуўшыся паднімаць пінжак, Васіль Міронавіч учуў яшчэ, што булькоча па каменні рэчка. Потым напярэдадзе прарэзаліся злосныя галасы, але ён нічога не разабраў і, сагнуўшыся, падаўся ў росны альшэўнік.

Выскачыўшы на палянку, ён заўважыў, што Галіна стаіць на самай беражніцы, а да яе падступаецца ўскудлачаны і натапыраны Раман Пэрац. Угледзеўшы Васіля Міронавіча, ён крутнуўся ад Галіны, аблапаў, мусіць, мокрыя штаны і нехаця паклыпаў беражніцай некуды ў бок агародаў.

Васіль Міронавіч не ведаў, што казаць. Маўчала і Галіна. Яны былі насупроць адзін аднаго, крокаў за пяць. Паміж імі на прытоптанай траве ляжала беленькая касыначка з завязанымі ражкамі. Галіна нагнулася і падняла яе:

— Правядзіце мяне дамоў. Гэта чортведама што...

## 5

Вароты цяжка было адчыніць. Прыйшлося падняць іх нагой, каб кручок выскачыў з прабою. Рэзкі скрып з ляс-

катам абудзіў двор і разлёгся па вуліцы. Было чуваць праз акно, як нехта ў хаце павярнуўся на ложку; відаць, маці злезла далоў і паглядзела ў шыбіну: яна чакала яго. Але добра, што ніхто не выйшаў.

Месяц, вышчарблены нажом спелы гарбуз, хаваўся ў лісці маладога дуба ля вуліцы. Ад яго святла частакол быў рабы, у жоўтых латках; двор, здавалася, усыпаны аўсянай мякінай.

Леанід перачакаў, стоячы ля вушака, і прашмыгнуў паўз акно. Пастаяў ля ганка, услухаўся ў заціш на вёсцы і апусціўся на парог.

У канцы двара шарэўся хлеў, зачынены на клямку. Светла, і чорная клямка добра відна здалёку. Можна ўгледзець і шчыліны ў дзвярах між дошчак — цёмныя палосы.

Плота ад поля не відаць: ён схаваўся ў дзядах і шчавуне. За імі буяў бульбоўнік позняй калгаснай бульбы «сібіркі».

Ціха, без ветру. Неба на ўсходзе цёмнае, зліваецца з лесам. Толькі ў адным месцы ўсталі два белыя нешырокія слупы,— там пазней хлыне зара.

Уверсе, над дваром, неба празрыстае, светлае. Паблякла ад месяца Вялікая Мядзведзіца. Яе цяжка было б знайсці, каб не помнілася, што такой парою яна паказвае рогам якраз на тын, што ля хлява ад вуліцы.

На месяц наплываюць доўгія белыя палосы. Іх нехта валачэ з захаду на ўвесь край неба. Над хатай яны кудзеляцца, расплываюцца, як белыя гусі на віры, а туды, на гумны і сад,— яны — доўгія і роўныя, як расцягнутае палатно.

На двары раса. Свежа. Пахнуць з гародчыка агуркі і спелая каляндра. Зацвіла позняя сёлета вяргіня, і яе галоўкі-кветкі чарнеюць над частаколам.

За плечы лезе холад. Цягне на сон. Ные рука, бярэ сверб,— быццам нехта круціць яе свярдзёлкам ля локця. Шчыміць барада, дзе збіў скуру. Памацаць пальцамі,— здаецца, прыгаілася. Але ж не паказвацца такому ноччу ў хату.

Дзверы ў хлеў адчыніліся яшчэ цяжэй. Яны як прыстылі, і іх трэба было аддзерці. Добра, што да сена была прыстаўлена хоць пакалечаная драбінка ад калёс. Леанід падняўся па ёй — зашумела і затрашчала падыспадам іржышча, якім быў закіданы мурог з аселіцы. Услухаўся. Нешта ў сене запішчала, манатонна, прыкра, просячыся на волю. Памроілася — гудуць машыны. Страсянула. Ён

апусціўся ніжэй. Зноў зашапацела салома і піснула не то птушка, не то прыбітая мыш. Ісці ў хату? Не. Ніякай халеры тут няма. Леанід прытрымаў хворую руку, узлез на сена і пачаў вобмацкам выбіраць, дзе зручней прымасціцца.

Сена стаяла ворахам. Ля сцяны, ён праваліўся ў яміну аж па пояс; там і застаўся, прылёг, адсунуўшы ад вачэй калючую салому, сцішыўся. Унізе, пад плячмі, доўга трашчала, злягаючыся, іржышча. Лускала, як, бывае, лускае ўвосень струкамі на полі пераспелы, сухі лубін.

Іржышча нарэшце аблегла, і стала ціха. Пасля заныла муха. Гэта яна ратавалася, трапіўшы ў павуцінне-пастку, і не пад саломай, а пад самай страхой, угары,— чула сваю блізкую пагібель.

Закудахталі за тынам куры, спалохана, трывожна. Заціўкалі вераб'і: ім не давалі спаць у леташнім ластаўчыным гняздзе.

Пахла дурнап'янам, васількамі і ўсякай гавылой, што расце на гумнішчах. Праз шчыліны ў драніцы цадзілася блеклае святло, шукала твар; прыйшлося абараніцца жменяй сена.

Заплюшчыліся на хвіліну вочы,— і зноў зараўлі машыны. Заляпалі жалезам па каменні і выбоях. Леанід усхапіўся, адкінуў ад сябе сена. З фермы некуды памчаў калгасны «газік». З вуліцы прынесла густы бензінавы гар з пылам. Запяршыла ў горле.

Леанід зашыўся глыбей у сена. Доўга яшчэ ўвушшу раўлі маторы. Пасля на ўсю моц зазумкала муха, шаснула ў сена ля самай галавы,— і ўсё сціхла.

...Леанід не паказваўся нікому на вочы ў вёсцы. Заклейваў паперай бараду, змочваў у настойцы мяккую анучку і перавязваў локаць,— аж да касці аб брук збіў яго, і цяпер ён аніяк не хацеў гаіцца. Загніўся і пачаў цячы. А Леанід упарта не ішоў у амбулаторыю: ён жа супакоіў тады раніцай маці, вылезшы з хлява, што сур'ёзнага нічога няма.

Але ўчора надвячоркам, калі на двары на агні гатавалася ў гаршчочку маладая бульба на вячэру, Леанід узабраўся ля студні на плот і стаў пагойдвацца, гледзячы ў агонь і думаючы, што хутка ўжо канец канікулам-практыцы, бо вунь якія ўжо ладныя жалуды на дубе. Якраз як летась перад ад'ездам.

— Лёня!.. Ганяй коз. Цяпер і козы чытаць навучыліся. Газеты рвуць... Вунь пошта ў варотах тырчыць...—

гэта ішла з гароду маці з ахапкам кропу: гуркі збіралася сёння пасаліць.

Леанід гушкануўся, каб саскочыць, і апамятаўся на зямлі. Нехта як сякерай сакануў па локці; падаючы, Леанід абапёрся на яго. Стала горача і млосна. Па пальцах цякла кроў. Ён падняўся і, сцяўшы зубы, разагнуў руку. Стаяў як укопаны, не ведаў, што рабіць; кроў капала на жвір. Пасля пачаў сцягваць з сябе кашулю. За гэтым яго застала маці і пачала гнаць у бальніцу. Ён абмыўся, апрануў чыстую сарочку, пайшоў да варот, узяў пад паху газеты, адлучыў «раёнку» і пачаў чытаць. Маці накінулася зноў. Ён сказаў тады, што нікуды сёння не кранецца людзей трывожыць, бо позна; вось газеты прынеслі, у «раёнцы» ёсць яго фельетон пра Рамана Пэрца, а рука ўсё адно не загоіцца за ноч, заўтра можна схадзіць у бальніцу.

— Які гэта такі твой філітон у газеце выйшаў? — перапытала маці, і Леанід, прыткнуўшыся на калодачку ля агню, прачытаў ёй усё — з пачатку да канца.

— І падпісалі, як прасіў, і загаловак такі ж...

— А як падпісалі?

— Г. Леанідаў. Псеўданім, значыць. Гэта я. Леанід Гаўрылаў. А перакручана, каб не кожны дайшоў.

Яна лавіла спачатку толькі пятае праз дзесятае, думаючы ўвесь час, што цяпер Пэрац нідзе не дасць праходу.

...«Пляснівы грыб — Раманка.

— Раманка, сыночак... Ідзі есцікі, астынець жа,— прасіла Ганулька, калі сын на ўсю сілу крычаў на ложку.

— Не пайду — і ўсё!.. Ідзі к чорту, старая!

— Чаму ж не пойдзеш... Я ж старалася. Яечка...— надступалася Ганулька да ложка.

— У школу, сказаў, не пайду — і ўсё! Крышка!

— Раманка, сыночак... Я цябе «дзеды-бабы» аж за мост занясу. Ідзі, сынок. Усе ж ходзяць.

І яна несла яго за мост да школы. Ён скавытаў і брыкаўся за плячыма.

Такім макарам ён хадзіў аж у чацвёрты клас.

...Мінаюць гады — сталеюць капрызы. Хлопец падрос; вяртаўся дадому з вечарынак п'янюсенькі і вёў да сябе паіць усю вёску.

...А было, як ён бушаваў на вяселлі. За маршалка ж сядзеў. Уміг перавярнуў сталы і пагнаў людзей на вуліцу. Вырваўся і сам, што раз'юшаны бугай. Азірнуўся — старэйшыя схінуліся. Заскрыгатаў зубамі, ухапіў з дрывотні

палена і ўлёг за дзяўчатамі, разганяючы тых па задворках. Убачыўшы, што ніхто лба не падстаўляе, ён пайшоў на хітрасць.

Кінуў палена, жыўцом распаласаваў на грудзях сарочку і пусціўся да ракі.

Стаяла восень. На дварэ браўся мароз.

— А-вай... Ратуйце!.. Утопіцца... Захлынецца...

Скруцілі яго, калі ён змогся і скрывавіў не аднаго.

Такім Раманку ведае ўся вёска... Цяпер ён пасталеў. Зусім мужчына. І гарэлкі бярэ больш.

— Напляваць мне на ўсіх! Я цяпер не той. Пабачыў, нагледзеўся (на торф быў завербаваўся на шэсць месяцаў!),— выхваляўся ён, калі адбірала галаву.— У мяне, можа, тры жонкі былі: у Смалявічах, у Мінску і яшчэ... Я знаю дзе! А тут халасты... Самагонкі!

У тую нядзелю ён уваліўся на калгасную вечарынку. Набраўся, як верабей вады: кумам быў на хрэсьбінах (важная асоба!).

— Бар-р-рыню! Мне! — загарлапаніў на ўсю хату.— Музыка калгасны — дармовы!

— Сядзь! Пятнаццаць сутак захацеў? — пераступіў яму хату Аркадзь Дышлевіч.

— А-а... Ты так!..— ён схапіў Аркадзя загрудкі і замахнуўся.

Яго скруцілі і выцяглі на двор.

— Мне грозяць такія... С-сукі! — і ён у абедзве рукі рвануў частаколіну.

Як на агонь, усе кінуліся на яго.

— Шчаняты! Пешкі! Адпомшчу!

Цяпер Раманку пераваліла за дваццаць. Працуе ён за прычапнога і хоча, каб яго звалі Аляксандравічам. Але яго клічуць Раманка — пляснівы грыб...»

— І ты гэта сам саставіў такую стацейку на Пэрца? Дай сюды газету! — перабіла яго маці і падступілася бліжай.

— Сам. А што? Такое ж было,— прыціх Леанід.

«І нашто чытаў. Хай бы маці лепш ад людзей пачула».

— Што ж гэта будзе, Лёнька? — у яе вачах ажыў ранейшы страх і клопат.— Ён жа цяпер заб'е, падзямельнік той...

— Нічога не будзе. Ніхто нікога не заб'е...— падняўся ён з калодачкі.

Маці скамечыла газету і шпурнула ў агонь:

— Каб і вочы не відзелі, і вушы не чулі.

...Каму даводзілася бачыць, як вылазіць з зямлі пчала? Спачатку яе не відно, толькі чуецца ціхенька мц... мц... мц... Пасля з'явіцца галоўка, і вось пчолка раптам зазвініць-зайграе, закружыцца, затрымціць ля выгладжанай норкі і, як тая страла, чыркне ў паветра. Здаецца, канцы ёй, прапала... А міне час, яна зноў заплача над норкай, хуценька і асцярожна хаваючыся з воч. І адразу пазнаеш — гэта тая! Тая пчолка, што сіганула была ў белы свет.

Так і Леанід пазнаў Галіну, калі раніцай, роўна ў дзевяць, адчыніў дзверы ў амбулаторыю. Пазнаў і паверыў. Ці не ўспомніла і яна яго, бо спалохана прывіталася, вочы яе зрабіліся вялікія, пасля акінулі яго з галавы да ног і заміргалі хутка-хутка. Ён не адыходзіў ад парога, а яна тапталася нечага ля двух маленькіх столікаў, уся ў белым, начырванелая з твару, і нічога не гаварыла.

Нарэшце яны зразумелі, што хоць і адны ў пакоі, але тут не месца для іншых размоў, і самі пайшлі насустрач адно аднаму. Ён адышоўся ад парога, паказаў здаровай рукой на твар, пакратаў за бараду і закасаў рукаў на хворай руцэ. Яна зацягнула тужэй на галаве кавалак марлі, перанесла з аднаго століка на другі, бліжэй да Леаніда, бінт, жмуток ваты, маленькую бутэлечку ці не з ёдам, падсунула на край шчыпчыкі, пераставіла з акна спіртоўку. Разняла шпрыц, пачакала і пачала мыць спіртам рукі.

Адчыніліся дзверы, зайшла ўрач Барысаўна, як яе ўсе звалі па вёсках, высокая і тонкая, незамужняя жанчына год за трыццаць, цёмнавалосая, цямнейшая з твару за Галіну. Прывіталася сур'ёзна, сказала нешта па-латыні, Леанід не зразумеў што, забрала сваю тоўстую сумку-партфель і выйшла. Леанід зірнуў услед ёй у акно. На вуліцы ўнурыўся бальнічны конь. Значыць, выезд з самай раніцы. Барысаўна любіла раз'езды.

Галіна яшчэ больш збянтэжылася, быццам урач магла ведаць, што гэта тут за хлопец.

Леанід апусціў галаву і маўчаў. Чаго ён не чакаў, дык не чакаў... Чуў, што новая акушэрка прыехала і ходзіць ужо з настаўнікам, але ж не ведаў, хто гэта.

Галіна сказала сесці, наблізілася да яго, асцярожна ўзяла за галаву, павярнула. Ён рашыўся быў зірнуць ёй у вочы, але яна глядзела яму на бараду, і ён убачыў толькі вейкі і радзімку на правай шчацэ ля вока, якой раней, можа, і не было. Твар яе пакруглеў, памажнела шыя,— дзяўчына пасталела.

Яна пачала з барады. Атрымалася ў яе спрытна і хут-

ка. Спачатку прамыла струп, пасля прысыпала і наклала пластыр. З локцем валаводзілася даўжэй; моршчылася і жмурылася. Два разы паварочвала яго да акна на святло. Рука апухла і пасінела. Галіна зрабіла ўкол вышэй локця,— Леанід не ўчуў болю,— убінтавала. І ўсё моўчкі, не гледзячы на яго. Пасля адышлася і стала ля акна,— маўляў, можаш ісці сабе памаленьку. А сама ўтаропілася ў падваконне — і ўсё.

Ён устаў і ступіў да парога. Узяўся за клямку. Тут яны сустрэліся вачыма другі раз. У яе позірку было недаўменне, цікавасць і прага ведаць пра ўсё, але гэта хавалася недзе за насцярогай і баязлівасцю.

— Дзякую. Цяпер веру, што застануся жыць...— ён памаўчаў і дадаў: — Вечарам у дзевяць ля моста я вас убачу?.. Яшчэ не цёмна будзе, не бойцеся...— Пасля асцярожна скрыпнуў дзвярыма і выйшаў. Каб не паказацца ў акно, падаўся на гароды, пад гумны: тут бліжэй дадому.

«Ён. Але як змяніўся голас. Хаця даўно тое было. І чаго я атарапела? І што з ім? Як гэта ён? Дзе? Значыць, ён тады пра Грыні расказваў. І як яго завуць, не спытала. Каго ж у кнігу запісаць? І рука ў яго такая хворая. Валасы ўсё тыя ж. Густыя і чорныя. Ускудлачыліся, няма як, відаць, расчэсваць. І што ён сказаў напасля? І ці меў права?»

Колькі думак можа абудзіць часам адно толькі з'яўленне чалавека...

Галіна не магла спакойна аглядаць бабулек, якія «з пасцілкамі ішлі на ферму на работу — жыта сушыць з камбайна» — і «зайшліся да дакторкі падлячыцца». І не хутка яны пойдуць. Мала памазаць «масцямі», а і з сабой трэба іх выпісаць ды расказаць, якія гэта «масці» і парашкі, «ад якой халеры», а ці «добрая» гэта хвароба, каб хаця не «паганая», «а калі, божачка, на яе канцы прыйдуць»,— і так з кожнай. А хацелася застацца адной.

— Добры вечар.

— А я вас сёння адразу пазнала. Добры вечар.

— Вы былі здзівіліся, што я калека стаў? Ноччу з тыдзень назад з качаргой не размінуўся. Давайце сыдзем куды з моста, калі вы нічога не маеце...

— Пабудзем на вуліцы. Я яшчэ не ўсё тут ведаю.

— Калі з такім калекам зручна...

— Плецяце пустое. Я ж медык. А па-другое, каго асцерагацца? Маці тваёй, Гаўрылíхі?

— Вы знаёмы?
— Не. Вы пазнаёмілі мяне,— у голасе яе дакор.
— Ці не тады, як вы былі збеглі? Я думаў, назаўсёды прапалі...
Яны ішлі вуліцай, і Галіна аж спынілася, відаць, ёй закарцела сказаць нешта злоснае, ды ўсюль людзі, павыходзілі на лавачкі, ловяць кожнае слова.
— А я тады ўзлаваўся на вас.
— А чаго? Добра ведаю, праветрыцца выйшлі пасля канспектаў і зачапілі першую...
— Угадалі. Толькі не ад канспектаў. Тэзісы лекцыі рыхтаваў. Супроць бога і алкаголю. Сёлета практыка апроч канікул, часу шмат, а лекцыі...
— Супроць Джвучкі і Выжлятніка, выходзіць, ваюеце. Яны ў вас багі! І гоняць і пераганяюць. Чаго не робяць! І не адны.
— Джвучку хіба лекцыяй перавыхаваеш? Чакай, пакуль прыйдзе. Ды многія так.
— А як жа?..— яна не дагаварыла, задумалася.
— А я хоць і пяці чалавекам чытаць буду. Ад «а» да «я». Затое на каханні душу адвяду... Гэта слухаць ідуць.
— А-а-а... Значыць, на каханні душу адводзіце? А супроць перажыткаў між іншым чытаеце? Для ідэйнасці?
— Чакайце. Не трэба. А калі на тое пайшло, то і каханне бывае ідэйнае і безыдэйнае.
— Цікава-а... Што гэта за ідэйнае каханне і што гэта за безыдэйнае? — яна аж засмяялася.
— А спытайце ў Васіля Міронавіча...
Яе як варам абліло. Але яна змоўчала. Зазлавала. Гатова была вось-вось шмыгнуць на любы падворак.
— Я выйшла да вас, шаноўны філосаф, не для таго, каб цярпець абразы...— не ўтрывала яна нарэшце. У голасе было столькі смутку і крыўды, што Леанід тут жа ўзяў яе пад руку:
— Я не хацеў пакрыўдзіць. Гэта, калі хочаце ведаць...
— Не трэба. Сама захацела. Першая пачала. А прабачэнні пакіньце для Васіля Міронавіча.
— Не пакрыўдзіцца... Мы разам у сямігодцы за адной партай штаны праціралі. Ён добры мой сябра і вялікі цюхцяй.
— А вам не хапае культуры. Дзе вы займаецеся, я так і не зразумею. На філасофскім?
— Скажу-скажу... О-о-о... Вы і не ведаеце? Філасофскага аддзялення ў нашым універсітэце няма. Закрылі. Фі-

лосафаў цяпер шмат. Пераводзіліся ў нас куды хто. У асноўным на гістарычны падаваліся.

— Вы гісторык? Не падобна.

— Ні ў якім разе. Журналіст.

— Я так і падумала... Пісьменнік, значыць.

— Ні ў якім разе. Не блытайце. Вялікая розніца. І падаўся я на журналістыку не толькі, каб змяніць профіль. Я даўно пра яе думаў. А тут выпадак зручны.

Яна паглядзела на яго:

— Значыць, з вас філосаф не выйшаў бы? Самі кажаце? Сціпласць і ў наш век упрыгожвае чалавека... Ну вось, і дазналася я пра вас нарэшце.

Яны доўга маўчалі. Яму даводзілася вітацца з кожным сустрэчным. Яна не стрывала:

— Дрэнна, калі шмат знаёмых. Яны адбіраюць субяседніка. Усе так раскланьваюцца, што...

— Гэта што вы пабач. У нашай вёсцы здароўкаюцца толькі з чужымі.

— Тады, можа, мне і не радніцца тут?

— Дарэчы, як вы ўладкаваліся? Не сумуеце?

— Галіна не сумуе ніколі. А вы і не ведаеце, што мяне так завуць?

— Новы чалавек у вёсцы — белая птушка. Назаўтра ж на яе ўсе паглядзяць, да аднаго. А Пракурорыха расплявузгае кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму пра ўсё. Вас яна хваліць. З яе лёгкай рукі вас усе на вёсцы завуць толькі Галінай Фёдараўнай.

— Гэта нецікава. Дробязь.

Маўчалі зноў доўга.

Цямнелася. Моракі клаліся на пыльны брук, на гароды, хавалі далёкія гумны. Хаты зырка свяцілі агнямі, бы знарок гаспадары павешалі лямпачкі бліжэй да акон ад вуліцы. На святло пырхалі матылькі, іх безліч, нібы хто з рукава сыпаў. Ляпалі вароты, бразджалі вёдры ля студні, гаманілі жанчыны. Кашлялі на прызбах дзяды, ганяючы камароў дымам.

Людзям хацелася адпачыць пасля дня, яны пацягваліся, седзячы, не хавалі пазяхоты, але спаць не ішлі: цёплы і ціхі вечар, густы водар гародаў і гумнаў быў свежы, можа, больш, як калі, і цешыў душу чалавека прыдбалым за лета багаццем. І калі, можа, хто пацепваўся ад начной свежасці, то не спяшаўся ў хату пад коўдру, а расчыняў дзверы ў пуню насцеж, доўга таптаўся яшчэ па двары; па-

сля запічапляўся ў пуні па кручок, залазіў аж на самы верх сцірты ды зарываўся ў пахучае сена.

— Ну цяпер бабам гутаркі на цэлы дзень... Я ж тут ні да кога не заляцаўся. Ніколі. Лічыце, што ў Гаўрыліхі ўжо ёсць нявестка...

— Значыць, дзеля мяне вы рыскнулі?

Ён не адказаў, і далей гутарка зусім не клеілася. Пайшлі павольней. Думалі кожны пра сваё.

Паказалася бальніца, цёмная ад вуліцы. Толькі ў акне ад гародаў жаўцела праз фіранку святло.

Тут, у завулку, вісела густая ціша. Насупраць бальніцы, дзе жыў Васіль Міронавіч, на двары было цёмна і пуста. Хутка яны ўгледзелі самога Васіля. Ён стаяў, абапёршыся на частакол, там, дзе буяла дзікая ружа. Не ўбачыў бы іх, каб не загаманіў Леанід.

— Добры вечар... — Васіль Міронавіч павярнуўся і дадаў: — Галіна Фёдараўна.

Леаніда ён нібы не заўважыў, і той адразу ж узяўся за яго.

— Што, Васіль, занядужаў? І лечышся, гледзячы на светлае акенца? Зайшоў бы з гароду. Але ад гэтага не паправішся. Трымаўся б бліжэй да мяне. Я з медыцынай заўсёды і хаджу і езджу... — паказаў ён на хворую руку.

— Хто скалечыўся, той без медыцыны жыць не можа...

— Яшчэ невядома, каму без медыцыны дыхаць цяжка...

— Думаю, што я вам абоім аднолькава патрэбна... — Галіне пачыналі брыдаць іхнія недарэчныя жарты.— Леанід, мы, здаецца, жывём побач...

— Ну, гэта, як Васіль Міронавіч дазволіць пайсці. Ён жа захоча паразважаць, бо сумна вось так склець вясковаму інтэлігенту. Марыш, спрачаешся з сабою, абапёршыся на плот, а не на філасофскую думку сябра, скажам...

Зноў пачыналіся кпіны і, відаць, пайшлі б далёка, але раптам недзе затрашчала частаколіна. У цемнаце нікога не было відаць. Тут якраз быў прагон, за ім, ад бальніцы, пачынаўся другі канец Грынёў. Тут недалёка і масток. На ім загрукатала, відаць, нехта прабег. Пасля бліснула папяроса, і даляцела:

— Вунь ён, пісака!.. Яго ўжо абязвечыў нехта... Зануда негабляваная!..— зароў нехта сіпаты. Вёска вялікая, дзе ты знянацку разбярэш, хто.— Заходзь гародамі... Я сам з ім...

— Ды ну іх... Тут яны нідзе не дзенуцца...

Насустрач ім хтосьці бег.

— Пэрац, мусіць. П'янюсенькі. Нарабіў фельетон... — Васіль Міронавіч выцягнуўся, бы хацеў хутчэй угледзець, хто гэта.— Сюды нясе нялёгкая. Ён не адзін...

— Няхай. Заробіць... — Леанід хацеў быць спакойны, ды не мог. Балючая рука... З такою нічога не зробіш...

— Які фельетон? — Галіна яшчэ не ведала, але здагадалася, што нехта з іх двух дабраўся да Пэрца. Успомніўся ўчарашні вечар.— А-а-а!.. — Яна рванулася з месца ў цемру і нос у нос сутыкнулася з Пэрцам якраз на мастку. Пэрац соп часта-часта і ледзь трымаўся на нагах.

— Што, не астыў яшчэ ад учарашняга? Ану давай сюды нож, чуеш? Давай нож! — Яна працягнула руку.

Пэрац такога не чакаў. Стаяў, мармычучы, нічога, відаць, спачатку не мог уцяміць, пасля крутнуўся і знік у тым баку, дзе расплываўся ў чарнаце будынак магазіна. Там затрашчалі платы.

— Цікава, яму ж ніхто не выйшаў на помач? А ён жа не адзін быў...— Галіна не разумела.

— А многа хто з нас рвануўся вам памагчы... — пакасіўся Леанід на Васіля Міронавіча.

Яны засмяяліся. Усе трое.

— Быў бы яго нож,— аднесла б разам з той хусцінкай участковаму. Заўтра ж...

— Нож як сабе хацелі б, а хусціну не раіў бы.

— Чаму? — Галіна не разумела.

— Нінчына...— прашаптаў Леанід.

— Нінчына? Ты падумай... Не паверыла б. Спытаю...

— Не варта.

Яны зноў пакінулі Васіля Міронавіча аднаго там, дзе і засталі.

Ён абапёрся на частакол, доўга думаў пра Галіну і не заўважаў, што ненадалёку ад яго, узлёгшыся на плот, курылі Выжлятнік і Джвучка.

## 6

Аркадзь глядзеў на акно. Там, у крапіве і канаторжніку, дзеці збіраліся гуляць у хованкі. Пастала ў круг пяцёра хлапчукоў, а дзяўчынка з жоўтым банцікам у валасах, Выжлятнікава, можа, дачка, стоячы аж па калені ў траве, спявала-пісклявіла:

— Ішоў сабака цераз мост — чатыры лапы, пяты хвост!

Каму даводзіўся «хвост!» — настаўлены пальчык у грудзі,— той пакідаў круг — выходзіў.

«Бесклапотны занятак... Як ужо далёка да тых гуляў...» — Аркадзь задумаўся.

— Я,мілы, паклікаў цябе, каб абмазгаваць разам. Пaмажы, брат, абладзіць. Я, мілы, ад душы гавару... — чуе ён, як стараецца Выжлятнік, а думае пра сваё.

Нарэшце адрываецца ад акна. Вуліца ўцякае з воч, бы хто тузануў да сябе доўгі і шырокі шарачак, каб скруціць у трубу. У нос б'е едкі кіслы тытунь: дыму поўна хата, як зачыніць. У ім цяжка разгледзець, хто тырчыць за другім краем стала — Джвучка ці бярозавы пень. У куце, над самай галавой — абраз у старой самаробнай сасновай рамцы з лучын. Даўганосы аскетычны святы ў кучаравым парыку, з крыламі за плячыма, з мячом у руках застыў, насцярожыўся. Твар яго, заседжаны мухамі за шмат год, усё адно што ў рабаціннi. На акне — вазоны, пажоўклыя, абламаныя, адны дубцы; хто ведае калі палівалiся. Тут жа на лаве кот, мурласты, ангорскі; раздзімае на грудзях поўсць: сапе.

На стале стары, скамечаны абрус, абліты самагонкай і сырымі яйкамі: мокры. На сподку масла і ўкачаная ў соль крышаная цыбуля. Джвучка боўтаецца лыжкай у халадніку — ловіць агуркі; сёрбае праз зубы жыжку. Апаражнілі дзве бутэлькі гары, больш у Выжлятніка няма.

— Хаця ты нешта, хлопец, не любіш чарчыну... Не зачапіў, во. Я, мілы, прама скажу, дарма. Перакулілі б смела, га? За кумпанію... Ну як сабе маеш. Не змушаю. Толькі ж, як з табою вось гаварыць?

— А вы кажыце, чаго клікалі. Калі дзеля... — Аркадзь ткнуў у бутэльку,— то трэ было б пець адразу. Не крануўся б. Гаварыце, няма калі.

— Ну куды так маеш рупіцца? Сёння ж нядзеля... — разявіўся і Джвучка. Ён быў бадай нямы сведка, і сваёй абслюмачанай барадой і пазяхотай выклікаў агіду. Аркадзь не мог трываць.

— Я,мілы, прама скажу... Ведаеш, Аркаша,— Выжлятнік рэдка каго ў вёсцы нават са старэйшых далікаціў,— чаму ў мяне гаспадыні сёння няма? Не ведаеш. Лечыцца. З рукой. Мо тая з Краснага і паможа. Едуць жа да яе па ваду. Дае рады, кажуць...

— Ага... Ага... — выціснуў Джвучка, абціраючы бараду. Аркадзь адсунуўся ад яго.

— А гэтай я, мілы, прама скажу... Не дарую. Крыжам хай ляжа... З-за свету прыперлася пічаня і паскудзіць. Я цябе, як свайго чалавека, прашу памагчы. І ты паможаш,

ведаю. Я б да цябе сам прыйшоў у Закалюжжа, але так яно лепш. І ты ж не спецыяльна дзеля мяне прыехаў. Хаця, цяпер маладым што? У іх веласіпеды з маторчыкамі. Нагамі ўжо круціць лянуюцца, скажы ты...

— Ага... Ага... — выціраўся Джвучка, лапаючы сваёй бурай парэпанай рукой і за абвіслую губу, і за няголеную бараду, і за гарбатую пераносіцу.

Выжлятнік ніяк не рашаўся адкрыцца, усё ёрзаў па лаве, гладзіў, камячыў, перабіраў кароткія валосікі на пасівелай круглай галаве, моршчыў доўгі нос і варушыў здаравеннымі плячыма.

— Я, мілы, прама скажу. Я, мілы, не цярплю гэтых усякіх... — ён падняў руку і пакруціў пальцамі.— Я чалавек адкрыты. Скажы, мілы, ці годна гэта? — Ён хуценька адшпіліў на грудзях жоўты гузічак у кішэні і дастаў адтуль складзены ліст паперы са школьнага сшытка.— Мы тут з Джвучкам абмазгавалі. Але ж цяпер свет граматны, а мы не абы-куды думаем...

— Ага... Ага... — пазяхнуў Джвучка і засунуў свой валасаты кулак аж у рот.— Н-не аб-бы-куды...

— На, мілы, чытай! Хаця, дай, сам. А ты запамінай, дзе нелады. Ты ж такія пісаў, чыталі. Нават у «Калгаснай праўдзе» пра кукурузу тваё было. Таксама ж туды,— паказаў ён на паперыну.— Я тую газетку выпісваю. Там паверацъ мне. Дык слухай, мілы, павярніся сюды.

Джвучка, відаць, ведаў на памяць, што мелася чытацца, і палез з рукамі на стол. Як будзе на ўсё глядзець хлопец, яго не цікавіла. Ён верыў: тое, што абмазгаваў ён, пройдзе ўсюды, і нават добра не мог уцяміць, для чаго тут гэты хлопец, але такіх думак не рашыўся выказаць.

Аркадзь чуў, як ззаду сапе і шнырыць па стале Джвучка. Ён яшчэ далей адсунуўся ад яго і стаў слухаць Выжлятніка, які заліваўся потам, чытаючы сваю паперыну.

«В радакцыю «Калгаснай праўды».

За калецтва рукі пад сут.

Дваццаць восьмага гэтага года к-ца к-са «Шлях Леніна» Выжлятнік Вольга мая жонка, калі я касіў мыючы акно увагнала ў далонь правай рукі іголку і ў гэтую ж мінуту звярнулася за метдапамогай к фельшару нашай бальніцы ў Грынях Радзько Гэ. Фамілія праверана што прыехала нядаўна і была тады заместа нашай Барысаўны. Дык гэтая што прыехала ў гародзе са сваёй гаспадыняй Пракурорыхай палола грады, і па первай просьбі хворай і яе дачкі Тані не аказала ніякай помачы, і толькі пасля трэцяй просьбы

няхочучы пайшла ў бальніцу, але нічога не зрабіла а толькі параіла не спяшацца а назаўтра ж паехаць к хірургу у раён на папутнай машыне. К гэтаму сур'ёзнаму дзелу Радзько Гэ не прыдала ніякай увагі, таксама ні прыдала яе хворай і ў раённай райбальніцы дзяжурная сястра. Заместа абяцанага вызваць врача Чыжыкава раніцай вызвала к двум часам дня, які чатыры разы хадзів сам на рэнтгенаўскі прасвет з Вольчынай рукой, і пасля як узяв іголку на прасвеці ў абцугі дык і прывёў за яе хворую ў свой пакой, дзе яму удалося дастаць іголку, а что сталась з рукой хворай то Чыжыкав раскавырав усю далонь і абарвав нерф. Пасля такой аперацыі ладонь сшыв, на дзевяты дзень дома гэта самая Радзько Гэ зняла швы але і сёння тоісь дзесятага дзевятага Выжлятнік Вольга мая жонка прама скажу рукой не владзеіць. Даіць карову просіць к-цу Зялёнку Раіну, добра што тая не адказваецца і пальцы атрафіраваны. Ці ж гэта не самае падсудное дзела? Якія ж адносіны былі Чыжыкава з хворай раскавыраўшы ладонь і парваўшы нерф? Калі ён лічыць гэта хвароба лёгкая дык чаму жонка не владзеіць рукой. А калі б гэта было зроблена у час то іголка была б блізка, дык Чыжыкав не дастав яе после палтара сутак скора, а аж тры гадзіны рэзаў руку якую замарозіў на сонны наркоз каб хворая не чула. І калі ён стаіць гарой за Радзько Гэ якая ўжо некалькі разоў бесчалавечна адносіцца, напрыклад, да былога старшыні Дзедзіхі калі раджаўся сын закапрызнічала не ехаць упрашвалі ўсёй вёскай, дрэнна аказала метпомач к-цы «Шлях Леніна» Зялёнцы Раіне якая звярнулася з хворай шыяй, раз адказалася пайсці ў Закалюжжа а была з хлопцамі і тэ дэ. То ён сам тады бяздушны бюракратарскі ціп. Прашу рэдакцыю напічатаць мой мацер'ял в газеце і ніхай абшчэсвіннасць вырашыць па закону хто мае віну в калецтве рукі хворай к-цы Выжлятнік Вольгі, якая цяпер мусіць бегаць і плаціць шаптусе і ўсё праз тую. За напісаныя словы адказ нясу галавой мужык Выжлятнік Вольгі ляснік Выжлятнік Мэ Мэ. І не шкадуйце аддайце яе за калецтва рукі пад сут. А пальцы атрафіраваны можна прыслаць праверку».

Выжлятнік скончыў, і стала ціха. Аркадзь убачыў, што дрэмле Джвучка і стол усыпалі мухі. Лезуць у міску, поўзаюць па мокрым абрусе, звіняць, ліпнуць да твару.

— Калі ўсё складна, дык падпішыся і ты... Больш веры будзе.— Выжлятнік уставіўся вачыма і чакаў.— Вунь ручка, на вазонах.

Аркадзь не сказаў ні слова. Устаў з-за стала, узяў у Выжлятніка з рук спісаную паперыну, склаў у чатыры столкі і... жах! жах!.. паскубаў на дробныя палоскі. Не спяшаючыся выйшаў з хаты, завёў веласіпед, асядлаў памаленьку і толькі тады рвануў з месца, што было сілы.

— Во чорт, заразы кавалак... — Джвучка зусім і не спаў. Нагнуўшыся, ён пачаў збіраць акрамэскі паперы.— А што? Я табе гаварыў... Пазваў шчаня на сваю галаву.

— Маўчы, Джвук, бо... Ён гаварыў... Маўчаў, як... — Выжлятнік пад злосную руку гатовы быў накінуцца на Джвучку.— Ты і Пэрцу тады гаварыў...

## 7

Гарачыня спала толькі пад вечар. Сухі пыл уеўся за дзень у твар, укрыў плечы, набіўся за шыю. Нарэшце можна адсапнуцца і абмыць пот хоць збольшага.

На двары ў Тодара не было дзе павярнуцца за гусьмі: яны лезлі і лезлі пад ногі да дзежкі з вадой, што стаяла побач з калодачкай ля частакола, праз які з агародчыка вытыркаліся дудкі агрэсту з дробненькім лісцем і маленькімі зялёнымі яшчэ ягадамі.

Станіслаў Пракопавіч адмахваўся ад іх голымі рукамі, шыкаў і сцёбаў клятчатай кашуляй па частаколе — выбіваў пыл. Ля ганка, стоячы на маленькім зэдлічку, піла сырадой з невялічкай зялёнай кружачкі ўнучка старога Тодара і, гледзячы на палахлівага дзядзьку, заходзілася ад смеху.

— Алачка, падай дзядзьку мыла... — нарэшце клікнулі яе з хаты... — І не смейся лішняга. Адгані гусей ды палі яму на ручкі...

На двары было свежа, з гародчыку пахла кропам. Хацелася есці; нылі ў каленях ногі,— гэта ад доўгай хады за цэлы дзень.

Сонца ападала на далёкі рэдкі лес, ля Цянёў, што добра быў відаць з двара. Густое, пунсовае,— на яго можна было глядзець, не жмурачыся,— дзесь у тым баку вісеў туман. Над Ваўкаўнёй і Доўгімі балотамі ляжалі цяжкія воблакі — ад сонца бурыя, малінавыя. Недзе была навальніца...

— Дзядзька, давайце ручкі... Не глядзіце...

Маленькая Алачка чэрпала кружачкай ваду з вядра, што стаяла на калодачцы, ліла Станіславу Пракопавічу ў

прыгаршчы і скакала пасля на адной назе, смеючыся і закрываючы рукой вочы ад пырскаў.

Ад халоднай вады калола ў зубы, стыла ўгрэтае цела, рукі рабіліся цяжкія і крамяныя. Цягнула сесці, адпачыць. Забывалася на ўсё.

Неўзабаве з гарода з бульбянішча выйшаў з кошыкам Тодар. Паставіўшы яго на зэдліку ля сеначак, падышоў да вядра, зачэрпнуў кружачкай вады, памыў рукі, зняў з пляча ў старшыні ручнік, выцерся збольшага і ўскінуў яго на частакол.

— Вось і лазня, старшыня,— сказаў нарэшце.— Анця! — клікнуў на ўвесь двор.— Вазьмі ручнік, а то гусі сцягнуць. Хаця, дзяўчына прынясе. Ды пакладзі больш укропу ў бульбу. Вячэраць прыйдзем... — і, не чакаючы, падаўся да варот.

— Дзе брыгадзір?

— Я ж вам казаў ужо, старшыня. У Цянях з касцамі. Балота сёння дабіваюць. І так дацягнулі. Пойдзем. Чакаюць. Абыдземся і без яго. Як пасля вады? А-а-а... Пакупацца б цяпер добра... А то што з такой кружкі,— як з лейкі.

На ферме да іх далучыліся Авяр'ян з Ульянай.

Мінуўшы старую пуню, якую нядаўна накрылі новымі дошкамі і з якой пахла сенам і канюшынай, яны выйшлі на даўнейшую Мацяёнкаву сценку, што вяла да Лазы. Ішлі сцежкай ля самай пшаніцы.

На сцежцы рос трыпутнік, зялёны авёс і невялічкі лянок з дробненькімі блакітнымі кветкамі. Пад ногі траплялася каменне і кавалкі жалеза, відаць, ад плугоў: тут летась увосень стаялі трактары, калі карчавалі і аралі Лазу.

Пахла дурнап'янам і спелай пшаніцай, яна, позняя, але ў пару налітая, аж прыгнулася ад цяжару да зямлі; з дарогі патыхала мазутам і дзёгцем; з-за вёскі з выгану несла гарэлым торфам. Ён высах ад вясны, а недзе вось падаткнулі агню пастухі — і курыцца выган дзень і ноч ужо цэлы тыдзень.

З пшаніцы чародкамі ўзляталі вераб'і і рассыпаліся ў Лазе. Ад Лазы — адно званне. Яе выразалі і выкарчавалі яшчэ летась. Цяпер тут пшаніца, аж да самага Лажка, да лесу.

Цераз пшаніцу на Лажок была пратоптана сцежка.

— Свежая... — Тодар нагнуўся! — Відаць, не адзін тут прадыбаў, ногі б яму павыкручваць...

Рашылі ісці сцежкай, усё роўна прыбітую збажыну не падняць. Унізе ў баразнах сплялася падбярозка, тоўстая,

жылістая, як аборы,— не пацягнуць ног,— у самым цвеце: уся ў белых кветках-матыльках.

Выйшлі на Лажок на канюшынішча. Ішлі моўчкі. Не хацелі, можа, загадзя падымаць вэрхалу. Нашто. Ды, можа, яшчэ і няма там з-за чаго? Можа, праўда, толькі «ўстрыг» дзе хто трошкі, як казаў Тодар, і ўсё?

Пасля гарачага дня стаяў халадок. У паветры мітусілася машка; яе тут, як хто насыпаў, не дыхнуць. Калі глядзець на сонца, здавалася, у вочы пырскаюць дробненькія іскрачкі з вялікага нагрэтага прыску.

Пад нагамі шапацелі падсохлыя чырвоныя галоўкі канюшыны, шуршала жоўтая папараць і маладзенькія дубкі.

— Нехта і тут стрыг... Глядзіце,— Тодар спыніўся і паказаў рукою ў канец Мацяёнкавай сценкі на расцяроб.— Несамнога. Пласты са два.

— Не справіўся забраць у пасцілку.

— Ты глядзі, упёрся і тут... На вачах, ля самай дарогі.

Загаварылі праўленцы. Тодар змераў іх хітрым вокам і падаўся Лажком ля пшаніцы. Значыла — ідзіце за мной, убачыце не тое. Пазнаеце, чаму я ўзняў шум. Думаеце, вас так і збаяліся, што вы запратаколілі ў паперах нешта грознае...

На пасецы за Лажком раптам пачуўся выбух. Сухі, рэзкі, ён разлёгся па лесе. Доўга не сціхала рэха.

— З халадком і хімгасцы ўзяліся. Відаць, днём яны і не паказваюцца ў лес. Такая гарачыня ў канцы лета... Смала з карчоў недзе капае. Ну і грукаюць. Чуеш, Авяр'ян, усё роўна як міны дзе рвуцца... Помніш, калі мы адыходзілі пасекай у Цяні ў апошнюю блакаду? Якраз тым месцам...

Дзед Тодар падняў плечы і, здавалася, пажвавеў на вачах, пайшоў баразною роўна і проста.

Станіслаў Пракопавіч думаў сваё, гледзячы на сядзібы, што па другі канец вёскі, дзе на конях хлопцы акучвалі другі раз познюю бульбу. Нехта там прарэзліва свістаў і ляпаў у жалеза, відаць, прастаў загнуты аб камень нарог.

— Паслалі дзяцей вадзіць коней... Дык яны конна ўсе да аднаго... — нарэшце адгукаецца ён.

— Растуць... Нічога не скажаш. З малых год апасаюцца босай нагой на раллю ступіць... — Ульяна паправіла закручаныя ў вузел русыя валасы, перакінула хустку з аднаго пляча на другое.— «І нашто было браць, хіба мошак ганяць, каб у вочы не лезлі. І дзе ён, той «стрыгун», дзеля якога трэба перціся пасля жніва ў гэтыя Лозы? І чаго ўсім праўленнем? Маглі б і без яе. У яе ж работа ў хаце.

Вячэру хлопцу строіць трэба. Але старшыня сказаў як адрэзаў: «Усе пойдзем. На месцы адразу рашаць будзем». Мошка лезе ў вочы, і Ульяна яшчэ горай пачынае злавацъ: «Паскудства ўсякае жыць не дае. Не дыхнеш свабодна за ім».

На пакосы яны наткнуліся знянацку. Без Тодара, праўда, сюды, мусіць, не трапілі б.

Там, дзе ў глухім зашыйку пачыналася лінія-расцяроб і вяла праз альшэўнік на пасеку пад Асіпаўскае, ля старой яловай вываратні стаялі дзве нізенькія доўгія капы сіўцу. Ад белай выкашанай прагаліны аж сюды на ржышча цягнуліся крывыя свежыя зялёныя пракосы. Між імі тырчаў збляэчаны сівец і дзяцельніца. Чалавек, відаць, спяшаўся. Не глядзеў надта за тым, што робіць.

У Закалюжжы сёння пачалі жаць у Лазе пшаніцу. Ад лесу паставілі жней. Камбайн сюды не дойдзе па каменні, жняярка можа паламаць крылле аб карчы, што засталіся яшчэ тырчаць на полі, аж пакуль не згніюць. Гэтым месцам ад логу нехта жаў, не згінаючыся. Відаць дзеля чаго: ззаду адразу пайшла каса.

— А дзе ж ён? — спытаўся моцна Станіслаў Пракопавіч — аж на пасецы было адгукнулася рэха.

Ніхто не адклікаўся.

— Ён тут... Сам бачыў, як той ішоў, цікуючы...— Тодар падаўся да капы, што была складзена наспех і падпёрта збоку тонкім высокім абгарэлым пнём. Уткнуў руку ў сівец, выцягнуў з сярэдзіны добрую жменю: — Сырое. Спяшаецца касец.— Размахнуўшыся нагою, ён са злосцю ўдарыў старым кірзавым ботам па пні. Пень адскочыў, як кавалак палена з-пад сякеры. На скошаны дол пасыпалася жоўтая сухая трухліна, як пераспелая дзераза.— Падпёрся... Толькі твае падпоры даўно згнілі. На гнілі трымаешся, сукін сын...

— Дык што будзем рабіць, людзі?..— Авяр'ян апрануў пінжак, які нёс, перакінуўшы цераз руку, усю дарогу.— Ён даўно даў драла, стрыгун той. Бачыў жа нас здаля. Не будзем тады стаяць на полі. Падыду на ферму, запрагу каня. Адразу трэба было ехаць...

— Чакай, Авяр'ян... Чакай...— Тодар пачынаў злавацъ усё больш, відаць падумаўшы, што ягоны план зусім не ўдаўся. Застаць бы. Я яго, сукінага сына, самога ў аглоблі ўшчаміў бы. Я на ім грабільна паламаў бы, паганяючы...— Тодар выцягнуў з-пад капы граблі і замахнуўся...

Ульяна хацела пераняць старога за руку, але раптам заварушыўся і зашапацеў паджары куст пад'ядлоўца, і яна першая ўбачыла Рамана Пэрца. Усе прыціхлі ад неспадзеўкі, хоць і ведалі ўжо, хто тут такі.

Раман быў у адной выцвілай саколцы, у старых запэцканых ля трактара картовых штанах, у рваных брызентавых тапках на нямытую босую нагу. Спацеў увесь, у чорныя кучаравыя валасы яму набілася сіўцу і пацярушкі ад сухой рабінкі, што расла туды далей пад лес, дзе макрэй. У руках у яго была каса. Ступіўшы да Тодара, ён шпурнуў яе далёка ад сябе на ржышча і апусціў рукі ў кішэні:

— Ану ўшчамі, старлэбіна! Ушчамі! — ён падступіўся бліжэй, падняў уверх абслімачаную бараду і ўставіўся чырвонымі, відаць, п'янымі вачыма на дзеда Тодара.— Ану паламі! Паламі! Шкілет твой здохлы застанецца тут на пасецы! — ён дастаў з кішэні доўгі новы шэры брусок, размахнуўся і з усёй сілы пусціў яго недзе туды, дзе ляжала каса. Пасля плюнуў і сеў на траву. Соп і глядзеў у зямлю. Ад яго патыхала самагонкай. Цяпер ён зусім быў падобны на памаўзлівае дзіцё, якое грамадой злавілі нарэшце ў самым агародзе.

Праўленцы падышлі да яго, пастаялі, памаўчалі, не ведалі, з чаго пачаць.

Крычалі ля ракі за мостам гусі і дзеці. З вёскі ядрана была чуваць музыка. Відаць, у некага паставілі на падаконне радыёпрыёмнік і расчынілі акно. За Цянямі галёкалі калгасныя пастухі,— збіраліся пускацца са скацінай дадому.

Там, дзе сядзеў Пэрац, на Лажку быў вывернуты сівы пясок — стаялі дыба адкінутыя трактарам скібы. Па іх нехта свежа праехаў на калёсах.

— Колькі ўжо звёз? — Станіслаў Пракопавіч апусціўся на сухі дзёран ля Рамана.

— І ты, старшыня, збіраешся паламаць мне скабы?

— Не. Мы пагаварыць прыйшлі. Рашыць прыйшлі. І пакараць.

— А-а... Бачу. Усё праўленне стары прыцягнуў. Высачыў. Хоць я і не хаваўся. Абсалютна. Значыць, пагаварыць і пакараць? Ідзём тады ў капу. Сядзем на сухое. Сівец сухі, гэта, стары, у цябе рукі ад злосці былі спацелі. Ці, можа, табе на старасці заўсёды сыра жывецца?

— Ты не абражай... Хочаш паказаць, што ўмееш? Малады мы яшчэ з табой так гаварыць з чалавекам...— Станіслаў Пракопавіч устаў і падышоў бліжэй да Рамана.

— Праўда, старшыня. Не буду. Ды я да яго нічога не маю. Проста чалавек захацеў выслужыцца перад калгасным начальствам...

— Ён жа сам член праўлення, што, не знаеш?

— Начальнік, значыць? Тодар? Хі-хі...

Падышлі да капы. Селі ў сена толькі Пэрац са старшынёй.

— Дык колькі звёз?

— Нічога я не звёз. Вы ж — старшыня; і вока павінны мець гаспадарскае. На вока прыкіньце. Два касільны туды, два сюды. Дзве капы. Больш тут не наскубеш. Ды і не сабе гэта... У мяне працадні. Мне дадуць. Што, можа, у мяне за маё прычапное лета менш зароблена, як у вашага праўленца Тодара?

— Слухай, Раман. Каго ты тут з сябе корчыш? Распусціў язык, сербануўшы. Многа на свае гады бярэш. Не хочаш па-добраму...

— Ну-у... Дзядзька Авяр'ян. Не будзем мы адзін аднаго страшыць. Помніце, як вы былі ў партызанах і я ў вас з сумкі патроны выцягнуў? Помніце, як вы мне дзягі далі? Забыліся? А я помню. Запомніў.

— Мала білі... Нябіты рос...

Раман бы не пачуў, што сказаў Тодар.

— Тады адлупілі, а цяпер не дасцё рады... Не-е... Так што не будзем палохаць адзін другога. Слухай, старшыня. Знаю я, чаго вы ўсе прыйшлі. Цяпер у вас усё стала строга. Але ж не да таго прыйшлі. Да Раіны, вунь. Чулі? Сам павяду, як Тодар вас да мяне прывёў. Або да Волечкі. Хто тут ад логу жаў? Яны. Хто касы не можа ў руках трымаць? Яны. А мне што? Сёння раніцай, пакуль на трактар бегчы, размiначку зрабіў, аж на пшонішча ўзлез. І рукам здорава, і душа разгавелася. А чым бабы кароў карміць стануць, працаднёў не меўшы? Самі знаеце... Зіма вялікая... Ды і мне жыць трэба...

— Ціць!..

— Слухай, Тодар, тваё жыццё было ўсё сухое... Як сівец у капе, дапусцім. Ну а ў мяне, можа, макрэйшае трохі?..

— Раман... Жыццё ты не чапай. Хіба мы табе за работу не заплацілі?..

— Старшыня... Грошы, яны і на штаны трэба. Я ж сказаў, я жыць хачу. А тут махнуў касой і... Ну і што, калі я люблю выпіць? Я зарабляю. З мазаля п'ю. А за гэту бугрыну можаце штрафаваць Раіну, а не мяне. Мяне прывялі і мне паказалі. Нябось, Раіны не бачаць. Бабу вунь коль-

кі бамбілі за самагонку... А што? У дом прыстарэлых хіба заберане яе? Не паедзе, ёй тут рай... А яна не скупая... Аж з Грынёў прыперла сюды, што трэба.

— Раман. Мы не пра тваю Раіну слухаць сюды прыйшлі...— Ульяна падышла да капы, нагнулася над Пэрцам,— ты самаўпраўнік. Забяром сена і будзем штрафаваць цябе. А Раіну ведаем і без тваёй указкі. Пра жыццё заныў... Слова старэйшаму не дасць сказаць. Хто вінават, што ў цябе горла крынічнае... Мы да цябе па-людску прыйшлі. Ніхто не збіраўся табе скабы ламаць, хоць і варта было б. А ты нават віны за сабой не чуеш. Аштрафаваць то мы цябе аштрафуем, тут ужо не выкруцішся, а ступіш яшчэ раз на сенакос,— інакш пагаворым. Гэты лог мы на працадні дзяліць будзем. А ты колькі зглуміў... Абмераем, а станем дзяліць,— утрымаем, што трэба.

— Штрафаваць, штрафаваць... Утрымаем...— Раман неяк раптам абмяк. Выцягнуў з капы доўгую травіну і панёс у рот.— І вы, цётка, на мяне. Заступіліся б. Я ж не сабе. На трактары я раблю кожны дзень? Раблю. Іду. І не кіну. А тут лічы, што не ўдалося. Выжыву і без гэтага. Тут яно — рызыка. «Фіць» выйграў, «фіць» прайграў, як Выжлятнік кажа. Мяне ўжо ўбачылі з Раінай. Ёсць рыба і з большымі зубамі... Шчупак! І разяўляецца не на гэткае... Іржышча не есць...— Раман раптам засмяяўся і ўстаў з капы. Абтрос са штаноў сівец, пацягнуўся, пазяхнуў,— пайду, начальства, спаць. Заўтра рана на трактар. Скажаш, цётка, свайму Аркадзю, каб прыйшоў разбудзіў. У хляве сплю, па сене...

— Не выскаляйся, хлопец, калі людзі з табой гавораць... І я табе не раўня. Роўную знайшоў.

— Першы раз на такога натрапіў...— Станіслаў Пракопавіч устаў з капы і пачаў збіраць рукою з кашулі пацяруху. Невысокі на рост, трохі вышэйшы за Рамана Пэрца, толькі менш смуглы, чысцейшы з твару. І зусім малады. Пачырванеў, відаць, злаваў.

— А-а-а... Ты ж у нас новы. Прыйшлы, як Выжлятнік кажа. Не справіўся з усімі ўжыцца і азнаёміцца. З праўленцамі толькі. А можа, да Раіны махнём разам? У яе ёсць. Любая. І на ўсіх будзе. Бо цяпер нешта ў магазіне ў нас перабіўкі. Там, у Раіны, і пазнаёмімся бліжэй. Хаця ты мяне недзе павінен помніць. Ты ж быў сакратаром райкома камсамола і на маё персанальнае дзела прыязджаў, калі мяне выключалі. Помніш? Не? Ды дзе ты помніш. Я тады не прыйшоў, не з'явіўся на сваё персанальнае дзе-

ла. Абсалютна... Хаця, што я цябе да Раіны цягну. У тваіх руках калгас. Ты, дзе захочаш, дастанеш, як Дзедзіха... Той з раймага на луг машынай вазіў чыстую маскоўскую. За яе ў калгасе некалі і касілі... А калі я нейкай Раіне за чарку... Бачу, не пойдзеце... Га-га-га...

Раман адышоўся на загон, падняў з зямлі брусок і паляпаў па касе. Сухі звон разнёсся па кустах.— Бывайце здаровы, начальнікі. Забірайце сянцо, а не — прыходзьце да Раіны. Га-га-га...— ён закінуў касу на плячо, павярнуўся, недзе на хаду з баразны падняў пінжак і падаўся напрасткі цераз пшаніцу ў вёску.

Праўленцы загаварылі ўсе разам...

— Ну і чалавек... Яго толькі ў аглоблі ўшчаміць.

— Нічога. Абломім рогі. Не зважайце, старшыня, гэта стварэнне такое. Я яго ведаю. Да майго Аркадзя забягае штодзень. На трактары разам робяць.— Ульяна гаварыла, як маці, калі суцяшае сына. Ёй было прыкра, што старшыню на яе вачах абразіў п'яны Пэрац.— Не зважайце. Ён такі. Яго ў нас усе ведаюць. Было-было, а з'ездзіў на торф — завяршыла... Ды і рос ён самапасам.

Авяр'ян быў зусім спакойны. Закурыў і падаў папяросу дзеду Тодару:

— Ведаеш, старшыня... Няньчыцца не думаю.

— Больш з ім гаварыць па душах і я не буду. Заўтра ж саставім акт. Ён — калгаснік. І лог — калгасны, не мой. Дараваць не маем права.

— Во чарцё бязрогае... Мала, мала вы яму, старшыня, усыпалі... Гаворыце, як з роўным. Я б яму паказаў. З яго сем скур лупіць трэба...— Тодар падняў граблі і ўтыркнуў іх у зямлю ля капы.— Распусціў людзей Дзедзіха, раздурыў.

— Ён прыйдзе да мяне ў хату. Я яго яшчэ адчытаю. Адзін на адзін. Яго добрым словам не праймеш. Не разумее, адвык...— Ульяна махнула хусткай.— Пойдзем, у мяне мала часу, старшыня. Забегчы дамоў трэба, пакуль на Доўгія ісці. Сын галодны застанецца. Я думала адпрасіцца, не ісці далей з вамі. Спіна пасля жніва баліць. А цяпер пайду. Тут Пэрац не адзін. Не быў бы ён такі рызыкоўны. На мурог палезлі. Лучкі ўжо абкасілі... Звозіцца пачалі. «Рыба з большымі зубамі...» — перадражніла яна Пэрца і падалася першая да Лазы.— Пойдзем, людзі, вечарэе зусім...

— Слухай, Тодар. Ідзі на ферму, вось тут, цераз бульбянішча, бліжэй. Возьмеш у Волечкі кабылу. Забраць усё

са ржышча. І сырое. У пуню пад замок. Заўтра ў полудзень збяром брыгадны сход. Перадайце брыгадзіру.

Сонца садзілася за рэдкі ельнік на пасецы. Пацямнеў лес. У альшэўніку засівеўся туман.

Калі яны выйшлі з Лазы на Мацяёнкаву сценку, убачылі, як з фермы пагналі запрэжанага ў калёсы каня. Па дарозе на загуменні ўзняўся пыл. У вёсцы было ціха. Толькі ля моста, дзе начавала другі ўжо тыдзень балотная трактарная брыгада, ляпалі аб цыстэрну вёдры,— там, відаць, запраўлялі нанач трактары. З Ваўкаўні выскачыла машына і памчала ў вёску,— павезла грынёўскіх касцоў, што дакашвалі сёння Цяні — закалюжанскія балоты.

Праўленцы сценкай прыйшлі на ферму.

— Справіцца б хоць, пакуль месяц узыдзе... А так нас можна будзе аж з Пагурка ўгледзець. Давай, Платон, не ацялягвайся... Падай лейцы, паглядзі там ззаду, каб вяроўка не згубілася. Пад'едзем да той капешкі, а то ты будзеш цягаць яе на вілах да воза ўсю ноч... Ты прымі перш сена ў кабылы з-пад носа. Цэлы ахапак у гразь утопча... Галава...— Выжлятнік злавіў падкінутыя з зямлі лейцы і прысеў на калені сярод воза.

Пакуль даехалі па курганні да капы, што чарнела аж ля самай крыніцы ў альшэўніку, воз ззаду абсунуўся, прыйшлося яго пачынаць класці спачатку; Выжлятнік, вылаяўшыся, ссунуўся і, раскірэчыўшыся, стаў нагамі на ляжэйкі. Пакуль пераклалі воз, прайшло ладна часу. Платон зусім забегаўся і торкаў віламі куды папала: то ў грудзі, то ў калені Выжлятніку. Той абліваўся гарачым потам, соп і шыпеў, як вужака:

— Асцярож-жна... Прас-садзіш-ш...

Блізка за лесам на ўсходзе загарэлася зара і выплыў чырвоны месяц-поўня, хутка падымаючыся на неба і бялеючы на вачах. На Доўгіх парадзеў туман і пацягнуўся да лесу; сталі добра відаць стагі і кусты на сушэйшых месцах. Над ракой у бок вёскі закрычала кнігаўка: яе ўзагнаў нехта з гнязда. Над возам нізка праляцелі дзве чаплі, пераваліліся цераз альшэўнік і зніклі ў тумане.

— Не спяць жа... Носяцца. Платон, давай будзем вяршыць. Агрэбкі наверх ускінеш пад вілы. Ды збегай за парубнём, я яго ля першай капы да альшэвіны быў прыхінуў... Ну і вазок... Што печ. Роўненькі, як пад шнур, не забыўся класці вазы, не, хоць і даўно ўжо адлучыўся ад

вас. Давай падкінь яшчэ агрэбкі мне пад ногі, яма тут. Ці выцягне толькі з канавы нас рабая, га? Хоць бы выцягнула. Такі воз. А на ферме дагэтуль не хапіліся кабылы, Платон? А так уся наша праца... А касой я тут памахаў. Трава па пахі. Не сапі...

— Не-е... Там Волечка. Гэта ж яе цягло... Калі што — па мох карове падсцяліць ездзіла... Лета ж мокрае...

— Не стой, мокрае... У мяне, во, уся спіна мокрая, прама скажу. Гэту капу ссунем табе ў варотах, а астатняе — мне на двор. Па загуменні, думаю, аб'едзем Закалюжжа... Чуеш? Глядзі, відна стала, што ўдзень. І ў Лазе трэба будзе сёння забраць, пакуль не агледзелі... Даводзіцца і за кабылу адрабляць.

— Чорт з ім, адробім... Выцягнула б толькі нас з канавы. Панарывалі тут ям... Пераймай, Мірон, парубень. Памалу, не нагінай, вяроўка на ім, не закінеш тады з зямлі на такую гару. Пачакай, зачаплю папераднію.

Выжлятнік нарэшце ссунуўся з воза, сцягнуўшы ахапак сена.

Заскрыпеў пад вяроўкай парубень, ціха, часта,— здавалася, на Доўгіх, калі ўзышоў месяц, прачнуліся драчы.

Мужчыны аскублі ля колаў сена, абгрэблі воз і туга акруцілі яго лейцамі: па кустах жа выпадала ехаць.

Падышлі да крыніцы. У ёй ад месяца цьмяна блішчала вада. Нагнуліся памыць рукі. Хацелі пасля закурыць, але адклалі: выехаць бы толькі на цвёрдую дарогу...

Зноў закрычала над ракой кнігаўка.

Прыслухаліся. Было ціха, толькі булькала ў альшэўніку вада і чыркала на крыніцах, не сціхаючы, дзікая качка. Кабыла адсунула сена з-пад носа і грызла траву з неабкошанай купіны.

Стала холадна. Па спацелых плячах прабеглі дрыжыкі.

— Дзе лейцы, Платон? Уткні вілы. Паехалі. Усё наперадзе... Ідзі справа. Здаецца, той бок большы, калі аскублі.

Воз вялікі, сыры і цяжкі крануўся з месца і завалюхаўся па куп'і да крыніцы.

Спусціліся з палогага берага, паціху, падтрымліваючы воз з двух бакоў. Спыніліся. Выжлятнік пайшоў выбраць больш цвёрдае месца на другім баку канавы. Доўга топаў кірзавымі ботамі па мяккай зямлі, як рукамі пляскаў, нарэшце вярнуўся да калёс, пагладзіў па спіне кабылу і ўзяў лейцы.

— Прама наверх. Толькі тут калі выцягне, дык вы-

цягне. Вунь па бугор, дзе белае бярозавае палена. Будзь збоку, Платон. Нешта баюся я таго бугра... Ну... Но-о! — ён раптам замахнуўся лейцамі, хлыснуў спачатку сабе па гумавых ботах, пасля кабыле па спіне ля падсядзёлка і, падскочыўшы да воза, справіўся падставіць плячо...

Захлюпала, зачвякала гразь, заскрыпела недзе пад сенам ляжэйка, воз нырнуў у крыніцу, задзёрся перадам угору...

— Но-но!.. Рабая! Но, Рабая... Платон, давай, давай!..

Выжлятнік хластаў лейцамі па спіне кабыле, па хамуце, па аглоблях.

Воз уз'ехаў перадам на раскапаны насып; колы ўлезлі ў торф аж па восі, сунучы перад сабой гразь.

— Но-но!.. Рабая! Платон!..

Выжлятнік выскачыў на сухое і замахнуўся лейцамі.

Кабыла рванула з усёй сілы, спатыкнулася, упала на пярэднія ногі, узварвалася, адсела ўзад і зноў ударыла ў хамут. Лопнула атоса, адскочыла і, забразджэўшы, ударыла па нагах Выжлятніку. Кола падсунула да бугра бярозавае палена і ўпёрлася. Трэба было браць лявей.

Кабыла раптам лёгка крутнула ўправа, пачула пад нагамі цвёрдую зямлю і пачала выбірацца на бераг. Калёсы падцялежыліся, і воз пачаў падаць. Выжлятнік саскочыў у канаву і дзвюма рукамі рвануў за лейцы. Платон справіўся выскачыць на бераг. Мацярнуўшы, ён схапіў за цуглі і ўдарыў кабыле па храпах. Жывёла адсела назад, зафыркала і зноў упала на пярэднія ногі,— не хацела лезці ў гразь. Зноў аб нешта бразнула атоса.

— Тваю маць... Праз цябе, Мірон. Выбраў дарогу...

— Заткніся... Не пагляджу, што ноч відная. Схопіш... А ты нашто? Мог днём мосцік скідаць, калі на тое пайшло. Рассупоньвай хамут, не топай. Выпрагчы трэба... Атоса чортава.— Выжлятнік узлез на бераг.

— І я мог, і ты мог, Мірон. І не будзем сварыцца... Намі зямля не ўсеяна. Нас толькі двое.

Выпражаная кабыла вылезла з гразі, страсянулася і пайшла пад Пагурак.

— Лейцы лаві, разява... Аж дома падла будзе...— Выжлятнік, нагнуўшыся, шукаў пад нагамі кавалак атосы.

У канаве блішчала ад месяца свежаразмешаная гразь; пахла мохам, сырой зямлёй, сапрэлым лісцем і ягадамі-смуроднікам. Ён рос тут недзе побач. Пішчалі, прачнуўшыся, птушкі, і паблізу часта чвякала гразь.

— Платон, ты? — Выжлятнік адагнуўся і стаў выціраць рукі аб штаны.

— Не... І я слухаю. Гэта недзе ля крыніцы, пад рэчку...

Закрычала каторы ўжо раз кнігаўка, і Выжлятнік адразу ўбачыў у тым баку на Доўгіх чатырох чалавек. Яны — як плылі ў тумане, сюды, да канавы. Ён, не ведаючы яшчэ чаму, захінуўся за воз. Платон яшчэ ўсё стаяў на беразе і, трымаючы за лейцы кабылу, слухаў. Людзей ён не бачыў, бо глядзеў на Пагурак.

Людзі ішлі ціха, нават не цёпкалі па гразі,— мусіць, перабраўшыся цераз крыніцу, ступілі на сухое. Былі яшчэ далекавата, за якія гоні, як змераў Выжлятнік. Нехта кашлянуў, ціха, прыглушана, відаць заціскаючы рот. Выжлятнік пазнаў закалюжанскага дзеда Тодара і адразу угледзеў ля яго Ульяну: яна паказвала рукою ў іх бок.

«Не хапала ліха... Ну і ночка сёння...» — Выжлятнік споўз у канаву, абсунуўшы ў ваду гразь і нацярушанае сена; сцішыўся, паслухаў і, сагнуўшыся, падаўся ад воза ў бок альшэўніку. Высокія берагі хавалі яго. Да кустоў было крокаў дваццаць. Высунуўшы разы два галаву з канавы ўжо далёка ад воза, ён убачыў, як Платон кінуў кабылу і замітусіўся па беражніцы,— відаць, шукаў яго, пачуўшы плёскат ля калёс у канаве. Убачыць ён не мог, бо недавідзеў.

Вылезшы ў кустах з канавы і пачуўшы збоку зусім блізка гаманіну, Выжлятнік падаўся на Пагурак.

«Хутчэй на сухое. Старшыня з Авяр'янам... Я так і думаў... Далей ад агню ў лесе. А Платоп выкарабкаецца. Кручаны...»

На Пагурку ён спыніўся, каб паслухаць, але нічога больш не ўчуў. Галасоў не было, ляпалі толькі нечым жалезным па коле.

«Атосу дасталі. Запрагацца будуць...»

Закурыўшы, ён хацеў пачакаць, каб убачыць, чым усё кончыцца, але, падумаўшы, плюнуў і махнуў рукой.

«Заўтра на вёсцы пачую. Во прыслалі чуму людзям на галаву... За гэтым сёлета нідзе не ўгрызеш. Але пачакай...»

Адмыўшы ў рацэ ад гразі гумовыя боты і выцершы мокрымі халоднымі рукамі твар і стрыжаную галаву, ён падаўся старым расцярэбам на Ваўкаўню.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Пасёмся?..

Платон адразу адчуў, што старшыня ледзь стрымлівае сябе.

— Пасёмся...

— Адзін? — Станіслаў Пракопавіч махаў пшанічным коласам, які сарваў яшчэ ў Лазе і нёс усю дарогу.

— Удваіх з кабылай...— закашляўся дзед Тодар і папрасіў у Авяр'яна папяросу.— А чые гэта сляды ад гумовікаў ля палена? Метровыя. Тут, брат, добры плечавень поўзаў.

— А я што, у лапцях? Мае гумовікі...— Платон толькі цяпер пачынаў разумець, што звалілася на яго галаву.— «Выжлятнік знік, не піснуўшы нават...— думаў ён у злосці.— Аднаму, значыць, выкручвацца... Аднаму.— Ён хацеў быў адразу сказаць, як усё сёння здарылася, як яго да Волечкі зацягнуў Выжлятнік, як яна згадзілася «адпусціць» ім фермаўскую кабылу на ўсю ноч, як... Але Выжлятнік мог схінуцца дзе блізка ў лазовы куст... Божа ўпасі, пачуе...— Не. А можа, так і лепш... А можа, і лепш... Яму не з рукі пападацца. У калгасе ён чужы. Пададуць дзела...»

— Твае... Адзін такі стог на калёсах скідаў? — старшыня падышоў да воза і выцягнуў жменю сена.— І тут сырое. Рвуць з-пад рук. Аж і Грынёў куды дапялі. З Доўгіх трава?

— З Лучак...

— Сваё ж скубіцё. Там жа на працадні пакінулі. Як сажнём жыты — падзелім, на праўленні ж рашылі. А так усе хлынуць на балота — жніво стане. Апошні год так будзе. Усё пойдзе пад касу налета і на працадні сенам станем выдаваць. Трэба было і сёлета. Спазніліся... Дык хто з табой бушаваў тут, Платон?

— Ніхто. Адзін. Каб не адзін — не сядзеў бы ў крыніцы.

— Адзін-адненькі... Бедненькі...— Тодар раптам зарагатаў на ўсе Доўгія...— Адзін. Нешта ў калгасе ты за ўсё сваё жыццё такога воза не склаў. Помніш, як некалі зімой сена адгэтуль звозілі. Ты і тады якраз гэтым месцам каня ўсадзіў. З Дзедзіхам цягалі. Які ў цябе быў воз? — Тодар падумаў, відаць нешта ўспамінаючы, пасля махнуў рукой.— Я знаю, хто твой напарнік. Па возе пазнаю, калі хочаш... Слухай, Ульяна... Дык гэта ж... Дык вось чаму Волечка на Доўгіх у альшэўніку мядзведзя бачыла... Чула, як учора на ўсю ферму баяла, язык высалапіўшы? Старалася. «Ляжыць, кажа, у канаве мядзведзь, як каро-

ва. Я спачатку не пазнала, клічу: «Цёх-цёх, цялушка», падыходжу, а ён як узарвецца ды кулаком як затрасе... Я і абмёрла...» Дык вось які мядзведзь завёўся... Пусціць пагалоску захацелі, каб ніхто на Доўгія не хадзіў гэтыя дні...— ён зарагатаў і зноў закашляўся.— Сыра тут у тумане. А відна, як удзень...

Праўленцы доўга смяяліся.

— Дык адзін, кажаш? — Авяр'ян падышоў да Платона.— А кабыла з фермы як апынулася ў цябе? І Волечкі на ферме не было вечарам. Па мох карове падаслаць паехала... Ульяна не дасць зманіць, што бабы казалі... Ажно вось дзе калёсцы. Машком добрым абраслі.

— Адзін, і ўсё. А ваша Ульяна — падбрэхіч...

— Адзін... Ану вядзі кабылу ў аглоблі... Начаваць сабраўся? Падбрэхіч...— Станіслаў Пракопавіч падняў з канавы атосу і паляпаў ёю аб кола, абіваючы гразь.

— Разлупілі як. Жывасіллю. Наклалі гэтулькі. О-ё-ёй. Вазок... Як толькі кабыла іх з-за крыніц вывезла. Хадзі, Авяр'ян, паспрабуем звязаць атосу. Пакладзі на апошні зазубень, думаю, не будзе коратка... Платон, знайдзі кавалак добрага павадка. Няма? Ад воза адкруці... Убінталіся...— ён адкінуў далёка на скошаную сенажаць пшанічны колас, які трымаў дагэтуль у зубах за саломінку, і закасаў рукавы.— Патарчаку бярозавую трэба перш выцягнуць з-пад кола. Падпёрла, што корч які...

...Выехалі на Пагурак, калі месяц падняўся ўжо высока над лесам. У небе з'явіліся рэдзенькія белыя воблачкі. Ззаду на Доўгіх туман усё схаваў з воч. Не было відаць ні стагоў, ні альшэўніку за канавай. Храпла змораная мокрая кабыла, і шмаравала аб атосу кола. На дарозе прыйшлося нанава пераціскаць воз, адпусцілася вяроўка, і з-пад парубня спаўзала сена.

Спыніліся. Пасля ля ракі мылі рукі і зноў бачылі тыя ж сляды ад гумовікаў, але не звярнулі на іх увагі. На Пагурку пад высокай старой асінай Станіслаў Пракопавіч угледзеў ладную шлiхту бярвення. На траве валяліся свежыя трэскі. Нехта пачынаў часаць дрэва.

— Вось так мы і жывём, старшыня...— Авяр'ян выціраў рукі аб крысе пінжака.— Вы гаварылі, што тэхніку мы не выкарыстоўваем. Не-е...— ён усміхнуўся.— Спытай Платона. Думаеш, ён паехаў бы на кабыле сюды, каб не баяўся, што на трактары шуму наробіць? Што глядзіцё? Трактар бы наняў і выцягнуў сянцо на сухое... Тут яшчэ конь яму служыць. А вось дрэва трактарам траляваў з

Асіпаўскага,— усю зіму цягалі яму елку з балота на Пагурак. Нашто табе гэтулькі, Платон?

— Купіў... За сваё купіў...— Платон разявіўся і змоўк.

— У Выжлятніка купіў...— Ульяна не выцерпела.— Будуюцца мужчыны за дармавізну. Вы кажаце, лес трактарам цягаюць? Ці гэта яшчэ? Платон з Выжлятнікам, як толькі трактары паявіліся ў нас на балоце, самыя першыя нацягалі торфу на свае агароды. Падумаць... Перш чым на калгаснае поле... Падсунуць муці якой трактарыстам, а там усякія ёсць. Так што праўду Авяр'ян кажа: моцна ў нас да тэхнікі прывязаліся...

— Я гэта ўжо чуў,— усміхнуўся Станіслаў Пракопавіч.— Абсячом ім прывязь... Адвяжам!

Яны ішлі за возам. Калёсы скакалі па ўзрытай дзікамі старой няезджанай дарозе, гнулі высокую, у рост чалавека, папараць. У бярэзніку воз скубся аб голле, і на дарогу падала сена.

— Цішэй, Платон. Дзе ты там? Асцярожней вядзі кабылу. Нябось, каб сабе на двор вёз, то ніводная б сеніна не ўпала...

Пад'язджаючы да брадка, спыніліся. Воз не пралазіў паміж дзвюх старых ялін, што раслі на беразе. Аб'ехаць іх не было як: балота. Пацмокалі языкамі, вярнуліся назад і падаліся ў аб'езд. Дарога тут некалі вяла лесам у партызанскія зямлянкі за Доўгія, цяпер гэтым месцам леспрамгас выразаў і вытраляваў увесь ельнік, і яна ішла пасекай аж у Чар-чаг, шырокая, цвёрдая,— яе нанава вытапталі гружаныя машыны.

Месяц цяпер схаваўся за лесам,— доўга скакаў услед па вяршалінах сосен, пасля ўпаў недзе за гушчар. Пасека была ў лагчыне.

Пад Асіпаўскім галёкалі пастухі — шукалі згубленых кароў. Тарахцелі па карэнні калёсы, пад нагамі шапацела кара. Патыхала густой, цёплай смалою — астывала нагрэтая за дзень пасека.

— Што ты, Ульяна, задумалася? Маўчыш... Няма тут надта над чым ламаць галаву. Папаліся — прысячом. Хопіць, нажыліся.— Тодар змарыўся і шаркаў ботамі па ўезджаным торы.— Заўтра, калі склічам сход, першы выступлю. Толькі таго не ўдалося па калгасным злавіць. Дагэтуль яму ўсё роўнае было — і лясніцкае і калгаснае. Адвучым цяпер...

Кабыла прыставала дарогай, і Платон усё покаў спераду. Да людзей жа больш не абраніў ні слова. Насупіўся,

маўчаў, відаць, думаў, як вылезці сухому з гэтых праклятых Доўгіх...

У Чар-чагу на пяску мужчынам прыйшлося падпіхаць калёсы, пакуль зноў выбраліся на цвёрды, уплецены карэннем грунт.

— Слухай, старшыня, дык я ж не справіўся расказаць. А раз пачаў — на языку вісіць. Я і раней хацеў, ды не рашаўся,— Тодар выйшаў на белую сцежачку, што вілася ля дарогі, і ўздыхнуў.— Не па маіх гадах лавіць начамі на Доўгіх «стрыгуноў»... Гэта ж не мух ганяць. Ды ліха з ім,— некаму ж то трэба.— Ён памаўчаў: — Тут, во, якраз Платон побач не дасць зманіць. Больш такой дружнай кампаніяй бадай ці збяромся калі... Даглядаў я летась пры Дзедзіху бычкоў, не быў я і ў праўленні, проста радавы. Дык чуеце? Падагналі мы тады ранічкай з фермы да яго двара машыну з бычкамі. Наверсе я з Платонам, шафёр у кабіне. Платон! Не з табой гэта мы бычкоў на мяса вазілі тады? Летам было, мусіць, якраз у гэту пару...— гукнуў Тодар на ўсю пасеку.— Маўчыць. Ні слова. Ці не плача ён там ля кабылы? Пускай, сама дарогу знойдзе. Давай у кумпанію... Ты скажы, як сцяна чалавек раптам стаў... Чакаем, значыць, мы Дзедзіху. Доўга не прыйшлося: ён тады неяк парупіўся. Слухай, Ульяна, засталася там... Ведаю, змарылася ты.

— Чую, чую... Увесь лес чуе...

— Падыходзіць Андрэй да мяне і гаворыць: «Вазьмі касу», а сам нешта ў мяшку шпурнуў у кабіну на сядзенне. Нашто нам каса? — думаю. Не рэзаць жа мы тых бычкоў збіраемся. А яны пасля ночы — як торбачкі пустыя, у некаторых аж бакі падпягнула, пашы тады ў нас каля блізу былі няважныя, а ў Лаўкі пускацца аж пад Грыні,— дзе ты кожны раз напускаешся. Якая гэта ў ліха нарыхтоўка, думаю. Іх жа не возьмуць. Сказалі б, што сёння павязуць, я ім хоць бы нанач накасіў. І старшыня ж разам едзе, хачу яму сказаць, ды не рашаюся. Як чалавек гэта прыме — невядома, а тут у раён самому трэба. Збегаў я дамоў, узяў касу. Андрэй загадаў схаваць яе, каб на воку не тырчала. «Абрэжашся. Засунь дзе...» — так і сказаў мне. Паехалі мы. Тады ж я з табой, Платон, ля кабіны мучыўся. Помніш, як з'язджалі ля Грынёў у лагчыну ды бычкі цябе прыціснулі?.. Раніца тады была яшчэ зусім, сонца не ўзышло, і не ўсе ў Грынях тапілі ў печах. І чаго ў такое ранне перціся? — думаю ўсё. Гэта ж паехалі б днём, бычкоў можна было б яшчэ ў аселіцу на атаву вы-

пусціць. Мне і ў галаву маю тады не прыйшло... Гэта ж падумаць. Дзедзіха ўмеў шэйды-па-марэйды. Выехалі мы на шашу і, пакуль мінулі Гальдараду, разы з чатыры спыняліся. Ля рэчак усё. Станем так, Дзедзіха нешта з шафёрам пагаворыць, тады адчыніць кабіну, выскачыць, пабегае па траве ў Лучках, вернецца, бразне дзверцамі і — далей. Сонца ўзышло, калі мы былі ўжо за тартаком, пад самым раёнам. Звярнулі з шашы, паехалі лесам. Выбіліся на лугі, што ля возера, з лесу надта не паказваліся. Андрэй выкуліўся з кабіны, пабегаў па лузе, пакідаючы на расе цёмныя сляды, вярнуўся, кіўнуў мне: «Дай касу!» Каб ты, старшыня, бачыў, як ён косіць... Так з касой у нас толькі Авяр'ян можа пайсці ды яшчэ хто са старэйшых мужчын. Акруціў ён каля сябе склад, клікнуў цябе, Платон: «Касі»,— кажа. Помніш? А ты касы маёй у руках добра трымаць не можаш, не злаўчыўшыся. Было? Маўчыш. А я смела кажу, што было, бо не люблю таіць грэх. Я тады з касой пайшоў, а ты, Платон... Скажы цяпер усім праўленцам, хоць праз год сазнайся. Што табе заняло сёння? Я тады з касой, а ты... А ты сілас бычкам рабіў салёненькі. Цягаў сырую траву да машыны, аж дым з цябе ішоў. Ускідаў яе цераз борт, а шафёр саліў і галодным бычкам пад нос падсоўваў. Што, не шафёр саліў? Ты сам? А-а... Успомніў. Пацягалі мы з табой травіцы. Гадзіны дзве тады адкармліваліся ля возера...— Дзед Тодар пацерабіў сваю сівую бараду і глянуў на месяц.— Так свеціць над пасекай, што пчолы могуць на ўловы вылецець... Люблю такія ночы...— ён памаўчаў быў.— Курылі мы тады, пра планы свае гутарылі. Многа чаго і Дзедзіха ў галаве добрага меў, але ж вось чалавек думаў адно, а выходзіла ў яго другое... Хе-хе... Я тады сам не пазнаў бычкоў нашых. Нават рабенькага, здыхлю тую, і то разнесла, як печ, як гэты воз зрабіўся. Сотак дзесяць тады выкасілі мы са старшынёй і скармілі бычкам. Поўныя такія бычкі, аблізваюцца, жвачкі жваць не хочуць, рыкаць пачалі, на возера гледзячы. Пачакалі мы яшчэ, пакурылі, падагналі пасля машыну да берага і ў два вядры насілі ваду бычкам. А тыя — як у прорву якую... Заганяў нас тады Дзедзіха. Хаця ён і сам забегаўся. Не сядзеў, не маню, і Платон не дасць зманіць. Не сядзеў Андрэй і на прыёмным пункце. Нейкая дзяўчына-прыёмшчыца ўпёрлася была, што сярэдняй укормленасці жывёла — і ўсё. Хоць ты ёй чортведама што... А ён, Андрэй, спакойна так, спакойна... Раз на вагі, другі, трэці. Нідзе не дзелася, як націснуў. Умеў.

Па вышэйшай пайшлі ўсе да аднаго. Ты кажаш, Ульяна, дурная дзяўчына? Нічога не маю. Гаворыш, Дзедзіха лайдак? Лайдак. Яшчэ і які. За гэта яго і знялі. Я яго не гладжу па галоўцы, але ён у свой бок гарнуў. Пуцямі і не пуцямі. А ад яго, выходзіла, усякія там яшчэ больш цягнулі... Жыццё — яно хітрае, брат...

— Значыць, ён за калгас душу раняў, а разам з ім і вы? Дзяржаву абманвалі? — Станіслаў Пракопавіч паклаў Тодару руку на плячо.— Складныя ў цябе байкі. Дарога карацей была. А дзе ж вы тады ўсе сядзелі, га?

— А што я мог зрабіць тады, калі ўсё на гэтым трымалася? Сказаць дзе каму? Ніхто б слухаць не стаў. Ды і ад Дзедзіхі ў вёсцы месца не было б, калі што. Лёгка вам цяпер гаварыць. Прыйшоў час, сказаў і я дзе трэба. Усё, як і вам тут. І цяпер я не такі. Ці вам, ці каму другому не стану ні саліць, ні падсольваць. Не прыгнеш. У чалавека, бывае, аж на старасці вочы адкрываюцца. А калі я і махнуў тады касой раз які, то віна мая ў тым невялікая. Зрабілі б тое і без мяне. І віну я сазнаю. А ці сазнае ён? Ён ці сазнае? — дзед Тодар раптам паказаў рукою на рабую кабылу, якая хавала за сабой Платона.— Усе, як людзі, а ён за касу — і на Доўгія ў кусты. Недзе ўсе тыя дні бегаў, калі па нараду не выходзіў. Натапырыўся, як шашок. Надзьмуўся. Нам жа зрабіў пакасць і на нас жа азвярыўся... Такога штрафам не праймеш. Такога пад суд...

Раптам стала кабыла, і дзед Тодар змоўк. Не глядзеў ні на кога, махаў толькі рукамі,— адганяў камароў, што ўзяліся аднекуль і сталі лезці ў вочы цэлай хмарай.

— Па пяску... Цяжка... Адпусці церассядзельнік, Платон... Скіруй сюды, на след... Цвярдзей тут, убіта,— загаманіў Авяр'ян.

Мінулі ў Ваўкаўні пясок і ўз'ехалі на дзядзінец,— пачыналася ферма. Злева ў сасняку бялеўся пад месяцам пясок ад ям — бульбяных сховішчаў; за сасняком узымалася высока ў начное цёмнае неба новая вышка-маяк. У Закалюжжы, недзе аж у тым канцы, спявалі дзяўчаты.

Калі здалёку паказаліся кароўнікі, праўленцы ўсе адразу парухавелі, зайшлі Платону наперад, загаварылі:

— Падгонім воз да свірна і здадзім вартаўніку.

— Я дык бы аж да самай канцылярыі падвёз. Хай бы заўтра ўсе бачылі.

— І так убачаць.

— Заўтра раніцай сюды з Лазы сівец трэба прывезці. У адну кучу. Гэта ўсё іхняе.

Кабылу выпраглі ля свірна.

— Зброю пакінь тут, Платон, а капяку завядзі на Выганчык да начлежнікаў. А заўтра раніцой падыдзеш у канцылярыю. Акт падпішаш,— Станіслаў Пракопавіч стаў лапаць сябе па кішэнях, відаць толькі цяпер успомніўшы, што гэтыя вячэрнія паходы адарвалі яго ад нечага мо больш важнага, якое, не адкладаючы, трэба было сёння зрабіць. Ён некуды быў заспяшаўся, але закурыў і супакоіўся: позна ж зусім.

— І ўспомні, хто з табой у спулцы! На траіх «прэмію» раскінем. А то аднаму будзе мнагавата...— дзед Тодар засмяяўся і, выцягнуўшы з воза вехаць сена, стаў выціраць боты.

Платон усё маўчаў, толькі ўжо за свірнам ён азірнуўся і вылаяўся, але ніхто не ўчуў. Пастаяўшы крыху на загуменні, ён павёў кабылу недзе цераз чужыя агароды.

— Вось і яшчэ адзін дзень збылі, старшыня...— Ульяна адвязала хустку і змахвала з яе пацярушку ад сена.— Не ўсё вы наша яшчэ ведаеце. Нічога... Дзень ада дня пазнаеце. Разам жа жыць.

— Ну, старшыня... А цяпер да мяне на гарачую бульбу...— Тодар выцер вехцем руку і шпурнуў яго пад навес да свірна.

— Якая яна ў чорта гарачая дагэтуль...— азваўся ад воза Авяр'ян, і ўсе засмяяліся.

— Нічога. У мяне Анця па гаршках спецыяліст. Хадзем грамадой. Разам жа ногі трудзілі...

Яны спусціліся ля плота з дзядзінцу і пайшлі шырокай і белай ад месяца вуліцай.

...У поўнач у Ваўкаўню на дарогу прыблукаў з пасекі густы, халодны туман і схаваў ахапак растрэсенага вільготнага сена.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выжлятнік у той вечар абмінуў Закалюжжа. Выйшаўшы з лесу ля хаты Андрэя Дзедзіхі, ён падаўся цераз выган на грэблю. Збаяўся, што яго могуць убачыць.

## 8

У бясхмар'і дня чулася блізкая восень.

Празрыстая, свежая, у срэбным павуцінні, якое напята на голлі беразняку так туга, што, здаецца, аж трашчаць яго ніткі,— яна ішла ў лясы пасля млявага лета,

табарылася халоднымі начнымі туманамі і росамі на скошаных лугах ды бурэлася на выпетраным і збітым капытамі ржэўніку ў зацiхлым полі.

Ледзяныя росы прыбіваюць разасланы лён на лагах у атавах,— яго заблыталі і схавалі маладыя травы; яны, росы, мыюць верасы, каб тыя рдзелі бурштынам і выбеленым палатном адлівалі з узгоркаў узлесся; бадзёрыць пастарэлы бульбоўнік, і ён бярэцца яшчэ расці, дрыжыць прыжоўклай лісцвянкай, але куды ўжо яму,— ён пацеп-ваецца начамі ад холаду, курчыцца на вачах ды хінецца да баразён, якія за лета заплылі пяском, зраўняліся з зямлёю.

Росы свяжаць нязвыклым яшчэ халадком. Ён здаровы, ад яго крамянееш і адчуваеш, як падужэў ад працы і загару за лета.

Восень загадзя перайначвала лес. Ён аціх — анямеў, самлеў у стоме, якая настала пасля лета, што агалошвала яго нядаўна рокатам з урадлівай пожні. Ён — цяпер рэдкі і неяк падалеў ад вёскі, ці не ад гэтай цішы і пустэчы?

Аркадзь не адзін. Яго не пакідае Галіна з той нядаўняй ночы. Яна сёння — дапытлівае дзяўчо, якое ўсюды разам з ім. Яна — гарэза; яна — прывід, што носіцца паверх лесу. Хораша думаць пра яе, многа, несканчона.

Ад Закалюжжа да Асіпаўскай пушчы — некароткі шлях. Ногі цягнуць з месца, ступаеш, а яны яшчэ просяць кроку. Можа, і сапраўды толькі хуткая хада, калі неўзаметку пакідаеш ззаду лясныя вёрсты, зможа ўтаймаваць хваляванне і неспакой?

Як цяжка кахаць, калі ведаеш і мо верыш, што дарэмна, што наперадзе толькі му́ка... Ці не лепш цяпер пакінуць думаць пра яе, Галіну?

Аркадзь пачынаў кахаць. Дзень ада дня не выходзіў у яго з галавы той недарэчны лад любові, які накаоўвае адным шчасце, радасць; другім — мукі, штохвілінна, бясконца. Ці не ад усяго гэтага ў грудзях — агонь? Аркадзь яшчэ не кахаў, душа маўчала дагэтуль, а цяпер здрыганулася, наплыла нечым невядомым, гарачым і балючым, якое не загоіш.

Першае каханне — заўсёды моцнае і чыстае, і душа забірае яго з сабой на ўсё жыццё...

Лясныя сцяжыны ў пыле, у жытнёвай, збялелай саломе. Долках набухлі ад росаў каласы, але сонца зноў сушыць іх,— мучыць толькі. Яны ўзбуйнелі ўдвая, набрынялі, наступі — пырснуць крухмалам.

Аркадзь падаецца краем Асіпаўскага. Тут леспрамгас выразаў лес,— усюды свежыя пні, сляды машын і калёс. Лаўжы, раней зялёныя і свежыя, як ссечаныя і скіданыя ў кучы качаны капусты,— цяпер пабурэлі, пажоўклі, бы хто іх пасыпаў баравым пяском. Іх нельга спаліць цяпер, калі такая суш,— ад пажару не адкараскаешся за тыдзень: выкаціць усю дзялянку, не пакінуўшы нічога жывога, уклюнецца ў маладнякі, а калі пераскочыць ля Масткоў у Асіпаўскія смалістыя хвоі... не абярэшся бяды. Затое тут крукам і сядзіць ляснік — малады хлопец у вайсковай гімнасцёрцы. Гэта яго можна бачыць і ранкам і вечарам, калі ён імчыцца з Закалюжжа па Грыні, увесь выпацканы ў гар і сажу. Адзін ён ведае, чаго б нарабіў той агонь, які ўдалося ў час збіць пяском...

Сонца мінула раніцу — выйшла з-за бору і вісне над палянай. Ад зямлі ідуць густыя пахі ляснога рэдкатраўя, мокрага ад расы і сырасці ляжалага лісця, падгнілых старасвецкіх смаляных карчоў, якіх панавыкідвалі з зямлі грынёўскія хімгасцы са смалакурні.

Ну і ўмеюць яны з аманалам... Насыплюць гэтага парашку-смуроду ў скручаны з паперы мяшэчак, прыладзяць да яго шнур з капсулем,— і ў ямку пад корч. Такіх зарадаў можна нарабіць без ліку, а тады — толькі спраўляйся падпальваць шнуры і даваць драла. Спаленыя, раскручаныя, шэра-чорныя, яны ляжаць цяпер на сіўцы ля сцежкі, як змеі, што расцягнуцца, бывае, на сонцы. Ад цяпла шнуры пахнуць карболкай. Нязвыкла. У лесе раней такога не было.

Над пасекай разліты водар нагрэтай жывіцы. Яна — на свежых, нядаўна з-пад пілы, пнях вісне цяпер каляровымі пёркамі, якія бываюць на маладой папараці; сыплецца белай фасолькай па замшэлай паздраватай кары і па выгнутым карэнні адкочваецца далёка на стары, усыпаны апілкамі і ўтаптаны нагамі дрывасекаў буры мох.

Зацвілі верасы, прыхаваўшы ад воч чырванашчокія брусніцы,— і запелі нанава пчолы, занылі ў знямозе ад працы, з якою ім, відаць, не змагчы да халадоў.

Пад Асіпаўскім — цень. Ніколі не даймала спякота гэты край пушчы, дзе побач Бярэзавіцкія балоты з падземнымі крыніцамі. Балоты — пашы дзікоў, якія прыходзяць сюды праз пушчу з-пад самай Віліі, а то і далей з усходу, дзе нетры Паліка.

Пушча млее ў цішы. Спяць асіны. У дрымоце елкі. Іх спавіла павуціна-смуга. Паглядзі на бярозы, на тыя, што

абступілі пасеку за лініяй-расцярэбам, дзе агароджаны пад брызгліну пачэсаным сасновым жэрдзем куток... Бярозы векавыя, збуялыя, стройныя, танклявыя, з пышнымі шатамі. Яны яшчэ ў зелені, але руплівая восень паначапляла на іх «жоўтыя парашуты»,— так выдае, калі глядзіш адкуль здалёку. Нават дзе-небудзь багатая лісцем галіна ўжо ўся белая. Заўчасная старасць... Ад чаго? І шмат дзе. Шкада, калі гэта хвароба выбірае месцы, каб асесці і звесці са свету дрэва.

Адмірае памаленьку стары лес... І гэты непадуладны чалавеку закон прыроды дае сябе адчуваць больш, чым калі, на сконе лета.

У Асіпаўскім на лясных дарогах — раса і днём. Летам яе абівалі ягаднііцы і вясковыя гарэзы — дзеці, шнырачы па ляшчэўніку за арэхамі, а цяпер яе абмалочваюць гаспадары багнішчаў і мурашнікаў — ікластыя вяпры.

Яны са сваімі вывадкамі выбілі тут свае сцежкі,— вось сляды і слядкі, вынесены з балота пажваканы і прывялы бабок... Карміліся, а іх недзе ўзрушыў гвалтоўны і ласы жыхар Асіпаўскага — галодны нават улетку паджары ваўкарэзіна.

Выспела ажына. Пачарнела ад ягад, панікла долу; ягады абляпілі яе, што жучкі. Ці не яны гэта маняць курапатак? Па ажынніку ступіць нельга за імі. Лапочуць крыллем, як пеўні на варотах, палохаюць знянацку, а ўзнімуцца з зямлі,— чуць пераваліваюцца цераз імпанае куп'е, леныя, нахохленыя, сытыя. Ім і зіма не страх. Толькі вось паскубліся некаторыя недарэкі аб калючкі, на ягадніку вісіць пер'е, чорненькае, свежанькае, пакратваецца разам з лісцем, калі адшчыкнеш ягаду. А яна — салодкая. Пераспелая, налітая, ад гэтага нават вадзяністая. Але такая — найлепшае зелле ад кашлю, як кажуць у Закалюжжы старыя.

Аркадзь у самай пушчы... Тут можна забыцца, што кахаеш некага аднаго; тут душа адгукаецца на кожны рухляснога жыцця, тут люба ўсё — і дымка над пасекай, і купіністае балота, і халодны мрок лесу, і маладзенькая брызгліна ў загарадцы, і бярозы, якія кранула старасць... А можа, такое ад таго, што ў кожным руху, у кожнай праяве прыроды жыве той, хто змушае на ўсё глядзець закаханымі вачыма?

Добра думаць у ляснай цішы, калі думкі — у другім свеце, дзе каханне, радасць, шчасце. Пра іх трэба гаварыць, пець... Інакш іх няма, яны нежывыя. Ён скажа, не

змусіць сябе жыць у нявер'і. Так цягне сказаць ёй. Дзіва... Адкуль такое бярэцца? Сэрца, мусіць, моцнае на памяць. Яго кранулі ў тую ноч свавольна, неасцярожна, і яно затрымцела, як, бывае, былінка... Даткніся да яе толькі...

Скажа! Пойдзе ў клуб, стане танцаваць з ёю, правядзе дадому і скажа. Па дарозе. Няважна дзе... Само вырашыцца.

Ён думаў пра яе, быў смелы, уцякаючы ад яе ў глыбіню Асіпаўскай пушчы і думаючы, што яна выгляне вось з-за асіны і пачне дражніцца, як і тады ноччу... Гарэзлівая, смелая, далёкая.

У Асіпаўскім — Пагурак. Гэта асінавы гай. Шэрыя дрэвы, якім няма супачынку, нават калі замірае вецер, дрыжаць, шэпчуць, шумяць, бы ад густога дажджу. Ім ніколі не пераказаць сум і журботу ляснога жыцця. І чаму ім хочацца гэтага і цяпер, калі, апечаныя першымі подыхамі халоднай ночы, яны заружавеліся, як тыя здаровыя малодкі-ўдовы? Яны, асіны, аж звіняць медным лісцем, гулка, на ўвесь лес. Але той звон у цішы, яго не ўчуць. А ціша — гэта багацце няўлоўных гукаў, звону і спеву. Яна — патаемнае жыццё лесу... Яе ловяць толькі струны душы. Яна ажывае і зноў замірае разам з імі.

І раптам стрэл... Раптоўны, недарэчны... Працяжны, бясконцы... Рэха даўжынёю з вяроўку. Яно аціхае, пасля зноў коціцца на Пагурак і вяртаецца праз усё Асіпаўскае назад, пад Закалюжжа.

І няма больш цішы. Зазлавалі асіны, зашумелі-застагналі сосны; узмахнулі чорным груганнім крыллем старасвецкія дрымотныя яліны; загаласілі-заплакалі дробналістыя бярозы... Лес ловіць стрэл ды не дае яму прытулку — гоніць прэч.

Ласіха прыкульгала ледзь жывая. Была з малым. Спынілася недалёка, там, дзе чарнеўся малады ельнік пад глухімі да ўсяго на свеце старажытнымі бярозамі-чачоткамі.

Бурая, з чорнымі ад поту пісягамі-латамі, ласіха нахілялася над малым, бязрогім, як і сама, цялём,— усё падграбала яго пад сябе, падкочвала галавою.

Яна была блізка, кійком дастаць; прысядала на заднія ногі, хацела легчы, але ўстаяла, хістаючыся і дрыжачы. Стаяла галавой да Аркадзя; глытала раздзьмутымі ноздрамі паветра, біла капытамі мох, глыбока, да пяску; стагнала. Вочы ў яе былі цёмныя, аж чорныя; яны блішчалі.

Вушы натапырваліся туды, на Закалюжжа, адкуль яна прыбегла.

«Падбітая...» — падскочыла Аркадзю думка.

Грудзі яе, шырокія і мокрыя, хадзілі ходырам. Яна змаглася, але мацавалася; затое цяля валілася з ног. Бедная жывёла... Відаць, колькі прыйшлося ёй скалясіць Асіпаўскага за раніцу, каб ля ціхага Пагурка зблытаць след...

Адпачынак — паратунак...

Зніknуць у пушчы, растварыцца... Дзеля малога... Яно раптам апусцілася на пярэднія ногі і легла на імшанне. За яго рухамі сачылі такія насцярожаныя і сумныя вочы, што гатовы былі вось-вось заплакаць, каб толькі суцішыць пакуту свайму сысунку, што ляжаў цяпер — радасць і гора маці! — нерухома, у клубочку, зусім жа без ног ад шалёнай беганіны.

Зноў аціхла ў лесе, былі чуваць рэдкія, працяглыя і хворыя ўздыхі ласіхі-маці і часценькае дыханне цяляці. Маці стагнала ад раны, відаць, вялікай і балючай, але ні разу не павярнулася назад, не варухнула збалелымі нагамі; цярпела і сачыла, сачыла за малым.

Над елачкамі з'явілася сарока — нядобры вястун,— села на сухастоіну і тут жа зляцела, засакатала, залопала крыллем і знікла на другім баку ельнічку.

Аркадзь не змог здагадацца, ад чаго ўсхапілася з зямлі малое, крутнулася раз-другі і, нырнуўшы пад матку, знікла. Ласіха кранулася з месца павольна, мацаючы зямлю, закульгала, закалацілася ўся і раптам рванула з усіх ног і была ўжо недзе аж за ельнікам. З долу ўзляцеў мох і рудое лісце. У тым баку, дзе яна знікла, раптам затрашчала штось сухое, пасля доўга таўклося, як у ступе, і сціхла.

І толькі цяпер Аркадзь учуў брэх. Далёкі, рэзкі, кароткі. Так можа брахаць ганчак, збіты з тропу, які нарэшце налучыў на свежы след. Ён падаваў голас гаспадару. Гэты голас, хрыпаваты і звонкі, улавіў Аркадзь. Ён пазнаў адразу — грынёўскі сабака, Выжлятнікаў паласаты Жульбас. Каб упэўніцца ў тым — не прыйшлося чакаць. Сабака з белай палоскай на спіне выскачыў з-за камля асіны, спыніўся, каўзануўся на пярэдніх лапах і стаў грабці зямлю, там, дзе толькі што былі знайшлі паратунак і супачын дзве ахвяры растраўленага прагавітага чалавека. Сабака лізаў языком зямлю; сліна камякамі падала на імшанне. Аркадзь цюкнуў моцна і неяк хрыпла... Раз, другі... Сабака нібы не ўчуў; зрабіўшы круг на вытаптаным месцы, ён зноў лёг на след, скупа адазваўшыся гаспадару

сіплым брэхам. Можа, льга было б тут дачакацца і гаспадара, ды не: той быў не дурны. Недзе ўчуў крык, а гэта — небяспека. Ды бадай ці будзе ён бегчы след у след за ганчаком. Выжлятнік вопытны, ведае, куды падацца, каб выйсці напярэймы жывёле...

...Туман быў цёплы, можа, таму, што на горцы. Патыхала смаленым — цяжкім і рэзкім, бы дзе курэлася падмерзлая атава тытуню. Гарэў торф за Пагуркам на Доўгіх балотах, што між Закалюжжам і Грынямі.

Сонца ўвязла ў хмары, чырвонае і халоднае. Яму мігам можна схавацца за далёкі лес на адпачынак, але спрабуй вылезь з гэтых згуслых бурых воблакаў. Адвячорак яшчэ доўгі — летні.

Лес драмаў у ціхім мроку вечара, хаваючы і сябе і свае думы-шэпты. Спачыць і яму ахвота. Вунь старая, пахіленая вятрамі бяроза-чачотка, што ля развілкі дарогі, з вечарам аж прыпала да зямлі. Ёй бы абаперціся на што моцнае — чалавеку на плячо — і збыць гэтую ноч у бесклапотным сне.

Не з лёгкім одумам выйшаў з лесу хлопец. Ішоў паволі, пад дом. У дарогах-вілах злякнуўся. З той дарогі, што вяла на Масткі, выплылі двое. Яны кацілі ў руках веласіпеды: там было пясчана і пад гару. На багажніках тырчалі кошыкі, здалёку як худыя, падстрэленыя курапаткі.

— Грынёўцы... Студэнт і Галіна...— прашаптаў Аркадзь.— Не звярнуў бы пад Пагурак — сустрэўся б...

Аркадзь спыніўся. Здалося, што ён учуў тупат іхніх ног. Гэта стукала сэрца. Ён абапёрся, прынік да пахілай чачоткі. Маўчаў. Нічога не думаў. Недзе недалёка прапіскляВіла начніца — вылецела на жыр. Сонца зусім глынулі рудыя хмары-пісягі, яго не відаць. Недзе далёка-далёка, мо за Пагуркам, а можа, і зусім дзе па той бок пушчы прашумеў рэхам стрэл.

— Усё прапала... Яны былі ў грыбах. А ласіхі шкада... Выжлятнік бандзюк, яму ніхто не даруе...— Аркадзю моцна-моцна захацелася застацца тут, у вілах: думкі гнялі яго, не пускалі ў вёску.

Ён і не начаваў дома тую ноч.

Яшчэ не ўзышоў месяц, а трактар надрыўна ракатаў за тарфяным балотам пад Грынямі. Ён глушыў у хлапечым сэрцы боль і не мог адолець яго.

— Усё пр-р-рапала...— Аркадзь шалёна рваў рычагі на паваротах. Матор уначы роў ядрана, моцна, на ўсю волю.

## 9

З Краснага, дзе ўчора быў фэст, Сабольскі, ойча грынёўскай царквы, як даўно пачалі яго звацъ па вёсках, падаўся на Закалюжжа: хоць і праз лес, ды бліжэй, чым шашой на Гальдараду. І сцежачка лясная — цвёрдзенькая, убітая пешакамі,— вунь якая лёгкая для веласіпеда і хворай нагі.

Ён — на «дамскім»,— так і расу не ўкруціш у спіцы, ды і зграбней: фара, тормаз ручны... Палюбіўся айцу Сабольскаму гэты тормаз! Не жартачкі... Імчыш з гары, як тая ластаўка на крылах, і — стоп! На месцы! І ўсё ручны тормаз. Без яго — такога не зробіш аднымі педалямі. А божа барані, на ляту спадзе ланцуг... Магіла! А айцец Сабольскі не думаў яшчэ паміраць.

Бывала, яму мроілася: ручным тормазам можна спыніць усё, што ўздумаеш. Аднойчы, задумаўшыся, ён узяў ды знянацку хапіў на ўсім хаду за гэты праклягы вусік тормаза. І паляцеў быў... к чорту матары!.. потырч. Добра, што ўпрыцемкі ды ніхто не заўважыў. Нідзе ж пра гэта не гавораць. А такое не ўлежала б спакойна, айцец Сабольскі ведаў...

Матухна Сабольская — Каця (так толькі ён яе зваў), учора нанач пакаціла дахаты: на такім жа дамскім веласіпедзе. Там жа гаспадарка. Матухна рухавая, маладзейшая за яго. На людзях айцец Сабольскі пра гэта маўчаў... Але калі з матухнай даводзілася ехаць пясчаным грунтам,— вёў веласіпед за руль, шкадуючы:

— Саслабеў нешта, дзеткі, пасля ночы...

Ён менш верыў у бога, як у тое, што жыццю ёсць канец. І старасць — гэта апошняя малітва, за якой «амін» — смерць. Прэч яе! Да д'ябла рай!.. Пры людзях ён скідваў з сябе гады, са скуры лез, каб слыць за маладога.

Айцец Сабольскі ўчора заначаваў. Падбіўся, тупаючы цэлы дзень у краснянскай капліцы, дзе «міжы Спож» служыў малебен. Не дарма. Можна было. Без дзесяткі — дзве круглыя... Муляць у кішэні, лезуць пад паху. Ад іх пацееш яшчэ больш.

Айцец Сабольскі лёгенька ступае на педалі, сочыць за мокрай ад начы дарожкай: раса была, ды слухае, як шыпяць колы, што тыя скваркі на патэльні ў набожнага Янaчкі, дзе прыйшлося згараваць ноч.

Брынчаць па спіцах дубчыкі: абочыны ў бярозках. Яны зблізку, ад дарогі. Далей — елкі, маладыя, але такія гу-

стыя і цёмныя, што здаецца, і днём тут ноч. Гэта Чарчаг... Ен ідзе імшарамі аж туды, пад Асіпаўскія пушчы. Адгэтуль і да Пагурка блізюхенька — рукой падаць.

Чар-чаг — дзікі кут пушчы. Тут заўжды навіслыя прыцемкі, ціша. Тут і сыравата: лагчыны, ямы, імшары. Ці не тут і чэрці пладзіліся,— думае ойча. Бывала, апоўначы пад каляды ў Чар-чагу ажываў скрып. Шмат каму і стуку наслухацца давялося. Чар — пілой; чах — сякерай — так тады і прыпёс у вёску нехта пачутае...

Можа, ад вечнага скрыпу і стуку ўпала сёлета, загарадзіўшы дарогу, каструбаватая асіна з дуплом, дзе былі восы? Бог ведае...

Раніца ў Чар-чагу не свеціць. Сонца за лесам, як па той бок зямлі. Хутчэй бы з нямой цемпаты...

Глуха пракрумкаў груган; у Чар-чагу рэха не было. Вось ён — чорны, сыты, як камяк. Над самай дарогай звіс з яловай лапкі, аж зыбае яе. Бр-р-р... Здаецца, ён павёў халодным з начы крылом ля лапатак...

Айцец Сабольскі сагнуўся ў дугу і націснуў на педалі. Аж ногі ў каленях знемагліся, занылі.

Асіну трэба мінаць ельнічкам, што ад дарогі заступіў лясную лінію-расцяроб. Можна было праскочыць і ля камля-карча, ды айцец збаяўся, зруліў на аб'езд, дзе палёг на запыленую траву і суравыя імхі абмалочаны калясьмі верас,— адны дудкі. Злезці і ўзяць веласіпед у рукі айцец не змог: ногі так прыкарэлі да педаляў, не адарвеш.

Ад цішыні млосна. Хай бы хоць груган той гаманіў, а то і ён удавіўся, пачуўшы ездака. Сцежка ўвачавідкі вузела, выходзіла з расцяробу; здавалася, елкі сваімі сухімі дзідамі праткнуць навылёт. Айцец спацеў.

І надта не рванеш. Дрыжаць рукі, не трымаюць руль, колы скачуць па чурбанах-гніляках. Тут, пад дарогу, яшчэ да вайны звозілі ў шляхты шпалы і рудстойку. Кругляк і доўга ляжалі на грунце без легараў, намоклі, і людзі не забралі іх на дровы, маючы пад бокам лес на выбар. Вось і гніюць яны гадамі. Ужо ельнік паспеў насеяцца тут і вырасці.

Пракляты расцяроб... Так трасе. Ужо svіціцца ельнік, там недзе палянка, дарога. Айцец Сабольскі ўздыхнуў і знямеў... Яму спачатку здалося, што ён упёрся ў яловы сук, які перагарадзіў дарогу. О, каб толькі гэта...

Перад вачыма цьмяна бліснула жалеза. За плечы пасыпаўся халодны калючы пыльнік, бы хто ўгары страсянуў елкі. Айцец нават не затармазіў, і тупая руля двух-

стволкі адпіхнула яго назад. Ён ссунуўся з сядла набок, на мох і верас...

Нечая рука, цяжкая, бы тая намоклая калода, лягла спачатку на плечы, пасля сцяла, як клюшнямі, шыю, не даючы пакруціць галавы, і пацягнула ў ельнік, туды, дзе расцяроб выводзіў на балота.

— Толькі пікні...— голас у гаспадара здзервянелай рукі зусім хрыплы.

У айца Сабольскага і думкі не было адвярнуцца: ведаў, чым пахне такое.

«Двое...— мільгнула думка.— Канцы...» — уваччу закруцілася зямля.

— Жывей, сука!.. Цэлыя суткі з-за цябе!.. Ану жывей!.. Канчай жагнацца, бо пераражагнаю...— зноў крыкнулі на яго хрыпла і злосна.

Айцец Сабольскі не прасіўся: адняло язык, богведама, быў на галаве мяшок ці не, толькі айцец нікога не бачыў. Але ён запомніў голас аднаго, хто быў ззаду,— сіпаты, прастуджаны. І яшчэ неяк запала ў памяць: адзін ці не малады? Як бацька з сынам... І ўсё...

Веласіпеда не зачапілі, ды і навоўка ён ім, павыдзіралі толькі ніпелі. Гэта каб не хутка раструбіў пра такое, калі раптам не ўздумае заткнуць рот.

Айцец Сабольскі падняў веласіпед з дарогі і пакаціў яго ў руках, чапляючыся нагамі за пні. Са скуры рваўся, каб пабегчы, але нельга было: маглі стрэліць ззаду, паабяцалі. І ён цягнуў адзервянелыя ногі; яны дрыжалі, дрыжала барада, што стала раптам калючая, як дрот. Айцец Сабольскі выцер з ілба халодную расу...

І толькі ля самага Закалюжжа, на ўзлессі, якое слыло Ваўкаўнёй, дзе ўсё перакопана вяскоўцамі — тут бугрыліся сховішча бульбы, ямы,— у айца Сабольскага заныла, забалела душа: пад пахай было пуста.

— Ляснулі грошыкі...— і ён заплакаў ад злосці і жалю. Не стрываў.

## 10

Званы аж раўлі, не даючы спакою Грыням. Галёкалі ў такую рань, дробненька танцавалі, пасля заходзіліся ў нейкім згрызотным лязгаце, бы хто пусціў па бруку на вуліцы наўздагон адну за другой усе патэльні з-пад прыпечка. Вось яны імчаць, падскокваюць, падаюць, узрываюцца з зямлі і зноў, як чорныя ашалелыя сабакі, куляюцца ўздоўж вуліцы.

Айцец нервавáўся,— злавалі і званы. Нельга было даць нават веры, што яны могуць так заходзіцца ў падгнілай і выцвілай драўлянай вежы на грынёўскай цэркаўцы, што ў канцы могілак за вёскай.

Да амбона айцец Сабольскі выйшаў, спазніўшыся на гадзіну. Быў як утрапёны. Нядоўга жагнаў натоўп, абарваў на малітве матухну-псаломшчыцу і заікасты клірас з вясковых бабулек,— і пачаў... Пачаў ка́зань.

Яго прыжмураныя вочы зрабіліся, як у мышы; круціліся, як, бывае, гузік на іголцы, калі яму даць пстрычку; бровы скакалі, што жывыя рыбкі на гарачай патэльні. Айцец шыпеў у злосці; здавалася, ён не крычыць, трасучы рукамі, а хапае вялізнымі клешчамі чырвонае каменне і шпурляе ў кадзь з вадою. Упрэў увесь і парыцца, як у натопленай цеснай лазні.

Ён кляў і зычыў пекла ўсім, хто адрокся ад царквы, хто плюе яму ў бараду, хто асмеліўся занесці ў тую ранíцу руку на каго... Святога айца...

Не доўга мучыў ён людзей праклёнамі, бо ад гневу мучыўся сам; распусціў раней, чымся другія разы, паслаўшы на дарогу яшчэ раз чорнае пекла, якое ўяўлялася яму як грынёўская смалакурня, і, зусім зблытаўшы зямное з магільным, зазлаваў і вылаяўся.

— Прыехалі з Закалюжжа. Да Хрыста. Дзедзіха са сваёю...

Голас матухны. Які лагодны. Як яна шкадуе яго, мужа. Айцец Сабольскі расчуліўся, адпусціў яе хутчэй дадому, да гаспадаркі.

Не мог ён сёння хрысціць, калі на душы агідна. Але ж як вярнуць вялікую ўтрату?..— айцец хапіўся за галаву:

«Падумаць, падумаць... Каб ведаў, хто... А можа, сказаць пайсці ў міліцыю? Не. Тых не зловяць, а людзі, чаго добрага, пасмяюцца. Павыскаляюцца. Не вераць, не вераць яны ў бога! О людзі, людзі... О беды, беды... Не мінуць іх...»

— Кума Зіна і кум Алёша...— аж хрыпеў ён у рызніцы, дзе наспех сам распрануў дзіця-недавярка і ледзь не ўсяго ўсадзіў у бляшаныя начоўкі з вадой.— «Раве, шчаня, вырываецца,— д'ябал пакідае душу яго. Святым расці стане гэты цяльпук, грэшны сын Міхаіл грэшных бацькоў з вёскі Закалюжжа. Святым...— усміхнуўся ойча Сабольскі.— Падняцца толькі яму дай. Больш нічога. А там падасца ў Чар-чаг і пачне... О грэшныя людзі... О беды, беды... Не мінуць іх...»

Усё сціхла. Нарэшце-ткі. Айцец Сабольскі стаў выціраць рукі аб вышыты палатняны, некім ахвяраваны, ручнік.

«З клопатам матухна. Цаны ёй не знойдзеш... Вымыла чысценька. Аж два павесіла».

Замілаванне і закаханасць да маладой матухны размякчылі душу. Прыйшла жаласць да сябе і да людзей. У айца дробненька задрыжаў падбародак:

— О людзі, людзі... О-ха-ха...

У дзверы пастукалі. Ціха і далікатна.

Айцец устаў; маўчаў і не кратаўся з месца.

«Хто? Матухна ніколі так не рабіла...»

Думкі — такія і гэтакія. Нарэшце здагадка: «Тыя!» І тут ратунку няма. Звядуць са свету, бо ўчулі, што не змоўчаў. І крык не паможа. Могілкі. Да хат далёка. А дзе Саўчык? Дзе той стараста? Куды кінуцца? Айцец Сабольскі не жагнаўся і не шаптаў малітвы: дрыжыкі калацілі яго. Памяць зусім высахла.

Пастукалі яшчэ. Цішэй і мякчэй, чымся першы раз.

Айцец Сабольскі пацыпаў да дзвярэй як стаяў: у расе, з крыжам у руцэ. Паслухаў колькі і тады асмеліўся:

— Хто, дзеткі, так позніцца?..

— Я... Мы...— жаночы голас.

«Зусім дзяўчынка...» — падумалася айцу Сабольскаму. Крыху адлегла на душы.

— Заходзьце, дзеткі...

Дзверы расчыніла дзяўчына. Белавалосая, белая з твару.

— Добры дзень...— прывіталася яна і ўсміхнулася.

У айца як гара з плеч спаўзла, ён уздыхнуў працяжна і натужна, што кавальскі мех.

— Просім прабачыць, ойча Сабольскі, за такі візіт, можа, і зусім не ў час. Але мы мусілі зрабіць гэта.

Айцец Сабольскі не верыў сабе. Перад ім стаяў сын Гаўрыліхі, той чарнявы студэнт, што, вунь, разоў семнаццаць за лета тарабарыў па вёсках проці бога і яго ж, айца. Ніколі не чакаў сустрэць блюзнера тут.

Што надумалі гэтыя?.. Можа, каб абвянчаў іх?.. Ён абвянчае! Тады будзе яго верх! Калі трапіў сюды недаверак, у таго няйнакш засвярбела душа...

Папрасіўшы яшчэ раз прабачэння, «недаверак» змоўк і маўчаў, прыпёршыся плячыма да вушака і заклаўшы назад рукі. Айцец Сабольскі намагаўся згадаць, што ў

яго на ўме, але колькі ні прыглядаўся, мог бажыцца, што той проста нічога не думае. Абы-як глядзіць на яго, айца. Горда нават свой ладны нос задзёр. Не, не мірыцца з ім прыйшоў сюды малойчык... Ці не ён учора быў у Чар-чагу? — аж скаланула айца.— Не. Гэты на такое не пойдзе...

Ён запрасіў прысесці. Тыя падзякавалі: дзяўчына ўголас, хлопец, кіўнуўшы з парога.

Гаварыць пачала яна. Айцец Сабольскі яе не ведаў, ніколі не бачыў. Пачала з надвор'я, з вёскі, спытала пра здароўе. Айцец Сабольскі падзякаваў і чакаў. Не дзеля гэтага прыйшлі людзі. Ён пакінуў на стале крыж, што выціраў пальцамі, і пачаў папраўляць расу.

— Мы слухалі вас сёння...— гаварыла яна. Айцец Сабольскі зазначыў, што яна называе яго толькі «вы». Хто яна? Але спытаць не рашаўся, чакаў.— Мы ведаем...

Айцец падаўся да яе:

— Вы ведаеце? Вы іх ведаеце?..

Яна зірнула на Леаніда — той і вокам не павёў.

— Мы ведаем, што вам крыўдна і цяжка,— шпарчэй загаварыла яна.— А ўявіце, калі б вы не былі айцом, такога б ніколі не здарылася...

— Вось як?! Што вы надумалі сказаць? Вы апраўдваеце бандытаў? — ён спалохаўся свайго голасу.

«Чаго прыцягліся, д'ябал бы заліў смалой вашы глытаўкі!..» — гарэлі вочы ў айца Сабольскага. Яны зноў пачыналі круціцца, як на ка́зані.

— Не-не...— адказала яна і замахала рукамі.— Не-е... Зразумейце нас. Мы прыйшлі пагутарыць...

Ён абарваў:

— Мне, дзеткі, няма пра што гаварыць з вамі! Я сёння сваё закончыў. Адпачыць дайце...

Ён хацеў скіравацца да дзвярэй, але сустрэўся вачыма з абыякавым да ўсяго «недавяркам», што прырос да вушака, як Хрыстос да крыжа, і не варушыўся. Мумія! Айцу зноў цюкнула, што такі быў у Чар-чагу, і ён падаўся назад, да акна.

Маўчалі. Айцец Сабольскі спацеў і памякчэў:

— Дзе ж вы, дзеткі, маеце шчасце працаваць?

— Я акушэрка. У вас у Грынях. Даўно.

— Такая маладзенькая, а ўжо прымае на свет божы дзяцей божых... Іх да Хрыста трэба... Адразу ж...

— Блытаеце, ойча Сабольскі, прабачце. Не дзяцей божых, а людзей, якія пры камунізме жыць будуць...—

перапыніў яго гэты «недавярак-мумія» ля дзвярэй.— Разумееце вы, камуністаў будучых яна самая першая на рукі бярэ, свет ім паказвае... Вы разумееце?

— Я разумею нарэшце, чаго вы наведалі мяне, дзеткі...— ён схіліў галаву.

— Скажыце...— спыталася раптам яна,— вы самі верыце ў бога?

Такое проста раз'ятрыла яго. Але ён змоўчаў. Відаць было, раздумваў — пайсці ці не. Можна было расчыніць дзверы і пазбыцца напасці, якая не розніцца ад учарашняй. Але яму, айцу, важна і тое, з чым жа пойдуць гэтыя душы, пакідаючы храм. Вырваць, уратаваць кожнага з твані блюзнерства,— ці не яго гэта клопат і абавязак? Перад богам...

Ён няшчыра ўсміхнуўся і паківаў галавою. Пасля матнуў ёю, бы стаў рагаты, як стары чорт, і камусьці сунуў рогам пад пахвіну і, з ухмылачкай, разявіўшы рот, спытаў, раптоўна і хутка — зашчабятаў, бы той верабей, скочыўшы з раллі ў баразну на чарвяка:

— А вы ў свой камсамол верыце? Камсамолка ж, па ўсім відно...

— Не блытайце, ойча Сабольскі, дзве рэчы — жыццё і смерць. Вы разумны чалавек і ў гэтым нядрэнна разбіраецеся...— гэта зноў «разявіўся» чорнагаловы «недавярак-мумія» ля дзвярэй, спакойна, бы проста так, сам сабе.

З ім айцец Сабольскі яшчэ не загаварыў і чакаў, што адкажа дзяўчына.

Яна толькі кіўнула галавой.

— Дык што можа быць за пытанне да мяне? — дакончыў ён уголас, відаць, сваю доўгую думку і пазяхнуў ні з таго ні з сяго, адвярнуўшыся да акна. Ён не жадаў больш размаўляць і не хаваў гэтага.

Але ёй, Галіне, трэба было нарэшце сказаць айцу Сабольскаму тое, дзеля чаго яна ішла сюды і колькі ўгаворвала Леаніда. І яна парашыла:

— Ойча Сабольскі... А ці змаглі б вы пакінуць царкву? — яна памаўчала.— Ну... пакінуць, як адзін з вашых зрабіў у Брэсце?

Айцец Сабольскі не адварочваўся. Не выходзілі і госці, чакалі. Айцец не рашаўся іх прагнаць: такія разнясуць па вёсцы ўсё, да макавінкі, з такімі трэба па-людску.

Ён падышоў да яе і паклаў руку на плячо:

— А вы б змаглі адрачыся ад камсамола? — ён павярнуў цяпер галаву і ў бок «муміі», што ні разу не варухну-

лася ля дзвярэй; ён ужо гаварыў з ім калюча, ашчэрыўшыся: — А вы б змаглі камсамольскія білеты выкінуць вон?

«Мумія» ля дзвярэй сачыла за кожным ягоным рухам і думкай,— айцец Сабольскі ведаў, хлапца не ашукаеш,— усміхнулася і загаварыла:

— Вы, ойча Сабольскі, на тым свеце ці на гэтым?

— А мы будзем мірна існаваць... Два светы... Вы разумееце? Хаця дзе... Малако не абсохла на губах. Нам дазволена не вамі. Разумееце цяпер вы? У міры існаваць. Вы і мы...— айцец Сабольскі гатовы быў пачаць сваю новую і, відаць, доўгую казань аб «мірным суіснаванні», але «мумія» ля дзвярэй дастала рукі з-за спіны і перапыніла яго:

— Ойча Сабольскі! Вы, можа, скажаце, што некалі ў вайну былі яшчэ больш разумнейшыя? Пойдзем, Галіна Фёдараўна, бачыш, ойча Сабольскі сёння не ладзіць з сабою,— павярнулася ажылая «мумія» да дзяўчыны.— А шкада, ойча Сабольскі,— гаварыла яна ўжо сама сабе,— што вы не захацелі паслухаць дзяўчыны. Яна ж першы раз у царкве. Чыстая, бязгрэшная душа хацела з вамі справу мець. Дзякуй за гасціннасць. Прыходзьце да нас у клуб.

Ціха-ціха зачыняліся дзверы. Зачыняла дзявочая рука.

— Гарох-х з-зялёны!.. Разбойнікі з Чар-чага!.. Кату пад х-хвост вашу анцімонію!..— шыпеў айцец Сабольскі на ўсю рызніцу.— Аграбілі... Тыя — грошы лупянулі, гэтыя — па душу прыйшлі...— ён асунуўся на крэсла.

Праз гадзіну яго вывела з рызніцы матухна — змізарнелага, хворага.

## 11

Прыйшло каханне — прыйшлі і слёзы. Куды знік спакой... Скрыпнуць дзверы — ён; бразне клямка ці вясніцы — здрыганешся, падасіся да акна, шукаеш яго вачыма і баішся нечага. Бо чакаеш... А не дачакаешся, не ўгледзіш — гарачыня сціскае грудзі.

Не ведала Галіна, што каханне — слёзы. А ведала б — ніколі не пакахала б. Але слёзы — раса. Бліснe дзень, хлыне жыццё,— іх няма, высахлі, абмыўшы, асвяжыўшы душу. Аднекуль пасля находзіць шчырасць, а то і радасць,— хочацца тады гаманіць бясконца, несціся на край свету, як узвей-вецер.

Падабаліся ёй і раней хлопцы, ды не было радасці, не падступаўся боль, не ажывала душа...

А ён? Ён не такі, як усе. Але ж кожны думае так заўсёды пра чалавека, без якога няма спакою... Яна ўсміхнулася.

«Няўжо яшчэ хто так можа пакахаць, як я, недарэка?»

Яна пакінула брамку, падалася вуліцай да ракі, дзе тады першы раз выйшла яму насустрач. Быў вечар, маркотны, ціхі,— верасвёвы. Пугі пахлі сенам, яшчэ не злежаным, свежым ад лета. Выдавала, што ідзеш шашою да гэтых далёкіх Грынёў з раёна. Трэба дыбаць, бо няма машын, а начаваць не выпадае. Заўтра раніцай — прыём. А медыкаменты ў яе, у студэнцкім яшчэ чамаданчыку.

Ідзеш, дзе паабапал дарогі пахнуць канюшынай скошаныя лагі. Гэта ля эртээсаўскай сядзібы. Там густыя і бліскучыя вербалозы ў абочынах, там на горцы малады садок. А за ім — цыстэрны, пафарбаваныя ў белае.

Пахне краскамі з поля. За логам — невысокія ячмяні, туды, далей пад альшэўнік, дзе рака — грэчка. Яна ў цвеце.

Ціха. Сонца яшчэ не зайшло, яно разлілося пераспелай малінай за хмарамі. Там пажар на ўвесь далёкі лес.

У паветры трымцяць-мітусяцца матылькі, ды пахнуць, пахнуць травы... Гэта недзе ад мёду. Галіна ніколі б не дала веры, што самыя пахучыя лугавыя кветкі тады, калі яны змерлі, ляжаць у прывялых пакосах.

Доўгая дарога пакідае ў памяці такія вечары назаўсёды...

Сённяшні вечар не той — халодны, з дымамі з комінаў. Яны сцелюцца, зносяць усе пахі, збіваюць іх. Ля моста паветра цёплае, згуслае. Ці не таму, што туман і дымы валакуцца ў гэта сырое нізкае месца?

Месяц — поўны. Зусім белы, лянівы. Выкаціў нехта яго з-за горкі, з-за гасцінца, і ён вісіць цяпер пад ліпамі, што ля калгаснага саду, і ніяк не можа ўзняцца вышэй, угору, цяжка яму.

Ні знай ні ведай чаму, Галіна не дбае цяпер пра таго, праз каго мусіла сёння ісці сюды, пад Лавацкія сады; можа, думы пра яго забірае надзея і радасць? А яна ад таго, што ён прыйдзе? Прыйдзе...

Галіна далей баіцца думаць.

Палёгшы на платы, спяць натапыраныя вішнякі і яблыні. Краші — прачнуцца, зашапочуць. Лісце на іх у расе, бліпчыць ад месяца, і здаецца яно халодпае. Прыкла-

сці б яго да шчакі, што гарыць, бы хто варам абліў. Твар недзе ў агні-чырвані, добра, што вечар.

На небе рэдзенькія воблачкі; плывуць хутка-хутка ў бок месяца, бы хто там, уверсе, раскалашмаціў лебедзя, і вецер зганяе лёгкае, белае, што снег, пер'е. Зоркі цьмяныя, іх мала, бо светла. Брэшуць сабакі па ўсёй вёсцы, не разбярэш у каго. Стогне рэчка ля заставак, тарахціць падвода на ферме. За дарогай, пад Закалюжжа, ракоча трактар. Яго добра чуваць: ціхі вечар.

Галіна паднялася на горку. Гэта за вёскай. Тут гудуць правады.

Пастаяла, паслухала, прычасала валасы; зашпіліла, а пасля зноў адпусціла верхні гузік у кофтачцы, каб не здушваў. Дастала з кішэні хустачку, пакамячыла ў руках і зноў схавала — засунула ў рукаў ды слухала, слухала...

Крокаў не было, а яна чакала іх.

Запахла ляжалымі яблыкамі, сырой зямлёй,— скапаным бульбянішчам. Ноч дыхала.

Можна хадзіць так паўз мяжу да поўначы, можна стаяць, прытуліўшыся да тыпу, можна праглядзець вочы ў шэрай начы,— ды хіба гэтым супімешся?

Стыне сад на холадзе; стынуць дзявочыя плечы пад кофтачкай, а шчокі гараць. І не скажаш нікому, не выплачаш крыўду...

Яго няма. Не прыйшоў. І хутка зусім паедзе. Не хочацца думаць пра гэта, ахвота збегчы, не трапіць цяпер яму на вочы. Хочацца быць дзяўчом год чатырнаццаці, калі для цябе ўсё-ўсё наперадзе, калі каханне, можа, толькі пачынаеш чакаць,— з дня на дзень, з году ў год.

У грудзях горача, ад крыўды мусіць. Цяжка яе стрымаць. Не прыйшоў... Каб можна было яго цяпер, адразу ж, выкінуць, вырваць з душы...

Сад пахне ападкамі. Абабітыя ветрам, улежаныя ў сапрэлай ад начных рос атаве, яны цяпер — мёд, малінавы чай, бальзам — што хочаш... А плады, зусім познія, асеннія, што бялеюць за платамі на дрэвах,— недзе крамяныя і халодныя, іх не ўгрызеш. Яны цвёрдыя і кіслыя, іх толькі на зіму хаваць. Познія антонаўкі... Такіх шмат у грынёўскіх садах.

Вартаўнік не спіць, кашляе, курыць. Але ў чыстым і густым паветры не чуваць тытуню,— відаць, свежасць цягне яго адгэтуль пад раку, за сады.

Забрахаў быў сабака — учуў яе. Але змоўк, бо гаспадар яго не адзываўся.

Галіна прысела на камень. Толькі крышачку, каб, можа, супакоіцца ненадоўга. Камень шэры і зусім цёплы. Пад нейкім высокім дрэвам, мусіць, пад грушай. Бялее пад нагамі дарога, што спускаецца з гары да моста і недзе нікне там, дзе шваргоча па каменні рака. Там свецяць агнямі хаты. Грыні вячэраюць пасля поля; не спяшаюць познія гаспадары. Вёска маўчыць: моладзь у клубе. Там жа і ён, яго прычакаць трэба, бо даў слова.

Яна мае віну перад сабою — сама сказала яму, што будзе чакаць; сама загаварыла пра спатканне...

Месяц, папаўнелы і пабляклы, выплыў з-за саду. Павіс над дарогай. Сарвіся ён цяпер адтуль з вышыні,— якраз бы ўпаў на жвіраватую дарогу і пакаціўся б у Грыні аж на самую вуліцу.

Заныла душа, зашумела ў галаве. Ці не ад таго, што за садам на шашы загулі маторы. Угледзеўшыся, можна было заўважыць,— ідуць машыны з прычэпамі. Дарога сёння не сціхала на ноч.

Успомнілася першае спатканне ў гэтым краі з Леанідам, там на шашы, у лесе. Тады ён быў як вялізны чорны матыль, выхаплены з цемрыва фарамі. Хто б мог думаць тады, што гэта ён. А мог тады і загінуць. Такі неасцярожны... Смелы...

Сад засынаў. Не кашляў вартаўнік, не шасцелі яго лёгкія ногі па апалым і высахлым за пагоду лісці,— улёгся спаць. Надакучыла яму тырчаць на варце ля гэтых позніх антонавак. Хто іх зачэпіць...

Шамацелі зрэдку пад плотам па лісці мышы. Асцярожна... Ці не норы набівалі дабром на зіму. Крактаўенчыў у канцы вёскі жураўель: нехта з грынёўцаў запасіўся, каб халоднай раніцай не бегчы да студні. Так рабіла і яе гаспадыня, паліваючы ўранку гаршкі ўчарашняй вадою з вёдзер, што начавалі ў сенцах.

Стала холадна. Перасохлі вусны. Кідала ў дрыжыкі. А мо гэта месяц мітусіўся ў вачах? Не, ён спакойны, ленаваты і да ўсяго цікаўны.

На душы цяпер зусім лёгка, як пасля слёз. Занылі ногі і плечы. Галіна ўстала, прайшлася паўз гароды і зноў прыхінулася да плота. Пасля аж адскочыла, нехта ішоў, шасцеў па мяжы. Не, не ён. Бег вартаўнікоў сабака. Мусіць, збегаў у вёску, не адно чужое карыта вылізаў і цяпер лена трухаў у будку да гаспадара. Надзейны памагаты... Да-

чакаўся, пакуль гаспадар звёў вочы, і шукай яго — ветра ў полі.

Ля Галіны спыніўся, пастаяў, памахаў хвастом і праціснуўся між жэрдзя ў сад. Мо не асмельваўся брахаць, каб не разбудзіць на сваю галаву чалавека, а можа, Галіна здалася яму сваёй. Яна ж колькі блукае тут... Так думалася ёй.

Ад ракі прыплыў туман, аж да саду. Здалося, што пацяплела. Галіна зноў апусцілася на камень.

## 12

Леаніду сёння не першаму давялося выступаць.

Да таго ж не адразу сабраліся людзі, як хацелася. Прыйшло к пачатку чалавек семнаццаць з чатырох вёсак-брыгад — і ўсё. Трэба было чакаць. Ішоў час і не абяцаў нічога добрага.

Прывялі музыкаў — двух гарманістаў. Яны абудзілі вёску шалёнай полькай і схаваліся ў клубе. Цяпер чакай!.. І пасыпаліся дзяўчаты, як пшаніца з-пад шуфля. З гэтага і трэба было б пачынаць. Неўзабаве, пазагінаўшы брылі, пераступілі парог хлопцы, панабівалася дзетвары, прыдыбалі старэйшыя, спаважныя гаспадары. Праўда, іх меней. Паселі наперад жанчыны-сакатухі, без якіх не абыходзілася ні на адных танцах. Трэба ж было ведаць, хто з кім «гуляў» і каго стаў праводзіць дадому.

Хацелі адкласці танцы на пасля, ды так і ў аб'явах было павывешвана па брыгадах, але ж грынёўцаў хлебам не кармі, а музыку дай.

Танцы зацягваліся, і Леанід нерваваўся. Праз якую гадзіну, ну хай з гакам, трэба быць там, куды паабяцаў не спазніцца. Ён хадзіў паўз сцяну ды скуб пасму валасоў, што звісалі на лоб.

Нарэшце-ткі выціснуўся з грамады Авяр'ян са Станіславам Пракопавічам. Яны павінны былі сказаць сваё перад лекцыяй. Умоўлена ж...

Гармонікі на куце захліпнуліся, і ўсе рассунуліся па лаўках. Поўен клуб. На сцэне за сталом, дзе месца прэзідыуму, селі Авяр'ян, старшыня і Васіль Міронавіч. Яны заўсёды былі на вечарах і сходах, прыйшлі і сёння. Убачыўшы ля акна Леаніда, клікнулі і яго на сцэну.

— Таварышы, ціха!.. Ціха!.. Вечар барацьбы з перажыткамі ў свядомасці і гэтак далей... Ціха, таварышы!.. Лічу адкрытым...— перагінаўся за трыбунай Васіль Міро-

навіч і махаў рукамі.— Са словам выступіць сакратар калгаснай партарганізацыі Авяр'ян Сачыўка... Цішэй там у парозе... прасіў бы я...

Высокі, светлавалосы, з усмешкай, Авяр'ян з Грынёў, касец-двухнормавік, паправіў на грудзях новую ваенную гімнасцёрку, палапаў за кішэнькі і пачаў вычытваць з газеты, што ляжала перад ім на палінялай і абшарпанай трыбуне, пункты адзін за адным.

Цішыня стала на зайздрасць, што нават і Васіль Міронавіч, так дамагаючыся яе, не чакаў. Не шушукаліся, не сыкалі, не соўгалі нагамі, нават не курылі. І калі Авяр'ян скончыў — усё роўна маўчалі.

— Зразумелі? Га?! Не? Растлумачу. Ну хоць бы гэты пункт, самы стражэйшы. Хаця, што вам чытаць было... Вы з раніцы з газет самі ўсё выведалі. Трэ было адразу тлумачыць.

— А ты не думай, што разумнейшы...— ціха сярод цішыні данеслася ззаду да застолля цераз доўгую залу. Не ўчулі за сталом, хто сказаў, ды і не звярнулі ўвагі.

Авяр'ян толькі выпрастаўся, пасля яшчэ больш падаўся да залы:

— Той, хто займаецца самагонакурэннем — гэта значыць, гоніць самагонку і спекулюе ёю, што азначае — прадае па рублю паўлітра, як наша Раіна,— караецца па суду ад...— ён ці не забыўся лічбы, бо нагнуўся паглядзець у газету... І тут яму не далі гаварыць.

— Га-а-а-а!..— пранеслася па ўсім клубе і ўжо не сціхала. Суняць людзей, здалося, было не пад сілу.

— Ён мяне ўбачыў!.. Ён угледзеў мяне!.. Пад суд аддае... Падумайце... Людцы...— Раіна пабівала ўсіх. Яе голас быў высокі і прарэзлівы, бы яна мянціла не языком, а скрэбла дзеркачом па бляшаным вядры.— А Выжлятнік, а Джвучка, а Пэрцы... Як іх, то не бачыш... А тут упёрся во... А божачка, а людцы...

Нарэшце яна засаплася, змоўкла. Кончылі гаманіць і другія.

— Для чаго я тлумачу? — Авяр'ян пачаў гаварыць больш ціха, затое цвёрда.— Не для таго, каб пад суд каго падводзіць. Гэта лёгка было б зрабіць. Выйшаў сёння ўказ, сабраліся мы, ну хоць бы ўчатырох, як цяпер,— паказаў ён на застолле,— і да Раіны ці да Джвучкі!..— Авяр'ян ткнуў рукою ўперад і яшчэ больш нагнуўся да грамады.— Вось вам і суд. А вы яшчэ крычыце пячага. У вас жа ночы-апоўначы хто захоча — знойдзе дудкі з вершнікамі...

Дык вось! Тлумачу... Каб больш ніхто не ўздумаў заводзіць брагу і дыміць днём ці ноччу ў варывеньках ці дзе там яшчэ... Раіна, а ці ў памяці табе, як, хаваючыся, ты была на гары раз уздумала агонь раскласці ля чыгуна? Ты ж вёску магла спаліць. А дзела на цябе падавалі? Не. Можа, і дарэмна пашкадавалі, га? Дык не позна яшчэ...

— Пабойся бога, Авяр'янка... Чаго ты да яе прыліп... Ну гнала кабеціна. Хто той гáры не гнаў, хто яе не піў?.. А цяпер, во, не будзе, як вы расказалі, што да чаго...— гэта аж са скуры лезла, заступаючыся за Раіну, маленькая Волечка. Сама ж была не без грэху. Авяр'ян ведаў. Але яна хітрэй за Раіну, і зламіць яе не давялося.

— І чаго ён да яе? І нашто яна яму?..

— Як чаго? Ты не ведаеш... Разам Пэрца спайваеш...

— Не ўзнімай ты ліха, чалавеча!..

— Хай таварыскім судом за самагонку судзяць!.. Я, ён, мы, усе... Фуліганаў жа дык судзяць.

— Уздумаў жа во...

— І што яму Раіна зрабіла? Вока запарушыла?!

— Праўду Авяр'ян кажа. Даўно пара закрыць у яе спіртзавод!..

Клуб грымеў, шум мацнеў, сціхаў, раптам узнімаўся смех, аж столь, здавалася, ад яго трашчыць і карабаціцца.

— Думаю... Ды цішэй вы там, на задніх!..— Авяр'ян узяў сваё голасам.— Думаю, што мы без абгавораў скончым. Вось што... Прымем гэты ўказ з першым і апошнім пунктам і прагаласуем. Хто за тое...

Дагаварыць не далі. Зашумелі і пацяглі ўгору рукі. Усе, да аднаго. Маўляў, галасуй не галасуй, а як ціснулі гáру, так і будуць ціснуць. Толькі больш ціха.

— І помніце, запішыце дома на чалесніках, што з заўтрашняга дня і праз тры дні запар усе павінны знесці апараты, тлумачу: дудкі, вершнікі, ды і бітоны ў каго, як у Раіны... знесці да калгаснай кузні. У каго пасля гэтага знойдзем такія штукі — па галоўцы не пагладзім. Учынім па закону. А ты, Раіна, не чмыхай і заўтра ж першая прыцягні ўсё ў кузню.

— А што ёй тады рабіць? У баптысты ісці?

— Га-га-га...

— Ды цішэй! Заткніся! Дай паслухаць чалавека. Толкам гаворыць...

— А піць што будзеце вы, мужчыны? Чым душу прымаціце? — жартавалі з зала, але не весела. Нехта падбрэхваў...

— Мяне гэтым не пад'ялдыкнеш!.. Я не п'ю, як ты, хто там... І магу тлумачэнне кожнаму даць, чаму.— Авяр'ян ведаў, што гэта не ўсё, і не спяшаўся падавацца да застолля.

— Можа, нарад мне дасце заўтра звозіць дуды да кузні?! — запішчала раптам непрыкметная, маленькая Волечка з Закалюжжа. Ад яе рэдка можна было слова пачуць на сходзе. Ціхоня. А тут... Бачыць, што другія, то і яна.

— А ты ў брыгадзіра спытай...

— Ты-то, Сачыўка, не п'еш... Ну і старшыня з табой... А што брыгадзіры будуць са сваімі горламі рабіць? У магазін не пададуцца ж. Там жа не дармавізна, туды ж капя не прадасі за маскоўскую...

Волечка, выходзіць, не сама надумалася сёння так выказацца. З-за яе плячэй падняўся быў і сеў Выжлятнік. Ён нацкоўваў. П'яны, мусіць, бо дровы ж цягаў сёння гэтай самай Волечцы на рабой кабыле.

— Слухай, Выжлятнік. Напіўся, то паўзі спаць і не сунь свой язык на гарачую патэльню. Ён у цябе чуць вісіць, як ануча... Не бяруць свайго тваё кпіны, бачыш... Не шыпіць... А ты, калі заўтра не адцягнеш да кузні свае дуды, віні сябе... У мяне ўсё, таварышы калгаснікі.

Авяр'ян сеў за стол, даючы знак, што больш гэтакіх запытанняў ніхто слухаць не хоча і не стане.

Старшыня не выступаў. Мужчыны параіліся і пакінулі застолле. Авяр'ян з Васілём Міронавічам селі ў пярэднім радзе, а старшыня падаўся з клуба: перадалі, што яго на вуліцы чакае машына.

За сталом застаўся Леанід. Пагартаўшы наспех лісткі ў блакноціку, прычасаўся, зірнуў навідку ва ўсіх на гадзіннік і заняў Авяр'янава месца за трыбунай.

«Рэлігія — опіум народа...» — падумаў. Да гэтага калгасны клуб слухаў яго лекцыі пра Месяц, космас, пра святы вялікдзень...

Сёння — яго апошняя сёлетняя лекцыя. Трэба змагчы растлумачыць, як рабіў тут толькі што Авяр'ян, што вера ў бога ніколі нікога не ўзнясла на неба, не падбіла ніводнага грынёўца на самы звычайны сялянскі подзвіг — скасіць восемдзесят сотак мурагу. Што яна — ручнік тых, хто, прысвоіўшы чужое, хоча ўцерці і душу і рукі... нават ад крыві. Яна — для цемрыва. А для чаго пачарнелы трухлявы абраз у новай хаце? На куце яшчэ...

Пад носам цытаты: думкі класікаў, падкрэсленыя ў

блакноціку, разгорнутая «Біблія» Емяльяна Яраслаўскага.

І тут, застаўшыся адзін на адзін з людзьмі, якіх ведаў даўно, а многія вунь з тых мужчын, што ў кутку на лаве, яго без штаноў яшчэ помняць, ён зразумеў — грынёўцам трэба грынёўскае...

Выплыў сам па сабе з усім сваім нутром — што з неба зваліўся ойча Сабольскі...

Леанід загарнуў «Біблію» і адышоўся ад трыбуны.

Клуб загаманіў і змоўк. Як дождж, бывае, пры пагодзе,— урэжа і няма яго.

Леанідавы словы ўпалі на душу Авяр'яну, як нешта далёкае, знаёмае; яны краталі яе, вярэдзілі, як, бывае, усшалелы вецер сухую траву дзе на паляне-імшары; трэслі, як бура малады вербалоз, зрываючы лісце і несучы яго ў чысты свет...

Думкі ўскруцяць у галаве боль і гора, пранясуць прад вачыма былое і, можа, напалову забытае. Іх варта толькі пасеяць. От жа, скажы...

Авяр'яну ў памяці, як у тую раніцу ў нядзелю, прыскочылі дваццаць верхавых у Закалюжжа. Коні ў пене, людзі задыханыя і прагавітыя. Не шнырылі па дварах, не пыталі стрэчнага-папярэчнага. Ім было расказана ўсё і ўказана.

Авяр'ян тады з'ехаў у Закалюжжа з Грынёў, да цешчы. Выехаў адтуль і Перапёлка — дырэктар лесапілкі. Не схацелі быць на воку, калі людское атрэп'е высыпала, што пацукі з нор, і палезла служыць у грынёўскую валасную паліцыю. Цяжка тады было ўцалець пад бокам у тых, каму раптам стукнула ў дурную галаву ісці служыць немцам. Некаторыя сунуліся туды проста, каб звясці з кім рахунак, маючы ўладу: павязку, прыкла́д і бізун.

Авяр'ян знаў тады, што Перапёлку выдалі.

Коні не тоўпіліся на двары. Іх пакідалі на вуліцы нават без прывязі: нелюдзі рваліся да свайго.

Перапёлку выцяглі з каморкі на двор і прыставілі да сцяны.

Сонца толькі што пачынала ўзыходзіць. Чырвань з-за хлява хлынула на паркан, на сцяну, на грудзі чалавеку.

— Партыйны білет!

— Няма. Беспартыйны.

— Чырвонаармейскую кніжку!

— У хаце... У стале...

— Малюшыц! Уласік! Абшукаць стол!

Начальнік валасной паліцыі, нейкі Буйка,— ніхто не чуў, адкуль і як ён апынуўся тут,— здаровы, крываногі, даўганосы і шэры з твару, можа, не захацеў адразу адправіць на той свет ахвяру. Бо для чаго тады ўчыніў допыт?

Праверылі ўсё, да паперынкі. Нашто спатрэбілася Буйку самому пераконвацца, хто такі Перапёлка... І што быў за чалавек Буйка,— невядома. Неўзабаве ён знік, казалі, што яго расстралялі самі немцы.

— Уласік, каня! Дарэмныя раз'езды! — крыкнуў тады ён.

Дваццаць коней, узбіваючы пыл, галопам пацокалі з вёскі, як і з'явіліся.

Перапёлку не зачапілі.

Не забылася, хто шыпеў тады з-пад калоды: вуж, кусі!.. Гэты ж Сабольскі... У яго з Перапёлкам нелады былі. З лесапілкі перад самай вайной вытурылі...

Авяр'ян доўга думаў пра сваё... Пасля яму ўспомнілася і другое. І ён ужо не мог спакойна слухаць хлопца, які хваляваўся за трыбунай.

Іх было двое: Сабольскі і Пятрок Габрусёнак. Сабольскі ўгаварыў Габрусёнка застацца дома на якія суткі, і цяпер другі ўжо тыдзень яны пякліся на сонцы на Габрусёнкавым панадворку.

Сыходзіліся штодня. Сабольскі сам поўз, прыгорбіўшыся, да Габрусёнка. Гародамі, ля платоў. Заўсёды, бо Пятрок быў лены — цюлень — і нікуды, здаецца, не думаў кратацца са стойбішча. Асвойтаўся ж, бабыль. А так праседзець доўга ці выпадзе. Гэта не пры партызанах...

— Пятрок... Дык што? Няўжо ты ані на дух? Заўтра ж пададзімся ў раён, кажу. Усё роўна ты сваіх не дагоніш ужо.

— Ці не зноў ты са сваёй льготай прыцёгся? Выставілі там яе табе. Чакае. Ты ж нават не партызан.

— Абмазгуем, галава... Толькі без льготы, брат, цяпер дома не седня. І так нам ужо, што захочуць, могуць прыпаяць. І табе, і мне. Прышыюць дэзерцірства і...

— Ну што?! Ну што?! Ну што я зраблю? — У Габрусёнка ўсхадзіліся нервы. Такое з ім было рэдка.

Яны забаўляліся на парозе ў зрубчыку, што Габрусёнак не дакончыў пад варывеньку. Пятрок — тыдзень які назад — партызан-кутузавец. Ён толькі чуў, што іхняя

брыгада праз палявыя ваенкаматы даўпо ўлілася ў вайсковую часць і прыняла бой ужо ля Гродна. Сам жа застаўся, паслухаўся гэтага... Ды і ў партызаны бадай ці пайшоў бы, каб яго ў сорак чацвёртым увосень не мабілізавалі.

Аўтамат пры ім. Габрусёнак скляваў кулямі ўсё ніжняе бервяно — нервы. Цяпер ён бярэ і мецiць у шпакоўніцу, што цераз вуліцу ў суседзяў на тапол і.

Яго напарнік — ссутулены, раскіслы. Таму не да шпакоў. Ён хацеў бы, каб не рабіць стрэлу, але ж цяпер у вёсцы ў кожнага дзіцяці «ламачына» ёсць,— смаляць вунь дні-ночы.

— До! — кладзе ён сваю мурзатую руку на худы плячук Габрусёнку.— Закінь гэтую жалязяку за зруб дзе... Вось што. Я — за старшыню, ты рахункавод і брыгадзір. І льгота — наша! Га? Што твая мазгаўня думае?

— У раёне без знаёмства... якая ж льгота? Здурэў. Ні знай ні ведай, хто там цяпер? Ды і які з цябе старшыня? Ты ж толькі перад самай вайной, лічы, у калгас прыйшоў. Хаця...

Габрусёнку ўсё роўна. Маўчыць, курыць.

— Знойдзем, Пятрок, усё знойдзем. Не забывайся, што ад фронту не ўцячы, калі што не так абмазгуем. А немец недабіты. Так што недалёка ад дому ў горла ткнуць. Не ціўкнеш...

Па струхлелым ніжнім бервяне поўзалі мурашкі. У вуглу абвісала павуцінне. Густое, моцнае, што з нітак. На ім нават апілкі і пясок улежалі. На зямлі ля парога — плуг, без ручак, без нарога. Саржавелы; аж уеўся пяткай у бервяно. Габрусёнку стала чагось шкада, прыкра. Ён сплюнуў, ужо ў злосці.

Ці не гэты так ўгаворваў яго застацца на адну ноч дома, хітры і сквапны чалавек, што нават і ў апошні час выкруціўся ад партызанскай мабілізацыі,— адгаварыўся, што скуры пачне выраб ляць на боты. І пачаў. Не так партызанам, як на збыт...

Вайна — мітусня, згуб галавы. Адаспацца, аддыхацца, плюнуць на ўсё хоць два-тры дні, а там — бог бацька... Гэта таго довады.

— Усё панішчылася, у глум пайшло, Пятрок. Хаця, што табе, адзінокаму, як пальцу. Прыб'ешся некуды. А тут — голыя, босыя. Людзі жыць пачынаюць. У многіх ёсць за што... ёсць...— Сабольскі зморшчыўся, пасля ажыў і шлёпнуў Габрусёнку па калене.

— А ты паможаш, ведаю. Нам ночку, толькі ночку выкраіць. Ды заўтра ў раён. Пашнырым. Прыткнёмся недзе, быць не можа. Не ў нас, дык у людзей. У чужых яшчэ больш з рукі. Прыйду да цябе прыцемкам. Трэ будзе каняку запрэгчы. Ты зробіш...

Было пад вечар. За далёкім полем над бярэзнікам, дзе аж ля зямлі вісела сонца, паўзлі барвовыя воблакі. Там шашэйка, пясок, пыл. Жнівеньскі гарачы вецер высушыў яе за дзень, пайшлі танкі,— і яна задымiла.

На захадзе грукатала. Над самай вёскай, здаецца, зачэпяць асверы, поўзалі самалёты. Вылі, аж у вушах шумела.

Габрусёнак нічога не адказаў. Можа, і не слухаў. Яму ўсё адно, ды і рукі знебыліся без работы.

— Ваўка ногі кормяць. А ноч — папаска. Не цябе вучыць...— чуў Габрусёнак і не мог слова сказаць насуперак.

Пятрок застаўся адзін.

Цямнела ў пыле далёкая дарога.

А жыццё? Хіба не такімі дарогамі спаласавана? — гэтак разважаў тады чалавек.

...У хаце не плакалі, не прасілі. Толькі цiснуліся да печы дзеці.

Сям'я была небагатая. Кульгавы гаспадар, на ложках — зрэб'е. Можа, толькі таго і жыцця, што ў хляве карова?

Яны — з аўтаматам. Ад іх людзі ў страсе. Не, яго, Петрака, не баяліся: ён быў пры кані. А Сабольскі... Як яго насіла па двары... Да сцяны кульгавага прыстаўляў. Звыкся за свае «аперацыі». У вайну ніхто ж не глядзеў, як і дзе дабываў ён вазы смаленых парсюкоў. Але ж цяпер... Як жа так? Петраку было несамавіта. Але ўсё роўна, не для сябе ж.

Так яно і мінула б, каб не палез Сабольскі па зрэб'е ў куфар. Заняўся хто ведае чым... Не згледзеў нават, як шмыгнуў за парог кульгавы.

Апомніліся па часе.

Пагналі былі каня,— не папрэш: каравяка ззаду. Прыйшлося кінуць яе...

А тут цемната, ноч. Хутары без агню, без сабак. Трапілі на незнаёмую дарогу...

Стрэл абудзіў цішыню, бы хто жалезам ударыў па бляшаным вядры. Бухнула пасля разы два над галавой. Стралялі з нямецкага карабіна, разрыўнымі. Збоку, з другога хутара, наўздагон.

Дабег той кульгавы... Сам, відаць, зброі не меў...

Дарога пайшла лазнякамі. Конь учуў кулі; можа, ён гэта і даў убок.

У адказ на стрэлы чыркнулі з воза дзве кароценькія чаргі. Сыпанулі дзве жменькі трасіруючых куль — чырвоных пчолак — туды, на двор...

Конь рвануў па загонах, па крушнях камення. Ад калатні, здавалася, грукалі косці.

Пятрок азірнуўся: ці не паклікалі? На возе нікога не было. Спыніўшы каня, Пятрок саскочыў далоў, не ведаючы яшчэ, куды і чаго. Яго клікаў Сабольскі — поўз ззаду, ледзь валок сябе. Чорная, рухомая куча... Пятрок усцягнуў яго на калёсы. Пад енк і лаянку перавязваў. Дзе,— і сам не памятаў. Па галёнках, мусіць.

За імі не беглі: заняўся агнём хутар. Сухі ад лета будынак гарэў, як сярнічка.

Яны з'ехалі ў яр і звярнулі да Віліі. Полымя знікла за лесам.

Ноч, што сажа. Цемень згусла, як дзёгаць, боўтаецца пад калясьмі гразь. Храпе конь, цёпкае; на карэннях трасуцца калёсы.

Сабольскі напінаецца, крычыць,— змогся ад болю... Пятрок маўчыць, упарта паганяючы каня.

Мінулі Вілію, перабрылі цераз Каменскі брод. Выбраліся, схаваліся ў лесе. Тут балота, альшэўнік. Квокчуць у гразі колы, шапочуць па лісці. Цяжка каню.

Ззаду пад Каменам ледзь ірдзіцца, дрыжыць зарыва. Лускаюць стрэлы. Счакае нехта — і зноў. Бы ў чалавека патроны не пад рукой, а далёка за пазухай.

Пятрок не думае. Не ў галаве яму і тое, што на калёсах паранены Сабольскі. Наскочыў той на сваё, не мінуў ліха. А фронту, як агню, баяўся. Вось табе і фронт. Пад бокам. На печы. Пагнаўся-пага́ліўся, на багацці галаву звярнуў...

Храпе конь, стогне Сабольскі, рэжацца кола аб атосу, яму цесна.

Над галавой чорнае неба, як намоклы, цяжкі рызман.

Бліснулі былі зоркі, як іскры ў даўнім прыску ад ветру,— дзве-тры.

Закалюжжа яшчэ было далёка.

...Двое доўга блукалі ўначы. У аднаго балела душа, другі не мог трываць ад раны: куля яму пашчапала галёнку.

Адзін затым не вярнуўся дадому пасля вайны, бо не

мінуў фронту. Пра яго смерць паведамілі ў вёску. Чалавек, можа, і праўда хацеў змыць з сябе цень...

Другога — рана загнала ў шпіталь, выратавала-такі ад фронту. Ён лічыў, што пашчасціла. Яшчэ ў Вілейцы, у бальніцы, ён тыкаў у нос сваімі паперкамі — дакументамі і сёстрам і ўрачам. Ён — партызан. Насіўся з імі і ў раёне, і ў вобласці, пасля аж у Штабе партызанскага руху неяк выстараўся паперу, дзе значылася, што «рана палучана пры выкананні баявога задання». Дабіўся быў другой групы інваліднасці і пенсіі.

Спачатку моцна кульгаў, спатыкаўся; усё крычаў, што праз гэта не захацелі яго зрабіць старшынёй у калгасе. На ключніка сам рваўся пайсці, ды жанчыны да кладовай не дапусцілі і блізка. Паставілі яго брыгадзірам.

Бегаць па полі кульгаваму? Ён палічыў, што з яго здзекваюцца, і плюнуў на ўсё,— застаўся збоку прыпёку.

Аднойчы здарылася, што яго зачапіў неяк старшыня сельсавета Юшковіч, што застаўся пасля Перапёлкі. Перапёлка пайшоў на фронт.

Трапіўся кульгавы чалавек на вочы Юшковічу. Хлеба лёгкага стаў дамагацца, жыццё клясці.

— А ты б, як цябе там... у папы падаўся б. У нашу царкву, я чуў, поп патрэбен. Я на тваім месцы лягчэйшага хлеба і не выбраў бы... Абібок... Кінь лайдачыць, кажу. Жанчыны рыдлёўкамі загуменне ўскапалі... Сама ўпору такога бугая зацугляць. Душы няма...

Юшковіч пажартаваў, а Сабольскі дачыкіляў якраз куды трэба. Быў знік надоўга з вёскі, а перад самым канцом вайны на вялікадня правіў ужо службу ў грынёўскай царкве.

Двое блукалі ўначы. Адзін з іх, можа, і выбіўся б на рань, каб не загінуў; другі і цяпер галёкае ў цемені, трывожыць людзям душу, цягае сваю рызу з хаты ў хату ў калядніцу.

А можа, чалавек хапіўся за свае грахі?

Ёсць што залечваць...

— А вы?.. Вы?.. Што думаеце?! Да каго цягне вас? Па што? Забыліся?.. Хаця, з выгадай поп. Вы яму даравалі грахі, чаму ж... І ён вам даруе. Любыя. Свой. Самі выгадавалі. На сваіх грахах. А грашыць і вы не зломкі... не толькі ойча. Ёсць. Пальцам пакажу!

Леанід аж заходзіўся за трыбунай. Увесь кіпеў, махаў рукамі — сек згуслую духату ўгары пад столлю.

Свяжыла здалёку, праз расчыненае акно. Сырая ноч

несла ў клуб пахі старых гуркоў, зялёнага яшчэ кропу з агароду і сыпала белых матылькоў на агонь...

І раптам голас... Высокі, нібы рэжуць каго. Клуб — як на вуголлі. Замітусіўся, заківаўся; заскрыпелі лаўкі, штось трэснула, забарабаніла, шлёпнулася вобземлю. Цішыня бы і не начавала.

Плакала Раіна, хліпаючы і прымаўляючы:

— А па-айду ж я адгэтуль... А ізно-оў на нас наваліліся... А і гэты недавярак... А што яму трэба?.. А на-ашто ён чапае чалавека боска-ага?..

Сыпануў малады смех, як густы дождж. Падкасіў плач-хліпаўку, заткнуў на хвілю піскляваe горла. І тады пачалося... Як ветрам сарвала — сплялося, счапілася, зблыталася...

— Чаго крычыш, нябітая?..

— Нашто яму Сабольскі? Нашто чапае папа?

— Пра ўсё ўжо забыліся. І ці праўда гэта?

— Ча-аго наплёў... Во да чаго іх давучылі! Во!..

— Бачыш, як выдумляе. Спец...

— Выдумаў усё, выдумаў... Жартачкі...

— Цягне, што ката за хвост... Я, мілы, прама скажу...

— А гэты прабраўся ў папы... Скажы. Залез...

— Пад суд яго! Дзізярцір...

— Абсалютна!..

— Было... Было... Яшчэ і якое. І сягоння каменская баба скажа, як ён спёк яе... Жывая...

— Каравятнік!

— Абраза! Цяпер не даюць папоў абсмейваць...

— Мала яму гэтага...

— Папы ўсе такія...

— Гнаць! Ён мне спаць не дае шторань! Балбоча ў званы, як цацярук... Над вухам...

— А ты хату адсунь далей ад званоў...

— А трэба яны нам, як сытаму кату масленіца...

— Ха-ха-ха...

Леанід чакаў. Выгаварацца — сціхнуць. Не. Тут не тое: пачалі ўставаць, разыходзіцца.

На сцэну ўскочыў Авяр'ян, спыніўся ля трыбуны, заззлаваў.

Клуб — што ўспораны вулей. Не зважаюць і на Авяр'яна.

— Ці-іха!..— ажно крычыць ён.

Не памагае.

— Адступіцеся ад дзвярэй! Ад дзвярэй адыдзіцеся, ка-

жу!.. Ніхто не аб'явіў, што лекцыя закончана. Што гэта?

Шум ападаў. Людзі ўслухоўваліся, можа, таму, што чалавек стаў шмат гаварыць. Паднялі галовы.

— Што за панада, скажыце мне, распаўзацца? Га?

— Раіна збегла...

— Га-га-га...

— Таварышы! — Авяр'ян спакойна адышоўся ад трыбуны.— Ад праўлення і калгаснай партарганізацыі дзякую студэнту Гаўрылаву за помач. А там,— ён кіўнуў у зал,— ці не ты, Волька, ды і многа хто, распіналіся, што такога не было. У мяне спытай. Скажу... Ды і ў другіх, калі мо памяць самой адняло? Другія помняць...

Яны сышлі са сцэны. Удваіх. Наперадзе — малады, вясёлы. Смяяўся, паказваў зубы. Ззаду — спаважны мужчына, сур'ёзны, ад нечага ў клопаце. Не сказалі яны, што вечару канец. Ды і далёка яшчэ было да таго: рассоўвалі лаўкі, стаўлялі да сцен.

Музыкі сыпанулі польку.

Цяжкі град малаціў падлогу: шалелі абцасы. Вечарынка толькі пачыналася.

Леаніда абступілі і не выпусцілі...

## 13

Горад спаў.

Шэрая асенняя ноч атуліла яго ў мяккую мярэжу, бы вялікая-вялікая птушка з асцярогай хавала пад крыло вялікае птушаня.

Шэрыя, чорныя дамы; чорнае, бурае неба; жоўтыя, белыя, негустыя агні; моцныя, крыклівыя ад нецярпення гудкі на вакзалах; шпаркія, вёрткія, як мышы на голым таку, таксі на асфальце,— бадзёры, неспакойны ў сне горад...

Ліхтары ў німбах, як месяц пад поўню, калі варожыць на змены,— угары туман; тэлемачта ў чырвоных ягадах, яны дрыжаць, бы вецер трывожыць іх там уверсе.

Ноч ціхая, стоеная. Не цягне на сон: хараство; нязвыкла на душы...

Была часіна, калі трамвай, празвінеўшы на павароце, мчаўся праз увесь горад толькі з адным якім познім пасажырам, нервова торкаючыся на пустых прыпынках, кіраваў туды, за доўгі перакідны мост, дзе, зусім на краю горада, рабіў яшчэ паварот і ўжо цішэй і спакайней сунуўся назад, мо каб неўпрыкмет ад рэдкіх воч шмыгнуць у парк на адпачынак. Нашто будзіць ноч перазвонам..,

Пасля зменшала і машын. Не мітусіліся таксі; быццам плылі, не палячы фар.

Спакой, ціша.

Неба скупа асвяцілі ліхтары. Барвовыя вохлапкі хмар застылі ў мярэжах і не схлынуць да рання, да свежых вятроў, што прачынаюцца з усходам зары.

Хмары сцерагуць цішу.

Адкуль і што, раптам у гэтую нязвыкласць і спакой уварваліся незразумелыя, зусім жа чужыя для горада гукі. Яны, напачатку глухія і далёкія, пасля смелыя і частыя, плылі адтуль, з поўдня, ад аўтазавода, дзе аж два гарадскія паркі.

«Крлы-крлы... Крлы-крлы...» — неслася з неба.

Яно было жывое, аж краталася, і ў ім нельга было ўгледзець хоць бы што падобнае на караван.

Гукі праціналі нутро; глушылі ўсё на свеце, трывожылі ноч, смела, настойліва запаланялі яе.

Спрадвечныя гаспадары лугоў і лесу — журавы — абклалі горад; мо таму яны абралі ноч?..

Такі караван рэдка калі даводзілася спатыкаць.

«Крлы-крлы... Крлы-крлы...» — трэслася неба. Здавалася, нехта трэпле за рагі бурую коўдру.

Над начным прасторам плакалі журавы, надоўга пакідаючы яго.

«Крлы... крлы...» — сумная гамонка сыпалася згары, ужо здалёку, на развітанне. Гэта быў голас з доўгай, труднай дарогі.

«Крлы...» — далёкае, апошняе ад птушынай чарады.

Было нешта дзіўнае, незразумелае ў палёце птах, у іх начной трывозе. Можа, таму, што важак звярнуў на гарадскія агні-зоркі, зблытаўшы іх ў цемрыве з хвастом Млечнага Шляху? А можа, там, за горадам, было месца, вядомае важаку, дзе начлег і спажыва? Хто ведае, адкуль, з якой далечы гэтае няўрымслівае птаства, якое, мо збіўшыся з дарогі, намарылася да смерці?

Ноч... Кралася самота, стала холадна. Ці не жураўлінымі крыламі махнула над горадам недалёкая зіма?

Было нешта згублена,— блізкае, незразумелае; рэзаў душу незнаёмы сум.

Журавы пакінулі горад. Журавы пакінулі боль.

Леанід спыніўся і доўга глядзеў у бок тэлемачты, адкуль данесліся апошнія крыкі журавоў.

У памяці ажыла дарога, дом, і яна, Галіна. Яе прынеслі з сабою, аб ёй напомнілі журавы...

У галаву лезлі і словы другой дзяўчыны, інакшыя, чужыя пасля дому, далёкія пасля жураўлінага крыку, якія ён пачуў сёння па прыездзе.

«Лёня... Не цалуй у вочы. Вейкі нафарбаваны. Папсуеш...»

А сама яна цалавала прагавіта, да болю. Гэта што пасля расстання...

Яна — Люда Зімчапка. Невысокая, цёмнавалосая, з белым кірпаносым тварам; густыя каштанавыя валасы носіць кожны дзень па-іншаму. У касаватых вачах — бляск, бы яны са штодзённай слязой. Мяккі голас, мяккія шчокі з ямачкамі, што ледзь заўважыш пры смеху. Зграбная з фігуры, танклявая. Ногі залішне паўнаватыя,— можа, гэта яе і прымушае заўсёды насіць адны доўгія сукенкі.

«Мы не можам чакаць літасці ад прыроды...» — кпілі студэнты з такіх.

Яна — хімічка. На другім курсе. Летась толькі паступіла ва універсітэт. Да таго была на гадзіннікавым заводзе. Два гады. Паступала штогод,— правальвалася. Першы — у тэатральны,— не залічылі. Другі — у медыцынскі,— не прайшла па конкурсе. Ва універсітэт паступіць памог ужо двухгадовы стаж.

Прыехала ў Мінск нядаўна. Бацька ў яе — аграном. Пажыўшы ў горадзе, не ўзлюбіла вёску.

Ныла па тэатры, па кінаакцёрах. Плакала ад голасу Марка Бернэса...

Пазнаёміліся выпадкам. Леанід зайшоў раз да стрыечнай сястры на кватэру і ўбачыў там сумную, безуважную да ўсяго дзяўчыну. Яна не азвалася ні разу, пасля зусім знікла. Дзяўчына працавала з сястрой, яны і жылі ўдзвюх на кватэры.

— Скажы мне, Анюта, хто яна?

— Гэта Людка...— адказала сястра.

— Сумуе чагось?

— Ды не. Паступаць рыхтуецца. Трэці год... Не шанцуе ёй.

— А-а-а... Куды?

— Да вас.

— А што яе цікавіць? Ну... да чаго душу мае?

— Спачатку афіцэры, цяпер навуковыя работнікі. На заводскіх хлопчыкаў не глядзіць.

— Гм... На які паступае?

— Па хіміі яна.

— А ты як?

— А я кінула вячэрнюю. Дзевяты пачала і кінула. А-ат... Нашто? Цяпер шмат вучоных.

— Што ты? Дзяўчына? Адкуль у цябе гэта?..

— Людка гэтак гаворыць. Паступае сама, бо студэнткай хоча пабыць. Весела. А мне да той студэнткі два гады. А ўжо дваццаць трэці пачаўся.

— Састарэла, выходзіць?

— А што? Маладосць мінае. А вечары займаць кніжкамі...

— Дык што ты надумала далей?

— Нічога. Выйду замуж.

— А з кім ты дружыш, не сакрэт?

— Свае хлопцы надакучлівыя. Ёсць курсанцік адзін...

— Сустракаецеся? У кіно ходзіце, у тэатр?

— Ды не...— Анюта мнецца.— Не пускаюць яго часта. Мы самі ездзім у вучылішча...

— Гм-м..— Леанід доўга маўчаў. Пасля пачаў сціха́:— Ведаеш што... Давай у нядзелю ў тэатр... Масквічы ж тут. Тэатр Станіслаўскага...

— А як жа Людка? Яна ж мяне заўсёды з сабой бярэ...

— Я прынясу заўтра вам білеты...— сказаў Леанід і падумаў: «А там, пасля, я за цябе, дзяўчына, вазьмуся. Выб'ю гэта з галавы...»

Выйшла не так. Давялося ўзяцца не за сястру. Анюта маўчала і ў тэатры і пасля, нават не пытала нічога. Спектакль ёй прыйшоўся даспадобы. Чым — невядома.

— Спадабаўся, і ўсё. Давай пра другое гаварыць. Толькі не пра ўчарашняе. Я не хачу, каб Людка чула...

— А я ведаю, пра што вы гаварылі. Па вас відаць...— азвалася Люда.

Тон у яе быў высокі, злосны, не падступіцца. Гэта было не тое непрыкметнае дзяўчо ў пакоі над кніжкай...

Бровы, вейкі, вусны — у фарбе. Сукенка чорная — дэкальтэ. Валасы распушчаны. Пальчаткі чорныя. На нозе нешта абута,— і нічога няма. На спектаклі мітусілася, не магла ўседзець. На вуліцы аббегала ўсе вітрыны і афішы,— пазнавала тых, хто кінуўся ў вочы на сцэне, ойкала і без канца надакучліва падымала рукі за шыю,— папраўляла валасы. Паўтарала сяды-тады:

— Гэта хімія... мне во дзе села...— і стукала кулачком у грудзі.— Мараль усе могуць чытаць... А жыць? Не, вы мне скажыце... У спектаклі ўсё гладка, добра... Цалуюцца... З мілым рай і ў шалашы. А я не люблю гэтай філасофіі! Мне надакучыла глядзець, як другія ездзяць і жы-

вуць у камфорце...— яна пстрыкала пальцамі ў пальчатках.— Гм... Рай у шалашы. Філасофія Адама і Евы. А што рабіць у тым шалашы, скажыце мне? Не, вы мне скажыце... Любоў — гэта яшчэ не жыццё. У добрым жыцці і добрая любоў...

— Я думаю, вы дарма ваюеце супроць шалаша...— Леанід не мог схаваць усмешкі. Вядома, што за птушка на калку. Уся наверсе.— У шалашы сама лепш цалавацца, паверце...

Люда маўчала. Не чакала такога. Але доўга не думала.

— Хм... Вёска... Знайшлі! Шчасце!.. Рай!.. Каханне!.. Не, вы толькі скажыце... Шалаш у вёсцы... Ха-ха-ха... Пацалункі з рамантыкай... Камары, балота, каровы рагатыя...

— А дзе вы раслі?

— У вёсцы!

— Гм... А якія вы яшчэ вёскі ведаеце, апроч сваёй?

— Ніякіх. А нашто яны мне? — яна пакрыўдзілася.

— А як вы глядзіце на тое, што адзін кітайскі пісьменнік, вы яго ведаеце, яго ўвесь свет знае, лаўрэат... Дык вось ён кінуў сталіцу і паехаў у далёкую вёску. Простым земляробам стаў, сакратаром партарганізацыі і жыве на здароўе. Раман піша новы.

— Дурань! Хаця, даруйце, пагарачылася. Можна з год паспаць у шалашы... паспаць, пакуль палац збудуецца.

— Я вас з такой філасофіяй і да шалаша не падпусціў бы...

— Дзякуй. Не рвуся. Я жанчына. Як вы яшчэ не разумееце... Нам утульнасць да душы.— Падумала: — Я знайду яе. А то ходзіш штодзень ля гаража, адкуль людзі свае «Волгі» выкочваюць... Або... на ліфтах, вунь, катаюцца, у ваннах плёхаюцца, радыёлкі на балкончыкі выстаўляюць... А ты... Стынь у нейкім закануркү ў паганай гаспадыні, якую цярпець нельга. Нервы ўсе папсавала. Жыццё...

— Я думаю, на тым балконе прыемней, куды сам дзверы адчыніш. Сам! Сваімі рукамі!.. Разумееце? Не так? Не? А што вы зрабілі для гэтага? Дзесяць класаў скончылі? Чаго вы хочаце? Вы ж кроку лішняга баіцеся ступіць... Каб паднеслі вам? І няўжо прыемна будзе ад усяго чужога?

— Наіўнасць...— яна паблажліва ўсміхалася:— Я жанчына. Я павінна быць гатова да гэтага. І ў мяне будзе...

— Не ведаю, што ў вас у запасе... На што вам спадзявацца...
— Наіўнасць... На сябе...
— Ахвяроўваць?.. Сябе? За гараж і балкон?
— Наі-іўнасць... Нехта гэтым усім ахвяруе...
Дзяўчаты смяяліся. З некага таго, каго яны ўжо, лічы, абвялі вакол пальца.
Цяжка пераносіць смех...
— Як бы я хацеў, каб вы пабылі студэнткай... Дзе людзі думаюць, там няма такой філасофіі... А за вёску я вам ніколі не дарую...
«Крлы... Крлы...» — стаяла ў яго ўвушшу, аж звінела.
Неяк непрыкметна пачала аддаляцца Люда, як і начныя журавы...
Душа пусцела. Памяць губляла млявыя словы, пачутыя ў пад'ездзе, выносіла наверх другое — яшчэ зусім няўцямнае.
Зноў раптам успомніўся дом, дарога, ад якой так хутка не ачуняеш...
...Дождж пачаўся вечарам. Густы, нудны, халодны і непатрэбны. Шастаў за акном у гародчыку па лісці, слініў вокны; у хаце цёк пісягамі з юшкі. На двары, аж ля самага ганка, хлюпала пад нагамі. Жвір намок і распоўзся. З гародчыка гнала на падворак салому, высахлы за пагодай канаторжнік і бульбоўнік. Вуліца раскісла. Развезла недзе і дарогу, бо аўтобус не прыйшоў.
І назаўтра раніцай дождж не пераціх. У позняе снеданне пайшоў яшчэ большы. Значыць, зноў абклала на суткі...
Селі за стол. Прыцягнуўся сусед Антусёк, малады яшчэ, а пасівелы ўжо. Маці паставіла паўлітра. Провады ж як-ніяк...
Сівы Антусёк, далёкі сваяк, адразу ж пачаў частаваць. Чужым жа...
— Ды я не п'ю...
— Во-о... Выдумаў. Чаму?
— Хвароба ад яе...
— Якая хвароба? — Антусёк насцеражыўся...— Не чуў я. Кажы, што за хвароба?
— Хібінская чума!..— аж зазлаваў Леанід.
— А бач ты, сусед... не чуў... А я не баюся, ліха яе... Я люблю выпіць і люблю па жонцы ўсю радню...— Антусёк піў адзін. Можна было падумаць, што праводзілі ў дарогу яго, Антуська.

На душы было прыкра ад такога чалавека... Трэба было збірацца ісці. Падвязе нехта, дарога не спіць.

...Дождж сцёбаў па шашы, як хто пугай; калоў твар,— касы, калючы дождж.

За абочынамі курэў сівы туман-пара. Рэдкі, нясмелы, ён паволі-паволі поўз у бярэзнік, дзе табуніўся да ночы.

Хліпала зямля.

Халодны дождж паліваў за дарогай шэрую раллю. Стыла поле.

Прамакаў плашч. Цела бралі дрыжыкі.

Леанід не сцярпеў — выйшаў на шлях пад вечар. Хацелася заўтра ранкам сесці ў раённым гарадку на аўтобус, каб за парой быць у горадзе.

Пад бярозамі, дзе ён хацеў чакаць машыну, было яшчэ горш: цурком цякло з галля. Адзін ратунак ад дажджу ў дарозе — ісці. Прывыкнеш, угрэешся — і цёпла.

Машына дагнала ўжо далекавата ад дому, ля мастка. Тут было глінішча, і колы прыбуксоўвалі ў кожнай яміне.

Леаніда ўзялі — не пакідаць жа чалавека нанач у дарозе мокрага з ног да галавы.

Машына — «газік». У кабіне — стараваты шафёр і дзве дзяўчыны. У кузаве — мяхі з бульбай, растрэсенае, упэцканае ў гразь капуснае лісце і навязанае на вяровачку шчаня. Месяцы тры яму. Вымакла — як аблезлае. Калоцішча, бы з вялікага страху. Вочы сумныя, палахлівыя, просяць, аж плачуць. Мордачка кругленькая, носік беленькі, як той гузік на чорным рукаўчыку ў дзіцяці. Прыгожы, бедны пупсік... Нешта пішчыць цененька-цененька, бы ў саломінку...

Леанід сеў на чамадан, падняў на калені мокры цёплы камяк і прыкрыў яго палiною набраклага плашча.

Дождж цяпер быў далёка ў полі.

Пад'язджаючы да раённага гарадка, машыну спынілі. Дзяўчына ў пакамечаным плашчыку ўскочыла з кола ў кузаў, не кажучы нічога, забрала з калень у Леаніда сабачку, тузануўшы, абарвала вяровачку і шпурнула яго цераз борт у мокры лазняк, далёка за кювет.

— Ты што? Здурнела?..

Дзяўчына, здаецца, з Закалюжжа. Тая, што выехала нядаўна ў горад, выскачыла там за шафёра і цяпер на сваёй, лічы, машыне з'яўляецца дадому. Яна толькі раз зірнула Леаніду ў вочы, што значыла:

«Зрабі, во, чалавеку ласку! А яшчэ ці заплоціць!..»

У гарадскім пасёлку было пуста і мокра. Машыны не

хадзілі. Злезшы на дарогу, Леанід адчуў, што не хочуць слухаць здубелыя на слаце рукі. Можна было пагрэцца ў чайной.

Нехаця боўтаючыся ў талерцы, Леанід пачуў, як нехта тузае яго за калашыну пад сталом.

Пачулася знаёмае цмоканне; нехта засвістаў у саломінку. У вочы кінулася мокрая тасёмка, што цягалася па падлозе.

Леанід адсунуўся. З-пад стала на яго, як і тады з кузава, глядзелі сумныя вочы. У іх была радасць...

...Леанід заспяшаўся.

«Крлы... Крлы...» — крычалі жуbecause, хроп недзе далёка сабачка, свістаў цененька, бы ў саломінку.

Леанід адчуў, як яму моцна-моцна захацелася ўбачыць Галіну, якую пакінуў, не сказаўшы нічога на расстанне.

Ён балюча пакрыўдзіў яе, не прыйшоўшы тады ўначы да саду.

«Яна мне не дарує».

Заныла недзе глыбока ў локці рука.

Леанід спяшаўся дадому, у інтэрнат.

Над горадам затоена дрыжала поўнач.

## 14

Галіна не магла адчыніць брамку. Тапталася і бразгала клямкай. Праклятая клямка... Высунула бліскучы, вычышчаны пальцамі язычок і дражніцца.

Хаціна была высокая, але малая, частакол ад вуліцы ўвесь зялёны ад сырасці і старасці, каструбаваты — да яго не дакраніся — і зусім недагледжаны: нахілены, жывасілам абломаны зверху.

Стаяла хаціна далекавата ў двары аж за вулачкай, і таму адтуль не было відаць, што робіцца на вуліцы. Над страхою звісаў сук-рагач ад вярбы. Другі, адломаны, валяўся ў гародчыку. Даўно, бо пусціў атожылле, прырос.

Паркан ад агарода паламаны, парканне рассунута, можа, свінні лычамі «перасыпалі» яго, лазячы ў грады. Гародчык — перакопаны і пусты. Валяўся звялы, белы, як салома, утаптаны ў зямлю бульбоўнік,— аблез ад сонца і вады.

На двары блішчала гразь, туды, пад хлеўчыкі.

Галіна бразгала клямкай і не бачыла, дзе б можна было пралезці на двор.

— Што там такі за малады гаспадар, як гаварылі? Відаць, і ў хаце ў яго тое, што і на двары...

Малады гаспадар адчыніў сам. Прыйшоў з вуліцы, пераскочыўшы цераз плот недзе з агарода.

Стукнуў кулаком, як молатам, па клямцы, піхнуў старым чаравікам варотцы, раз, другі,— аж затрашчалі.

Галіна адскочыла.

— Добры дзень. Хто дома?

— Я дома...

Твар хлопца быў знаёмы. Хаця чарнявыя ўсе адзін на аднага падобны.

Смуглявы хлопец не глядзеў на яе; пайшоў наперадзе, адчыніў дзверы, прапусціў прайсці, зачыніў і не ступіў далей ад парога.

Хата без перагародкі. Вялікая печ, два вялікія драўляныя ложкі, у кутку вялікі стол і маленькія нізенькія лавы. Сцены шэрыя, ад парога рудыя, даўно-даўно не беленыя. Далёка ў куце — абраз, без ручніка, аклееены папярай. Чатыры акны, у хаце светла і відаць, што не мецена. Над сталом на сцяне — плакат-кінарэклама. Дзве чорныя галавы зліліся ў адну пляму: мухі за гады чатыры адседзелі на ёй сваё, што хочаш вымалявалі. Пахла цвіллю і мылам.

Галіна сцерла рукой лаву, прысела, паклала на стол сумачку, пасунула яе далей.

— Значыць, надоўга...— першае, што сказаў ён.

Яна павярнулася на голас. Убачыла ўзлахмачаны, а можа, і кучаравы чуб,— у траве ці ў сене, заспаныя вочы, абвіслую ніжнюю губу пад ладным носам. У вачах — абыякавасць да ўсяго. Рукі ў кішэнях. Пазяхае.

«Абабіўся недзе п'яны...— падумалася Галіне.— Гэта Ганулін сын. Як яна хваліла... Для маці любы сын — дзіця. Сваё...»

— Дзе маці ваша? Паклічце мне...

— У мяне матка ні з кім чужым не гаворыць. Абсалютна. Я гавару.

— Добра! Вось ты і пакліч матку! Мы пагаварылі ўжо з табой...— Галіна раптам успомніла. Дзе яна магла бачыць гэты сонны з фанабэраю твар. І не раз... «Вось ты які... Ягадка... Ты падумай, ашчэрыўся адразу...»

Такога хлопец не чакаў, але не збянтэжыўся:

— Матка, значыць, трэба... Матка. А можа, я падыду?— выскаліўся ён.— Маўчыце, значыць... Добра. У лесе яна. Па мох паехала. На двары гразь. Можа, бачылі?

— Маці? Па мох? А ты валяўся ў сене і адсыпаўся пасля п'янкі? Язык яшчэ паварочваецца гаварыць...

— Ну-ну... Паехалі... А вам што? Мая матка. Абсалютна.

— Не мая ж. Як цябе зваць?

— А хрэн яго знае...

— Ты падумай... Тц... Ай-яй-я... Лаяцца ўмее. Ты падумай...

Ён стаяў, падпёршы плячыма вушак; рукі ў кішэнях. Адвярнуўся быў ад яе, чмыхнуў і пакруціў галавой, ці не хаваў смех.

— Сарвалася з языка. Зляцела... Само. Ды пасля ўчарашняга... Дружкі тыя, ат... За маё пілі. А сёння да трактара ніхто за мяне не пайшоў. Маю галаву дзяўбці будуць. Э-эха-ха... Лю-юдзі...— ён пазяхнуў, моцна, на ўсю хату, не дастаючы рук з кішэняў.

— А вас як завуць?

— Я з бальніцы.

— А-а-а. Я ж вас бачыў. Ведаю. Да маткі, значыць? З бальніцы? Яна зараз прыцягнецца. Даўно ўжо недзе прапала...— у хлопца ў вачах была не то радасць, не то ён проста хацеў сказаць нешта добрае, ды не мог.— Яна цяпер зда-аровая. Робіць усё сама. Не трэба мне суседзяў цягаць... А то дажылася была, што ў бальніцу людзі адвозілі. На калёсы не магла ўсцягнуцца...

— А сын не мог прывезці?

— Я ж пры трактары. Як вы далёка ад усяго. Абсалютна. Не адпускалі...— хлопец нёс лухту, гледзячы ў вочы. Дабрата тая, што была з'явілася на твары, знікла.

Нешта ў парозе зацурчэла з лавы на падлогу. Бразнулі збанкі. Пасля капала, пакуль не сціхла. Адтуль недзе вылез кот, адышоўся, лёг пасярод хаты. Аблізаўся. На людзей і вусамі не павёў.

— Ты ў камсамоле?

— Ого!.. Успомнілі. Бы-ыў...

— А цяпер?

— Выбыў...— хлопец зноў павесялеў, дастаў руку з кішэні і доўга цёр вочы. Пазяхнуў яшчэ і выцер вусны.— Абсалютна.

— Перарос?

— Білет кот сцягнуў...— ён дастаў другую руку з кішэні і паказаў на падлогу.— Ён самы. Віноўнік. Выключылі...

— Радуешся...

— Хоць камсорг ззаду не шлындае. А то праходу няма. Вып'еш — і на сход цябе. Выключылі, значыць. Паплакаў і сціх... Дык вы да маткі па хваробе... ці па камсамолу? Дарма толькі з агарода валокся. Матка ў лесе! — крутнуўся ён і ўжо быў на парозе.

Галіна ўсхапілася з лавы і злавіла яго за руку. Яна зразумела, што выпусціш гэтага хлопца — не зловіш. А для чаго тады ішла сюды?

— Ану вярніся! Да маці прыйшла, але і з табой гаварыць буду!..— Галіна зазлавала, і ці не ад гэтага хлопец стаў раптам мяккі. Пайшоў за ёю да стала і сеў на яе месца. Сама яна адышлася ў парог.

— Не ўцяку. І не падумаю. Сон не возьме, калі ўспаролі... Абсалютна! А пра што мне гамонку весці з вамі? — ён раптам задзёр галаву, Галіна ўгледзела брудны расшпілены і пакамечаны каўнер белай сарочкі. Ён вылазіў з-пад зашмальцаванага сукна пінжака.

— Памыўся б хоць. Да дзяўчат ходзіш... Бруду... Ты падумай... Але чорт з табой! Мне маці тваёй шкада. Гаруе... Ты разумееш, якое яе жыццё з табой? Колькі месяцаў не падымалася, а ты... Маўчы!.. Прывязлі яе, пакуль з калёс ссадзілі сёстры, халаты мяняць сталі. Распрануць не маглі. Аплік у спадніцы ледзь расшпілілі. Заржавеў. Спала колькі апранутая. Нават верхняе не мяняла... Лазні не бачыла. На суседзяў пакінуў маці. А сам вочы заліваў... З гора? Ці не так? Маўчы! А цяпер? Маці на ногі трохі паставілі, дык ты за яе гразі на двары не засыплеш... Для чаго ты толькі на свеце?.. Жонку прывёў бы ў хату маці дагледзець, калі ў самога рукі чорт ведае дзе...

Ён падняўся, адышоўся да акна, закурыў. Доўга глядзеў на яе, думаючы пра нешта далёкае, сваё. Не вытрымаў пасля, перабіў на слове, рассмяяўся:

— Дык заставайцеся за жонку, што гаварыць... Не паганю. Такой у нас не знойдзеш. Я нават курыць кіну...— ён патушыў у пальцах папяросу і пацерабіў ззаду плячо: — Дык не астанешся ж... З гарадскімі недзе... Га?

— Дурань! Я да маці да тваёй прыйшла... Лячыцца ёй яшчэ трэба. Сэрца ў яе... Ты падумаў пра гэта? Ты...— голас яе ціхі, пасля злосны.

— Гэта я? Я? Дурань?..— ён дайшоў, зыбаючыся, да сярэдзіны хаты, крутнуўся і са злосцю шпурнуў нагою ката. Той апынуўся аж пад ложкам ля печы. Зашыпеў. Працяжна, са свістам,— вось-вось змяя з падпечча выпаўзе.

Яны сыходзіліся пасярод хаты. Не ведалі, пэўна, што маюць рабіць... І як абышлося б — невядома, калі б у хату не ўбегла вёрткая Волечка з фермы. Расчыніўшы насцеж дзверы, ухапіла ў качарэжніку рыдлёўку і толькі тады ўбачыла іх. Знянацку спынілася. Пачала папраўляць хустку на галаве.

— Бо-о... Добры дзень... Вы да Ганулі? Ану, Пэрац, марш матку змяні!..— закрычала яна раптам на хлопца і патупала за парог. Як тая козачка, борздзенька, задзёршы галоўку.

— Раман... Раманка...— чуваць было з двара.— Што ты дзе ро-обіш?

— Вайну тачу!..— гыркнуў ён са злосцю.— Пашанцавала вам, дзяўчына... Абсалютна... Моду завялі: на агітацыю прыбягаюць. Адны летам на поле, другія ўвосень у хату. Жыць вольна не даюць. Хацелі яшчэ тады, каб я з Джвучкам на лавачцы перад вамі прыйшоў пасядзеў. А вы судзілі б мяне... Хэ-хэ... Не выйшла. І не выйдзе. Я не Джвучка!..— ён пастаяў яшчэ, падышоў да акна, прынік да шыбы.— Фіў!..— свіснуў праз зубы, ціха так.— Бабы малайцы,— і ляніва пераступіў парог, то хаваючы, то дастаючы рукі з кішэняў.

— Мая ты дачу-ушка...— той самы голас, што клікнуў быў Рамана, пачуўся яшчэ з двара. Знаёмы голас.

Жанчына перавалілася цераз парог. Стала і ні з месца. Задыханая, спацелая, без хусткі. У валасы ёй нападала сасновага шылля, ля вуха прычапіўся кавалачак грэбня. На грудзях расхрыстана фуфайка, старая, латаная. Пад ёй чырвоная нажутка. На нагах мокрыя гумовыя боты.

— Мая ты дачушка... А я ладу не дабяру ніяк... Хто гэта, думаю... Прыйшла... Рада я. А ён, мой Раманка, ці быў хаця дома?.. Чаго ж вы стаіце на хаце? Сядзьце. Няўжо ён вас не прасіў? Ён у мяне добры, сталы ўжо. Не надта паслухмяны толькі. Хаця дзе вам слухаць нас старых... Не тое, мусіць, гаворым. Цяпер новы свет. Дык вы сядзьце. Да стала бліжэй падсуньцеся. Чысцей там. За работай дык і не заўсёды часу хапае агледзецца каля хаты... Сядзьце. А мае ногі палепшалі. Я ўжо, во, і па работу хаджу. Сядзь, дачушка...

Жанчына не ведала, што рабіць.

...Ля рэчкі было неспакойна, сакатала па каменні вада, нехта гаманіў і дзёўб сякерай па бервяне,— усё чулася ў аселіцы, дзе яны ішлі.

Пахла альховае лісце, яго наабіваў ля ракі вецер, яно прэла ў мокрай траве на беражніцы.

На гасцінцы грукатала, там ішлі машыны з прычэпамі. Аўтакалона валакла лес на сплаў да Віліі. Дзень і ноч.

Шарэла. Машыны ішлі з падфарнікамі,— ведалі дарогу, звыкліся.

Пад нагамі чорная чорствая зямля. Восень. Вечар студзіць твар; з агародаў — нясе золкім водарам ад выкапанай і скіданай на межы рэдзькі,— свежай, здаровай.

Мінуўшы загароддзе, яны адразу выйшлі на гасцінец. Пастаялі. Рассталіся.

— Дзякуй, дачушка... Не забывайся...— жанчына, ківаючы галавой, амаль шаптала. Доўга яшчэ потым глядзела на гасцінец у цемру і плакала.

Раман Пэрац жыў па той бок Грынёў, на канцы вёскі. Гэта, лічы, аж ля самага Закалюжжа.

Ісці дадому Галіне гасцінцам было бліжэй, чымся вёскай, але ж ля бальніцы можна напаткаць Васіля Міронавіча.

Пасля ад'езду Леаніда Галіна не хацела з Васілём сустракацца.

## 15

Іх трое. Яны за сталом у першым пакоі. Стол тут жа з прыходу, як увойдзеш у хату.

Пілі — колькі хацелі. Даўно ўсё прынялі са стала і цяпер толькі гутарылі.

Накурылі, не чулі дыму і не расчынялі дзвярэй.

У другой хаце плакала дзіця. Там ціха гаманіла Анэта, ідаць схіліўшыся над калыскай.

— Ну як, мілы, твой сынавей? Цяльпук недзе ўжо ладны... га? — Выжлятнік лавіў Андрэя Дзедзіху за рукаў.— Шанцуе табе, мілы, як і раней. Скажу прама...

— І я гэта гавару...— Джвучка адхінуўся ад стала і ўладзіў локці на падаконнік.

— Я, мілы, яшчэ раз прама скажу... Пры табе ўсім жылося. І нам плыло.— Выжлятнік пачынаў здаля.— Ты неяк падход да людзей меў. У галаве не месціцца... Гэтулькі год старшынёй быў... Гэтулькі год! І на табе! З'елі... А каго на месца? Шчаня. Яму і дваццаці шасці няма. Камсамолам на матацыкле ўсё прыязджаў кіраваць. А цяпер — бац! Старшыня-я... Акты, штрафы... Следства...

— Шчаня... І я гавару. Малако на губах...— Джвучка

ўпёрся локцямі ў шыбу.— Мяне столярам яшчэ хоча зрабіць... У будаўнічую брыгаду ўперці. Дудкі... Я яму за Доўгія ніколі не дарую. Сходку сабраў... Людзям паказваў... Штрафаваў, працадні спісваў, скуру б яму спісалі. За суддзю сядзеў. Хаця і ты добры, Мірон. Аднаго тады выткнуў. Мяне! А сам хвост у хвораст, твая скура цэлая, не гарэла. А яны і так самі ўсё зналі. Не дурныя... Не злавілі толькі цябе. А каб я ўстаў і сказаў!.. А каб я!..— Джвучка раптам ускруціўся, вочы ў яго забегалі.

— Сядзь! — Выжлятнік схапіў адной рукой Платона за плечы і піхнуў на лаву.— Так трэба было, скажу прама! Мне не з рукі было патыкацца яму на вочы, сам знаеш. Ён за мной, як за зайцам, па слядах ходзіць. Я ніколі не пападаўся. А штраф табе памагу збыць, не плач. Ёсць з чаго. Тапаром па сасне — і памагу. І напомні мне яшчэ раз пра тое...— Выжлятнік змоўк і прыжмурыўся.— Каб гэта было першы і апошні...

Дзедзіха шмат выпіў,— даўнейшая старшынская звычка. Балела галава, ныла ўсярэдзіне,— і ён без аддухі курыў, не думаючы надта, што робіцца за сталом:

«Да бойкі не дойдзе. Платон дасць у пяту, ведаю...»

— А я, Андрэй...— Выжлятнік гладзіў адрослыя сівыя валасы, нібыта нічога не здарылася, задзіраў галаву і спакойна глядзеў недзе ў столь, як чытаў з яе.— Я, мілы, прама скажу... за табой у калгасе мала быў. Пры табе ў леснікі пайшоў. І жылі мы, мілы, пальчыкі абліжаш, прама скажу...— ён уставіўся на Дзедзіху, аж зыркалі вочы:— А цяпер? Жонка мая была ў калгас не пайшла. Дык ён што ўздумаў? Гародзік хоча шаснуць! Пятнаццаць сотачак пакінуць, гэта каб адумаліся мы. Аскубсці. А тады зусім аголіць. Няхай. Не загіну. А жонку не пушчу. Знарок. У лесе на ягадах больш выкленчыць, факт!

— Пры гэтым і нашым жонкам патачкі няма. Высока лётае...— не падымаючы вачэй на Выжлятніка, уставіў Платон.

— Мілы, не перабівай. Дай мне перад чалавекам душу сваю ачысціць... Недарма ж мы ў Закалюжжа валакліся. Слухай, мілы...— Выжлятнік тоўхаў Дзедзіху ў грудзі.— Гэта не ўсё. За кароўку, шчаня, і з мяне грошыкі скубянуў. Праз суд. Карова мая ўсё лета ў поле хадзіла, а я не ў калгасе. Дык што?.. З мяне дзерці павінны? Дзе вы такое чулі? Дзе бачылі? Ці пры табе, мілы, так было? Я вярну свае грошы, вярну... Я напішу, сам адвязу. У вобласці пабуду...— Выжлятнік памаўчаў і пачаў цішэй:—

А ты, мілы, дарма сам адмовіўся, прама скажу. Як гэта? Самому пайсці? Са старшынства? Хоць бы да зімы дабыў. Дарма, мілы, скажу прама...

— Надакучыла мне, ох, надакучыла... Сапсаваўся я... Гарэлка сапсавала... І душу і сэрца...— Дзедзіхаківаў галавою і цёр пальцамі каля воч, там, дзе ў баразёнках ляжалі маршчыны; шмат іх.

— Мілы, ты проста не знаў сабе цаны, прама скажу... А людзі знали. Пры табе, мілы, яны не чулі пра штраф... Скора гэты мне скажа плаціць за тое, што я за вугол хаджу на калгасныя соткі!.. Зямлю чужую тапчу...

— Хе-хе... Будзеш плаціць і за тое, што цераз ферму ў лес ходзіш...— Джвучка падумаў, угледзеўся нечага на стол і аж закрычаў:— Апражэцца! Не праглыне! Задавіцца!..

Ён, падскокваючы, гаркаў кораценька, адрывіста, як сабака на жабу. У гарачцы высадзіў локцем шыбу. Яна, цэленькая, выскачыла і лягла ў гародчыку на мяккую граду. У хату пацягнула вільгаць. На дварэ пасля дажджу было золка.

Дзедзіха бы і не ўгледзеў спачатку; тады сказаў:

— Ліха з ёй. Падымецца і прыставіцца. А хлопец... ён з галавой. Не дурны, відаць...

— Што ты, мілы... Мілы, што ты... Я казаў, і Джвук, во, скажа, зманіць не дасць... ты не ўмееш сябе ставіць... Нейкі, як інтральная паласа, цяпер. Гэтага ж шчаняці ці паслухаюць старыя? Паглядзім, як ён усеецца... На тваё на гатовае вясёнкай прыслалі. Пасеена ўсё было, абгароджана. На працадні тваё ж выдае. Паглядзім...

Выжлятнік сціх, і яны доўга маўчалі. Джвучка пляваў праз новую фортку ў гародчык. Не плакаў і хлопец ў той хаце. Цікалі на сцяне ля акна ходзікі, бы гэта не Джвучка, а яны адтуль цыркалі ў гародчык.

— Што думаць доўга... Гавары яму, Мірон. Падні-шамся і — дразда хлопцу... Не дадзім прыжыцца скуле. Пусціць карэнне — тады... Лазіць ужо ўсюды з носам... І на Доўгія, і за Доўгія...

— Ён, мілы, сам ведае, вучыць не трэба. Слухай, Андрэй...— Выжлятнік нагнуўся да Дзедзіхі.— Можа, і спяшаць наперад не трэба? Можа, вясны дачакацца? З сяўбой ён пагарыць, як піць даць. А гэта не жарцікі... Кампанія. Раён яго ў парашок сатрэ. А летам зноў тады цябе. Помніш, як я быў пры табе рахункаводам першыя гады? Я, мілы, прама скажу... Чэсна рабілі...

Дзедзіху клікнулі. Ён устаў і схадзіў у другі пакой. За ім адтуль выйшла Анэта, апранулася і выбегла з хаты.

— Кароў гоняць. Меркне...— Андрэй здагадваўся, чаго прыпоўз Выжлятнік. А Джвучка? Платон мог і не ведаць нічога. Але не. Яны хаўруснікі...

Гутарка далей не ішла. Не клеілася. Джвучка працверазеў, можа, ад таго, што з двара сапло праз фортку.

— Не за гарамі зіма...— пакратаў плячыма Джвучка і паёрзаў па лаве.

— Я люблю зіму...— Выжлятнік зноў задзёр галаву і шнырыў вачыма па сталі.— Люблю... Такую, каб на дварэ сняжок і марозік далікатны, а ў хаце напалена... Цягне тады на касых, ой цягне. А яны... Белыя, сытыя... Я, мілы, прама скажу, люблю зіму, люблю... Па снезе і рагаты кабанчык нідзе не дзенецца...— Выжлятнік сачыў за Андрэем здалёку-здалёку: — «Страляны верабей. Нават брыво не ўздрыгнула. Думае нешта сваё і канцы...» — вярцелася ў яго на языку.

Маўчалі, хоць размова магла ўжо ісці аж у трох кірунках.

Нарэшце Джвучка, прычасаўшыся пальцамі, вярнуўся назад, да ранейшага:

— Я б яму адзін не дараваў. Гэта ж думаць, казаў ты... Ну хай я тады і выпіў чуць. Пасля таго суду ўсё. Але ж зáгрудкі з канцылярыі выкідваць?.. Не дарую... Я тады з заявай на другое праўленне прыходзіў. Папрасіць хацеў. Сена не хапала на карову. А ён вылез з-за стала і... Ніводзін старшыня ў нас нідзе каля блізку не пускаў рукі ў ход...

— Ты, Джвук, тады дарма лез, прама скажу. Праўленне разагнаць надумаў. Незаконнае знайшоў... Яны закон табе не такі маглі ўставіць... Не так трэба. Абдумана...— Выжлятнік не хацеў больш кратаць старшыні. Дамовіліся напісаць — напішуць. Не толькі ж за гэтым прыйшоў: — А ты, Андруша, нешта, мілы, звесіўся зусім. Мо я куды збегаю яшчэ па бутэльку?

— Не варта. Пайду, відаць, да дзіцяці. Чуваць, варочаецца, не спіць. Закалыхаць яго — рука забаліць. Муха недзе залезла; во, кратаецца, бедны...

— Чакай... Паспееш. Дык ты да мяне, можа, у Грыпі падыдзеш днямі?.. Пагаворым. Трэба. Я цяпер жыву... А можа, зноў да цябе? Не, мілы, лепш да мяне. Прыходзь. У мяне цяпер...— Выжлятнік пагнуўся да Дзедзіхі: — А ў цябе, во, ложак яшчэ драўляны стаіць. Для чаго ён? Я та-

бе, мілы, магу цяпер і на нікелевы пазычыць... І пазычу. На любы час. Хоць да вясны...— Выжлятнік шаптаў. Джвучка не слухаў, глядзеў пад стол. Насёрбаўся; яго тузала.— Дык ты слухай... Ты, мілы, для мяне не раз дабро рабіў. Помніць буду. І помню. Усё шыта-крыта было. І цяпер будзе...— вочы яго набеглі сырасцю, нейкай густой, чырвонай. Яны чакалі, дапытвалі, лавілі кожны рух.

— Добра. Сыдземся некалі. Не апошні ж раз. Пайду. Хлопец плача. Анэта бавіцца... Знаеце, дзе мой парог, і да вас дарогу помню,— Дзедзіха ўстаў і пайшоў у другую палавіну, зачыніўшы за сабою дзверы.

Мужчыны яшчэ засталіся. Раіліся, нечага цмокалі, можа, сп'яна цалаваліся, а мо шкадавалі, што не ўсё па-іхняму выйшла. А пры чым тут ён, Дзедзіха?

Пасля доўга то расчыняліся, то зачыняліся дзверы, бразгалі. Ці не перацягваў Выжлятнік Джвучку цераз парог? Нехта мармытаў і лаяўся. Ціха, не зразумееш хто. Нарэшце пачуўся голас Анэты. Яна накінулася на мужчын, адчытвала.

Стукнулі адны і другія дзверы. Анэта падбегла да калыскі. Хлопец плакаў, аж заходзіўся.

Калі Дзедзіха падышоў да акна, мужчыны былі ўжо ў аселіцы.

«Гародамі пакалдыбалі. Вуліца вузкая стала...»

Сын не сціхаў і на руках у Анэты. Андрэя пачала браць злосць, аднекуль ішла здалёку. На каго? На сябе? На сына, што крычыць бясконца? На жонку,—не можа суняць дзіцяці? А можа, на тых двух, што пералазілі аж ля рэчкі цераз плот? Ён узіраўся на дарогу, куды кіравалі тыя, і яго яшчэ больш агортвала скруха.

Выпала, што не адзін Аркадзь бачыў Выжлятніка з ружжом на Пагурку; наткнуўся і Дзедзіха. Але маўчаў. Аркадзь таксама не плявузгаў. Ды да пары збан ваду носіць.

Але ж лось уцёк ад Выжлятніка, у Асіпаўскім знайшоў ратунак. Не дакажаш, што Выжлятнік у яго страляў. Няма таго дня, каб ён не страляў у лесе. Не... Таго цяпер не дакажаш...

Але ж цягаюцца людзі. Не адзін лось іх недзе варушыць. Пэрац прагаварыўся быў, адкуль у яго новы гарнітур. Шапнуў пра Чар-чаг раз Аркадзю, па трактары ж у яго робіць.

Прыбег Аркадзь да яго, Дзедзіхі, не хацеў з маці раіцца. А Андрэй — дзядзька родны, бацькаў брат. Аркадзь

шкадаваў Пэрца,— уцягнулі хлопца; а Дзедзіха не мог зачапіць Выжлятніка і цяпер яшчэ: Выжлятнік шмат чаго мог выцягнуць наверх. А ці даруе Андрэю калгас, калі даведаецца пра тое-сёе, яшчэ невядома...

Даказаць жа што пра Чар-чаг — зноў-такі паспрабуй... Са слоў? Хто паверыць без сведак? Пры Выжлятніку скрозь Платон трэцца. Сам баязлівы, барыш толькі смела прапівае. Паршываму чалавеку заўсёды трэба «чэсны» падбрэхіч... А Выжлятнік гаворыць смела толькі пры ім. На Джвучку не-е... Не абапрэшся. З яго як з казла малака.

Парашылі маўчаць. Толькі па вёсцы папаўзлі аднекуль чуткі. Нясмелыя, далёкія.

— Выжлятнік лася стукнуў і папа хацеў...— гаварылі спачатку ў Грынях і ў Закалюжжы жанчыны ціха, ушэпт; пасля — мужчыны, рагочучы і падлічваючы, за колькі можа прапіць Мірон тыя грошы. Заціхала было ўсё, пасля зноў варушылася. Пачыналі нанава рассусольваць пра лася і папа, пра папа і лася. Далей-болей. Не сцярпеў, загаварыў сам айцец Сабольскі, прыпамінаць пачаў нечыя здзервянелыя рукі...

Вось і прыцягнуўся Выжлятнік, бо Пэрац сазнаўся яму, што «сказануў» Аркадзю. А як таму Аркадзю заткнеш рот? Толькі ж праз Андрэя.

Ну і чалавечыкі... Лезуць як мухі на рану. Спагады і абароны яшчэ шукаюць. Ну што, ну няхай Дзедзіха піў разам з імі калі; было, што перакідаў сабе сёе-тое з калгаснага... Ну і што? Прайшло ўсё. А для чаго ён ім цяпер? Маўчыць, не кратае... Дык не, цягнуцца... Хаця і тады ён не сам, Выжлятнік усё рабіў, варта было толькі вочы зажмурыць. А па тым следзе калгас скублі джвучкі, і слова адкрыта не было як сказаць. Усё б тады ўсплыло. А не тым пахла...

Гарэлка ўсё рабіла. Уцягнуўся. Пасля вайны на гэтым шмат што трымалася. А цяпер вось сэрца не хоча трымацца... І калгас да ручкі давёў. Самае дурное ў чалавеку — любоў да гэтай гáры.

Яны лічаць Дзедзіху за свайго... за дурня. Не-е... Не мог Дзедзіха далей калгас сваімі рукамі весці. Па-другому ўсюды ў людзей стала, а каб за імі пайсці, трэба было б не аднаго Выжлятніка пад суд аддаць. А як было руку падняць на тых, з кім чарку дзяліў?

Сам вінаваты. Сам і адышоў ад усяго, саступіў з дарогі. Чаго ўжо было трымацца за хвост, калі за грыву не змог. А жылі-былі наўкол раней такія, як ён, Дзедзіха,

чаму ж і яму было не жыць? Але ж насталі не тыя часы, і Дзедзіха — палка між спіц. Цяпер усё інакш, і Дзедзіху не падаб'еш. Нечага ім распінацца, што ў нядзелю свята. А грэшным ужо — не месца. Чэсна жыць — можна. І Дзедзіха будзе! Знае як! А з такімі? Ніякага хаўрусу. До! Дзедзіха хоча быць чалавекам. Хто распароўся на ражне, таму сучкі не страшны. На збаіцца Дзедзіха іх. Было — прайшло. Час ачысціць і душу і памяць,— і яго, і людскую.

Расла злосць на гэтых збуялых ад здароўя людзей. Яны былі атруцілі яму ўсё жыццё; абпаілі, абвялі... Праваліўся з нагамі — ляціш і з галавой. Жыццё — гэта глыбока... Вунь як глыбока... Не дастанеш да ўсяго. Не дойдзеш сваімі мазгамі. А памагчы тады —ніхто не памог. На вачах Дзедзіха быў добры чалавек, на раёне — сярэдні старшыня, а капні... Не, такія далей ісці не маглі. Падбіліся.

А тыя — здаравілы сабе. Чорт іх не бярэ... Дзедзіха адзін перадрыжаў... Было. Але з такімі Дзедзіха яшчэ справіцца. Падужаецца... Хопіць змораных рук абмыць прысталыя ногі... Мацнейшы воцат — хутчэй трэсне пасудак...

Плакаў сын, як што найшло на яго. Аж захліпаўся. Можа, захварэў?

Гусцеў адвячорак, пахмурны, насуплены. У хаце шарэла.

Людзей, што нядаўна пакінулі хату, ужо нельга было разгледзець. Дзедзіха бачыў іх цені далёка на дарозе — дрыготкія, невыразныя.

«Пагавару яшчэ з Аркадзем. Ён малады, і ведаю — такіх не церпіць. Ды — яму і смялей...»

Плакаў сын, заходзіўся. Дзедзіха адвярнуўся ад шыбы. Ля калыскі стаяла Анэта, на вачах у яе былі слёзы.

## 16

«Націк» стаяў у лазе, у лагчыне ля балотца, дзе пасека, пні, ельнік у рост чалавека. Аркадзь звярнуў сюды, калі звечарэла. Пара і дадому. А можа, лепш загнаць і трактар на ферму ў Грыні пад Бусліныя сосны?..

— Гэй, Пэрац! Дзе начаваць будзем?

— А хрэн яго ведае...

Поле шэрае, ад логу сівое. Мокрая ралля-зябліва — чорная-чорная, бы палатно, вывараное ў траве-мачанічніку і вылежанае ў рудзе-гразі. Гэтак яго, палатно, пасля

вайны фарбавалі ў вёсцы бабы, з такога зрэб'я пасіў штаны і Аркадзь. Ды нават і без штаноў у адной доўгай кашулі такой бегаў. Былі Камбрыгам празвалі за гэта. Цяпер забылі: вырас. Ды і пра партызанскага камбрыга забыліся. Дзіўна — і прыйшло ж некаму ў галаву ахрысціць так. Камбрыг — той у доўгай чорнай скуранай тужурцы быў, ён жа, Аркадзь,— у кашулі. Хаця,— у чорнай, у доўгай... Чым не камбрыг?

Пад зябліва трэба заараць усё ржышча. Гэта, лічы, цэлае Лавацкае поле — ад Грынёў да Закалюжжа, дзе летам буялі ячмяні.

— Слухай, Раман. Застаўся б ты, пакуль вартаўнік прывалачэцца. Табе ж у Грыні — нагой ступіць. А мне — цягніся па гразі на край зямлі.

— Арка... Ды ну яго... Каму трэба тваё жаляззё... Абсалютна.

— Каму? Запчасткі цяпер не адным нам печань выелі. А тут — ідзі і вінці. Што хочаш. Ноч — год. А гнаць трактар пад сосны да вас — гаручае. Ды і не цягнуць з сабой усё ламачча. Кузня цэлая. А вартавога выбралі... Чорт... Раз гультай — ідзі вартаваць...

— Арка... Ды я пачакаў бы... Толькі не. Сёння,— Раман зняў кепку, страсянуў галавой, цмокнуў,— ягадка мяне адна чакае. Сохне. Чорненькая такая, спелая... Не магу, Арка, душа мая. Трэба памыцца яшчэ, выветрыцца. А то як быць, калі ад цябе саляркай нясе? Не магу...— Пэрац доўга круціў галавою.— Слухай, Арка. Ты мне толькі скажы. А можа, і цябе чакае? Ты толькі скажы. Тады іншае. Адпушчу. Абсалютна. Сам прычакаю, справлюся. Хаця...

— Ды мяне ніхто. Каму я ў галаве. А твая... чыя гэта?

— Цыганачка адна. Чорненькая. Як Выжлятнік гаворыць: я, мілы, прама скажу, пальчыкі абліжаш... Толькі маладзенькая, не папускаецца. Абсалютна. У мяне была адна...

— Ведаю, галаву адурыў...

— Ну ладна, Арка. Гэта не-е... На вачах мяняецца. То такая, то гэткая. І ўсё пасля таго, як я на беразе... Дык яна пасля таго ані блізка. Здалёку калі — залатая. Чуць што — мяняецца. Дзяўчыне на дзень колькі разоў дарогу перабягаюць то каты, то сабакі, то стылягі. Абсалютна. Яна прыгожая, да яе ліпнуць.

— Ды хто яна?

— А-а... І цябе цікавасць узяла...

— Чаўпеш... Цямнее во...

— Ты думаеш... Ты, можа, думаеш, што ў мяне і любві не можа быць? Я цяпер спяшыць не буду. На любоў націсну. Рашыў. А там асвоіцца... Прывыкне. А прывычка, Арка, мацней за любоў тую... Га?

Гаварыў ён адрывіста, блытаў. Усё стрыг вачыма ў бок Аркадзя. Яны сядзелі на зямлі, на пагорачку, дзе тырчаў белы, сухі і жорсткі, як дрот, сівец. Адвячорак хаваў ад воч поле. Голасу далёка не было чуваць. Сыра. Пэрац балбатаў, бы сабе пад нос.

— Кахаць можа кожны. А вось кахаюць не кожнага. Каб мяне кахалі... Эх бы гэта каханне мне памагло...— ён пацягнуўся, адваліўся плячыма на калючы сівец, засмяяўся і ўсхапіўся: — Ведаеш, што дзяўчына робіць, калі цябе сама пакахае? А-а... Хаця цябе вучыць не трэба...— ён зноў адваліўся на плечы і, лежачы, зарагатаў: — Каханне... Ды ну яго ў баразёнку... Няма яго! Абсалютна. Пабольш нахабства! Гэта штучка мацней за ўсё...

— Слухай, Раман. Табе было калі сумна? Скажы.

— Як сумна?

— Ну... у душы.

— Ну-у-у... У мяне не душа свярбіць, а рукі. Хаця, стой... Было і мне сумнавата раз, калі інтэлігентка прыходзіла. Я табе не расказваў? Тут дык я не ведаю, адкуль падступіцца... Напудрана вельмі. Трэба будзе ў таго Васіля падвучыцца. Такі ж ужо, а вось... Што глядзіш? Ды ён з ёй проста... На вечарынкі трэба часцей тэпаць.

— Слухай, дык хто да цябе прыходзіў?

— А-а... Ды тая. Ведаеш яе, ты яе раз прывозіў. Хаця ноччу, не разглядзеў добра. А да мяне прыйшла днём. Ды дзяркатая нейкая. Такая вочы выдзера. Сляпы застанешся, калі што. О-о... З такой піва не зварыш...

— Акушэрка? Галіна? Да цябе прыходзіла? — Аркадзь быў усхапіўся. Пасля асеў і змоўк. Думаў, гледзячы ў зямлю.

— О-о-о... Ды ты чаго гэта? А-а-а...— бы здагадаўся Раман.— Ты ёй падыдзеш. Да інтэлігентаў бліжэй, чым, дапусцім, я. Табе з гэтай можна і на любоў націснуць. А ў мяне не атрымаецца. Мазута я, баразна... Абсалютна.— Пэрац правёў пальцам пад носам, выпацкаўшы твар. Цяпер хлопец меў вусы, крывыя, загнутыя ўгору, на правай шчацэ аж да вока.

Аркадзь маўчаў, узіраўся ў вячэрнюю смугу, што густа вісела над зямлёй, бы гэта хмары шчодра сеялі яе, рассыпалі. Прад вачыма ўсплыла тая ноч, са смугою-воблакамі



Бацька пісьменніка Мікалай Васільевіч.
*1940 г.*

і месяцам... І тая, далёкая цяпер для яго белавалосая дзяўчына, па якой нудзіцца душа... Чаго б ён ні зрабіў дзеля таго дзяўчаці...

— Слухай, Арка. Ты ўсё не верыш. Ну, без выдумак, прыйшла сама. Праўда. Не прывезлі ж яе на «націку» да мяне ў двор. Разбудзіла. Адэкалончыкам пахне. Шапачка. У-у-у... Не дарма з ёй інтэлігенты нашы шпацыравалі... Спачатку студэнт. Пасля Васіль... Гэты лямцяя. Ануча. Абсалютна. Худы, а яшчэ сохці пачаў. Здохне з любві. Хаця тая гэтага варта... О-о-о... З такой і я не супраць...

Аркадзь быў на нагах...

Пэрац спачатку не сцяміў, якая сіла ўсхапіла і падняла яго з халоднага калючага сіўца. Хлопец яшчэ заікаўся нечага, пасля папярхнуўся: сціснула грудзі. Падавіўся ад неспадзеўкі. Такіх вачэй у Аркадзя ён ніколі не бачыў — круглыя, вялікія. Ад злосці...

— Заікні-ся пра яе яшчэ, дурань... Паскуда!.. Скуры сваёй чорнай не пазнаеш, хабаль...

Тая ж шалёная сіла зноў шпурнула Рамана на груд — на жорсткі, цвёрды, як камень.

...Ноч ахутала поле. Мрок лёг на самую зямлю, апаў надоўга,— асенняя ноч бясконцая.

Два шырокія промні секлі цемру, палохалі яе, жахалі; выхоплівалі з лагчыны лозы і бярэзнік.

Трактар пёрся ў Грыні пад Бусліныя сосны.

«А дамоў паспееецца. Ноч доўгая. А гразь — не страх. Калі і памясіць прыйдзецца...» — Аркадзь супакоіўся.

А ззаду, у цемры, таптаў поле збіты з тропу Пэрац.

У тую ноч пайшоў снег. Проста на гразь.

## 17

Клуб гудзеў, ён рэдка калі сціхаў.

Любяць у Грынях кіно — будуць па колькі разоў глядзець; шануюць танцы — да раніцы і старыя і малыя выседзяць; паважаюць спектаклі, што ставяць настаўнікі,— аж далоні гараць у кожнай бабулькі ад воплескаў: «Гэта ж такі ціятар...»

Не абыходзяць у Грынях і лекцый і любых вечароў. Запалі толькі агонь у вялізных вокнах таго дома-клуба, што на дзядзінцы за садам...

Людзей найшло: на свежую выдумку ідуць усе. Ды такога яшчэ не было. А можа, і здаралася які раз калі да вайны... Маладыя не помняць.

Набілі клуб — не дыхнуць.

— Пачынаем вечар пытанняў і адказаў... Таварышы — уціхамірцеся... Нічога не пачуеш там ззаду.— Васіль Міронавіч падаўся наперад за трыбунай і паказаў у кут доўгай рукою. З хвіліну яна трымалася ўгары, пасля папра-віла гальштук: — Мы, ну мы...— Васіль Міронавіч адвярнуўся да стала і пацягнуў руку аж пад столь: — Галіна Фёдараўна, наш медык; настаўнік нашай дзесяцігодкі, выкладчык геаграфіі Еўдакім Мікалаевіч Петушонак і я...— ён памаўчаў быў: — Ды вось мы скрынку з вашымі, дарагія таварышы, пытаннямі ўчора ўскрылі. Скажу праўду,— тут з вас недзе кожны напісаў. Руку прыклалі... Мы ледзь паспелі падрыхтавацца. Трэба будзе надалей раней скрынку ўскрываць. Ну нічога. Пачнём.

— Пачынай... Пара! — крыкнулі ззаду, недзе з дзвярэй.

Галіна сядзела ля Петушонка. Бачыла яна гэтага чалавека так разы са два, здалёку. Цяпер прыглядалася.

Маленькі, тоўсценькі. Ножкі кароценькія. З крэсла ледзь дакранаюцца да падлогі на сцэне. Твар малады яшчэ, але азызлы, лоб — квадратны; цяжка даць, колькі год чалавеку. Можа, трыццаць пяць, а мо і з дзесятак больш,— аднолькава. Трэба будзе спытаць Васіля, так, дзеля цікавасці. Сядзіць надзьмуты, лыпае вачыма. Галоўку, лысаваценькую ззаду, задзёр, падпёр рукамі пад бліскучую бародку. Ці не сала еў ды не выцер... Глядзіць не ў залу, а на столь, на сцены.

— Еўдакім Мікалаевіч...— нагінаецца да яго Галіна.— Давайце падзелімся, як і хацелі. Проста пароўну. Пытанняў аж семдзесят дзевяць. Гэта па дваццаць шэсць. Лішняе — Васілю Міронавічу...— яна гаворыць, каб чым-небудзь адцягнуць гэтага чалавека ад столі. Не падабаецца ёй.

— Чаго? Мы ўжо наладзіліся. Тэхніку я бяру на сябе. І спадарожнікі таксама. А астатняе дзяліце сабе,— кіўнуў Петушонак у бок Васіля Міронавіча і яшчэ больш утаропіўся ў столь. Галіна ўгледзела, што вочы ў яго нейкія алавяныя, як з дымам.

— Таварышы, ціха...— Васіль Міронавіч не мог дараваць: — Хто думае кідацца рэплікамі — хай піша іх на паперу і кідае сюды на трыбуну ў пісьмовай форме. Можна падысці і наперад, нечага там у парозе... Не пачуеце ж ніні. Тут, во, нават сесці можна. Лаўку перанясіце, не лянуйцеся. З Закалюжжа, бачу, ёсць шмат. Будзьце як до-

ма, таварышы! Першае пытанне, якое я вам зачытаю, падаў нам конюх Мікіта, вы яго знаеце.

— Знаем, знаем... Чытай!..

— Ён піша,— Васіль Міронавіч падняў руку,— ды не адзін ён. Аж дваццаць два пытанні такія. Во...— рука апусцілася на трыбуну, зграбла кучку паперак і паднесла іх блізка да вачэй: Васіль Міронавіч быў без акуляраў...— Дык вось... «Адкажыце мне, старому, прама, ці абыдзецца без вайны на свеце? І ці будуць кідаць вялікія бомбы на вёскі, ці толькі на гарады? Вось гэта і пытаю...» — Васіль Міронавіч, відаць, дрэнна разбіраў чужы почырк і чытаў паволі.— На гэта пытанне адкажу я...— ён павярнуўся быў да стала і ўгледзеў Петушонка. Той сядзеў надзьмуты, важны, нечага злаваў, бо торкаў локцем.— А можа, вы пачнеце першыя, Еўдакім Мікалаевіч?

— Я адкажу,— крутнуў галавой Петушонак.— А пасля толькі па тэхніцы гаварыць буду.

— Слова скажа Еўдакім Мікалаевіч Петушонак. Толькі, таварышы, ціха... Дамовімся!

Петушонак падняўся з-за стала і аж пабег за трыбуну.

— Аўтарытэтна скажу: вайны не можа быць і не будзе. Чаму? Таму што Азінхавар і Адзінавар баяцца. Баязліўцы яны, гэта, па-першае. А па-другое, мы спадарожнікі запусцілі. А гэта не жарцікі. Такая тэхніка ў нас, такія самалёты. На трыццаць вёрст уверх падымаюцца. Не дзіва, што і спадарожнікі запускаюць. Такія самалёты не толькі спадарожнікі, што хочаце падымуць і куды хочаце...— Петушонак адвярнуўся, збегаў да стала, наліў у шклянку вады з графіна, занёс на трыбуну, але не піў, паставіў перад носам.— Аўтарытэтна заяўляю, збаяцца нас і зміracца... І яшчэ, па-трэцяе...— Петушонак з-за трыбуны зноў глядзеў не ў залу, а ў столь: — Па-трэцяе, скажу таксама аўтарытэтна, што вайны не будзе. Папомніце мяне, бо...

— Галаслоўна!..— моцная і кплівая данеслася з парога рэпліка.

— Галаслоўна? Галаслоўна, кажаш? Хто там такі знайшоўся? А ты вылезь сюды і сам расталкуй мне, дакажы. А я паслухаю. А то грамацей знайшоўся... І не перапыняць! Калі Васіль Міронавіч не мог вас усцішыць, то я супакою, аўтарытэтна заяўляю... Галасло-ўна... Я табе аўтарытэтна скажу, што вайны не будзе. Бо людзі і так многа чырвонага квасу пралілі. І больш не хочуць! А гэта

табе не абы-што, не жарцікі. А ён — галаслоўна — крычыць... Выскачыў, ведаеш многа... Галаслоўна...

Галіна не ведала, што Петушонка, выходзіць, толькі зачапіць варта.

— Ты падумай...

Васіль Міронавіч хітрыў. Панурыў галаву і глядзеў, павярнуўшыся, на Галіну, бы адкуль здалёку-здалёку. «Няхай...— было ў яго вачах,— людзей не абманіш. А вам, Галіна Фёдараўна, трэба ведаць такіх...»

Яна не слухала Петушонка нейкі, можа, адзін момант, бо ўгледзела бялявага хлопца.

«Той, што з Закалюжжа. Нешта я яго не сустракала больш ніколі».

Аркадзь сядзеў далекавата. Думаў — не ўбачыць; але са сцэны льга ўгледзець усё. Сядзеў і не слухаў, ні пра што не хацеў думаць. Вярзе чалавек — хай вярзе. Наслухаўся Аркадзь, дзякуй богу, хапіла ў свой час. Вучыў жа яго Петушонак, здаецца, у пятым класе, «мазгі ўстаўляў»,— без гэтага не абыходзілася і дня. Нашто толькі пускаюць такога на людзі? Хаця другія, можа, не хочуць, а гэтага — хлебам не кармі, а за трыбуну пусці. З папкай прыйшоў. І чаму чалавек не возьмецца за розум? Сам бы... А то скончыў там пасля вайны педвучылішча завочна і макам сеў. Што тады было канчаць. І дырэктарам нават быў. Во ўчапіўся, чуць сапхнулі. У раяна меў руку. Гэтакія могуць усё. Галовы вараць якраз што трэба для сябе. Нічога не скажаш...

— Я табе дакажу!.. Гэта ты выскачыў за трыбуну, як кот з-за печы...

У зале зашумелі,— хто гэта? Круцілі галовамі, уставалі з месц. Аркадзь пазнаў Рамана.

«П'яны недзе Пэрац... Не так трэба браць Петушонка...»

Чалавек за трыбунай аж захліпаўся:

— Калі яшчэ хто ас-с-меліцца абразіць... З клуба вылеціць...

— Ну-ну! Не ты яго будаваў. Гэта табе не ў школе! Прывык...— голас быў не то Раманаў, не то зусім стары, мужчынскі, Аркадзь не мог цяпер разабраць.

Тады і пачалося...

— А што ты ў школе чытаеш дзецям?

— Гіяграфію...— Петушонак спачатку не ведаў, чаго ад яго хочуць.

— Гіяграфію... Га-га-га...

— Ды з трыбуны яго!.. Смех!

— Адказаў, называецца. Растлумачыў. Язык не паварочваецца, калі галава не служыць.

— Васіль, вядзі вечар. Гавары сам, а то разыдземся.

— Давай танцы!.. Нечага.

Петушонак анямеў, пачырванеў што бурак, закалаціўся:

— Ах, так? Зрываць?! Бачыў я, хто горла дзёр... Запомню... Я пакажу, як мерапрыемствы зрываць, пазнаеце...— ён выкаціўся з-за трыбуны, падхапіў адной рукой папку, скокнуў са сцэны і затупаў да дзвярэй абцасамі.

Аркадзь толькі ўгледзеў яго лысіну: мільганула і знікла. Можа, той надзеў кепку, а мо адразу шмыгнуў у адчыненыя дзверы, як мыш.

Людзі ўставалі, пачыналі разыходзіцца. Рыпнуў гармонік. Расчыніліся дзверы. На вуліцы запела дзяўчо, як камар, тоненька, настырна:

Палюбіў міня шыфёр,
Ой, д'падружкі, ўхажор...

Вечар зрываўся.

Галіна не помніла, як апынулася за трыбунай на месцы Петушонка. Можа, таму, што Васіль Міронавіч быў спакойны, падмігнуў толькі ёй, кіўнуўшы на трыбуну. Вядома, пакажы толькі слабае месца. А людзей жа столькі прыйшло...

— Сядайце... Сядайце!.. Прашу... Ты падумай... Чалавека пабеглі даганяць, каб і на вуліцы не даць праходу! Сядайце...— голас у Галіны дрыжаў. Але, рэзкі і высокі, ён неяк збянтэжыў людзей, як, бывае, вецер зрывае мароз, зайшоўшы з-за ракі.— Гэта, калі хочаце знаць, бескультур'е!

— О-о... Прачнулася... Ідзі лепш вальчык адхопім...

— Ці-іш-ш... Пэрац!

Клуб устрапянуўся: людзі загаманілі яшчэ горш, але не выходзілі, засталіся, некаторыя падаваліся да сцэны.

— Давайце бліжэй...— яна ўсміхнулася.— Займайце пярэднія рады. А яшчэ просяць адказаць, што такое мяшчанства... Вось яно! Хутчэй спаць спяшаюцца! Ну няхай танцы... Добра. Але ўспееце і пылу наглытацца. У клубе ж у вас рэдка калі падлогу спырскваюць. Не бойцеся, доўга не зацягнем, я сама хачу танцаваць... Схавайце там гармонік, не рыпайце...

Усё прадуманае з Васілём Міронавічам лопнула на вачах...

— Мы не мяшчане! Мяшчанства ў горадзе. У вёсцы няма...— крыкнуў Пэрац. Усё круціўся спераду, бы толькі для гэтага.

Дараваць яму яна не магла.

— Мяшчанства, калі ты не чуў,— гэта свая коўдра, свая хата, куды вы так спяшаеце... І што хачу, то раблю ў сваёй хаце...

— Га-га-га!.. Гэта Джвучка паспяшаўся... Уцёк ужо... Га-га-га... Джвучка — мешчанін!.. А мы і не зналі... На таварыскі суд яго зноў!

Узняўся рогат, бы каменне пасыпалася. Людзі павалілі з двара, пазаймалі праходы.

— Не толькі Джвучка... Я яго не знаю...

— Пазнаеце яшчэ! Дасца ў знакі.

— Цішэй! Паслухаць дай...

Значыць, слухалі.

— У каго я толькі не была... Скажыце мне самі сёння хоць бы адно. Чаму вы клеіце хаты мазнёй з рынку? Не, вы скажыце! Жоўтыя ільвы, як каты; азёры — плямы тыя з-пад чарніла... Лебедзі — з доўгімі шыямі,— бяры і каля сябе абкручвай. І шмат у каго ў Грынях у хатах. Ты падумай... Дзе вы ўсё гэта куплялі?

— На рынак ездзілі!.. З хаты па чалавеку перлася на аўтобус! Брыгадзір штрафаваў. Працадні знімаў. Не памагала...

— І з цябе зняў. Так што не крычы...

— А што я, лысы?.. Сам ездзіў...

— Раіна моду падала. Першая прыцягнула...

— А чаго там. Такія дываны танныя.

— Збяднеў ужо, як люцыпарскі хвост. Не пі!

— Якія гэта дываны, мілы, прама скажу. Анучы...

— Сёння ж сарву. Клапы толькі за імі...

— Я знала, што няпекна. Але ж усе бралі...

— Абрыдлі. Глядзець не магу. Праўду дзяўчына кажа...

— Зрываць са сцен! Абсалютна!

— А што я прыклею?.. Не люблю голай хаты.

Зал хваляваўся, трэба было пачакаць. Нарэшце супакоіўся, выгаварыўся.

— Таварышы! Давайце, раз зачапілі, возьмемся мы за гэта мяшчанства. Ёсць за што. Не на адзін вечар хопіць. Сёння мы толькі зачапілі...— Галіна гаварыла цішэй: хрыпла. Супакоілася. Учула, што ў клубе накурана. Дым

перш цягнуўся на сцэну, а тады да дзвярэй. Ад галасоў дрыжаў.

— Давай сёння, чаго цягнуць!

— А ты нам рэцэпт выпішы!

— Што гэта такая за хвароба новая?

— Мінінгіт! Раіна захварэла ўжо...

Не, зал не мог выгаварыцца і сціхнуць. Яго зачапілі за жывое. Ён зноў усхадзіўся, адпачыў быў толькі.

Яна гаварыла доўга, з гадзіну. Да сёмага поту.

Што хочаш, бывае, рабі,— не дакажаш; людзі шмат на чым век зжылі.

— А табе што? Прыехала чысцёха!

— У таго глядзі, у каго сцены ад леташняга не белены... А мяне не руш! У мяне ў хаце чыста.

— У Раіны!..

— Ёй вечна часу няма...

— Што Раіна... Да Пэрцаў схадзі!

— Там баба хворая...

— А Пэрац? Хай жэніцца. Дзяўчатам жыць не дае... Паспакайнее ў вёсцы...

«Што ж, людзі мілыя, гаварыце, спрачайцеся. Перамелецца шмат што на муку за вечар, няпраўда...»

Увялі людзям у вушы, што мешчанін — гэта дрэнна,— і ніхто не хацеў ім быць, вочы дзёр, даказваў...

Што было б, каб нарэшце не ўздыхнула нечая маладая душа, не сцярпела...

— Пра любоў...

— Га-а... Давай далей адказвай! Пра любоў давай... Пісалі!

— Уразумелі мяшчанства... Пакончым!

— А-а-а... Гэта ты пра любоў пісала? Пара, пара. Падцягнулася...

— Хай Васіль Міронавіч на любоў адкажа! Сумуе ён... Галаву за сталом звесіў...

— Улюбіўся...

Дзяўчаты ўзяліся за Васіля Міронавіча, улучылі момант. Той хоць бы што: сядзеў і ківаў галавою,— маўляў, згаджаюся, а што яшчэ? Давайце, давайце...

Моладзь шумела; заглушыла старыя звадкі. Галіна толькі цяпер заўважыла, што ў клубе мала старых.

— Пра каханне... бяда. Сама больш запісак. Ці ёсць яно, пытаюцца. І не падпісалася ні адна душа. Каму ж адказваць? Ну, хто напісаў? Чаго ж саромецца?

— Раіна!

— Яна яшчэ любіць можа!..

Зашумелі і сціхлі,— бы вецер закруціў і ўлёгся.

— Скажу, скажу...— Галіна зірнула на Васіля, той папраўляў гальштук. Усміхнулася.— Каханне жыве, не памерла, верце мне. І, можа, сёння мы нават мацней кахаем, чым нехта ўчора. Сумнявацца не варта. Можна было і не пытаць. Каханне ёсць...

Яе перапынілі:

— А яго ніхто з вёскі і не гнаў...

— Гэта Пэрац усумніўся. Першы напісаў...

— Ад яго дзяўчаты ўцякаць сталі!

— Яны такія. То да яго, то ад яго...

— Ён вусны зацалаваў... У яго яны, што пакрышкі веласіпедныя...

— Што пра каханне гаварыць... Дзейнічаць трэба!

— А ты ўжо надзейнічаў. Да дзяўчыны баіцца дакрануцца. На танцах памяло ў качарэжніку топча!..

— Абсалютна!..

— Любоў ёсць! Бывала, жывеш, жывеш з жонкай і ўлюбішся ў яе...— голас з кашлем, мужчынскі.

— Га-га-га!..

— Хопіць пра любосць! Давай, дочка, на маю адкажы. Я пра старасць пісаў...— паднялася ля сцэны барада, белая, пры агні, што кашуля. Пасля Галіна ўгледзела твар. Тодар... Яна ведала яго.

Ён перапыніў маладых. На яго затупалі нагамі, але ён не садзіўся. Хацелі не даць гаварыць старому, ды Галіна заступілася.

Заціхлі. Пасля рашылі: раз ёсць каханне — значыць ёсць, і няма чаго перабіваць старога.

— Хопіць валаводзіцца... Танцы позняцца.

— Што за любоў без танцаў? Абсалютна...

— Ды ну іх... Дакука. Гавары, гавары...— цяпер ужо Галіну не хацелі адпускаць.

— Ты мне, дачушка, вось на што адкажы...— стаяў Тодар.— Во я быў вычытаў. Ад старасці часнок есці... Пяць грамаў на дзень. Гэта ж... Быў узяў у краме на пяць рублёў, свой не вырас. Граду замачыла ад рэчкі. Дык, во,— праўда, на халаднік расцягнулі — дык, во, барада толькі псавацца стала. З аднаго краю валасы чорныя пачалі расці... Не відаць пры агні. Днём паглядзець можна... І ў вусах валасіны з чатыры чорныя адскочылі... Выходзіць, мне пад старасць трэба не сівыя, а чорныя валасы вырываць...

Хе-хе... А вось, дачушка, слабею. Грудзі не тыя сталі... Як жа так? Пішуць — ад старасці, а не памагае?

— Гіблае дзела! Гіблае... Табе, дзед, не да твару чорная барада...

— Во... Маладзёнкам захацеў стаць! Ці не Анцю думаеш кінуць?

І так — кожнага справадзяць,— заікніся...

— Прыйдзіце па нядзелі...— Галіна ўбачыла, як застыла белая барада. Стары чакаў.— Не так далёка ад Закалюжжа... А не — каня вазьміце ў брыгадзіра. Паглядзім, можа, вам часнок і не трэба есці...

Зноў рэплікі. Несціханы гул. З залы пасыпаліся пытанні, як гарох. Дзед Тодар падаў моду.

— Вы, во, гарадская... Скажыце... Чаму ў горадзе не прыпісваюць? — распінаўся пісклявы хлопец.

— Гляньце на яго... У горад захацеў. Няпраўда! Хто варты, таго ў горад бяруць. А лайдакі там не патрэбны...— дзед Тодар не даў гаварыць Галіне.

— А я ў цябе не пытаю! Хай яна скажа! — агрызнуўся хлопец. Высокі і тонкі, ён стаяў ля самага парога. Здавалася, зараз шмыгне за дзверы.

— Нічога не дабаўлю. Праўда...— Галіна ўтаропілася на хлопца, які цяпер высунуўся наперад.

— Гэта не адказ!

— Чаму не адказ...— зноў уступіўся за яе дзед Тодар.— Я цябе і ў нашым калгасе не прыпісаў бы, каб волю меў.

— Яго ў горад пацягнула...

— Ён жа дзесяць кончыў...

— Не прамяняю на свае чатыры...

— Гультай. Соня... Гаворыць з табой, хыр...— і храпе...

— Засне ў горадзе — трамвай задавіць. Адказваць прыйдзецца...— не сунімаўся дзед Тодар.

— Га-га-га...

— А ты, дзед, за трыбуну шыбуй! Адтуль дай яму! Судзі яго, як Джвучку! Што — з праходу...

— І пайду... А то такі малачай абнаглее. Раней мяне за трыбуну залезе...— дзед Тодар можа нават знячэўку ступіў з месца і пад шалёныя воплескі пашкандыбаў да трыбуны.

...Галіна сядзела і сачыла за дзедам Тодарам. Ён разышоўся, мусіць, як і ўсе старыя. Апанаваў ужо Васіля Міронавіча — той гатоў быў рассыпацца дробным макам, даказваючы сваё.

Галіне быў даспадобы стары. Жвавы, вёрткі, любое такое пісклянё, што ў горад просіцца, за пояс заткне.

Вось і цяпер. Падняўся на дыбкі, пагладзіў далонню бараду, бы правёў асцярожна траплом па палойцы ільну, і аж выцягнуўся наперад, тыкаючы здаля пальцам у Васіля Міронавіча.

— Не. Ты мне, старому, тут, на месцы адкажы. Змогуць яны там, у Амерыцы,— паказваў ён рукой назад, бы тая Амерыка была ў яго за плячыма,— добры спадарожнік запусціць? Нешта я не чуў...

— І амерыканцы ўжо трохі намасквічыліся, дзед. Колькі гэта кіло напасля закінулі?

— Хе-хе... Ведаю... Дык гэта ж гарошына... Не, сынку. Не могуць яны добрага спадарожніка запусціць. Не могуць...

Мудры дзед. Век зжыў, пабадзяўся па людзях, пабачыў. Такія ў вёсцы — філосафы. Варожаць і на ўраджай і на пагоду. Дзе не розумам, то хітрасцю дойдуць...

Галіна глядзела на яго зблізку. Валасы кароценькія, сівыя, прыгладжаны на лоб. Барада густая. Нос маленькі, ледзь відаць на твары. Востры, што дзюбка ў птушаняці.

Дзед у фуфайцы. Зашпіліўся, хаця і цёпла. Гаварыў пасвойму складна, пра спадарожнікі, пра ўсё. Задаваў сабе пытанні, адказваў, відаць, што чытаў стары. А можа, чуў, памяць добрую меўшы. Гаварыў і пра «шыбкасць» у дванаццаць вёрст за секунду: «Гэта ж, махнеш рукой — у Залюжжа і назад да клуба шэсць разоў... туды і назад збегаць. Во шыбаваць трэба!..» Упамінаў пра «вялікія мінусы цэльсія ў небе» і тыкаў пальцам у столь. Ведаў — і тлумачыў другім, доўга і смешна.

Нарэшце павярнуўся да Галіны. Яна не чакала: насцеражылася, пасур'ёзнела.

— Вы ўзялі, дачушка, крыўду на нас, што мы Петушонка сёння не захацелі слухаць. Не трэба. Прабачце ўжо нам, калі што не так. Вы ж чалавек як-ніяк не наскі... А ў яго прабачэння прасіць не станем. Мы яго даўно раскусілі, ведаем. У нас з ім выйшла сёння такое, як у мяне з адным шаўцом. Не зацягну доўга, паслухайце...

Адстала ў мяне ў дарозе падэшва. У адным боце зусім, у другім — трошачкі. Хаця якая там падэшва. Лыкам шытая... Заходжу да шаўца і кажу: так і так. Ратуй. Разуўся. Ён — адзін. У такой, во, фуфайцы, як я цяпер. «На два капылы спатыкнуўся? Два перацягнуць?..» — пытае. «На два»,— адказваю. «Рубель...» Сказаў, забраў боты, знік за

перагародачкай. Доўга не ляпаў. Грошы тады ў мяне былі. «На́ паўтара»,— кажу. «О-о... Дай назад боты. Ты добры чалавек. Яшчэ раз пераб'ю. Не на тандэт...»

Так і тут. Пахвалі такога Петушонка, зноў пачне ўсё спачатку. Тандэт свой папраўляць. Гэта такі чалавек... Дагані яго, шапку заламі — вернецца і ўсю ноч галаву дурыць стане... А вы добра гаварылі, дай вам здароўя.

— Правільна, дзед! Падсып яму... Хай пацярэбіцца...

— Крый яго! Ён не чуе!..

— Не падыходзіць, дзед, твой анекдот! Не лезе!..

— А складна маніць... Начытаўся...

— Петушонак абразіцца... Шаўцом назвалі!..

— Загаварыўся, дзед... Перабраў... Годзе!

Дзед Тодар і вухам не вёў. Прыплюшчыўся, ці не стараўся ўбачыць, хто наважыўся яго падкалоць. Не сцерпеў.

— Ціха!..— крыкнуў сіпла і слаба.— Васіль, сынку... Уціхамір іх. Ну і разышліся... А я вось што скажу. На яго не такую крыцiку навесці трэба... Нам чалавека з добрай грамаццю дай! І ўсё! Гіягра-афія... Фтарыцет... Га? Хоць, можа, без грамаці, але я верна крыцікаваў. А вы тут усе маладыя, вывучаныя... Ды языкі пазавязвалі... Маўчыце заўсёды... Баіцеся на яго добрую крыцiку навесці. А я — як умею...

— Чашы, дзед... Не здавайся!..

— Канчай, стары... Снег на вуліцы пайшоў...

— Хай музыка слова скажа!

— Дзед, закругляйся!.. Зазімаваў на трыбуне!..

Дзеда Тодара ссадзілі са сцэны. Гушкалі, крычалі: «Брава!.. Давай дзеду барыню!..»

Моладзь усхадзілася. Хацела свайго і брала сваё.

Танцы пачаліся позна. Аркадзь у той вечар быў з Галінай.

Калі яны выйшлі з клуба, на вуліцы было ўжо бела ад снегу.

*Частка другая*

# Вятры ў Грынях

## 1

У Грыні прыйшла зіма.

Яе прынесла з Віліі, адтуль з-за Асіпаўскай пушчы,— з Закалюжжа.

Хапянула на галец марозам зямлю і Цяні-балота, астудзіла Асіпаўскае. Стылі, кракталі на стужы старыя сосны-каржакі, лускалася ад марозу кара на маладым сасонніку,— гул настырнай зімы плыў у вёску з загумення, з лесу.

Дарога — груда. Размешаную машынамі і калясьмі густую гразь сцяло за ноч. Груда, як востры камень ці крэмень,— не разатрэш яе, не прыгладзіш: адскокваюць колы.

Барабаняць калёсы ці сігналяць машыны — чуваць за сем вёрст: марозная ціша ловіць гукі здалёку-здалёку. Колы аж звіняць, бы па свежым бруку, які не паспелі абабіць, аб'ездзіць.

Выпаў іней — сівы, сіні, прысыпаў пясок, прыцерушыў сцежку, мяккі, лёганькі, адны пушынкі. Дыхне конь на дарогу, звесіўшы галаву долкі — рассыплецца, ляціць на бакі, бы аўсяная пацярушка на таку з-пад венічка.

Тэлефонныя правады — што тыя суканыя ніткі з белай ваты, калматыя, тоўстыя, па пальцу. Бы хто абкруціў іх — прыхаваў ад марозу.

Лагі заслала шэрым, нявыбеленым абрусам,— каструбаватым, нязграбным. Тырчаць ніткі, вузлы-звязкі,— няскошаная дзе старая высокая мятліца нехаця прыпадае долу; выгнулася, вытыркнулася бугаркамі куп'е.

Трэскалася зямля, шчапалася, як калода на сонцы. За леспрамгаскімі прычэпамі пыліла перасохлая дарога. Мароз пёк нагалец трэці дзень.

Ноччу дрыжалі ў небе зоркі, скакалі, бы гэта іх даняў мароз; пырскалі ў чорнае бяздонне, як вуголле з печы на падлогу, як іскры з коміна, калі гарыць сажа.

Трэскаліся вуглы, трапчалі платы, зрубы ў студнях: мароз знішчаў ваду. Рака прамерзла да дна, лёд быў чысты, як спірт, свіціўся наскрозь. Пад ім можна было разгледзець твань і травіцу, як на далоні.

У канцы Грынёў, пад Закалюжжа, мароз уклюнуўся ў

крыніцы, падняўшы пару. Яна стаяла там цяпер дзень і ноч, бы ад лета яшчэ курыўся падпалены на Лажках торф. Адтуль несла іней на лог, на вёску, церушыла на стрэхі, пасыпала ферму, двары і вуліцу, як гаспадар белым пясочкам перад святам.

Склелі дрэвы, склелі будынкі. Ракаталі, заходзіліся на марозе трактары, тралюючы лес на ферму пад Буслішыя сосны. Гулі машыны, мчалі з Асіпаўскага ў Грыні і назад. Для іх усталявалася дарога, як цэмент. Трэба перакінуць лес, каб летам лішне не рабіць вярстовых грэбель па імшарах. Саплі, дыхаючы, мужчыны з сякерамі ля будынкаў на ферме,— на марозе стылі грудзі. Дыміліся дзень і ноч коміны, рэдка ды гулка скрыпелі вароты і асверы. Людзі без дай прычыны не вылазілі на двор; не бразгалі часта вёдры ля студняў, бы і вады ў марозы трэба меней.

Кашлялі ўвесь дзень конюхі і даглядчыкі ля парніка і на ферме ці пускаючыся з жывёлай да крыніцы. Далёка было чуваць... Рэха доўга плыло па ўзлессі, пасля сціхала і нікла ў Асіпаўскім.

На трэцім тыдні ў гаспадароў-гультаёў захісталіся-затрашчалі платы,— гэта ў каго рана апусцела дрывотня. Не сунуцца ж у такі мароз на згуб вушэй некуды ў лес. Ды і ліха на яго, няўжо пратрымае доўга: маладзік хутка.

«Вымерзне, глядзі, азіміна...— бедавалі на ферме праўленцы.— Такія марозы, помніцца, былі ў саракавым, у фінскую вайну, калі сады прапалі...»

Праўленцам клопат, ім не да сцюжы.

...Вецер ашалеў ноччу. Ускруціўся недзе ў Асіпаўскім, як і той мароз, і падзьмуў з загумення. Пасля ўсхадзіўся і нёсся, шматаючы заціхлую было начную цемень,— сухі, калючы. У хаце выдавала, што ён вось высадзіць ад вуліцы шыбы, яны разляцяцца аб лаву і рассыплюцца на падлозе дробненькімі шкляначкамі-льдзінкамі, уварвецца ў фортку, дыхне сіверам у напаленай хаце, пакруціць, пазрывае фіранкі, змяце са стала газеты, паапякае вазоны і расчыніць насцеж дзверы.

Ды шыбы трымаліся, і, можа, ад таго вецер шалеў яшчэ горш. Падымаючы на прыгуменні сухі ад марозу жарсцвяк, ён гнаў яго пазёмкай-мяцеліцай проста ў вёску, перакідаў цераз платы і сцёбаў, што гарохам, па сценах і вокнах. Трацячы імпэт, але не супіняючыся, ён урываўся на двор і варочаў усё на свой лад. За ноч умудрыўся адшчапіць варотцы і цяпер ганяў іх са скрыпам узад-уперад, яны бразгалі аб дубовае шула,— вымятаў пана-

дворак ад трасочніку, замуроўваючы ўшчэнт падваротню ў хляве; нават тоненькія льдзінкі, патрэсканыя і рассыпаныя ў вымерзлых лужынах, сабраў, выдзьмухаў ад карыцы і трэсак і роўненькімі кучкамі, як адмераў, ссыпаў на пясчанае, чыстае дно.

Пад раніцу вецер рваў яшчэ больш, і вароты, здавалася, аж шчапаюцца.

Вольцы прыснілася, што нехта сячэ сукаватыя калоды з-пад хлява, якія не паслухаліся яе жаночых рук і колькі ўжо валяюцца на дрывотніку.

Яна прачнулася і нахілілася да акна:

— Заспала...

Чырвонае, што жар, сонца вылазіла ўжо з-за вярбы-рагача, які тырчаў у гародзе пад аселіцу.

— Такая чырвань... Паўнеба... На мароз...

Яна ўссунула на босыя ногі цяжкія Міронавы боты, абкрылася і выбегла на двор.

Вецер заскуголіў на самае вуха, бы галодны сабака апанаваў гаспадара; секануў жарствой па вачах, сыпануў у твар трасочніку...

Мірон Выжлятнік выцягнуўся на ложку, бы адубеў за ноч: коўдра з'ехала да сцяны, і ад акна адзервянела плячо, не павярнуць.

Вочы ў яго расплюшчыліся з болем, нібы хто жывасілам раздзёр павекі; калолася недзе глыбока, як ад нацярушанага дробнага шылля.

Ён нехаця прачынаўся, прыслухоўваючыся да скрыпу — скрыпелі боты, здавалася, дзесьці далёка-далёка, можа, аж у канцы вёскі.

«Дзе я?..» — стаў ён думаць. Сумнення не было: гэта яго боты, са скрыўленымі заднікамі, у жоўтым пяску,— хоць бы Волька іх анучай узяла змахнула. Ён уставіўся вачыма ў парог, не могучы зварухнуцца. Бачыў толькі качарэжнік і цабэрак, ля якога боты як прымерзлі. Чуў, як ґулі правады ад ветру, бо нехта вырваў шнур ад радыё са сцяны, учора яшчэ,— і яно маўчала. Хацеў зноў звесці вочы,— ды левы бот з рассечаным пазаўчора ў лесе носам раптам адарваўся ад падлогі, зарыпеў.

«Мае ж боты...» — Выжлятнік хоча прыўзняцца, толькі галава — што камень ад жорнаў, не адарвеш ад падушкі, і рукі — як жэрдкі, прывітаваныя наглуха ў плоце. Уваччу туман... Задыміўся чалеснік, пацягнулася з печы ў комін сівое палатно, бы хто там, на страсе, спяшаючыся, скручваў яго ў сувоі. У галаве стукала, звінела.

«Боты ж у мяне на нагах... Мілы, кінь... Са мной жарты... Так муштраваць? Павыкручваеш! Скалечыш!..»

— Гэ-э...— закрычаў ён спрасоння нема і хрыпла.

Боты заскакалі, зарыпелі і падбеглі да парога.

— Стой! Гэ-э!..— загаманіў ён на ўсю хату, падскочыў і сеў у адной бялізне, зыркаючы вачыма на жонку.

— Во. Накачаў Джвучка з Куцкам... Насёрбаліся, і сну няма. Ганяеш некага ўсю ноч па пушчы. І мне вачэй звесці не даў. Што? Тузае? Рваць, мусіць, стане... Вядро, можа, прыцягнуць?

— Не крычы нашча. Чаго ўсхадзілася? Проста галава ломіць, прама скажу. Бывае,— Выжлятнік сцяў аберуч далонямі галаву, бы яна ў яго расшчапілася з начы і цяпер магла, што той разрэзаны гарбуз, разваліцца надвая. Між пальцаў павытыркаліся кароткія валасы: галава цяпер была што дрэнна абскубленая гусь.— Гэта ты мне сну не даеш... Скрыпіш...— прамычаў ён, як абдзелены ля кармушкі бык.

— Так? Гэта я не даю, галава твая сівая! Га?.. Скрыплю, кажаш? А ці не ад Раінінай гэта злыні ў цябе ў галаве скрыпіць? Га?.. Што ж я каля печы і перад табой на пальчыках у беленькіх тапачках кленчыць стану. Не дажывеш са сваім Джвучкам. Мыкала... Мычыць усю ноч. Дзяўчыну без пары ўскруціў. Калі яшчэ ў школу, хай бы спала. Добра, што хоць ложак пад п'яным сухі. Раве, не ведае чаго... Не хацела я цябе ўчора пры людзях чапаць. Выдала б такую лазню... Паўважалася...

— Што? Сціхні!.. Недалёка ты ад Раіны...— падняў галаву Выжлятнік, саскочыў з ложка і падцягнуў споднікі.

— Панаводзіў... Джвучка, Пэрац, Куцка паршывы... Кумпанейка. Дружкі. Такія давядуць.

— Ну кінь, прама скажу,— Мірон не хацеў заходзіць далёка, жонка магла не даць пахмяліцца, а без пахмелля не жыццё.— Скідай боты ды ў печы глядзі што робіцца.

— Знаю, куды глядзець. Зірні лепш на сябе, які стаў. З'ехаў за ноч, як чучала... Не кінеш смактаць — з'есць ляснічы, паглядзіш. Вымову зноў вунь даў...— цішэла і Волька.— На́ тваe мазглякі, не сядзі голы-босы, брыдоцце...

Цяжкія боты спаўзлі з яе тонкіх ног, пранесліся цераз хату і ткнуліся халявамі ў валасатыя Міронавы галёнкі.

— Глядзі, Волька... Дачакаешся... Паняньчу... Разам жа жывём, на ўсіх ідзе, што, не знаеш? А ляснічы новы — ражон яловы. Ставіць сябе... Інстытут скончыў. Тыкаецца ўсюды. Зялёны... Ушчэміць недзе шыю, пачакае хай...

А ўчора злынь была не чыстая, раз так галаву водзіць, скажу прама. Раіна печага ў брагу дабаўляла. Чуваць... Я ёй пакажу... Я ёй скіну з плячэй яе стары качан...

Волька шлёпала босымі нагамі ля дзежкі, шаруючы рудую ад учарашняга спаленага сала скавараду.

— Ты мне ласонікаў не строй. Бліноў пшанічных, яйцы з чатыры і прамачыць...— Мірон памаўчаў.— Ляснічы... Ён мне вымову... Паперку ў зубы тыцкае, палохае, за п'янку грозіць. Хто яе не п'е?

— Лепшых ласонікаў і ў каменскага Куцкі не знойдзеш. Нешта ён забываць стаў пра цябе. Адбудаваўся — і хвастом накрыўся... А прамачыць — скулля. Да Раіны, вунь... А ляснічы, хоць і хлапец яшчэ, а з галавой. Не на таго ты, відаць, напаў. Ён за цябе возьмецца, папомніш. Скура трашчаць будзе. На вясну без работы застанешся, у калгас папросішся. А цяпер у калгасе не тое, што раней. Прыціснуць да работы, мінулася...

— Не крануся з хаты, чуеш?

— Згрозіш мне...

— А трэба. Прама скажу, трэба. Лес нехта валам валіць за Асіпаўскім на Віліі...

— Варта. Скора сцежкі ад гэтай злыні не ўбачыш, не то каб парубкі... А хто валіць, ведаю. Не адзін недзе Куцка. Хіба людзі табе горла замажуць. Але пачакай, дабяруся і я. Качарэжнік пакрышу на дурной галаве. Трэба мне такія заработкі, калі судом пахне. Начэй не сплю...

— Волька! Ты зноў за сваё... Кінь, кажу, цыганскую музыку. Труніць усю раніцу. Давай хутчэй заткнуць чым, ды пайду. І не за адным пнём валакуся, галава твая.— Выжлятнік сцішэў.— Рагатая скаціна зноў вярнулася на Пагурак. Хай толькі снегу дасць, хай след стане — маё! Можа, вецер і нарве сняжку, усхадзіўся так. А скаціна нішто прыйшла. Ці не тая, падазраю...

Абкруціўшы каля шыі ручнік, ён пашлэпаў у сенцы.

— Глядзі... Прасадзішся! Лоб гуза шукае. Зно-о-йдзе...— не сціхала Волька.

Ён не чуў, ды і слухаць не схацеў бы.

Праз гадзіну выйшаў на загуменне пад Ваўкаўню, насупраць ветру. Ружжо з сабой гэты раз не браў.

«Меншае падазрэнне, калі ствол у лес радзей цягаеш...»

## 2

— Дык гэта праўда, што Выжлятнік да старшыні з кулакамі кінуўся? Мама!

— Ат, не дуры галавы. Трактар свой думай як скласці. Раскінулі ж на рамонт... Пэрац у цябе, відаць, такі памочнік, як...

Аркадзю няёмка, да яго аднекуль падступае злосць.

— На тваіх жа вачах было. І не заступіцца за старшыню... А трактар зложым, не твая бяда. Яшчэ па запчасці ў горад паеду заўтра. Ну дык як там?

— Не прыставай... Ён вучыць матку. Глядзі...

— А ўсё ж заступіцца трэба было б за старшыню...— не супакойваўся ён.— Наш хлопец. Малады. Хаця, адны даглядчыцы... Разбегліся куды каторая. Падумаеш, Выжлятнік п'яны вылаяўся. Вушы заткнулі і ходу. Так было? А дзе? На ферме?

Ульяна ўсміхнулася:

— Можа, за гэта міліцыя і цягае іх, што разбегліся,— схітрыла яна.— Я-то не пабегла... Наадварот, бліжэй падышла. Схапіў бы Выжлятнік у мяне вілачніка, каб не паявіўся старшыня. Надумаўся... Дай яму падводу. Сам лезе ў канюшню, хамут з кладоўкі цягне без спросу. Кабылу рабую зацугляў... Як па сваё прыйшоў, крычыць. Волечка тут вінавата... Ой варта было б бандзіту таму. Дзізярціру... Я так і чалавеку чужому сёння сказала, калі спытаўся пра яго, бо варта.

— А што ты яшчэ сказала? Доўга нешта вы з ім гаварылі...

— А ўсё, што знала. З пачатку да канца.

Было пасля вячэры. Дрыжала за акном ядраная ад марозу ноч, мігаў агонь на застоллі. Вокны ад вуліцы замураваны; ад агарода шыбы зверху адтавалі, і з падваконня капала на лаву вада. Гэта ад печы: яна ж насупраць і палілася нядаўна.

Яны ўдваіх у хаце; яна пажылая, памажнелая, са свежымі яшчэ русымі валасамі — іх толькі на скронях чуцьчуць кранула інеем, не адразу ўбачыш,— сядзела на ўслончыку ля печы, там, дзе лазяць на пяколак. Задумалася, падперлася, гаварыла, гледзячы на покут на сына,— ён нагнуўся над сталом, над кнігай — механіку сваю чытаў, цяпер адклаў. Думалася ёй, што яны ўдваіх так здаўна. Сын жа за гаспадара, як толькі на ногі стаў. Праз блакады, праз голад яго выхадзіла... Вырас. І выўчыўся яшчэ.

— Усё расказала, бо добры чалавек быў з вобласці. Такі шчыры хіба толькі наш сакратар раённы, што Пракопавіча першы раз прывозіў. А гэты з вобласці і падобны нават на сакратара,— у паліце быў і ў простай шапцы, як у яго. І не дзеля аднаго Выжлятніка прыязджаў. Рэабілітаваную паперу мне на брата прывёз. Пытаўся яшчэ, як людзі цяпер... Ну, як Выжлятнік і Джвучка, што робяць, чым займаюцца. Я і расказала: і як цяпер з кулакамі на новага старшыню кінуўся, і як некалі белыя коні вербаваў. Ён і на твайго бацьку падпісаўся ў трыццаць сёмым. Ніколі б не падумаў. Ён тады з Джвучкам і на Авяр'яна быў напісаў. Удваіх рабілі. Гэтулькі людзей праз іх нацярпелася. Твайго бацьку і Авяр'яна самых апошніх забралі. Адпусцілі пасля. А астатнія... І брат мой... Паказаў мне гэты чалавек... Выжлятнік і Джвучка подпісы паставілі. На твайго бацьку сведчылі, што лазню калгасную спаліў. А бацька ў раёне быў на нарадзе, як пажар здарыўся, і цяпер помню. Але ж тады ні ў кога больш не спыталіся, толькі ў Выжлятніка і Джвучкі.

Добры гэты чалавек з вобласці. Гаворыць так са спагадай, з душой. Пра ўсё, пра ўсё расказваў. Гэта ж хто думаў, што такія рабілі. А пасля засталіся і скублі калгас, лупілі. Досыць. Цярпелі іх. Што ведала, расказала, аж на сэрцы лягчэй. А ён запісвае ўсё,— во такую кіпу спісаў: не я адна гаварыла, усе бабы ішлі да гэтага чалавека. Хай жа ведаюць там, што за людзі такое рабілі. Падумаць, на паўвёскі напісаць за што за якое... Выжлятнік праклятых. Але пачакай...

Доўга гаварыла яна.

Шасталі ля акна ходзікі, бы хто там вадзіў па сцяне жменькай сена. На печы, па сасновых аскалёпках з дрывотні, што сохлі на падпалку, лазіў кот.

Дрыжала на дварэ ад марозу ноч. Холад ад акна лез за плечы, Аркадзь падняўся з-за стала, накінуў пінжак і стаў хадзіць па хаце.

Ярка гарэла святло. Ульяна гаварыла не сціхаючы.

— Мама, а якіх гэта белых коней Выжлятнік вербаваў? — спытаў нарэшце ён, калі яна змоўкла.— Гавораць пра яго, смяюцца на вёсцы, а як было, дык я добра і не чуў ніколі.

У коміне завыла.

— Зачыню юшку, а то вецер хату вышастае. Старая песня, сын...

Памаўчалі былі, і яна расказала.

— Жылі мы тады ў Грынях. Па вайне ж, як немцаў прагналі, сюды перабраліся на жыццё, ведаеш жа.

Ты таго не помніш: у калысцы ляжаў.

Тады былі найшлі маразы, большыя, чымся цяпер. Мёрлі на ляту птушкі, марозіліся людзі. Сухата, іней, сівер. Стары Лавацкі сад пасля таго і не ачуняў, зачах. Толькі дзве грушы, што цяпер кожную весну цвітуць, ад яго засталіся, выжылі. Старыя яны ўжо зусім. За прыгонам нашы грынёўцы тыя грушы панам Таразэвічам садзілі. Ліха з імі...

Людзі наракалі, што такія маразы ад фінскай вайны, нібыта адтуль іх, з Фінляндыі, прынесла.

Вайна ў вёсцы падабрала мужчын. Бацьку твайго не ўзялі па хваробе.

Як сёння ў памяці... Была субота. Сядзела я за ручной машынай, ці не табе пашыць што трэба было? Бацька корпаўся ля печы, дзе цяплей, прастаў цвікі на снарадзе,— кароўнік у калгасе збіраліся вясной перакрыць. Сонца было на поўдні і праз акно свяціла аж пад самы ложак. Ляпнулі былі вароты, і на двары ля акна заскрыпелі цяжкія крокі. Чалавек ледзь дыбаў, апіраючыся на плот і на палку. У акне доўга была відаць яго зімовая шапка і чорны каўнер ад кажуха. Я кіўнула на бацьку, і ён выбег на двор. Памагчы ж трэба было: адразу пазнала, хто гэта. Ды і па вёсцы гамонка ад учарашняга разносілася пра яго. Такое не маглі ўмоўчаць: чалавек з далёкай вайны жывы з'явіўся.

Дзверы настылі і не адчыняліся.

Зноў доўга тупалі ў сенцах, шукалі клямку, а знайшоўшы, не маглі адчыніць. Я падбегла да дзвярэй, піхнула. Чалавек стаяў ля парога, адчыняў сам.

— Добры дзень, мілыя... Во бярэ, ратунку няма, што на Карэльскім перашыйку. Як Манергейм цісне. Але лопнуць вантробы, раздавім, прама скажу...

Язык у чалавека лапатаў шыбка і цвяроза. Вочы зыркалі па сценах, здавалася, з парога аж на покуце ў шчэлках чорт ведае што ўгледзелі. Затое ногі ледзь валаклі на сабе вялікія валёнкі, цягнулі іх па хаце ад качарэжніка да куфра, дзе быў зэдлік.

Чалавек зняў кажух, доўгі, да пят, чорны і павесіў на ложак, на брыж. Скінуў пасля шапку, правёў рукой па кароткіх, адрослых ад стрыжкі валасах. Застаўся сядзець у ваеннай фуфайцы і ў ватовіках. Валёнкі ў яго таксама былі ваенныя — вялікія, белыя, зусім новыя. Чалавек цёр

рукі, пасля згінаў ногі ў каленях і скуб, бы яны ў яго свярбелі-свярбелі...

— Ну грэйся ды расказвай... Гэта ж недзе, брат ты мой... Такая вайна, у такія маразы. Як людзі трываюць толькі...— бацька зноў сеў у запечак за калодачку з цвікамі.

— Кінь бразгаць. Чалавек, як госць вялікі...— накрычала я на бацьку. А ён і сам не хацеў ляпаць тады, проста яму было нейк няёмка, не ведаў дзе рукі дзець.

— Трымаем, гонім... Бягуць фіны, як мухі дохнуць на марозе. А нас спірт, мілы, ратуе. Раніцай — спірт, днём — спірт, вечарам — спірт. Чырвоныя ўсе, што ракі. Адным словам, фіны баяцца нас і дохнуць, як мухі...— чалавек ёрзаўся на зэдліку і церабіў паясніцу.— Снег толькі не дае іх лавіць, мілы. Такі снег. У тры метры. Глядзіш, як з-за сцяны, і свету не бачыш. Мілы, гіблае дзела. Не прайсці: снег сыпкі, што ў нас пясок у Ваўкаўні,— правальваешся, грузнеш. Хоць ты трактарамі дарогу расчышчай... Ды нельга, відаць: трактар жа чорны. Коні, толькі коні могуць уратаваць фінскую кампанію. Я, мілы, сам пасля кантузіі, а прыехаў вербаваць белыя коні. Толькі коні, белыя коні памогуць прыкончыць фінаў. І я навярбую. З усяго сельсавета, а то і з раёна. Ёсць у нас, а вайне памагчы трэба,— чалавек не мог, здавалася, выгаварыцца. Сыпаў слова за словам, беспярэдыху, бы ягадкі перасыпаў са жмені ў жменю, пакуль іх у рот вытрасці. Складна і спрытна. А вочы ўсё бегалі па сценах, па дзвярах, зыркалі на акно, на дарогу. Як на вуголлі сядзеў чалавек, трывожыўся і ўсё расціраў сярэдзіну, а то, згінаючыся, прыпадаў зноў да калень.

— А мне, мілы, кантузію пераждаць давялося. Думаў — канец, ажно на папраўку пайшло, на лепшае. Дык тут далі, во, дванаццаць дзён на вярбоўку. Нічога не зробіш, вайна,— чалавек развёў рукамі.— І падлечышся, сказалі. А не так-то лёгка. Нага во, зірніце, не ўлазе ў валёнак.— Ён спрытна сагнуўся, забыўшыся на сярэдзіну, сцягнуў рукамі валёнак і абсунуў шкарпэтку, беленькую, суконную, мусіць, салдацкую, бо такіх у вёсцы яму зрабіць не маглі.— Во, пухліна, мілы; як бурак нага, пасінела аж...

Я добра не разгледзела. Бацька быў бліжэй. «Ага, ага»,— прамармытаў ён і змоўк. Чалавек жа спрытна падцягнуў белую шкарпэтку, сунуў нагу ў валёнак, выпраставўся і толькі тады застагнаў і ўхапіўся зноў за сярэдзіну. Счырванеў увесь,— гэтак балюча і цяжка было згі-

наца... Адкінуўся пасля на зэдліку да куфра, стагнаў і войкаў,— як сабака дзе ў хаце здыхаў пад лавай. Мы сядзелі склаўшы рукі, а чалавека, можа, трэба было ратаваць ад пакуты. А куды кінуцца, па якога доктара?

Забразджалі ў запечку цвікі: бацька зачапіў нагою скрынку, падняўся. Можа, куды пайсці быў надумаў?

Чалавека зноў як варам абліло,— ён узгарэўся; тады, відаць, адпусціла ад «боляў» — выпрастаўся і насцеражыўся. Залыпаў вачыма, перастаў быў мацаць сябе за паясніцу, апусціў вочы і разглядаў валёнкі. Пасля адкінуў галаву, і вочы яго зноў забегалі па сценах.

— Толькі коні, белыя коні, мілы, могуць нас выручыць. Так і дзядзька кажа, што ў Ленінградзе...— чалавек уздрыгнуў і асекся. Вочы зноў зашнырылі па вокнах, узіраліся далёка на выган, на шашу.— Я, мілы, зарос, во, за дарогу, падстрыжэш. Цяпер дык з суседзяў і няма каму: мерзне народ у акопах. Ножніцы ў мяне з сабой, лахман толькі знайдзі які на плечы ўскінуць...

Доўга ён яшчэ сядзеў на калодачцы пасярод хаты, ныў, адстаўляў нагу і «вербаваў белыя коні». Пайшоў няскора, яшчэ цягнуў усё, а чаго хацеў — і сёння не здагадаешся. Трэба нешта было, не адна стрыжка.

Нядобрае, думаю, у чалавека ў галаве. Пабегла я тады ў сельсавет і расказала, што чула, што бачыла... што думала...

Пайшоў ён у вёску ўчора ўвечары, а назаўтра ноччу яго забралі. Дзізярціраваў. Нядобры бог да чалавека. Думаеш на белых конях ехаць, а тут цябе па снезе на хворых нагах пруць перад сабой, пад ружжом яшчэ. І кульгавасць як вадой змыла. Бураком-рэпкай, казалі, нагу націраў, за кантузію пасінелую каб усё сышло. Я-ткі тое, не можа чалавек з балючай сярэдзінай так лёгка валёнак здзерці з нагі або ўскочыць з калодачкі і падмятаць за сабой валасы, кленчыць, збіраць шчапоткамі. Забываўся, бандыт. А вайны ён тады яшчэ і ў вочы не бачыў. З Ленінграда збег, другія — марозілі сябе і пад кулі падсоўвалі, а гэты... І дакументы дастаў, і вінтоўку ў дзядзькі тады ў Ленінградзе кінуў. Знайшлі ўсё. І дзядзька яго такі самы. Вось якой вярбоўкай чалавек скуру бярог. І неяк, во, мінула тады вайна такога. Руку, казалі, ткнуў з акопа пад кулі,— ды ў шпіталі адлежыўся. Жывы і здаровы вярнуўся з фінскай разам з усімі. Ніхто і цяпер не ведае, як яму ўсё сышло гладка. Не расказвае. Баялі, што расстраляць хацелі... Не перайначыўся чалавек. І ў гэтую вайну, ду-

маеш, на немца хутчэй сунуўся? Не-к... У партызаны з вінтоўкай не пайшоў. Прыладзіў сваю лазеньку і вэндзіў сала. Партызан!.. Нажываўся... І цяпер зямля ў яго лёгка круціцца пад нагамі. І галавы ён нідзе не зверне. У лес, во, падаўся...

Той чалавек з вобласці яго таксама дапрашваў. Доўга ў канцылярыі трымаў: гадзіны дзве. Выйшаў ён адтуль вясёлы, усміхаецца, рукамі махае, расчырванеўся ўвесь, як нага яго ў фінскую вайну. Хоць бы душа перавярнулася ў чалавека... Другіх адправіў, каб самому рабункі чыніць. Гэтую гніду да людскога і блізка не трэба было б падпускаць, а то і ў брыгадзірах яшчэ пасля вайны пахадзіў. За ім у вёсцы бабе і слова нельга было сказаць. Страшыў усё тым жа. Самагонкі штодзень вымагаў. Хоць ты, было, спецыяльна для яго гані. Але кончылася цяпер ягонае на людзях, дык у лес нырнуў. Жыве... А лес што? Цёмная ноч. Хто туды пойдзе ззаду? Толькі ж каб зрабіў так, каб яго дзе сасной на смерць прыдавіла...

Ульяна змоўкла і глядзела на застолле, на святло. Што мроілася жанчыне, што было ў яе цяпер на душы,— хіба мог згадаць малады хлапечы розум?

Маці... Колькі яна перанесла, пагаравала; колькі перацягалі яе плечы нягод і цяжару ў жыцці,— і колькі яшчэ пяшчоты ў вачах.

Колькі адпакутавала яна, калі ў першыя дні пасля ваеннага смуроду вывела яго, малога, з лесу на папялішча і пасля ўкрывала лахманамі ў змудраванай на двары зямлянцы. Каб хаця не прастыў, каб грудзі не сцяла...

Бацька з партызан не вярнуўся. Нават па смерці цяжка было яго апазнаць: абгарэў, забіты ў будынку, калі гарнізон у раёне нішчылі.

А тая галодная вясна на папялішчы, калі ліповы ліст сушылі на хлеб, калі елі сухі і жорсткі зялёны праснак, пакуль не сталі пухнуць.

Вайна прайшла, але пакінула бяду яшчэ надоўга. Ад яе нікуды нельга было сысці, яна, мінуўшы ўжо вёску, лезла ў кожную шчыліну ў закутку... Ды цяжка ёй было, не пад сілу ўжо... Аж трашчалі напятыя ад натугі жылы, калі схуднелыя жанчыны ўпрагаліся ў плуг, каб засыпаць зямлёю бульбіну ці зерне. Бо чаго ж чакаць, не сеяўшы? Але не лопнулі ад натугі жылы: яны толькі больш драцянелі. Гэта была апошняя чалавечая сутычка з вайной пасля вайны. Чалавек узнімаўся на ногі, чалавек перамагаў.

Перамог... Выстаяў...
Маці... У маршчынах, пасівела. З хворым з тых часоў сэрцам. Без следу такое не мінае чалавека...
На двары ўсхадзіўся вецер, густы, шалёны. Быў сціх, пасля, як пасцілкай, сцёбаў па шыбах, рваў страху, бегаў, трашчаў па гары. Шумеў суха, здавалася, гэта ён калыша на шастку, што ля коміна пад страхою, навязаныя для лазні венікі.
Ці не ад яго міргаў за сталом агонь? Ляпалі вароты, моцна і часта. Звінела вядро ля студні, гэта яго ганяла над парканам, перакідала далёка на агарод і шпурляла назад, на дрывотнік.
За акном, здавалася, заматляліся белыя абрусы, сцёбалі кудлатымі махрамі па шыбах,— паваліў снег. Ноч з мяцеліцай хлынула на вёску.
Забялела на агародах, пасінелі чорныя шыбы.
Пацішэў вецер, нехта лягчэй і павольней стаў ступаць па гары, не звінела вядро, бразгала зусім ціха,— відаць, было поўнае снегу.
— Добра, мама, што расказала. Нам трэба гэта знаць. Выжлятніку за такое... Чуе... Сам ад народу ў лес зашыўся. Бяжыць воўк ад агню...— Аркадзь падышоў да шафы, дастаў паліто, пачаў апранацца.
— Не хадзі, сын. Дзе тыя Грыні... Край свету па мяцеліцы...
Яна хвалявалася, а ён нічога ёй больш не сказаў.
За вуліцай яго сустрэў халодны і густы вецер з загумення і пагнаў з пазёмкай у поле.
Маці... Усю дарогу ён гаварыў з ёй, расказваў, чаго ў вочы не мог сказаць.
А вецер нёс яго ў Грыні, туды, дзе заўсёды такой парою ярка гарэлі вокны ў клубе, дзе людзі не суніմаліся пасля працы, калі нылі ногі і балела спіна, дзе не сціхала ніколі жыццё, дзе была Галіна...

## 3

Сціхла ўсё, вымерла. Здавалася, зямля насклелася, намерзлася і застыла пад снегам,— лягла аблогай на сон, не дыхае; здавалася, адышло цяпло, знікла назаўсёды.
Снег валіў чацвёра сутак запар. Панадзімала, панастаўляла на дарозе, на прыгуменні і на ферме белых капцоў, не пралезці да Ваўкаўні. Аціхала ад ветру, і зноў пачынаў дыхаць мароз, адтуль, з-за гумнаў.

Усталявалася зіма: быў яе час.

Учора пад поўнач падалі голас ваўкі, нібыта без іх дык у Закалюжжы і ў Грынях і жыць нельга... Выйшлі з Асіпаўскага, пад Ваўкаўню, завылі. Два ці тры — ад сілы: цяпер ваўкоў мала.

Сабакі ўсю ноч рвалі прывязь, заходзіліся, падвывалі адзін аднаму ў марознае неба,— чулі галодную прыблуду.

Кракталі, варушыліся Грыні і Закалюжжа. Людзі працiралі сцежку вуліцай, беглі перш-наперш да хаты старога Тодара і Пракурорыхі, дзе брыгадзіры вешалі нарады ў драўляную рамку пад шкло; разграбалі сцежкі да хлявоў, да студняў. Ад Грынёў да Закалюжжа прасунуўся трактар, пайшоў на тралёўку лесу. Аркадзь першы правёў зімовую дарогу — прасцейшую, нацянькі. А праз дзень яе расцерлі і раз'ездзілі на санях — вазілі торф з выгана на Лавацкае поле.

Яшчэ па цаліне дыбаў Выжлятнік раніцай у Асіпаўскае, а прыцемкамі пёрся ўжо з Закалюжжа ў Грыні па цвёрдай дарозе. Пераабуўся і знік быў з дому. Позна за вячэрай соп і не адказаў жонцы ні слова.

— І нанач яшчэ Джвучку з Пэрцам абегаў... І ні жыў...— чуў ён, як бурчала Волька, ды сцерпеў. Такога з ім не было.

Ён не спаў усю ноч, варочаўся, курыў, тупаў па хаце; уссунуўшы валёнкі, выходзіў на двор, ляпаў нечым ў хляве, узяўся быў расчышчаць ноччу снег. Далёка яшчэ да дня выйшаў цішком з хаты, зноў не сказаўшы ні слова. Жонка, дзякуй богу, спала. Каб гэта ў другі час... Ускруціў бы яе Выжлятнік, як міленькая ля печы выкручвалася б. А цяпер лішні шум, агонь ноччу ў вокнах і дым з коміна... людзі ж не дурныя. Скварку можна і ў кішэню ткнуць, знойдзецца...

За вёскай ля шашы, дзе недалёка малады калгасны сад, яны былі ўжо ўтрох. Сабраліся тут, не заходзіўшы адзін да другога. Варта ноччу ў вёсцы з ружжом на каго-небудзь аднаго наткнуцца, як заўтра ўжо ля нарадаў усе будуць трубіць, што не спаў, бадзяўся недзе. А многія ўздумаюць і прапытаць, куды хадзіў, высачыць, як Пракурорыха ці Раіна. І далей ад воч старога Тодара.

Наперадзе ім — цалюткі свет. А да дня недалёка: ужо сіпла галасілі пеўні. У другім канцы Закалюжжа брахаў сабака, глуха, як з-пад зямлі. Грыні спалі аблогай, бо позна ўкладваліся звечара: сход калгасны быў у клубе. Праўленне цяпер пры новым старшыні дае нарад усім на ба-

лота,— капаць торф. На ферме мігцелі агні, рыпалі вароты; нехта паганяў каня; енчылі палазы, свежа, ядрана, на ўсю вёску. Мароз не адлягаў.

Трое падаліся дарогай на горку, пад Лавацкія сады. Не размаўлялі. Пра што было? Крочылі наўздагон за паласатым Жульбасам, каб угрэцца: пасля цёплай хаты прабіраў мароз, гнула ў крук, аж да зямлі.

Каб на каго не паткнуцца...

Пад Закалюжжам, у самой Лазе, яны звернуць на цаліну,— там сляды, ходжана ўжо. Ад Лазы трапяць да Ваўкаўні, а адтуль да Асіпаўскага рукой падаць.

Дарогай нацярушана сена — не свежае, прыхопленае ініеем. Раніцай тут звозілі з балота стагі, панатрасалі. Поле вымерла, стыў збялелы ад інею лазняк у абочынах. Кусты здалёку,— як шэрыя здані ці копы сена.

Ноч з настылай далонню лезла за плечы, поўзала па твары; пасыпала, як праз пальцы, нечым цяжкім і халодным вейкі; бяліла каўняры; пераймала з рота пару — грэлася сама; скрыпела пад нагамі, бы галодны звер скрыгатаў зубамі.

У Лавацкім садзе вісеў туман, што кудзеля,— можа, ад таго пахла льном, як у восеці. Часам пах збівала цяжкая і горкая сырасць: прэлі гнаі ў раскіданых па полі кучах.

Трое — угрэтыя і задыханыя — спыніліся ўжо ў Ваўкаўні.

— Адсапёмся і рушым далей...— прашаптаў Джвучка.

Бралася на дзень. У небе выскачылі цьмяныя зоркі: распаўзаліся, радзелі перад світаннем хмары.

Далёка на ўсходзе, у тым баку, дзе ля тартака электрастанцыя, гарэла зара.

— Спякло, мілы, некага чыста, прама скажу... О-о... Аж неба занялося...— насцеражыўся Выжлятнік.

— Згарэў. Добра, калі жывы выскачыў...

— Абсалютна. Спёкся...— працёршы вочы, загледзеўся на зарыва Раман Пэрац.

У лес упёрліся, як у сцяну. Ад Ваўкаўні ішлі дробным сснячком. Сасонкі ў замеці, тырчаць са снегу растапыраныя лапкі, бы падбітыя курапаткі расставілі крылы.

На золку быў узняўся вецер, зашумеў, прабег уверсе, атрос іней — задыміліся кранутыя елкі — і сціх.

Была шэрая гадзіна.

Ішлі адзін за адным, шнурам, мясілі цаліну. Панастаўлялі каўняры, паапускалі ў шапках вушы, унурылі гало-

вы,— можна было на кожным кроку напароцца чортведама на што.

Снег перасыпаўся па нагах, як мяккі попел з-пад асінавых дроў. Не злёгся, стаяў ворахам, і нага лезла аж па калена, выцягвала на след мох з іголлем.

Сабака скакаў збоку, разявіўшыся і хаваючыся аж па вушы ў снезе. Перад самым Асіпаўскім лес парадзеў. Сталі трапляцца дзялянкі — старыя вырубы. Выйшлі на пасеку, дзе нядаўна калгас выразаў лес. Тут іх застала раніца. Пажаўцела скрозь чорнае сасонне, пабялеў снег. З-пад яго вылазіла-прабівалася незацярушаная лясная, высокая і пругкая, мятліца ды чырвоная, пакурчаная, сухая папараць. Ля заснежаных пнёў шмат дзе бурэўся ядловец, бы воўчых скур панавешвалі на сушку. Занесеныя-засыпаныя, не спаленыя летам лаўжы бугрыліся, што мядзведжыя бярлогі.

Лес драмаў, не прачнуўся. Не чуў раніцы, як аглух. Не варухнуўся, не атрос снегу з настылага голля.

Яны спыніліся ў ельніку, што ўкліняўся ў пасеку, якраз ля разбуранай былой зямлянкі, цяпер доўгай яміны. У трыццаць дзевятым годзе тут стаяла кавалерыя, пакуль нашы не перайшлі Вілію — граніцу.

На выспе-бугрыне ля яміны — засыпанае свежае бярвенне, сцягнутае ў шліхту. Вытраляванае,— яго яшчэ не забраў калгас. Яны селі на крайняе палена, ачысціўшы рукавіцамі снег. Пассоўвалі змакрэлыя ад поту шапкі на патыліцу, закурылі. Маўчалі, як пасля сваркі. Паласаты Жульбас бегаў па яміне, дзёр снег і мох: чуў мышэй.

— Скора след, за палянай. Там балота далей. Доўгія крыніцы не замерзлі, правалы будуць. Учора па пояс ускочыў быў. Станем на след, пасля разыдземся. Пойдзе нехта адзін у абход пад вецер. Адкуль дзьме? З Пагурка? — Выжлятнік адвярнуўся, выцягнуў шыю.— Ціха. За вярсту чуваць, трэсні толькі. На лыжах бы... А ў нас, прама скажу, і моды нават няма, каб у лес хто на лыжах падаўся. У фінаў не так... Узбярэцца на елку з лыжамі, затоіцца, пасля — шась! — на галаву проста. Як цігра, прама скажу...

Выжлятнік гаварыў яшчэ шмат. Гэта зняло ўзрушанасць і трывогу.

Раман Пэрац дастаў з кішэні акрайчык хлеба і стаў жаваць, пацягваючыся і цярэбячыся. Быў у фуфайцы, картовых штанах, запхнутых у халявы кірзавых ботаў. Ідучы цалiной, зачэрпнуў снегу і цяпер выграбаў яго чырво-

нымі пальцамі. Ляпаў па каленях,— відаць, нешта несамавітае было ў яго апранута падніз.

Платон курыў, папярхнуўся быў, закашляўся:

— Не варта дыміць. Раніцай далёка нясе...— цёр ён пальцамі нос. Пасля стаў адкладаць вялікі чорны каўнер у латаным кажушку. Тыцкаў у бервяно цеснаватымі валёнкамі,— грэўся. Відаць, зашмат накруціў на ногі: з валёнак тырчалі суконкі. Нарэшце ён паклаў на калені двухстволку, старую, з адшчэпленым прыкладам, апёрся на яе локцямі і ўтаропіўся праз пасеку, туды, дзе жаўцеліся сосны. Там стукаў дзяцел, прачнуўся недзе галодны, грэўся. Ён парушаў цішыню, вяртаў насцярогу, клопат.

— Ідзём. Мерзнуць пачалі...— Выжлятнік зашпіліў на ўсе гузікі новы, пацягнуты сукном кароткі кажух, счысціў немаведама для чаго з валёнак снег, бы мерачыся зайсці ў хату,— хацеў, можа, упэўніцца лішні раз, ці вытрымаюць тыя доўгую хаду, якая чакае іх наперадзе. Валёнкі ў яго вялізныя, чорныя, падшытыя зубчатай гумай, старыя.

— Ціш... Дзяцел, зараза. А я... бы хто сякерай, падумаў...— зашыкаў раптам Платон.

Насцярогу ўчуў сабака, выскачыў з яміны, дзе лізаў снег, натапырыўся і стаў рвацца наперад.

— Лось пачуць мог... А што, калі раніцай ён пад Вілію падаўся?.. Га, Платон?

— Чорта, і звер любіць паспаць...

— Абсалютна. В-ва...— Пэрац дрыжаў, яго ўжо ламала другі дзень запар; круціла ногі, стукала ў галаву.

Каб не выдаць сябе, ён увесь час маўчаў.

— Пэрцу прыйдзецца заступіць ад вёскі, па гэты бок Пагурка, дзе брызгліна. З яго ламачынай здалёку не возьмеш, на падпуску толькі. Я — у абход, у мяне калібер. Адрэжу ад Віліі, падцісну да Доўгіх у крыніцы. Ты, Джвук, адразу ж пойдзеш туды, краем Асіпаўскага. Удасца прыціснуць да балота — наша, не — прапала!..

На след вывеў сабака. Ішлі па ўчарашняй, прысыпанай інеем, сцяжынцы. Дыбалі да другой паляны-загарадзі. Тут пакінулі Пэрца аднаго — распаранага, упацелага.

Праз гоні Джвучка ўзяў управа, перасек дарогу, што вяла з Чар-чага, і пацісну́ў пад Доўгія. Падрушаная жывёла, калі што, пройдзе краем Доўгіх, не палезе ў крыніцы на згуб. Заступіць толькі расцяроб, адвярнуць у балота, а не — скіраваць хоць пад вёску, на Пэрца. Назад дарогу жывёле заступіць Выжлятнік. Пастка...

Падняўся вецер, стаў моцны і напорысты. Хістаў вершаліны сосен, трос іх, што макаўкі, гуў. Пасыпаўся снег, як белы мак. Мяцеліца плыла там, уверсе, ныла, скуголіла, сціхала, тады зноў шалела.

На дол стала церушыць густой мукой, бы ўгары, дзе вершаліны, гулі жорны, трушчачы перасохлае зерне; пасыпала, як пад канец лета нераспелай дзеразой,— лес стаў белы, бы ад дыму.

Выжлятнік задыхаўся...

Ногі млелі, падсякаліся. На плячах — не кажух-паваланец, а дубовая карына. Давіла, муляла, рэзала,— на спіне, пад пахаі, у лакцях. З-пад шапкі цякло цурком. Валёнкі — што два карчы, прывязаныя да ног. Духата, адышка. У роце суха, кісла, бы там не язык, а бронзавы патрон.

Снег дастае да паясніцы.

Сабака глытае брэх, ледзь учуеш яго. Лёг на след, упаў за здабычай.

Лось стаў напач на Пагурку, у яловым гушчары, ля вывараткі. Учуў, мусіць, учора вечарам яго, Выжлятніка, бо не прылёг, прастаяў усю ноч, як на пікеце... Узрушыўся ж, можа, тады, калі раніцай пацягнула чалавечым потам.

Лось не чакаў, ішоў у рэдкалессе, у Асіпаўскае, кіраваў да Віліі. За ракой можна нырнуць у лясныя прасцягі пад Палік,— там няма лагоў і дзялянак, там векавыя елкі ў дзідах — не падступіцца... Затое нетры — ратунак ад бяды.

Жывёла мчала напраскі, на чалавека. Чула яго, а ішла: ззаду — пагібель. Ратаваць магло адно — ногі.

Лось пакідаў Пагурак... Згараваў апошнюю ноч і адыходзіў, мо нават назаўсёды.

Выжлятнік учуў трэск здалёку,— замёр, згорбіўся, бы гэта вытыркнуўся высокі пень з доўгім сукам, а не чалавек узняў ружжо... Закурэлася,— нібыта з-пад зямлі прарваўся вецер, узняўшы варахаваты снег, як аўсяную мякіну на таку; ускруціў тут, у зацішшы, мяцеліцу і гнаў яе ад дрэва да дрэва.

Жывёла разміналася з чалавекам.

Выжлятнік угледзеў з-за дрэў бурую лапіну. На якую хвілю нагадалася ласіха з малым, што знікла з-пад самага носа па чорнай сцежцы ўвосень.

Лапіна скалыхнулася, растала; пасля зноў уздрыгнула.

Гахнуў стрэл... Густы, глухі, як у сырой пуні. Закрумкала знямоглае рэха ў Чар-чагу, бы там душылі старога гругана. Сціх быў тупат і пошум лесу; тады зноў застагнала зямля.

«Гэ-эй!..» — данеслася ад Пэрца.

«Тгу-у...» — затрубіў у кулак Джвучка, адрывіста, рэзка.

Выжлятнік даў стрэл. Значыла,— выходзіць на след, пагоня.

Стагнаў лес; свісталі на ветры голыя дубцы ў бярэзніку, хвасталі па твары, дзерлі павалаканец; білі лапкамі, што крыллем, елкі — па плячах, па галаве; сыпала за каўнер халодныя, калючыя крупы; ёкала ў жываце, калола; гарачыня паліла горла... Здавалася, што кроў вось-вось хлыне праз рот...

Сабака ўперадзе. Травіць, аж заліваецца, недалёчка недзе ад жывёлы...

Лось узяў да Віліі. Дзе ён толькі зможа выбіцца? Кудою рвануць напярэймы?

Мірон адчуў, што яму нестае вопыту. Усё, што ён меў,— гэта пачутае ад старых на вёсцы, заблытанае выдумкамі старога Тодара. А тут з розумам жывёла...

Рака стала, пераскочыць цераз яе лёгка. Хаця тым месцам, дзе налёг сабака, за ракой — курганне, галец. Лось можа не пайсці, зверне...

Выжлятнік рваўся са скуры.

«Разуцца б... Скінуць павалакан...»

Асіпаўскае радзела, пачыналася Сырніца — пасека — даваенная вырубка, імшары, разгаты ляшчэўнік, абвіслы, палеглы аж на дол; хілы сасняк, высокія тонкія пні.

На снезе — кропля крыві,— рэдкая, жоўтая, як нявыспелая ягадка рабіны. Распаўзлася даўгаваценькая плямка...

Выжлятнік спыніўся. Захлынаючыся, хапаў рукою снег, пхаў у рот, за карак, сыпаў на галаву. Задрыжалі ногі, калі асеў на калені над крывяной кропляй...

«Падраніў...» — страпянулася душа.

Нагнуўся.

«Не-е... Расплюснутая гнілая журавінка выкінута наверх капытом...»

Зноў яго ўзарвала са снегу, паставіла на ногі і штурхнула на след. Сагнуўшыся, прыпадаючы да зямлі, прыціскаючы да грудзей дубальтоўку, рваў ён па Сырніцы між пнёў і вываратак.

Снег на следзе пачарнеў; лось даставаў да моху, дзёр капытамі прэлае, змерзлае лісце.

Зноў чырвоная пляма. Нака́пана, бы ў каго крыві з носа.

«Рана...» — сцяў зубы Выжлятнік.

След не давёў у канец імшары,— забіраў на лінію між Асіпаўскім і Сырніцай. Лось не ішоў да Віліі на выспу, ён блытаў след і вымотваў вантробы чалавеку. Ад бегатні Выжлятніка ўжо зусім гнула ў крук, душыў кашаль і смага.

Кроў...

Кроў на снезе і на твары. Сэрца бегае ў грудзях, як бульбіна ў пустым кошыку, калі яго пачаць трэсці. Горкі пот залівае вочы, аж цурчыць з ілба, сціснула грудзі, бы надавалі пад дыхавіцу.

Зменшаў вецер, пагусцеў снег; было позна.

...Платон Джвучка пасля стрэлу вырваўся з-пад Доўгіх і праз колькі часу натрапіў на след, што вёў пад Сырніцу. Вярсты з чатыры дуў шалёнага пешака, у Сырніцы надумаў збочыць правей пад поле, каб выскачыць напярэймы ласю ля Масткоў. Гэта не даходзячы да Віліі... Ды ў Сырніцы след звярнуў у расцяроб, і чалавек, збіты з тропу, скінуў з сябе кажух, стаў пераабувацца, прыткнуўшыся на корч ля старога лаўжа: рэзала ногі. Адсопся, ахінуўся кажухом, халодным і прыемным. Упарыўся, разамлеў, што пасля лазні: вісла галава, нылі плечы і крыж, хацелася піць...

«Чаго ляцець верх лесу?.. Галаву скруціць? Папёрся адзін...»

Нагнала сон,— гэта, мусіць, пасля змору. Але сон — загуба. Падняўшыся і апіраючыся на ружжо, Джвучка падабраў са снегу і сунуў у кішэню кажуха шматы ад суконак і рушыў назад паўз расцяроб у кірунку пасекі-агароджы, дзе меўся быць цяпер Раман Пэрац.

Усё зрывалася. Па такой сцежцы пагоні не наладзіш. Здурнеўшы толькі, станеш капацца ў снезе, як курыца ў кучы зерня,— схаваешся з галавой, а ні зярняці не клюнеш.

...У Рамана ламала спіну, дрыжалі ногі, калола ў правую руку ля запясця. Балела галава, цела стала ліпкае і гарачае. Смяглі вусны, чарсцвеў язык. Застаўшыся адзін, Раман разгроб высахлы лоўж, развёў агонь. Суччa пішчала, дыміла, гасла, пасля ўгарэлася. Прыхінуўшыся спіной да яловага пня, плоскага, як грубка, Раман распарыўся і

не мог падняцца. Расчырванеўся ад агню, валасы вылезлі з-пад шапкі, папрыліпалі да яловай кары. Праз картовыя штаны грэла калені і сцёгны,— стала цёпла, як дома на печы.

Брэх і стрэлы даўно глынула мяцеліца. Тое, што было цяпер у лесе, ратавалася ці канала ад раны — чорт з ім. Пайсці ж дадому,— гэтыя заядуць: пасля стрэлу трэба было бегчы. Але ж на леспрамгасцаў наткнуцца можна. За гэта не гладзяць...

Колькі таго пажытку, калі і заб'еш лася. Ды і не адно яшчэ горла пасля прыйдзецца заткнуць, Выжлятнік наперад сказаў. Разарвуць жывёлу на кавалкі, расцягнуць па костцы, што ваўкі, глынуць зараз. Хаця лес вялікі. Абход Выжлятніка. Ён тут перш-наперш... I ён не змоўчыць, спытае, чаму не пабег, маючы маладыя і здаровыя ногі... У Джвучкі адгаворка — рэўматызм...

Яловая кара лускалася, макрэла ад цяпла, мачыла знізу галёнкі. Сядзець стала, што на халодным камені.

Галаву цягнула долу, з цяплом зліпаліся павекі. Прывалаклася скруха-шкадоба па нечым невядомым і далёкім...

Жылі ў лесе двое: Выжлятнік і лось. Цяпер ім стала цесна...

Думкі вязалі доўгае вязьмо, але гэта быў хутчэй сон. Рэальнасць і небыццё доўга змагаліся недзе глыбока ў свядомасці, пасля саступілі нечаму празрыстаму і лёгкаму — забыццю ад усяго на свеце...

...Баляць плечы, дзярэ ў горле, пяршыць, уваччу сіне. Не ногі — скрыпучыя мыліцы. Трашчаць, гатовы пашчапацца, калі ўзаб'ешся на пніпча. Мокра ў паясніцы, мокра і горача пад вязанкай за спіной. Павалаканец ляжыць недзе, засыпаны снегам, у расцяробе пад Сырніцай.

Выжлятнік рвецца без роздуму, без развагі. Здаецца, упадзе на снег — усё роўна стане паўзці, дзерці мёрзлы дол да імху...

Лось вёў Выжлятніка назад. Сцягаў да Віліі, на луг, на заснежаную беражніцу і павёў пад Асіпаўскае, зноў кіруючы на Пагурак.

Жывёла калясіла — рабіла круг, як і ўлетку.

Сабака енчыў немаведама дзе. Лес стаў чужы. Такія елкі ніколі не надараліся — густыя, чырвоныя, у дзідах. Схмурнела. Колькі часу?.. Хто скажа? Паўдня мінула?

Ногі скрыпяць у каленях, што ножкі ў старой лаве. Рукі вось-вось выпусцяць ружжо.

Зранены, abaбіты, у крыві... Няма чым дыхаць, мала свету... Разрываюцца грудзі... Не ад болю, а з-за боязі страціць тое, да чаго так кароткі рукі.

Страляць... Стрэл — ратунак; прыбягуць, знойдуць, стануць на след. Стрэл учуе Платон з Раманам...

Чалавек падае на дол, грабе пад сябе нешта вострае; захлынаючыся, хапае ротам, як рукавом, калючы снег.

...Платон узбіўся на сляды пад Віліяй.

Пад Сырніцай у расцяробе выцягнуў з-пад снегу павалаканец...

У самым Чар-чагу вывалак з леташняй яловай вершаліны Выжлятніка...

— Не дае, мілы, дыхаць... Не цягні... — У таго адна сіпка.

Чалавек не стаяў на нагах; натрудзіў, падарваў сябе.

— Чорт з ім... з ласём... Ачухайся. У цяпло табе трэба, Мірон. Загінеш...

— Адпачыць, мілы... Адсапціся дай. Ногі, ногі здалі... Ніколі не думаў...

Дробны сняжок церушыўся праз яловыя лапкі. Унізе, ля зямлі, шарэла: надыходзіў вечар — хутка, па-зімоваму, адразу ж пасля паўдня.

Людзі зноў падаліся следам.

...Вочы ў Рамана расплюшчыліся з болем. Твар быў нейкі чужы, гарачы і мокры. Снег яшчэ сыпаўся, раставаў на ім, і цякло за каўнер.

Агонь стух; пішчала, шыпела вогнішча.

Мусіць той самы стук, што і разбудзіў, аддаляўся, цішэў.

Раман усхапіўся, утаропіўся. Між сасон нехта ехаў на гнедым кані... Паволі-паволі, сунуўся проста...

Першы зман, што наплыў хутчэй праз сон, знік... Перад вачыма быў лось. Вялікі, дужы, нейкі буры, як калгасны жарабок з Закалюжжа, што быў падмяў летась дзеда Тодара... Валок па зямлі рогі, як саначкі па снезе, ад змору і натугі.

Лось ішоў на Чар-чаг, ратаваўся. Выбіўся быў аж на Ваўкаўню, бліжэй да чалавечага жылля, шукаў паратунку.

Знікне... Сыдзе з воч... Заблытаў след, адчапіўся ад сабакі... Марудзіць можа перад большай яшчэ дарогай. Праўве да Віліі, вернецца на Палік...

Бегчы пасля сну і адпачынку лёгка. Раман выскачыў на паляну, дзе яны прыткнуліся раніцай на бярвенні. Лось ішоў беразняком, густым і цёмным. Падняў рогі, было чу-



Іван Пташнікаў
пасля заканчэння Крайскай сямігодкі.
*1948 г.*




Выпускны клас Крайскай сямігодкі.
У верхнім радзе другі злева Іван Пташнікаў
з сястрой Ірай (справа).
*1948 г.*

ваць, як ён соп-чмыхаў... Ля дзвюх елак тарканууся на якую хвілю: учуў блізка чалавека. Раману не трэба было доўга мецідца...

Стрэл хлыснуў сухі і рэдкі, як хто дубцом сцебануў Раману па плячах. Пачакаўшы, загуло рэха — далёкае, грознае...

Лось стаяў, здавалася, нават не ўчуў стрэлу, пасля асунуўся на дол з усіх чатырох і знік — скаціўся ў ямішча ад зямлянкі.

Таго не бачыў хлопец і не пабег паглядзець: яго схапілі дрыжыкі, стала блага. Ляпалі зубы, не сцяць. Ён сціснуў іх моцна-моцна... Не згледзеў, як да крыві раскусіў палец.

Ззаду забрахаў сабака.

— Нас брыгада. З пня валім. Ферма ўвесь лес калгасны падчысціць... Узяўся хлопец з Авяр'янам...

Дзедзіха гаворыць, нібы ў чымсьці апраўдваецца, не разбярэш.

Прыйшоў ён, як добра сшарэла, вырас, як з-пад снегу. У фуфайцы, у ватовіках; шапка з апушчанымі вушамі. Наморапы,— відаць, памахаў рукамі за дзень. Перацяты ў паясніцы пілой — новай, зусім белай: зімой смала не ліпне.

— Калгасная, мілы, пілка ў цябе, глядзі якая... твая ж, помню, старая, вузенькая. Добрая была, дык і зрэзалася так. Гэта не дажыве...

Два чалавекі бачаць адзін аднаго навылёт, гавораць жа бог ведае што...

Двое другіх — стары і малады — толькі павярнулі галовы. Не здзівіліся, не спалохаліся. Лішняе вока — бяда, але ж Дзедзіха для іх свой, лічы.

Снег вытаптаны, чырвоны, як свежы гліняны ток у гумне.

Яны — у самай яміне, даўнейшай зямлянцы. Згорбішся — і не відаць. Каля Андрэевых ног снег нібы ўсыпаны журавінамі; ля рудога, без кары пня, дзе Выжлятнік, нацярушана дробненькіх бруснічак, чырвоненькіх, пераспелых і перамерзлых,— людзі атрасалі ад крыві рукі.

— Ты тут, мілы, бачу, з канём? Пугаўё ў руках...

— Тралявалі лес да Масткоў... Заўтра машыны, калі дарога будзе, возьмуць.

— А як?..

— Што «а як?» Вы нарабілі такога стуку... Дурных няма. Толькі...

— Мілы, не страш. Што толькі?

— Я адзін на след узбіўся, другім часу не было хадзіць па лесе, працавалі. А я... Пачуў сваё ружжо. Яно ж у Пэрца ад той нядзелі засталося, ты ж, здаецца, браў для яго... Пачуў — і душа замерла...

Выжлятнік верыў і не верыў.

Селі на разасланы Джвучкаў кажух. Дзедзіха бы і не бачыў Мірона. Сачыў, як Платон коўзаўся нагамі па разасланай сырой ліпкай чырвонай скуры, сыкаў і бурчаў на Пэрца.

Ад жывёлы засталася нязграбная чырвоная груда на снезе, як куча альховых дроў. Скура сабе, мяса сабе...

Толькі галава лася ляжала воддаль, як жывая. Закінула са снегу ўгору рогі, навастрыла вушы, падцяла губы... Здавалася — дыхне праз храпы, раздзьме снег, страсяне рагамі... З зямлі вырвецца жывёла, якую сцяло мерзлай грудай, здушыла, але яна не згубіла сілы і прагі да лясной волі... Грукнуць капыты — застогне лес...

Дзедзіха ўгледзеў ласіныя вочы — чорныя і мокрыя. Яны нібы плакалі...

Выжлятнік сачыў за ім. Ён ведаў, што думае цяпер гэты чалавек... Закурыў, сплюнуў:

— Шкадаваць, мілы, нечага. Пацягаў ён нас... Сам таго не варты. Ты тут, мілы, з канём. Прама скажу, зрабіць трэба, каб на ферме было ціха. Хай ацямнее. Каня твайго затрымаем: цяпер не сунешся, уся ферма ў зборы. Хаця кумпяк любое горла заткне... Толькі ж не хопіць на ўсіх. А табе...

— Дай чаго мацнейшага пацягнуць... «Беламор», што трава...

— І ў мяне «Беламор». Памяняем, бывае, пачка трапіцца... Мілы, сам бачыш... Блізка да вёскі. Добра, што ў яміну загнала падлу гэту. Хаця нішто, раз'еўся: кумпякі — калоды. Пальчыкі, мілы, абліжаш... Стараваты толькі, варыць ці смажыць доўга трэба. Блізка да вёскі, кажу. Хаця, мілы, не пацягнеш яго цяпер у Чар-чаг. Каб толькі ціха. Але ж больш нікога не прынесла. А так што? Стралялі, ці, можа, толькі дзяцел дзюбаў — хто скажа? А ты... Я ведаў, што пра летняе знаў. Я думаю, і па-твойму... Што тут, мілы, такое сталася? Дзяцел чарвячка клюнуў... З-пад карыны дастаў. Хе-хе... Наш лес, дзе захацеў, там і пралез.

Чарнее крывавае вытапчышча, нібыта на зямлі перавярнулі на другі бок разасланую ласіную скуру.

Пасля поту за плечы лезе холад,— Дзедзіха ўздрыгвае... У памяці раптам ажывае далёкі ўспамін...

Было адразу пасля вайны. На лясах сноўдаліся ваўкі, адкормленыя, здужэлыя. Ніхто іх не кратаў,— аблаў тады не рабілі. Пачалі яны ўлетку браць дзяцей — з двароў, з выганаў, накідваліся на людзей у дарозе. Звяры асмялелі за вайну, пакаштавалі чалавечыны... Казалі яшчэ, што гэта былі аўчаркі, якія разбегліся з Паліка пасля разгрому адной эсэсаўскай часці.

Цяпер ваўкоў зменшала: іх павынішчалі паляўнічыя. Гнёздамі бралі малых летам; білі старых дзе пападала. Адзін Тодар ля скаціны колькі аблажыў...

Была якраз такая пара. Вяртаўся ён з раённай нарады старшынь. Адзін, каня не браў: на лесавывазку тады і старое і малое цягло адправілі. Каняка які за дзень намнога падганяў план.

Пад'ехаў машынай па шашы пад Дзераўно, злез, пайшоў пешкі. Вецер у вочы, мароз. Пальцы мерзнуць на руках,— станеш, адатрэш і далей. Кіламетраў з дзесятак да Грынёў ісці было, і ішоў. Час такі, работы заўтра з раніцы па горла. Хвіліны спакойнай не выкраіш. А тады ў райкоме Перапёлка якраз сакратаром быў. Параілі, памаглі былі, а думаў жа, за план не пагладзяць па галоўцы,— дык ногі не чулі ні дарогі, ні марозу.

Ачомаўся, прывык да шораху за плячыма. Выйшаў пад Грыні на поле, якое звалі Гальдарадай. Некалі тут хутары былі, у калектывізацыю перавязлі іх у канец Грынёў. Абапал дарогі хмыз, разгаты, натапыраны, як жывы перад вачыма. Дайшоў якраз да Гальдарадскіх дубоў... Паспеў толькі прываліцца спіной да камля, не помніў, як асунуўся, сеў у снег, знямеў. На шашы замітусіліся зоркі, можа, гэта неба ўначы пад'яснілася,— вецер жа ўвесь час дзёр сыпкі снег і нёс у вочы, скуголіў, екатаў... То быў не вецер. З-пад Грынёў насустрач перла галодных ваўкоў...

Апамятаўся ён аж на загароддзі, ля калгаснай фермы. Выбіўся на нечы двор, дабег пад Буслiныя сосны, адсопся. Не мог сцяміць — чаму здубела раптам вопратка, пакрылася льдом. І цяпер не скажа — бачыў тое ці, можа, толькі яму здалося: пярэдняя ваўчыца спынілася ля дуба... На яго палілося нешта гарачае, непрыемнае. Ён быў закрыў вочы...

Звяры не зачапілі. У тую ноч ён не дайшоў да Зака-

люжжа, зваліўся з ног у Грынях. Назаўтра трэба было ў МТС. Спыніў каня ля дубоў, злез. Нічога нельга было пазнаць: сляды занесла. Але пад Дзераўно, калі з шашы зварочваць на МТС, конь захроп, даў у хамут. Прыйшлося злезці. За кустамі кінулася ў вочы нешта змятае, чырвонае,— як бінты ў крыві. Падышоў бліжэй. Снег быў убіты, як і тут, у зямлянцы, спырсканы крывёю, саследжаны звяр'ём. Нацярушаная поўсць тырчала са снегу,— як шылле ад сухой сасны,— жоўтая, доўгая.

Рэзаліся звяры,— за самку ці з голаду... А можа, якога з іх паранілі, і яны ўчулі кроў?

Звяры рвалі сябе...

Тады ён укуліўся ў санкі і гнаў каня да МТС, як толькі мог.

І цяпер яму захацелася выбегчы з ельніку на дарогу, ускочыць на сані і гнаць, гнаць з лесу каня...

— Што маўчыш? Дай прыкуру... Змёрз, пакуль спарадкаваліся...

Да Дзедзіхі цягнецца Джвучкава рука ў крыві.

Ззаду за Платонам тупае Пэрац, пераменьваецца з нагі на нагу. Картовыя штаны яго мокрыя, папрыліпалі да калень.

— Змардаваўся хлопец, прама скажу. Ці не захварэў ты? Чырвоны, што рак. Цяплей трэба было апранацца і не спаць. Нічога, мілы, хай чуць сціснецца — будзем дома. А там глынеш першаку — і ў пасцель. Як рукой здыме, прама скажу.

— А-а... Пройдзе. Дзядзька Андрэй, Аркадзь сёння з вамі быў? — голас у Пэрца сіплы, з кашлем. Хлопца ціснула прастуда.

— З намі. З пня вунь валіў, заўтра на трактары траляваць будзе, калі закамандуюць. Старшыня ўчора казаў на праўленні...

Пэрац падышоў да Андрэя, нейкі вінаваты і хворы. Не прасіў закурыць, лізаў толькі языком па вуснах, даставаў рукамі да штаноў і выціраў пальцы. Яго калаціла.

Дзедзіху здалося, што хлопец баіцца людзей, і яму стала шкада яго, і тая злосць, якая была нахлынула некалі ў хаце, ля акна, зноў варухнулася ў душы. Зрабілася горача. Ён нагнуўся да зямлі, зачэрпнуў жменяй снегу, сцяў у кулаку, скамячыў снежку. Растапырыў пальцы — яна скацілася і знікла ў гурбе.

«Адліга стане, глядзі. Заўтра з цяплом возьмемся за тралёўку...»

— А цяпер... Каму што.— Выжлятнік утаптаў у снег акурак.— Не шлэпай, Джвук, сядзь. Мітусішся шмат. Палучыш сваё, не абдзелім. І ты, хлопец, марш бліжэй, мерКаваць будзем. Ты зарабіў, такую тушу скінуў, яшчэ і за сякерай у вёску збегаў. Чаго раскіс?.. Бы наеўся ўжо...

— Абсалютна...

— Што?.. Давай, Андруша, намацаем, дзе мякчэйшае. Для цябе, прама скажу...

Людзі заставаліся ў лесе, чакалі цямна.

Пахла падзолай ад растаптанага ў зямлянцы на самым дне гнілога слупка, струхнелага, сырога. Наставала мяккая, лагодная ноч. Лес стаіўся, натапырыўся — слухаў. Злягаўся снег. Здавалася, чуваць было, як патрэсквае пад ім сухое сучча і папарацы.

Сабака грыз косці за шліхтай бярвення ў вяршаллі.

Там, дзе стаў на зіму леспрамгас, загулі машыны. Гэта пад Ваўкаўню, у бок вёскі.

Людзі не прыслухоўваліся да гэтага: у іх быў свой занятак.

## 4

— Галя, паслухай...— голас у Васіля Міронавіча мяккі, таямнічы.

— Перастаньце! Прашу...

— Скажы... Мне дваццаць чатыры. Магу я з вамі гаварыць шчыра? Я нікога з дзяўчат не любіў яшчэ...

— А я не пытаю, любіў ці не. Знайшоў чым хваліцца, ты падумай...

— У дваццаць чатыры гады я пацалаваў першы раз... Сёння, вас... І то ў халодную шчаку.

— Ха-ха-ха...— яна смяецца звонка, ядрана.

— Смешна... Толькі чаму вы мне нічога не адкажаце? А вы для мяне...

— Васіль Міронавіч!..

Яны выйшлі на лыжах па поўдні. Ён — пасля ўрокаў; яна — пасля дзяжурства ў бальніцы. Выскачылі былі з Грынёў на зімовы гасцінец, прыцёрты машынамі,— яна паперадзе, ён ззаду,— дабеглі да моста, звярнулі ля Лавацкага саду на поўнач, вынырнулі з альшэўніку на выган ля самага Закалюжжа і, прайшоўшы праз усю вёску, зніклі ў сасонніку ля Ваўкаўні.

Цяпер яны былі ля Масткоў.

Пакінулі ўбаку леспрамгасаўскія будынкі — дзве доў-

гія канюшні, кузню і лесапілку. За студняй, па другі бок дарогі, дзе натралявана дрэва, мінулі стагі сена, высокія, па-гаспадарску аскубленыя ля долу і абгароджаныя ў некалькі жэрдак.

З кузні ляцеў звон сухі, высокі. Ля кладоўкі гула машына. Там згружалі вугаль.

Галіна спынілася за Масткамі, каб пачакаць Васіля Міронавіча. Разгуляйся з такім, крыкні, каб шукаў цябе, згубіся...

— Галіна Фёдараўна... Не-не... Я пра Петушонка. Выклікаў учора да дошкі вучня: «Дзе Баб-эль-Мандэбскі праліў?» Яго любімы канёк... Ну, хлопец тыц указкай у адно месца... «Не ерундзі!» Той тыц у другое... Такое Петушонак ляпнуў... Вушы вянуць.

— Культура... Вучыце дзяцей.

— А сёння... Ваяваў цэлы дзянёк супраць швейнай машыны. Яна ў нас пакуль што ў настаўніцкай стаіць. Гітары і мандаліны ў калідор хацеў шпурляць. На дырэктара новага зуб мае: «Да яго ў кабінет — гэты лом! Гэты політэхнічны лом!.. — крычыць.— У настаўніцкай не павярнуцца...» Разумееш, політэхнічны лом... Во, тэрмін. Самы новенькі... Школа цеснаватая ў нас яшчэ, а прыбораў — у лабараторыі і ў нашай кладоўцы не ўмесціш. Пакуль пабудуем новы корпус, пастаіць швейная машына і ў настаўніцкай у парозе. Кожны ж перапынак з класа ў клас перацягваем... Павісяць і мандаліны...

— Знаю я вашага Петушонка і не хачу слухаць. А ў вас настаўнікі ёсць і з высокай культурай, ведаю. Толькі няньчыцеся вось з Петушонкам. А вы, Васіль Міронавіч, заігрываеце з ім, пацяшаецеся, тэрмінамі любуецеся... Вам смешна, што чалавек сваё, адслужыў. Мінуў яго век, хай саступіць другім.

— У яго свая рука ў райана. Ну чаго гледзіцё? Што б вы зрабілі?

— Ты надумай... У райком пайшла б. База політэхнічная ў школе ёсць? Ёсць. Майстэрня патрэбна? Патрэбна. А загадчык майстэрні ёсць? Няма. А географа вам прышлюць, заяўку толькі дайце. Хапае цяпер настаўнікаў. Дык вы даражыце «інтэлектам». Адукацыя, палёт думкі, «гіяграфія»... Не, Васіль Міронавіч, не... Я шмат гавару, праўда?

Яна ў шарсцяной белай кофтачцы, у белай шапачцы. Белы шалік далікатна прыцісцуў ззаду на шыі смешны кутасік. Так і цягне Васіля патузаць за матузкі. Ад спа-

кусы смешна, і ён хітравата зазірае ёй у вочы. Ён у спартыўным рудым касцюме; на шыі — у чырвоную клетку шалік; пыжыкавая шапка аж на патыліцы. Высокі, стройны, калі трымаецца за кійкі. Сёння ён даспадобы Галіне. Можа, таму яна і папусцілася, калі ён у Ваўкаўні папраўляў у яе лыжы. Пасля надзьмулася і не размаўляла, ішла сперадў, плаўна, прыгожа, адштурхоўваючы смела і пругка. Ён падступаўся адтуль і адгэлуль, тады стаў прасіць прабачыць. Для чаго і што? Яна загаварыла зноў, можа, каб не чуць просьбы і прызнання. Нашто яно ёй? Зімой, сярод лесу? Ніколі не думалася пра такое, не хацелася думаць. Нядрэнны ён хлопец, з розумам, толькі бывае часам гаварлівы надта...

Лес глуха гудзеў, крактаў, бы разгінаўся стары — млява, нехаця.

Ля Ваўкаўні і ля Масткоў — калгасны лес, закіданы вярхамі, лапкамі, працярэблены, рэдкі. Пні трапляюцца аж па грудзі — гэта яшчэ з таго часу, калі наспех будаваліся пасля вайны. Але ж дагэтуль можна было прыбраць, агледзець усё чалавечым вокам. Відаць, гаспадарылі тут па Джвучкавым законе: калгаснае — агульнае, не маё, дык на чорта мне аднаму старацца: хай нарад дадуць, працадні запішуць, што лішні раз нагнуся падабраць за сабой...

— Прывыклі... Шмат каго трэба...

— А па-мойму, Васіль Міронавіч,— забраць лес у такіх. Дзяржаве аддаць. Ёсць жа праект. Пачысцее адразу. Як ён летам дымам не пойдзе, калі ўсё гэта сухое?..

Яны скіравалі дарогай, што вяла ад Масткоў, на пасеку, пад самую Вілію да Жоўтага берага. Ішлі ціха, ён стараўся быць побач.

— Дзяцел стукае, нібы хто маленькай сякерай дзёўбае...

— Як хто пальчыкам у дзверы. Просіцца...

Смяяліся, пасля маўчалі. Сышлі на лінію-прасеку, тут была летняя дарога па карэнні. З-пад снегу ўзбоч лезуць абцярушаныя галінкі верасу,— можа, яшчэ спіцамі і восямі, ці абабітыя капытамі. Па куп'і шпыраць чырвоныя гілі, пырхаюць яшчэ здалёку, пакідаючы на снезе крэсачкі ад лапак і пацярушку ад верасу.

З купіны скаціўся быў камяк, як шапка-вушанка, падняў за сабой снег, пакінуў сляды-ямкі і шмыгнуў цераз дарогу ў пакурчаныя багуны на імшары.

— Ты падумай... Заяц... Нацярушыў іголачак па ўсёй дарожцы. Шэранькіх, відаць на снезе...

— Што кот поўсці. Не выліняў да зімы добра; худы, можа, хворы. Вам бы паслухаць яго. Можа, ён і даў драла, доктара ўчуўшы? Так пёр, што лапамі з-пад бруха аж скуру недзе злупіў...

Спыніліся, нагнуліся.

— Сам ты кот...

— Ліса рыжая...

— Ты падумай, ліса... Не ведала.

Лёгкая і гнуткая, яна сыпанула яму за шалік снегу,— і была ўжо зноў наперадзе, ішла без аглядкі па рэдкалессі.

— На пень не ўзбіся... Лыжы паломіш!..

«Ы-ы-ыш...» — У адказ пачулася глухое зімняе рэха. Там, адкуль прыйшлі, панёсся стрэл — далёкі, працяжны.

Васіль нагнаў яе.

— Галаву скруціць можна. Барысаўна тады за цябе мне харакіры зробіць. Чуеш адгалоскі?..

— Ага.

— Леспрамгас. Далекавата адсюль, цераз граду. Чуеш, як звіняць электрапілы? Што чмялі.

— Ага.

— А ты чула калі?

— Ага.

Яна зноў наперадзе: ускочыла з лыжамі на пень, атрэсла рукамі з калень снег і нырнула, як спалоханая курапатка, у разгаты бярэзнік.

— Галіна!..

Яна спынілася, учуўшы ў ягоным голасе трывогу. Вярнулася, бо ён клікнуў яшчэ. Выскачыла з бярэзніку і зноў была на пні.

— След... Гналіся з Асіпаўскага... Раніцай... Свежы зусім, паглядзі. Да Віліі, відаць... — Васіль стаяў, дзе дарога паварочвала ўлева на летнюю разору ад пажару.

Галіна бачыла толькі чалавечыя сляды, побач — бы хто паленам торкаў глыбока ў снег, аж да зямлі,— і ўсё.

— Ты падумай... Кроў. Як хто вунь ёдам пырснуў...

— Ідзём следам.

— Не...

— Што ты?.. Яны ж паранілі яго. У іх сабака. Бачылі след?

— Я не егер. І не люблю палявання, не люблю забіваць. І глядзець не хачу, і слухаць не стану. Каб мая сіла — забараніла б страляць ва ўсё жывое.

Прайшлі колькі следам, ісці было цяжка, нязручна, бо па ельніку.

— Лес. У лесе ўсё бывае...

— Вы апраўдваеце? Філасофія... Як у Леаніда...

Сказала і асеклася, памаўчала, спытала потым яшчэ:

— Не піша? Сябры ж...

— Не.

— Такі лес. Ляснік адзін, а браканьераў... Леснікі павінны не толькі лес сцерагчы, а і душу жывую ў ім.

— У нас яны сцерагуць... Выжлятніка нашага ведаеце? Не ўсе, праўда, такія, але ж каму не спакуса, скажам, лася аблажыць? Ды і ў лесе кожнаму свая галава — закон.

— Судзіць за гэта варта... Для мяне і ў лесе існуюць чалавечыя законы... — сказала, звярнула са следу і пайшла адна, лёгка, спраўна...

— Галі-іна... — ён скіраваў за ёю на дарогу.

Яны ішлі Асіпаўскай пасекай — аснежанай і ад таго бясконцай у надвячэрняй мяккай сінечы. Мālады, дваццацігадовы лес-сасняк, прыцярушаны, здавалася, драмаў. Васіль чуў з расказаў старых, што калісьці тут быў адвечны бор, пасля сплыў Віліяй,— агаліўшы Асіпаўскі бок. І ўжо за Васілёвай памяццю тут зазелянелі, заслалі дол маладыя пахучыя сасонкі,— прыняліся на добрай зямлі. Але ў вайну пачалі былі нішчыць сасняк, карчаваць пні і ўздзіраць пасеку пад жыта. Прагавітыя да аднаасобніцтва і дармовай нажывы рукі палілі маладыя дрэвы. Ці не Выжлятнік гэта, ляснік цяперашні, з Джвучкам лезлі сюды самыя першыя?

Раслі жыты, на лес гледзячы. Ды не прынеслі нікому багацця. Не мог дайсці сваёй мазгаўнёй ненажэрны Выжлятнік, не мог сцяміць — дзе і адкуль браць яго. Думаў наабіваць з капы-другой лішняга жытца... І ўсё гэта яму неяк сышло, не вылезла бокам... А дарэмна.

Праз гады, праз немалы час тут зноў будуць лясы, зашумяць на ўрадлівай ад прыроды зямлі...

Пад Віліяю — града, былая граніца ад Польшчы. Грады не пазнаць, яна парасла сасняком, і сасняк зраўняўся з тым, што вырас на пасецы, а дзе-кольвечы нават стаў абганяць. За градой Жоўты бераг — былая пагранічная застава.

Шорхаюць лыжы, дзе цвярдзейшы, зляжалы снег. Зверху сыпле крупамі, зрэдку налятае вецер,— паволі ўсталёўваецца цішыня.

Васіль адчувае, што стаміўся... А можа, гэта стома не

ад дарогі, а ад таго, што кожнае дзень ў халоднай смузе і наганяе розныя думкі?

«Я кахаю цябе, Галіна...» — Колькі разоў ён гаварыў сабе гэтыя словы. Ад самага лета. А сёння...

Ён яшчэ скажа іх ёй, не адступіцца, бо пачні маўчаць — не жыццё...

А Галіна? Можа, у душы мае што другое? Чаму яна такая здзеклівая? Хто для яе Леанід і Аркадзь з Закалюжжа, што так часта бывае ў клубе, хто той, зусім далёкі сябар па школе, пра каго хацела неяк расказаць?

Праўду кажуць, што абмінае ўсё добрае на свеце, калі абыходзіць каханне...

І чаму ён такі? Нягеглы, зусім жа не для кахання... Але так кахае душа... Чаго яшчэ трэба дзяўчыне? Не любіць яна яго. Але ж яна яшчэ зможа пакахаць, калі ён будзе таго варты.

«Кахаць... Кахаць...» — шуршаць лыжы.

Бралася на сутонне. Была тая пара, калі пахмуры дзень сваёй вяласцю і знямогай дае пазнаць, што заходзіць сонца. Яно цяпер недзе над Закалюжжам; зірнуць туды — там святлейшы кут неба, нібы дзе з хаты праз вокны цэдзіцца блеклае святло.

Драмалі сосны. Скрозь бялеў снег.

Яны выйшлі на пясчаную выспу — на абрывісты, высокі бераг Віліі. Да яго, Васіль памятае, некалі падступалі будынкі заставы. Цяпер тут пуста. Цяжка нават угледзець ранейшы які напамін жыцця. Усё адгэтуль звезлі пасля трыццаць дзевятага года, а якія рэшткі ў партызанскія часы спалілі паліцэйскія. Самотны кут, засыпаны, схаваны ў снягі.

Прыгожы зімою вечар у лесе...

Накляваўшыся з настылых бяроз, што пракідаюцца між сасняку, пупышак — халодных і цвёрдых, як гарох,— падаліся пад Цяні-імшары і Асіпаўскія лесасекі чародкі цецерукоў. Шмат скіравала іх і да Віліі — на лугі. А каторых можна яшчэ ўгледзець на рэдкаверхіх высокіх соснах, што бліжэй да берага. Адтуль, з вяршалін, сыплецца рэдкі сняжок: варушацца леныя птахі, чысцяць дзюбы аб цёплыя нахохленыя грудзі, а можа, чуюць адкуль трывогу? Сядзяць, спачываюць, пасля даюць нырца проста на снег; праклёўваюць лёгенькі шарпак, кешкаюцца, што куры ў пяску — рыхтуюць ямкі — пасля зашыюцца ў бачок пад самы снег і паснуць на ноч. Не пройме іх ні вецер, ні мароз. Хай трашчыць ён сабе па пнях і па кары,

хай прабірае да стрыжня сосны, даймае ў лесе ўсё жывое і галоднае,— цецярук не чуе. Ноч пад снегам для яго цяплей, чым марозны дзень на бярозавым голлі.

Як толькі збяжыцца цемра, з-пад натапыранай у снезе елачкі выткнецца палахлівы заяц, паківае-паводзіць вушамі, пачмыхае і патрухае з узлеску пад Вілію, дзе лозы і асіннік — на жыр.

Сарвецца асцярожны заяц са стромкага берага, ссунецца па снезе, перакуліцца цераз галаву, не ўтрымаўшыся; замрэ, чакаючы страху, і яшчэ з большай асцярогай паскача пад Вілійскія лозы ля затокаў.

Раптам з-пад зямлі — снежны фантан... Зайца хтось падкідае ўгору, сцёбае калючым і шорсткім, лупіць поўсць аж са скурай... Вусатая мордачка зайца натыкаецца на штосьці чорнае, страшнае... Кінецца ён убок — там другі жывы камяк, скокне наперад — зноўку! Лапоча беражніца, віхрыць, бы ўзнялася-ўскруцілася бура-мяцеліца.

Палахлівы звярок шмыгне як апантаны назад, пад Асіпаўскую пасеку, у снягі і сасняку без аглядкі. Наперадзе яму — галодная ноч: цецерукі не далі павячэраць.

А хай пырсне за Віліяй на ўсходзе зара...

Па шэрані лёгка падкрасціся да самага птушынага схавішча. Счакаць, пакуль зайграе дзень, заіскрыцца сінькай белае прырэчча; успомніць, што вунь там, ля пахілай лазінкі, закапаўся ў снег самы крайні, нахохлены, санлівы, лены ад тлушчу самец... Зайсці ад яго, падступіцца на стрэл. Падняць з-пад снегу цецерука лёгка: чуткі птах і ў сне ловіць крокі здаля...

Цёмныя, аж сінія на белым снезе цецерукі хлопаюць тады крыллем, засыпаюць снегам з ног да галавы. Але шрот падсякае крылле... Цецерукі падаюць у снег, што качаны ў кадзь на шаткаваную капусту...

Галіна чуе, як дыхае побач Васіль Міронавіч, як гаворыць, аж заікаецца.

Няпраўда, што яна не любіць паляваць! Яна ўжо гатова быць з Васілём на холадзе ўсю ноч, аж да світання.

Тут ён цікавы, лагодны, ціхі. Разумныя вочы зусім не хітрыя, як бывае, калі ён хоча жартаваць...

Яны на выспе — на Жоўтым беразе.

— Гэта ў нас, Галіна, самая высокая гара...

Ззаду лес, як сцяна — цёмная, бурая туды, дзе Асіпаўскае. Суровая, строгая пушча неспакойная ў сваім сне і ціхы...

На поўначы снуецца сінеча. Там, за Віліяй, далёка-да-

лёка цямнее вёска. Справа прымярэжаная, сцямнелая раўніна без краю, ціхая, казачная, таямнічая...

За ёю лясы — партызанскі Палік, пра які гэтулькі наслухалася Галіна. Яна першы раз глядзіць туды адсюль, з узвышша. Ён, далёкі, вабіць да сябе, зманьвае, зычыць дзівы-прывіды, шэпты песень-казак...

Спакой пасля горада — дзіва, веліч і лагода; думкі, загадкі, навевы радасці...

Яна не можа яшчэ згадаць, не можа прызнацца сабе, што спявае ў яе душы ад велічы і красы, ад радасці і маладосці... А як хочацца гаварыць, гаварыць пра тое...

Жыццё — веліч, радасць і каханне. Жыццё — мары... Ад веку праз вякі... Жыццё дае бачыць і тварыць. Падсячы, падрань яго,— і ты не птушка, ты — камяк, ты чвакнешся ў снег, у гразь. Жыццё — гэта крылы... Яно дае вялікія правы праявіць розум і годнасць...

Галіна ўспомніла ўсіх малютак, якім давялося перарэзаць пупавіну, узяць на рукі — пераняць у жыццё — вялікае, светлае, здаровае. Ужо колькі калыхала яна на руках людскога шчасця...

Мяккі вячэрні туман спавівае лес, усцішае яго нанач. Бадай, перад адлігай.

На душы ў яе раптам стала неспакойна. Недзе глыбока-глыбока варухнулася тое даўнейшае — гарадская сустрэча з Леанідам і летні вечар, калі яна засталася ля калгасных садоў. І ад гэтага чалавек, што стаяў поруч і ў задуменні хмурыў навіслыя бровы, узіраючыся за раку, стаў далёкі і незразумелы. Вярнуўся, наблізіўся Леанід — той, каго апошні час не хацелі падпускаць блізка думкі, гналі прэч. Васіль не разумее яе, а Леанід зразумеў бы... Як хочацца марыць — гаварыць... З кім? Не з Васілём толькі. Ды і ні з кім на свеце...

Вечар навяваў стому, балелі ногі.

Яны доўга маўчалі. Кожны думаў сваё. Васіль унурыўся, спахмурнеў,— ад змору ці ад думак,— не згадаеш.

Цяжка было Галіне бачыць ля сябе чалавека, які, можа, і кахае яе. Але ж за гэта не гавораць дзякуй. А яна і не ўдзячна яму, не; яе хутчэй працінае злосць. Каханне параджае каханне, а не здолее — прападае само, знікае, уступае нечаму другому. Так думала Галіна, ды так не мог думаць Васіль. Ён знебываўся, абіваў парогі бальніцы, хадзіў па пятах: не загавары ні з кім. Сёння яна павінна сказаць усё, раз і назаўсёды. Нямаведама, як і чаму пераступаеш чалавеку дарогу? Ну і што, калі яна прый-

шлася яму па душы? Чыя ў тым віна? Але скажы яму гэта...

Яна, відаць, шмат думае пра сябе...

А калі не сказаць, то дзеля чаго тады ішла сюды на край свету?

Галіна ўгледзела, што ўвесь бераг услалы шпліхтамі, высокімі, роўнымі, прыгожымі. Іх тут — не змераць вокам... Яна ніколі яшчэ не бачыла гэтулькі дрэва, звезенага, нарыхтаванага, колькі разоў перакочанага чалавечымі рукамі: натруджанымі, у смале. Дрэва чакае вясны,— пакуль на Віліі не сарве лёд ды пасля паводкі не ападзе ў берагі цёмная рака. Тады пасыплецца з адхоністага берага ў ваду, загрукае-зазвініць бярвенне. Запрудзіцца рака, закалышацца і павалачэ цяжкія камлі, пацягне за блізкі свет, дзе іх мо даўно чакае прыстань.

Цямнеў заходні край неба, хаваючы ўсё з воч. Загуло недзе далёка-далёка, ледзь лавіла вуха. Колькі разоў там жахнулася зарыва.

— Гэта ў Камене... Там жа міжкалгасная электрастанцыя. Самая большая ў нашым баку. Летась толькі канчалі яе...— чуе Галіна, ды нічога не можа адказаць. Усё ўляглося, што было на душы пасля лясной дарогі. Пацягнула дадому.

Цямнела хутка, мітусілася над галавой шэрае неба. Зашумеў лес — адтуль насоўвалася ноч. На твар упалі сняжынкі, пайшоў рэдкі снег, павеяў вецер, густы, як і тады, пасля палудня.

Глуха шумелі заснежаныя сосны. За плечы краўся холад...

Галіна ўзмахнула кійкамі і знікла недзе там, унізе, дзе пад снегам была Вілія і чарнеліся ля затокі густыя лазнякі. Васіль не памятаў, як нырнуў услед.

...Яны выбіліся на Ваўкаўню, калі ў Закалюжжы ўжо мігалі агні. Выйшлі на ферму. У твар ім дыхнула цяплом і абжылымі будынкамі. Здалёку праз расчыненыя ў парнік дзверы было відаць, як палае ў печы агонь і сядзяць на парозе людзі.

Ярка адсвечвалі лямпачкі ля дзвярэй у кароўнік. Мычалі каровы, шорхаліся аб драбіны, аб сцены.

Ля студні бразгатаў ланцуг, звінелі вёдры, гаманілі жанчыны, лёгка апранутыя, што летам.

— Гэта старшыня памог нам вытурыць сёння Выжлятнічыху на канюшню. Капала гной разам з усімі, хоць

раз за ўсю зіму. Нідзе не дзелася! Як міленькая... А то адлежвалася колькі, як леснічыхай, лічы, стала...

Васіль пазнаў Ульяну, Аркадзеву маці. Гэта ж яна ўчора прывяла на праўленне Выжлятнікаву Вольку, здолела. Забыліся ўжо ўсе, калі тая ў канцылярыі была. Падсыпалі трохі бабцы,— і вось пайшла, рабіла...

Жанчынам цёпла ля работы. Ім некалі ўслухоўвацца, што нанач загуў лес, што сыплецца слота, калі трэба даіць і карміць жывёлу.

Васіль першы прыпыніўся ля студні, прывітаўся, пачаў гаварыць з Ульянай пра ўчарашняе праўленне. Ветру тут з-за будынкаў не было чуваць,— што ў хаце за сцяной. Зморапыя ногі цягнулі Галіну прысесці, хацелася піць.

Пасля Васіль павёў яе цераз агароды, і яны апынуліся ля нечага двара — першага з краю вёскі. Пакінулі ля варот лыжы, пайшлі пастукалі ў дзверы.

Толькі тады Галіна ўспомніла, што яна тут была, калі на парозе з'явілася захутаная ў хустку Анэта.

— Дзеткі мае... У такі снег... Мокрыя... Адкуль вы? Заходзьце, заходзьце. А я вас не пазнала спачатку. На сына паглядзіце, які ён вялікі. Сядзіць ужо сам, на рукі ідзе.

Яны атрэслі снег, увайшлі ў першы пакой, селі ля стала.

— Можа, чаю вам, каб сагрэцца, а можа, чаго цяплейшага? Мы тут мігам. Андрэй... — паклікала Анэта, расчыніўшы дзверы ў другі пакой.

За сталом у другім пакоі сядзеў, відаць, Анэцін мужык. Адвярнуўшыся плячыма на хату, ён нагнуўся, налёг на край стала. На голас не зварухнуўся, не абраніў ні слова.

— Нічога не трэба. Мы нап'ёмся толькі, калі ёсць цёплая вада... Каб не адразу са студні... А хлопец ваш маладзец, расце. Не будзіце яго, не трэба. З холаду я, мокрая, як жа вазьму яго на рукі. Другім разам некалі... І на падлогу не пускайце сына, пакуль зіма. А нам яшчэ дадому з Васілём Міронавічам далёка... Ноч вось заспела.

— Андрэй... Людзі ў хаце... — паклікала зноў жанчына, пасля загаварыла да іх: — Намарыліся... Здалёку, мусіць?

— На Жоўтым беразе былі мы.

— Ага, ага... — жанчына, відаць, нічога не зразумела.

Васіль маўчаў, глядзеў праз акно па двор.

Ля хлява — конь, на плот ускінуты лейцы. Сані — пустыя. Чалавек аднекуль нядаўна прыехаў, не ўсё, відаць, зрабіўшы за дзень.

— Можа, пераначуеце ў нас? Чаго ўжо так. У першым пакоі, калі трэба, ніхто не спіць. Мы ў другім месцімся. Цёпла ў нас, малака можна будзе згатаваць. З холаду ж вы...

— О-о... Дзякуй... За запрашэнне, за ваду... Што вы, што вы! Да дому ж нам недалёка. Бывайце здаровы. Хай расце сын...

Галіна была ля парога. Васіль сядзеў яшчэ ля стала, здавалася, ён і не думаў крануцца з хаты. Можа, хацеў застацца, каб на гэта была яго воля. Нарэшце ўстаў і, пакланіўшыся ля дзвярэй, зморана выйшаў на двор.

...Грыні не спалі: позна вярталіся на канюшню з пустымі санямі калгаснікі, якія аж дагэтуль вазілі гной пад Лавацкія сады. Па вёсцы гойсала машына, што раніцай памчала была ў раён па ўгнаенне. На ёй паехала і Нінка,— аптэкарку падмяняе, пакуль тая на курсах. Вярнулася тады і Нінка...

У клубе бялелі вокны. Там дзесьці страляў рухавічок. Пыхкаў, лескатаў,— меліся пускаць кіно. Гамапілі дзеці, рыпаў гармонік.

У Пракурорыхі, дзе Галіна на кватэры, было цёмна. Жанчына жыла адна і любіла збіраць па вёсцы плёткі,— бегала з канца ў канец па хатах, лапатала пра ўсё, што на язык трапляла. Дзверы на замок — і пайшла з двара ў двор. Можна было падумаць, што яна і на работу ішла на поле ці на ферму толькі дзеля таго, каб перадаць навіну. Чалавек, бывае, і ні жыў, калі не нагаворыцца. А хто колькі на працадні прывёз з калгасных свірнаў, а чаму ёй каня далі, а Тодару з Ульянай машыну падганялі. А што хто прывёз з горада, што купіў, што новае ў магазіне... А ці дарагое, а ці добрае... Каб штапель ці шэрсць... А чаму тая замуж пайшла за пастуха, за трактарыстам ці шафёрам было б лепш, ды і настаўнікі ж ёю не ганьбавалі... I так без канца. Адкуль толькі ў жанчыны такая палягаць і ахвота мянціць языком. Дзве такія сарокі ў Грынях — Пракурорыха ў адным канцы вёскі, Раіна ў другім. Між сабою не ўжываюцца, нават, бывае, зусім не мірацца. Пракурорыха толькі гамоніць, бывае, каб душу ўдаве адвесці; Раіна ж на ўсе плёткі глядзіць другімі вачыма: а колькі б далі цяпер за свежае сала, а як бы выгнаць самагонкі, каб ніхто не ўчуў, а ці будуць якія льготы, а можа, старым пенсію дадуць вялікую ці помач добрую, а можа, на работу ісці не вельмі стануць чапіцца. Цяжка ўжыцца такім людзям.

Дзяўчына Пракурорысе падабалася, памагала дома, плаціла добра, прыветная, ад кашлю заўсёды вылечыць. Дзяўчыне цаны няма, і хлопцаў таксама. Ні Мі876чык — так яна звала Васіля Міронавіча,— ні той Дышлеўчык з Закалюжжа, што ў клубе ўсё танцуе з ёй,— ніхто не падыходзіць. Хіба той яшчэ, Гаўрылішын, што вучыцца ў горадзе. Дык жа ён не пад бокам. Той нішто, і пісьмы слаць пачаў. Такая дзяўчына... Няма ёй тут хлопцаў, няма. Ды я і сама, каб была такая,— ані глянула б на нашых Пэрцаў. П'юць, на кожнай вечарынцы соваюцца адзін да аднаго. Няма культуры яшчэ. А дзяўчына добрая, з пекнатой...

Ключ ляжаў за вушаком, куды пісьманоска заўсёды заторквала газеты. Галіна зняла замок, аддала Васілю. Увайшлі ў цёмныя сенцы — запахла бульбай-паранкай, нечым кіслым, але прыемным. Галіна ўзяла ў Васіля замок, вобмацкам паклала на лаўку. Падышла да дзвярэй, намацала клямку.

— Не трэба... Пастаім тут,— папрасіў ён.

Яна маўчала, не адчыняла.

Яму хацелася застацца ў цемнаце, а адчыніш дзверы ў хату — уключай святло... Ён стаяў блізка ля яе. Нагнуўся быў, узяў за рукі. Галіна маўчала. Ён прыгарнуў яе і ў цемнаце пацалаваў у валасы.

— Галя...

— Лыжы прынясі. Забыўся. Свае можаш кідаць і на вуліцы, а я ў Барысаўны брала.

Васіль Міронавіч кулем кінуўся на двор. Калі ён убачыў, як у вокнах ад двара ўспыхнуў агонь, аж злякнуўся...

— Пастаўлю чай, пагрэемся. Схаджу пераапрануся. Ды і вам, Васіль Міронавіч, можа, лепш пайсці... дадому?— яна ўсміхнулася, хітрая, лёгкая, нібы і не стамілася і не намерзлася.— Толькі я вас не ганю, не падумайце так. Вячэру сама гатую заўсёды. Гаспадыні вечарам дома не знойдзеш.

Ён сядзеў адзін ля акна.

У хаце пахла медыкаментамі. Прыкручаны рэпрадуктар шаптаў пра канькабежцаў. У сенцах пыхкаў керагаз.

Яна выйшла ў лёгкай летняй сукенцы-тацянцы, з шырокім поясам, дэкальтэ. Чырванашчокая, з мокрымі яшчэ ад снегу белымі валасамі. Вочы вільготныя, цёплыя. У іх нейкая ўсцішанасць,— гэта, можа, ад стомы. Любае, недасяжнае для яго дзяўчо...

Прыхінулася да спінкі канапы плячыма, глядзіць проста яму ў твар — блізкі, добры чалавек...

У хаце цёпла, і Васіль Міронавіч расшпіліў куртку. Пашкадаваў, што наслядзіў ля стала, перасеў на канапу да Галіны, прыціх і глядзеў на яе... Якая яна прыгожая... І як ён яе кахае...

— Хочаце, я пакажу вам кнігі, якіх вы яшчэ не бачылі...

— Не трэба... — адказаў ён ціха і, падсеўшы бліжэй, маўчаў. Пасля раптоўна абняў яе, зусім знянацку і неяк палахліва, і стаў цалаваць у лоб, у шчаку,— куды папала... Яна адняла яго паслухмяныя рукі, адапхнула ад сябе.

— Вы ведаеце, чаму я дазволіла гэта?

— Не кажыце... Маўчыце. Я не ведаю, што рабіць. Я кахаю вас... Я жанюся на табе, Галя... Я люблю цябе...

Яна ўстала і перасела на крэсла, дзе нядаўна сядзеў ён. Пасля адышлася да акна і адвярнулася спіною на хату.

Ён не ведаў, што рабіць, бо думаў: цяпер трэба ўчыніць тое, пасля чаго яна стане ягонай, пасля чаго палюбіць сама...

Яна не ўцякла ад акна. Ён узяў яе на рукі. Хуценька занёс на канапу. Быў ашалелы, лавіў яе вусны, дыхаў горача, цяжка.

— Галя... Галя...

Яна ўдарыла, мусіць, па воку, бо на яго аднекуль са столі раптам пасыпаліся іскры, вострыя, колкія, бы там хто раструшчыў лямпачку на дробныя чырвоныя кавалачкі.

Цяпер яна і сама не ведала, як апынулася ў парозе.

— Я дазволіла была вам пацалаваць сябе, каб вы зразумелі... што я ніколі вас не кахала і не змагла б пакахаць...

Ён не памятаў, калі яна накінула на плечы паліто; пачуў толькі, што бразнулі дзверы, і ўгледзеў, як цёмны прывід мільгануўся на двары ля акна.

— Галя!.. Галя... Я не хацеў... Паслухай...

Стала ціха. Чуваць было, як цікаў у Галіным пакойчыку будзільнік і шаптала невядома пра што радыё.

Ад цішыні пачало нудзіць, нахлынуў сорам.

Васіль Міронавіч кінуўся за парог. Ні ў сенцах, ні на двары Галіны не было. Ён выбег на вуліцу.

— Добры вечар... — як з-пад зямлі перад ім вырас Аркадзь.— Васіль Міронавіч... У нас жа сход камсамольскі.

Шукаем вас... Дамовіліся ж учора. А Галіна Фёдараўна дома?

— Не там мяне шукаеш, хлопец!.. — Васіль Міронавіч са злосці піхнуў весніцы.

## 5

Раман не мог трываць...

У галаве боль, ломіць яе, крышыць. Не павярнуць вачэй. Нехта сцяў зубамі за пераноссе, цісне, жмакае...

Тахкае сэрца, і ад гэтага як хто чым тупым месіць па галаве,— аж іскры ўваччу.

Круціць усяго, узнімае з ложка, кідае ў бяздонне... Падварочвае пад грудзі. Хапаюць колкі, не дыхнуць.

Калоціць, трасе, ніяк не сагрэешся. Маці знемаглася, тупаючы ля яго ложка, зносячы ўсё, што было ў хаце: коўдры, фуфайкі, нават кажушок стары, які ўжо ніхто не насіў, дастала з куфра і ўкрыла ім ногі.

Зноў ломіць галава, трэскаюцца вусны, не дае дыхаць. У вачах снег... Працягнеш руку — ён гарачы, як агонь, не даткнуцца; трапчаць елкі, падаючы, скошаныя, на дол, і круцяцца, круцяцца... Вось дагоняць, прыдавяць да зямлі, праколюць сукамі. Гэта не елкі,— лось гойсае за ім. Яго халодныя рогі крануліся спіны, колюць, пратыкаюць навылёт...

— Га-а... Я не біў... Не думаў... Сам наляцеў...

Сіпла, на ўсю хату крычаў Пэрац. Дыхаў часта, з сябе, кідаўся на ложку, гарэў, што ў агні,— не нагнуцца над ім. Чорныя валасы яго змоклі ад поту, блішчаць расзэсеныя па чырвонай навалачцы на падушцы... На іх паналіпала белае пер'е, бы хлопец толькі што прылёг адпачыць пасля малацьбы, дзе яму ў потную галаву панасыпалася насенне малачаю.

У хаце вымецена, напалена. Чыста, утульна. Нядаўна пабелены сцены, на вокнах фіранкі, на судніку — марля, не зусім свежая, прыжоўкла знізу.

— Як на ногі ўзнялася — апарадкаваліся хоць... І вось скажы, дачушка, насланнё на нашу хату. Ніяк хвароба нас не пакідае. Я ўстала — хлопец злёг. Хоць бы толькі ненадоўга. Як жа мне без помачы ў такія маразы? І дроў палкі некаму будзе нарыхтаваць. Ён у мяне паслухмяны. Пакрычыць і зробіць.

Адзін сынок...

Пэрцава маці, хворая на ногі Ганулья, плакала, стоячы

ў яго ў галавах. Выцірала вочы і глядзела са смуткам і надзеяй на Галіну.

Галіна тут з самай раніцы. У Барысаўны пасля прыёму абход у палатах, і яна засталася. Галіну падкінулі да хворага на бальнічным кані. Пазваніў з канцылярыі Станіслаў Пракопавіч. Проста прасіў: хлопец ля трактара патрэбен, а тут злёг. Галіна спачатку не пазнала старшыні, пасля паабяцала зараз жа быць на месцы. Яна паважала гэтага маладога хлопца, разумнага, неспакойнага. Яны пазнаёміліся бліжэй, калі ў вёску ўклюнуўся грып і прыйшлося рабіць па хатах прывіўкі і дэзінфекцыю. Старшыня сам хадзіў з ёю з двара ў двор, папрасіўшы халат.

«Як гэта, кажа, дапусціцца, каб хвароба выбіла са строю гэтулькі калгаснікаў? Вы ў нас, медыцына, глядзіце... Мне каб маіх людзей на ногі праз два дні паставілі... Кім я іх замяню? У мяне будоўля, у мяне торф... У лесе, на ферме трэба людзі. А што, калі трактарыста грып абложыць ці шафёра... І яшчэ... Каб хто пад грып не хаваўся. Цяжка, бывае, разабраць. Баліць галава жанчыне — і ўсё. Не ідзе на ферму. Як з хворай галавой, кажа, на работу ісці? А сама адваліцца на ложку, пруткі ў рукі — і пальчаткі вяжа. Або чаго добрага — «І адзін у полі воін» чытае. Вось табе і грып. А зімовы дзень, як і вясенні — год корміць...»

Галіна глядзіць на Пэрца і ўспамінае старшыню. Два хлопцы, лічы. На колькі адзін старэй другога — ну на гады чатыры, з выгляду — равеснікі,— а як не падобны адзін на аднаго. Таму людзей даверылі, калгас, а гэты... Галіна ўздыхнула, ад таго яшчэ больш захліпала Ганулзя.

— У бальніцу яго забяром. Можа, нават запаленне лёгкіх...— Галіна сказала і асеклася.— «Яно ўжо яго сцяло, двухбаковае,— падумала яна.— І як гэта вырвалася ў мяне пры маці? Не стрымалася».

— А куды ж вы яго забераце?.. А хто ж за ім хадзіць будзе?.. Хто вады падасць?.. А я дома сама яго дагледжу...— жанчына пачынала прымаўляць.

— Супакойцеся. Вам нельга... Забяром ненадоўга. Трэба хутчэй блакіраваць хваробу. На месцы гэта лягчэй. Не буду ж я тут сядзець, пры ім, ён жа не адзін у нас. І ўрач не зможа часта адрывацца. Кіньце плакаць, кажу. У нас конь. Апранём хлопца цяплей. Паглядзіце ў што... І ўкрыць яго трэба. Пасля ўсё назад забераце...

Жанчына сціхла, замітусілася па хаце.

— А можа, я яму сама банькі пастаўлю? Нашто ж звозіць з дому. Я яго ад акна на гэты ложак да печы перанясу. Я ж не магу без яго. Сэрца разарвецца...

Галіна больш не гаварыла, рабіла ўсё сама.

— Укол... Зніміце яму кашулю. Хутка...

Жанчына зноў заплакала.

Бальнічны конь быў запрэжаны ў вазок, у перадку сядзеў Мікіта — конюх. Ён ніколі не заходзіў у хату з дактарамі, каб не бачыць лішніх слёз. Сэрца мяккае меў,— угледзіць, што плача другі, і ў самога раса адразу.

Галіна вяла пад руку Рамана цераз увесь двор і вулачку, збоку ішла маці, бедавала і не так трымала хлопца, як сама старалася ўчапіцца за частакол. Знясілела, такое не для жанчыны са слабым сэрцам. Усадзілі хлопца з правага боку, укруцілі коўдрай ногі, паднялі каўнер у паддзёўцы, падвязалі шалік.

Раман абвіс, асунуўся ў вазку, прылёг. Дыхаў з хрыпам, спацеў, пакуль дацягнуўся да варот; плюшчыў вочы — балела галава.

— А сынок мой, а глядзіце там яго... А як я прыйду да цябе хворымі нагамі...

— Не стойце на холадзе, цётка. Кіньце плакаць. Я сама за ім буду глядзець...

— А дзіцятка ж маё...

Конь узяў з месца рыссю, кінуў снегу з-пад капытоў на коўдру. Вазок адразу ж знік за павароткай, звярнуў на аселіцы да моста.

У вочы з ветрам несла поўсць,— Мікіта тузаў лейцамі. На дварэ браўся мароз, пакруціла было, пакруціла гэтыя дні і не дало змен, не сцяплела.

З горкі на горку, з калдобіны ў калдобіну,— мcraналі грэблю. Маўчалі.

— Скруціла хлопца як, га?.. Тузае. Малады, а здаўся. Насклеўся недзе добра, а можа, хапіў дзе га́ры — і на мароз. Душой можа загавець. Добра ведаю, не пасылалі нікуды. Самахоць хваробы нажыў. А ў такі мароз... Мой брат з Лагойска прыязджаў... Дык там адзін набраўся ў тыя вялікія маразы і звіўся быў пад плотам. Адубеў за ноч, што корч. І малады, засватаўся толькі... Маладыя, што дзеці, не могуць ні піць, ні выдыхваць... А не ўмееш — не бярыся.

Добра, што гэту гарэлку цяпер надта не ставяць на паяўку, ды і «смалакураў» прыціснулі... Ой, не люблю гэтай гары... Паскудства...

Мікіта не піў і не курыў, ці не ад гэтага ён любіў «кідацца ў філасофію». Цяпер ён гаварыў і гаварыў; не адварочваючыся, заносіў руку назад і мацаў, як укрыты ў хлопца ногі.

— А нашто вы нос траце снегам, дзядзька Мікіта?

— Мерзне, чую. У старога перш-наперш нос мерзне.

— Забараняецца расціраць абмарожанае месца снегам... Яшчэ больш ад гэтага ахалоджваецца абмарожаная тканка. Пры расціранні з'яўляюцца ледзяныя крышталікі, можна занесці праз ранкі ў скуру любую інфекцыю... Мерзне нос — трэба нос кратаць альбо хусцінкай сухой ці мокрай асцярожна яго церці...

— Не-е... Якая там фекцыя... І дзяды нашы і прадзеды снегам толькі і ратавалі сябе... Народнае лякарства — простае. А па медыцыне дык носам яшчэ трэба ўмець кратаць...

Абое засмяяліся.

— Куды вязеце?.. Спыніце!.. Спыніце!.. Тр-р...

Раман раптам усхапіўся, яго патузала на свежым паветры, і, відаць, цяпер яму стала лягчэй.

— Не падымайся. Нельга гаварыць на марозе, лёгкія хворыя...

— Якія лёгкія? Куды цягнеце? З пасцелі сцягнулі!.. Назад...

— Не брыкаўся б, хлопец. Э-ха-ха...— умяшаўся Мікіта.

— Слухай, стары. Куды вязеш? А ты,— зірнуў ён на Галіну калючымі вачыма,— чаго тут? Што я, радзіць сабраўся?..— дыхае зморана, цяжка, аб'інеў, а ўсё рвецца некуды.

— Я — фельчар. У цябе запаленне...

— Запаленне... Фельчар... Пупы адразаць толькі...

— Ну і ўрэжу я табе зараз... Кранісся яшчэ хоць раз...

Ён рвануўся, знайшоў сілы, іываліўся з вазка на снег, выцягнуўшы коўдру і ахапак сена.Ываліўся і не змог устаць.

Яго ўсцягнулі зноў на варахаватае сена, укрылі. Ён маўчаў, пасля пачаў кідацца і мармытаць, няўцямна, галасна,— дрыжаў, калаціўся. Да яго зноў падступіла гарачка.

Ачнуўся ён ужо за Лавацкімі садамі. Змізарнеў зусім на вачах, не дыхаў, а хаўкаў.

— Не вешай, хлопец, галавы. Думай, што будзе пасля, калі пойдзеш на папраўку. А то з'ехаў за які час... Я ўчо-

ра аднаго на свет прымала... Чатыры дзевяцьсот... Дык гэта мужчына! На ўсю бальніцу голас падаў.

— Што думаць... Ой як не хацеў бы...— Пэрац занерваваўся, закашляў і загаманіў моцна і натруджана: — У бальніцу? Га?.. Не хачу, дзе Нінка, не хачу!..

Ён крычаў, пасля сціхаў і мармытаў нешта сабе пад нос; тады зноў прасіў піць, клікаў Нінку, Выжлятніка...

— Паганяйце, Мікіта... Хутчэй. Ён, здаецца мне, схапіў крупознае...

Вазок выскачыў з рэдкага, выразанага на дровы альшэўніку і нырнуў у лагчыну, да моста, дзе перасякала ездавую санную дарогу шаша. Гэта ў канцы Грынёў, пад бальніцу,— Пэрац жыў далекавата. Тады, увосень, Галіна нейк хутчэй, здаецца, прыйшла ў Грыні. Можа, што сустрэўся быў Аркадзь? Яму было па дарозе,— на праўленне ішоў, старшыню хацеў бачыць, нешта з трактарам не ладзілася, яна не памятае што. І не да старшыні ён недзе ішоў, бо колькі прастаялі ля варот у яе на двары. Здавалася б, пра што з ім гаварыць... А сустрэнешся... Толькі занадта ўжо хлопец з мяккой душой...

Імчалі пад самую шашу, конь рвануў уґалоп... Галіне раптам здалося, што яна ляціць з гары на Жоўтым беразе пад Віліяю, па калючых голых лазняках. Яе дагнаў Васіль, збіў з ног, і яны абое паляцелі потырч у затоку... Праламаўся лёд, і Васіль Міронавіч правалiўся ля берага па калені. Усё ж добра, што ён збіў з дарогі. Ля затокі можна было праскочыць, і тады давялося б скакаць у рэчку. А лёд мог падапрэць пад снегам...

Вазок падскоквае, нахіляецца, выпростваецца і мчыць роўна і напорыста — займае дух...

Мінулае зноў ажывае ў памяці...

Села яна на Аркадзеў веласіпед з маторчыкам... І панёс ён яе па вуліцы, па выгане аж да рэчкі... Яна разгубілася... Апамяталася пасля, але ніяк не магла затармазіць.

Услед тады бег Аркадзь, крычаў, што было сілы, куды і што круціць... Збеглася ўся вёска. На хаду падхапілі з сядла... Як цяпер, памятае,— павісла на руках у некага, а ў лужыне храпе праклятый маторчык...

Конь суцішыў бег, ехалі цяпер паволі, марудна,— узнімаліся на пасып, каб пераваліць цераз дарогу.

«Якія яны не падобныя... І Васіль і Аркадзь».

Яна не ведала, чаму раўняла іх з Леанідам.

Вазок з'ехаў з дарогі ў лагчыну, дзе перамерзла рака, і схаваўся ў Грынях.

Ганула сядзела ля акна і ўзіралася на дарогу, на Лавацкія сады. Іх ахутвала зімняя смуга, а можа, ужо старыя вочы не хацелі добра бачыць?

Адзінота прынесла трывогу. Ганулі не хацелася, каб хто прыйшоў у хату — невядома, чаго з'явіцца чалавек.

Сядзела яна доўга, часам падыходзіла да печы, апранала кажух, скідвала яго з плеч на ложак і зноў садзілася на лаву да акна.

Пасля рашылася. Выйшла на двор, патупала ля парога, зірнула ўкрадкі на вуліцу і пачала паціху перакочваць дзежку з сенцаў у бок хлява, за варывеньку. Рабіла ўсё ціха, прыслухоўваючыся. Боязна днём, ды трываць нельга,— прыйдуць яшчэ ў хату, узнімуць вечка, капнуць... Далей ад воч куды гэту дзежку, каб і падумаць не маглі...

— Сабакам выкінуць... Праклятая ялавічына... Хлопца са свету зжыць можа. І так, во, праз яе... Праз іх захварэў. Пайду да іх, пайду... Сэрца маё не вытрымае. Жыва не буду, калі не прасаджу якім ражном Выжляціну старую... Ён хлапца ў магілу ўгоніць... І так увёў... Хаця б ціха абышлося, хаця б. Мой Раманка...

Жанчына была ў трывозе.

## 6

— Пане Куцка... Ведаеш, чаму баб у салдаты не бяруць?

— Не. Ну-ну...

— Га-га-га...

— А знаеш сакрэт, каб жонку ўлагодзіць?..

— Давай...

Рогат узнімае столь, здаецца, гэта ад яго зверху упала тоненькая палоска пабелкі якраз на руку Выжлятніку. Ён расцірае яе аб лоб, змахваючы пот.

— Дзяцей прэч! Языка за імі не павернеш...

— Ану, дзеці, марш у тую хату. Не знаеце, ці што!..— Ян Куцка ўстаў з-за стала, сцягнуў з сябе вязанку-світэр і застаўся ў адной клятчастай рубашцы-каўбойцы: — Ну і замарыў ты, Мірон, мяне. Бакі парваць... Ану яшчэ што-небудзь скаромнае! Давай ты, Платон. Люблю анекдоты, як... як чорт знае што. Ад гарэлкі адказаўся б...

— Хто цяпер іх не любіць, мілы, прама скажу. Добры анекдот, што добрая чарка...

Бутэлькі са стала прыняты, засталася толькі закуска.

Калі хто ткнецца ў хату, ну што? Госці вячэралі. Куцка не вельмі хацеў, каб бачылі, што ў яго ёсць свая сівуха — нікуды ж ніколі не бегаў купляць ці пазычаць.

Надзьмуты, рыжаваты, з чырвоным носам, набеглым ад хмелю крывёю, з рэдкімі ўскудлачанымі валасамі, падслепаваты, Куцка сядзеў цяпер з краю стала, заклаўшы нагу на нагу і сашчапіўшы рукі на калене.

— А ты што, Дзедзіха-дзед, галаву падвярнуў? Адставаць стаў ад хлопцаў? Колькі там...

— Мілы, прама скажу, ён больш за нас сёння ўзяў. Хай адпачне, не руш. Дамоў далё-ёка...

— Я не сплю, усё чую...— Андрэй гаворыць цяжка, аж плечы яго ўздрыгваюць.

— А-а, ты чуеш? Дык слухай. Я помню, колькі ў мяне засталося не заплачанага ў ваш калгас за лес. По-омню... Мая распіска ў вас. Ты яе здаў пры перадачы?

— Не, Куцка.

— Дык на трэцюю часць... Згода?

— Не.

— Папалам!

— Не.

— Гм... Слухай, Дзедзіха...

— Не ўпарціся, мілы, прама скажу. Глядзі, брат...

— Слухай, Дзедзіха...— Куцка ўсхадзіўся, загуў-загугнявіў: — Галаву тваю я заўсёды цаніў і цаню. Сам ты сёння ведаеш. Людзі жывуць і жыць збіраюцца. Я са сваёй дурной галавой і то кажу: вайны не будзе, не туды павярнулася, няма дурных. Людзі жыць хочуць і добра жыць. А мы? А я? А ты? Падумай. Калгас — калгасам; адтуль на твае працадні заўсёды дадуць, не прападзе. А дзе ты яшчэ падкалыміш? А я добра даю. Ну і ўсё. Скажам, не хочаш так, ну зробім там другую распіску на якіх рублёў пяцьсот, а астатняе — папалам...

Выжлятнік усхапіўся з лавы, затопаў нагамі па хаце і запеў чыста і выразна:

Руб іграе,
Руб маўчыць,
Руб у дзірачцы тырчыць...

Падскочыў пасля да Яна Куцкі, пацяпаў далонню па яго лысаватай патыліцы, што лыжкай па цесце, і падзьмуў праз нос:

Ішоў лысы і пляшывы,
Знайшлі яны грэбень,

Кажа лысы пляшываму:
— Нам ён не патрэбен...

Джвучка павесялеў, закурыў, стаў зліваць гарэлку са шклянкі ў шклянку. Расшпіліў каўнер,— пацеў...

— Праўда, у хаце горача. Добрыя сцены, дух трымаюць. На дварэ халадэча...

Ян Куцка выбег у першую хату і ляпнуў дзверцамі ў шафе.

Адзін Андрэй, як абмёр,— узваліўся локцямі на стол, звесіў галаву. Шырокі белы сталовы нож блішчаў у яго пад барадой.

У шыбы стукала часта і глуха,— як бы нехта луніў па вокнах ад вуліцы мяшком, атрасаючы з яго муку. На рамах з двара павіслі гурбачкі снегу. Па шкле шорхала, грэбала, як венікам-разгачом, бы там хто хацеў змесці снег.

Андрэй раптам усхапіўся,— аж задрыжаў стол,— павярнуўся да акна.

На дварэ ноч, нібы нагнала яе, каб схаваць усё благое на свеце.

Чарнеюць будынкі, свецячы вокнамі; свішчуць ад ветру платы, што абступілі вуліцу...

Вецер рве дах, бегае па гары; трашчаць бэлькі...

Новая, добра склюдаваная хата. Вялікая, цёплая... Хаця сцены грэюць любога чалавека...

У коміне ціха пішчыць вецер, ные, што шчаня дзе за печчу. У такім гарлатым коміне і так мізэрна? У такой вялікай хаце і такая дробная істота — яе гаспадар... Гавораць, у чалавека душа бывае як суконка... Не-е... У гэтага душа — гнілая нітка. Не рвецца толькі...

Гаспадар — былы хутаранін. З год, як падсяліўся да вёскі.

У калгас пасля вайны ледзь-ледзь угаварылі. Пан жа Куцка быў... І цяпер хоча, каб яго так звалі. І як сталася, што і Андрэй з ім выйшаў на адну дарогу? Вядома, праз Выжлятнікаву сцежку...

Ян Куцка — каменскі. Камена да трыццаць дзевятага года была за Віліяй, за граніцай. Пасля — немцы. Пры іх Ян Куцка быў у самаахове... Было што ахоўваць. Прыязджаў аж у Закалюжжа, у Грыні дапінаў са сваёй малатаркай-прыводам. Дзёр дабро і скуру з людзей. Пачаў з гэтага, а пасля і з паліцыяй рабаваў.

Адбудаваўся пасля вайны на хутары. Было за што.

Тады ж знюхаўся з Выжлятнікам: у таго казённы лес. А калі там не было як разагнацца — пад бокам калгасны...

Які дурань тады змусіў Андрэя пайсці на ўступку Куцку — прадаць калгаснага лесу? Хаця, другі клопат у калгасе быў. А лес... Колькі там яго прасіў Куцка. А пасля колькі разануў... Прыйшлося гаварыць сур'ёзна. Даў распіску, яна ў кішэні. Не аддаў Андрэй яе новаму старшыні. Па распісцы было відаць, колькі лесу ўзяў Куцка... А хто дазволіў? Праўленцы маўчалі спачатку, а цяпер узяліся і за гэта. Камісія хадзіла, да пня лічылі, куды што пайшло. Новы старшыня кожны сук палічыў... Быў бы Дзедзіха сам старшынёй: гэта на будоўлю, гэта на дошкі, на рамы пайшло... Спісалася б... Для вока апрыходавалі б якую суму, падставілі кубатуру, хто пойдзе правяраць старшыню... Ды надта ж ніхто раней і не ішоў. А цяпер...

Трэба аддаць. Усё аддаць. А гэта сотні... Не адзін жа лес. А сена колькі ўпёрлі гэтаму Куцку з лугу... Праз Вілію ўсе ночы ў касьбу плылі калёсы. І за што? За гарэлку...

І не толькі Куцку... Куцка памог пажыць не аднаму ў Камене. Як свой, і ты, Андрэй, тут цяпер, паспрабуй, зайдзі хоць да любога. І накормяць, і напояць, на пярыны спаць пакладуць неразутага. Нажыў павагу за калгаснае...

Што тая распіска ў кішэні... Ёю ўсяго не аплоціш. Да пянька падлічылі, Куцкавай дзялянкай назвалі... Бачыў народ, сачылі людзі. Тодар нават запісваў, куды хто лес цягнуў. А цяпер адкажы. Без распісак, без папер: паперы людзям не трэба,— у іх ёсць вочы...

Дзедзіха жахнуўся...

У людзей — вочы... О, каб у людзей не было воч...

Не, гэта загаварыў стары, ранейшы Дзедзіха. Не-е...

Добра, што ў людзей ёсць вочы... Цяжка цяпер глянуць у іх, але ён, Дзедзіха, дажыве і да таго. Змыецца ўсё, сам змые. Працай. Сваімі рукамі з сябе бруд атрасе...

Як добра, што ў людзей ёсць вочы... Ён змусіць сябе глянуць у іх чыста і адкрыта... Пасля гэта, пасля... А цяпер?

Цяпер усяго будзе. Пачалі з лесу, а прыйдуць і ў хату. Дзіўна, ніводнага старшыню ніколі так не кантралявалі. Стары Тодар вадзіў праўленцаў да кожнага пня. Леснікам быў і вартаўніком палявым доўга. Вось і вартаваў... Паабяцаў і мяшэчкі памагчы пералічыць, куды тыя «паплылі-пайшлі»...

Былі ў старога вочы, а чаму ён тады не прыйшоў ні

разу, не сказаў усё на праўленні? Лягчэй было б знесці, чымся цяпер...

А ці падпускаў ты, Дзедзіха, так ужо блізка да сябе людзей, што праўду хацелі сказаць? Падумай...

Як добра, што ў добрых людзей ёсць вочы... Як добра, што ў шчырых людзей ёсць душа...

Ян Куцка кпіў. Хітры і пранырлівы яго позірк працінаў наскрозь і яшчэ, здавалася, ззаду тачыў сцяну.

Прынёс, паставіў на стол аплецены рудой лазой буталь. Што ў ім — чортведама...

— Піць і есці! Каб арэхі на пузе біць можна было!.. Ян Куцка мае сваё. Мазалём заробленае і зробленае... А ты, Андруша, кінь думаць. Пра што? Хопіць часу, змяркуемся. А цяпер...

Закон Куцкі вядомы — заліць горла, скінуць з ног, а там усё будзе, як ён захоча.

Пачыналася ўсё нанава. Выжлятнік вытылінгаваў на хаце, гарланячы «руб», Джвучка ёрзаўся за сталом, выціраючыся і распяразваючыся.

— Ггуляем да дня, мілы... Танцы да ўпаду...— Выжлятнік лез цалавацца да Куцкі.

— Куцка — з пузам. Нажыў і пры яго, як ён хныкаў, «беднасці»... Стаіць цяпер хітры і задаволены, пагладжвае жывот, рад.

— Ну, Андруша, першую з бутля з табой...— позірк у Куцкі праніклівы, насцярожаны... З рота плыве сліна, як у звера перад здабычай...— Ну, падымі, наліта. Ты ж нават не ведаеш, што тут... Пальчыкі абліжаш... Праўда, Мірон? Ну кінь. Усе ж свае. Я перш, прызнацца, горш думаў пра цябе. Хаця, адкуль было здагадацца, што ты ўсё дзеля начальніцкага вока так касавурыўся ў наш бок. Хе-хе-хе...

Агідна, брыдка...

— До-о!..— закрычаў Андрэй так моцна, што аж на вуліцы недзе было чуваць праз ашаляваныя з двара сцены і акітаваныя падвойныя вокны. Цяжкі яго кулак апусціўся на рог стала.

Стала ціха. Мужчыны атарапелі, як ад стрэлу. Інстынктыўна падаліся ў кут, да шафы.

Андрэй выпрастаўся за сталом на ўвесь рост. У яго трэсся падбародак, ляскалі зубы, вочы лавілі то аднаго, то другога. Рука сціснула шклянку — першае, што трапіла пад яе. Закапала, пацурчэла штосьці са стала на падлогу...

Буталь стаяў, нават не ўздрыгнуў; пузаты, брыдкі, як і гаспадар. Аплецены... Удар па ім, паспрабуй.

Адсунуўшы расшчэплены стол, Андрэй раптам падняў буталь і са злосцю шпурнуў яго цераз хату...

Мужчыны анямелі. Усхапіліся з месца пасля, калі глуха і цяжка зазвінела шкло, рынуліся ў парог.

Выжлятнік заступіў кут, дзе стаялі стрэльбы,— можа, баяўся, каб цяпер зноў што не трапіла пад рукі Андрэю.

Джвучка таптаўся ў парозе, зашпільваў каўнер кашулі і зыркаў вачыма па сценах,— шукаў сваю вопратку.

Першы загаварыў Куцка, з усмешкай, сціха́:

— Хопіць, Андруша. Пазабаўляліся, і годзе, супакойся. Я сам калі, бывае, лішняга вазьму — пальца ў рот не кладзі. Хе-хе... І пляцёнка не ўратавала шкло... Хе-хе... Закурым, хлопцы, ці што?

— Лішняга, кажаш? Тваёй атруты? Лішняга, многа лішняга за гэтыя гады я твайго сербануў... Хопіць! Людзі адракліся. Бо хто я быў? Старшыня? Чалавек? Вы мне тут сёння ўвесь вечар чаўплі, што за маім старшынствам жыццё было... Каму? Вам! Вы нажываліся за маёй спіной... А я за вамі людзей сумленных не бачыў. Праз мяне калгас колькі гібеў. Што, я адзін гэта рабіў? Адзін? Не-е... Вы! Вы памаглі!

— Чакай, чакай... Чалавек. Здурэў ты, ці што?.. Чакай...— Куцка забегаў ля стала.

— Мілы, што гэта? Свінства, мілы, з твайго боку, прама скажу. За чалавечую дабрату...

— Кепска выйшла. Праклята...— пляваўся Платон.

Мужчыны сунуліся да стала.

— Я свіння?!. А вы людзі?.. Чысценькія, чэсненькія?.. Адбудаваліся, нажыліся. Можаце і без калгаса абыходзіцца? Колькі ты, Куцка, уклаў мазаля ў такую хату? Дзяржаўны і калгасны лес! Што ж, раней і за злынь можна было будавацца. Толькі не... Не хапае ў маёй душы цярпення. Хто вы мне, хто ты, Куцка? Сват, кум? Пілі разам! Парадніліся... Заўтра ж пайду да Авяр'яна і да старшыні. Усё выкладу на стол. І сведкі будуць. Сам вярну, што трэба, у калгасную касу, але і ты аддасі. Усё, што чарпануў, вернеш. Праз суд, калі на тое пойдзе. Лес калгасны... Не ведаю, колькі ўзяў ты ў дзяржаўным... Выжлятнік скажа. Разбяруцца. Я вырашыў... Даўно... З плеч цяжка было скінуць, а рукі лёгка атрэсці...

— А-я-яй...— заекатаў Джвучка, як сабака, з якога жыўцом лупілі скуру. Тупаў у валёнках ля стала, бы тап-

таў, мяшаў з гразёй чалавека, які, невядома чаму, адурнеў і плёў чорт ведае што, пра якое лепш не ўспамінаць.— Не, Андрэй, дарэмна ты ўсхадзіўся... Адразу будуць ведаць, куды і як падзеліся кучы пшаніцы са свірна яшчэ тады, пасля вайны, калі з усіх шнуроў у адно месца малаціць звозілі... А лён, а семя?.. А жытцо, калі ў Лаўках сеялі? Кожны год. Усё пералічу на пальцах. Маўчы! Заткні лепш чым рот. Хто ты цяпер? Хто паверыць? Ён сталы ломіць... Судом страшыць. За табой туды нам дарога... Ад калгаснага чыста рукі атрос, сам пячатку паклаў на стол... Лепш не прыдумаеш...

— Мілы, скажу прама...— Выжлятнік адціснуў ад стала Куцку, які не мог нічога сказаць, толькі зыркаў вачыма і дрыжаў: і за такімі сцэнамі баяўся, што могуць учуць, набегчы людзі.— Мілы, зарапартаваўся. Гэта табе не ў калгасе на сходзе, старшынька. Ану заткніся! Прамовы гаворыць... Няма нікога з раёна, ніхто не чуе... Ды і знай. Асцярожней языком...

Кулакі яго павіслі былі ўгары, пасля апусціліся, ляглі на край стала.

— Не збаюся! Гэта ж вам не на старым хутары... Калгас,— людзі пачуюць. Тут не тое, што ты мяне змог, дык і з ног... Помню, Платонка, пшаніцу і лён. Помню. Каго пад суд калгаснікі хацелі аддаць? Цябе з Выжлятнікам. Сам заступіўся, пашкадаваў. Пасля вы мне аддзячылі... Калгасным жа. Бачыў, сказаць толькі не мог. І людзі не зналі, як вы мне язык звязалі... Нічога, што з раёна нікога няма. Сам пайду заўтра куды трэба.

— Не дойдзеш, зараза... Галаву скруціш...— шыпеў Платон.

— Дапаўзу... Ад пачатку і да канца выкладу. Хай судзяць, хай што хочуць робяць — заслужыў, вінаваты... Толькі не будзеце вы больш прысмоктвацца да калгаса, не будзеце падкопы строіць пад новага старшыню...

— П'яны... Хай пагаворыць... Праспіцца.— Платон мацаў сябе за кішэні, ніяк не могучы знайсці папяросы.

— Пане Куцка, не прымай да сэрца... Здурнеў чалавек, чэсна кажу. Гарэлка твая можа адабраць любую галаву...

— Што вы, хлопцы, што вы... Андруша, ну сядзь, чым я табе не дагадзіў?..

— А старшыні не рушце... Рукі кароткія. Людзі яго палюбілі... Але што вам... Я таксама такі быў... Сам цягнуў, думаў, што і другія... Не-е... За ім пайшлі... Усе. Калі

гэта было, каб у мяне да аднаго на работу ішлі?.. А ў яго Раіна і тая... З місачкай пайшла на балота ямы пад слупы капаць... І выганяць яе не трэба... Мароз — векі зліпаюцца, балота... Высакавольтную лінію вялі... Гляджу я на Раіну... І ў рукі ёй не холадна... Сагнецца, падзёўбае ў яме рыдлёўкаі ды місачкай гразь чэрпае, ваду выплёхвае... І гэта, калі мароз такі?.. І гэта Раіна?.. Пры мне яна і з печы не злазіла... Яна ж мяне і летам не слухала... І варта было. Што я ёй даў? На працадні хіба што людскае?.. Як я жыў?!. Хто я быў?!.

Дзедзіха крычаў, натруджаны, пачырванелы. Абхапіў рукамі галаву, пасля апусціўся на застолле і заплакаў горкімі слязьмі...

Усё аціхла, нібыта вымерла і першая і другая хата.

Па гары бегалі каты — рэзаліся, крычалі. Скуголіў вецер.

— Усхадзіўся. Пасудзіну такую распляжыў... Не было з ім такога. Прыглядзець трэба...— Ян Куцка нагнуўся да Выжлятніка: — Добра ж, калі пройдзе ў яго шалёны пал! А так...

— Абломім рогі... Нічога. Гэта ён па старшынству плача... Заткнём рот.— Выжлятнік гаворыць, бы сам сабе...

Джвучка, апрануўшыся, ссоўваў у качарэжнік аскалёпкі:

— Такую пасудзіну расхвастаў...

— Галаву тваю трэба было б...— Андрэй Дзедзіха адсунуў стол, выйшаў на хату. Стаяў сцішаны, зусім цвярозы.— Рот, значыць, збіраецеся заткнуць? А вёсцы, а калгасу?

Джвучку здалося, што па стале забегалі чорныя кошкі...

— А лось? Няхай пшаніцу пасляваенную не пераважыш... А мяса? — Андрэй зноў пачынаў гарачыцца.— Не зачапіў. У горла не палезла... Ляжыць, участковага чакае...

— Мілы, у штаны накладзеш!

— Паскуда ты, Выжлятнік...— Андрэй хуценька стаў апранацца.

— А чаго, мілы, цягнуўся сёння па новым следзе? Скажаш, ты ўбаку?..

— Сёння я тут, каб табе ў вочы плюнуць! Цярпеў такога, калі старшынёй быў... Гладзіў... Шкада Рамана. Далі хлапца... Не, Куцка... Заўтра можаш ісці ў канцылярыю. Сам, не чакай, пакуль паклічуць.

Дзедзіха змяніўся ў іх на вачах; гэтага яны не чакалі і не ведалі, што рабіць. Заступілі спачатку дарогу, прасілі, не давалі апрануцца. Куцка нават пабялеў ад гарачкі. Хітры, праныра з галавой... У новай хаце атынковачка трымаецца гладзенька, не трэснула нідзе. Учуў, калі бёрны ўсохлі і зляглíся, не паспяшыў. А вось у чалавеку, мусіць, схібіў... Не разабраўся... Што цяпер?

— Адкасніся, Куцка!.. Чуеш? Ты гэтакі і здохнеш. Ад цябе калгас карысці ні на грош не возьме. Не руш толькі маладых. Я з табой яшчэ згаваруся... А маладых не руш! Не зводзь Пэрца! Не тыя вам гады, не зробіце вы з ім таго, што са мной. Не-е... Я не ўступлю хлопца... Заместа бацькі...— Андрэй, нагнуўшыся, узяў за рамень ружжо, што стаяла ля печы, дзе вісела на доўгай драціне вядро з конаўкай, і закінуў яго за плечы.

— Ты нам зубкі, мілы, не замаўляй... Пра пшаніцу плявузгай, што хочаш... Вецер! А з ласьком патрымай язычок, мілы, за зубамі! Справядлівы... Пэрац прыстукнуў. Сам. З тваёй ружынкі. Мілы, помні — лес лесам. У лесе можна...— Выжлятнік толькі цяпер скеміў, што за ліха можа зваліцца на яго галаву.— У лесе можна... Мілы, не крычы. Не на тых... Адстаршынстваваў сваё, падумай. Можа, і аджыў заадно... Ведаеш, што рыхтуеш, чым нам пахне... Знай — табе раней засмярдзіць...

— Даволі! Хлопца ледзь са свету не звялі, а мяне... Сыдзі!..

Яны былі схапілі яго, каб не пусціць, суцішыць, угаварыць... Адскочылі потым, як мухі.

— Прэч!.. Псіна...— разапхнуў ён іх у парозе і з гарачкі доўга не мог злавіць рукою клямку.

Новыя дзверы, расчыніўшыся, бразнулі суха, моцна. Зазвінела недзе ледзь-ледзь, як муха, шыбіна. Не ўсё падагнаў Куцка,— не дагледзеў, можа, макавага зерняці.

Прыклад старога ружжа праехаў па вушаку, зачапіўся быў і нырнуў за парог ззаду за Андрэем.

— Ай-яй-яй... Наробіць ліха пад дурную руку. Што чыніць? — Джвучка хліпаў, як баба.

Выжлятніка тузала ў качарэжніку ля грубкі.

Купку абступілі дзеці, прыбеглі з першай хаты.

— Баімся... Прагані і гэтых...

Стала холадна. Калі ў хаце агледзеліся — дзверы на двор стаялі расчыненыя. Мароз рваўся да стала, каціў сівую кудзелю, гнаў перад сабою, як вецер.

Куцку здалося, што пад нагамі гарыць падлога. У новай хаце...

— Ай-яй...— мітусіўся Джвучка.

— Ды ён цяпер мяне не пашкадуе... Шалёны сабака і гаспадара ўкусіць... Хлопцы...— Куцка пачаў у гарачцы спешна апранацца. У хату прыйшла трывога, і ніхто не мог уседзець.

Вырваліся яны на двор, што галодныя ваўкі.

— Ай-яй...

— Заткні, Джвук, чорную зяпу!.. Знайшоў калі екаць. След глядзі дзе...

За вёскай скуголіў вецер, круціў густы снег.

Да Андрэя чэпіцца даўнейшае...

Ён быў тады за старшыню трэці год. Абжыліся ўжо, змацаваліся, сталі пакрысе падымацца на ногі...

Касілі ўжо ўсе Доўгія балоты. Летам па крыніцах брылі мужчыны месцам аж па пояс. Бабы не бралі ўжо кос. Не іх гэта работа, хаця ў першыя гады пасля вайны на балотнай сінюсе яны выцягвалі па дзве нормы.

Сушылі сінюху, зносілі вязкамі, а дзе было можна — ссоўвалі коньмі копы да стажар'яў, на бугрыны, дзе сушэй... Муравалі высокія калгасныя стагі, як казаў дзед Тодар,— было старому работы. Стагі заўсёды зімавалі; не перацягнеш іх праз Доўгія крыніцы на Пагурак, куды можна было пад'ехаць з падводай. Ды і пунь у калгасе не хапіла б. Добра, калі мурагі ўдавалася ўсе прыхінуць. А звозіцца летам з балота ніхто ў Закалюжжы не хацеў: па калдобінах і вупраж з калясьмі пасадзіш і ўрону не абярэшся. Лепш тое сена, што растрасецца, на подсціл зімой пойдзе.

Так і рабілі: тралявалі Доўгія зімовай дарогай.

Ехалі тады на трох падводах. Абвечарэла, пачалася мяцеліца, праз рэдкі альшэўнік гнала снег з поля, з-пад Ваўкаўні,— заносіла дарогу. Цямнела хутка. Рухавелі коні, рыпелі па снезе палазы, шалеў вецер, рваў з вазоў сена. Збоку ля воза не пойдзеш — цаліна. Пярэдні — Джвучка — сядзеў на сене. За ім ішоў за возам дзед Тодар. Курыў увесь час і бурчаў. Апошні воз — самы больш[ы], яго клалі Раман з Дзедзіхам.

Першыя крыніцы мінулі без бяды. Пад Пагурак зусім ужо занесла дарогу, коні не чулі следу, збіліся, сталі.

— Но-о... Заразіна...— Джвучка мацюкаўся, але не

злазіў з воза. Лупіў каня прутам, як мог. Не паспелі заднія падбегчы да саней, як конь тарkануў з месца, скочыў і асеў у крыніцу па бруха. Воз кульнуўся і лёг набок, скінуўшы Джвучку.

Спалоханы конь стагнаў, біў у хамут і граз у твані. Яго трымалі толькі аглоблі. Перамешаны снег пажаўцеў, счарнеў, гразь блішчала ў каня на спіне...

Каб не ён, Дзедзіха, Тодар адхаладзіў бы тады Джвучку: стрымацца не мог стары...

— Безгаловы! Абібок!.. Скіраваў, зараза...

Крык крыкам, а каня трэба было ратаваць.

Першы сунуўся ў канаву Раман. Хлапчанё тады быў зусім. Трымаючыся за аглоблі, па пахі ў ледзяной вадзе, ён перарэзаў супоню і церассядзельнік, сарваў гужы... Вылез з твані ўвесь чорны, мокры да ніткі. Сівер абдаў яго парошай; адразу залубянела вопратка, не сталі згінацца рукі...

Конь захлынаўся, але быў свабодны, без прывязі, і яго за грыву падцягнулі да саней... Ён доўга біў галавой аб груду і стары насціл-гаць, але выбраўся, вылез.

Трэба было ратаваць і хлапца і каня. Мігам скінулі сена, перацягнулі вобмацкам па мастку сані на другі бок, запраглі.

— Хлопец, тупай, не стой! Скідай мокрую фуфайку, на́ сухі кажух... Танцуй, будзеш жыць, ліха на яго...— Тодар скінуў кажух, застаўся ў фуфайцы.— Не сядзі... Бяжы за санкамі. Зняможаш — падсядзь... А там зноў на ногі... А дома — чаю, чаю гарачага з рускагоркай... Давай, Андрэй, імчы, глядзі хлопца. І каня паставіць нанач лепш у парніку... А я тут з Джвучкам дацягнуся... Ану, Джвук, марш да Раманавай падводы, дома вытраш нос ад гразі...

На санках ён — Андрэй — і хлопец, змучаны, счарнелы ад холаду. Выехалі на Пагурак. Тут выспа, дзьме, як прыскам сыпле ў твар... Бялеюць у Рамана шчокі... Мерзнуць.

— Тры шчокі... Рукой... Як ногі?

— Не чую...

— Кратай, кратай... Но-о-о... Бяжы за саньмі...

— Не магу...

— Скіну!.. Скіну, загібееш жа...

— Скідайце... Усё роўна...— хлопец хапае паветра, як рыбіна на пяску...

— Тры шчокі... На рукавіцы...

— Не гнуцца пальцы... Не чую...

Да Закалюжжа яшчэ кіламетра паўтара. Хоць бы лясок, зацішак які. Не пагоніш, замяло, грузне конь, збіваецца з тору.

— Давай падсунься... Шчокі патру... Пальцамі кратай, пальцамі. Выедзем на ездавую дарогу — саскочыш... Толькі б да першай хаты...

Абышлося. Хлопец назаўтра ўстаў, як нічога і не было. Прыйшоў сам на ферму, запрог каня, успароў з печы Дзяўчку, і яны паехалі на Доўгія крыніцы за перакуленым возам...

Такі хлопец быў у тыя гады...

Каб павярнуўся крыху інакш лёс, Дзедзіха мог бы быць яго бацькам. Не родным, праўда. Ганулі ганьбавала ім у маладыя гады, не пайшла за яго замуж. Муж яе, добры чалавек, калгасны каваль — не вярнуўся з партызан. Загінуў з ягоным, Андрэевым, братам, калі гарнізон у раёне бралі...

Не пайшла дзяўчынаю за Андрэя Гануля, не захацела і па смерці мужыка.

«Не да замужжа. Не дуры, чалавек, галавы... У мяне сын які... Жаню хутка...» Сказала — адрэзала. Што з таго, што ў яго ў сэрцы нешта ныло здаўна...

Быў бы Дзедзіха за бацьку, не стаў бы Раман такі... Ён любіў Рамана, патураў, бывала... І вось дайшло... Да чаго гарэліца давяла... Андрэй выкарабкаецца сам, вырве Пэрца, бо вінаваты: мог многаму пераступіць дарогу і тады. Не як бацька хоць, як сталы чалавек, як старшыня...

Нічога. У яго, Андрэя, расце сын. Ён будзе не такі, як цяпер Пэрац, ён будзе не такі, зусім не такі, як цяпер сам Андрэй... Ён вывучыць яго, зробіць чалавекам... Яго сын будзе не так глядзець у вочы людзям. Яго бацька сам змые з сябе твань...

Перад вачыма з'явілася Анэта з сынам на руках. Вялікі сын... Чужых пазнае ўжо... Нават прозвішча гаворыць: «Дзе-е, дзе-е...»

Успомнілася акушэрка, што ўляцела тады ноччу ў хату як утрапёная. Як яна ўвіхалася ля Анэты, старалася, бегала... Ніколі ён, Дзедзіха, не стараўся так дзеля Анэты, дзеля жонкі... Як мала быў шчыры, часта крычаў на яе дачку... Не будзе больш такога: і без гэтага можна абысціся. Можна пражыць век, не папракнуўшы адно аднаго...

Ага... Была ж і яшчэ раз акушэрка. Як прыкра... Ён нават не ўстаў з-за стала, збаяўся. Не пазнаў быў, што за чалавек з ёю. Толькі што тады зняў з саней ласіну,

у хлеў ледзь справіўся пад сена падкінуць. Па слядах, думаў, людзі прыйшлі аж з лесу. З таго ж боку выкаціліся, з двара відаць было.

І праз тых выжляцін... Чаму ён тады не кінуў ім у ляпу тое мяса... Як ваўкі на яго глядзелі, калі дзялілі... Аж рвалі.

Крывасмокі... Абраслі, утачыліся, як шашаль у калоду...

Шкада хлопца. І яго ледзь не з'елі. Тады, на Доўгіх крыніцах, не так было, і перанёс. А цяпер... Ганулля зусім дойдзе з хворым сэрцам...

Андрэй ступаў змарана, цяжка. Ногі шукалі дарогі, узбіваліся па ўезджаны грунт, гублялі яго і зноў мясілі ўцэла.

Сцямнела, зайшоў недзе месяц-маладзік. Закруціла віхрам снег.

Андрэя гнала полем да лесу. Перла, тоўхаючы ў спіну, рвучы з плеч вопратку. Свістала блізка збоку, недзе побач быў лазняк. Хутчэй бы ў лес, там ціха. Там дарога да самай Ваўкаўні.

Вецер гнаў да Віліі. Рвала снег з-пад ног, кідала далёка ў поле.

У Камене брахалі сабакі, рэдка, глуха,— далёка ўжо ззаду.

Злева ўспыхнула святло, на паўнеба, бы пажар. Чаму так раптоўна? Там электрастанцыя... А дзе Жоўты бераг? Ён тут, ён зараз павінен быць.

Лес, здаецца, зусім побач. Вось ён, чорны, як сцяна, але дадыбай да яго, калі цяжка ісці па калена ў снезе, калі займае дух. Горача за плячыма, суха ў роце.

Дзе Вілія? Дзе Жоўты бераг?.. Дзе дарога?..

Схавалася за лесам зарыва, зласней заскуголіў вецер... Здаецца, побач лазнякі. Там рака...

Ісці нестае сілы. А ісці трэба: ззаду звяр'ё. Туды няма ходу. Спераду — дом, людзі, якіх знаеш да аднаго; з якімі жыў і працаваў колькі год: араў, сеяў, збіраў хлеб; з якімі пачынаў ладзіць калгас, лічы, на папялішчах...

Вецер сціх, не круціць, не мяце. На снезе можна ўгледзець, як чарнее лаза, што рэдкая мярэжа на белым абрусе. Рака...

Ногі рвуцца самі, лезуць у снег, крышаць нешта цвёрдае і хрусткае пад сабою — гэта ступаюць на шкло, трушчаць яго на друзачкі... Холадна, золка. Гэта ён разуты топчацца ў Куцкі ля грубкі па мокрай падлозе. Мокнуць

ногі, мокнуць анучы ў ботах... Мокнуць галёнкі, паясніца... Сцюдзёная дзяга, здаецца, павязана па голым целе... Ліпкія, настылыя сырамяжныя гужы спавіваюць, давяць грудзі... Нечыя рукі, мерзлыя, дубаватыя, ціснуць за горла...

Зноў усхадзіўся вецер...

«Заткніся...» — здалося, ашчэрыўся аднекуль Выжлятнік.

«Захлыніся...— гэта Джвучка лье за карак нешта халоднае, слізкае...— Пі, задавіся, зараза...»

— Гэ-э-эй!..— немы Андрэеў голас рэжа ноч, калыша стужу.

Скуголіць вецер, плача Анэта:

«Вазьмі на рукі сына... Вазьмі малое, Андрэй...»

Плача сын, залiваецца, кiдаецца вобземлю на падлозе...

Хрась... Тузанулася на плячах у Андрэя вопратка...

Холад хлынуў у горла... Рве, тузае... Распірае грудзі...

— Ых... Ых...

Моцна-моцна зазвінела ў галаве... Знікла Анэта з сынам...

Уночы доўга не сціхаў вецер. Ён заносіў чорны пралом на Віліі, туды, пад электрастанцыю.

Яшчэ ўночы быў чуваць стрэл. Адгукнуўся, як рэха, на немы Андрэеў голас. Данёсся з Жоўтага берага, з-за ракі з-пад лесу. Там, збіўшыся са следу разам з Куцкам, мёрз Выжлятнік і Джвучка. Вярнуўшыся, яны няскора яшчэ налучылі на след і дапаўзлі да прорубкі.

Прыйшоўшы пасля ў Закалюжжа, Выжлятнік і Джвучка ноччу паднялі на ногі ўсю вёску. Закалюжанцы хто ў чым падаліся на Жоўты бераг.

Да дня не гаслі ў хатах агні.

Раніцай аціхла было ад ветру. Асцярожна забялеўся дзень.

## 7

Якая ў яго гарачая галава...

Нінка нагінаецца над Раманам, гладзіць яго рассыпаныя на падушцы чорныя валасы.

Ён гарыць, што агонь, ён часта траціць прытомнасць... Не пазнае яе другія суткі. Бывае, крычыць, гоніць ад сябе прэч. Толькі гоніць...

Ён добры, такі мяккі, паслухмяны, ён любы... Ён цяпер яе... Яна можа папраўляць падушку, абтыкаць ля спіны прасціну, глядзець яму ў вочы...

Раман стаў такі блізкі для яе за два дні. Яна робіць з ім, што захоча: ён супакоіўся, прыціх, яго змарыла хвароба.

Бывае, спадае тэмпература, тады Раман глядзіць на яе невідушчымі вачыма. Маўчыць, ніць не папросіць, не ведае ён, як гэта крыўдзіць яе...

Уначы ў яго зноў палезла ўгору тэмпература. Ставілі банькі, уводзілі сываратку. Рабіла ўсё Галіна Фёдараўна: Барысаўна на раз'ездах. Галіна пакінула яе, Нінку, пры цяжка хворых. Загадвала не адыходзіць. А куды яна пойдзе?..

Раман тут, у яе на руках... Які ён прыгожы... Яна кахае яго. А колькі баялася, калючага і насмешлівага... Нават і тады, калі так хацелася парой абняць, прыпасці да грудзей і сарамаціць на вуха ціхенька так, каб ніхто не чуў, за ўсё тое, што ён робіць, што вытварае... А можа, ён проста смелы і рашучы? Не душа ў яго — вар... Шалёны ён, гарачы, непаслухмяны. Колькі разоў ён гаварыў ёй, што кахае... А дзеля чаго? Каб жа хоць не хадзіла па вёсках за ім такая слава, можа б, яна, Нінка, і паверыла. Каб жа ён кахаў папраўдзе... Каб жа... Яна збаялася, яна не магла папусціцца тады летам. А яна і тады ўжо кахала яго. А так выйшла... Яна аблаяла яго... А ён? Хіба ён не абразіў яе? А можа, і не? Хто ведае, як робіцца ў такім разе... Але не. Нінка адчувала, што не кахаў ён яе так, як хацела яна. Яна яшчэ не зусім пазнала, што такое сапраўды кахаць, паддалася тады, можа, першаму парыву... А ён, Раман...

Яна пасля пазбягала яго. Ён і не хадзіў за ёй. Саромеўся, а можа, і ў яго ачнулася гордасць?

А ёй цяжка ўдавалася знайсці спакой. Пазней усё ўляглося на дно, тады ўсплыло зноў і ўжо не давала жыцця.

І вось ён, Раман, ля яе, рахманы, паслушлівы. А такі ў жыцці неслух... Ён добры, прыгожы. Самы ціхі і мяккі на свеце чалавек. Не, не быў ён настырны і ваўкаваты... Гэта — нагаворы на яго. Не дакучаў, не лез ён да яе, і тады на беразе ў іх нічога не было. Гэта так... Сон. Усё прайшло і не крыўдна... Толькі цікава...

Ён ля яе — такі хворы і такі любы...

— Раман...— шэпча яна.

Ён замёр, супакоіўся. Можа, заснуў пасля гэтакай мукі, звёў вочы? Яму лепей...

— Рома...— шэпча яна, нагнуўшыся.— Рома...— цалуе яна яго ў вусны, прыпаўшы ля ложка на калені.

У палаце яны толькі ўдваіх. Ля другой сцяны пусты ложак. Былі паклалі ўчора дзеда Тодара, грып у таго ці што, дык уцёк стары раніцай, накрычаўшы на Галіну...

Хутка дзень. Можа, патушыць начнічок? Можа, задрамаць самой? На душы лёгка і так спакойна...

Ён спіць...

За перагародкай, дзе жанчыны, нехта кашляе, бухае, як у бочку. Застуджаныя грудзі...

Ён спіць, дыхае роўна, працяжна.

— Рома...— яна кладзе яму руку на лоб.

Яна не можа адысціся.

## 8

За шыбінай сінела раніца.

У гародах бялеў свежы з ночы снег. На вуліцы шарэла працёртая на досвітку дарога. Са стрэх валіліся на дол, на платы позні дымы.

Ля варот спыніўся калгасны «газік». Бразнулі дзверцы, бы гэта на двары ля сваёй студні Выжлятнікава Волька, злякнуўшыся, выпусціла з рук пустое вядро. Ля акна мігнуліся Авяр'ян і Станіслаў Пракопавіч. Ціха зайшлі ў хату, прывіталіся. Тлум быў аціх, а тады зноў зайшлася Анэта.

Аркадзь павярнуўся на хату...

Выжлятнік сядзіць ля стала, курыць; апрануты, бы не ў сваёй хаце,— скінуў толькі шапку з галавы-вожыка.

— Прагноз перадаваў... два дні пратрымае на марозе. Пасля снегапады пачнуцца. Трэба снег на поле, трэба: павыдзімала яго, пазносіла. Не будзе вады. Гэтай зімой мы яшчэ не змаглі на поле шчыты выкінуць...

Голас у старшыні звонкі, зусім як у хлопца.

Хата ўздыхнула, закраталася вальней, ажыла. Ля парога зашапталася Ганула з ягонай, Аркадзевай, маці, якая ўсё ківала галавой і не спускала воч з Авяр'яна. А што ж ён скажа? — відаць, думала. Закрактаў, закашляў Тодар, нагнуўся да старшыні,— браў закурыць. Рыпнулі настылыя дзверы: Волька прынесла вядро вады, паставіла ля печы на ўслончыку. Не распраналася, відаць, чакала, калі ўсе пойдуць з хаты.

Заплакала, закрычала малое на руках у Анэты.

— А мой сыно-ок... А мы ж, роднепькі, адненькія засталі-іся-я...

Усё пачыпалася спачатку.

Холад краўся за плечы: ад акна цягнула сырасцю. З-пад стала пахла падзолай,— там стаялі два гаршчэчкі з прывялай бальзамінкай. У гаршчэчкі ўторкнута па лучынцы; чырвоненькія, прычарнелыя ад вільгаці банцікі перахоплівалі расліны за вяршкі.

Пад акном ад падлогі чарнелі два вянцы, гнілі; сям-там высыпаў грыбок, бы гэта хто пазатыкаў шчыліны між пазоў жоўтай ватай. Гніль лезла і вышэй, падтачыла падаконнік,— ён хістаўся пад локцямі ў Аркадзя.

На стале пад рукой у Выжлятніка шорхала пажоўклая ад даўнасці газеціна. Відаць было, што на яе не раз ставілі патэльню. Са сцяны ля акна звісаў провад ад радыё. Туды, пад абраз,— тырчаў памяты аблуплены кардонавы рэпрадуктар, жоўты, што свіное вуха.

Шыбы ад вуліцы адтавалі павольна; у хаце не было цяпла, хаця Волька зачыніла юшку яшчэ разам з чадам, і ці не ад таго ў Аркадзя пачынала балець галава.

Была ціхая хвіліна, калі ўсе думалі пра нягаданае гора, што прыйшло ў Анэціну хату і падкасіла жанчыну; што прынесла клопат і трывогу ў Грыні — загінуў жа нядаўні старшыня, з якім у кожнага грынёўца ці закалюжанца былі штодня свае сустрэчы, свае размовы. Хто б так ведаў чалавека і яго характар, калі б чалавек не быў там, наверсе, адкуль часта чакаеш пачуць патрэбнае слова. Хай ён сабе стаў напасля і дрэнны старшыня, але ж сваю лысіну тры гады не заўважаюць. А чалавек ён быў неблагі, свой і гора перанёс шмат разам з усімі. Любіў, праўда, выпіць, але ж любіў, бывала, і працаваць... Што ж, дарам нішто не прайшло — гарэлка са свету звяла, думай цяпер як хочаш і рабі тут што хочаш...

Над сталом вісеў дым: мужчыны курылі.

Людзі пасля загаварылі смялей, аж уздыхнулі. Мусіць, таму, што Авяр'ян і Станіслаў Пракопавіч былі спакойныя і разважлівыя. Калі яны распрануліся і селі ля стала, здалося, пацяплела ў сырой хаце. Людзі памкнуліся да іх: чакалі рады.

Знадворку ўсталёўваўся дзень. Пасвятлела ў хаце, праясніліся твары. Стала чуваць, як зашаптаў ля акна выключаны рэпрадуктар.

— Не ў сілах ты яшчэ з усім адзін управіцца, старшыня, прама скажу. Хоць мая цялячча справа, але ж што вам пакінуў...— Выжлятнік сказаў і асекся. Зноў стала ціха.

Старшыня з Авяр'янам, можа, знарок загаварылі былі пра будзённы клопат, каб даць зразумець, што жыццё на гэтым не скончана, калі згінуў адзін чалавек, што ўсё роўна трэба варушыцца,— ідзе вясна. Не варта складваць рукі нават ёй, Анэце, каму цяжка цяпер глядзець на белы свет. Памогуць у горы, пакуль жыццё возьме сваё,— забудзецца душа. Не паміраць жа класціся ёй, Анэце, ды і сын, во, на руках, гадаваць трэба.

«Выжлятнік плявузгае ашчэ... Асуджае...» — думае Аркадзь, пасля ўзнімаецца з лавы, падыходзіць да стала: — Ану скажы ім, куды дзеў дзядзьку...— Скажы старшыні, скажы парторгу, усёй вёсцы... Дзе чалавек? Не так сабе ён у віры апынуўся!

Гаварыць цяжка, трэба аж крычаць, бо заходзіцца, плача Анэта.

Выжлятнік курыць, варочае нервова галавой, маўчыць. Асунуўся за суткі, высах, нос у яго стаў даўжэйшы, выгнуўся, бы толькі цяпер у чалавека паявілася гарбаносіца.

Пасля закашляўся, зачмыхаў дымам, вызверыў вочы і выцягнуў коратка стрыжаную галаву, застыў. Бы гэта з нары выткнуўся вожык і сціх, стаіўся, учуўшы бяду.

— Я ўжо казаў... Усе ўжо знаюць. Я, мілы, табе прама скажу: не пыхці. Не я вінаваты ў Андрэевай смерці. І ніхто: ні Куцка, ні Платон. Сам чалавек сабе на лоб гуза шукаў... Сам пад лёд пайшоў. А што я з ім тады піў... Дык з кім я не піў? І, мілы, не страш мяне. Не падганяй маё жыццё пад суд... Я ўжо чуў, што ты стараешся плясці па вёсцы... Не выйдзе: віны маёй няма. Я і старшыні скажу, я і каму хочаш пайду скажу. А што я люблю піць з людзьмі... за гэта, мілы, не судзяць...

— А як усё ж такі здарылася, Мірон? Не трэба было пускаць аднаго чалавека па пачы... Вы ж бачылі, як вы кажаце, што ён на нагах не мог стаяць. Што хочаш з ім магло здарыцца...— Авяр'ян кінуў курыць, устаў, пайшоў па хаце.

— Мілы, прама скажу... Ты чалавек з галавой... І Андрэя знаў. Гарачы ён быў — слова поперак не скажы... Завяліся за чаркай — такое бывае з кожным. Ты думаеш, мы ў крыўду яго ўвялі? Адсохне хай язык, калі зманю. Жывыя сведкі ёсць. Схадзіце спытайце Куцку ці Платона, што тыя забаюць... Ніхто і слова супраць яму не сказаў. Наадварот, улагодзіць хацелі, як Андрэй разышоўся быў.

Што ён толькі не выробляў... Уся пасуда, вунь, у Куцкі ў глум пайшла.

Нам не даюць веры, а каб прыйшоў цяпер Дзедзіха ды спытацца ў яго — ён бы, мілы, тое ж самае сказаў. Чаго ён толькі нам не прышываў. І зладзеі мы і... Не буду ўсяго гаварыць: не ў яго карысць. Пасля смерці пра чалавека блага не думаюць. Але ж калі мы зладзеі, то хто ён? Сведкі жывы. Платон і сёння скажа, як пшанічку са свіронка тралявалі. Маўчаў чалавек, пакуль Дзедзіха ў старшынях хадзіў... А ты, Анэта, не вызвярайся на мяне. Яго не вернеш, а я сваю галаву за нішто не панясу пад суд. Мне яна дарага...

Вы тут, старшыня, пра лес пыталі...— галава-вожык натапырылася ў бок Станіслава Пракопавіча,— скажу. У Куцкі з ім быў свой рахунак — у таго і пытайце. Куцка будаваўся — купляў лес і ў вас, у праўлення, і ў нас, у лясніцтве. У нас ёсць дакументы, у вас — праўленцы жывыя... Я да гэтага не прычасны...

І я не вярну цуды-беды на Дзедзіху... Жылі мы з ім не блага, Анэта сама скажа. І не далі б мы яму загінуць, каб на след адразу ўзбіліся. Ён быў пад добрай мухай і рвануў недзе напрамую цераз гароды. Тодар бачыў сляды: лагчынаю, Каменскім ярам, напрасткі падаўся чалавек з вёскі да Віліі. Ды ноччу... Мы думалі, дарогай скіраваў. Сабакі не было. Ды і не хацелі мы Андрэя з хаты пускаць, сведкі ёсць. Я, мілы, прама ўсю праўду... Можаце апрасіць Куцку. Я, мілы...— Выжлятнік пачынаў нервавацца, злавацца. Што ён хацеў яшчэ сказаць — немаведама. Працягнуў быў руку да старшыні, пасля апусціў, стукнуў локцем аб стол і заёрзаў па лаве.

— Хопіць зубы замаўляць! Людзі маюць галовы. Усё ведаюць і дазнаюцца. Во-о... Дзядзька ўжо самы першы злодзей у калгасе стаў... Так выходзіць? Ведаем мы і пра пшаніцу не горш Платона... Усе помняць, каго апраўдалі ад суда... Знаем Чар-чаг і знаем, што ты там выробляў! А цяпер дзядзька лішні стаў, бо ён больш усіх ведаў вас... Ты, бандзіт, яго са свету зжыў. Я знаю...— Аркадзь зрываўся, хрып. Хваляваўся, стаў чырвоны, як жар.

— Пасядзі, сын. Аціхні. Дай старэйшым сказаць... За табой старшыні, вунь, нельга слова абраніць...— Ульяна ўстала з ложка, падышла да стала, дзе, расставіўшы ногі ў чорных валёнках-бурках прырос да падлогі дзед Тодар. Ні з месца за ўвесь час. Курыў толькі, курыў.

— Не, мама, маўчаць не буду. Што яны, што ён даў

добрага калгасу?.. Хоць слова людскае за ўсё жыццё пачулі мы ад яго ці не? А гэтулькі натварыў. Не-е... Я пайду ў райком... Да сакратара пайду... Усё раскажу. Хопіць людзей на той свет адпраўляць. Не такое цяпер у нас жыццё. Не-е... Я пайду ў райком...

Авяр'ян забарабаніў пальцамі па стале:

— З райкома сакратар званіў сам. Не так-то ўсё проста, як думае Выжлятнік. Адтуль так і спыталіся — дзе дзелі старшыню? Там яго зналі. Ім лепш, чым нам, відно, што чалавек не заслужыў прорубкі... Пракуратура ўжо ўсё ведае. Але ж як знайсці чалавека?..

Дзед Тодар здрыгануўся, ступіў да стала:

— Нічога не прыдумаеш. Вілія і пад лёдам шалёная... Ногі мы адбілі, цэлыя суткі не прысеўшы. Правал якраз на Жоўтым беразе. А там круціць, глыб, дай божа. Занясло яго, правал той. Прасякалі лёд далёка наперадзе. Пад самым Каменем... У Цыбульскім бродзе рэчку калкамі перагарадзілі... Баімся, што позна... Слухай, старшыня, з электрастанцыяй трэба згаварыцца, каб сачылі. Можа, там каго свайго паставіць? Хаця... За суткі вада далёка ўцякла...— У Тодара ад бяссонніцы слязіліся старыя вочы. Барада была ўскудлачана, задзёрлася ўгору.— А лядок, дзе след, чуць ліпеў. Там з-пад берага ад затокі якраз крыніца біла. Падпарыла пад снегам. Ды і не сцяло там ваду як след, хоць і мароз нагалец пёк. Андрэй жа ведаў той вір... Э-ха...— Тодар уздыхнуў густа, хрыпата, бы гэта дзе ў кузні знянацку парвала ўздуты кавальскі мех.

І тады загаманіла хата...

— Выжлятнік яго ўспёр...

— Ён даўно масціўся!

— Не плач, Анэта... Пакідай яму сына цяпер... Хай гадуе.

— Скулля яму. І сына ўгробіць...

— І Джвучка разам... Нябось, у хваробу кінуўся. Ля рэчкі так шчыра рваўся шукаць, што сам ускочыў.

— Вінаваты!.. Чуе за сабой віну...

— І брухач той каменскі з імі. Добра помню, ён прыязджаў наша Закалюжжа грабіць з паліцыяй у блакаду. Чысціў хаткі. Зрэб'е нават цягнуў.

— Такія і Грыні спяклі...

— Хаця не дакажаш... Зашыліся, сведкамі абраслі... Партызанскія паперкі падаставалі, як Сабольскі...

— І ніхто не праверыў ніколі іх паперкі... Можа, самі накрэмзалі...

— І дакуль гэта, старшыня, Джвучку будзе ўсё сыходзіць? На работу — рамацізма ў нагах, а цягацца па лесе з «ламачынай», дык і здароўе ёсць. На праўленне яго!..

— Забараніць такім жывёлу ў лесе нішчыць...

— У Джвучкі і ружжо без права...

— Заявіць... Пазвані, старшыня...

Жанчыны ўсхадзіліся ўслед за Ульянай. Грозяць, крычаць, скубуць Выжлятніка, цягнуць з-за стала. Дай волю — выпатрашаць, не ўгледзіш калі: у людзей набалела.

Маўчыць толькі старшыня.

Праўду казалі... Застаўся яшчэ ў вёсках сярод добрых людзей шашаль. Не можа ён раз'есці душу чалавека, не можа: аслаб, змізарнеў, але варушыцца, точыць, порацца на дрывотніках, шукае падгнілую калоду...

Калгас на нагах, калгас асталеў. Людзі — золата, людзі з-пад носа адзін у аднаго рвуць работу...

Станіслаў Пракопавіч з праўленцаў больш за ўсіх ведаў Авяр'яна, Ульяну і дзеда Тодара. Яны першыя прыйшлі да яго назаўтра пасля агульнага сходу, яны памаглі разабрацца, што робіцца ў брыгадах. Яны першыя і павялі калгаснікаў на работу. Яны — а не ён. Ён пакуль што вучыўся, гледзячы на іх.

Доўга і шмат прыйшлося прыглядацца і да гэтага настырнага хлопца Аркадзя... Але ж хіба не ён узварнуў увосень усё Лавацкае поле і той клін пад Гальдарадай, што ад вайны, можа, успорваўся які раз ці два і выганам стаў? Хіба не ён памарозіў рукі, тралюючы штодзень у такія халады лес на ферму і да лесапілкі?

Нагадаўся Васіль Міронавіч, маладая акушэрка... У іхніх руках клуб. У іхніх руках моладзь...

Не можа такіх сцяць ціна. Не падточыць шашаль... Крынічная вада не баіцца цвілі.

Ваяваць яшчэ прыйдзецца, можа, і шмат. Але калі такія людзі, як Авяр'ян і Ульяна ўпоплечкі, хіба боязна?

У хаце зноў стала ціха, толькі ўсхліпвала дзіця на руках у Анэты. Ля ложка стаяў Авяр'ян, суцяшаў малое, пасля ўзяў на рукі, калыхаў, угаворваў, як толькі мог.

Выжлятнік аж пажаўцеў. Не глядзеў на хату, не падымаў воч; не глядзелі на яго і жанчыны.

— На электрастанцыю ў Камене лепш за ўсё падысці каму самому... Я сазванюся...— Станіслаў Пракопавіч пахадзіў па хаце і спыніўся ля шафы, дзе на дзверцах вісела ягонае паліто, стаў апранацца.

— Я падбягу...— павярнуўся да яго Аркадзь.

— Не падбегчы, а дамовіцца трэба з імі. Ды пакараулiць самім гэтыя дні.— Дзед Тодар зноў браў закурыць у старшыні.— Я першы пайду, загарадзь пад ільдом яшчэ агледжу... Пасля падменіш... Мяняцца будзем.

Памаўчалі, пасля загаварыў старшыня:

— Я сёння ў раён падскочу з Аўяр'янам. Райком выклікае. Пасяўная падыходзіць. Думаю, нас пакуль не пахваляць. Вось што... Ульяна, і вы, Тодар... На вечар мы ўчора намецілі праўленне, не адкладаць жа. Не забудзь... Прыйдзеш і ты, Анэта... Там яшчэ памяркуем. Людзей больш. А ты, Аркадзь, куды сёння? Шмат дрэва ляжыць у снезе. А торф? Трэба, каб ты сам спланіраваў, як лепш... Каб «пацік» ні трохі не стаяў. Работы шмат, а напарнік твой злёг. Падумай, скажаш на праўленні.

Людзі ўжо збіраліся пакідаць хату, як на двары раптам ляснулі вароты, суха, што на вялікім марозе.

Ля акна прайшлі два мужчыны. Пастукаліся, абівалі ў першым пакоі снег, абое гаварылі з Волькай,— яна выскачыла ім насустрач. Пра што, надта не разбярэш. Ці не пыталіся Выжлятніка.

Людзі насцеражыліся, гаспадар занерваваўся і зашархаў локцем па рудой газеціне, адсунуўшы яе на край стала.

Увайшоў Васіль Міронавіч і ляснічы,— малады, такі ж высокі, як і настаўнік. Прывіталіся з усімі за рукі.

Васіль Міронавіч адразу ж падышоў да старшыні.

— У вас праўленне, а ў нас — лекцыя. Значыць, палавіна калгаснікаў не прыйдзе? Я не згодзен. Хто будзе пераносіць? Ну, вядома хто, мы. Заўсёды так. А можа, вы ўступіце, вам жа на бюро. Хоць адзін вечар.

— Саступім другім разам...— неяк нясмела ўсміхнуўся старшыня.— Вам лягчэй перанесці на заўтра, ды і лепш падрыхтуйцеся. Хто даклад робіць? Можа, Петушонак?

— Абыдземся. І яшчэ, Станіслаў Пракопавіч, артыкульчык для насценгазеты забываеце...

Людзі гаварылі пра тое, чым жылі, што меліся рабіць. Васіль Міронавіч стаяў блізка ля Анэты, бо тут быў старшыня.

— А што чуваць?..— Васіль зірнуў на Анэту.

— Бачыш. Нічога... Ні-ічога!..

Станіслаў Пракопавіч гаварыў ціха, ды чулі ўсе, бо былі ўстрывожаныя і ўзрушаныя.

— Гм... Недарэчнасць... Чым памагчы толькі?.. Дык

не забудзеце, Станіслаў Праконавіч? Я ўгледзеў машыну — забег.

Старшыня зірнуў на яго добрымі вачыма і ўсміхнуўся.

— Ну пайшлі, таварышы, пазнавата ўжо. Апранайся, Авяр'ян.

Аркадзь падышоў да стала, падкруціў рэпрадуктар: гаварыла Масква.

— Хадзем, Анэта. Пад'едзеш дадому. Як ты з малым? Не насі яго па марозе... Дзе тое Закалюжжа па снезе. Нічога не выхадзіш... Глядзі сябе.— Авяр'ян трымаў дзіця на руках.

— Калі ж не сядзі-іцца-а адненькай у ха-аце-е...— слёзы сыпаліся ў жанчыны, як мак, дробныя, густыя.

Людзі пакідалі хату.

— А я з табой, Выжлятнік, буду цяпер доўга гаварыць...— Усе пачулі, што гэта сказаў ляснічы. Угледзелі яшчэ, як прыгорбілася ў запечку Ганули, прыціхла, забедавала. Што найшло на жанчыну? Яна, здавалася, баіцца цяпер людзей. Выйшла з хаты апошняя, прыкарэла на ганку.

Па вуліцы плыла гаманіна. З двара можна было ўгледзець, як бегла сюды што было духу расхрыстаная дзятва, махаючы шапкамі і партфелямі. Ці не са школы вярнулася з паўдарогі?

З вуліцы на двор шмыгнуў Выжлятнікаў Жульбас. Убачыўшы чужых людзей, спатыкнуўся, хацеў мо павярнуць назад, але ж там гоман, трэск, звон: нехта біў у бляшанае вядро. Ззаду страх, навала, якая гнала яго сюды аж з Ваўкаўні — і сабака паклыпаў снегам да ганка: абыходзіў людзей. Спачатку цяжка было ўцяміць, што ён нёс у зубах: ці цягнуў сасновы сук Выжлятніку на дрывотню, ці, можа, дзе зашчаміўся з галавой у вершаліну, адламаў яе жывасіллю ад дрэва і цяпер шукае ратунку...

Дабегшы да ганка, сабака ўскочыў на абледзянелыя чорныя прыступкі, страсянуўся. «Сук» глуха бразнуўся аб настылае дрэва. Сабака разявіўся, цяжка дыхаў, пусціў сліну, стаў скуголіць і дзерці лапамі мокрыя дзверы.

На парозе ляжалі рогі — вялізныя, галіністыя — рогі старога лася — свежыя, чырвоныя ад крыві там, дзе яны былі адбіты ад галавы. Жоўта-бурыя, каштанавыя, месцамі зусім чорныя і зусім жа тупыя.

— Выжлятнік лася аблажыў!.. Выжлятнік лася збяёдаў!..— разлягалася вуліца ад піскливага крыку.

Людзі на двары стоўпіліся ў кучку.

Адчыніліся мокрыя дзверы,— паласаты Жульбас скочыў на грудзі Вольцы і зпік за парогам.

У акне мігнулася стрыжапая Выжлятнікава галава, пасля высунулася з-за дзвярэй на двор.

— Чаго пасталі? І сабаку з-за вас жыцця няма!..— Выжлятнік, валасаты,ываліўся на ганак.— Утаропіліся... Ну і што? Сабака костку аднекуль прывалок галодны. З зубоў вырваць у псяці захацелі?..— ён падняў з зямлі рогі і шпурнуў іх пад хлеў на дрывотню.

Авяр'япа ўзарвала:

— Пратры вочы! Не пазпаеш сваёй работы? Ці не таго абсадзіў, за якім летам гойсаў? Знаем... А гэты «сук» аддай нам.

Рогі былі ўжо ў руках у Аркадзя.

— Закінь іх, браце, у кузаў...

Людзі выйшлі на вуліцу. Авяр'ян памог Анэце падняцца на падножку.

У кузаў пасыпалася дзетвара. Залівалася ад смеху, рвала адзін у аднаго з рук сукаватыя рогі.

— Выжлятнік лася забіў!..— неслася з машыны на ўсе Грыпі, свежа, гулка на марознай раніцы.

Ніхто не ўгледзеў, як змянілася з твару Гануля, ніхто не ўчуў, як яна заплакала-загаласіла, як да яе падбегла з вуліцы маленькая Волечка і пачала суцяшаць. Загула машына.

Аркадзю доўга яшчэ было відаць з кузава, як на ганку стаяў валасаты Выжлятнік, як ляснічы доўга размахваў перад ім рукамі.

Аж пад канец Грынёў ззаду за машынай улягаў Жульбас, брахаў, заходзіўся. Калі ля моста падбег быў зусім блізка — нехта з дзяцей шпурнуў у яго з машыны кавалкам цэглы.

## 9

Зіму з горада гналі галкі.

Іх несла, як хмару, адтуль, з паркаў, дзе аўтазавод. Яны несціхана дралі горла, рассыпаліся, як чорнае, спаленае лісце ад кастра, раіліся, што пчолы, і тады ажно шарэла неба.

Яны прыляталі ў горад надвечар, калі сонца было ўжо за далёкімі будынкамі на ўскраіне і абмывала ядранай барвай густыя, цяжкія воблакі, якія бурэлі, загараліся, пасля цямнелі, тухлі і сплывалі за дахі дамоў услед за

сонцам. Вясна была не за гарамі, і яе гукалі галкі. Яны глушылі трамвайны перазвон і шум машын, сыпаліся з гары на высокія старыя ліпы ў гарадскім скверы, аблеплівалі, гойдалі абсохлае днём голле, палохаліся, ізноў узляталі ў неспакоі і трывозе. Пасля яны расцягваліся невысока над будынкамі доўгім шнурам і, заняўшы ад ускраіны, кіравалі праз увесь горад на захад, дзе пагасала зара — гналі перад сабой зіму. Знікалі надоўга з воч, губляліся ў пачарнелых аблоках і зноў вярталіся назад у паркі — спакойныя, змораныя. Пасля іх аціхала неба. Тады звінелі трамваі; гулі над аэрадромам самалёты. Цэнтральныя вуліцы шумелі ад машын. Горад жыў на ўсю моц, як і ўранні, калі прачынаўся і спяшыў на работу.

Шарэла. Бралася на марозную ноч. Гусцела ўвысі блакітнае неба. Бялеў ад інею мокры днём голы асфальт — падсыхаў; шуршалі пад нагамі, як бітае шкло, ільдзінкі, і трашчаў, як пражаны гарох, жарсцвяк, што астаўся ад галалёду, калі пасыпáлі алеі і тратуары.

Счарнелы, у густой смузе-гразі, паторканы абцасамі і абцасікамі снег ляжаў гарбатымі кучамі ля прысад, зледзянеў. Днём слімачыўся, пацеў ад сонца і не хацеў раставаць. Соўгалі рыдлёўкамі, шасталі венікамі-дзеркачамі, дзёўбалі ламамі апранутыя зусім па-веснавому жанчыны-прыбіральшчыцы. Ссоўвалі ў кучы чорныя груды лёду, рыхтавалі яго на раніцу, калі падкоціць сюды машына і пачне зграбаць падсохлыя за ноч шурпатыя, як праснакі, крыгі і ссыпаць іх у жалезныя кузавы самазвалаў.

Горад чысцеў, рабіўся свежы, утульны — маладзеў на згон зімы.

Цёмны і аціхлы, драмаў над ракой гарадскі парк. Здалёку чарнеліся на дрэвах леташнія грачыныя гнёзды. Калі глядзець зблізку — яны шэрыя, растрэсеныя ад зімовых сухіх вятроў. Тырчыць з іх голле,— як пруткі з вялізнага суконнага клубка,— белае, выветранае на сонцы і марозе. Самотны зімою парк. Ажывае ён толькі ў буру, стогне тады, гудзе. Зімой у ім зусім, як у лесе.

Парк чакаў вясны. Здавалася, праз кожную ноч прыбывала гнёздаў на таполях, выпроствалася абвіслае голле, а калі нарывала вецер,— яно шумела густа, натужліва, не так, як маразамі — суха і злосна.

Вясна была не за гарамі...

Вясну чакалі і людзі. Параскашнела ў тралейбусах і трамваях — народ валіў вуліцай і на работу і дадому. Можа, хто нават і бярог якую гадзіну ў запасе, каб лішне

прайсці, пабыць на двары, дзе густое зыркае сонца, усмешкі, шчырыя вочы...

Вечарам высыпала на вуліцу моладзь. Узбуджаная і гаманлівая, яна шпацыравала, апранутая па-веснавому. Надыходзіла, асцярожна яшчэ крадучыся здаля, яе дзівосная пара — час трывогі, знаёмства, кахання.

Была тая часіна, калі мрок толькі церушыўся з гары, яшчэ рэдкі, спалоханы далёкай зарой на захадзе; калі сціналіся ўвысі блакітныя пісягі сярод бурых аблокаў, якія нібы замерлі, паснулі. Зара цяпер стухла, зблекла, сплыла,— пакінула іх начы. Але хутка ўспыхне, зардзіцца горад... Тады яны зноўку ажывуць, загарацца.

Такой парою, калі яшчэ не запалены агні, лёгка зблытаць людзей: яны падобныя, і здаецца, што ў цябе шмат-шмат знаёмых...

Леанід раптам угледзеў Люду.

Яна магла вось-вось згубіцца ў натоўпе, і ён паспяшаў за ёю. То бачыў яе, то зноў губляў. Чамусьці здавалася — калі сёння знікне яна, то назаўсёды. Адкуль такая трывога?

Люда была знікла.

Тады ён спыніўся, астыў; дакараў сябе, чаму не аклікнуў.

Гэта не яна. Ён, мусіць, абазнаўся. Думаеш пра яе, таму і здаецца, што кожная дзяўчына — Люда. Ды і дзе ёй тут быць? Не заспеў жа яе дома — у інтэрнаце. Хімічкі-трэцякурсніцы — яе сяброўкі — гаварылі, што яна ўмудралася сядзець ледзь не ва ўсіх бібліятэках горада. Нідзе не знайшоў. І чаго было бегаць? Убачыў бы заўтра. Але душа не любіць развагі.

Леанід пастаяў, падумаў, супакоіўся. І калі зноў убачыў яе — паволі пайшоў следам, бы ішоў проста за чужым чалавекам. Не хваляваўся, думаў пра тое, як сустрэліся яны пасля канікул. Ён вярнуўся з Масквы — з вучэбнай практыкі, яна з дому. Хаця, хто ведае адкуль?.. Шкадаваў, што не выпала быць зімою дома. Можна было выкраіць суткі, але ж — снягі. Заедзеш дамоў, замяце — зімуй...

Ён ішоў за ёй, бачыў яе, каго чакаў і пра каго, можа, гэтулькі дарэмна думаў,— а ў галаве быў дом. Дом — з усім на свеце... Дом, які жыў у пісьмах маці, які стаяў уваччу...

Даўно ўспыхнулі ліхтары, вырвалі з цемнаты вуліцу, адагналі ўдалеч цені, а ён таго не заўважаў. Не заўважаў і людзей, што таўхалі, міналі, абыходзілі яго.

Люда была не адна, і ён добра ведаў з кім. З тым карантышком...

Карантышок, па плячо ёй, тоўсценькі, як гарбуз, з поўным, круглым, даволі сімпатычным тварам, пляшывы, з кучаравымі чорнымі завіточкамі ля вушэй і на патыліцы, год трыццаці,— ён ступаў ціхенька, уперавалачку. Кароткае паліто наросхліст. Пусты, пухлы, задаволены. Аблізваўся, выціраўся хустачкай, паволі, нехаця. Ці не з рэстарана яны выйшлі?

Карантышок трымаў яе за локаць, здаля ад сябе, пасля набліжаўся, клаў руку на плячо. Не глядзеў на яе, слухаў, відаць думаючы сваё.

Яна — аж лезла з зімовага раскошнага паліто, абцiскала ля шыі каўнер-лісу, забягала наперад, глядзела яму ў твар і шчабятала-шчабятала, моцна, смела, на ўсю вуліцу. Не бяда, што на іх азіраюцца...

Леанід добра знаёмы з тым карантышком. Выпала сустрэць яго яшчэ пры паступленні ва універсітэт. Спалі тады на адным ложку ў спартыўнай зале, якую адвялі былі часова пад інтэрнат, пасля паўгода жылі ў адным пакоі.

Чалавек ночы прападаў у рэстаранах, днём поўзаў сонны і вялы, як муха, якой пашчасціць, бывае, вылезці з ліпкай паперы-атруты.

На языку ў яго былі толькі жанчыны. Яго і шукалі заўсёды ў інтэрнаце то дзяўчаты, то пажылыя.

Яго выкінулі з універсітэта ў першым жа семестры. Не пыў. Жыў яшчэ ў хлопцаў з месяц, пакуль камендант сам не выцягнуў яго чамаданы на калідор. Бадзяўся і пасля па пакоях, шукаючы дзе нанач свабоднага ложка,— доўга мазоліў вочы. З'явіцца ў тыдзень раз, аблае каменданта і — зноў невядома дзе.

Пасля знік, куды і што — ніхто не ведаў, як і ніхто не ведаў, адкуль і як прыехаў сюды.

Забылі яго. Госця, які напаскудзіў у хаце, стараюцца не ўспамінаць.

Прайшло тры гады. Ён з'явіўся зноў. Паступіў на першы курс наргаса. Тавараввед.

Леаніда абліло варам. Пацягнула падысці, аклікнуць, забраць Люду ў таго «таварведа». Дамаўляліся ж з ёй сустрэцца сёння адразу пасля лекцый.

«Сустрэліся...» — падумаў ён. Стала душна. Душыў шалік, уграваў да поту, прыйшлося расшпіліць паліто.

Аклікнуць яе Леанід не змог, хоць словы лезлі чорт-

ведама адкуль: і добрыя, і брыдкія. Ён вось-вось дагнаў бы іх, але раптам сталі цяжкія ногі. Іх трудна было пабымаць. Ён і не бачыў, што на гэтым месцы голы лёд, падмецены днём.

Муляла ў плячах паліто. Было гарачае, бы яго толькі дасталі з печы з-за коміна. Спацелі ў пальчатках рукі.

І ён не аклікнуў.

...— А помніш, Сева...

Было чуваць усё да крупіцы, пра што гаварылі...

— Помню... Дзяўчына ў маладосці, што кветка, калі пачынае брацца на цвет. Цягнецца, гнецца да сонца... А расцвіла — змерла. Мёртвая. Ёй усё роўна, з якога боку свеціць... Яна ўсё спазнала — раніцу, поўдзень, вечар. Каля яе пatanталіся, патрымалі ў руках, пашчыпалі. Ёй цяпер усё адно... Усё роўна, чыя рука...

— Ха-ха-ха... А я думала, рэўнасць уласціва толькі зелені...— Яна памаўчала.— І кінь мне гаварыць абы-што! Я знаю тваіх чэсных, якімі ты выхваляўся...

— Люда...— голас у таго мяккі, лісlівы.— Я дажыў да таго, што пра кветачкі стаў напяваць... Праз цябе...

— Сева...— яна крыўдзілася. Мо баялася яго, бо раптам размякла: — А помніш, як мы з табой?.. Помніш?..

Доўга не чуваць голасу: можа, тыя перашэптваюцца, а можа, маўчаць...

— А я думаў — у нас з табой усё. Пасля таго...

— І я так думала. Колькі перажыла... А помніш?..

Яны зніклі: узбеглі па ўсходках і шмыгнулі ў кінатэатр. Адно за другім. Відаць, спазняліся...

«Сябры» сустрэліся зноў. Сышліся...» — падумаў Леанід.

І гэта пасля ўсяго? Пасля іхняй шчырасці? Гэтулькі часу... Фальш, прыкрытая далікатнасцю да самага апошняга дня. Цікава, што яна запяе заўтра? Хаця ні слова яе яму не трэба...

Не, яго не правялі, ён сам зайшоў далекавата і не туды. Вярнуцца яшчэ можна: не пераступлена. Бяда, што не вернеш яе... Хаця, не трэба быць скептыкам. У іх — сваё. Яны яшчэ вунь як пацяшаюцца недзе з яго... Яны сваё бяруць і возьмуць.

Шуршаў пад нагамі асфальт, хрумсцеў лёд, моцны, коўзкі. Як і раней, гаманілі людзі, і мігцелі, мігцелі бясконца легкавыя і тралейбусы. Горад жыў сваім жыццём — у мітусні, у тлуме, спешцы.

А можа, гэта шумела і стукала ў скронях?

Леаніду здалося, што ён зблудзіў. Не. Горад ён ведае. І ніхто не саб'е яго з дарогі...

Над галавой шумелі дрэвы. Парк... Узняўся вецер, халодны, калючы. Прабеглі, аднекуль выскачыўшы, два валасатыя стылягі ў зялёных плашчах. Панастаўлялі каўняры. Рана выпырхнулі. Зіма не любіла іх, гнала, як падцыглястых галодных ваўкоў.

Угары варушыліся бурыя воблакі, цягнуліся немаведама куды. Праразаліся зоркі, ядраныя, чыстыя — на мароз.

Леанід доўга ўзіраўся ў неба, аж пакуль не стала зябка. Тады ён пусціўся ісці і зноў пачуў, як ад ветру гудзе парк. Угледзеў, што над галавой калыхаўся жоўты ліхтар,— ля самага чорнага сучча, бы дзе з высокага плота летам звісаў гарбуз. Кратаюць за жэрдку, і ён матляецца сюдытуды. Знізу цёмны, з плямкай. У ліхтар набілася мошак яшчэ ад лета. Ды змерзлі недзе, вымерлі такой зімой. Вясной іх высыпле манцёр на вецер...

Дадому трэба ісці праз гарадскі парк.

Пад нагамі снег, сцяты марозам, як грудка. Коўзка — і нялоўка ступаць.

Вецер пачынаў шалець. На ўскраі парку самотна заныў залаты смуроднік. Падстрыжаны вясной, ён не шмат адскочыў за лета і тырчаў пругкі, што дрот, не гнуўся. Вецер калоўся аб яго і, можа, ад таго набіраўся злосці. Трапятаўся недзе ліст — высахлы, змарнелы, ён цудам трымаўся дасюль.

Шумеў ад ветру залаты смуроднік...

...Недзе дома у канцы лета шумелі ў гародчыку, што ад вуліцы пад хатай, чырвоныя вяргіні... Высокія, як лес, яны лезлі на двор, вывальваліся праз паркан на вуліцу, гарэлі яркім агнём на ўсю вёску. Вечна свежыя, у расе, цёмна-зялёныя з ліста, лапушыстыя, яны, здавалася, будуць бясконца сыпаць і сыпаць кветкі...

І сыпалі б, каб не восень, каб не маразы.

Зацвіталі яны ў пачатку жніўня, калі лета бралася на цішу, калі гусцела бясхмарнае неба і свяжэла ноччу пад дзень. Зацвіталі раптоўна і надоўга. Чырвоныя, барвовыя, светла-малінавыя... Не гаслі яны аж да кастрычніка, калі ўжо ў гародчыку нічога не заставалася. Вяргіні тады былі адны і буялі ад росту,— нішто ім не шкодзіла.

Гарэлі вяргіні і ў туман, і ў золкія вераснёвыя дажджы, калі ўжо не ткнешся босы на двор, ірдзеліся яшчэ і ў першыя ціхія марозікі ўвосень, калі раніцай заблішчыць срэбрам на сцежцы трава і стане слізка пад нагамі.

Усё жыццё кветкі цягнуцца да сонца — заўсёды ў маладосці і свежасці, і паміраюць маладыя і свежыя, усцілаючы барвай жоўтую пасля лета макрыцу і падарожнік у гародчыку. Яны не любяць блекнуць, яны гараць і тут жа нікнуць пасля подыху суровага ветру.

Бывае, позняй восенню адпусцяць маразы, выдасца сонца, адтане зямля. Стане цёпла, як летам. Тады дома пераворваюць бульбянішчы, дзе былі не паспелі, тады зелянее, зноў пачынае расці трава. І тады разгінаецца прычарнелы вяргіннік, падымаецца лісце, і глядзіш — бліщчаць, як гарачыя вугольчыкі дзе на счарнелым вогнішчы, чырвоныя вочкі-кветкі. Яны жывыя, іх не сцяў мароз.

Жывое думае жыць... Жывое хоча цвісці...

Не... Для жывога не ўсё роўна, з якога боку свеціць сонца...

Захацелася, пацягнула раптам дадому.

Там — Галіна...

Тады, у халодную асеннюю ноч, ён выйшаў з клуба, калі ўжо чырванела на ўсходзе зара... Пыліла ад першых ранніх леспрамгаскіх машын дарога ля Лавацкіх садоў, бразгалі, падскокваючы па ўбітых калдобінах прычэпы, звінелі на ферме ля студні вёдры і гаманілі даяркі. Рыпелі жураўлі ля калодзежаў — рассохліся: даўно ўжо не было дажджу.

І тады ён успомніў, што ўчыніў нешта недаравальнае. Яму стала горача. Хіба ён не вінаваты? Вінаваты! Яшчэ і як.

Пыліла сцежка ля платоў і парканаў. Расы з начы на вуліцы не было.

Ён пайшоў брукам, пасля пусціўся бегчы. Здалёку ўгледзеў, як нехта павярнуўся на двары ў Пракурорыхі ад варот і, як знямоглы, пайшоў у хату. З-за частаколу не было відаць хто. Калі чалавек стаў на ганку і затрымаўся зусім на якую хвіліну,— Леанід пазнаў знаёмую постаць.

«Галіна... У касынцы, у плашчыку. Не спала... Усю ноч... З-за мяне...— мільганулася яму.— Знайшоў што выдумаць. З-за мяне каб мерзла дзяўчына? Можа, у бальніцу выклікáлі?..» — рашыў ён пасля і, вярнуўшыся ўстрывожаны дадому, доўга стаяў на двары, апёршыся на частакол, і глядзеў на вяргіні.

— А божа ж мой... А чаго ты, сын, тут тырчыш? Што з табой? Спаць бы клаўся. Гэта ж цэлую ноч недзе...

Маці з вядром ішла даіць карову. Спазнілася сёння:

ужо за шашой пад Лаўкамі галёкалі пастухі. Нехта трубіў, штукаваўся з берасцянкай.

Не да сну было. Хацелася ісці туды, за Лавацкія сады, дзе пастухі, дзе сонца і раса, адкуль з пагорка відаць шаша аж да самага Дзераўна.

Гэта было, здаецца, зусім нядаўна,— учора. А Люды ён ніколі не сустракаў.

Леанід не ведаў, куды ішоў.

Шумеў ад ветру недзе побач залаты смуроднік.

Душа не знаходзіла месца.

У той позні вечар горад выклікаў Грыні.

Яны азваліся нечакана хутка:

— Бальніца... Бальніца... Радзько? Няма. Клікнуць? Не блізка... Толькі што пайшла... Я ўрач... Хто гаворыць? Што вы хацелі перадаць? Што сказаць?

Леанід пазнаў Барысаўну. А што ён мог перадаць, што ён мог сказаць цяпер нават самой Галіне?

Гулі недзе далёка правады, звінела ў трубцы. Леанід маўчаў. Доўга яшчэ адклікалася Барысаўна, пасля змоўкла. Гусцей загулі правады.

— Пагаварылі? Пятая кабіна, пагаварылі з Грынямі? Алё, пятая кабіна? Выклікаю паўторна, гаварыце...— крычала блізка тэлефаністка: аж рэзала вуха.

— Не трэба. Пагаварылі...

«Ленінград — пятая кабіна... Ленінград — пятая кабіна...» — пачуў Леанід і ўбачыў, як на яго месца кінуўся малады, вясёлы маёр і хуценька схапіў трубку...

«Галіна... Галя... Ты чуеш мяне?..» — голас у маёра дрыжаў, мусіць, ад радасці. Чуваць было нават з кабіны.

Леанід позна вярнуўся ў інтэрнат.

Усю ноч у вушах гулі правады: «Бальні-і-ца... Бальні-іца...»

Усю ноч Галіна палола вяргіні... Там, дома, у агародчыку.

Леанід мучыўся ў сне.

## 10

— Ах, каб у тваім агародзе бульба вымакла, чорт стары... Змарозіць жа што, здумае...

— Раіна!.. Запела... Ат... Ніхто лаянкі тваёй не чуў... А я і не шкадую свайго бульбянішча, калі хочаш знаць. У мяне што? У мяне агарод, як аўчына — з аднаго боку

густа, з другога пуста. Пад раку заўсёды мокра, хоць і ў гарачае лета. Выгнівае ўсё. За вуліцай жа, як на поснай патэльні: што ні пакладзеш — згарыць. Суха. Што большы дождж, то больш пылу...

— Гавары, гавары, Тодарка... Жыў жа ты колькі з агарода...

— Ат, Раіна... І не з агарода. Агарод — на свінчо. А мне з калгаса хопіць. І на мяне і на Анцю. Зяцям, калі трэба, касцюмы яшчэ справім. Палучаем, дзякуй богу. Адкажуся, нашто мне той агарод. Пакіну пад рэчку на грады сотак семнаццаць, каб за першым агурком не перціся адразу ў калгас. А нашто мне сорак сотак за вуліцай? Ферма хоць прагон добры будзе мець. Я, Раінка, не ты...

Яны ў прыёмнай у амбулаторыі. Дзед Тодар прыйшоў, калі яшчэ нікога не было. Сядзеў жа аж дагэтуль: не пусцілі яго да Рамана, сказалі пачакаць. І чакае. О-о... З Раманам ён пагаворыць... Шмат чаго ведае той падзямельнік. Увесь жа час з тымі быў, ні на крок не адыходзіў. Важна, каб яны яго і цяпер не перахапілі... Так ён і сказаў учора Авяр'яну: «Калі Пэрац наш — усе іхнія шэйды-марэйды будзем ведаць...» А тут не пусцілі. «У хлопца тэмпература. Гаворыць яшчэ абы-што. Прыйдзе Барысаўна, можа, і дазволіць пасля. А цяпер нечага назаляць хвораму. Можаце чакаць, можаце не чакаць». Ну і дзяўчаты... Рассакаталіся. Абедзве. Ён ім яшчэ пакажа. А тая, белагаловая, накінулася яшчэ, што з бальніцы тады ўцёк. Падае градуснік, кажа, пастаў, дзед, праверу і калі што — не выпусцім... Я ім пастаўлю, я ім не выпушчу! Прыйшла Барысаўна. Выслухала, зноў сказала пачакаць. Яна сама, калі ён хоча, перадасць што. Яна перадасць? Ды яна ж сапсуе ўсё... З падходам да хлопца трэба. Ох дактары...

І вось сядзі ў амбулаторыі, чакай. Чаго?

Пачаўся прыём. Паваліілі людзі. Як на злосць, здавалася, пахварэлі ўсе. Не было б хворых — вальнейшыя ж дактары. А вальнейшыя — лагаднейшыя, упрасіў бы.

А тут яшчэ наслала гэту Раіну. Які ў яе ў чорта грып... На языку, можа?

Ну і даў ён ёй водпаведзь...

У прыёмнай аж чатыры акны. Светла, пахне ёдам. На стале, што ля акна, дзе ўзлокціўся Тодар, параскіданы кніжкі пра «грып»... Чытай, стары, лячыся, убірай у галаву, што да чаго. Анцю дома падлечыш...

Грынёўцаў у прыёмнай больш. Ім бліжэй да бальніцы. Ад Закалюжжа снегу ж памясіць трэба.

Сабраліся, падступіліся да стала. Хворанькія... І зубы ім не баляць і галовы не трашчаць.

Раіна стаіць на сваім:

— Расхваліўся... Ужо ён без агарода можа абысціся, на ўсё калгаснае падаўся. Ды цябе Анця з хаты папрэ. Ты глядзі, стары, адкажашся ад агарода, моду падасі — тады і нам сваіх старшыня скажа ацурацца. Ты мазгамі не круці. Я жыву з сотак...

— Магу абысціся без агарода, Раіна, магу. А без калгаса не. Як той чалавек... Я ведаю аднаго, ды і ты яго знала. З памяці толькі збег ён у цябе. Напомню...

Усе прыціхлі. Было чуваць, як за перагародкай, куды зайшлі адразу двое, нехта стагнаў і гаманіла са злосцю Барысаўна.

— Калі ты помніш, Раіна,— пасур'ёзнеў Тодар,— аднойчы, не так ужо і даўно, прыйшлі да нас немцы. З вайной, з паліцыяй, з воласцю. Калгасы разагналі. І вось быў адзін чалавек. Не дурны, не гультай. Расцягнулі калгаснае Джвучкі з Выжлятнікамі па аглоблі, на шнуркі свае ўсселі, пасечку рынуліся Асіпаўскую карчаваць. А мой чалавек захварэў, злёг. Не грыпам, як ты, не. Душа забалела. Не мог ён ехаць поркаць свой шнурок на Лавацкім полі. Такія землі на межы глуміць... Не мог ён варочацца да старога. Прывык да калгаса, да людзей. Чуеш? Не паехаў мой чалавек на поле, не паехаў. Джвучкі і шнуркі засеялі і пасеку ўзвярнулі, а мой чалавек...

— Гультай. Такі, відаць, ён і ў калгасе работнік быў...

— Ты, Раіна, не сунь языка на патэльню, пакуль яна гарачая... Не збівай... Гультай... На выстаўку ў Маскву ездзіў ён у трыццаць дзевятым годзе. Гультай...

— А-а-а...

— Вось і а-а... Сціх шчупак, ды зубы навастрыў. За табой рот не раскрыеш.

— Слухай, Тодарка, а ці не пра сябе ты баяў, думаю я?.. — Раіна ёрзала і кашляла.

— Пра сябе ці не пра сябе — няважна. Чалавек без людзей жыць не мог! А людзі каго і за стол садзяць, а каго і з-пад стала гоняць. І не пра такіх магу збаяць. Помніш «парашутыстаў» леташніх? Забылася? А з маёй галавы яшчэ не выветрылася. Вунь як лес ля Камена быў загарэўся... Пад Асіпаўскае пажар ішоў. Помніш? Глядзім, самалёт над лесам з'явіўся. Даў круг, памахаў крыллем і сыпнуў сабе парашутыстаў, як хто з рукава. Дзісант... Шпіёны... Тады Дзедзіха за старшыню быў. Бягом той у

канцылярыю ды ў раён званіць. Што рабіць? З раёна пажарныя гужам, машына міліцыі — лавіць дзісант. Людзі з усіх вёсак збегліся. Злавілі,— а гэта пажарныя спецыялісты аж з горада былі, шашкамі агонь тушылі. Узрываць пачалі, выбуху нарабілі, людзей з лесу павыганялі... Пасадзіла міліцыя той дзісант на машыну і прывезла пасля пажару ў Грыні. Людзі — хто ў магазін, хто ля студні мыецца... Глядзяць — хата ў вёсцы гарыць, дым над страхой... Яны — туды, на гару. Можа, ты, Раіна, і помніш... Сядзіць на гары сабе бабка і дроўцы ля бітончыка памешвае...

— Дурная баба была, Тодарка. Хавацца добра не ўмела. Думала, што на гару ўзлезла, дык...

— А цяпер паразумнела? Хаваецца лепш? Э?..

— Э...

— Э...

— Га-га-га...

— Аднаасобна бабка і тады жыла, ад калгаса была далекавата. І хатку сваю па дурасці магла спячы з усімі мышанятамі... А як шары былі з кнігамі пазнаходзілі, га? Усе іх адразу ў сельсавет занеслі, а бабка тая, га? Шары тыя амерыканцы з кнігамі запускалі. І кнігі не па-нашаму пісаны... Ветрам іх да нас у Асіпаўскае занесла ці промаху хто даў, не туды кінуў. У нас ніхто прачытаць не мог. Пагаварылі пра тыя шары, папляваліся і аціхлі. Глядзяць — у той бабкі раптам накідачка белая аднекуль з'явілася. Такая зграбная, не прамакае. Нехта ўспомніў, што на шарах такая цырата была. За тую бабку... «Дзе брала?» — «Купіла».— «Дзе?» Маўчыць. «Пашыла»,— кажа. «З чаго? Калі?» — «Ды я... ды тады...» Пык-мык... Сазналася, нідзе не дзелася. Павяла і паказала, дзе тыя кніжачкі мохам закідала.

Усе, як усе. Знеслі тую шваль. А яна — плашчык сабе пашыла... Была ліса, накінула на сябе лахман — ваўчыцай стала. А таму, што сама сабой, як мухамор расла.

— Сам ты мухамор! Ён маю хворую душачку вывароч-вае... Помніць усё, падзямельнік... Цьфу! На вочы ўскідае. Добрыя людзі забыліся даўно...

— Забудземся і мы, калі ты свае старыя штучкі кінеш. А то перашарсцілася, ды не зусім. У Лавацкі ельнічак дуды адцягваць стала. Зусім ад людскога вока думаеш зашыцца? Не выйдзе. Перастала цурчэць твая самагоначка на гары, зарве ёй і ў ельніку. Пойдзеш з усімі торф капаць — не захочацца і гары той. Няма чаго...

— А згінь ты, благое, прападзі... Кхе... Кхе... Каб гэта хто з начальства, а то такі ж, як я... За ім скора на двор выйсці не будзе як...

— Не. Я за табой не сачу. Я цябе навылёт знаю. Успомні, як любіліся год трыццаць назад... Не перамянілася ты... Дык мы хоць на старасці ды нашага чалавека з цябе зробім, вылечым.

— А чаго ж ён прыстаў... А галава ж мая шуміць... А ён са свету мяне зжыве...

Раіна знарок заныла, папраўляла хустку, матала галавой, бы ў вочы лезлі мухі.

Іх абступілі. Гаманілі, перабівалі, смяяліся, зводзілі ўсё на жарт. Стаялі на Тодаравым баку ўсе, хто хацеў што сказаць.

— Ну і трымаюць жа нас... Так і памерці можна...

Гэта нерваваўся нехта ў самым парозе, Тодар не ўгледзеў хто.

— Цярпі, брат. Ты ж бачыў, хто туды зайшоў? Ведаеш, каго цяпер доктар лечыць?..

— А-а-а... Сабольскі? Падумаеш, святая шышка... Грахоў — у рызу не завяжаш...

— А ён ужо і не шышка...

— Ведаю.

— А не выкідаць, калі і не шышка. Горла ж у чалавека адняло. А як жыць без яго? Асіп, асунуўся, закульгаў — аж барадой да зямлі дастае. Не з папоўскім горлам у папы палез. Ад восені занядужаў, пасля таго, як Гаўрылішын Лёнька ў клубе яго ўзяў у работу. Злёг, дзлэнгаць перастаў. Нехта мне казаў, што ён у леспрамгас заяву насіў. У лесе хлеба хоча пашукаць... Бо што за поп без горла? Як певень сіплы... І царква знадворку аблезла, шэрая нейкая... Цячэ ўжо, гавораць. Няма куды табе, Раіна, на споведзь бегаць... Няма... Няма каму хаты свянціць у вёсцы... Няма... — Тодар аж заікаўся: — Прыязджалі раз архірэі на «Пабедзе» да Сабольскага. Тупалі ўсё ля цэркаўкі, рукамі разводзілі, бароды гладзілі, цмокалі. Не ведаю, што ім гаварыў Сабольскі, але на званіцы і цяпер, Раінка, каты марцуюць...

— Ой-ёй... Зубы ўзняліся, галоўка мая трашчыць... Не заложыць, вось, чалавеку, не зарве... Аднаго кінуў, другога з гразёй топча... Што яму зрабіў Сабольскі?

Зноў у прыёмнай загулі, але ненадоўга: адчыніліся дзверы, і Барысаўна пазвала Раіну.

Падняўся і Тодар.

— А вы, малады чалавек, яшчэ ўсё тут? Да чаго даводзіць упартасць... Добра. Нінка! — клікнула Барысаўна.— Халат мужчыну на плечы... А вы, малады чалавек, зніміце кажух. Пройдзем. Толькі — ні гуку лішняга: там палата. У нас парадак хворыя любяць...

Прайшлі-праціснуліся светлым калідорчыкам. Барысаўна наперадзе, ён следам, ледзь паспяваючы за ёй.

Яна адчыніла дзверы ціха, жаночай рукой; шырока, як для госця, стала і далей не пайшла. Ён злякнуўся і стараўся ўбачыць з-за яе высокага пляча, што ж там, у палаце.

— Не знаю... Не знаю... Абсалютна. Не скажу!.. — пачуў ён сіплы, ціхі голас.

— Я сябра табе ці не?.. — аж прасіў нехта такі знаёмы.

— Што нарабілі... Што яны нарабілі! Я не ведаю. Нічога. Абсалютна. Дыхаць цяжка... Падымі падушку. Не знаю! Не пытай...

— Ты рашыў счурацца мяне? Сябра страціць? А я гэтага не хачу. Не дам. Усе мы не хочам. Ты скажаш, Раман... Усё...— гэта гаварыў Аркадзь.

Барысаўна збочыла, пасля паціху павярнулася да Тодара. Той угледзеў ля ложка Аркадзя, у белым. Сядзіць плячыма да дзвярэй, размахвае рукамі, гаворыць ціха, стрымана.

Барысаўна зноў заступіла праход, пасля прычыніла дзверы.

Яны прайшлі назад светлым калідорчыкам: ён наперадзе, яна за ім.

— Нінка!.. Галіну Фёдараўну мне... Свавольства... А вас, малады чалавек, дапусціць не магу. Хопіць сёння аднаго. Мы адказваем за хворых... Нінка!.. Халат у мужчыны...

Барысаўна была ўжо ў канцы калідорчыка, ля тых дзвярэй. За ёй пабегла белавалосая дзяўчына.

«Што ён робіць, што ён робіць?.. Без падходу да хлапца, без падходу...»— дзед Тодар спусціўся з ганка.

Белы снег калоў вочы, хоць ты праз пальцы глядзі на сцежку. Праз бязлістыя ліпы, як праз рэшата, цадзілася сонца. На паркане застылі нахохленыя вераб'і.

Было свежа, ціха і цёпла. Недзе ля Закалюжжа балбатаў цецярук. На блізкую вясну.

«І што сказаць старшыні? Часу гэтулькі патраціў...» — Тодар чмыхнуў і сагнаў вераб'ёў з паркана. Ад злосці.

## 11

Акно дзёрлі галінкі бэзу; збялелі, абледзянелі, сцёбалі па шыбах, як дротам.

Звечара была адліга. Яе, здалося Раману, прынесла ветрам з Выганчыка, дзе за Крашчанскім лесам ніколі не замярзала Вілія. Там вырывалася з балота Жоглаўка — рака-крыніца, варушыла ваду, не давала астояцца.

Ноччу пайшоў дождж. Хвастаў па сценах, стрэпаў, нібыта там на двары, як бывае перад вялікім ветрам-бурай, вастрылі кіпці аб бёрны каты з усіх Грынёў.

Пад рань дыхнула з Цянёў сіверам. Зноў стала на марозе. Сёлетняя зіма не любіла вады.

Сцяло намоклыя дрэвы. Яны скрыпелі ад ветру. Бразгала голле, што жвір у бляшанцы; шамацела, бы гэта на двары пад падстрэшкам, як дома ў Рамана, вецер ганяў сухія венікі.

Усё чулася ў хаце.

На двары было бела. Як шкляныя, блішчалі ля застрэшша правады. Здавалася, за ноч калгасныя манцёры неўпрыкмет знялі адны — чорныя, іржавыя — і павесілі новыя — алюмініевыя. На вуліцы, відаць, было слізка, бо Тодар праехаў з развалкамі з фермы да школы і да бальніцы, пасля скіраваў за мост у вёску,— пасыпаў пяском сцежкі.

Раман стаяў ля акна.

На дварэ неяк зусім іначай, як раней. Гэта, можа, ад таго, што два тыдні ён, Раман, не злазіў з ложка?

Два тыдні адабрала хвароба. Дрыжаць у каленях ногі, галава нейкая цяжкая-цяжкая, часам, бывае, забаліць пад вечар,— тады блажыць. Слабасць яшчэ.

Не пускаюць адгэтуль, не выпісваюць.

На дварэ гудзе вецер, стукае ў шыбы. Блішчыць далёка дарога.

Прайшлі з фермы ў вёску жанчыны з вёдрамі. Пра нешта былі справілі лаянку, бо паставілі на зямлю вёдры, пасталі ў круг і доўга махалі рукамі. Раман успомніў сваю маці, састарэлую зусім за гэтыя дні. Сама яна не магла прыйсці да яго ў бальніцу, і яе прывозіў на калгасным кані Тодар, аж тры разы.

О-о стары... Знае, відаць, пра лася. Глядзіць з-за дзвярэй злосна і бараду ўсё скубе. Гэта ён, калі нервуецца, так робіць. Спецыяльна, казалі, прыходзіў. Добра, што не пусцілі.

З-пад Буслiных сосен некуды пагналі трактар. Аркадзь, хто ж яшчэ? Па рыўках на павароце адразу пазнаеш.

Скора вясна, скора зноў за плугі...

Нешта балюча пацягнула яго дадому, на летнія Лавацкія палі, калі пасля работы саскочыш з плугоў увесь белы, наеўшыся пылу, і бухнеш на лагу на халодную траву. Млеюць тады ногі, хочацца свежага малака і маладой бульбы-паспешкі, зваранай у саганку на двары ля дрывотні...

Ён апёрся на падваконнік і прыхіліўся да абледзянелай шыбіны.

Халодны лёд, халоднае шкло...

Ён, спалохаўшыся, адагнуўся ад акна. Вярнулася трывога: што будзе?

У вёсцы работа, клуб... Там не месца яму: усё выплыве, калі яшчэ і ціха дагэтуль. Дазнаюцца. Андрэя будуць шукаць, не кінуць так. Наткнуцца на лася, калі ўжо не наткнуліся. Тут спакойна, тут нічым яго не патрывожылі. А можа, таму, што ён яшчэ хворы?

Збег бы, з'ехаў куды на цаліну...

А дакументы? А маці? Цяпер знойдуць усюды.

За акном шуршаць галінкі. Здаецца — гэта, каб падаслаць карове, маці зжынае ў гародзе на мяжы сухую мятліцу. Ён ніколі маці не памог добра.

Маці... Як яна яго любіць. Знебылася як. А што ён зрабіў добрае для яе? Ласіну пакінуў? Знойдуць — цягаць яшчэ будуць. З хворым сэрцам яна не вытрымае...

За акном шумелі дрэвы...

Зрабілася холадна. Раман зноў падышоў да ложка.

— Скажы, Рома, скажы... Ты ж ужо раз сказаў, калі трызніў...

Гэта Нінка зайшла цішком. Уся ў белым, чорныя валасы ззаду на галаве завязаны ў вузел. Пачырванелая з твару, узрушаная нечым, ці, можа, са двара ўвайшла толькі.

Раман маўчаў.

Яму раптам стала блізкая гэта дзяўчына, такая цяпер прыціхлая і сарамлівая. Ён не мог глядзець ёй у вочы. Было прыкрае адчуванне, што ў яго лішнія рукі. Дзе іх дзець? У халаце не было кішэняў.

— Скажы... Гэта важна: Андрэя яшчэ не знайшлі. Трэці тыдзень ужо. Раскажы ўсё, дзе ты быў з імі тады... Я не хачу, каб цябе міліцыя цягала... Не хачу... Рома... Не хачу, каб ты быў такі, каб прападаў... Што ты быў нагаварыў тады Галіне, што? Яна мне расказала. Дзе твая галава бы-

ла? Чужой дзяўчыне... Такой дзяўчыне... Каб ты ведаў, што яна для цябе зрабіла... Яна пры табе ночы сядзела, калі ты без памяці быў... Ты з ёй пагаворыш, ты яе папросіш, каб даравала. Яна забылася ўжо, але я помню. Я не дарую... Я не хачу, каб ты быў такі.

У Нінкі на вачах былі слёзы.

Ён суцяшаў яе.

Яна гладзіла яго рассыпаныя кучаравыя валасы і худыя пасля хваробы, вострыя плечы.

Раман не мог не сказаць ёй усяго. Ён адчуў, як нешта змянілася ў яго ў душы, адлягло; яму стала лепей. Ён глядзеў ёй у вільготныя, насцярожаныя вочы, бліскучыя, што пераспелыя ажыны ўвосень на сонцы.

Яму было хораша, бо побач быў чалавек, які разумеў яго; любы і, можа, лепшы за ўсіх на свеце, і яго не хацелася пакідаць.

Іх перапынілі, не даўшы сказаць усяго і аднаму, і другому.

У палату клалі мужчыну, вялікага, шыракаплечага — той не месціўся ў ложак. Гэта быў грузчык з леспрамгаса, Раман яго знаў. Упаў той з пад'ёмнага крана: не кратаў ні рукамі, ні нагамі.

Барысаўна адразу ж некуды паслала Нінку.

Рамана абяцалі выпісаць праз дзень.

Ён цяпер і хацеў і не хацеў пакідаць бальніцу. Стаяў ля акна ўвесь час і глядзеў на заснежаную вуліцу, што вяла ў вёску. Яму хацелася плакаць.

На двары не сціхаў вецер. Скрыпелі і шасталі голлем дрэвы, як сухія.

## 12

Раскіс, разжыжаў снег. Расквасіла без пары дарогу. Зверху сыпалася імжа, як увосень. Халодная, золкая. Падчас пачыналі ісці крупы, і тады ўсюды стаяў несціханы шум.

Сакавік нёс ранняе цяпло. Пасля марозаў, што не адпускалі тыднямі, цяпер раптам усталявалася адліга; падула з захаду, панесла густым, мокрым снегам, а то і дажджом. Браўся і мароз — ды на суткі, не болей, ледзяніў толькі снег, не выйсці, не высунуцца на дарогу. Пасля зноў круціў вецер і наганяў адлігу. І так ужо колькі дзён.

Шашой ад Дзераўна пад Гальдараду трэба падымацца цераз пагор'е — мінаць перавал. Небрукаваная гэтым мес-

цам дарога заставалася ў калдобінах ад лета. Выбоіны траплялiся на кожным кроку, глыбокія, абледзянелыя.

Сюды дзьмула ўсю зіму, гнала снег з пяском з поля, несла аж з-пад самых Грынёў. У студзені тут было б не праехаць, каб леспрамгас не пускаў тралёвачныя трактары.

Дарогу расчышчалі, капалі нанава ў снезе, а яе зноў заносіла за якія суткі.

Зноў тады ішлі трактары; шаша не аціхала ні днём, ні ноччу.

...Раўла машына, захліпалася, натужвалася, дрыжала. Рвала з месца, як кабылка, што хоча вытарабаніць з крыніцы цяжкі воз, які лёг набок, завяз у гразі...

— Раз-два... узялі! Хлопцы, узялі!..

— Не стойце!.. Газу!

Дрыжыць, трасецца кузаў... Напяліся, лопнуць на руках жылы... Стукае ў віскі кроў, як малатком хто. Людзі змагліся. Ні ўзад, ні ўперад.

Да перавалу далёка, перавал ля самай Гальдарады, а заселі аж ля Дзераўна. Ад самага паўдня прасунуліся ўсяго кіламетры з чатыры, згінь ты, благое, пропадам...

На захадзе заблішчала неба, бы яго хто працёр ад смугі. Раз'ехаліся хмары, і тады над лесам паказалася сонца. Захад адразу стаў малінавы, зардзеліся, папаўзлі над лесам барвовыя палосы, роўныя, ціхія.

Неба стала задумлівае, спакойнае. Цяжка было згадаць старому Тодару, на што варажыла яно. На мароз ці, можа, наадварот, на гусцейшую слату? Разбяры сёлетняй зімой. Нашчэ на гусцейшую слату? Разбяры сёлетняй зімой. Нанач, бывае, разгоніць хмары, ачысціць неба, заскачуць зоркі, захрусціць пад нагамі сняжок. А раніцай — ускруціць цябе шалёны вецер, рве страху, гатовы сцены абярнуць і сячэ, цэдзіць па вокнах буйнымі халоднымі слязьмі... Хутчэй за ўсё паказвае на ранняю вясну.

Сонца нырнула ў хмары, знікла неяк адразу, як чырвоны камень, выгарнуты ў лазні з печы і кінуты ў бочку з вадой. Стухлі над лесам палосы, счарнела зара над узгоркам. Зашумеў вецер, наляцеўшы з поля.

Завыў матор, зноў задрыжала машына.

Зашасталі па снезе колы, пырснулі ў твар холадам.

— Паднапнёмся, дзед!.. Яшчэ раз... Недалёка!..

— Адпусці дзягу, дзед... У чайной доўга сядзеў...

— Ану яе, машынерыю гэту... Я вам, дзеці, нічога не памагу. Тут на хітрыкі пайсці трэба ці па трактар. А то ноч агорне... Ну давайце, ра-а-зам!..

Дзед Тодар падпірае плячом пад кузаў. Дрыжыць машына, дрыжыць у дзеда барада, мокрая, закіданая размяклым снегам.

Леанід бачыць, як круціць галавою Тодар, плюе і лаецца, атрасаючыся.

— Згінь ты, такая машынерыя, цьфу!.. Ланцугі трэба было захапіць. Шафёр называецца... Балагол... — падбягаў ён і крычаў у кабіну.

— Калі ж хто знаў, што развязе...

— Па груз едзеш, а не на вяселле. Кумекаць павінен...

Плёхае пад коламі халодная жоўтая жыжа: колы дасталі зямлі. Дарога тут гліністая.

Пад гару не возьмеш: пад снегам лёд.

Машына нахілілася на адзін бок. Леаніду з зямлі відаць як цярушыцца з-пад брызенту цераз борт суперфасфат, што мука. Здаецца, адсунуліся ад кабіны, адскочылі цяжэзныя заднія калёсы да трактара «Беларусь». Іх два. З'ехаў да барта, зарыўся ў «муку» яго чамадан.

Машына перагружана.

Леанід маўчыць. Маўчыць і Аркадзь. Яны стаяць амаль упоплечкі з левага барта. Аркадзь злосны, сапе ад змору і гарачкі.

Па той бок машыны шорхаюць гумовікамі Авяр'ян і Станіслаў Пракопавіч. Спакойныя, закурылі, бы нічога і не здарылася. Мала, здаецца, і думаюць пра машыну, месяць сабе нагамі раскалочаны снег і гавораць пра бюро.

— Сакратар гарой за нас...

— А я адразу гэта ведаў, бо ён сваімі вачыма ўсю ферму агледзеў, усё Лавацкае поле, калі першы раз прыехаў са мной. Усё поле, кажу, сваімі нагамі абышоў. Як прыйшлося, дык лепш за нашага агранома ведае, дзе што, а мы...

— А мы што? Зробім усё, старшыня, зробім... На вясну сёлета мы не вылезлі, а выйшлі. А не станецца дзе па-нашаму — дык ён за нас гарой... Чуў? Паможа.

На той бок перайшоў і дзед Тодар. Слухаў, не ўмешваўся, курыў, пасля не сцерпеў:

— Эх, каб бабка стала не бабка, а дзедка... Была б і ваверка і свісток. Што вы мне ўсё пра бюро?.. Тое на бюро, гэта на бюро... А ты мне за борт во бяры... Я сам чуў сакратара... А мне во, цямнеецца...

— Пачуеш сам, што дома... Нарабілі... Табе не ўсё напісалі. Выйшаў Раман з бальніцы. Адзін ён расказаў, ды і то не ўсё. Пра Андрэя ён нічога такога не мог ведаць,

злёг жа на той час. Цяпер ад следства хлопец ажыць не можа. А тыя — сваё: «Не знаем, не ведаем — хочаш судзі, хочаш садзі. Завярнуўся чалавек і пайшоў з хаты. Куды і што, хто скажа? Мы ў яго не пыталі...» — усе ў адзін голас. Вось. Чалавек пайшоў з хаты... — Аркадзь замоўк, не глядзеў больш на Леаніда, пасля здрыгануўся, бы і цяпер на твар пырснула халодная вада з лужыны: — Анэта злягла. І сын яе больш у нас бывае...

Гаманілі, лаяўся шафёр.

— Рыдлёўку, рыдлёўку сюды!.. Падналяжам!..— падаваў голас Авяр'ян.

Зноў напіналіся ў людзей жылы, дрыжалі рукі. Кідала ў вочы халодным снегам і горкім дымам. Ледзь паўзлі пад гару.

Пад самым пераваламі машына села на вось. Колы зноў залезлі ў калдобіны з жоўтай жыжай. Берагоў не скапаеш: лёд. Тут трэба было браць правей, шафёр не разлічыў. Цяпер ён нерваваўся, налягаў на газ, машыну ахутвала дымам. Па лужынах пацягнуліся бліскучыя сінія пісягі — ад масла і дыму. Матор гуў на адной высокай ноце; колы шуршалі ў вадзе, пырскалі ўзад,— не падступіцца. Грузу было зашмат для «газіка» з пашарпанымі лысымі шынамі.

Авяр'ян са старшынёй зноў загаварылі. Старшыня не згаджаўся, каб беглі па трактар: можа, машына якая падыдзе, днём жа леспрамгасаўскіх шмат, ды і сваёй сілай няўжо не возьмеш,— падсякуць рыдлёўкай лёд, паднясуць дубцоў. На гару б толькі выскачыць: там лес, чыстая дарога да самай Гальдарады.

Дзед Тодар дастаў з машыны свой доўгі кажух, у які ўсю дарогу ад гарадскога пасёлка кутаўся сам і захінаў ад золкага ветру «студэнта» — Леаніда.

— Сцюдзёна, студэнт, у мокрых чаравіках... Ай-яй-яй... Малады, думае. Усе яны такія. Пэрчык таксама верх лесу голы насіўся. Скінула было чортавага сына. Яно скіне, калі не беражэшся...

Але Тодара не грэў і кажух. Што тыя плечы, калі кірзавікі поўныя вады? Сагрэйся вазьмі. Ён цёпкаўся ў лужыне, нагінаўся, заглядаў пад кузаў, мачыўшы крылле кажуха ў жоўтай каляіне, і бурчэў пад нос: зноў лаяў «машынерыю»...

Леанід не чуў бы, што мокрыя ногі, каб не пачалі ціснуць чаравікі. Здавалася, стаіць ён на халодным ліпкім камені, босы, як у тую далёкую восень, калі яго,

зусім яшчэ хлапчаня, маці паслала пасвіць на Выганчык свіней...

Пасля ўспомнілася жанчына, з якой давялося ўчора вечарам ехаць у аўтобусе ў гарадскі пасёлак. Жанчына была хворая і, сама таго не ведаўшы, рушыла ў дарогу. Шафёр, рыжы, у рабацінні, з носам-гузікам, зусім яшчэ дзіцяня, дастаў з-пад сядзення старую жоўтую ватоўку, якой, як ён казаў, «матор ацяпляў», і асцярожна захутаў ёй ногі. Шкадаваў, што няспраўная печка, што ўсіх памарозіць можна і што наогул не машына ў яго, а кансерва...

Леаніду стала яшчэ халадней за плячыма: стыла потная кашуля.

На душы пасля працы і холаду рабілася ціха.

Блізка быў дом.

І, можа, на гэтай разбітай раннімі вясновымі дажджамі дарозе змучаны чалавек упершыню адчуў сваю сталасць?

Наперадзе вясна, наперадзе яшчэ золкія дажджы, паводка, пакуль адбушуюць вятры, што ўзнімаюцца на згон зімы, пакуль абсохне, сагрэецца зямля.

Наперадзе ўсё жыццё...

— Ану яшчэ, хлопцы-ы-ы!.. Быць не можа!..— Авяр'ян раскапаў рыдлёўкай снег, выграб з калдобін ваду і зноў заняў сваё месца — справа збоку.

Зноў заходзіўся матор, вось-вось захліпнецца. Здавалася, гула не машына, а раўла ад натугі на загуменні малатарня, у якой дзед Тодар забіў цапы мокрымі снапамі.

Цёпкаліся ў снежнай жыжы натруджаныя ногі. Маттлялася намоклае крылле кажухоў і паддзёвак. Ад дыму падступаўся кашаль. Было відаць — чалавечых рук мала.

Першы кінуў дзед Тодар. Адышоўшыся проста назад на дарогу, скрывіў галаву, прысеў, штось мяркуючы, пасля адвярнуўся і стаў напяваць нешта даўняе, чаго ў Грынях цяпер не ўчуеш.

— Што, студэнт, нос павесіў? — павярнуўся ён раптам да Леаніда, хаця сюды, на сушэйшае месца, сышліся ўсе: трэба было штосьці рашаць. Стары ж выбраў Леаніда, падышоў, стаў насупраць, гледзячы на яго, бы ва ўсім вінаваты быў «студэнт».

— Будзем чакаць якой машыны. Як наліха вымерла ўсё,— Авяр'ян быў спакойны, але яму, відаць, стала

надакучаць непатрэбная важданіна на холадзе ў макраце.— І леспрамгасаўскія праскочылі на базу. Калгасных нешта рэдка сёння...

— Дарогу толькі размясілі...— Аркадзь апынуўся ў сяродку.— Пабягу ў Грыні. Па трактар...

— Пачакай: у такую даль. Можа, лепш мне ў Дзераўно падскочыць самому? Бліжэй...— Станіслаў Пракопавіч, відаць, паверыў ужо ў тое, што сваімі рукамі нічога не зробіш, і нерваваўся.

— Іхнія ўсе ў эртээсе...

— Пакінем хіба тут гэтую лайбу. У мяне ногі сухія, пацярплю, не змерзну ж, можа, пакуль Аркадзь трактар падгоніць...— шафёр высунуўся з кабіны і пазіраў на дарогу, адкуль толькі выбраліся.— Хоць і ўсю ноч збуду, калі Тодар кажуха дасць. Усё роўна ў ім дадому не дабярэцца стары: цяжка, далёка.

— Вось я і думаю, што цяжка і далёка. Тодару дадому кіламетраў з пятнаццаць будзе. От скажы, каб адна машына насустрач. Тут бы піхнуць каб...— Авяр'ян верыў, што можна і самім добра налегчы, але ж... Людзі і так памарыліся...

Звечарэла. Перастала імжыць, аціхла,— не ўгледзелі калі. Сціналася вада ў лужынах, дубела вопратка. Наналч магло прыгнаць добры мароз.

— Слухай, студзент...— Тодар падышоў яшчэ бліжэй да Леаніда і ўзяў яго за рукаў: — Дарма ты на калгасную машынерыю садзіўся. Змерзнеш у мокрых чаравіках... Рук натрудзіў яшчэ колькі. Дыбаў бы на сваіх панажах,— даўно ў Гаўрыліхі на печы ляжаў бы, як кот. Слухай. Гляджу я і думаю... Дарожка ў нас называецца. Так і глядзі, а то, як той Дзедзіха, у прорву ўскочыш... Колькі прайшло ад вайны, а як было тут не забрукавана, так і засталося. Дарбуд... Гужтруд... А дзе знак? Дзе язда, ты мне скажы? Ты вось пішаш... А ці напісаў пра такія дарожкі, што як раскалдобяць іх за лета, то і зімой не праедзеш... Напісаў бы так, як пра Пэрца тады? Хай бы ведалі, як гэта самае ўгнаеннейка на поле з раёна лёгка бывае прывезці... Га?

— А нашто, дзед, пра гэта пісаць, скажы?.. Хутка над зямлёй на лайнерах людзі будуць і самі лётаць і ўгнаенне вазіць. Дзед, павер. Дарогі, дзед,— гэта...

— Гм... А што гэтакае лайнер, га? А-а... А бадай ты, як я той лайнер з Лайкай зблытаў.

— Ты, дзед, відаць, хітрэй за ўсіх у вёсцы. Толькі...

— Што толькі? Хітры не хітры, а галаву на карку маю і не наракаю на яе. Ты вось сваёй галавой пра лайнеры мудрыш, а я ўсё жыццё думаў, як на бычках снапы лепш з Лавацкага поля звезці, каб не абярнуцца ля моста на дарозе. Ла-айнер... Я, можа, каб мог, то і на быку хацеў бы адарвацца ад зямлі і лётаць, як на лайнеры. Тваё яшчэ наперадзе, а мы, старыя, налёталіся па такіх дарожках... Бензіну колькі сёння спяклі, гэта ж на бычках везці танней абышлося б.

— Дзед, ад тваёй лекцыі пахне перажыткамі...

Тодар не даў гаварыць:

— Пачакай, студзент... Табе жарцікі. Цяпер яшчэ не ліха. Мы пасядзім трохі, у нас груз, другі праскочыць з пустым... А пачне развозіць дарогу, га? Што? Ад раёна адразайся на месяц, як раней? А языком брукаваць лёгка... Яшчэ і як. Цяні нашы вымасціць можна...

Ззаду за імі стукала аб лёд рыдлёўка. Часта, гулка, са звонам. Скінуўшы з сябе паддзёўкі, Авяр'ян са старшынёй наперамену ссякалі ледзяны бераг.

— Замерзне лужына за ноч...— ківаў галавою дзед Тодар.

— Заўтра ж машына трэба. Другі рэйс сарваць? Не-е... Ці, можа, дзед, расхацелася быць за грузчыка? — падцінаў яго Аркадзь.

— Нам жа ўгнаення ў калгас прыбавілі,— павярнуўся ад машыны Авяр'ян,— а каб адмовіцца, не вывезці?.. З рук у другіх старшынь перахапілі, лічы. Марудзіць нельга. Можа, з дня на дзень парваць дарогу зусім... Пабудзе ноч без марозу — і канцы.

— Нічога, Тодар, дарогу загародзім — другія не праскочаць. Наша — нам,— усміхнуўся Станіслаў Пракопавіч.

Людзі секлі лёд наперамену.

Дзед Тодар памаўчаў і зноў пачаў сваё:

— Во... Хай падзёўбаюць, варта. Пазнаюць, як гэта добра. Я б на іх месцы... Яны ж сілу маюць, іх жа слухаюць і ў райкоме і абкоме. Дык яны і не заікнуцца пра дарогі. А цяпер, можа, калі ўспомняць, як свая блыха ўкусіла. Колькі тут угробілася машын і леспрамгасаўскіх, і калгасных. Скінуліся б гэтыя самыя леспрамгасаўскія дырэктары і нашы старшыні — брук бы аж заблішчаў. Дык не... Бензін лішні пячы іх справа, а каб на тыя грошы дабро ўсім зрабіць — не іх. Графы, відаць, у цэтліках іхніх такой няма. Ты, студзент, носам не круці і не крыці-

куй мяне. Я век зжыў. Я табе, як Выжлятнік гаворыць, прама, мілы, скажу... Добра, што трактары ў калгасы раздалі. Цяпер засеў на дарозе — бяры свой трактар і цягні сябе. Бычкі адпачнуць. А перш? Увяз — бяжы ў эмтээс. А там... Зноў — няма графы ў цэтліках такой, каб дазваляла машыны з гразі цягаць. Бычкоў гані. Вось так, студзент, было... Матай на свой малады вус. Хацятак, што я табе кажу. Каб узяў толькі надумаўся — ды сам да аднаго сакратара дайшоў, да другога...

— Годзе грэцца на холадзе...— перапынілі іх.

— Нанач сабраліся, распеліся...

— Тодару што — у кажусе... А табе, студзент...

Са снегу з абочыны вылез Аркадзь, мокры аж па пояс. Прывалок ахапак альховага голля:

— Што тут наломіш рукамі... Сякеру б... А снегу ля кустоў...

Голле патрушчылі, прымялі, падсунулі пад колы.

Зароў матор, уздрыгнуў кузаў,— у вочы сыпнула белай мукой...

— Давай, давай, давай, дава-а-ай!..

— Не адступаць!

— Выйдзем!.. Выкарабкаемся... Яшчэ раз!..

— Не здаваць!.. Газу... Газу дай!

— Ад кола адыдзі! На аладку расплешча...

— Давай!.. Давай!..

Калаціла кузаў, біла ў рукі. Ад натугі стала сіне ўваччу.

Леанід адчуў, як нешта затрашчала на плячах. Пасля ён праваліўся на дно яміны, выкарабкаўся і пхнуў, упіраючыся рукамі ў слізкі кузаў, колькі мог...

Па твары хлёпала мокрым цестам, гэта шпурляла з-пад колаў раскіслым снегам і глінай.

Знізу патыхала дымам.

— Давай, дава-ай!..

Крычаў Авяр'ян голасна, з натугай.

Кузаў раптам падскочыў, выпрастаўся і палез паціху на гару.

— Давай! Давай! — крычалі людзі.

Матор роў гучна, роўна. Рассоўваўся, распаўзаўся на бакі снег. Лезлі вышэй і вышэй...

Машыну пхнулі аж за перавал, далёка ўніз, калі ўжо і не трэба было. Спыніліся, пачалі адзін у аднаго змахваць з вопраткі снег і гліну.

— А дзе Тодар? Тодар дзе? — толькі цяпер у голасе

Авяр'яна пачулася трывога і неспакой.— Што гледзіцё? З кім ён стаяў?

Маўчалі, пасля ўсе павярнулі назад, за перавал.

— Сцямнела, ты глядзі... І не ўбачылі...— старшыня намагаўся быць спакойным.— Застаўся дзед, не бегчы ж яму за машынай, як нам, маладым.

Здалёку чалавека не было відаць, толькі на дарозе нешта цямнелася ля самай калдобіны. Падбеглі бліжэй — Тодар. Варушыцца, боўтае альховым рагачом у вадзе.

— Ты што? — Авяр'ян нагнуўся над ім.

— Ды, во, рыдлёўкі не знайду. Падсунуў незнарок... Ручку, глядзі, вунь, патрушчыла, што ў жорнах. А рыдлёўка прапала. Куды і што? Ні на дне, ні на версе... Проста дзіва...

— Кінь, дзед, паедзем. Цяпер трэба хуценька ў цёплую хату заваліцца...— Авяр'ян хацеў узяць яго пад руку.

— Табе ўсё кінь,— забурчаў стары.— А рыдлёўка новая. Дзе шафёр? Хай сам тут пашнырыць, бо вочы мае не бяруць у цемнаце.

— То-о-дар... І так мы знемагліся на гэтай чортавай яміне... Паедзем. Спіша тую рыдлёўку Станіслаў Пракопавіч. Паехалі.

— Дзед, а дзе ж кажух?..

Нельга было пазнаць, што гэта спытаў Аркадзь, такі ў хлопца быў здзіўлены голас. Толькі цяпер усе ўгледзелі, што Тодар у адной фуфайцы. Ля яго ног ляжала мокрая аўчына, бы стары толькі што вырваў з воўчых зубоў нежывую авечку,— мокрую, укачаную.

Аркадзь падняў са снегу шматы ўпэцканай кажушыны. З іх цякла вада.

Людзі збянтэжана глядзелі адзін на аднаго.

— А вы думаеце, яна б выскачыла наверх па тым голлейку? Не-е...— Тодар падняўся, выпрастаўся.— Давайце закурым і паедзем калі не хочаце шукаць рыдлёўку. Ну і яміна... Я ўжо думаў, што нічога не паможа...

— Давай, дзед, у кабіну да шафёра. Забірай і студэнта з сабой, а мы са старшынёй пад брызент. Гэта ж падумаць... Тодар, Тодар...

Яны падышлі да машыны. Матор сакатаў лёганька і ціха, што маладая курыца-нясушка.

Аркадзь закінуў мокрае ашмоцце ў кузаў...

— У калгасны музей некалі...

— Я табе дам, верхалаз, музей... Хопіць і так з вас выдумак. Паспрабуй мне языком і на вёсцы пра гэта...

Пазнаеш. Сваёй Анці я сам раскажу, а астатнія не павінны ведаць. Што гэта? — дзед Тодар быў сур'ёзны, можа, крышачку злосны.— Давай, студзент,— крануў ён Леаніда за руку,— у кабіну. У цеснаце ды ў цяпле. Цяпер табе не будзе там наверсе ў што закруціць мокрыя ногі. Змерзнеш. Прыедзеш да Гаўрыліхі і зляжаш... Смяляк такі...

— Не злуй, дзед,— не адступаўся ад яго Аркадзь.— Які ж з цябе грузчык без кажуха? А ўсё наперадзе...

— Без кажуха мне яшчэ больш з рукі: у кабіне буду ездзіць са старшынёй...

Сіні мрок пачарнеў. Ад Дзераўна да пагор'я-перавалу бліжэй падступіўся лес. Сцямнела неяк адразу, толькі там, дзе на сконе дня было паказалася сонца, дрыжаў акравак барвовага неба, як ад далёкага пажару.

Ззаду на шашы ўспыхнулі і згаслі фары: даганяла машына.

Занылі ў галёнках ногі, як ад вялікай, цяжкай хады. Рукі сталі вялыя; счарсцвелі пальцы, патаўсцелі, пахлі глінай. Леанід ледзь падняўся на падножку...

Перад вачыма святло выхапіла бляклую дарогу, роўную, заснежаную, шырокую. Насустрач ішлі машыны, гружаныя сенам. Бы і не было на свеце калдобін, поўных вады...

У кабіне стала цёпла і мройна; і думалася, думалася. Пра горад, пра дом. Але думкі збіваў дзед Тодар, усё некага дапякаючы:

— Што цяперашні малады свет... Прыйшлося напяцца — і звесіў дзюбку, як шпак. Добра, што не разявіўся і не хаўкае. Дык слухай, браце...— варушыўся дзед у цеснаце.— Дык вось я і кажу...

Леанід мала слухаў, што гаварылі побач. Глядзеў на белую ад святла дарогу, на цёмныя дрэвы, што скакалі спераду ўзбоч шашы, і ўвесь рваўся дадому. Перад вачыма стаяла Галіна — у тым плашчыку і касынцы, калі ён раніцай угледзеў яе ля варот на двары. Можа, гэта ад таго, што бліжэюць мясціны, дзе гэтулькі пра яе напамінкаў?

Шумела ў галаве, стала горача. Захацелася наверх, у кузаў, дзе свежа. Ён сказаў пра гэта, але шафёр быў заняты сваім і нічога, відаць, не ўчуў.

Ад Гальдарады ўжо замігцелі наперадзе агні: пабліжаліся да Грынёў. Зусім сцямнела: нельга было ўгледзець гальдарадскія дубы.

У Грыні з'ехалі з горкі ад саду, ціха, нячутна, як скаціліся. Спыніліся ля моста. На вуліцы было поўна вады. Пад нагамі ламаўся слабенькі лёд, хрумсцеў, разлятаўся, звінеў.

Людзі адразу разышліся. Авяр'ян паклікаў дзеда Тодара да сябе начаваць. Старшыня загадаў гнаць машыну пад павець да свірна, каб заўтра ранічкай, не будзячы шафёра, яе можна было разгрузіць. Ускочыў сам у кабіну,— пад'ехаць, можа, хацеў да хаты па дарозе.

Леанід пераняў чамадан з машыны ў Аркадзя з рук і запрасіў таго да сябе. Хлопец адмовіўся: недалёка, ідучы, не змерзне, дома чакаюць, ды заўтра раніцай зноў збірацца на пагрузку трэба, а ў чужых сушыцца не з рукі. І маці дарэмна знябудзецца.

Яны разышліся за мостам.

...Леанід ледзь намацаў зашчапку. Вароты аселі на снег, не хацелі адчыняцца. Падняўшы іх, ён прапхнуў па снезе.

На двары падмерзла, было цвёрда і прыступна змораным нагам. Шасталі адна аб адну здубелыя калошы. Агню ў вокнах не было,— Леанід угледзеў яшчэ здалёку.

У агародчыку снегу — роўна з парканам. Леанід адышоў ад вуліцы, паставіў чамадан і апёрся на частакол. Снег быў цёмны, счарнелы зверху ад вады і пяску, які, мусіць, несла ветрам з агарода. Адсюль была добра відаць ферма, уся ў агнях. Калі там заглохла машына — пачулася гамонка, далятаў голас старшыні: яго акружылі жанчыны-даглядчыцы. Ля будынкаў чарнеліся Бусліныя сосны, нібы гэта сюды звезлі ўсё сена з Доўгіх балот і скідалі ў агромністыя стагі — бліжэй да фермы.

Пад локцем зашамацела — трапілася нешта сухое, выветранае. Леанід намацаў і выцягнуў засохлую кветку вяргіні, яна некалі запала была, ушчамілася між адтапыранай частаколінай і лацінай.

«Адцвіло... Змерла... Усё трэба пачынаць нанава...»

Ён доўга стукаў у дзверы. Ніхто не чуў. Падышоў тады да акна, забарабаніў пальцам у шкло. Забразджэла шыбіна — не шчыльна, відаць, была закітавана: на руку пасыпаўся адталы кіт. Да акна з хаты прыпала маці, пасля выпрасталася і стаяла, не кратаўшыся, не думала ісці адчыняць.

— Гэта я... Адчыніце...

Леанід зноў падаўся да ганка, зноў стукаў у дзверы.

— Хто там?..— голас маці строгі, спалоханы.

— Гэта я...— ён сам цяпер пачуў, што ахрып.

За дзвярмі маўчалі, не хацелі адчыняць. Маці вярнулася была ў хату: у вокнах успыхнуў агонь.

— Хто «я»?..— пачулася пасля з хаты. На гэты раз спакайней і цішэй.

— Я, Лёня...

— А сынок мой... А бадай на мяне... Са сну гэта я. Сплю і сню, як партызаны ў шыбу стукаюць. А што ж гэта я...

Адхінуліся, бразнулі аб сцяну дзверы ў сенцах.

Маці выбегла аж на двор...

Калі ён пераступіў парог, калі запахла памытай падлогай і свежай варанай бульбай, адчуў, што ён дома, што хочацца есці, што ад змору не можа стаяць на нагах.

«Хутчэй бы паваліцца на ложак...» — першае, што падумаў ён.

Назаўтра раніцай у бальніцы яму сказалі, што Галіна ў горадзе. Паехала ўчора, хутка будзе...

«Размінуліся...»

Ён доўга стаяў на вуліцы: не хацелася ісці дадому.

Вецер гнаў у вочы тонкія дробненькія льдзінкі з вымерзлых лужын, шумеў, круціўся ў платах і стрэхах.

Захацелася ў горад...

Леанід не ведаў, чаго яшчэ застаўся чакаць на вуліцы.

## 13

Дайшлі, дабраліся і да Джвучкі, а то прачакаліся ўсе. Заяву яго разглядалі аж у канцы праўлення. Перш-наперш рашалі больш важнае — у поле вось-вось выходзіць трэба.

Пра гэта і гаварылі аж дасюль.

Праўленне — пашыранае, з актывам, таму людзей найшло — поўная канцылярыя, аж да парога. Каго ціснулі да сцяны, той крычаў, каб перайсці ў клуб, дзе месца, як на полі, але разгарэлася гамонка, людзі паспелі ўжо зачапіць адзін аднаго за жывое, і ніхто не хацеў нікуды выходзіць. Толькі забаранілі курыць, бо вокны яшчэ не расчыніш, хоць і вясна на дварэ.

Усе раптам аціхлі, нават самыя заядлыя крыкуны і тыя маўчалі. Чакалі, што ж там пададзена за такая заява на самой справе, бо па вёсцы чаго толькі не наслухаліся за дзень і чаго не нагаварылі тут, на праўленні.

Станіслаў Пракопавіч стаяў ускрай стала. Малады зу-

сім, смуглы, з адкрытым, простым тварам. Валасы зачэсаны назад, ад агню блішчаць. Павольны чалавек, бо стрыманы. Але паглядзіце, як ён разыдзецца... Колькі агню тады, шчырасці. Гаворыць заўсёды проста і смела. Нікога ніколі не мінуў, і кожнаму — у вочы. Не любіць і калі хто хоча нагаварыць за́чы.

«Прыйдзі і скажы ўсяму праўленню, раз ты такі. Мінуліся часы, калі праўду трэба было неяк з-за вугла з мяшка па слоўцу церушыць... Праўда — не мякіна, і месца яе не ў мяху. Будзем гаварыць адзін аднаму прама; не зможам адразу — вучыцца станем... Выйдзе. Праўда хоць вочы коле, ды не любіць завуголля».

Людзі слухалі яго і верылі: чалавек сумленны, з галавою. А што больш трэба? Хіба не нагараваліся пры лайдаках?

Старшыня нават крыху адышоўся ад стала, каб быць бліжэй да людзей. Шмат хто яшчэ раз угледзеў — гэты хлопец стройны і цвёрда стаіць на нагах.

Голас у старшыні не мяккі, але цяпер лагодны. Чытае ён спавагі: пра нешта ўсё думае, нечага, можа, сам яшчэ не рашыў. У аціхлай хаце чуваць усё да слова аж у самым парозе.

— «На ўпраўленне калгаса... Без смеху, там, ля акна. Чалавек пісаў сам, як умеў. Нечага ўжо...— старшыня перадыхнуў: — На ўпраўленне калгаса ад радавога калгасніка Платона Джвучкі. Заява. Прашу, як толькі магу, упраўленне калгаса і самога старшыню ўвайсці ў наша сямейнае палажэнне, разабраць заяву і паслухаць, памагчы выкруціцца са штрафу. Усе знаюць, што міліцыя абклала мяне, хоць я таго лася не біў, а біў яго Пэрац. Я і ў міліцыі гэта казаў, дык не слухаюць. А дзе ж узяць сёння мне, радавому калгасніку, тыя грошы, калі запасу ніякага ў кублах няма, можна злазіць праўленцам на гару паглядзець, з калгаса летась не палучыў. Не раздзецца ж мне нагала і везціся распрадавацца з апошнім...

— Га-га-га...— грымнуў смех, як выбух.

— Ля акна!.. Моладзь... Цішэй там! Смешнае знайшлі...— старшыня падняў руку — нават не ўсміхнуўся,— і працягваў: — Увайдзіце ў палажэнне, а я цяпер буду хадзіць кожны дзень на работу. Нага мая на папраўку пайшла, буду рабіць. А так — дзе ўзяць? А міліцыя на мяне навалілася з вялікім штрафам незаконна, дык, калі помачы не хоча даць калгас, тады хай даб'ецца, каб штраф спісалі. Можа б, старшыня за мяне слова сказаў? Аднаго б

штрафавалі, хто біў, а то дзе я вазьму? А ў калгасе грошы ёсць, хай памогуць. Прашу і праўленне, і самога старшыню. А рабіць я пайду. Я ўжо і сам цяпер стаў хадзіць, хай брыгадзір скажа. Не адкажыце ўвайсці ў палажэнне. Радавы калгаснік П. Джвучка».

Старшыні не давалі дачытаць: соўгаліся, варушыліся, адкрыта гаманілі. Цяпер жа, калі ён скончыў, цяжка было разабраць, хто крычыць і адкуль.

— Ціха! Цішэй!.. Ціха!..— старшыня намагаўся ўціхамірыць калгаснікаў.— Нічога ж не разбярэш... Хто хоча слова? Па чарзе! Дайце сказаць членам праўлення...

Старшыню бы не чулі. Паўскоквалі ўсе да аднаго, хто сядзеў,— заварушылася канцылярыя. Стала душна. Піхнулі насцеж дзверы.

— Наха-а-бства!.. Лася забіў і яшчэ дапамогі просіць...

— Хто яго наразуміў на праўленне падавацца з такой заявай?!

— Во... Карову яму лепшую з фермы за работу... Прэмію!..

— Калі летась не палучыў, мог ісці сёлета ямкі пад слупы капаць... Мог бы зарабіць і не на штраф...

— А людцы, а што ж гэта?.. А калі кожны стане такія заявы пісаць? Дык і мне дайце! Можа, і ў мяне не хапае сёння тых соцень...

— Калгас разнясём!..

— Не збяднее калгас... Памаўчы. У чалавека гора. Дзе ён возьме?

— Гора... А ты сваю карову завядзі яму на двор... Памяняй на лася... Добранькі знайшоўся...

— Хай у Выжлятніка возьме. У таго яшчэ папоўскія недзе засталіся.

— Выжлятнік сам па вёсцы бегаў, каб пазычыць.

— Га-га-га...

Пасля смеху людзі былі сціхлі.

— А дзе Джвучка? — спытаўся раптам нехта, бы апамятаўшыся...

І зноў пачалося...

— Напісаў, а сам не прыйшоў?..

— Ды гнаць яго з калгаса! Ён рабіць будзе... Цешыць некага. Гнаць! Як мы яго яшчэ дагэтуль не праперлі — я не разумею, старшыня.

— Ён на людзі саромеецца паказацца...

— Ды яны не толькі лася ўгробілі...

Усе неяк прыціхлі, павярнуліся на мужчынскі голас.

Зашапталі: «Хто сказаў? Дзед Тодар, га?» Людзі перабедавалі ўжо, хоць не маглі звыкціся, што ў калгасе няма Андрэя Дзедзіхі. Што казаць? Пачні — зноў усё спачатку. Следства прайшло, нічога новага не знайшлі.

— За лася просіць, каб даравалі... А за чалавека? — Гэта, праўда, гаварыў стары Тодар.— За жывёлу яго пакаралі, а за чалавека? Следства закрылі... Няма ўлікі. А гэта не ўліка, што чалавека і цяпер не знайшлі?.. А можа, у яго галава прабіта?.. Колькі яны цягалі з яго, скублі, як той быў старшынёй... Я ведаў Андрэя... А цяпер гэты яшчэ просіць нечага. Пры Дзедзіху жыў за калгаснае і зноў думае, грошы яму калгас нарыхтаваў. Ні рубля!.. Я яго б з канцылярыі выгнаў, каб ён асмеліўся яшчэ тут вочы мазоліць... Лепш Анэце памагчы, з дзецьмі вунь засталася.

— Паслухай, Тодар, зразумей мяне...— старшыня перайшоў аж да самага акна, дзе Тодара абляпілі дзеці.— Не будзем сёння вяртацца да Дзедзіхі. Самі ведаеце, два сходы мы і гаварылі, і крычалі, і рашалі. А што? Доказаў няма. А следства не закрылі, хто сказаў? Не закрылі, пакуль чалавека не знойдуць. Як жа? Узялі былі і Куцку і Выжлятніка з Джвучкам, ведаеце. Узялі і пусцілі: доказу-то ніводнага... І няма ў нас часу кожны раз валаводзіцца з Джвучкам. Пара б сапраўды рашыць: ці з калгасам ён, ці... Мне здаецца, што раз у заяве ён абяцае хадзіць на работу і пайшоў,— я сам бачыў яго два разы на ферме з віламі,— то пачакаем. Не будзем спяшыць, выкінуць паспеем. Рабочыя рукі нам трэба. А там паглядзім: будзеш рабіць — будзь калгаснікам, не будзеш — ты, брат, не малое дзіця, хоць і прыліп там у кутку на лаўцы, як камар. А з заявай давайце рашайце, члены праўлення.

— Дзе ён? Дзе Джвук? Тут?..

— Во... У парозе. Пад фартух да Раіны схаваўся...

— Цішэй, разумнікі...

— Хай устане, хай раскажа, як было з ласём!..

— Знаем. У сценгазеце ж пісалі...

— Ды ён п'яны... З яго, як з бочкі...

— Раінінай гáры зноў сербануў...

— А ты што, піў з ім, калі знаеш?

— Ды не. У нас цяпер, акрамя Раіны, ніхто не ціснe...

— А ты дакажы, Тодарка, калі на тое пайшло. Дакажы. Зладзі!..— Раіна крычала з парога на ўсю хату.

— І дакажу, любоў мая... І дакажу, і злаўлю. Даю слова. Знаю ўсе твае хады і выхады... А Платону ты ця-

пер дарэмна падсоўваеш. Чалавек, можа, за розум узяўся, то хай галава ў яго будзе здаровая.

Зноў схапіліся два «старыя прыяцелі». Ніхто ім не пярэчыў.

Пасля гаварылі праўленцы.

Апошні выступіў старшыня, каб абвясціць усім, на чым пагаджаецца праўленне.

— Таварышы члены праўлення і калгаснікі... Просьбу Платона Джвучкі адхіляем. Пойдзе на работу — палуча сваё на працадні. А там хай мяркуе — што куды. А калі Джвучка недавольны чым — хай падае заяву на агульны сход. Урэшце ж, рашаюць калгаснікі, а не адзін, скажам, старшыня ці Авяр'ян...

Людзі ціха слухалі старшыню, пасля зноў прыняліся за Джвучку.

Позна закончылася праўленне. Людзі разыходзіліся нехаця, гамонячы на ўсе Грыні.

## 14

У клубе, пасля рэпетыцыі, далёка ўжо за поўнач, сабраліся камсамольцы. Сышліся ля стала, акружылі Аркадзя.

— Чулі, што адмовіла Джвучку праўленне? — гаварыў ён.— А хто гэта казаў, што і Пэрцу падаць заяву трэба?..

— Цяпер гэта неразумна. І смешна...

— А Пэрцу памаглі б. Ён не раўня Джвучку. Рабіў жа ўсё лета на трактары.

— І гутаркі не можа быць пра такую помач.

— А што будзе з хлопцам? Хацеў на цаліну з'ехаць, дык маці ж хворая. І не пусцяць цяпер, пакуль штраф за ім. Унясі. Пэрац-Пэрац... Махнулі мы былі на яго рукой...

— Чаго ты? Тады тое было. Ды і заслужыў ён. А памагчы цяпер яму трэба...

— Дайце я скажу...— Леанід саскочыў са сцэны, дзе быў прысеў яшчэ ў час рэпетыцыі. Усе павярнуліся да яго.— Памагчы трэба, і мы паможам. Хлопец з бальніцы выйшаў, маці хворая, яна ж нічога не зарабіла. Ды і Пэрац цягнуў дай божа... Усё гэта так. Але ж не дасць Гірша — дасць нехта іншы. Калі не паможам мы — то возьмецца Куцка. Той выставіць руку. А тады хлопец не наш. Зусім...

— Не возьме ён ад яго нічога.

— А дзе ён возьме?

— Паможам самі. І я, і Васіль Міронавіч. І ўсе..

— Васіль думае...

— Роль на памяць завучвае...

Васіль Міронавіч моўчкі згадзіўся з Леанідам. Згадзіліся і ўсе: дамовіліся, што заўтра збяруцца ў Васіля Міронавіча перад рэпетыцыяй.

Ноч. Гудзе ў адталым ліпавым голлі вецер, рвецца з Выганчыку ў Грыні, з'ядае снег. Аселі гурбы, што былі некалі ўпоплеч з парканам, з-пад снегу чарнеюць платы, абмытыя халодным дажджом. Мокрае, ліпкае жэрдзе, кранішся яго — скаўзнецца рука.

Ля заставак, дзе лесапілка, стогне рака. Там, казалі, бачылі на вербах першыя каткі.

Вясна не чакае. Жыццё прабіваецца з-пад снегу, будзіць настылую яшчэ зямлю. Сёння бачылі каткі на вярбе, заўтра прынясуць з Лавацкага логу пралескі...

Цёмныя, цёплыя з дажджом ночы над Грынямі ўжо з тыдзень. Расквасіла снег, не саступіць з зімовага прыбітага тору — правальваешся да зямлі, да вады.

Булькочуць, звіняць ручаі, рэжуць, крояць на скібы астраўкі лёд на вуліцы і ў агародах. Імчаць да ракі, зносячы туды трасочнік з двароў і сапрэлае зімою на дарозе пад снегам чорнае сена.

Цяжка прайсці вуліцай у Грынях ля Раінінай хаты, куды пананосіла зімою з Выганчыку горы снегу. Яны аселі, раскіслі. Спрабаваў быў нехта зрабіць сцежку полем, у абход, ды там адтала ралля. Лепш тады ісці па вадзе, чымся лезці ў гразь. Людзі ціснуліся да паркана, скакалі з каменя на камень, пакуль не дабіраліся да брукаванай сцежкі ля бальніцы. Тут усю зіму расчышчалі на вуліцы снег.

Неба ноччу нізкае, чорнае, з яго сыплецца і сыплецца імжа. Яно праясніцца, можа, толькі днём, к поўдню. Тады вылезе з вязкіх воблакаў сонца; распагодзіцца, і зашумяць ручаі, запеніцца снег на вуліцы.

А тады зноў заверне вецер з Выганчыку, зноў пойдзе дождж.

Вясною ветраныя ночы...

Пад нагамі ля плота чорная, цвёрдая, яшчэ ўмерзлая зямля. Уранку тут зусім не было прагалін. Снег, што карова языком ліжа...

Па свежых праталінах лёгка ступаць. Лёгка нагам і

ўсяму целу. Хочацца пабегчы да моста, дзе вірыць, стогне ў застаўках вада. Крыгаходу ў Грынях сёлета няма: лёд падапрэў даўно, асунуўся і сплыў ракой яшчэ да паводак. Вясна зараней падумала пра сябе.

Гамоняць, не спяць грынёўцы. На ферме звіняць рыдлёўкі — даглядчыкі скопваюць снег, ачышчаюць дарогу вадзе: затапіла скляпы-сховішчы.

Скрыпяць вароты, чуваць, як нехта на двары ў старшыні сячэ лёд.

Ля клуба яшчэ адклікаецца гармонік. Гарманіст, відаць, добры назола, а можа, чакае ці кліча каго? Ці на злосць усім не дае спаць, бо пакінулі яго аднаго — збегла якое дзяўчо, дзеля каго, можа, увесь вечар стараўся?

Леанід з Аркадзем ішлі ўдвух. Выйшлі, калі ўжо на вуліцы не было чуваць ні знаёмых галасоў, ні смеху.

— Туман і ветру не баіцца... Такі, што і агнёў з фермы не відаць.

— А вунь яна, за бальніцай. Там бурае неба ад агню...— Аркадзь ідзе ля самага частаколу. Леанід ступае, не гледзячы пад ногі — усё адно чаравікі поўны вады.

— Раве як, га? Разлілася. На лесапілцы яшчэ ўчора, старшыня казаў, панесла было дрэва. Аж пад Закалюжжа да павароту загнала. Надумаўся ж нехта перад паводкай на самы бераг класці...

— Ніхто не чакаў такой вады. Ды і цеснавата ля лесапілкі, загрузілі там усё.— Аркадзь сціх, пасля зноў загаварыў: — А я люблю, як стогне рака. Люблю слухаць. Тады я нечага чакаю і чакаю...

— Пакуль буслы прыляцяць? — у голасе Леаніда чуваць усмешка.

Аркадзь маўчыць, тады пытае:

— Доўга будзеш?

— Месяц які. Над дыпломам сяджу.

— Застаўся б у горадзе. Усё роўна ж ты не дома, а ў рэдакцыі больш бываеш. А да раёна па разводдзі...

— Гм... І ты б не застаўся...

Маўчалі.

— А Пэрцу, Лёня, трэба памагчы. Гэта добра... Ён ужо трохі не такі. Ты бачыў яго? Не? Мы ўсе не маглі даць яму рады, а Нінка адна што з ім зрабіла.

— Не, відаць, не адна... І чалавек яшчэ ў дадатак перахварэў. Усё перахварэў.

— А ты ведаеш, як ён цяпер з Нінкай?

— Маці нешта казала... Я добра не разабраў...

— У яго з ёй, відаць, сур'ёзна...
— Ну?.. Люблю сур'ёзныя рэчы...
Ім зусім было не па дарозе.
— А чаму ты, Аркадзь, не пайшоў дамоў цераз Лавацкае? Бліжэй.
— Пайду шашой, на полі магло развезці.
Яны выйшлі з-за павароту і скіравалі да моста. Пайшлі шпарчэй: тут не было снегу.
За Пракурорышынымі ліпамі ў знаёмым акне ад агарода ўгледзелі агонь. І адзін і другі падумаў: «Прыехала...»
Абое раптам спыніліся.

## *Частка трэцяя*

# Гарэлі сіўцы

## 1

Пасля зімы чалавек пазнае зямлю нанава... Пазнае сцежкі, што вытаптаны ў познюю восень, калі ўсюль прастор, воля, ступай, дзеназе цвярдзей; барозны, якія развярнулі ўвосень плугамі да жоўтага пяску на полі ля дарогі пад Гальдараду і ля Лажкоў у Лаўках; шашу з летапнім жарсцвяком ля моста і ўбітай глінай, якую не знясслі воды, хоць вясна мыла, шаравала, як дзеркачом, асмужаны ад зімы дол...

Кідаецца ў вочы старая счарнелая крапіва ля рэчкі ў голым альшэўніку, высахлая, зляжалая, з-пад якой адскочыла ад зямлі чырвонае лісце...

Лісце падымае стары высахлы крапіўнік, ён аж лускае, бы гэта, учуўшы цяпло пад ім, варушацца, точацца з сухадолу дажджавыя чарвякі.

Чырвоная крапіва варожыць на цёплую вясну.

Аркадзь успамінае, што з чырвонай крапівы пачыналася і леташняя вясна, і тая, калі прагналі немцаў, і тая, партызанская, калі грамілі нямецкі гарнізон у Камене, і тая, калі ён першы раз назбіраў пралесак, каб падарыць дзяўчыне, ды не было каму, і аж тая, незлічона далёкая, калі яго бабка прынесла ад ракі такой жа чырвонай крапівы, нямнога, з прыгаршчы, і ён — яшчэ зусім дзіця — палез з рукамі да яе ў прыпол...

Чалавек пазнаваў пасля снегу зямлю; чалавек пазнаваў далёкага сябе.

Свежая зямля, свежыя ўспаміны...

Ля ракі маладая крапіва, на лозах калматыя каткі, на Лавацкіх лагах зелянее трава. Яна дала ў рост за ноч, вастранькая, маладая. Высыпалі раптам пралескі і адразу завязаліся на цвет.

З-пад Цяпнёў з імшар Раіна прынесла ўчора кошык чорнагалоўкі сваёй карове. У бары ў Ваўкаўні дзеці спускалі бярозавы сок. Там выспа, суха, там хутчэй, чым дзе, грэецца зямля.

Кранулася новае жыццё.

Чалавек чуў яго, быў утрапёны, неспакойны, працавіты, як мо ніколі. Бо гарэла агнём не адна крапіва, бо бра-

ліся на цвет не адны пралескі... Бо зацвітала на вясну маладая сіла.

Падсохла зямля, забялелася на гальдарадскім стаптаным жывёлай дзядзінцы абмытае каменне, палезла ў рост зялёная азіміна на Лавацкім полі; прабівае, точыць, падымае зямлю на чорных галоўках горкі куколь у Ваўкаўні.

Пахне зямля, пахне бульба з пачатых капцоў ля фермы.

Не аціхае, не тоўпіцца ў берагі рака, шуміць, прыціхаючы днём і ажываючы нанач, калі супакоіцца зморaная вёска.

Прачнуліся ў Ваўкаўні камары,— мо яны,— як гаворыць стары Тодар, павылазілі на свет з пустых ям ад бульбы, куды пазабіваліся па зіму,— і цяпер таўклі мак дзень і ноч, аж дрыжала паветра, перасыпалася, што пясок.

Паявіліся жоўтыя матылькі, а ўранні ля Ваўкаўні нехта задушыў на сцежцы вужа.

Ад сонца да сонца не сціхалі жаваранкі,— віселі над логам, над полем, над фермай. Ад сонца да сонца плавалі над вёскай буслы: віселі ўгары, круціліся над выганам, складалі крылы і няўклюдна шыбавалі на Бусліныя сосны, не баючыся, што там пад гняздом на буі ракочуць трактары.

Бусліныя сосны былі заняты. Два рухавыя, падцыглястыя птахі сартавалі дзюбамі разгатае голле — недзе паўздзіранае, натапыранае вятрамі, калючае, дубаватае,— не ўлезці ў гняздо.

Двое буслоў былі ўжо дома, пачыналі жыць і мала зважалі на тое, што яшчэ шмат каму няма прытулку. Яны ведалі, што гэта яшчэ не ўсё, што за дом трэба будзе даць не адзін бой,— таму былі паспешлівыя і настырныя. Бывае, спынялі работу і доўга ўзіраліся ў неба, клекаталі і зноў варушылі рагачча.

Зверху, з гнязда, сыпалася шматгадовая пацяруха, яе лавілі на зямлі шпакі: яны тачылі пад буслiным гняздом свае норы-гнёзды.

Ад відна да відна дыхала жыццё... Вясна абуджала адвечныя інстынкты ў прыродзе.

Ад відна да відна гулі трактары ў Ваўкаўні і ў Лаўках.

Ля Ваўкаўні — пясчанік. Туды, пад лес, дзе разыходзяцца дарогі на Асіпаўскае і на Жоўты бераг — вывор-

ваецца белы пясок; летам у засуху адтуль гоніць ветрам усё жывое ў лагчыну пад лагі. Ваўкаўня тады гіне. Толькі летась узяла ды збуяла тут кукуруза.

Лагчына — ніжэй, пад лагі да рэчкі. Тут яшчэ сыра, а ля самага логу гразкавата. Сюды гнала ўсю зіму снег, тут яшчэ дні тры назад можна было застаць лёд: зямля толькі адтала і сохла марудна.

Ралля адварочвалася ад плугоў, як размешаная гліна, і блішчала на сонцы; ля самага логу ў баразнах выступала вада. Плугі лезлі ў зямлю, як нож у сыры, ацеслівы хлеб.

Толькі тое і глядзі — пад раку круці і круці, каб не вырваць глей; у лагчыне паднімі на сярэднюю праворку, а на выспе пад дарогу — зноў круці, каб не цягнуць наверх жарству, не выкідваць жаўцяк.

Раман скінуў шапку, пасля шпурнуў далёка на раллю фуфайку, расшпіліў каўбойку, закасаў рукавы,— горача ў плечы, пот сцякае па брывах, капае, як вада з падстрэшкаў у дождж. Сонца бярэцца на паўдня,— вострае, аж колецца. Увачавідкі чырванеюць рукі: красавіцкі загар сярдзіты, учэпісты.

Раман не чуе Аркадзя, не слухае, што той часам крычыць, высунуўшыся з кабіны. Ля плугоў глядзі сам, калі гэтак рваўся выскачыць на поле. Яшчэ не падсохла, і плугі здаюцца цяжкія-цяжкія...

Першы завор прайшлі ўчора: вёў сам старшыня з Аркадзем. Бачылі, што гразкавата, ды стаіць на пагодзе, а ля Ваўкаўні ж пясок перасыпаецца і падымаецца пыл за плугамі,— падсмягне за дзень і ля логу. На Лавацкае поле ці на Гальдараду яшчэ не ўсюды ўзаб'ешся. А чаго чакаць? Старшыня так і сказаў: «А чаго чакаць?»

Раман чуе, як раве, заходзіцца разагрэты ад работы і сонца «націк»... Пасля зімы неяк адразу шуміць, звініць у галаве, падкідвае, гушкае на сядзенні, бы ты першы раз на ім. Нязвыкла слухаць, як плугі чапаюць каменне.

На павароце ля дарогі матор прыціхае, Аркадзь вывальваецца з кабіны, лезе з пальцамі недзе пад свечы. І калі Раман саскоквае на мяккую, пабялелую зверху ад сонца раллю і чуе, як трасецца пад нагамі зямля, бо дрыжаць цяжкія плугі,— яму тады здаецца, што не было зімы, што яны ад леташняга не з'язджалі з Ваўкаўні-поля...

Трактар будзіць зямлю...

Трымціць над ворывам пара — падсыхае ралля,— пад лог ажно горача дыхаць, што ў лазні.

Сонца п'е веснавую смугу, смокча яе з угрэтага поля, з вільготнага прырэчча, з далёкай верасовай пасекі, што ў Ваўкаўні, там, за сасновым перашыйкам пад Доўгія сенажаці.

На лагу, куды хочаш не хочаш, а ўзаб'ешся з трактарам, каб завярнуцца не па гразі, бо абрыдла ж вязпуць па самую кабіну,— цягне выскачыць на чорны дол, праз які праклюнулася маладзенькая травіца, сям-там яшчэ белая, свежая. Выскачыць,— ссунуць з ног нагрэтыя ў кабіне кірзавікі і цёпкацца ў цёплых лужынах, свяжыць сапрэлыя за зіму ў цяжкім абутку ногі.

Вада састаялася, запенілася і цяпер, як зацярушаная белым макавым зернем; цёплая, яна поіць чорнагалоўку, якой на курганах бы хто панаторкваў.

Дрыжаць ад ветру на лагу пралескі — першая ўцеха вясны... Аркадзь назбіраў іх, калі разварочваліся ля сажалкі, але горача ў кабіне, і яны адразу вянуць. З'ездзяць разы са два ад логу да Ваўкаўні, пасцёбаюць аб цёплае жалеза і чарнеюць.

У кабіне закалыхвае,— роўна гудзе матор, закладае вушы, і ты застаешся адзін-адным... Відаць наперадзе шэрая зямля; чорная ралля ўстае ззаду за плугамі; бачыш, як вісне далёка над Доўгім балотам сінеча, калі коціш пад Ваўкаўню, і — над выганамі ў прырэччы, як вяртаешся пад лагі; відна ферма з высокім асверам над студняй; а за імі — Закалюжжа, прымружанае, прыціхлае.

І тады неяк забаліць душа. А можа, яна не супакоілася яшчэ ад лета?

Мары часта заводзяць вельмі далёка. У думках ты, бывае, зжыўся з чалавекам,— з ім і на зорцы па расе рука ў руку, і ў гарачы дзень скачаш з Жоўтага берага ў Вілію на віры, і брыдзеш з ягад дадому ў позні летні вечар, калі сціхла, заснула вёска, калі рэдка ўгледзіш каго на вуліцы на прызбе з агеньчыкам-папяроскай...

Хочацца тады, каб той чалавек быў самы шчаслівы. А што ён, Аркадзь, можа зрабіць для гэтага? Паступіць у які інстытут механізацыі? Ну няхай паступіш. А тады? Трактарыст усё роўна ў мазуце, у гразі... Прыбяжыш за цямном дадому... Адчыняеш дзверы — а табе насустрач кідаецца жонка ў белай сукенцы, у белай касынцы... Вісне на шыі... Счакалася. А пасля не спіць усю ноч, паліць печ, грэе ваду, каб абмыць цябе, любы муж-гаспадар.

Аркадзь усміхнуўся. А Раман? У Рамана другое... Ён ужо асеў. А тут дзе яшчэ прыйдзецца?

Каханне... Памяць захавала той зімовы вечар, калі ён, Аркадзь, сустрэўся ля Галініных весніц з Васілём Міронавічам.

Тады Аркадзь доўга стаяў адзін.

Галіна, у накінутым на плечы паліто, ішла недзе з агарода. Угледзела яго — уздрыгнула. Не прывіталася, нічога не адказала, калі прывітаўся ён. Стаяла доўга па той бок весніц на двары. Не глядзела на яго, пасля кінула коратка: «Зайдзі»... Пайшла сама наперад, зачыніла за сабой дзверы, грукнула. Ён ніколі не быў у яе дома, не зайшоў бы і тады, калі б яна не выбегла яшчэ раз. У хаце не запрасіла ні распрануцца, ні сесці. Стала ля акна ад вуліцы, адвярнулася. Маўчала, тузала толькі занавеску. Пасля загаварыла. Ціха-ціха, здавалася, што са слязьмі.

— Не падумай пра мяне...

Яна адвярнулася, зірнула на яго, утаропілася, пасля прыпала яму на грудзі і зашаптала:

— Ты добры, Аркадзь... Ты сам не ведаеш, які ты добры... Толькі ты не думай больш пра мяне... Не хадзі... Чуеш? Не хадзі. Так трэба...

Ён трымаў яе ў абдымках першы раз, баяўся, што яна плача, хацеў суцішыць яе, не ведаў, што ў яе за гора, і не пытаў. Гладзіў рукою па яе плячах, кволых і цёплых, чуў, як яны ўздрыгвалі і сцішваліся.

Галіна маўчала. Тады адштурхнула, адскочыла сама да акна:

— Ідзі, прашу ідзі, Аркадзь... Забудзь пра ўсё.

Яна апусціла галаву і змоўкла.

— Ён пакрыўдзіў цябе? Ён? Скажы... Я сустрэў яго...

— Не пытай. Я хацела мець сябра. Няма яго ў мяне...

Яна стала строгая і сярдзітая; ішла адчыняць дзверы.

— Не крыўдуй... Я не памятаю, што рабіла...

Ён бачыў з вуліцы, што яна стаіць ля акна.

Яна засталася тады адна — неразгаданая, незразумелая, блізкая і зусім-зусім далёкая. Чужая. Была суровая, задумлівая. І нейкая як незнаёмая, такая, як і напачатку, калі з'явілася ў Грынях. Рэдка бывала ў клубе, і штовечар далёка за поўнач у яе акне свяціў агонь.

«Доктарскія кніжкі чытае. Вучыцца яшчэ паедзе...» — гаварыла пра яе Пракурорыха на вёсцы.

Было — прайшло. Надыходзілі выбары,— і зноў Галіна сядзела ў клубе ў прэзідыуме разам з Васілём Міронавічам, разам з ім хадзіла па хатах да выбаршчыкаў, заставалася дапазна ў клубе на рэпетыцыях і танцах.

Але мінулае, відаць, не забывалася: дзяўчына была адна-адной. І доўга. А тады прыехаў Леанід.

...Баляць рукі ад рычагоў. Сёння Аркадзю давялося іх патузаць.

Ные спіна ад доўгай сядні, шуміць галава ад грукату. Трактар — не конь: іржэ, не сціхаючы.

Чарнее ўзаранае поле, яно як бы пашырэла: сасновы перашыек адсунуўся пад самую пасеку да Доўгіх. А можа, гэта яны з трактарам за дзень наблізіліся за Закалюжжа? Пад бокам ужо на дзядзінцы хата канцавога Андрэя.

Да логу, дзе заварот, стала зусім цяжка праехаць, і Раман пускае плугі поверху. Грузне трактар, чэрпае гусеніцамі глей, з кожным кругам усё глыбей лезе ў сівы пясок, у падзолу. Побач на лагу сажалка, поўная вады.

Іржавыя плугі яшчэ валакуць гразь, сунуць перад сабой пясок, не хочуць адкідваць скібу. Зноў трэба спыняцца, падымаць плугі і шараваць іх развадным ключом...

Сонца аццяжэла, пабольшала, плыве на лес, туды, дзе дымы над смалакурняй. Гусцее над выганам смуга, цямнее далёкае Асіпаўскае. Надвячоркам неяк шалёнаракоча матор,— можа, гэта трактар вязне ў размяклай зямлі?

Чуваць, як крычыць Пэрац, як падымаецца, грукае кулаком у кабіну, калі не паспее выхапіць з зямлі плугі. Трактар не чуе, верне ўсё наверх: глей, іржавы сіпак, белае каменне. Налучыш яшчэ на падземны валун — пакалечыш плугі...

Яны спыняюцца, асядаюць, робяць з горам разварот,— і зноў па сухім падымаюцца пад гару, у Ваўкаўню.

Ад Ваўкаўні да логу, ад логу да Ваўкаўні...

Заселі яны неўспадзеўку. Раман барабаніў ключом па кабіне — значыла — даць назад. Пакуль Аркадзь пераключыўся на задні ход — матор заглух,— трэба вылазіць корпацца. Зноў захлопалі цыліндры і зноў змоўклі. Аркадзь скокнуў з гусеніцы на раллю. Плугоў за трактарам не было відаць — адна рама ляжала на гразі.

Доўга цяпер прыйшлося адсядаць узад і падымаць плугі. Вылезшы на лог, яны заглушылі матор. Пайшлі да лужыны абмыць рукі і боты; на новы заезд не збіраліся: што тут ля логу за ворыва, калі цераз плугі вада пераліваецца? Ссохнецца глей — як па таку будзе. Ды і годзе, напоркаліся за дзень: і логу напсавалі, і саляркі лішняй спалілі.

— А я ўжо думаў, што селі. Абсалютна. Тут можна заваліцца, што ніякі кажух старога Тодара не выручыць. Больш заязджаць рыскоўна. Для чаго? Лета ўсё напера-

дзе, справімся надарваць матор. А кажух старога нашумеў, аж у газету трапіў. Гэта ж наш Лёнька пісаў?

— Ён. А хто ж. Давай, Рамац, закругляцца. Трактар пад Бусліныя сосны я табе гнаць не дам, запром яго сёння на нашу ферму. А сам пачапаеш пацíху. Пылу няма, лёгенька да захаду яшчэ на вячэру свежую прыскочыш.

— А я думаў ужо, сядзем, навечна зарыемся тут. Як і я...

Рамана, відаць, упарта грызла нейкая свая думка. Ён уздыхнуў, адагнуўся ад лужыны і стаў выігрываць языком, топчучыся па траве ў бліскучых мокрых ботах. Пасля супакоіўся і загаварыў, гледзячы ў вёску і абтрасаючы ад вады рукі:

— Я сёння ўвесь дзень думаў пра сябе. Ну... і пра цябе. Асеў я на трактары назусім. І хай дае бог ці яго няўдалы слуга ойча Сабольскі перасесці мне калі-небудзь за шафёрскі руль. Уграз я, як мы сёння. А ты... Ты пойдзеш вучыцца, паступіш. У цябе дзесяць, стаж. Бяруць такіх. За інжынера выйдзеш. А ў мяне і сямі няма... Цяпер і калгаснік з маё — не мода. Можа, калі яшчэ раз захочацца свету пабачыць — гайсану зноў на торф. Ды мне і асесці пара... Ведаеш. Не знаеш? Во-о... Нінка мне нічога не кажа, а бачу — будзе ў мяне сын. Такое яшчэ чорнае цыганя на свет з'явіцца, як мы з ёй абое. Парадуе. І мяне, і маю Ганулю. Адгуляў я сваё.

— Браў воўк, і ваўка ўзялі, кажаш?

— Ты думаеш, мне надта ўжо і дзеўкі былі ў галаве? Зусім я пра іх і не думаў. А пападзецца, бывала, якая пад рукі, дык... Не так, як ты... А ты ці прызнаўся хоць Галіне, што любіш? Маўчыш? Дзе ты скажаш... Што ж, віні сябе. Калі дзіця не плача — маці не чуе. Цяпер хоць на ўсю вуліцу раві і стагні, што любіш, дзяўчаты не вераць. Абсалютна. А ты хочаш, каб табе па вачах паверылі... Нічога, вывучышся, прыгабардзінішся, не такая яшчэ фіфа знойдзецца. Сама тады прызнаецца. А Нінцы я прызнаваўся. Не верыла спачатку, ані, не папускалася. А тады... Гаворыць раз, што сніла сад. Яблыні ў такім цвеце, не прайсці. І я там з ёй... Вось і разбяры дзяўчат: не мне, а ў сон свой паверыла. Ды я-ткі яе палюбіў. А да яе і любосці той не ведаў. Цягнула толькі дзяўчыну якую лапнуць, а душа сухая была. А цяпер часам, бывае, і заплача. Толькі я Нінцы пра гэта — ні гуку. Скажам, мы ж з Нінкай адхіліліся ад дзедаўскай нормы. Вяселле ж не згулялі. Але я маўчу. Сын будзе, ведаю, ды не кажу ёй пра гэта.

Хай сама яна пра ўсё мне першая скажа, бо падай моду, што з паўслова яе разумееш — уссядзе потым. Абсалютна. А наперадзе многа жыць. А папусцішся чуць — ужо табе не быць самім сабой... Канешне, буду яе слухаць, і вяселле можна будзе грымнуць, калі грошай збяру...

— Спазніўся ты з вяселлем. Сабольскага няма абвянчаць цябе...

— Тэк... А ён бы мяне абвянчаў пасля таго, як мне ў Чар-чагу давялося яго пераэкагнаць...

— Ну-ну...

— Хаця, каб на цяперашнюю галаву, то не стаў бы ў тым Чар-чагу душу пэцкаць. Не сунуўся б. Выжляціна тады ўгаворваў. Ён-то рукі пагрэў, а мне выкінуў там... Я нават сёння гатоў аддаць Сабольскаму ўсё тое назад... Але ж і ён награбіў у старых баб.

Раман памаўчаў, пасля зноў узяўся за сваё.

— Знаеш што, Арка, я ўжо адгуляў, годзе. Сам кажу. І ведаеш, пасля першай блізкасці з Нінкай неяк мяне перастала цягнуць да другіх. Абсалютна. Тут, відаць, ёсць розніца, калі па любві і калі не. І што я табе магу сказаць? Ты ў мяне пытаўся ўчора, ці доўга я яшчэ думаю жыць са сваімі перажыткамі... А я скажу — не з перажыткамі, а са сваім характарам. А характар мой — гэта мой. Благога я ў жыцці не зраблю. Піць я многа не буду, лаяцца таксама. Нінку люблю. Будуць сыны. Да чужых жонак не пайду. Хіба, можа, калі ўспомню маладосць. А можа, і не ўспомню, хто знае. Мне ўжо, мусіць, як старому трактару, толькі па мяккай раллі хадзіць... Табе трэба, Арка, чапурыцца. У цябе ўсё наперадзе — вучоба, любоў. Падумаеш, нейкая там белагаловая сказала, каб за ёй не бегаў... Плюнь. Знайшлася мне... Васіля адшыла, цябе... Шукае некага. Я ж казаў, што яна гарадскога мае. А мне яна не падабаецца. Першы раз кінулася ў вочы, а прыгледзеўся — як і ўсе. Мая Нінка — не горш за яе. Слухай, Арка, любоў, брат, браць трэба. І ў сапернікаў, і ў саміх каханак-галубак. Нінка мне казала, падабаешся ты Галіне, толькі нешта яна цябе палюбіць не хоча. Любоў браць трэба.

— Добра, што табе ўзяць удалося. А адзін браў, дык вунь... Нінка не расказвала?

— Э-э-э... Гаварыла. Тут яно так выйшла. Знайшоў па кім раўняцца. Ты, брат, на мяне, на мяне кірунак бяры...

Раман зноў пачаў паласкаць рукі ў цёплай лужыне. Нагнуўся над вадой і Аркадзь — глыбока на чыстым блакіце замітусіўся ягоны цень і знік.

— Арка, а я ледзь быў не папаўся са сваімі любоўнымі штучкамі. Абсалютна. Я табе даўно меўся расказаць. Цяпер я нават вунь як рад, што жанюся з Нінкай. Мяне ж Выжлятнік з Куцкам у Камене ў прымы да Анткавай Малгосі хацелі загнаць, да паліцая да таго. Ну, ты знаеш... У яго яшчэ золата яўрэйскае ёсць, ад нямецкіх пагромаў засталося. Дык яны на гэта білі, бо дачка — малпа. Перастарак. За мяне мо ўдвая гадоў мае. З паліцаямі яшчэ пры немцах цягалася. Абсалютна. Толькі мяне да паліцэйскіх на залатым ланцугу не зацягнеш. Дарожка да іх хрэнам зарасла. Абсалютна. А быў колькі разоў, бо п'яная галава ўсё рабіла. Выжлятнік ёю варочаў. А Антак — падкалоднік яшчэ той. Адседзеў за кроў людскую дзесятку, вярнуўся і плявузгае п'яны такое, што... «Аддзячым,— кажа,— аддзячым. Тшымай, Антак, цэну...» Во што ў яго ў галаве, паліцая кавалак...— вылаяўся Пэрац,— аддзячыць збіраецца... У Польшчу з Куцкам усё рыхтаваліся, шушукаліся. Ну, і я з Малгосяй ужо рушыў бы туды... Ха-ха-ха... А ў Польшчы цяпер тое, што і ў нас. Такім і там не месца, не разгуляюцца надта...

Раман раптам утаропіўся ў бок рэчкі, дзе кусты. Яны вялі ад сасновага зашыйку паўз лог. Прыўзняўся, заціх, пакратаў мокрымі пальцамі, пасля стаў выціраць рукі.

Аркадзь зірнуў цераз плячо. Ля Ваўкаўні чарнела поле, над лесам у тым баку рдзелася неба: сонца вісела над самым Закалюжжам над хатамі. Застыла, не ўздрыгне. У кустах пад рэчку забялеўся вячэрні туман, распоўзся, як дымок ад вогнішча. Там недзе турчалі жабы. На Доўгіх крыніцах плакаў адзінокі жораў, голасна, назойліва, чуваць было ажно тут, ля вёскі.

Аркадзь нічога не бачыў.

— Гэй, рыбка!.. Ану плыві пад наш бераг...

Раман некага клікаў.

Аркадзь яшчэ не скора ўгледзеў Раіну. Яна тулілася ля кустоў, кралася з Ваўкаўні сасновым зашыйкам, пасля логам да моста. Згіналася, шчыпала маладую травіцу. Ішла дадому ў Грыні, паволі, цяжка: валакла пудовы кош ад калгасных капцоў, дзе, відаць, разам з закалюжынскімі бабамі перабірала бульбу. Але ж адтуль усе даўно пабрылі ў вёску.

Яна б і не прыйшла да іх, божа барані, калі б Раман не падскочыў да кустоў і не ўзяў з рук у яе кошык. Прынёс яго да Аркадзя, да лужыны, сеў на ручку, глядзеў Раіне ў вочы і свістаў. Пасля прыплюшчыўся:

— Што, даражэнькая, на лажку робіш пасля працы? Арамацікам дыхаеш і муражок маладзенькі скубеш, га? Ранавата, раненька на ўловы выходзіш... Сонца яшчэ добра не прыгрэла...

Яна маўчала, хавала пад фуфайку рукі. Нарэшце загаварыла злосна, голасна:

— Крапіўкі назбірала... Можа, у мяне есці вясной няма чаго!..

— Ды я не сляпы, бачу, што і пад крапіўкай у цябе, Раінка...

— А ты не совай носа не ў сваю дзірку...

— Ціш... Пацярпі, рыбка, пацярпі, пакуль мы табе кручок з жабраў вынем...— Раман усхапіўся з кошыка і перавярнуў яго, пасля падкінуў нагою.— Да крапіўкі, значыць, бурачкоў калгасных, га? Свежанькіх, з капца толькі, чырвоненькіх, рэпкі наадкідала. А-а-а!.. Гэта ж табе нарад перабіраць іх быў. Перабрала, значыць... Ну як, думаеш, добры халаднічок зварыш? Гм?.. Цікава, што ты цяпер запяеш?

— А бандзіт... А гладамірнік... А гарэлачку маю піў... Хай ужо старшыні бяруцца, а то і сапляк і пачынаюць... А-а-а... Хабаль... Ты Нінцы, вунь, свет завязаў... Чаму не жэнішся? Кінуць так хочаш? Не ўдасца. У суд падасць...

— Цішэй, рыбка, а то зноў на кручок! Лепш бы я ў той час заціркі міску выпіў, чымся тваю злынь смактаў... Знаеш, чаму не жанюся? Дзяўчатак шмат на свеце. Чула? А пра суд ты праўду сказала. Бачыш, хто ля трактара стаіць? Аркадзь Дышлевіч. Як ты думаеш, у яго вочы павылазілі ці не? Сведка першакласны. Чалавек — душа, калі, можа, я не падыду, каб на цябе пасведчыць. Хаця аднаго тут малавата. Паглядзі, хто ад рэчкі едзе? Бачыш... Гэй!.. Платон! — Раман замахаў рукамі.— Вярні да плоту! Тут самагонкай доо-б-рай запахла...

Аркадзь маўчаў, перакочваў толькі нагою буракі. Памыў быў адзін у лужыне і падсунуў да Раіны:

— Нішто, адборныя. На гародах ля фермы, здаецца, раслі. На суперфасфаце. Спецыяльна для цябе. Слухай... Дык я ж цябе ўчора такой парой з гэтым самым кошыкам ля ракі бачыў... Крапіўку ўсё, як і сёння, шчыпала. Ясна. Каторы ўжо дзянёк...

— І ты?.. А граматны, а культурны... Вучыўся яшчэ... А каб уважыць старой бабе... Усе, усе... Усе на маю галаву. Наце, ешце мяне!

— Рыбка...— Раман цёпкаўся ў лужыне: танцаваў-

віхляўся ля Раіны.— Есці гнілушачку ніхто не стане... Мы цябе самую так акуратненька накормім калгасным, што адверне на ўсё жыццё, рыбка. Га?.. Га-га-га...

— А не адна я... А не адна я...

— А ты, рыбка, хаўкнеш разок-другі — і мы пачуем, хто яшчэ з табой.

— Ануля... Ануля мяне выдала. Вось хто яму раней другіх капае. Бач, расплявузгала сынку і старшыні недзе ў вушы ўвяла. Сама не зачапіла, багатая такая...

Пад'ехаў Джвучка.

Ён з вясны вазіў з фермы жыжу на Лавацкае поле. Прымайстраваў сам у кузні да перадка бочку і праклаў ад кароўніка ля плота дарогу да моста. Цяпер ён сядзеў на пустой бочцы, як балагол, загарэў, стаў зусім буры. Здавалася, на вясну памаладзеў, паспраўнеў. Пад'ехаўшы да самага трактара, ён саскочыў, падышоў да іх і моўчкі стаў ляпаць пугаўём па парожнім кошыку.

— Ну дык збірай, Раіна, свае ягадкі, парассыпала... Ды адвязі на ферму. Месца на калёсах знойдзецца... Там якраз старшыня недзе...

— А-а-а... І ты за старшыню стаіш? Выкінулі табе скарынку на сходзе, дык ты і ў гнаі гатоў капацца... І ён ужо за старшыню, падумайце толькі... А той што? Не помніш, як табе фігу на праўленні ткнуў быў? Гэта мы, калгаснікі, табе помач далі, а не ён...

— Бачу, Раіна, не хочаш ты згінацца...— Платон прысеў і пачаў кідаць у кошык па бураку.— Не-е... Старшыня мне памог тады не адным дык другім. Каб не ён, мне на працадні цяпер бы ніхто не выпісаў... Памог. Пагледзеў, як я жыву, уважыў і памог. А кошык твой у кладовую завязу. Пераначуе які раз і не ў цябе дома... Хе-хе... Памажы, Раіна, а то палец мне баліць, учора сок з бярозы спускаў, пасек, чорт...

— А-а-а... Сам жа быў такі...— Раіна аж шкуматала на галаве хустку, з-пад якой выбіваліся растрэпаныя чорныя валасы.— Не мы з табой ад малатарні пшаніцу бралі? Не мы? А цяпер... Думаеш, палепшаў? Знаю, чаму ў гнаявозы палез, знаю. Конь свой у руках, часу хапае. Летам зноў будзеш Лучкі абкошваць у Цянях і звозіць сянцо на конік... Во-о... Перашарсціўся як, скажы ты. Я ўжо ў яго злодзей, а сам ён чысценькі...

— Ну-ну... Не помніць свіння палена, а помніць, дзе ў чужым карыце ела... Не нас з табой пад суд аддавалі? З працаднёў вылічвалі? А можа, мне ўжо абрыдзела па су-

дах цягацца?.. Можа, мне яны, як горкая рэдзька, жывот праелі? Можа, я і табе хачу тое самае сказаць?

— А можа, і я апошні кошычак узяла, адкуль ты ведаеш?

— А пра гэта ў цябе распытаюць...

Конь з бочкай звярнуў ад трактара і пацёгся дарогай да плота.

— Тыр... Тыр... А гэта ад праўлення залежыць, Раінка, як яно паглядзіць на цябе і на мяне...— Дзвучка з кошыкам, кульгаючы, пайшоў за канём.

Ля Раіны засталіся хлопцы. Яна крычала на ўвесь лог: рвалася «расшчапіць галаву» Платону, яе неяк трэба было ўціхамірыць.

— Слухай, Раіна... На свеце ёсць бог... Бо пра каго пазвоняць, таго чэрці адразу гоняць. Глянь, хто там ля зашыйка... Каня, вунь, у руках вядзе. Станіслаў Пракопавіч. Глыбіню нашу вымярае... Сюды кіруе, рукой махае здаля. Можа, рыбка, яго пачакаем?

Пэрац змоўк, і на лагу зрабілася ціха.

Раіна раптам завярнулася і патрусіла ля платоў да моста.

Хлопцы пастаялі яшчэ і пайшлі раллёй насустрач старшыні.

...Трактар заглух на ферме. Цішыня занялася цяпер на ўсю ноч. Пачынала шарэць. Туман споўдаўся ля рэчкі, цягнуўся ад моста ўздоўж платоў аж у вёску.

Пахла дымам, сырой зямлёй, раллёю. Рыкала скаціна, і нехта моцна галёкаў у канцы вёскі. Рыпелі асверы, і крычалі на вуліцы дзеці. Шумела рака, суцішана, глуха — улягалася, улезла ў берагі пасля паводкі.

На выгане было сыра і халаднавата. У вочы лезлі камары і мошка.

Раман пусціўся шпарчэй, думаў, можа, дагоніць на Лавацкім полі Раіну. Аглянуўшыся, ён убачыў яшчэ на ферме Аркадзя са старшынёй.

На Доўгіх крыніцах крычалі гусі. Калі яны змаўкалі, ім недзе здалёку адклікаўся адзінокі жораў.

## 2

Дагарае дзень. Над лесам, у бок Камена, тлее вогнішча, над ім праразаюцца вострыя барвовыя палосы, пасля бялеюць і спаўзаюць да зямлі.

Сеецца, дрыжыць мрок. Здаецца, чуваць, як нехта ўгары водзіць далонню па шурпатым палатне-рэшаце. Ад нязвыклай цішыні пасля трактара шуміць у галаве.

Лавацкія сады застаюцца ўбаку. Раіна, відаць, звярнула на сцежку і схавалася за шэрымі дрэвамі,— яе не відаць. Раман далей не пойдзе следам, яму не па дарозе. Ён скіруе на лог, на шашу і адразу выйдзе ў другім канцы Грынёў — ля самага дому.

У садзе і на Лавацкім полі туман ля самай зямлі. Бы гэта днём там падсявалі сухі суперфасфат, падня́лі пыл, і цяпер ён доўга не хоча ападаць долу.

На лагу ў яміне, дзе была некалі сажалка і дзе цяпер поўна верхаводдзя,— заходзяцца жабы. Манатонна, дзяркатa. Яны збіваюць думкі: турчаць, як матор на вялікіх абаротах, хоць вушы затыкай.

Сажалка — у вербах. Гэта чырвоныя вербы, помніць Раман. Яны разгалістыя, з доўгім веццем, што вісне аж на лог у цішу, што шалёна трапеча і свішча пад ветрам. На лагу адны вербы, толькі ўжо далей, туды, пад Грыні — ля шашы — атабарыліся прысады.

Вербы зусім блізка ад сцежкі, яны цяпер у катках і таму ў мроку белыя, як у снезе.

Ад іх цягне мядункам, як летам з поля ад грэчкі; набрынялыя пупышкі вярбы пахнуць смаліцай; на лагу патыхае зямлёй і леташнім старым сенам; як свежаспечаны хлеб, зрывае нос падсохлая ў садах ралля.

За Грынямі, пад Гальдарадай, ракоча трактар.

«Глядзі, і нанач выехалі, не спіцца. Хаця з той брыгадай не зраўняешся: у іх суха, што на печы; і ўдзень і ўночы вярні»,— падумаў Раман.

Нарэшце трактар змоўк і пад Гальдарадай.

Цішыня зноў наганяла думкі.

Несуладдзе ў душы, што прыйшло з вясной, у апошнія дні ўсё больш і больш змушала Рамана зірнуць на сябе збоку,— бы ўсё адно як з дарогі на маладую прысаду, якую гнулі, рвалі [illegible] зямлі з карэннем вятры, а яна расце, цягнецца ўвышкі, раўняецца на астатнія дрэвы.

Пара прыйсці да галавы па розум. Пара пасталець...

Ад дарогі на лагу — бугрына. Перавернуты трактарам дзірван дзічаў тут усё лета: сюды не дайшла каса. Збуяў сівец, яго не спасвілі і скацінай: улетку травы хапае.

Сівец высах ад сонца і вострага вясновага ветру, шуршыць пад нагамі, што свежае ржышча. Не стрываць, цягне, аж згінае да зямлі,— хочацца ткнуць агню. Хай выка-

ціць старая гніль-трава,— як тады пасля цёплага дажджу зазелянее лог... Гэтак было ўсе вёсны...

Запалкі ў кішэні, шастае карабок па кожным кроку.

Раман прысядае на калені. Лускае запалка, ломіцца ў пальцах, але ўспыхвае і гарыць. Ён тыча яе ў натапыранае ахвосце сіўцу. Трашчыць леташняе разнатраўе, пішчыць, сквярэцца, але не хоча гарэць: спадыспаду сырая зямля. Яшчэ каб днём, ды з ветрам...

Запахла гарэлым. Над логам павіс клубок дыму, як белай ваты, і павалокся, расцягваючыся па лагчыне пад сажалку.

Сівец не ўзяўся гарэць і вышэй, сюды, дзе шаша.

Дастаўшы папяросу з вялізнага чорнага скуранога кашалька, Раман закурыў. Кашалёк служыў яму за добрае сховішча для папярос, калі згубілася лёгенькая алюмініевая табакерка,— яшчэ летась вытраслася з кішэні і недзе трапіла пад плуг у баразну.

Папяроса была апошняя: скурыў усё за дзень, ды і Тодара ж раніцай частаваў у канцылярыі.

Кашалёк матляецца ў руках, што ануча. Стары ён,— колькі ўжо год носіць яго Раман,— ды і не ягоны...

Раман часта думаў, як яму давялося прыдбаць гэты «партманет».

Нялюдскай дарогай прыблукаў ён да яго...

Даўно гэта было.

У горад яны тады прыехалі ноччу. У самым прадмесці пераняў дождж, вымачыў да ніткі і Рамана і Платона. Яны ўдвух туліліся ў кузаве на мяхах. Брызенту не мелі. Шафёр не калгасны, прысланы на ўборачную,— машын у калгасе яшчэ не было.

Яны везлі нарыхтоўку на дзвюх машынах. На другой быў Мірон Выжлятнік, тады ён яшчэ хадзіў у калгас.

Яны прыехалі за грузчыкаў. Ім толькі скінуць мяхі на склад і на тых жа машынах паспець вярнуцца назад,— дарогі не спалі ў тую пару.

Завярнулі на склад недзе на Даўгабродскай вуліцы. Сталі ў чаргу. Шафёр адразу счапіўся быў лаяцца за месца: яго падцiскалі з двух бакоў «студабекеры».

Пастаялі з гадзіну, дачакаліся чаргі. На машыны ўскочылі дзве лабаранткі ў белых халатах, узялі пробу. Вільготнасць — дзевятнаццаць. Склад не прыняў зярна з такой вільготнасцю, як ні прасілі доўгабародага інтэлігентнага лабаранта. Трэба было сушыць, не везці ж збожжа зноў дадому. А дзе? Як? Няма брызенту. Нервуецца, лаецца

шафёр. Нарэшце барадаты лабарант сам прынёс аднекуль брызент, памог адваяваць у нейкага калгаса месца пад паветкай. Цягалі мяхі з дзвюх машын усю ноч. Назаўтра распагодзілася аж пасля палудня. Толькі рассыпалі ячмень на брызенце — схмурэла. Хутчэй сталі зграбаць яго ў кучу. Другі дзень быў увесь хмурны з рання да вечара. Рабі што хочаш, хоць гвалт крычы. Распагодзілася добра толькі яшчэ праз дзень. Ячмень крыху падчэрсцвеў — зноў узялі пробу. Не праходзіць: засмечаны. Далі трыер — чысціце, калі не хочаце везці назад.

Зноў усё пачалося спачатку. Апрыкрыў Раману гэты ячмень, як ліха якое. Толькі Выжлятнік з Платонам не шманалі. Першую ноч трывожыліся ўсё, цмокалі, што грошай з сабою ўзялі на суткі, кідаліся сюды-туды, пакуль нарэшце не прыцягнуліся аднекуль з бараку п'яныя. Тады ў іх і пачалося. Дождж — няхай сабе дождж; чысціць — давай чысціць,— абы даўжэй пабыць пры дабры.

Скажы ты, памятаецца ўсё, жыве ў мазгах ад таго. Можа, што Раман тады першы раз трапіў у горад?

Выжлятнік пасля бараку адразу паспакайнеў, а неяк, вярнуўшыся позна ноччу пад павець, заявіў:

— Галадаць не будзем, прама скажу.

Яны і не галадалі, галадаў толькі Раман, круцячы ручку трыера і лапацячы ячмень. Выжлятнік прыносіў яму да хлеба яршыстую камсу, якую ніяк нельга было праглынуць.

— Мілы, смесь сялёдкі. У гастраноме браў. Дваццаць шэсць за кіло.

Ад «смесі сялёдкі» толькі страшэнна хацелася піць.

— Мілы, на ваду часта брэшаш. Паменш трэба давіцца...

— Не памрэш за дзень-два. Прывыкай...

Раз уночы Раман налучыў на Выжлятніка з Платонам. Яны насыпалі ў мяшкі ячмень з-пад трыера.

З яго ўзялі слова, што «нідзе не пікне». Пасля гэтага перасталі марыць «смессю сялёдкі», клікалі да сябе. Цяпер і елі і пілі разам, ды і грошы дзялілі на траіх. Раман помніць, колькі перапала яму. Купіў тады шэры брызентавы плашч, бо куплялі яны, узяў у ларочку і скураны кашалёк, бо бралі і тыя...

Згарэў даўно ля вогнішча плашч, тады, калі Раман першы раз плугарыў ноччу...

Ён сціскае ў руцэ халодны кашалёк. Вынасілася скура, зрудзела, працерлася. Павыцягваліся з беражкоў ніт-

кі, згнілі ад поту. І сама скура чуць ліпіць. Ды жывая памяць...

Халодная чорная скура пячэ пальцы. Пахне махоркай і яшчэ нечым старым, кіслым...

Раман размахваецца з-за пляча...

У сажалцы заплёскала, пасля боўтнула, бы на дно пайшоў цяжкі камень.

Раман выйшаў на шашу, звярнуў дадому. На душы стала ціха; лёгка ступалася па свежай пасля зімы сцяжынцы.

Раптам забылася ўсё на свеце — і Раіна, і Выжлятнік, і той кавалак скуры, куплены за крадзенае, якую цягаў з сабой колькі год. Захацелася ўбачыць Нінку, моцна-моцна, як мо ніколі раней.

«Пераапрануцца б толькі ды павячэраць...»

У вёсцы ўспыхнулі агні. Веснавая ноч застыла над Грынямі.

У альшэўніку, што за шашой пад рэчку, прачыналіся на нач дразды.

Раман спяшаў.

### 3

Красавік — месяц паху.

Зямля ажыла, угрэлася, набухла, як цеста на дражджах; здаецца, падышла на полі ўзмешаная з восені ралля: нахіні долу вуха — чуваць, як пыхкае, ходзіць хмель... Яму цесна ў зямлі, ён рве на волю.

Зямля пахне хмелем.

Лес апяклі суровыя, калючыя ад гарачага сонца вятры; асушылі яго ад слізкай смугі, атрэслі адмерзлае за маразы шылле; загулялі-загулі па чорствых верхавінах, бы гэта пабегла па смалістым сухаверсе траскучае полымя.

Лес загарэў пад вясновым сонцам, пабурэў ад ветру.

Лес пахне воскам.

Высахлі, высыпаліся верасы,— адны дудкі. Але гарыць сям-там маленькае вочка ад леташняй асенняй верасовай кветкі, ірдзіцца барвінкай-кропелькай. Крані нагой сухую галінку — вочка пырсне на жоўта-чырвоны падапрэлы пад снегам бруснічнік, пакоціцца з лістка на лісток і стухне недзе ў счарнелым імху.

Угрэтыя верасы пахнуць чаем.

Тырчаць сіўцы скрозь па ўздарожжы, высокія, густыя, зялёныя ад зямлі, бы і маразоў не было ўвосень. Пасека

аж белая ад іх,— нібы гэта не сіўцы, а ржышча выгарала, адлежалася пад сонцам, вымакла, як каноплі ў вадзе, а цяпер зноў узнялося шчоткай.

Высахла папараць, паўставала з зямлі, прычасалася; цяпер яна зусім маладая, бы і не мерла, а толькі змяніла свой колер за зіму. Здаецца, хай пойдзе суткі цёплы дождж — папараць зазелянее, пусціцца ў рост і дагоніць малады сасняк.

Папараць жоўтая, буланая, а месцам чырвоная, як агонь. А можа, гэта лісіцы туляцца ля ялінак, натапырыўшы хвасты? Сухая папараць шорсткая пасля зімы. Ашмаргні галінку — абрэжашся.

Ад сухой папараці патыхае сухім дрэвам.

На ўздарожжы адны лужыны. Пад ялінамі, што звесілі каструбаватыя лапкі долу — яміны, поўныя вады. Вада жоўтая, яна настоена на баравых імхах, яловых шышках, ацярушаных багунах, верасах і на кіслых-кіслых з-пад снегу журавінах. Яна поіць засмяглыя ў сіверы і цяпер прагныя да жыцця старадаўнія яліны і сосны ў спакойным Чар-чагу і ў цёмным Асіпаўскім.

У гушчары, уямінах-лужынах кісне снег, вада пеніцца, як саладуха, па ёй плаваюць кавалкі льду, што праснакі.

Пахне цёплым бярозавым сокам і свежай рошчынай.

У бары высыпала сон-трава. Блакітная: яна пабялела ўжо ад сонца. Гэта ўчарашняя. А сённяшняя — цёмна-сіняя — заслала сукавеццем мох, парыжэлую дзеразу, зялёны чарнічнік і шэрыя сасновыя шышкі. Лезе з зямлі і сама не ведае дзе — на ўспоратай леспрамгасаўскімі цягачамі-тралёвачнікамі пясчанай дарозе, на ўтаптанай-убітай сцяжыне; уздзірае, варушыць жоўтыя бугорчыкі пяску над кратовымі норамі, бы гэта ніяк не асмеляцца пасля зімы выткнуцца на свет заспаныя, худыя зямныя паркупы.

З пасекі цягне сырой зямлёй: абсыхаюць пні, лаўжы, ад іх яшчэ тхне смалою, палыном.

Ля пнішча на шорсткіх белых імхах высыпалі першыя грыбы — смарчкі. Цёмныя, слізкія, млосныя,— гэта ад цяпла і сырасці. Ад іх пахне далёкім грыбным летам.

Ад пасекі пад Ваўкаўню, калі мінеш Чар-чаг, узбоч дарогі старыя партызанскія акопы мінулай вайны. На дне ў іх чорная вада; з накопаў-брустведаў спаўзае, цярушыцца пясок, булькае ў вадзе каменьчыкамі-жарствой,— ён сохне на сонцы.

Акопы параслі маладым бярэзнікам, высокім, гонкім,



Іван Пташнікаў
пасля заканчэння Плешчаніцкай
беларускай сярэдняй школы.
*1951 г.*



Іван Пташнікаў (першы злева) —
студэнт 1-га курса
аддзялення журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна.
*1952 г.*

разгатым. Тут зацішна, на сонцы аж горача, і на галінках выскачылі, наклюнуліся пупышкі, павыступалі кроплі вады-соку. Бярэзнік угрэўся, спацеў, пахне распаранымі бярозавымі венікамі, што ў лазні.

Ад дарогі ад старых акопаў аж да Доўгіх імшар лясніцтва на ўсёй пасецы высадзіла малады лес. Залеташнія разоры пасля снегу зусім свежыя, як учарашнія. Ля мізэрных на пяску сасонак, што яшчэ як трава-куколь, зелянее шыракалісты сунічнік — першы ягаднік вясны.

На сухіх сіўцах і верасах, на высокай лясной жоўтай мятліцы пад сонцам дзінькаюць мухі, трымціць павуціна. З чыстага неба сыплецца сухі звон жаўранкаў. Стогнуць за лесам Доўгія балоты — там аселі журавы.

Заходзяцца ў лесе, аж разрываюцца дразды-белабровікі і берасцянкі. Вылазяць на сонца пчолы, поўзаюць па верасе, як нежывыя.

Дарога з Чар-чага ў Ваўкаўню вільготная, зыбкая, і па ёй лёгка ступаць...

І здаецца, тут жывеш здавён, а горад толькі адзін успамін.

Далёка наперадзе тарахцяць па карэнні калёсы,ляскочуць глуха, дробна. Там Мікіта з падводай.

Галіна ішла пешшу праз увесь лес ад Краснага. Саскочыла з воза, нічога не сказаўшы Мікіту, а той як гаманіўбурчаў усю дарогу, так і паехаў далей. Пасля недзе агледзеўся, што адзін, пакрыўдзіўся, бо не кліча сесці вось ужо праз увесь Чар-чаг, не адгукнецца. Згорбіўся на возе, нават не агляну ўся, але ж і не пагнаў каня.

Здалёку з-за дробнага сасняку за маяком забяleліся новыя будынкі ў Закалюжжы, пасля адразу ж паказалася на ўзгорку ўся вёска.

Галіна дагнала падводу і ўскочыла ў брычку. Зашамацела сена: клятчатая дзяружка скамячылася, скруцілася, з'ехала ў ногі. З-пад колаў уставаў пыл ад сухога жоўтага пяску, лез у вочы. Конь ступаў цяжка — было пад гару.

Мікіта доўга яшчэ маўчаў, не глядзеў на Галіну, потым пачаў з таго, чым кончыў. Гаварыў толькі гучней і шпарчэй, каб, можа, выгаварыцца да вёскі і больш не чапаць задумлівага сёння дзяўчаці.

Галіна спачатку не слухала яго. Ёй успомніліся сённяшнія роды, рыжавалосая дзяўчынка, што з крыкам на ўсю хату запела пра сваё права жыць. Білася цвёрдымі ручкамі, моцная, камлюкаватая.

— Гэта, што без бацькі...— цмокае Мікіта.— Ад лес-

прамгасаўскіх. Можа, нават ад таго здаравілы, што ў нас ляжыць. Яны, леспрамгасцы, такія. Дзе ў вёсцы пастаяць... Я табе проста кажу, бо не люблю такога. А я ўжо вазіў сюды Барысаўну... І да каго б вы думалі? Да гэтай самай Волькі, у гэта самае Краснае.

— А ў яе прыгожы хлопчык вырас,— Галіна падсунулася бліжэй да Мікіты, і той усміхнуўся.— Прыгожы, толькі распушчаны. Ты надумай... Крычыць, што не будзе калыхаць «дзеўкі». Ты скажы. «На чорта яна мне! — лаецца на ўсю хату.— Каб хлопчык. А то — дзеўка...» Во што значыць расці без бацькі пры «добрай» маме. І як яна, гэта Волька, думае гадаваць дзяцей? Маці ў яе старая, хворая. Сама Волька на работу цяпер не пойдзе, на адну дзяржаву спадзяецца...

— Вы ж чулі, што яна кажа. Не? Гаворыць, замуж мне ўжо не зайсці, дык хай хоць дзеці будуць. За кім на старасць жыць, калі «дзеда» няма? Жартуе, а таго не знае, што праўду кажа.

— Я яе ўгавару, дзядзька Мікіта, хлопца ў школу-інтэрнат уладзіць. Там з яго чалавека зробяць. Тады і маці на старасці будзе за кім жыць. А так не. Ты падумай. Гаварыць добра не навучыўся, а ўжо... Во каго біць трэба. Дык жа маці шкадуе, сынок яе любімы. Кажа, нікуды не дам сваё дзіця. Як гэта, кажа, ён будзе расці не на маіх вачах? Я ж і па ім знябудуся, і ён мяне адрачэцца, счужаецца. Зноў адна буду на старасці. А сама не ведае таго, што, гладзячы, калечыць хлапчанё, і паспрабуй тады вучыць яго ў школе. А ў інтэрнаце,— другое ўсё. Чалавекам зробяць. А чалавек бацькоў помніць. Не, я сама ўсё-такі ўгавару яе аддаць хлопчыка ў школу-інтэрнат. Ды і ёй жа лепш, лягчэй будзе, дзіўная яна.

— Вы ўсе за інтэрнацкую школу, знаю. Але ж у бабы сям'і не стане, калі забраць дзіця. Гэта не работа. Мы ўсе здаўна сем'ямі раслі. Хоць без бацькі, дык пры матцы. Сям'я — гэта сваё гняздо. Гэта — прырода. Нашто бурыць яе...

Перад самай вёскай, ля фермы, дарогу ім перабег заяц. Цыбаты, ён выскачыў недзе з саснячку з Ваўкаўні, дзе раскрытыя на вясну капцы з бульбай і буракамі, пратанцаваў па пясчанай дарозе і лупянуў за ферму па чорнай раллі. Шэры, белавухі, ён яшчэ доўга мітусіўся на чорным ворыве, пакуль не шмыгнуў у лазнякі на загуменні.

— Ох... кату твайму мышку!..— аж падскочыў Мікіта. Здавалася, ён рады зусім не таму, што так разгаварылася

Галіна, а што гэта заяц раптам вывеў яго са спакою.— Прырода якраз уладзіла ўсё. Ёй усё роўна, замужам хто ці не. Яна свайго патрабуе, сваё гне. Прырода — гэта... такая штука, што яна не глядзіць табе ў пашпарт, ці ты муж па закону, ці ты пастаялец. Вось як, дачушка, вось як, Галіна Фёдараўна. Так што тут і на тую Вольку вярні як хочаш... Так што тут і на яе і за яе... Прырода — гэта...— Мікіта распачынаў сваю філасофію на некалькі дзён.

Галіна адчула гэта па тону і па хітрых іскрынках у сівых вачах. Так загараліся вочы і ў дзеда Тодара, калі ён кідаўся ў развагі. Так, відаць, яны свецяць ва ўсіх старых, якія думаюць, што ў кожным іхнім слове — новая мудрасць, што абапіраецца на іх сямідзесяцігадовы вопыт; не ведаючы і не падазраючы, што, можа, малады свет за больш кароткі час пераступіў іх мудрасці, з якімі яны самі ніяк не хочуць расстацца і перадаюць нашчадкам як нешта ўстаялае, без чаго і кроку нельга ступіць; перадаюць, паўтараючы з дня на дзень адно і тое ж, часта назойліва і надакучліва, выклікаючы ўсмешку і спагаду, якая б зусім не цешыла старых, каб яны маглі яе ўбачыць, пазнаць.

Мікіта са сваёй старэчай філасофіяй надакучаў Галіне, і яна не першы ўжо раз уцякала ад яго з воза. Не, і старыя бываюць не падобны адзін на другога, хоць і вочы іх, можа, свецяць адным і тым жа агнём. Стары Тодар заўсёды заставаўся бадзёры, малады, любіў работу, у бальніцу прыходзіў толькі, можа, за тым, каб дазнацца ў дактароў, як гэта абмаладзіцца на старасці жыцця, і ні ў якіх знахараў ніколі не верыў ні сам, ні яго бацька, які быў у роце лекарам, як служыў цару.

Мікіта мудры па-свойму. Для яго дзень — пажытак. Прыйшла старасць — ён і ёй рады. А тое, што ён бачыў, што пражыў — закон. Для яго і для іншых. Добра ж, калі чалавек ішоў чалавечай дарогай. Але, відаць, не зусім. Ягоная філасофія, можа, і хіне яго да Джвучкі і Раіны. Ён і Тодара недалюблівае праз яе. Як жа — сапернікі, Пракурорыха не раз апавядала. Галіна ўсміхнулася.

Але Мікіта быў няўстойлівы ў сваёй філасофіі. Толькі што ён збіраўся апраўдаць Вольку, спасылаючыся на прыроду, як зноў жа пачаў мяшаць яе з пяском і граззю, спасылаючыся на неба.

Галіна зноў не слухала яго.

Яны ўязджалі ў Закалюжжа — Мікіта са злосцю пагнаў каня. Міналі хату Дзедзіхі.

З двара раптам выскачыла дзяўчынка з блакітным бантікам у ручках,— за плячамі ў яе рассыпаліся расплеценыя валасы. «Цёца Галя... Цёца Галя...» — лапатала яна. Галіна пазнала Верачку, саскочыла на хаду з калёс на пясок сярод вуліцы.

Дзяўчынка пацягнула яе за руку дадому. Калі яна была ўжо на двары ў Анэты, угледзела, як з лесу выскачылі і мігнуліся ля варот два веласіпедысты. Першы быў шыракаплечы мужчына, сядзеў, звесіўшы галаву. Другі быў Леанід. Галіна здрыганулася. Яна не бачыла яго цэлы тыдзень. Як паехаў у раённую рэдакцыю, дык і прапаў: ні слуху ні духу, не пазваніў нават.

Ёй захацелася выбегчы на вуліцу, але яна спынілася ля парога і доўга пасля не рашалася зайсці ў хату, аж пакуль Анэта не паказалася сама з хлапчанём на руках.

Галіна нешта адказала ёй, можа, падзякавала, а сама думала пра тое, што каб была на возе, то не размінулася б з Леанідам.

Хацелася бегчы, а ногі не краталіся з месца.

А дзе ж Мікіта? Не відаць нешта каня. Як схавалася брычка за вярбой, што на паваротцы, дык і прапала. Можа, Мікіта кінуў яе, Галіну, і адзін, зазлаваўшы, скіраваў на Грыні?

Не, Мікіта не кіне, ён недзе чакае, а тады і сам пады дзе клікнуць.

Толькі хай бы ён прыйшоў і клікнуў цяпер. Яна тады не змушала б сябе заставацца на двары. А так...

Яна пачала супакойвацца, учула, што зусім блізка, ля лагоў, загуў трактар. Па вуліцы пранёсся вецер, закруціў салому з пяском і шпурнуў на двор, у вочы.

Яны схаваліся ў хату. Галіна пераняла на рукі малое і пачала выціраць яму хусцінкай носік. Хлопчык выразна гаварыў «мама».

Відаць не дачакаўшыся, праз колькі часу ў шыбіну ад вуліцы забарабаніў пугаўём Мікіта.

Трэба было спяшацца, бо пасля гэтага ён мог паехаць адзін. Хаця не вялікае шчасце гэтая бальнічная каламажка, якая за вясну адбіла ёй усе бакі.

Але Мікіта не паехаў і другі раз зайшоў за ёй аж у хату.

Расчынена акно.

З двара ў сцяну б'ецца вецер; сюды, у акно ад вуліцы,

ён далятае зусім аслабелы, ледзь дыхае, варушачы белаcінюю фіранку.

На ёй застыў жаўтаваты павучок. Маленькі, лёгенькі. Здаецца, гэта не вецер гуляе з фіранкай, а ён люляецца на цяпле і волі — знайшоў забаву!

Павук — гэта навіны, кажуць у Грынях.

Вясновы ў сонцы вечар прыносіць ціхія думы... Сыпле іх адтуль, з поля, з-пад Лавацкага саду, дзе дзявочая песня; з прырэчча, дзе ў разгалістых старых ліпах-прысадах ля бальніцы не аціхаюць дзіцячыя крыкі.

Бальніца ў Грынях — у садзе. Сад амаль увесь вымерз, засталіся толькі векавыя ліпы, што шумелі над бальнічнымі дахамі. Далей ад бальніцы — школа. Яна збудавана пасля вайны аж там, пад раку, на дзядзінцы. У прысадах толькі адзін школьны будынак — майстэрня. Пачалі будаваць яе на згоне зімы, падвялі пад кроквы і бадай канчаць да лета.

Прысады блізка падступаюць да бальніцы. Між імі алея, дзе праз усё лета стаіць густы, духмяны цень.

«Алея — любімае месца Васіля Міронавіча...»

Галіна ўспомніла і ўсміхнулася. Гэта тут ён прызначаў ёй спатканні зімою, калі трэба было мясіць снег па цаліне, калі сад быў пусты, шэры і сіратлівы.

Алея ажыла вясной.

Першая вясна застала Галіну ў лясным вясковым краі...

У акно, у шыбу, б'ецца жоўты матылёк — мімалётнае дзіця вясны.

З акна Галіне відаць бальнічныя прысады, ферма, Бусліныя сосны і край Лавацкага поля з садам.

Над логам ля ракі крычаць кнігаўкі, яны прылятаюць з Лавак. Песні іх узбуджаныя, трывожныя. Кнігаўкі, можа, больш, чым другое птаства, чуюць вясну, ад таго ім і неспакойна. Яны падаюць за дрэвы, узлятаюць зноўку,— бы адтуль, з зямлі, вецер шпурляе ўгору леташняе высахлае чорна-белае лісце.

На ферме гудуць машыны, ціха, мякка, не так, як зімою. Недзе ў тым баку глуха і рэдка страляе трактар.

Стогнуць Бусліныя сосны: даўганосыя птахі сёлета занялі ў Грынях самадумам нечае шматгадовае прыстанішча, бо ўжо каторы дзень не маюць яны спакою ад несціханых і назойлівых, зморaных і злосных сваіх бяздомных суседзяў, з якімі, можа, нядаўна разам ляцелі праз вятры і горы ў гэты край.

Буслы клякочуць, шыбуюць па лагі, за прысады, пасля, падняўшыся ўгору і склаўшы крылы, падаюць на сосны.

Але сціхае бітва, знікаюць назойлівыя птахі, пусцеюць сосны. Высока над Грынямі ў небе павісае адзінокі бусел.

Гусцее над далёкім полем вячэрняя смуга. Вецер злашчасна скубе фіранку,— спяшае, каб хутчэй аціхнуць нанач.

Плача, замірае, ажыве-ўстрапянецца і зноў ціхне віяланчэль... Сцішана, далёка, бо прыкручаны рэпрадуктар.

Цягне з хаты; хочацца пайсці, стаіцца ў вячэрніх дымах на далёкім полі і слухаць самотную цішу начы, глядзець на лясы, дзе тухне зара, і пераймаць цёплыя туманы, што плывуць з асмужаных Асіпаўскіх лясоў.

Хочацца стаяць там, слухаць, марыць, чакаць. Хочацца згубіцца ў начы, калі падкрадуцца туманы і завалакуць сцежкі і толькі свецяць-ірдзяцца зоры; згубіцца — і каб цябе шукаў той, дзеля каго ты гатова стыць усю ноч на холадзе...

І чаго ён з'явіўся? Каб ёй не спаць начэй і думаць, думаць пра яго?

Галіна злякнулася. Перад вачыма раптам як хто змахнуў далонню спацелую шыбіну. Заблішчалі на вуліцы белыя камяні, што ляжалі ля частаколу.

Галіна адхінулася ад акна — на плячо нехта асцярожна апусціў руку.

«Ты падумай... Не было ж чуваць, каб скрыпнулі дзверы».

Яна павярнулася ўтрапёная.

— Нінка? Ты што?..

Нінка апусціла вочы. Ад гэтага яе чорныя вейкі здаліся яшчэ больш загнутымі ўгору. Твар у яе пахмурны, сумны, што пасля слёз. Каса распаўзлася, звісла на плечы.

— Чаго ты маўчыш, Нінка?

Тая ні слова. Камечыць толькі рукамі зялёны плашчык, відаць, леташні, бо стары і цеснаваты.

— Што з табой?.. Чуеш? Дакуль ты будзеш маўчаць?

Нінка здрыганулася. З касы ў яе выпала шпілька і пакнула на падлогу.

Зноў ні слова.

— У бальніцы што здарылася? Гавары... Не трывож...

Тады на Галіну зірнулі вочы: чорныя, вялікія, нейкія не такія, як заўсёды, можа, што дзяўчына падышла так блізка? Вочы былі вільготныя, бліскучыя, як мокрыя спелыя вішні. Што ў іх — слёзы, туга, роспач? Усё, відаць, разам.

— Не...— загаварыла шэптам дзяўчына.— Я прыйшла... Я хацела цябе застаць адну. Мне ты патрэбна... Я... Я не ведаю, што рабіць... Не ведаю, як быць. Я...

Нінка раптам заплакала на ўсю хату. Пасля зноў сціхла, загаварыла:

— Мне помач патрэбна. А як зрабіць, як рашыцца? Куды кінуцца?.. А тады што са мной?.. Нашто ж я гэта надумала? Надумала, а цяпер не магу. Не магу. А я не хачу, каб нават хто знаў. Каб маці ці каб ён. Я не хачу яго!.. Я не хачу мець ад яго. Колькі мне год, а як жа тады жыць? Мы ж не запісаны. А не кажу яму, маўчу... А што, калі ён тады зусім счураецца? Скажы, кіне ён тады мяне? Кіне, кіне... Сама знаю. Нашто яму сям'я. Ён вольны, ён вецер... І нашто я яго палюбіла...

— Супакойся. Вада вунь у парозе ў вядры. Выпі і перастань хліпаць...— сурова, строга, як хвораму загадала Галіна.

Нінка нарэшце супакоілася. Галіна пасадзіла яе на лаву ля акна.

— А ты адкуль знаеш, што ў цябе?..

— Нічога не было ўжо шэсць нядзель... А ўчора рвала ўсю ноч... І перш блажыла.

— Ну, ясна... Цяжарнасць на першых тыднях... Сядзі, сядзі... Я ж яму, галубочку, сама ўсыплю, калі ў цябе язык адсох... Ты падумай. Сказаць яму слова — баіцца, а на такое — рашылася. Ты ж ведаеш, колькі жанчын пасля гэтага бяздзетнымі на ўсё жыццё застаюцца... А ты не знаеш, што такое сям'я. Не глядзі так — не гады, прафесія мая дазваляе мне такі тон. Я за сваё на рабоце ніводнага аборта нікому яшчэ не зрабіла і не зраблю... Можа, толькі па няшчасцю выпадзе. А ты... Дзіця горкае... А скажы, чаму ты прыйшла іменна да мяне? Заўтра ж пойдзеш да Барысаўны на прыём, яна ўрач, яна хай абследуе і... А я нічога не хачу знаць. І не надумай шукаць якую бабку з нямытымі рукамі ці глытаць што сама. З тваімі ведамі — на той свет ступіш. Ты падумай...

— Галіна Фёдараўна... Галіна... Галя... Як жа я скора пакажуся на людзі... На работу... Я ўсё роўна не перанясу... Ты паможаш, я знаю... Ты толькі так на мяне крычыш... Не крычы на мяне... Што я вінавата...

— Гм... Ты падумай... Я, па-твойму, вінавата? Ды ты і не па таму адрасу прыйшла сазнавацца. Пэрац жыве ў тым канцы вёскі. Яму самая пара слухаць такія песні. Ты скажы. Во скромніца. Ні слова мне пра яго сур'ёзнага ні-

колі не сказала, а ўжо... Хаця я заўважала яшчэ зімой, у капалаце, калі ты пры ім крукам выседжвала. Скажы, кахае ён цябе?..

— Гаварыў...— праз слёзы адказала Нінка.

— Значыць, ён твой муж і бацька дзіцяці. Табе самой не прыходзілі ў галаву такія словы? Маўчыш? Ну дык вось і добра зрабіла, што да мяне прыбегла. Ты іх тут пачула. А цяпер пойдзеш дадому, выспішся і заўтра раніцай, перад зменай з вясёлымі вачыма занясеш сваймУ Раману ў той канец Грынёў радасць. Чуеш? Занясеш радасць. І хай ён толькі спрабуе што сказаць.

— Не. Не... Што хочаш, а не пайду. Я з сораму згару, я рот не раскрыю, каб сказаць...

— Ты падумай... А тады табе не было сорамна?

— Я кахала яго, я кахаю яго... Я баюся, баюся, што ён тады адрачэцца. Ён такі, ён счурацца можа. Я не ведаю, што зраблю. Ускочыла...— Нінка раптам загаварыла раўней, рашуча.— А тое... дык чаму ты так... Цяпер жа дазволена. Барысаўна зробіць. Цяпер дазволена.

— Не ўзнімай крыку, дзяўчына. Барысаўна ціхенька за печчу не стане такога рабіць. А ў Грынях сакрэты ніколі не плеснелі.

— Сама зраблю. Напляваць мне на такога мужа, як Пэрац, напляваць...

Нінка плакала на ўсю хату, рвала, скубла чорную тоўстую касу, колючы рукі аб шпількі.

— Сціхні! Хочаш? Я табе зараз пакажу... І мужа табе не трэба будзе. Ты падумай... Не адскочыла ад зямлі, а ўжо ёй і такога паспытаць хочацца... Ты спачатку радзі, памучся, як твая маці, калі цябе раджала... Яна з сораму згарыць... Падумаеш. Не трэба было давярацца! Я цябе не баюся абразіць, калі ты сама сябе не хочаш паважаць.

Нінка плакала наўзрыд.

— Слухай, дзяўчынка... А чаму ты так смела гаворыш, што твой Пэрац не захоча стаць бацькам? А помніш, што ён на сходзе камсамольскім сказаў?..

— Тады... Тады яму памагалі, тады яго саромілі.

— Не. Тады з яго чалавека рабіць пачалі.

Нінка ўсхліпвала, выціралася хустачкай. Твар яе, усчырванелы, гарэў, як сонца за акном на заходзе.

— Чалавека... Які з яго бацька... У нядзелю вунь... Прывёз аднекуль з лесу снегу на багажніку. На веласіпедзе ездзіў, відаць, шукаў спецыяльна. Прывёз да клуба і цэлы вечар у дзяўчат шпурляўся. Бацька... Абрадаваўся

сняжку ўлетку... А я яму ў галаве? Прыбяжыць, павыскаляецца, нагаворыць, што любіць... А ўчора? Абрадаваў. Раіну вунь збіў... Раіна за даведкай да Барысаўны прыбягала, крычала на чым свет стаіць. Яго ж зноў судзіць могуць...

— Не гарачыся. Даведкі Раіне ніхто не даў, і сіпякі ў яе чорт ведае якой даўнасці і чорт ведае ад чаго. Пракурорыха гаворыць, што яе на тым тыдні ля калгасных капцоў нехта поччу злавіў.

— Каб жа гэта так...— Нінка сціхла, глядзела, не міргаючы, за акно, дзе тырчала з-за частаколу зламаная некім увосень яблыня-дзічка, якую абсыпалі пупышкі, што пчолы. Дрэва пачынала расці нанава, пускала атожылкі з камля. На дрывотніку, што ля студні, куры разграбалі трасочнік і пілі ваду з-пад лёду. У густой смузе над рэчкай вісеў каршун.

Нінка раптам падалася да Галіны,— быццам на яе з двара ў акно дыхнула гарачым ветрам... Бразнула ў сенцах клямка, хтосьці пастукаў у дзверы,— асцярожна, але настойліва.

Галіна адчыніла сама.

— Здаровы, дзяўчаты... Добры вечар...— з-за парога паказаўся Раман Пэрац. Пастаяў, шукаючы нечага вачыма на хаце.— Можна прайсці? — спытаў. Не дачакаўшыся адказу, падышоў да Нінкі.— Ледзь знайшоў цябе. Усё-такі людзі ведаюць, дзе ты ходзіш. Ану, убраць слёзы! Сёння павінна быць на сэрцы, як на дварэ... Абсалютна... І чаго гэта ты сюды слёзкі пускаць прыбегла? З якой пары? Я думаю, магла знайсці і больш раднейшага чалавека, праўда, цётка Галіна Фёдараўна? Думаю, што я маю права на яе слёзы. Большае, чымся вы. Абсалютна.

Нінка маўчала, не падняла на яго вачэй ні разу. Раман доўга сачыў за ёй, тады ўставіўся на Галіну.

Было ціха. Здавалася, людзі сышліся паслухаць музыку, якая цяпер неслася з рэпрадуктара.

— Уставіўся... Непрыгожа рот раскрываць...— Нінка ледзь варушыць вуснамі, шэпча.

— Гляджу на таго, хто вачэй не хавае. Ды прыгожая дзяўчына — як сонца. Калі на яе глядзець — рот сам раскрываецца.

— Значыць, калі на цябе глядзяць разявы, ты прыгожая? — не сцярпела Галіна.

Рассмяяліся моцна, шчыра. Пэрац — на ўсю хату. У Нінкі крануліся бровы, пасвятлеў твар.

— Не будзем, Галіна Фёдараўна, прыціхнем. І я, і вы. І вы можаце, і я магу. Не да таго. Сёння я прыйшоў да вас мірыцца. Гм... Забыўся нават, што першы раз у вас. Здалося, што я тут бываў. Вось гляджу на вас, думаю. У нас жа было нядрэннае знаёмства, калі вы да маці ўвосень прыходзілі? Па шчырасці. Душа нараспашку. Не ведаю, можа, я і ў дурня тады згуляў. Ды вы ўжо недзе і забыліся. Ну так, па шчырасці. Ну вось... Даў тады хібу, калі так. Засыпаўся. Эх, бярозачка... Абсалютны пралік даў. А цяпер позна. Векаваць за мной будуць другія. Так што трэба некаму тут маліць бога за маю грубасць, хай даруе мне Галіна Фёдараўна і хай нехта пагладзіць таму бору яго кудлатую бародку за тое, што Галіна Фёдараўна не кінулася тады Раману Пэрцу на шыю... Уключыце святло, слёзы хутчэй у маёй бярозкі высахнуць.

Святло было зыркае, густое. Па хаце запырхалі два жоўтыя матылькі, што былі стуліліся на падаконніку.

Нінка хавала ад агню твар. Ён быў цяпер зусім белы, і яшчэ чарнейшай выдавала каса, якую яна перакінула на грудзі.

Змоўкла музыка, з рэпрадуктара пасыпаліся сігналы. Усе зірнулі на стол, на будзільнік.

— А цяпер дазвольце, Галіна Фёдараўна, забраць у вас сяго-таго. Адны вы трохі пасумуеце, можа, тады другімі вачыма на Васіля Міронавіча пагледзіцё. Ну, Нінуся, пара нам дадому. Годзе галаву дурыць Галіне Фёдараўне. А я яшчэ зайду да вас, Галіна Фёдараўна. Зайду-зайду... На вяселле зваць. І сведкай у наш сельсавецкі загс пойдзеце... Ну, гэта ўжо вас Нінка прасіць будзе. Абсалютна. Рашыў ачалавечыцца. І матцы сказаў. Ну, бярозка, рушым. А дома параімся, чаму ты чужым людзям слёзкі льеш. Можа, за мяне не рашаешся? Можа, думаеш, знайшла паваляку... Ну-у... Нічога... Сышліся на скорую руку ды на доўгую муку. А мужык у цябе будзе добры: удаўся ні ў бацьку, ні ў матку, а ў праезджага дзядзьку... Галіна Фёдараўна, не сумуйце... А мы, бярозка, парадуем яшчэ грынёўскую Ганулю сёння. Пацалуешся са свякрухай на ляту, паглядзіш, што да чаго — і ў сельсавет заўтра. З ног збіўся, шукаючы. Ну-у... Не па душы, бярозка, што не дома сватаю? Дома толькі вар'ююцца, а на людзях з глузду з'язджаюць... Дай я цябе пацалую, мая бярозка... Га?

— Кінь, Раман, абы-што гаварыць у чужой хаце. Пацалую...— Нінка асцярожна, але строга зірнула на яго.

— Ну-у... запела... Ад гэтага восы не завядуцца, калі і пацалую...

Здавалася, ён ніколі не сціхне. Хлопец быў у вялікай радасці: падняў Нінку з лавы, прапусціў у дзвярах наперад і ўзяў на вуліцы пад руку. Ішоў, расказваў ёй штосьці на ўвесь голас і махаў, махаў рукамі.

Галіна стаяла на вуліцы, пакуль не адчула, што холадна. Свежасць плыла ў вёску з поля, з Лавацкіх садоў. У канцы лагоў сівеў туман, якраз там, дзе села сонца. Неба над Грынямі было свежае і празрыстае.

Ракатаў трактар, на шашы ляскалі машыны. Ля клуба стукаў рухавік. Дзяўчаты гукалі ў халоднай і ядранай маладой начы.

На тэлефонным провадзе, што хаваўся ў жоўтых катках старой вярбы, азываўся позні шпак. Недзе ў бальнічных прысадах плакалі кнігаўкі, не ўкладаліся яшчэ на ноч.

Забывалася пра Рамана і Нінку, думалася пра аднаго чалавека.

Ад моста, з-за павароткі, выскачыла машына, абдала холадам і дымам. З кабіны кіўнуў галавой Станіслаў Пракопавіч.

Не хацелася ісці ў хату. Галіна ўгледзела, што агонь гарэў толькі ў яе адной. Яна вярнулася, каб патушыць святло і апрануцца.

## 4

— Паслухай, Лёнік. Дык ты ўжо іх у газету прапусці, добранька. Ад мяне. Яны ж выратавалі старую. Дзякуй ім, усім дактарам. Надта совісна лячылі месяц. За іх совісныя адносіны... Дзякуй богу, нічога сябе чую. Я прыйшла ўжо да цябе, бо сама ж пісаць не магу. Дзеткі, зрабіце. Я на вас буду помніць доўга ласку. Старшыня казаў, завязе мяне да цябе, дык мне ехаць — дрогка, блажыць. Памаленьку плыву во, праз нагу пераступаю. І на работу так. Вось благая хвароба па гэтай сардэчнай балесці. Яна ж з ног валіць. Ні рукамі, ні шыяй не дае варухнуць. А ў калгасе ж раней і каса была за мной, і конікі за мной, і лянок за мной. А цяпер сэрца зусім ніякае. І жыву з хлопцам удваёчках. Дзякуй жа старшыні, што зусім не кідаюць мяне. Помач выпісалі. Я і цяпер іду, куды магу. А ў мяне так — узяўся рабіць, дык дзень і ноч. Ці ў коле, ці ў мяле.

Дык ты апішы пра іх. І пра дакторку самую, пра фельчарку... Божачкі, што за людзі... Гэтак мяне цэлы месяц

лячылі. Хвароба яна не такая, што лёг і паздаравеў. Але ж добра мне цяпер. Я ж і ўвосень ляжала, і зімой мяне ўзялі на месяц. У мяне ўжо сэрца станавіцца было пачало. А цяпер і хадзіць далёка магу і кошыкі насіць.

Яны ж мяне вунь як глядзелі... Дык ты пра ўсіх дактароў састаў за іх клапоты. Хто я ім? А яны як усё роўна сваё роднае, як сястру. А я перш дурная была. Баліць — а не ішла да іх. Плакала дома, на людзях ныла. А яно ж так: баба — бабе, жаба — жабе,— хадзі па шаптунах, кажуць мне. Было ж. А сэрца — яно і тахкаць перастала. Самлела недзе ад балесці. Я і на шаптуноў наглядзелася. Паскуднікі, во хто яны.

А ўрач — золата. Што за кабеціна... Яна ж заўсёды зойдзе да мяне. «Як вы? — пытае.— А ці даюць якую пенсію з калгаса? — цікавіцца.— Як жа жыць без пенсіі? А сын, Раман, ці пасталеў?» А ён жа ў мяне добры які. Надта харошая кабеціна. А хто я ёй? Няможна ж богу адграшыць за іхні прывет. Дык ты ўжо ж глядзі, дзеткі. Адшкадуй ласкі для мяне...

Насакатала бабка і пайшла. Звініць увушшу, не сціхае...

Самотна аднаму ў хаце вечарам...

Праз шчыліны ў акне цягне гарам: у агародзе маці паліць смецце і сухі бульбоўнік. У шыбіну б'юцца бярозавыя жукі; на мокрыя рамкі ліпнуць камары: таўкуць мак плоймай над парканам.

У гародчыку пад акном лезуць з-пад прызбы зялёныя парастачкі дзікай вяргіні, што цвіце жоўтымі кветкамі і ў зямлі не баіцца зімою марозу.

Дзверы расчыніліся асцярожна. У парозе зашыпела, затрашчала, зачмыхала, бы дзе захліпаў матор,— чалавек сказаў «добры вечар»...

Леанід адвярнуўся ад акна і здзівіўся, угледзеўшы айчу Сабольскага. Той стаяў моўчкі, чакаў, можа, што папрасяць сесці, пасля падышоў да застолля і сам сеў у крэсла.

Леанід спачатку не глядзеў на айца. Сядзеў, апёршыся локцем на падаконнік, слухаў, як суха шаркалі на сцяне ходзікі, і думаў яшчэ пра сваё. Якая ў Рамана маці... Душу па ім роніць. На дарозе сёння раніцай пераняла... Думаў пра Краснае, куды выязджаў з рэдакцыі, пра людзей, што сустрэліся ў дарозе.

— Дзеткі... я да вас...— айцец Сабольскі падняўся і зноў апусціўся на крэсла. Яно суха зарыпела.

Айцец Сабольскі быў напыжаны, рухавы, відаць, ад нервовасці. Гладзіў рукою кароценькую пасля ножніц бародку і падстрыжаныя ззаду валасы. Вочы яго, чырвоныя ад гарэлкі і ад бяссонніцы, былі пранізлівыя, калючыя. Голас, нізкі-нізкі пасля гарлавой хваробы і на высокім тоне зусім сіплы, дзіўна гучаў у хаце. Прыхінуўся айцец да сцяны пад ходзікамі, пэцкае плечы ў пабелку, не заўважаючы, і маўчыць.

Рыпнулі дзверы.

— Мама, я заняты... Чалавек, відаць, прыйшоў нешта сказаць.

— Каб жа ведала,— не адчыняла б...

Зноў стала ціха. Чуваць было, як на вуліцы крычаць дзеці.

Раптам сталі ходзікі. Леанід падняўся, падцягнуў гіру, крануў маятнік. Прайшоў па хаце і сеў у крэсла, што было далей у куце.

— Прызнацца, ойча, я вас не чакаў...

— Дзякуй, дзеткі, за праўду. Але ж і я вас тады, помніце, не чакаў убачыць. Заварылі кашу — памажыце расхлёбаць.

— Добра. На чым мы тады разышліся?..

— Я, помніце, з вамі не вельмі мяккі быў. Вы маладыя, даравалі недзе. Я і тады ўжо на Пэрца ўсё падазраваў... Хацеў вам даказаць, як вашыя камсамольцы мяне ў Чар-чагу абабралі. На тым мы і разышліся.

— Ага. Пра Пэрца я нядрэнна думаю, ойча. Паштукаваўся некалі хлопец... Было... Ну і што?

— Стойце. Вы ведаеце, чым ён кончыў, пачаўшы з Чар-чага?.. Пра гэта ўвесь раён чуў. З'явіўся на запусты ў царкву п'янюсенькі. Разапхнуў людзей, пралез да кліраса і зароў, як жывёла: «Дзе Сабольскі?!» Гэта ж нячыстая сіла... Гэта ж у суд за хуліганства я мог падаць на яго. Пакруціўся перада мной, жагнаючы мяне, бачыць, я не спалохаўся, не ўцякаю,— давай вярнуць на прыхажан. Дажылі. Ты інтэлігентны чалавек, скажы. Меў права ваш камсамол на такую вайну з царквой?.. Не меў. Дакумент ёсць, дзе за нас заступаюцца. Адзін хуліган які...

— А можа, мы далікатней будзем пра людзей?.. Ды і па-святому ж так: прыйшла бяда — не гані яе...

— Слухайце! Я з вамі не спрачацца, параіцца хачу...— Айцец Сабольскі задумаўся: дагэтуль ён гаварыў зусім не тое, што хацеў, і цяпер не рашаўся пачаць пра галоўнае.

— Райцеся...

Айцец Сабольскі пакідаў царкву...

Леанід зноў не слухаў яго. Глядзеў за акно, за дарогу, дзе на дзядзінцы здалёку блішчала каменне. Белае, над пунсовым на захадзе сонцам, яно, здавалася, было як распаленае. Яно валялася колькі ўжо год пасля таго, як немцы спалілі ў блакаду школу-дзесяцігодку.

Успомніўся Леаніду такі ж да болю ўвушшу ціхі і трывожны летні адвячорак той далёкай пары, калі малінавы захад засцілалі дымы ад пажараў і сівы, густы, як хмара, пыл хаваў шашу, па якой паўзлі з-пад Камена фашысты. Школа тады згарэла самая першая — з яе адстрэльваліся параненыя чырвонаармейцы. Пахавалі іх праз дзень...

Дзіцячая памяць захавала на ўсё жыццё тыя чорныя пасля агню камені, крывавы захад за грыпёўскай смалакурняй, буры пыл на шашы пад Гальдараду... Тады доўга стаяла ў дзіцячых вачах ржавая ад фарбы, пакурчаная, рваная бляха, што валялася на школьным пажарышчы.

І тады на яе наляцелі, не даўшы нават добра астыць. Сталі цягнуць, адрываць кавалак ад кавалка, грузіць на вазы і звозіць па запыленай яшчэ шашы ўслед за немцамі.

Выжлятнік і Сабольскі падаваліся ад вёскі на хутары,— будаваліся, укрывалі стрэхі гарэлай бляхай...

Гарэлая бляха гарэла яшчэ раз. Праз год у блакаду немцы спалілі хутары — бо тыя былі далёка ад вёскі і блізка ад лесу.

Айцец Сабольскі адракаўся ад царквы...

— Мы розныя людзі, дзеткі... І мая споведзь...

— Так. Мы розныя людзі...

Айцец на нейкі момант асекся: гэты самаўпэўнены хлапчук, відаць, не слухаў, бо перапыніў яго занадта ўжо раптоўна, смела і груба.

«Скажы... Нават не ўзрадаваўся, шчанюк»,— падумаў ён.

— Думаеце, калі вы пяеце — мы падскокваць павінны? — Леанід захваляваўся.— Мы розныя людзі. Вам здаецца, можа, што нам вялікую ласку спускаеце з горкі? Даказваеце, што царква распадаецца ў нашы дні, людзі не ідуць?.. Выгаду, думаеце, нам падносіце. Вось як... Выгада не наша — ваша. Хочаце нашумець, каб вам далі дарогу, каб сталі вазіць, паказваць, на работку на добрую ўстрайваць. І вы, відаць, хочаце ў леспрамгасе ці дзе там на што-небудзь лёгкае наскочыць? Як жа, пасля такога...

— Дзеткі, менш гавары, больш пачуеш. Можа, і лішне голас нам павышаць. Вы ж самі насядалі тады ўвосень. Удваіх прыходзілі, а цяпер...

— Думаеце, прамы праткнецца, а крывы пройдзе? Маніць, ойча, грэх. Успомніце, хто насядаў? Тады вы былі яшчэ поп, а цяпер ваша споведзь — нішто. Сазнаецеся, што ў бога не верылі і не верыце? Дык мы і без вас ведаем, што папы ў бога не верылі ніколі. Але ж, вядома, пасля споведзі будзеце мець большую вагу. Ці не так? Сякера леспрамгасаўская ў руках пацяжэе адразу. Мах — і няма сасонкі. Рука напрактыкавалася з крыжам... Што крывіцеся? Хіба не з сякерай рашылі ў леспрамгас ісці?

Айцец Сабольскі перапыніў Леаніда, працягнуў руку, загарадзіўся далонню, пасля сагнуўся, апусціў галаву і ўтаропіўся ў падлогу — злосна і прагавіта.

Маўчалі. Чуваць было, як на двары рыпяць вароты, бразгаюць вёдры і на вуліцы тарахцяць калёсы.

Леанід варушыў памяць. Дзе ён бачыў гэты твар і гэтага чалавека?.. А-а... Ды гэта ж усё стары Тодар расказваў.

«Ты скажы, тады мне ўявіліся такія ж злосныя і прагныя вочы, такія ж...»

...Дзед Тодар заўсёды рагатаў, калі пачынаў пра тое. Пачне — і ў смех.

— Ехаў я са старшынёй. З новым, толькі выбралі мы яго. Аўяр'ян з намі быў. Пад'язджаем сабе дадому. Па брыгадах цэлы дзянёк марокаліся: Дзедзіха калгас перадаваў. Якраз мы з Закалюжжа выехалі і так вось паўз лесапілку і праз шашу падаліся на Грыні. Думаю, ссаджу ля моста Аўяр'яна, адвязу старшыню на кватэру і на ферму — адпрагаць каня. Усё як мае быць у галаве распісана. Едзем сабе, гутарым: дзе што бачылі, дзе што на полі за гумнамі ў лазе валялася, дзе што мокла і гніло без догляду... Апусціліся рукі ў Дзедзіхі. Забегаўся, задыхаўся. Людзі не слухалі. Мяркуем, што трэба прыхінуць на зіму, што адрамантаваць, наладзіць. Аўяр'ян слова ўкіне, я, бывае, не змоўчу. І так усю дарогу. Адвёз я іх, звярнуў праз рэчку на ферму. Пазнавата ўжо, сяджу, бумчу сабе пад нос думкі розныя. Чую раптам нейкі гаманок на могілках. Могілкі — гэта між Грынямі і Закалюжжам, дзе лагчына, брадок у рацэ. Ну, ведаеце, дзе царква ў ляску. Царкве ў нас месца толькі на могілках. Была і лепшая, у самых Грынях стаяла, пры дарозе, побач з клубам. Закрылі былі яе, як у калгасы пайшлі, кладовую зрабілі,

збожжа ссыпалі. Спалілі яе немцы разам са школай. Масціўся ўсё Сабольскі, каб царкву тую нанава ў ход пусціць. Ой масціўся... І хітрыў, і маніў, і горла дзёр. А — дулю!

Дык вось, чую я гаманок такі злосны на могілках. Вечар асенні, ціхі. Тыр-р...— спыніўся я. Пасядзеў, счакаў. Лаюцца людзі. Добра ж калі добра, а то пайсці ўціхамірыць трэба. Злез. Крадуся цішком, прыбліжаюся. Гляджу і не веру: сядзіць на каленечках поп, ускудлачаны, валасаты, злосны. Пад ім — Саўчык, белагаловы такі, гарбаценькі мой аднагодак з Грынёў, на вечарынкі разам хадзілі. Хліпае той, задыхаецца. А збоку ў іх абрус беленькі на травіцы. На абрусе — грошы, як лісце кляновае ў кучах.

«Не падзеляць,— змікіціў я.— Душу адзін у аднаго дабудуць за капейку... Што ж, людзі за хлеб — дык і я не сляп. Нагнуся, думаю, ціхенька з-за кусціка, складу той абрусік акуратненька ў чатыры столачкі і — бывайце здаровы. А яны хай сабе качаюцца па траве, што сабакі па снезе ў паганую пару». Саўчык дык ледзь ужо клёваў.

«Сунуўся, думаю, на воўка з цялячым хвастом, то знай». Не спускаю так гэта з іх воч... А яны якочуць, а яны заліваюцца.

— Недавярак паганы... Хрыстапрадавец... Каін... Каб табе лысы ксёндз аплаткамі горла заткнуў, як ты на царкоўныя грошыкі разявіўся... Мала яму, мала! А на царкву? А на рамонт? Царква ж цячэ, каб на тваю галаву патоп. Ну, добра ж... Цяпер-то я цябе прапру з царквы... А я думаю ўсё, дзе грошы дзяюцца. А тут адкрыта палез — дай яму тое, што і мне. Каго хочаш вазьму... А цябе — вон!

— Я ж толькі на сто грам папрасіў... На сто грам...— сіпіць з зямлі Саўчык, плюецца, пяску, відаць, наглытаўся.

— На сто грам, кажаш? Тут во скубеш гуску так, каб яна, божа барані, не закрычала. Не тая восень, каб з нашым носам дзяўбаць спелыя рабіны. На налогі не хапае. А рамонт? Царква ж цячэ. За карак капае. А сама больш чалавек трыццаць сем прыходзіць на абедню. А яму сто грам... Крыж святы паганіць? Зараз я іх табе ўсе ў горла...

Плюнуў я, укуліўся ў калёсы... Чуў пасля аж за лесапілкай, як падняў вэрхал Саўчык па ўсім ляску — бег з могілак, шукаючы ратунку...

На гэтым дзед Тодар заўсёды канчаў «баяць».

Леаніда раптам схапіў смех, ён смяяўся, аж заходзіўся; а айцец Сабольскі ўсё не падымаў галавы. Леаніду за-

хацелася ў яго спытаць: праўду «баяў» на вёсцы дзед Тодар ці не? Не сцерпеў, спытаў.

— Праўду,— адказаў айцец.— Я яго тады і ад царквы адлучыў і анафеме аддаў за выдумку, а стары праўду казаў. Хто я быў? Праўда, мая работа царкоўная была такая. Але ж я браў у людзей па добрай волі. І не такі я ўжо бандзіт, як ты, Лёнік, мяне летась перад людзьмі выставіў. І не хачу я, каб век на мяне так глядзелі людзі. Ты тады каменскім рабункам мне ў вочы тыкаў. А я — самаахоўца бамбіў. На Куцку зуб меў, памыліўся толькі ўначы, але ўсё роўна ж на самаахоўца наткнуўся. Куцка, вунь, не так мяне грабянуў у апошнюю блакаду. Дар — за дар. А ты — фантазіраваў. Было тады прасцей, і рана мая балела больш, чым у тваіх расказах. Ды бог з табой. Я ніколі не быў царкоўным папом. Па барадзе маёй — дык мяне хоць у пекла... І не так я ўжо многа лупіў. Слухай... Мне ўсё роўна цяпер. Толькі чуў я, што на маё месца другога прысылаюць. А я кідаю гэтую музыку раней. А пастуха не будзе — авечкі распаўзуцца. А распаўзуцца — тады іх не збярэш і ў хлявок не загоніш. Ды такую будыніну можна будзе і раскідаць. І так яна цячэ. Слухай, я пра ўсё напішу. Толькі з маёй грамаццю... А я хачу, каб было разумна, каб людзі не смяяліся...

— Каб было выгадна?

— Мне выгады такой не будзе, як была за амбонам. Я іду ў леспрамгас. Ты паслухай... ты напішы за мяне. Я мог бы пайсці ў сельсавет ці да Авяр'яна, але... Ты ж некалі сам... Ну дык вось. У мяне не выходзіць пісьмо. А хай ведаюць усе. Праўда, менш зарабляць стану, але з людзьмі буду. Ды я надта, як і нашы вярнуліся, у царкву не лез. Улада дазволіла, людзі пайшлі. А пасля тваіх чытак — адсыпаліся. Семнаццаць чалавек пастаянных, лічы, меў.

— Дык што ў вас ёсць? Давайце. Заўтра буду ў раёне. Перадам у рэдакцыю.

— У мяне... У мяне нічога яшчэ няма. У галаве толькі.

— А не выветрыцца за ноч?

— Што? Чаму? — навастрыўся айцец Сабольскі.

— Заўтра ўстанеце раней і мы разам паедзем у рэдакцыю. Ойча, не круціце галавой. І знаеце што, за ноч вытрасіце на паперу ўсё, што ёсць у галаве. Самі. Каб не было потым, што я вас гвалціў, што я вашай рукой вадзіў.

— Што ты? — айцец падняўся, затупаў па хаце, бадзёра і смела, што казёл па двары, выбраўшыся са шкоды.— Што ты?.. Напішу.

— Веру. Дык дамовіліся?
— Толькі...
— Толькі не будзем марудзіць.
— Нічога, дзеткі. Добра.
Калі яны выйшлі з хаты, ужо цямнелася.
— А можа, ойча, лепш вам і самому перад прыходам кінуць слова?.. А пасля ўжо...
— Так сказаць, перад народам рызу з сябе сарваць?.. Не выйдзе. Яно можна, ды не выйдзе. Дзе ж сведкі? Як той цыган казаў — толькі жонка ды дзеткі. Афіцыяльнае адлучэнне, лічы, яшчэ з восені недзе адслужылася. Само сабой. А цяпер нават каб і званіць стаў увесь дзень — усё роўна больш семнаццаці баб не склічаш. А можа, як і ў пазатую нядзелю — адна Раіна прычапае. Самая набожная, а шкляначку цягне, як цялушка, ведаю... Так... Хіба толькі старога Саўчыка па хатах паслаць, каб загадаў сабрацца? І то на смех старога падымуць і носа не пакажуць. А тут я хачу ўсім сказаць. Як-ніяк, а я яшчэ поп, і ніхто з мяне пакуль што гэтага чыну не зняў. Я маю права выступіць ад грынёўскай царквы? Маю! А перад кім? А ў газеце не ўмею. Вось чаго і прыйшоў. І добра, што ты сказаў самому напісаць. Напішу.
Маўчалі. А што было гаварыць? Хіба яшчэ там, у хаце, яны не сказалі адзін аднаму ўсё, што думалі?
Айцец Сабольскі павярнуўся і пайшоў ад варот узрушаны, жвавы. Па вачах было відаць, што яму хочацца гаварыць і гаварыць хоць сабе ўсю ноч.
Яго зноў аклікнулі, дагналі, ужо ўдваіх.
Знаёмая белавалосая дзяўчына стаяла ля нечых варот, глядзела здалёку, усміхалася. Кіўнула галавой — прывіталася. Стройная, вышэйшая, чым была тады ўвосень.
«Падрасла...» — усміхнуўся айцец Сабольскі.
Падышоў да яго толькі Леанід:
— Мне здаецца... Знаеце што, трэба будзе, як сабе хочаце, а падстрыгчыся лепш і скінуць бараду. І касцюм каб... З'явімся ў раён, як людзі. І не заспіце, прыходзьце з усходам сонца. Ад мяне на шашу бліжэй.
— Ах каб табе свет абрыдзеў...
Яны змералі адзін аднаго вачыма і ўсміхнуліся.

Праз дзень у раённай газеце грынёўцы чыталі «Пісьмо ў рэдакцыю». Айцец Сабольскі адракаўся ад царквы.
Грынёўцы гаманілі, крычалі. Хтось хацеў убачыць

яшчэ і партрэт Сабольскага, а дзед Тодар раіў угаварыць яго ісці ў калгас,— нашто, каб леспрамгас перахапіў «такія плечы», калі яны і ў калгасе трэба, і шукаў спецыяльна Станіслава Пракопавіча, каб па гэтай прычыне склікаць праўленне.

Толькі Раіну гналі з хат тры дні запар: яна бегала па вёсцы і кляла Сабольскага. Хаця — не было бабе другога занятку.

## 5

Цёмная-цёмная вада. На дне чырвоны, што кроў, пясок.

Шуміць Вілія, адклікаючыся здалёку-здалёку, аж з-пад самага Камена. Рве берагі, цягне з кустамі, з травой узапрэлы пасля зімы мяккі тарфянік, глытае. Грабе пясок з-пад Жоўтага берага, вылізвае што карова языком. Плюхаецца ў ваду леташняе рудое дзірванне, што вісела над ракой і нарэшце адмякла, адвалілася. Гнецца, варушыцца, сцёбае па вадзе прыбярэжны вербалоз — голы, рэдкі, падатлівы. Шалее рака: пасля разліву ёй цесна ў берагах.

Яна плыве адтуль, з далёкіх лясоў — Паліка, яна глынула ўсё верхаводдзе з зямлі, і ёй усё роўна мала. Яна змагла б, каб можна было, пагуляць праз усю вясну і змыць, знесці Жоўты бераг — выспу, што перагарадзіла дарогу,— мінай яе на павароце, губі сілу.

Вілія стогне, злуе. Можа, ад злосці яна і нястрымная ў быстрыні,— гэта тады, калі вырвецца з-за Жоўтага берага, пад Камена на лугі і нясецца ў шалёных вірах на захад.

Сцюдзёная вада,— гэта недзе на Паліку ці ў Асіпаўскай пушчы пад лаўжамі, і на імшарах пад яловымі лапамі растае лёд: чорны ад попелу з выгарын, жоўты ад размяклага імху, буры ад кары, што адапрэла ад пнёў і апаўзла, адвалілася разам са снегам у першыя вясновыя адлігі.

Вілія сушыць лес, смокча імшары. Вілія хутка мялее і ад таго цяпер такая прагавітая.

На чорнай плыні ўсюль віры і віркі. У затокі нясе пену, яна ўздымаецца, расце, а тады разлятаецца ад ветру, растае на сонцы. Здаецца, укіслі вясною затокі, падпяліся, схавалі ў пене-бразе вербалозы і бурае карэнне-карчэўе, што агалілася і вытыркнулася з берагоў, нібы шкілеты змёрлых у мінуўшчыне рыб.

Калі яснее неба — у вадзе ад вербалозу рэдкі шэры

цень. Здаецца, гэта падставіў сонцу рабыя бакі азяблы ў халоднай вадзе стары шчупак.

Пад сонцам на дне Віліі ля берагоў блішчыць белае каменне. Яно такое ж і на вірах, там, дзе ўпала падмытая альшэвіна і знікла пад вадой — чырванее толькі ля берага абдзёрты ад кары камель. Альшэвіна вывернута жывасілам. Пэўна, не ўлежала ў шліхце бервяно, скацілася, падвярнула пад сябе хілае дрэва, знесла яго і знікла само, бо вунь і другое вісне на валаску ўгары над вадзяной прорвай. Ці не асеў пад цяжарам дрэва адталы і размяклы грунт?

Дрэва ў шліхтах пасля снегу шэрае, абветранае і абсохлае. Здаецца, яно лёгкае-лёгкае, кінь на ваду — закруціцца, як запалкі, яго падхопіць стрыжань і пацягне за сабой, панясе, як тыя саломінкі. Шліхты падсыхаюць на вясновым ветры, чакаюць плытагонаў. Жоўты бераг — іх прыстань, пачатак бясконцай дарогі.

За Жоўтым берагам Вілія коціць далінай — лугамі. Яна блішчыць на сонцы на ўсім прасцягу, аж пакуль не хаваецца зноў за лес. Луг пад раку ўсыпалі жураўы. Асеў, відаць, вырай нанач на папаску, бо далёка яшчэ яму цягнуцца на поўнач. Галодныя, схуднелыя і змораныя пасля дарогі птахі не знаюць спакою. Носяцца лугам, што ўтрапёныя, бо дзе той яшчэ корм.

Падсох на берагах намыты пясок, на самай выспе аж курыць; выветрылася ад пяску і гліны каменне. Чырвонае, белае, бурае ад жалезнай руды, якая разбаўлена ў пясчаніку — яно ляжыць дробнае, круглае, а то плоскае, як пачэсанае.

На беразе свежыя чалавечыя сляды ад ботаў-кірзавікоў на шыпах. Чалавек ішоў уздоўж ракі, але не ўсюды ўгледзіш след — выспу заносіць вецер.

У вёсцы па слядах на пяску пазнаеш, у што абуваюцца людзі. Па слядах пазнаеш і людзей.

Кірзавікі на шыпах насіў дзед Тодар.

Стары ішоў з-пад Камена, спыняўся ля шліхтаў на Жоўтым беразе, узіраўся на захад, куды неслася рака, і таптаўся ля броду, дзе зелянела трава.

Ён нёс на руцэ фуфайку, скінуўшы яе з плеч пасля палудня, цягнуў ногі, не падымаючы ад зямлі: хапіла ім ад усходу сонца. Скалясіў свету за скацінкай; і пад Доўгімі быў і ў Ваўкаўні набегаўся, і ў Асіпаўскім нагалёкаўся, аж горла балець пачало. Жывёла шалее на вольнай пашы пасля зімы. Толькі цяпер ухадзілася ў лесе, на па-

сецы, што перад лугам, дзе верас, сіўцы. Пасля зімы ў скаціны яшчэ і язык больш прывыклы да сухой гавылы.

Дзед Тодар памятае Вілію з маленства. На гэтых лугах ён не раз валяўся ў капе сена, калі яшчэ глядзеў на свет дзіцячымі вачыма. Запомніў ён Вілію аж з той пары, калі тут не было граніцы. Пасля ўжо раку пасярод перагарадзіў калок, і да яе не падпускала града. Але кожнае лета ездзілі касіць лугі аж да самай ракі. Крычалі за Вілію аднойчы, Тодар як цяпер помніць: «Ганіце пайсатага са шнуроў, ідзіце закурым!..» У той дзень там поп свянціў палоскі-шнуры перад касьбой.

Касілі закалюжанцы ўсім калгасам. Ідзеш, бывае, у пракосе, спяшаеш за пярэднім, не падымаючы галавы, разгонішся — глядзіш, а перад табой пагранічнік... Што грыб з зямлі вырас.

А як гарэў быў лес у трыццаць сёмым і агонь падыходзіў да кардона... Аж з горада мчалі пажарныя...

А праз якія гады два знялі кардон; чарнелі пасля пустымі вокнамі будынкі заставы, аж пакуль у вайну не пусцілі іх дымам.

Пасля вайны тут толькі лес, луг і рака,— ніякай ні заставы, ні грады. Пасля вайны тут — вясна, лета, восень і зіма. Ціхія, без пагранічнай начной трывогі.

Пра мінулае напамінае выспа — Жоўты бераг, узыдзі толькі на яго. На ім ты, бы на маяку, адкуль відаць далёка-далёка, што робіцца там, унізе... А спусціся да затокаў на луг, на траву, як адразу — другія думкі. А ці шмат было вады сёлета на лузе, а ці густа возьмецца межыперсніца і канюшынка, ці паляжа ў Лучках сінюха і мятліца... А наколькі больш будзе сёлета стагоў, чым летась, а ці іх будуць «кідаць», як і раней, круглыя, ці, можа, пярэйдуць на чатырохкутныя, якія лепш за яго, дзеда Тодара, ніхто не мог вяршыць.

Круглыя — толькі стажкі. Чатырохкутныя — во, гэта калгасныя стагі.

Стары Тодар «кідаў» стагі кожнае лета, калі выязджалі на луг.

...З чэрвеня на ліпень лугі губляюць краскі. З чэрвеня на ліпень у Грынях касьба.

Трава ў пояс, ад самай ракі да лесу. Мятліца, канюшына-дзяцеліна, рабінка, жоўтая медуніца, павітуха, зайцаў гарошак — закладзеш касу — не пацягнеш. На ўсе рукі бяруць толькі мужчыны — вясковыя касцы-двухнормавікі, якіх вядзе Авяр'ян. Ад зоркі да мроку, з перапын-

кам на полудзень, ад ракі да лесу без адпачынку на пакосе. Некалі так вадзіў закалюжанцаў і дзед Тодар...

А якая чароўная ноч на лузе, калі туман яшчэ звечара схавае з воч касцоў, што завінуліся днём і цяпер дабіваюць у лучцы сінюху...

Кладзецца мрок, ападае раса, лезуць у вочы камары, стыне на беразе ля будана ў катле вячэра. Ціха ля агню, толькі трашчыць вогнішча ды ў лозах, у вадзе, што злецілася, боўтае рыба. Далёка, за туманам, бы за сівымі лозамі, пяюць косы, гамоняць, эхаюць мужчыны... «Давай — давай!.. Падрэжу... Хваліў сваю васьмярычку...» — «Мая новая і сёлетняя... А ты сваю ў Вілію закінь, хай жабы аб яе лапамі скрэбаюць... А я са сваёй сёлетняй дзве нормы...» — «Яна ў мяне яшчэ ў магазіне як брытва была... Язык парэзаў, калі выбіраў».— «Яшчэ па два заходы...»— «Не ўцерплю... Да катла збягу...»

Па вячэры касцоў морыць сон. Ноч на пагодзе, халодная. Цiснешся ў будку пад стары шынель, дзе накурана ад камароў і пахне падсохлай за дзень травой-мурагом. Ціха. Бразгае толькі нехта конаўкай ля вядра, гамоніць напаўголаса, каб не палохаць сон, што цёпла і млява лезе ў будкі пад коўдры і шынялі...

Крычыць пасля драч, блізка, у лазе. У затоках шэпчуць качкі — выйшлі на жыр. Іх не ўгледзіш ніводную: такі туман. Пад раніцу ён гусцее, ападае на дол расой, халоднай-халоднай,— не ступіць босай нагою ў траву, аж у зубы коле.

Падымаешся, калі на ўсходзе толькі забурэецца неба. Клепеш касу, а побач Ульяна ці Пракурорыха, закасаўшы рукавы, шаруюць катлы, разводзяць нанава агонь — на ўвесь дзень. Дыму не відаць у тумане. Туман і холад — на пагоду.

На ўсходзе сонца з Грынёў прывозяць дзве касілкі... Кажуць, з адной пойдзе трактар... Гэта падмога касцам, што прыехалі ўчора на закоскі. Ды і немаведама, хто каму стане цяпер на помач.

На пракосы неўзабаве нахлынаюць жанчыны... Гаманкія, задзірыстыя, языкатыя, рупныя, сквапныя на працу. Сыплюцца з лесу,— ішлі цераз кладкі на Цяні-балота; другія саскокваюць з фурманак,— ім удалося ўладкавацца пад'ехаць, хто парупіўся па ферму; астатніх прывязе машына, тых, у каго дзеці і другая работа ля дому.

Так бывала і летась, і два гады назад... Так, здаецца, заўсёды пачыналі касіць...

Тодар любіў касьбу. Першы прыязджаў з касцамі, і апошняга яго нераймалі далоў са стога...

Люба, бывала, пусціцца па лузе са скацінай пад восень, калі ціха, пагодліва, калі луг шырокі-шырокі, пусты і сіратлівы, калі абсядуць плячыстыя стагі і аднекуль возьмуць ды вытапчуцца на лузе сцежкі... Можа, буслы іх выдратуюць, бо танцуюць дзень і ноч у чародах па лучках і прырэччы.

Дзед Тодар ступае па беражніцы над бурай пеністай вадой; беражніца цяпер мяккая пад нагамі, што сырая гліна. Сашморгвае шэрыя каткі з лазовага дубца і сыпле іх, што гарошак, па ваду, бы корміць рыбу...

Над галавой у яго раптам закрычала кнігаўка, адзінокая, невядома кім узрушаная; загаласіла, можа шкадуючы, што чорная рака глынула яе крошкі-ежу?

Дзед Тодар спыніўся, азірнуўся. Скаціна выйшла з лесу і скіравала на Жоўты бераг. Тодар не згадаў, думаў, што выйдзе ёй напярэймы. А дзе ж Волечка? Ага, аж вунь, ля самага лесу ледзь варушыцца...

Рыканне напачатку было ціхае, далёкае,— як і тады, калі ў пачатку вайны на ферму ноччу ўпала бомба... Выбуху дзед Тодар не ўчуў; яго ўскруціла з ложка нейкая шалёная сіла... Лопаліся, звінелі шыбы... З коміна на падлогу аж да стала шуганула чорная сажа. Завыў на двары сабака...

Дзед Тодар у чым быў выскачыў тады на двор. Гарэлі на ферме сцірты саломы, і за дымам не відаць было кароўніка... Не, яго зусім ужо не было. На ферму беглі людзі. Дзед Тодар кінуўся па раллі цераз гароды да кароўніка. Аднекуль з дыму, з-за платоў, выскачыла на яго чорная карова з доўгім ланцугом на шыі, які адным канцом звінеў па каменні, збіла з ног і, равучы, кінулася ў Ваўкаўню, туды, дзе знік з двара сабака.

Рыкалі каровы, бушаваў агонь... Гулі над загуменнем самалёты, паўзлі з захаду, з-за лесу...

...Дзед Тодар як прырос да зямлі.

На Жоўтым беразе раўла скаціна, як і тады ў агні. Такая ж чорная карова-ялаўка насілася берагам, як ашалелая. Рыканне яе было дзікае, страшнае... Каровы збіліся ў кучу, таўкліся, калолі адна адну, ускідалі на рогі. Угору спачатку падняўся пыл, пасля паляцела цёмная зямля: скаціна драбяжыла бераг.

Дзед Тодар з голымі рукамі кінуўся ў статак.

Недзе ля лесу нема крычала маленькая Волечка.

Скаціна выйшла на дарогу і пусцілася праз Асіпаўскае пад дом. Панурыя, змораныя, мокрыя да пены каровы рыкалі на ўвесь лес. Доўга вісела дзяркатае, сухое рэха.

Волечка паволі пайшла следам за каровамі.

Тады апамятаўся дзед Тодар. Знямоглы, ён стаў на калені, паволі схіліўся над берагам і крануўся рукамі халоднай, густой вады.

Там, дзе Вілія, абагнуўшы выспу, вырывалася на лугі, на паваротцы ля затокі, на леташнім цёмным і цяжкім бярне, што прыбілася да берага ў вербалозы, перагнуўшыся, павіс чалавек.

І рукі, і галава, і ногі яго былі ў вадзе, толькі гарбом вытыркалася спіна.

Дзед Тодар па кажуху пазнаў Андрэя Дзедзіху.

## 6

Сярнічка трэснула ў пальцах і ўпала на дол.

Пад нагамі шуршаў высахлы пад сонцам сівец і шорсткі дзідаваты верас; шамацела, што папера, выпетраная рудая папараць.

Выжлятнік ламаў нагамі суччa, гнуў-камячыў малады яшчэ зусім, маленькі, як куколь, саснячок — пазалеташнюю пасадку.

Яго прагналі з лесу. Прагнаў новы ляснічы, які па прыездзе ў Грыні яшчэ гэтулькі цярпеў яго ці проста не хацеў паспешна вырашаць чаго-небудзь, пакуль не разабраўся сам, што і да чаго.

Выжлятнік стаў баяцца пушчы, якая колькі год засланяла ад людзей і ад сонца і яго і ягоныя рабункі; стаў дзічыцца, палохацца дрэў, што, здавалася, нагінаюць увачавідкі дзіды, каб праткнуць-прасадзіць яму навылёт нутро. Чалавек узненавідзеў пасеку, дзе нядаўна сам даглядаў малады сасняк,— ён апрыкрыў яму. Мітусіўся ў вачах, калоў у твар шыллем, здавалася, даставаў і дзёр суччам грудзі.

Чалавек ведаў, што, можа, лясніцтва было для яго самай важнай палкай у жыцці і што яе цяпер выбілі з рук...

Хруснула яшчэ раз у пальцах сярнічка, адскочыла далёка ўбок, у кучу разрытага некім уначы мурашніка.

Мірон Выжлятнік збіўся з тропу: поўзаў ад рання па Асіпаўскім, падаўся быў пад Вілію, звярнуў пасля на Доўгія балоты. Усюды была вясна. У пушчы над абсохлай зям-

лёй, на пасецы над асмоленымі пнямі, па Доўгіх балотах над лужынамі і крыніцамі стаяў густы водар зямлі і лесу. Ён хмяліў, кружыў галаву,— ад таго скакала сэрца. А калі аціхала — балела вострым болем.

На зямлі была вясна, а ў душы чалавека ёй не было месца. Яна мінала яго,— яе адбівала ветрам, сухім і густым, зносіла ў лес, у бары; на душы аставалася злосць, як чорны нагар на вогнішчах на балоце, дзе гарэў торф.

Дрыжала рука. Круціла, ламала карабок з сярнічкамі, тыкала іх у зубы. Чалавек сплёўваў на чысты пасля дажджоў мох рудую сліну.

Выжлятнік паверыў — ніпто і ніколі не верне таго, дзе ён быў гаспадар, дзе яму было і «сытна і аплавітна». Без лесу, як без рук. «А што тыя рукі? Вось яны, жывыя, здаровыя, сціскаюцца ў кулакі...— Выжлятнік пазірае ваўкавата на іх, яны абраслі рудой шчэццю, як сіўцом, аж па самыя пальцы...— А дзе цяпер дзець рукі? За што зачапіць? За калгаснае? Пайсці ў леспрамгас, узяцца за палку і стаць перакочваць шліхты, дзе дрэва ў абхват? Хм-м... Знайшоў казу ў золаце, прама скажу... Хаця цяпер нешта варушацца ў калгасе, забегалі на тую работу, як мурашкі па зерне. І старыя, і малыя. А чаго? Ды ім лепш відно, хай бягуць, хай напінаюцца. У іх сваё, што мне да іх? Ды і чаго гэта мне думаць пра той калгас? Знаю я, што такое калгас. Быў... Але ж тады людзі не так ішлі рабіць. А цяпер ідуць. Нешта іх, мусіць, укусіла,— усміхнуўся ён.— Жыць неяк па-другому пачалі, пчолкі ўжо завялі... Мядку захацелася. На балота яшчэ палезлі, асушку выдумалі. Туды скаціну рэдка калі ганялі ў поле, а тут... Ад самага Выганчыка ўклюнуліся. Канавы парылі. І вада, глядзі ты, пайшла ў рэчку. Трактароў нацягалі, экскаватар прытарабанілі. Да Доўгіх крыніц за лета дабяруцца. Мала таго, што кустарэз пішчыць дзень і ноч, дык нават бабы з дзеўкамі сякеры на плечы і подбегам на Доўгія... Трэску, стуку нарабляюць. Чорт яго ведае, што там у іх, прама скажу. Хаця на жывой касці мяса нарастае. Лётаюць жа, носяцца з новым старшынёй, як чортведама з чым, крычаць. Сходы, праўленні... І выязныя, і расхадныя. Жонку сталі цягаць, пад гарод падкопваюцца. Мусіць, трэба, каб жонка схадзіла разоў колькі ў калгас цяпер, калі за гароды ўзяліся. Каб засеяць паспець, а тады... А то шахнуць цяпер па вуглы — скажы каму тады. Вылезеш са штаноў — управы не знойдзеш. А што шахнуць — гэтага ў іх не купіць, прама, мілы, скажу. Калі так звоняць — іміша будзе. Будзе... Цяпер не

тое праўленне, што пры Дзедзіху... Н-тэк... Рашай, Выжлятнік, прама: калгас ці прамгас. А на пуп і там і там узяць трэба... Гэ-гэ... На пуп... А скулля, прама скажу. Не для таго ён у мяне, каб трашчаў штодзень... Яшчэ, каб... Але ж цяпер да іх у лёгенькае не ўлезеш. А ў леспрамгасе — норма. Там табе ўжо даведзена, колькі ты за дзень павінен напяцца. Норма — ёсць норма. Яна роўная і сёння і заўтра, як чарка тая. А як цяпер у гэтага Пракопавіча? Гм... Трэба будзе ў жонкі распытаць, яна ж бегае па вёсцы...

«Калгас... Леспрамгас...» — лезлі чалавеку ў галаву думкі.

С-с-с... С-с-с...— свісталі боты па густым суравым сіўцу.

Думкі ў чалавека білі злосць і трывогу.

«Дзе ўладзіцца? Хаця, будзе ранне — будзе і снядание, але пакуль сонца ўзыдзе... А цяпер... Кожны крок, які ступіш да вёскі,— гэта ўжо не твой ззаду кавалак, не твае сосны, не твае пні...— Ён ніколі не думаў, што гэта дзяржаўнае. Дзе ён — там яго.— І ўсё гіне — пераходзіць ад мяне другому. Не вернеш, прама скажу... У кішэні — загад. На тоўстай паперы, машынкай адстукапы. Муліць, бы там сухая яловая карына. Загад... К чорту матары!.. Басякі!.. Распарадзіліся... Хаця на іх няма ўправы. У іх усюды свае рукі. Дакажуць, дойдуць, ты яшчэ віноўны ў іх станеш. Прыпішуць з-за якой сасны, што ты ўвесь лес распрадаў. Ім усё можна...»

Чалавек цяпер не думаў, хто ён. Ён ніколі пра гэта не думаў. Ён для сябе слыў чыстым, ён для сябе правільна жыў.

«Піў, можа? Свайго глядзеў? А-ат... Другім, во, стала недзе разгарнуць рукі— вось і цябе з дарогі. Новаму ляснічаму трэба таксама абжыцца, домік адбудаваць. Мала што яму нажыць уздумалася... Матацыкл, можа, як і старому ляснічаму. Прыслалі, скажы. Ён недзе і старога ляснічага выжыў. Можа, яшчэ, быўшы ў горадзе, вынюхаў, куды палец ткнуць, каб таму пад бок падсадзіць. А за тым мы жылі. А цяпер дзе той чалавек? З'ехаў недзе, кажуць. Хаця такі не прападзе нідзе. З нас за праданы пень працэнты ўжо стаў быў скрабці. Ажно самога за вантробы рванула. А гэты... Зялёны, гарачы. Праўды ўсё даходзіць. А сам такі ж стане, прама скажу. Ад мяне не схаваешся. Прайдзісвет, аж вочы круцяцца, яшчэ далей таго пойдзе. А тут... Загад... З работы за рознае браканьерства гоніць. У давер перад лясгасам хоча ўлезці, аж ліпне. І ўлезе. Такі ўлезе, а тады... Не тое яшчэ вытварыць, прама скажу... За-

гад!.. Ён мне загад у зубы тыча! А я тым загадам... Чуеш ты, сукін сын, чуеш?»

Смажыла, сушыла яму ў горле, горка было на языку, бы пад нагамі пылілі не верасы, а трашчаў і малоўся на муку палын. Сонца вярнула з поўдня, пякло, паліла твар. Усхадзіўся быў вецер, падуў на Асіпаўскую пушчу і сціх, як, бывае, у пагодныя дні пад вечар.

Выжлятніка цягнула курыць. Ён сплюнуў сярнічку, якую грыз, што саломіну, і палез у кішэню, садзячыся на пень на ўскраі пасекі, якраз на лініі-расцяробе, што адразала Ваўкаўню ад Асіпаўскага і вяла на Доўгія балоты.

Ля ног у яго сівец, верасы, кара, усыпаная сухімі крапелькамі сасновай смалы, што пшоннымі крупамі. Ён глядзіць пад сябе і нічога не бачыць — баліць галава.

Чалавек дастае цыгарэту з пакамечанага пачка, прыкурвае і кідае з агнём сярнічку. Пасля доўга трымае ў руках цвёрдую паперку, пакамечаную за дзень у кішэні, наколатую шмат дзе тупой іголкай. Загад...

«Сам друкаваў той ляснічы пры мне. Адным пальцам стукаў некуды ў машынку, што ў сэрца дзёўбаў цэлую гадзіну...»

Тоўстая папера камечыцца ў руках, што бяроста, аж пальцы рэжа.

«Згінь ты, благое, прападзі... Думалі, спалохаюць, у казіны рог скруцяць... Ляснічы... А для мяне ты разгач, дупло... Сук!»

Стрэліла ў руках сярнічка, пырснула агнём у шыю. Выжлятнік нібы спалохаўся таго, што робіць.

Папера чарнела, і спачатку не было відаць, што гарыць.

Запякло ў пальцы... Выжлятнік вылаяўся і адкінуў агонь далёка ад сябе. Пастаяў, бы чаго забыўшы, пасля падыбаў асцярожна, што воўк, паўз пасеку, каб выйсці на дарогу.

Стала душна, гарачыня сцяла грудзі; ён рвануў кашулю,— у сівец пырснулі гузікі. Ён яшчэ доўга глядзеў пад ногі, а што там хацеў угледзець, і сам не ведаў.

Выжлятнік быў ужо ля дарогі, калі за карак яму горача дыхнула ветрам. Ён азірнуўся — па твары сцебанула дымам, што суравым, нявыбеленым палатном. Пасека была ў агні. Полымя бушавала пад самай лініяй-расцяробам, лізала дол, лезла ўгору па маладым сасонніку.

Ён пабег назад, яшчэ не ведаючы, адкуль гэты агонь, які лізаў сівец, што галодная карова. Трашчалі верасы, за-

няліся смаляныя пні. Ля расцяробу кіпела леташняя шліхта карчоў.

Вецер дзьмуў наўскасяк цераз пасеку. Агонь поўз на Ваўкаўню і на Доўгія балоты, нішчыў малады сасняк.

Дыхнула полымем яму аж у самы твар. Выжлятнік закашляўся, адскочыў быў, атарапеў. Яго ўзяў страх: здалося, што полымя халоднае-халоднае... Ён быў выламаў сасновую галіну і сцёбаў па сіўцы, ашалела, заядла, да адранцвення. Яму не было чым дыхаць, здавалася, ён вось захлынецца, распластаецца і сам успыхне, як і перасохлы ад ветру і сонца сівец. Ад гары і чаду яго пачынала блажыць; мітусілася ўваччу.

Супроць ветру нельга было ўстояць: гнала гарачае, як вар, паветра, шпурляла іскрамі і чорным дымам...

Быў момант, калі Выжлятнік падумаў, што агонь ад ягонай рукі, і ён кінуўся, рвануўся быў на шалёнае полымя, як паранены звер на свайго ворага... Яму здавалася, што ён распластаецца на зямлі, а зможа, задушыць агонь, перацісне яму горла. Тады аднекуль бралася сіла, якая кідала яго ад пня да пня, ад куста ў агні да смалянога карча, ад сухой ляжалай верхавіны да чорных верасоў, да задымленага ягадніку і «воўчага вуха», што гарэлі маруднa і трымалі агонь, бы знарок для распалкі...

І калі ён у знямозе ўпаў на зямлю і, задыхаючыся, падняўся і ўчуў, што тлее недзе ззаду ватоўка,— да яго зноў падступіўся страх: калючы і дзікі, як абгарэлыя дзіды, што тырчалі перад носам; едкі, як дым; шалёны і ўз'юшаны, як агонь, што глытаў цяпер, здавалася, увесь свет.

Падняўшыся, ён угледзеў, што абараніў толькі кавалачак сіўцу ад агню пад сабой, калі ўпаў быў, згубіўшы сілу. Усю пасеку каціў з ветрам агонь, ішоў пад вёску і на Доўгія крыніцы.

І толькі цяпер Выжлятнік усвядоміў, што адзін не дасць рады агню. Яму раптам здалося, што гарыць твар,— гэта кроў хлынула ў галаву. Ён памкнуўся выцерціся ад поту і гары — рукі ліплі да твару, былі ў смале.

«Выгарыць пасека... Сасняк... Агонь можа перабрацца ў пушчу... Такая суш увесну... Людзі, толькі людзі могуць уратаваць лес!.. Толькі людзі могуць заступіць дарогу агню!..»

— Людзі!.. Людзі!..— зароў чалавек на ўсю пасеку, глуха і сіпла. Рэха не было: пасека гула ад агню,— яна глынула і голас і рэха.

Пасля ён кінуўся да вёскі. Выскачыў на дарогу, зляк-

нуўся і павярнуў назад. Бег цяпер у Асіпаўскую пушчу, адкуль толькі быў выйшаў да пажару.

— Людзі!.. Людзі!..— крычаў ён, бегучы ад агню ў лес. Спыніўшыся, учуў раптам, як ззаду гудзе зямля і недзе далёка за лесам раве скаціна.

Тады ён спалохаўся пушчы і звярнуў паўз Ваўкаўню на лозы, што падступалі да загумення. Калі ён выйшаў з сасняку, то ўгледзеў, што запылілася ў Ваўкаўні дарога, убачыў яшчэ, як верхам на кані мчаў на пасеку, мусіць, Авяр'ян. З-за фермы раптам вырваліся людзі і, крычачы, пабеглі за ім услед.

Калі апусцела загуменне і стала ціха, Выжлятнік яшчэ раз учуў, як за Цянямі раўла скаціна.

Звечарэла, сцямнела неба. Сцішылася вёска, нарыхтавалася спачыць у цёплай ночы.

За ракой недзе далёка, аж у куце на лагу ржалі коні, там начлежнікі распальвалі нанач учарашнія галавешкі,— ля агню мітусіліся цені, як вялізныя чорныя матылі. Туман дапоўз да ракі і, можа, збаяўся вады, бо не асмеліўся паралезці праз платы ў агароды.

З туманам прыцягнуўся ў вёску пах гары.

У канцы Грынёў, калі глядзець на Ваўкаўню, мігалі далёкія водсветы начнога пажару. Гарэла на Доўгіх балотах, за лесам.

Цёпла, ціха на прызбе. Толькі лезуць у вочы камары,— і ліха няма на іх,— таўкуць мак ля акон; звіняць над панадворкам жукі, шлёпаюць аб сцяну, покаюць на дол — Выжлятніку пад ногі.

У чалавека неспакойна на сэрцы. Не сядзіцца яму ні ў хаце, ні на двары. Па вячэры ён выпаўз на прызбу і курыў без аддухі. Ці камароў ганяў, ці сваю бяду гнаў прэч,— і сам не мог згадаць. Курыў да гаркаты, да рвоты.

Часам ён насцярожваўся,— гэта калі шлопалі побач жукі ці ляпалі дзверы і Волька злосна клікала класціся спаць. Другі ўжо дзень так, калі яна дазналася пра звальненне. Качаргу збіралася паламаць на спіне разы са два. Стане ён зноў на ногі — адрыгнецца. А цяпер...

Пра гэта хутка забывалася: уваччу ўсё стаяў агонь — шалёны, сухі, калючы. Смылелі папечаныя пальцы, пахла дымам вопратка, аж блажыла; і глыбока-глыбока ныла ў сярэдзіне. Што будзе? Што будзе, калі дазнаюцца? Што, калі хто бачыў ці проста па чым-небудзь западозрыць?

Пачнуць капацца. А тут яшчэ Дзедзіха вісіць над галавой. Што будзе?

Калі стукнулі вароты — Выжлятнік аж падскочыў. Нехта ішоў з вуліцы. Авяр'ян са старшынёй? Чаго гэта яны маглі надумацца? Выжлятнік хацеў падняцца і пайсці ў хату, але не рашыўся, адсунуўся толькі на другое месца на прызбе.

— Добры вечар на двор...— першы прывітаўся Авяр'ян.

— Здароў, Мірон. Не сядзіцца цяпер у хаце? — Станіслаў Пракопавіч падышоў і падаў Выжлятніку руку.

— Здароў. Не сядзіцца...— Выжлятнік заёрзаўся па гнілым бервяне.

— Ага,— Авяр'ян спыніўся насупраць і глядзеў на Мірона зверху ўніз,— вясна. Цішыня такая, цяпло. Зямля дыша. Пасядзець цяпер добра на прызбе пасля работы, калі рукі баляць... На, закуры маіх. А то цыгарэты толькі хіба ад камароў.

— Не хачу. Сваіх насмактаўся, прама скажу...

— Ну, то дай прыкуру. Ды, можа, пасядзім трохі разам? Пагаворым.

— Гаварыце, калі інтэрас маеце... Калі ён у вас да мяне ёсць. З чаго б гэта? — Выжлятнік адсунуўся яшчэ далей, даючы ля сябе месца Авяр'яну і старшыні.

Станіслаў Пракопавіч не сеў. Авяр'ян апусціўся на прызбу крыху воддаль ад Выжлятніка і доўга глядзеў праз агароды ў канец вёскі на Ваўкаўню.

— Ледзь збілі агонь. Гэта ж падумаць... Калі б не падаспелі з вёскі — увесь бы маладняк дымам пайшоў. Уся пасека... Каб ведалі, хто падаткнуў агню,— судзілі б, не шкадуючы. Столькі ўрону. І на балоты агонь вырваўся з ветрам, праз крыніцы. Такая суш. І ноччу вунь кіпіць, бачыш. Хаця там агонь і патрэбен. Уся старая гніль выкаціць з дымам, і леташняя і пазалеташняя. А то дзе былі тыя гады не касілі — касы не ўткнеш. Такое дуддзё... Што сучча. Толькі гарэць. А лес... Лесу, знаеш, шкода. Хапіла б і калгаснаму і Асіпаўскаму, калі б і адтуль не пераступілі. Ніколі б не даў веры, што вясной такі пажар зачацца можа. Не, брат, за гэта судзіць трэба. Любога...

Выжлятнік грыз у цемені цыгарэту. Звесіў галаву, пароў абцасам зямлю ля прызбы, маўчаў. Соп. Каб слова.

— Слухай, Мірон. Я ў цябе сёння ўжо быў. Перад пажарам яшчэ. Са старшынёй заходзілі. Не засталі толькі. Ды няма выйграшкі і адкладваць гутарку. Ні нам, ні табе.

Нам рукі рабочыя трэба. Вунь як трэба. А ты цяпер вольны, работы шукаеш. Чулі мы ў праўленні, што ў леспрамгас хочаш падацца. Справа яна рабочая, грашовая, а я сказаў бы — не хадзі. У калгасе ты большае будзеш мець, пры старшыні кажу. І гарод у цябе будзе такі, як быў... Ды ты і вырас у калгасе, дык нашто яго на старасці пакідаць?

— Старому калгасніку яно сорамна так рабіць...— Станіслаў Пракопавіч нагнуўся і прыкурыў у Авяр'яна ад папяросы.

Выжлятнік зноў заёрзаў:

— Я табе, Авяр'ян, прама, мусіць, скажу... Гм... Хаця... Давай адкладзём гутарку на лепшыя часы. А то... Ды і ноч ужо на дварэ, а ты мяне прымушаеш... Што вам дня мала? Хопіць часу. Нідзе я не дзенуся...

— Не, не хопіць. І ніхто да цябе не прыйшоў дзеля агітацыі. Пра цябе ж думаем. Чалавеку бывае аднаму цяжка на дарогу стаць. А нам людзі рабочыя трэба, за гэтым і прыйшлі. Каб можна было, дык бы і па завод які за імі з'ездзілі. Сам знаеш, колькі закалюжанцаў ды грынёўцаў асела па заводах у горадзе за тыя гады. А машынамі людзей усіх не заменіш. А ў нас цяпер і машынам работы заваліся і людзям. Слухай, многа гаварыць не будзем, адно скажам — ідзі на балота. На асушку. Да машын. Там мужчынскія рукі трэба, як не ведаю што. А заробіш больш, чым у любым леспрамгасе, яшчэ раз табе кажу. Ну дык як? Куды думаеш падацца? Мне здаецца, тут галавы круціць доўга няма чаго. Да нас ісці трэба. Хіба не бачыш, як людзі цяпер рабіць ідуць? Я ведаю, пра што ты думаеш. А некалі ж трэба выкарабкацца і на сухі бераг. І мяркую, час ужо адумацца. Вярнуцца да людзей трэба з лесу. А то як шарсцень які. За гэтыя гады, што ты ў лесе, людзі ў Закалюжжы змяніліся. Маладых колькі нарасло, свет зусім другі. Выйдзі на работу з усімі, убачыш, што гэта за людзі. Падыдзеш заўтра ў Грыні, у канцылярыю, праўленне ў нас... Пра цябе гаварыць будзем. Калі мне сёння са старшынёй пе хочаш даць слова — заўтра ў цябе яшчэ цэлы дзень, падумай. Хай Волька сваё скажа. Удваіх працуючы ў калгасе, вы... Ды што табе гаварыць. У самога ёсць і галава і вочы.

Ужо добра сцямнела. Пацяснеў двор, здавалася, бліжэй да хаты падсунуўся паркан. У Ваўкаўні занялося зарыва — дрыжала, мяняючыся: то расло, то спадала — калыхалася.

— Гэта на Пагурку. Сіўцы гарадь...— Выжлятнік не мог памыліцца...

— Дождж абмые выгарышча — трава пойдзе маладая расці,— Станіслаў Пракопавіч сеў з другога боку ля Выжлятніка: — Мы пра цябе ўжо гаварылі. Можаш ісці па нараду, калі на балота не захочаш. А то падумай. Ля грэблі будзем аплятаць канавы. Апаўзаюць. Вада там жывая, крынічная, падмывае торф на вачах. Адну ды і другую мяркуем, калі экскаватар прачысціць. Станавіся. Работы на першы раз будзе. Дадзім маладых хлопцаў. Ці калкі зачэсваць, ці забіваць... Будуць рабіць. Пакажаш ім напачатак — што да чаго. Ты ўсё гэта ведаеш. Тодар гаварыў, вы з ім да вайны на выгане канаву аплятаді. Машыну дадзім бярэзнік вазіць. Яго на адным Пагурку можна насекчы дагібелі, і пад'ехаць туды лёгка. А справа яна такая... Аванс можам даць грашыма... На асушку мы маем вялікія сродкі. Уладкуемся ля грэблі — за Цяні возьмемся. План ужо ёсць. Так што работы хопіць...— Станіслаў Пракопавіч падняўся і захадзіў па двары.

Памаўчалі, закурылі яшчэ. Кожны сваё.

За ракой гаманілі начлежнікі. На шашы ўспыхнулі агні і сцебанулі аж па вярбе, што ў Выжлятніка на агародзе. З раёна варочалася калгасная машына.

На Лавацкім полі загуў трактар. Адгэтуль, з двара, здавалася, што ён недзе далёка-далёка, аж за Гальдарадай.

— Слухай, сакратар, ці як ты тут лічышся, партыйны, у калгасе. І ты старшыня... Скажыце. Людзі вунь на цаліну вярбуюцца, багацейшага чаго шукаюць. Куцка дык аж у Польшчу збіраецца ехаць... А вы мне тут горы абяцаеце. Так я і веры даў. Так я і пабег у вашы канавы на ваш аванс. Свет цяпер шэры. Калі гэта тое багацце ў Закалюжжы было? Скажы? Да вайны мо толькі...

— А ты вер. Мы не абяцанкі абяцаем. І чаму гэта для цябе нейкая другая вера патрэбна? Увесь калгас паверыў, а ён... Не будзем мы трымаць цябе на камарах пад прызбай, заўтра пагутарым, колькі трэба будзе. Прыходзь перад праўленнем. І пра цаліну, і пра Куцку пагаворым — усё высветлім. І прыходзь са словам. Ну, годзе... А то скажаш, што сон у цябе адабралі. Зачыніш вароты. Аселі, падняць іх трэба, а то кручок да прабоя не дастае. Ну, будзь здароў.— Авяр'ян устаў з прызбы і пайшоў з двара. Станіслаў Пракопавіч быў ужо на вуліцы.

Яны ўтрох моўчкі зачынілі вароты. Пасля разышліся:



Іван Пташнікаў —
студэнт 5-га курса аддзялення журналістыкі
БДУ імя У. І. Леніна.
*1957 г.*



Іван Пташнікаў на вайсковых зборах.
*1957 г.*

два мужчыны падаліся шырокай вуліцай насустрач зары, пажару, адзін жа доўга клыпаў па вузкім ад цемнаты двары да сяней.

Усю ноч над Ваўкаўнёй стаяла зарыва. Гарэлі сіўцы.

Водсвет ад пажару сцябаў па акне, палохаючы ў хаце цемру.

Выжлятнік аж да раніцы не звёў вачэй.

Назаўтра праўлення не было.

Позна ўвечары хавалі Андрэя Дзедзіху.

7

Шлях кліча ўдаль...

Цягне пайсці, пусціцца пеша па шорсткаму жвіру, што на абочыне шашы, дыхаць ветрам, што мкне насустрач, скалясіць дацямна паўсвета да зморы, да стомы, а выведаць, угледзець: што ўстае за той дымкай, якая завалакла небасхіл, схавала-спавіла лясы і далёкія-далёкія белыя будынкі трактарных станцый ля шашы... А можа, густая смуга ад таго, што дзень і ноч там дымяцца трубы?

Дымка — таямніца, невядомы свет з маленства...

Яна чаруе душу, шэпча таямніцы з неагляднага прастору зямлі, над якой дыхнулі вясновыя ветры. За дымкай — шляхі, і далёка, дзе яны знікаюць, зноў дымка. Можа, там ужо дымы, што стаяць вечна над горадам?

За дымкай — прастор, за дымкай — далеч, за дымкай — горад...

Можа, таму і ляглі скрозь па зямлі дарогі, каб весці кожнага за парог, клікаць і клікаць неадчэпна і ўдзень і ўначы ў апаленую сонцам і абветраную бурай прастору, дзе шырэй бывае душа чалавека, дзе ён бы пачынае жыць нанава. Можа, таму людзі спрадвеку і сяліліся ля дарог, мо таму цяпер і вядуць да паселішчаў шырокія і гладкія асфальтаваныя дарогі... Можа, таму цяпер і новыя забудовы ў Грынях падаліся да шашы, выбіліся за раку на выган пад Лавацкі сад...

Ад ветру і сонца ачарсцвела шаша, запахлі лісцем дрэвы-прысады.

Збілі імпэт жаўранкі, не збіраюцца ў лагчыны шпакі,— яны цяпер паасобку ля свайго прытулку. Вылятаюць толькі на жыр з гнёздаў або садзяцца на тэлефонныя пра-

вады ля шашы і маўчаць, варочаючы па баках жоўтымі дзюбкамі. Іх палохаюць машыны.

Сонца пасля паўдня верне на лес, на Камена, дзе застылі-павіслі густыя воблакі. Здаецца, што на захадзе каторы ўжо дзень гарыць нешта далёкае.

Цёплая, парная зямля...

Дажджу не было, ён толькі збіраўся і прайшоў бокам, над Каменам. Адтуль вецер нясе волкую свежасць...

Леанід з Галінай далёка за Грынямі на гары пад Гальдарадай...

Тут дубы — разгатыя, шэрыя, суровыя, магутныя. На іх яшчэ — толькі пупышкі. Моцныя дрэвы распускаюцца позна. Яны мудрыя, яны не спяшаюць жыць.

Імчаць машыны, знікаюць за дубамі ў лагчыне, пасля ўзлятаюць на белую ўдалечыні шашу і тады паўзуць, як мурашкі па бярозавым камлі, паволі ўгору, пакуль не растаюць у павіслай ля зямлі сінечы.

На шашы спакойна: ціха ад ветру за лесам.

— Вернемся ў Лаўкі... Я люблю глядзець, як бялеюць сады. Я ніколі яшчэ не бачыла, як пачынае цвісці вялікі сад. Хадзем... Лёнік... Там у лагчыне за мостам чаромха зацвіла...

— Я ніколі не любіў чаромхі... У мяне ад яе баліць галава...

Яна просіць яго, не сціхае.

— Хадзем тады на крыніцы,— ён усміхаецца нейкай сваёй радасці.— Цяпер там... Цяпер крыніцы белыя, што ад снегу. У нас Доўгія крыніцы завуць яшчэ Белымі. Чаромхі там — не прайсці.

— Ты падумай...— яна памаўчала.— Хоць куды, хоць у самае-самае ваша балота...

Яны сышлі да моста і напаткалі дзяўчатак-школьніц. Тыя беглі з заняткаў і тут збіліся ў кучку, нагнуўшыся над некім.

Убачыўшы незнаёмых, дзяўчынкі адскочылі на абочыну, і на дарозе на рваным гумовым коле-пакрышцы засталіся два хлапчукі. Крычалі, браліся калашмаціць адзін другога, чагосьці, відаць, не падзяліўшы.

— Ён яшчэ лезе... Я знаю... Каб зямля перавярнулася дагары нагамі, была б спачатку восень, тады лета, вясна і зіма... Мала што ў геаграфіі напісана... Еўдакім Мікалаевіч...

— Э-э-э... Грамацей, грамацей... Ніколі ўрокі добра не вучыў, а яму Еўдакім Мікалаевіч пяцёркі ставіў...

— Любімчык!.. Любімчык!..— закрычалі дзяўчаткі.

Хлапчукі схапіліся.

Адзін з іх — цельпукаваты, расхрыстаны і ўмурзаны, «любімчык» — замахваўся партфелем на тоненькага рослага белагаловага хлопчыка. Той спрытна выкручваўся і скуб «любімчыка»...

Дзяўчаткі былі адбегліся, пасля вярнуліся і напалі на мурзатага. Той прыціх. Тады нанава белагаловы пачынаў даказваць расхрыстанаму нешта пра «рэактыўныя ракеты». Таму, відаць, не было чаго рабіць, і ён хутка адлучыўся ад купкі.

Ля моста галініліся сцежкі ад шашы, і школьнікі сталі разыходзіцца.

Цельпукаваты адскочыў па дарозе аж да кустоў і, замахаўшы рукой, крыкнуў:

— Гуд бай!..

— Э-э-э... Гудбэка!.. Гудбэка!.. Э-э-э...— загаманіў раптам белагаловы, дражнячы цельпука. Да белагаловага падбеглі дзяўчаткі:

— Давай, Сярожка, усыплем «любімчыку»! Э-э-э... Любімчык... Гудбэка...

Дзяўчаткі пусціліся цераз мост за «любімчыкам».

Той знік у кустах.

Праз колькі часу на горку пад Лавацкія сады падымаліся дзяўчаткі з кнігамі. Іх вёў белагаловы хлопчык.

«Ці не той гэта Сярожка, што нарваў летась званочкаў? — Галіна задумалася.— А расхрыстаны ці не задзіра, што збіраўся тады «накруціць хвост» белагаловаму.

— Любімчык Петушонка...— сказала яна задумліва.

— Пры нас ніколі не было любімчыкаў у Петушонка... Мы яго не любілі.

— Гіяграфія...— яна рассмяялася.— Настаўнік... Вучыць... Зямлю перавярнуць дагары нагамі...

— Нічога... Яго галаву ўжо не перавернеш... А пераварот у жыцці зрабіць можна. І зробіць гэта наш Васіль Міронавіч. Для «Настаўніцкай газеты» сёе-тое мне з ім давялося нядаўна абдумаць. Расказваў такое...

Ад Лавацкіх садоў на Доўгія крыніцы можна трапіць цераз выганы, пакінуўшы збоку камяністую дарогу, што вядзе на Гальдараду.

Яны звярнулі на сцежку праз бярэзнік. Ішлі ўпобачкі, расхіналі ліпкія галінкі, слізгалі па маладой траве,— тады стукаліся плячо ў плячо.

— У цябе, можа, і тут выйдзе, як?..— спытала яна і пасур'ёзнела.

— Ну гавары, гавары... Хочаш сказаць, як і з Андрэем Дзедзіхам?

— Праз цябе ж чалавека трывожылі з таго свету...

— Экспертыза. Нічога не зробіш. Я не верыў і вашаму Чыжыкаву і абласным экспертам. І цяпер не веру, і яшчэ пісаў бы, куды трэба. Не магу пагадзіцца, што чалавек загінуў сам па сабе. Не веру, ты разумееш, не даю веры, што выжлятнікі не маглі нацерушыць чаго ў чортаву тую гару.

— А я веру. Эксперты былі з вопытам. Не такое бачылі. А тут, як бывае, чалавек перабраў меру. Нават калі ўскрылі яго, простым вокам можна было ўбачыць... І што яшчэ — ніводнай драпінкі ці ўдару. Відаць, як трапіў пад лёд,— адразу тады прыгнала яго ў затоку, ён і...— яна падумала: — А медыцына дае сваё заключэнне, не пытае, хто на каго падазрае. Я ні за кога, але ж экспертам нельга не верыць. Ніхто з іх не хацеў, каб, скажам, апраўданне знайсці нейкаму Выжлятніку.

— Ты верыш, а я, гавару, ніколі не пагаджуся, што выжлятнікі такія чысценькія, як яны сябе выстаўляюць. Яны яго ўсё жыццё тузалі. Можа, ён і сам, зблудзіўшы, пайшоў пад лёд, можа. Але каб з ім тады такое не здарылася, думаеш, Куцка ці хто там выпусціў бы яго жывога? Куцка сам стане канаць, а другім хваробу будзе зычыць. А ў іх — не зусім было чыста. Разбярыся вось. Чаму ж Куцка цяпер тут месца не знаходзіць? Мотапна стала. Выехаць надумаў. Каб спакойна дзе жыць, каб душа на месцы пад старасць была. Што ж, ішло, вярцелася, а цяпер страх, каб дзе не дзелася... А Петушонак наш не Куцка і не Выжлятнік. Ён проста не тады радзіўся, калі розум раздавалі, а такой штукі не пазычыш... А цяпер кошка вочкі жмурыць, а кіпцюркі вострыць. На Васіля Міронавіча пачаў плявузгаць у райана. Яшчэ за той вечар... Сораму, як у пеўня мяса на шпорах... Але тут не выгарыць. Васіль Міронавіч не такі. Не, падумай толькі...

— Хвалі... У мяне пра яго свая думка.

— Ведаю.

— Вось як?

Гэты раз ён змоўчыў, задумаўся і глядзеў пад ногі.

Яны былі на выгапе — ішлі паўз рэчку ў бок Доўгіх крыніц.

Калі бярэцца на цвет чаромха, калі яблыня хіне да сонца свае чырвона-белыя бутончыкі-збаночкі,— падае голас салавеў. Ён ажывае ўвечары, ён нямее днём.

Затое не моўкне івалга — залацістa-жоўтая пташка. Усюль — на выгане, на выгарынах на Пагурку, на кожным кургане ля ракі, на падбалоцці чуваць заўсёды яе голас. Яна любіць, калі неспакойна і ветрана, калі хмурэе неба, калі шуміць, гнецца долу непаслухмяны лазняк.

Пяе берасцянка; залівіста, трывожна крычыць перапёлка; пырхаюць стрыжы; не сціхае, не супакойваецца, носіцца паверх лесу бакас-рагатун. Чуваць, як на Доўгіх крыніцах жыруюць качкі і кнігаўкі, як дзяруць горла драчы.

Доўгія крыніцы бралі пачатак ад ракі і цягнуліся цераз сенажаць аж туды ў зашыек, куды Пагуркам падыходзіла Асіпаўская пушча. Яны былі белыя ад ніцых лоз, ад чаромхі ў цвеце.

У нагах стома, мокра ў абутку, бо ісці даводзіцца прырэччам, пераступаць колішнія глыбокія канавы, што заплылі тванню, зацвілі.

Ці ведала Галіна, ці верыла калі ў тое, што напаткае яе тут, на далёкіх Белых балотах за высокім Пагуркам, у разгатых, бурых ад каткоў асінах, перад самай пушчай?..

Успомнілася ёй асенняя пара... Тады з Леанідам яны былі ў грыбах, вунь за тымі асінамі на пагорку, што, здаецца, зусім пад бокам...

Варухнулася, ажыло ранейшае пачуццё... І тады чалавек, што стаяў упобачкі і з такім одумам глядзеў удалеч, дзе рака, стаў для яе свой — дарагі і любы... Яна адчула, што мае права зваць яго так, мае — і ўсё. Яно прыйшло да яе само па сабе...

Ёй здалося, што яна ведала Леаніда даўно-даўно, з маленства, з той пары, калі на ўскраіне горада пасля вайны кідалася кавалкамі бітай цэглы з задзірыстымі хлапчукамі... Ён быў тады сярод іх... Гэта яго, злавіўшы знянацку, яна круціла за вушы. Можа, таму яны цяпер і адтапыраны? Ён амаль не змяніўся, не перайначыўся, нават не падрос. Ён — дзіця...

Ёй раптам захацелася прыпасці яму да грудзей, абхапіць за шыю, прытуліцца і цалаваць яго вусны... Няпраўда, што яны таўставатыя... Яны чуць-чуць прыпухлыя...

Дыхнуў вецер — на твар упалі цёплыя ад сонца пялёсткі.

Яна кранулася яго пляча, і ён раптам загаварыў:

— Я ніколі не любіў Люды...

— Не трэба. Я не пытаю. Не трэба...

— А я хачу табе ўсё расказаць.

— Ты падумай...

— Тое было толькі найсце. Ды і нічога сур'ёзнага ў мяне з ёй не магло быць. Гэта не было каханне... Ды што я кажу. Я думаў, што і любоў уся ў тым, як яна капрызна стрыжэ вачыма ў мой бок і хінецца кожны раз... Я не мог не спаць начэй, яна ж гатова была круціць мной, як хацела. Я спярша не верыў, на што яна здатна, пасля зрабілася прыкра...

— Дурненькі... Ты каторы ўжо раз дурыш мне галаву сваёй споведдзю. Я на цябе за былое не наракаю... Мне толькі шкада цябе пасля гэтага.

Яны ўзышлі на высокую мяккую беражніцу. У дзявочых руках быў далікатны букецік — кветкі са тры.

Яна маўчала, глядзела ў раку, дзе кратала вада чорныя, яшчэ без лісця, дубцы парэчак, што звісалі з берага...

Дзіўны ён. Дзень і ноч будзе цяпер каяцца. Каму гэта трэба? Яна даўно паверыла яму, забылася на ўсё. Ён — чысты, ён — добры. Яна пакахала яго, пакахала тады, увосень... Яна сёння ўведала гэта, яна скажа сама... Не... Ніколі на свеце, бо яму такое ўжо гаварылі...

— І сам ты не ведаеш, які ты добры... Ты дзіця... Дзіця...

Ён чуў, як яна прашаптала, учуў яшчэ, як яго шыі кранулiся рукі...

Тады стала горача. Гарэў твар, як апалены ветрам.

Леаніду здавалася, што ён яшчэ трымае яе моцна-моцна ў абдымках, адчувае крамяную, сп'янелую, а яе ўжо нідзе не было.

Пасля, калі сплыў раптоўны одум, яму ўспомнілася, як яна скокнула да берага, дзе пахілая старая альшэвіна калягла папярок ракі, пакаўзнулася спачатку па слізкай кары, пырхнула на той бок, што матыль, у сваёй жаўтаватай лёгкай сукенцы і знікла. Доўга яшчэ на тым баку хісталася ля зямлі патрывожаная галінка ракіты і церушыўся зверху, як з чыёй жмені, белы дождж,— гэта з чаромхі, што нагнулася над берагам. Было ціха, і чулася, як трапечацца недзе ўнізе на вадзе ліст лотаці: тах-тах... тах-тах... А можа, гэта стукае сэрца? Пасля было радасна і горача, горача ўсяму. Хацелася плакаць ад немаведама за што падараванай пяшчоты...

Яму ўспомнілася яшчэ, як ён падумаў быў, што не, не ў горадзе расла яна, а тут, між ракіт і крапівы, дзе знікла так смела, як не змог бы ён, хто да купінкі перабраў нагамі гэтае прыбярэжжа...

Яна ўцякала ад самой сябе, ад шчасця, ад шчырасці. Ён не ведаў таго і не мог кінуцца за ёй, каб не пачуць, што ўсё гэта дзявочы смех, жарт, на што маладосць мае любое права.

Ціха-ціха, нібы баючыся парушыць спакой, азвалася берасцянка, зашумелі на Пагурку асіны, нешта боўтнула ў вадзе, зашваргатала рака за павароткай, дзе камяні і разбураны зімовы масток.

То было імгненне, а яму здалося, што ён на вечнасць прырос да зямлі ў гэтых дзікіх лазняках ля крыніц.

— Галіна! Галя...— крыкнуў ён ціха і нясмела.

Каб што гукнула ў адказ.

Тады яму захацелася бегчы, пусціцца на край свету, шукаць і знайсці яе. Знайсці, каб ніколі больш не дазволіць сабе згубіць праз усё жыццё.

— Галі-іна!.. Га-аля!..— закрычаў ён зноў неспакойна, насцярожана і палахліва.

Зашамацеў вецер у лозах і далёкіх асінах. Кінулася аднекуль з высі кнігаўка, на самую галаву, залапатала крыллем. Яе спалохаў трывожны чалавечы голас.

Далёка, аж з кута Доўгіх імшараў, узняліся ў неба два журавы і закружылі над Асіпаўскай пушчай.

Ля самых ног вада круціла кветкі, што хвілю якую назад былі ў дзявочых руках.

— Галя...

Леанід кінуўся на кладкі.

Дождж ішоў недзе далёка. Над шашой на поўдні ўзнімаліся хмары, плылі паволі, марудна. На захадзе над лесам вострыя чырвоныя пісягі спаласавалі небакрай,— там зайшло сонца.

У паветры мітусіліся белыя матылькі...

Драмалі Лавацкія сады; густа пахла ўгрэтай зямлёй, як заўсёды перад навальніцай.

Але дождж ішоў краем, сюды далятаў толькі ціхі-ціхі гром, як рэха, бы гэта пад Гальдарадай заводзілі трактар.

Нізка, над самым шляхам, дзе днём вісела густая смуга, успыхвала неба,— тады там дрыжалі бурыя хмары.

Свежа і трывожна стала ў прыродзе.

Ад Лавацкай сажалкі ўзняўся бусел і паплыў на Грыні, на сосны. Дарогай на лагі начлежнікі пагналі коней.

Зямля зрабілася вільготная; натапырылася, устала трава. Суха шамацелі перад ноччу насцярожаныя беразнякі. Аж ірвалі ў цішы струны бярозавыя жукі. З поля несла далёкім летам — жытамі і кменам.

Ад таго ў яе кружылася, аж балела галава.

— Ты дзіця... Дзіця маё... Ты і сам не ведаеш, які ты прыгожы...— яна хінецца, гарачая ўся, трапяткая, як зямля перад бурай.— Ты любы... Каб ты ведаў, колькі я пра цябе перадумала... Ты са мной... Ты мой, мой... Я цябе нікому, нікому не дам. Я б не перажыла... Які ты харошы... Родны мой... Я тады не перажыву...

Ён туліць, ахінае яе сваёй курткай, абдымае моцна, як толькі можа. Ён сам не свой.

— Не гавары такога... Я люблю цябе. Я так яшчэ нікому не гаварыў. Ніколі...

— Лёнік... Не трэба, не трэба... Прашу. Не цалуй так... Дай перадыхнуць. Не трэба. Адпусці. Я ж усё роўна твая... Твая, чуеш... Не трэба цяпер, адпусці... Са мной яшчэ ніхто так не быў!..

Ён цалаваў яе вусны, шыю, грудзі. Яна адчувала яго рукі, дужыя, цвёрдыя. Яна дрыжала, яна спалохалася...

— Лёнік... Ну не трэба... Я баюся... Ты ж мяне любіш.— Яна задыхалася.— Ой, што ты... Лёнік... Ой...— яна абмякла, панікла.

...Ён доўга яшчэ трымаў яе ў абдымках, калі яна плакала ціха і доўга; туліў асцярожна да сябе: не хацеў, каб яна цяпер пакінула яго.

Апаў мрок разам з расой, густы, ціхі. Улёгся, супакоіўся вецер.

Над Асіпаўскай пушчай усплыў няпоўны месяц. Не адыходзіўся, доўга стаяў нізка над лесам. У Лавацкіх садах устрапянуліся салаўі. Далёка на Доўгіх крыніцах закукавала зязюля: адна на ўвесь лес. Звонка і неяк дзіўна, можа, што ноччу. Пад Закалюжжам, там, на Ваўкаўні, гукалі совы; крычаў, аж стагнаў, казадой — птушка начы.

У сады краўся рэдкі туман.

Стыла зямля. Звінелі камары.

Навальніца плыла бокам, далёка за Грынямі.

## 8

Дарогай насустрач гнала калючую жарству, трэба было адварочвацца, закрываць рукамі твар.

Пасля навальніцы раптам захаладала, як увосень: вецер, зайшоўшы з усходу, дзьмуў у Грыні з Гальдарады другі дзень; сохла, чарсцвела зямля, на полі заносіла пяском зялёнае ладнае жыта. Змізарнела маладое лісце на дрэвах, сцяліся на вішнях кветкі.

Схавалася сонца; па небе цягнуліся шэрыя, як нябеленае палатно, хмары. Учора нанач вецер сціх, заружавелася на захадзе неба, памацнеў холад, паказвала на мароз.

У маладых Лавацкіх садах звечара расклалі агні, прывёзшы з Ваўкаўні машыну яловых карчоў. Яны дыміліся яшчэ і цяпер, днём, і, калі круціў вецер, пахла гарэлай трухлінай.

Дзед Тодар цэлую ноч адтопаў у ботах і ў кажуху ля вогнішчаў, не звёўшы воч, і цяпер паволі крочыў ззаду за ўсімі, перакінуўшы цераз плячо мерку-сажань, якую ўзяў з двара ў грынёўскага брыгадзіра.

Сёння за яго пагнала скаціну Анця — пашкадавала: калеў жа ўсю ноч,— ён і праўда быў залез раніцай аж на печ, але нечыя дзеці, ён не помніць, прынеслі з канцылярыі запіску — старшыня клікаў на праўленне. І нехта ж данёс аж у Грыні, што ён застаўся дома. Працуе лапцявое радыё... Не спіць.

Ён ішоў у расхрыстанай фуфайцы,— не баяўся холаду; нават не моршчыўся ад ветру і пяску, як другія: нацярпеўся, перанёс на сваім вяку не гэта...

На загуменне выйшлі ўсе праўленцы і члены рэвізійнай камісіі. Не было толькі Ульяны: у Закалюжжы дзве каровы на цяленні, і яна з фермы пайшла з імі аж у поле. Пасуць жа недзе блізка пад Асіпаўскім,— Анця далёка не пагоніцца.

Праўленцы спыніліся ля Выжлятнікавай маладой грушы-дзічкі, што расла за гумнамі на дарозе — супраць яго сядзібы.

— Дзед! Давай трушком... Змерзнеш без кажуха... Хаця нічога, цярпі. Май... Ну, давай мерку...— выскаляўся малады, падобны на старшыню, грынёўскі брыгадзір,訓 тручы рукі ад холаду.

— Май — каню дай, сам на печ уцякай...— бы сам сабе адказаў Тодар, ні на кога не гледзячы.— А мерку не

палучыш. Сам нёс, сам з ёю і па гародзе прайду. Для чаго тады, старшыня, мяне з печы сцягнулі? Для саліднасці? І без мяне мог хто маладзейшы,— кіўнуў ён галавой у бок грынёўскага брыгадзіра,— акуратненька калочкі забіць у былога лесніčка на сядзібе. Я цяпер пачынаю думаць, што для Выжлятніка Тодар самы большы аўтарытэт у праўленні... Гм? — Тодар, не чакаючы старшынёвага адказу, пералез цераз высокі новы плот і, прыжмурыўшыся, акінуў гарод вачыма: — Так... Пачнём ад мяжы...

— Нашто мерацъ? Па шнуравой жа кнізе ведаем, колькі тут. Пяцьдзесят пяць сотак. Пяць яшчэ пад рэчку за вуліцай...

— Не ўсё ж мы ў яго адразаем. Пятнаццаць сотак пакінем. Што, не быў, калі пратаколілі? Трэба ж адмерацъ...

— Дык не аднаму яму пратаколілі, дзе я ўпомню. А ў яго я ўсё б шахнуў. Па вуглы... Сам у леспрамгас падаўся? Факт. А баба яго? Два разы за вясну выйшла да капца? Бадай... А ў Раіны колькі пастанавілі?..

— Зараз пагляджу... У гэтай на адну душу паўгектара мелася. Нашто тады было ёй у калгас хадзіць...

Тодар ішоў па раллі, перакідваючы мерку, а вецер даносіў яму ўслед усю гамонку з загумення з-пад грушы.

«Нічога новага... Сем, восем...— лічыў і думаў ён.— Пра гэта гаварылі нядаўна ў канцылярыі. І старшыня і Аўяр'ян. Вось што Выжлятнік запяе? Ну і абгарадзіўся ж чалавек. Трынаццаць, чатырнаццаць... Шулы ў абхват. Аж у восем жэрдак плот. І жэрдзе пачэсанае,— усохлася. Яму і веку такому не будзе. Даўней толькі ў Гапонаве Сурвіла сваю бойню так абгараджваў. Дык жа ў таго быкі былі, як трактары цяпер. А тут нашто чалавеку такі плот? Ну, ад загумення, дзе жывёлу ганяюць,— дык там ва ўсіх платы. А ад суседзяў нашто сцены мураваць? — думкі бягуць неяк хутка, круцяцца ў галаве, як мерка ў руках. Трыццаць адзін... трыццаць два... Гнаёк вунь ужо вывез, паклаў аж два рады. Раней за ўсіх думаў пасеяцца,— і пасеяўся б, калі б старшыня не сказаў: «Стоп!» А цяпер тут добрая кукуруза будзе. Вываліць вышэй стрэх. Зямелька і пасля зімы як пушок пад нагамі. З баронкай ужо справіўся праехаць... І каб дзе каменьчык у вочы кінуўся. Нават пырнічку нідзе ні каліўца не адскочыла па раллі. Дзіва што, баба ж яго ляжала зіму-лета каторы год дома. Па каменьчыку, па травінцы магла ўсю нечысць вытруціць не толькі ў сябе за хатай... Вось бы так калі градкі

калгасныя прыйшла апалола... Пяцьдзесят восем, пяцьдзесят...— упёрся ён у плот ля вуліцы,— пяцьдзесят восем з палавінай... Гоні...» — падумаў ён і пакульгаў з меркай па мяккай раллі ўпоперак гарода.

— Наліха яго ўвесь мерадь... Адкінем ад вуліцы дзесяць сотак і — граніца!..— наперарэз Тодару ішоў грынёўскі брыгадзір з зачэсанымі калочкамі і з тапаром пад пахай.

— Наліха? Ды тут у яго ўсе семдзесят... У нас у многіх, каб каморніцкую ленту тугенька так ля платоў нацягнуў, шмат знайшлося б лішняга. У шнуравой кнізе яно адно запісана, а тут зямля калгасная ў дармавой арэндзе. Дарога б шырэйшая на загуменні была, калі б у некаторых па кнізе выраўняць...

На загуменні на ветры доўга гаманілі, сабраўшыся, грынёўцы. Выглянула было раптам сонца, бліснула аж з паўдня, ярка, калюча, і схавалася. Па гародах пабег цень, скачучы цераз платы.

— Ты глядзі, век разам жывў, а не падумаў бы, што ў яго тут такі пляц... Хаця людзі казалі — цяжка схаваць, дык не верыў...

— Падумаць, шэсцьдзесят аднялі, а пятнаццаць з гакам, кажуць, засталося. Ну і кліночак... Гэта ж — Доўгія...

— А можа, ты, стары, змудрыў?

— Ідзі перамерай. Хаця ты сотак падлічыць не можаш, языком толькі малоць. Каб вам не гэты стары, вы б не ведалі, што ў Выжлятніка за плотам.

— Радуешся, Тодарка, гляджу, аж пацяплела табе...

— Прыйду, Раіна, зараз і цябе з мерачкай пагрэю...

— Ха-ха-ха...

— А ты схадзі ды свой агарод у калгас адмерай. Помніш, зімой распінаўся як? Не, Тодарка, я не Выжлятнік, маўчаць не буду, гледзячы,— праціскалася Раіна наперад з грамады.— І табе, і старшыні кажу. У раён, у вобласць пайду...

— Хіба ў калгас хадзіць кожны дзень станеш... Тады паглядзім... Хадзем, Станіслаў Пракопавіч, баба сама кліча... Давай каманду...

— Ха-ха-ха...

На загуменні было весела.

Калі яны былі ўжо адышліся ад грушы, нехта раптам крыкнуў:

— Глядзіце! Выжлятнік калкі выварачвае!..

Усе пасталі. Пасля пачалі вяртацца назад, пад грушу.

Агародам сунуўся Мірон Выжлятнік,— якраз па чорных Тодаравых слядах. На плячах у яго вісеў доўгі палалаканец, на галаве была старая зімовая вушанка. Здавалася, чалавеку было цяжка несці самога сябе, не толькі зацяганую апранаху; ён згорбіўся, ледзьве перастаўляў ногі, рукі ў яго абвіслі і матляліся, як плёткі. Здавалася яшчэ, што ён не бачыць, куды ісці, і каб не Тодаравы сляды ў яго перад вачыма, ён бы ўпёрся ў плот.

Падышоўшы да калка, што быў убіты недалёка ад вуліцы, ён спыніўся, нагнуўся, мусіць, каб пакратаць яго, ці, можа, які другі намер яшчэ меў, але людзі на загуменні падумалі, што гэта хворы і знямоглы чалавек нахіліўся аперціся на калок, як на кій...

Так і ішлі яны, збліжаючыся. Вялікая, жывая і бадзёрая на веснавым холадзе грамада падавалася па ўбітай машынамі дарозе назад, пад грушу; ёй насустрач поўз раллёю адзін чалавек, баючыся людзей і ветру.

Яны пачакалі, пакуль ён падышоў да загумення і стаў воддаль ад плота. Пачакалі яшчэ, што ж ён скажа. Але чалавек маўчаў, глядзеў, як жывёла з загарадкі на волю, на дарогу, не ўзнімаў ні на кога вачэй. Што ён хаваў у іх цяпер, пасля гэтулькі год жыцця на зямлі, калі, можа, нарэшце, хоць знячэўку, хапіўся за розум? Бо чаго тады прыйшоў? Ваяваць? Не, Выжлятнік ніколі ні на што не ішоў адкрыта...

Раптам у яго з-пад ног пырхнулі два спалоханыя шпакі, яны беглі за ім па свежым следзе і, мінуўшы грушу, падаліся ў поле на Лаўкі.

Ён злякнуўся, але маўчаў.

Станіслаў Пракопавіч адлучыўся ад грамады, падышоў да плота і пакратаў рукою жэрдку:

— А цябе ж, Мірон, казалі, дома няма? І Волька твая адказалася выйсці. Гарод яшчэ на цябе ў кнізе запісаны, але ж толькі яна як калгасніца мела на яго права...

— Старшыня...— нарэшце выдыхнуў з сябе Выжлятнік, як скінуўшы з плячэй цяжкі груз, але вачэй не падымаў.— Станіслаў... І ты, Авяр'ян, зойдзем да мяне ў хату. Пагутарым...

— Не, Мірон. У нас работа. А калі што — ёсць канцылярыя, праўленне ёсць, агульны сход... Калі ты што захацеў ад калгаса...

— А можа... А не — дык усе зайдзіце... І Тодар...—

чалавек запрашаў да сябе людзей, не падымаючы на іх вачэй. А што там, у тых вачах? Што там, у яго ў душы? Што там, у яго ў хаце?

Праўленцы і члены равізійнай камісіі моўчкі павярнулі ад грушы. Следам пайшлі і астатнія.

За новым плотам на чорнай раллі ў агародзе доўга яшчэ стаяў, павярнуўшыся плячыма да ветру, прыгорблены чалавек ў доўгім старым павалаканцы.

## 9

Хруснулі пад нагамі кавалкі шыферу, прысыпаныя кастрыцай. Здавалася, ступаеш, што па тонкім лядку.

Аркадзь быў зачапіўся за бервяно:

«Ага... Гэта дровы засталіся не спаленыя...»

Ён скокнуў цераз шліхту, абышоў новую калгасную восець, дзе ўсю восень сушылі і мялі лён, а зімой — у тыя вялікія маразы — узялі сюды з фермы гусей, і апынуўся на Лажку, пад рэчку. Лажок увесь у ямах і бугрынах,— яго зрылі калгасныя свінні.

Супакоіўшыся, ён стаў глядзець пад ногі.

Месяц то хаваўся, то выплываў з-за хмар. Здалёк чарнеліся Бусліныя сосны.

Перайшоўшы па кладцы крыніцу, што цякла з-пад Гальдарады і ўпадала ў раку ля самай фермы, ён угледзеў, як цьмяна бліснулі ля кузні вышараваныя за вясну гусеніцы. Успыхнулі жоўтым водсветам, бы агонь сярод дня, і стухлі: месяц заехаў у хмары. Пасля пырснулі белай іскрай, бы хто там, ля трактара, курыў-дражніўся,— гэта зноў паказаўся на небе тупы ражок месяца.

Грыні спалі.

Над вёскай павісла свежая веснавая поўнач. Над небакраем, туды, за шашу на Гальдараду, стаяла цяжкая навальнічная хмара,— жоўта-барвяная ад месяца. У цішы было чуваць, як булькоча ля заставак вада, як бразгаюць у хляве ланцугамі каровы і брэша аж па той канец Грынёў, пад Закалюжжам, сабака,— як хто коціць па бруку пустую бляшанку.

Халодная ноч не давала суняцца, супакоіцца. Ад дрыжыкаў ляскалі зубы.

Былі хвіліны, калі Аркадзь забываўся, куды бег, калі гэта сырая яшчэ ноч, што пахла ліпай і свежай зямлёю, цьмяна скакала ўваччу...

Тады ён спыняўся, суцішваў сябе і, можа, гатовы быў

супакоіцца і вярнуцца адгэтуль па пясчанай вуліцы назад, у Грыні, каб паіісці дадому, у Закалюжжа.

Стукала сэрца: звінела ўвушшу. Аркадзь адчуў, што такога раней з ім яшчэ не здаралася.

Недзе за бальнічным паркам, мусіць, ля клуба, рэдка і ціха граў баян. Глядзі, не разышліся яшчэ. Хаця ўсё роўна... Што каму да таго, як у яго на душы? Колькі людзей, можа, у гэты час недзе ў шчасці. А ў яго — няма. Яно знікла, абышло ўзбоч, мінула,— толькі трывожыла да самага апошняга дня.

Яму не было крыўдна, толькі балюча-балюча...

А чым сунімеш боль, калі не выкінеш з душы таго, хто ішоў упоплечкі з табой, з кім патаемна раіўся пра ўсё-ўсё...

Хіба можна забыць чалавека, які адкрыў тваю душу, якая, можа, і дагэтуль была б у адзіноце, і пайшоў сваёй дарогай?

Яна ўстала перад вачыма. Сур'ёзная і недасяжная... І прыгожая-прыгожая. Яе вочы, у якія ён не заглянуў ніколі зблізку, яе воблік, што дарагі яму, бо стаў самы родны, хоць яна цяпер зусім ужо чужая.

Не. Яна — яго... Яго — і ўсё... Самая, самая блізкая... І ніхто ніколі яе не адыме...

Дзе знойдзеш сілы забыцца пра ўсё?

Сэрца — не сухое поле. З яго не выветрыш памяці па пясчынцы. Ды і хіба можна выветрыць поле?

Белая ноч плыла над Грынямі разам з месяцам. Востра, аж кісла, пахла зямля. На лагах пад выган скуголіла сава. Нехта спяваў далёка-далёка за Лавацкімі садамі — самотна, працяжна. На гасцінцы ў тым баку ўспыхнулі агні ад фар, але не было чуваць, каб гула машына.

Ці не гэта вярнула яго да жыцця, скіравала на дарогу да фермы. Ён успомніў, чаму апынуўся тут...

Ён не мог быць сёння на людзях, дазнаўшыся, што Галіна ад'язджае з Леанідам.

...Ціхая, белая ноч... Цёмнае неба, усыпанае зоркамі. На поўначы над самай зямлёй — зялёная зара.

Завяз у бурай хмары месяц. Сцямнела. І тады пад Буслінымі соснамі загуў трактар.

Калі раптам здрыганулася і зазвінела ціша, Аркадзю здалося, што прыціх, стаіўся боль...

Трактар паслухаўся гарачай рукі: рвануўся з фермы, зляцеў з пагорка на дзядзінец, заскрыгатаў-залязгаў па камені-валунах, што ляжалі ля калгаснай студні, і па-

вярнуў вуліцай да моста. Ззаду падскоквалі плугі, скраблі дарогу і вярнулі дзёран.

Аркадзь толькі раз азірнуўся назад, калі пачуў пад гусеніцамі камень.

Мінула. Плугі каўзануліся поверху, не зачапілі.

Аркадзь быў мо цяпер як птах, што паранены ўзляцеў у неба, дзе лечаць сэрца родныя вятры, дзе лёт увысі — усё яго шчасце...

Рукі сціскалі рычагі да дрыготкі, да болю.

Аркадзь хацеў хутчэй вырвацца з цеснай вуліцы на рог Лавацкага поля пад Гальдараду, дзе цэлы дзень не змаўкаў трактар і адкуль яны з Раманам завярнулі пад Бусліныя сосны, каб хаця астыў матор і адышлі здранцвелыя рукі за кароткую ноч да зоркі.

Святло ад фар выхоплівае з цемнаты вуліцу, парэзаную калясьмі, падзёўбаную капытамі. Платы ад агню як пабелены, над імі на вуліцы бліскучае, што срэбнае, голле вішняку.

Ля моста крыжаватка. Вуліцу тут перасякае дарога, што ад фермы вядзе на шашу.

Крыжаватка спорана, скапана, зрыта. На бугрыне святло вырывае з зямлі белае каменне, абгародку, зялёную ад агню, як заплеснявелую. Трэба браць правей, тор ідзе бокам...

Трактар ускочыў на бугрыну, сцебануў белым агнём вышэй, аж над платамі і парканнем, як доўгай растрэсенай палойкай ільну... І тады на якую толькі хвіліну выткнуўся чорны, як галавешка, высокі крыж, бліснуў аднекуль з сярэдзіны кавалачкам бляхі і зноў знік у цемры.

Яшчэ можна збочыць, трэба пацягнуць да сябе рычаг...

Але цяжэла і не краталася рука, як здзервянела...

Зноў бліснула з цемнаты халодная бляха, і зазелянеўся абрубак палена...

Аркадзь угледзеў, як каменне ад агню стала белаебелае, як задрыжала-замітусілася абгародка, бы сухое дуддзё ад ветру дзе ў завуголлі... Ён адчуў, як яго скаланула ўсяго і, штурхнуўшы, кінула наперад на рычагі... Завыў матор; зазвінеў, бы ў ім дзе ўсярэдзіне напяліся струны,— вось-вось лопнуць. Заскрыгатала, затрашчала недзе спадыспаду...

— Плугі!.. Плугі!..— закрычаў ён і не пачуў голасу. Калі азірнуўся назад — у цьмяных водсветах агню ўгледзеў, як плугі адкінулі далёка ўбок белае каменне і жоўтыя асколёпкі ад дрэва...

Калі трактар выскачыў на шашу, Аркадзь скіраваў яго цераз лог да Гальдарады.

«Справімся на полі і без Пэрца... На паваротках можна вярнуць здзічэлы дзірван дагары нагамі...» — падумаў ён.

Не спала ў тую ноч поле ў Лаўках.

Толькі пад дзень у баразне, на неразараным кавалку пад дубамі, нечакана заглох матор.

Аркадзь вываліўся з кабіны змораны, угрэты. Здавалася, на полі душна і ноччу. Пішчалі камары. У канцы Грынёў, недзе ля Камена, палохалі неба заранкі. На вясновым паўночным усходзе палавела зара, бралася хутка і шырока.

Стаяла цішыня. Толькі ў дубах сонна пісклявіла разбуджаная без пары берасцянка ды ў Лавацкіх садах пачулі дзень салаўі.

Месяц стаяў на поўдні: лены, насцярожаны, строгі за рэдкімі аблокамі і нейкі ўвесь счырванелы, як скрываўлены.

Стыў гарачы трактар.

Аркадзю захацелася дадому,— пацягнула моцна, нясцерпна.

«Заснуць, можа, і тады забудзешся на ўсё...» — падумаў ён.

Стома брала сваё.

«Пускач» цяпер ніяк не заводзіўся: хліпаў, шыпеў, барабаніў.

Аркадзь доўга важдаўся з ім, нарэшце, зусім задыхаўшыся, плюнуў і падаўся баразною да шашы. Але хісталіся ногі, балела, рэзала ўваччу. Ён вярнуўся да трактара, абапёрся на гусеніцу, налёг... Пасля са злосцю рвануў за намоклы, слізкі шнур...

Адчуў толькі, як здрыганулася раптам спадыспаду зямля, як схапіла за́грудкі гусеніца і, тузануўшы, пацягнулася ў чорную яміну, у густую слізкую гразь...

— А-а-а!..— закрычаў ён нема, але роў матора заглушыў ягоны голас.

На світанні, калі стухаў барвовы месяц і з прыдарожжа крануўся заспаны туман, на Лавацкім полі закігікалі разбуджаныя кнігаўкі, носячыся над неразараным загонам...

На світанні, не чуючы пад сабой ног, бег з Грынёў да трактара на Лавацкае поле Раман Пэрац.

# 10

— Васіль, ты мне не мудры... Я ж цябе прасіў яшчэ днём.

— Еўдакім Мікалаевіч, аўтобус будзе, ды і машына калгасная ля райкома...

— Ну-ну, паглядзім... Паглядзім. Ты мне не кіпі...

Петушонак і не думаў падысці да райкома ці падацца на рог вуліцы, дзе спыняўся аўтобус. Ішоў наперадзе, у новым расшпіленым рудым плашчы, у тоўстай чорнай суконнай кепцы, з сівым, абдзёртым, калісь чорным партфелем у руках. Перакідаў яго з рукі ў руку, бы ён быў цяжкі-цяжкі ці гарачы-гарачы...

Яны перасеклі парк ля раённай бальніцы, дзе па зялёнай мураве хадзілі куры і на лаўках у куце ляляліся, відаць, рабочыя-леспрамгасцы ў замасленых камбінезонах і старых фуфайках,— некаму недзе зрэзалі праграсіўку...

Выйшлі на цэнтральную шырокую брукаваную вуліцу — якраз да гасцініцы.

— Васіль, позна... На любой тваёй машыне ноч застане ў дарозе... А ад Гальдарады...

— Дык што вы надумалі?

— Ідзём, Васіль, я заказаў нумар...

— Не. Я тады паеду адзін. У мяне заўтра першыя ўрокі...

— Не хадзі... Не хадзі, кажу. Чаго ляцець? Куды ты паедзеш? Куды цябе ліха панясе? Ды я з самім дырэктарам... Ды ў мяне заўраяна... У мяне з ім — ты ж сам знаеш. А дзяцей адпусціць, калі табе замены не знойдуць. Ды цябе ж у райком выклікалі, а не куды-небудзь, скажам...

Петушонак ухапіў за рукаў Васіля Міронавіча, бы той хацеў кінуць яго аднаго невядома дзе.

— Не. Я пайду. Нехта падвязе. Ды і ніяк я вас не раскушу, Еўдакім Мікалаевіч... Мне можаце партфель аддаць...

— Васіль... Здурнеў? Што ён гаворыць?.. Проці ночы з такімі грашмі?.. Ды ўсю ноч дома вачэй не звесці? А заўтра я адразу з дарогі ў школу і грошы ўсім на рукі... На мяне даручэнне выпісана... Я ў графе подпіс паставіў. Мая галава даражэй таго, што ў партфелі...— вочы яго лыпалі, рукі дрыжалі, аж трасся партфель.— Я два ложкі заказаў, грошы свае наперад заплаціў... Мне ж на гасцініцу камандзіровачныя ніхто не даваў. Што, не ведаеш?

Петушонак тупаў дробненька за Васілём да райкома і назад, да аўтобуснага прыпынку і зноў да райкома, сінеў, ахрып, змарыўся і выціраў пот.

Здавалася, згубіць ён Васіля і — канец свету.

Нічыёй машыны для райкома яны ўжо не засталі, а аўтобус ішоў паўнюсенькі, і яшчэ набеглі да яго тыя леспрамгасцы, якія і цяпер не перасталі крычаць пра сваю «прагрэсіўку»...

Ехаць больш не было на чым, і яны скіравалі да гасцініцы.

Петушонак аж падскокваў ад радасці; Васіль быў злосны і ішоў ад яго воддаль.

— Васіль, ты думаеш, чаму я цябе тоўхаў, калі ў шахматы ігралі? Я яго вось-вось на пальчыках хацеў расквасці, не сумнявайся, я канцоўкі добра іграю. А той за дурня мне адразу палічыў. Падумаеш, інспектар... Ставіць сябе... А я скажу: блазнюк. Лепш мяне ён, можа, думае, урок павядзе, крытыкуе... Я яго-ткі адчытаў, свінчо такое... Прыцягнуўся ў нумар... Хоць ты што ад яго, а тут спаць гне. Каб не прайграў я тую пешку, паганяў бы яго, як курапатку. Ну, Васіль, давай захрапём. Вазьмі ў маім плашчы папяросы, падай... Не-не... Там, дзе маіх пяць рублёў...

— О-о... Ды вы багатыя...

— Ціш-ш-ш... Галава... На ўсю гасцініцу закрычаў... Кумекаць трэба... Скідай штаны ды гасі агонь. Дзверы мы ўзялі на ключ ці не? Паглядзі, я, здаецца, замкнуў за тым...

Яны абодва падаліся да дзвярэй.

— Дай я сам... Другі раз ключ перакруціць трэба... Во-во... Ды фортачку зашчапіць.

— Дыму ж...

— Не захлынешся. Гасі агонь, і дыму не будзе. А то лямпачкі без абажураў... Вочы мае аж гараць, а яны мне дарагі.

Пстрыкнуў выключацель — зрабілася цёмна. Яны сціхлі, супакоіліся, думалі адразу заснуць.

Праз акно аднекуль з-за дрэва цьмяна цадзілася святло ад вулічнага ліхтара, і на дзвярах калыхаўся разгаты цень. За сцяной недзе далёка гаманілі: ці ў суседніх пакоях, ці на вуліцы. Загула на двары машына і доўга вурчала; прыйшоў з горада апошні аўтобус, і шафёр улад-

коўваўся нанач. Хутка, мусіць, ён гэта загрукаў у калідоры, тузануў разы са два за ручку дзвярэй і патупаў недзе назад. Зноў стала ціха.

Пад Петушонкам заскрыпеў матрац.

— Не дадуць, Васіль, заснуць...— голас у Петушонка быў ціхі і насцярожаны.— Хто гэта там мог лезці, га? Не заснеш жа, не заснеш. Ды пад галаву нізка яшчэ... Падушкі з рукавіцу... Партфель трэба падкласці... Дзе партфель? Васіль, дзе? — Петушонак усхапіўся, забегаў босы па падлозе. Знайшоўшы на крэсле ля свайго ж ложка партфель, ён супакоіўся, змоўк, стаў зноў укладвацца.

Заскрыпелі, затрашчалі спружыны.

— Нажыў... Бяду на сваю галаву... Хаця нікому не даручаюць, мне ўсё. Ды і цяжка каго знайсці, каб рызыкнуць раз'язджаць з такімі грашмі. А я...— Петушонак памаўчаў.— Толькі што мне з таго? Ды яшчэ ў паперцы ўсякі раз пішуць, што я заўхоз. Я з самага-самага вяду гіяграфію... А тут заўхоз... Ды мне, Васіль... Хаця... Усё адно, Васіль, не заснеш. Ты зашчапіў фортачку? Холадна. Коўдра выскубаная, як рашата, мусіць, каб на святло паглядзеў. Лень толькі злазіць. Я б тую дырэктарку... Давай, Васіль, на мой ложак... Сагрэемся хоць пад дзвюма коўдрамі...

Петушонак змаўкаў, пасля варочаўся, ссоўваўся з ложка, сноўдаўся ў цемнаце, клаўся і зноў пачынаў усё спачатку:

— Я не хачу абвастрацца з дырэктарам. А так бы... Хаця ў раяне ў мяне загадчык... Дарма ты толькі яму так усё пра мае лекцыі... У райкоме, відаць, дазналіся, калі распытваць пачалі. А Гаўрылаву за газету галаву некалі звярну... Васіль, не спі... Ты спіш?

Сну не было.

— Пракляты партфель! Муляе. Васіль, не спі... Васіль... А той Гаўрылаў — сопель! Ён пісаць пра мяне надумаўся... Вывучыў шчаня на сваю галаву...

На сцяне мітусіўся шэры цень да самай раніцы. Недзе на двары нехта назойліва ляпаў па жалезе.

Да самай раніцы ні адзін, ні другі не звёў вачэй.

І ўжо на самым світанку недзе пад падушкай Петушонак захроп на ўсе застаўкі, бы дзе хто дзёр новыя анучы. Можна было выносіць і партфель і самога Петушонка хоць на двор пад плот.

Васіль Міронавіч ледзь разбудзіў яго.

«Казёл» ля моста выскачыў на шашу і памчаў на горку, недалёка за якой пачынаўся лес.

Адкрыты, без брызента, «казёл», відаць, быў перагледжаны самім маладзенькім шафёрам: меў адкідныя лаўчкі замест задніх сядзенняў і бляшаныя скрынкі пад імі.

«Казёл» — машына раённага аддзела культуры. На ёй развозілі па калгасах «новыя кіны», як гаварыў шафёр.

Ля самага лесу шафёр спыніўся і запісклявіў моцна і злосна:

— Зноў забыў «учарашні багаж» падкінуць па дарозе!..

«Учарашнім багажом» былі дзве бляшаныя скрынкі з кіналентамі, па якія давялося вяртацца аж у гарадскі пасёлак.

...«Казёл» фырчаў, падскокваў. У ветравое шкло, што спераду, стукалі чорныя жукі. Шумеў у вушах вецер, сцёбаў па твары, як цёплай мяккай хусткай...

Гэтым месцам да самай шашы падступаў лес, і, здавалася, далёка наперадзе ён зусім перайшоў дарогу.

Ехалі цяпер хутка: шафёр парухавеў. Яму трэба было «абскакаць» вунь колькі калгасаў, вярнуцца ў раён і да ночы «згайсаць» яшчэ ў два сельсаветы. Меў ён і іншы клопат, відаць, да якога не так даўно прызвычаіўся, бо нерваваўся: пасадзіў пасажыраў — «рабчыкаў», як ён выціснуў быў праз зубы,— на што яму, відаць, была строгая забарона і якую ён умудраўся абыходзіць.

Хваляваўся ж кожны раз, калі насустрач выскокваў з-за павароткі ці з-за горкі матацыкл,— баяўся, відаць, міліцыі: лапаў сябе за кішэню, чысціў даланёй ветравое шкло, падымаўся з сядзення і глядзеў наперад, зусім ужо не зважаючы на вецер. Раз быў хуценька адвярнуўся і спакойна сказаў, хутчэй загадаў:

— Вы ўсе бібліятэкары, калі што. З семінару едзеце. Ясна?

Бразгалі бляшаныя скрынкі, звінелі ключы недзе ў перадку ў яго пад нагамі: ехалі па выбоістым бруку.

«Бібліятэкары» маўчалі, прыглядаліся адзін да аднаго.

Петушонак сядзеў спераду, побач з шафёрам, і Васіль Міронавіч бачыў, як ён муштруе ў руках абдзёрты партфель, хаваючы і дастаючы яго з-пад паліны плашча. Але машына трасе, падкідвае, партфель выслізгвае, падае пад ногі, дзе ў мазуце анучкі і ключы, і Петушонак часам забываецца, што трэба трымацца самому. У чалавека свой занятак, і ён мала зважае на людзей.

Збоку, пад перад, ля Васіля Міронавіча высока на бля-

шаных скрынках прымасціўся рыжы, кучаравы, без шапкі хлопец з гармонікам.

— У Дзераўно... Вяселле граем...— сказаў ён шафёру, калі яго падабралі ля мастка на дарозе, і больш не абраніў ні слова. Не паслухаў і сыграць што-небудзь, паказаў толькі, усміхнуўшыся, белыя прыгожыя зубы.

Насупраць рыжага музыкі сядзела мажная, пасівелая, але маладжавая з твару жанчына ў летнім зграбным паліто. Як завяла шчэбет, калі мінулі мост, дык не змаўкала ні на хвіліну, што спалоханая сарока. З ёй сядзеў маўклівы стары, адмахваўся ўсё ад яе рукамі і злез хутка за лесам. Не зразумець было: ці ён пад'ехаў дадому, ці, можа, ратаваўся ад назолы.

— Я — бухгалтар... Так што я вас не слухаў...— сказаў ён ёй адно на развітанне. З шафёрам ён не спяшаў разлічыцца і падзякаваў разы са тры.

Зноў ехалі моўчкі, толькі шафёр пасвістваў пры кожнай сустрэчнай машыне, і бясконца варочаўся Петушонак.

Мінулі выбоіны, якія звалі «прамгаскімі», і выскачылі на цвёрдую і прамую шашэйку. Звярнулі ў вёску, пад'ехалі да калгаснага клуба, што быў наводшыбе на дзядзінцы. Шафёр сам адамкнуў кладоўку, што пры клубе — у яго, відаць, ад усіх клубаў былі ключы: не бегаць жа шукаць кіншчыкаў у кожнай вёсцы — скінуў туды дзве бляшаныя скрыначкі, і зноў выехалі на дарогу. Параскашнела, і рыжы музыка перабраўся на лавачку да жанчыны, каб ямчэй усесціся з гармонікам. Васіль Міронавіч застаўся адзін і ўзіраўся на поле, дзе зелянела на сонцы жыта. Стаяла раніца, свежая, вясновая.

Хутка зноў пачынаўся лес: густы ельнік. З абочын дыхнула вільгаццю і глінай, аднекуль занесла ў машыну леташняе сівое высахлае лісце, кінула пад ногі і доўга пасля ганяла па бляшаных скрынках.

Маўчалі. Жанчына ўсё не рашалася зачапіць музыку. Падсоўвалася толькі да яго і пазірала ў вочы.

Ад'ехалі ўжо кіламетраў з сем; на скрыжаванні дарог, дзе на абочыне ля крушні камення тырчаў слуп-вярстак у палосы і над ім нагнуўся другі — зялёны і крываваты, з шыльдай «Астаноўка аўтобуса»,— падабралі смуглявую дзяўчыну з чамаданчыкам, у белым плашчы.

— У Грыні мяне... Вось дзякуй... Дзе яны тыя? Ногі ўжо адбіла... І казалі ж мне аўтобуса пачакаць, дык не сядзіцца... Ну, цяпер дабяруся... А вы ў самыя Грыні?

Голас у дзяўчыны быў густы, ад таго строгі. Вочы задумлівыя, чорныя, аж бліскучыя. Сама яна ў гадах, спакойная, упэўненая і спаважная. Яе чакалі, а яна паволі-паволі падала чамаданчык Васілю Міронавічу і наперад ужо сказала «дзякуй», нават не зірнуўшы на таго. Такая спаважнасць збліжае чалавека ў грамадзе неяк адразу, знаёміць, асвойтвае.

Толькі ніяк не вязалася са спаважнасцю дзяўчыны яе гаворка — несціханая і смелая.

Дзяўчына села ля Васіля Міронавіча, насупраць жанчыны ў паліто. Тая неяк усміхнулася, ажыла, адвесіла пухлую губу, павяла па ёй языком і пачала свае старыя прыгаворы нанава.

— А вы ў Грыні? Ды і я ж у Грыні. Да сястры сваёй, да Раіны... Я ў яе ад... ад якога ж гэта года не была?.. Ну, лічыце, проста гады чатыры... А вы, дачушка, з Грынёў самі? Чые ж вы, абач?.. Не-е... Гарадская, мусіць, бо ў Грынях такіх, мусіць... Абач...

Васіль Міронавіч успомніў, што гэта жанчына таксама пачала гутарку і з тым бухгалтарам: «Да сястры сваёй, да Раіны... Абач, чалавек, а ці ёсць у вас удавец?» Нешта такое пляла таму...

Дзяўчына не спяшалася з адказам. Доўга разглядала цётку, тады адказала кароценька: «У Грыні, а куды ж»,— нібыта даўшы ёй зразумець: «А табе, цётка, не ў сваё, можа, і не варта лезці»,— і ўжо не змаўкала:

— Вас Васілём Міронавічам зваць? Са школы вы? А я Наташа. Вось і пазнаёміліся. Калегі тады, выходзіць. Нечакана так пазнаёміліся, проста ў дарозе. Кажуць, знаёмства ў дарозе — на шчасце. Можа, яно і чакае не дачакаецца мяне ў вашых Грынях... Я — як чула. Не сядзіцца, не чакаецца ў гарадку. Проста я не люблю спыняцца на паўдарозе. Выйшла на шашу, думаю, падвязе хто. Ажно не вельмі, во колькі чакала. Затое, лічыце, сем кіламетраў прайшла і адразу ў Грынях, у школе. А скажыце, Васіль Міронавіч, школа ў вас такая, як у райцэнтры, не з рукі было пытаць у раяна, а?

— Школа як школа. А-а... дык гэта вы-ы...— не мог усё апамятацца Васіль Міронавіч.— Ну, можа, меншая на адзін паверх... Дык гэта вы? А мне ў раяна...

— Нічога. Мне, відаць, усё адно будзе. Палюблю. Ведаеце, як яно атрымалася... Мне так надакучыла без занятку ў горадзе, што ў любы бок скажы — паехала б. Я, ведаеце, з бацькам сваім пасварылася... У тым годзе

скончыла геафак ва універсітэце... Мой тата паклапаціўся пра мяне... Раз'ехаліся мае сяброўкі, а я — у аспірантуру. І засыпала замежную. Тады ён і пачаў мяне ўладкоўваць: і ў геалагічнае ўпраўленне, і ў лабаранткі на нашу кафедру, і ў школу. Па-першае, ва ўпраўленне ці на кафедру — стаж трэба мець, а настаўнікаў — чарга. Вы ж ведаеце, якая чарга настаўнікаў у горадзе? Не-е... Раскажу калі. Многія ж гарадскія, што канчаюць, як я, у горадзе хочуць застацца. Ды калі і паедуць на вёску, то адбудуць два гады і зноў дадому. Дом цягне, відаць. А мяне з дому пацягнула, бо сутычка з татам выйшла. Знайшлося мне ўсё ж месца ў батанічным садзе. Кветкі ўвосень састрыгала, а зімой у цяпліцы адседжвалася. Цяплічная я, выходзіць. Абрыдла. Я — сама ў аблана: хоць на раён, хоць за раён. Кажуць, цяпер нічога няма, чакайце, паклічам. І вось я, выходзіць, дачакалася. Паклікалі. Тут у вас географ трэба, мне проста пашчасціла. Ды мяне шчасце даўно не абышло б, калі б... Але ж дом кінуць, горад... Неяк так адразу... Вучылася, вучылася... Школа, студэнтка пасля... І раптам — усё мігам знікае, абрываецца. Боязна... А пажыла адна без занятку... Яно тады быў дзіцячы розум... А як у вас дырэктар?

— Ды нічога. Наш ён, мясцовы. Завочна гістфак канчаў. А завуч... Летась яго прыслалі. З універсітэта таксама. Віктар Іосіфавіч...

— Віцька? Высокі такі, кучаравы? Строгі? Берэт носіць? Ён філфак канчаў. Я ж ведаю яго... Помню...

— А як прозвішча?

Яна назвала.

— Ён. Толькі берэт не носіць. У нас ніхто не носіць.

— Глядзі ты. Я ж як дамоў еду... А колькі ў вас настаўнікаў? А вучняў? А ў дзве змены ці ў адну?..

Васіль Міронавіч адчуваў яе плячо, калі яна падсоўвалася бліжэй да яго на выбоінах, глядзеў ёй проста ў вочы. Яны былі не чорныя, як здалося яму спачатку, а зеленаватыя. І вялікія, бы пабольшалі, калі яна ўскочыла на машыну.

«Яна зусім не падобная на Галіну. Зусім жа...» — і яму чамусьці самому захацелася гаварыць і гаварыць, расказваць ёй пра ўсё.

Ім не далі.

У машыне раптам закрычаў чалавек — нема, бы яго разануў хто. Заскрыпелі тармазы.

Васіль Міронавіч угледзеў, як выкуліўся на брук Петушонак і, што апантаны, пабег назад па дарозе.

Шафёр развярнуўся, не ўбачылі калі, і, дагнаўшы Петушонка ля самай калдобіны-перакопа, дзе дарожнікі клалі цэментныя трубы на месцы старога драўлянага мастка, аклікнуў. Петушонак, сагнуўшыся, прысеў над падрапаным партфелем, хуценька адшпіліў яго і палез усярэдзіну.

Чалавек быў пачуў у машыне, пра што гаварылі... Яму ўспомнілася газета, якую ён вазіў у райана і енчыў у загадчыка «адвергнуць факты», і тая жанчына з аблана, што прыязджала з Гаўрылішыным хлопцам у школу рабіць праверку...

Чалавек і сам могываліцца на выбоіне, не толькі выпусціць з рук партфель...

Наташа нават не звярнула на яго ўвагі. А што б ёй мог сказаць Васіль, каб яна спытала, хто гэта?

Пад'язджалі пад дом: мінуўся брук, і машыну пачало шпурляць па калдобінах, як гарошыну ў арфе на сіце. Не было ратунку, і шафёр, цыркнуўшы праз зубы і пашкадаваўшы, паехаў пацíху.

Наташа цяпер маўчала, пазіраючы на жанчыну. Утаропіўся на яе і Васіль Міронавіч, бо тая, убачыўшы, што кожны заняты сваім, знайшла і сабе занятак: раптам атакавала рыжага хлопца-музыку:

— Во, глядзі сюды... Тут во, перад могілкамі царква была. Мы сюды дзеўкамі яшчэ хадзілі. Столькі людзей было збіралася на вялікадня ці на сёмуху... Але ж тут, глянь, і следу ад царквы не засталося. А чатыры гады я як была тут, дык гэтага і не заўважыла. Мне думалася ўсё, што яна стаіць. А можа, яна, хлапец, і стаяла, ды яе знялі, га? У вас жа тут усяго можна чакаць. Хаця б Сабольскі ваш... Слуга называецца... Мне сястра пісала. Надта разумныя ў вас... У нас вунь у горадзе дык і моляцца, і цэрквы рамантуюць, і новыя будуюць... А што той ваш стары недавярак счураўся царквы, дык на яго месца прышлюць... Прышлюць новага... Абач...

Наташа перапыніла яе:

— Дзе гэта ў вас у горадзе рамантуюць і будуюць цэрквы? Мне здаецца, мы з вамі з аднаго горада...

— Абач... А ўжо ж... Рамантуюць вунь, а як жа ж... Фарбуюць. Мыюць... Бачыла сама. Хаджу ж, не выракласся...

— Слухай, баба... Ці не хочаш ты абвесці нас, вяско-

вую інтэлігенцыю, вакол пальца? Гм? — злосна азваўся раптам Петушонак.

— Абач... Чалавек. І ты? А я цябе палічыла... А я падумала была...— жанчына залапатала і пачала сціхаць.— А ты, дзяўчына, можа, не бачыла, дзе будуюць, а я дык бачыла... Можа, там і не царкву, я ж не знаю, людзі казалі... Ад людзей чула... А да вас прышлюць бацюшку... І гэта людзі кажуць, чула...

— І гэта ты вязеш такія навіны сястры з горада? Так значыць: купіў не купіў, а патаргаваць можна? А можа, і паверацъ дзе? — Наташа паківала галавой і засмяялася. Першы раз за ўсю дарогу. Вочы яе засвяціліся, пакруглелі шчокі. З галавы з'ехала хусціна,— у дзяўчыны была каса.

Васіль Міронавіч не зводзіў з яе вачэй. І толькі калі яна памаўчала ўжо крыху, загаварыў:

— Відаць, каго вязём на машыне раённага аддзела культуры... Лектар яшчэ недзе той... Са стажам. Царкву дзераўнянскую памятае... А новага папа, бабка, не прышлюць да нас...

— Чаму ж гэта?

— А таму, што яго прысылалі ўжо. Што глядзіш? Прысылалі. Адразу ж, як Сабольскі ў леспрамгас пайшоў. Ды мы яго...

— Што ж вы з ім зрабілі?

— Ды мы яго, бабка, не прыпісалі. Ну, прыпіскі не далі. Што лыпаеш вачыма: не разумееш? Прыпіскі, кажу.

— Га-га-га...— смяяліся шафёр і рыжы музыка.

— Адкуль вы такія ўзяліся? А ён, можа, пляваў на вашу прыпіску... Царква ёсць, людзі ёсць...

— Як гэта пляваў? Папы цяпер граматныя, законы знаюць.

— Мудрыя вы, як пагляджу...

— Ты, бабка, таксама, відаць, знаеш законы. Але папок новы хітрэйшы быў. Пабыў у царкве, у сельсавеце, у клубе, паглядзеў, што тут не тыя людзі, што яму пасціць прыйдзецца,— завярнуўся і махнуў хто ведае куды. Шукае недзе прыстанішча...

— І прыпіскі...— дадаў шафёр.— А ты ў горадзе, бабка, яго прыпішы, калі там так ужо цэрквы будуюць...

— Га-га-га...— Музыка смяяўся цяпер не сціхаючы.

Пад'ехалі да Дзераўна, высадзілі музыку на абочыну дарогі і памчалі па калдобінах пад Гальдарадскія дубы: шафёр зноў спяшаў.

Ад Гальдарады да Грынёў быў яшчэ астравок бруку, і з гары аж да моста з'ехалі лёгка і нячутна. Шумелі толькі спадыспаду колы па дробным каменні.

Ля моста спыніліся. Адгэтуль да школы падаць рукой. Клуб жа ў канцы Грынёў, і шафёр меў намер ехаць да яго не праз вёску, а шашой, у аб'езд.

Яны злезлі ўсе чацвёра і адразу скіравалі ў вуліцу паўз лагі. Праўда, Петушонак таргаваўся з шафёрам і дагнаў іх ужо аж на самым павароце, дзе на скрыжаванні вуліц на дзядзінцы стаялі дыба ўзвернутыя белыя камяні, а воддаль, пад плотам, ляжала ў кучцы пашчапаная абгародка і кавалак зялёнага бервяна.

Ён мала каму кінуўся ў вочы.

Здалёк з-за бальніцы паказалася школа.

— Еўдакім Мікалаевіч... А мы яшчэ на ўрокі, калі хочаце, прыспеем.

— Не, Васіль...— Петушонак не даў яму гаварыць.— Дадому іду. Няма куды спяшаць! Няма чаго! Хаця мяне, хаця мне... Хто меў права? А раяна? Там мяне... Я пагавару!.. Па газеціне той паступілі... Паверылі каму. А мяне?.. Не ступлю ў школу... Можаце ісці... А за мной прыбягуць... З самага раяна. У мяне стаж, дзеці любяць. Колькі я выпусціў на свет... Я дырэктарам быў... І не ступлю са школы... І не думаю...

— Хто гэта, Васіль Міронавіч?.. Настаўнік які? З вашай школы? Чаго ж ён?

— Ды так... Будзеце ведаць... Школа наша, бачыце? За алеяй... Алея ў нас... Хадзем, Наталя Іванаўна... Цяпер вы ўжо не Наташа...

Яна папрасіла ў яго свой чамаданчык, бо яны падыходзілі да школы.

Калі яны ў варотах азірнуліся, то Петушонка ўжо нідзе не было відаць. Не ведаў ён, што Васіль Міронавіч яшчэ ад учарашняга мае адносіну з райана, дзе Петушонка рэкамендавалі перавесці на пасаду загадчыка школьнай майстэрні. А можа, і блага зрабіў ён, не выдаўшы сакрэт: чалавек не стаў бы начаваць у раёне і раней бы прывёз настаўнікам зарплату...

Ззаду за імі памалу сунулася ля платоў гарадская жанчына ў дарагім летнім паліто. Здавалася, яна баіцца ісці ў вёску.

Далёка пад Лавацкімі садамі з узгорку злятаў да моста чорны адкрыты «казёл». Можа, гэта вяртаўся назад той няўрымслівы шафёр з кінафікацыі, што вёз іх,

а можа, і хто іншы,— дарога ля Грынёў ніколі не аціхала.

— Хадзем, Наташа...— усміхнуўся ёй Васіль Міронавіч.

## 11

З ветрам сюды аднекуль збоку пасыпала буйным, як боб, градам, і яны туліліся адно да аднаго.

Прысады не ратавалі: былі яшчэ зусім рэдкія.

Мокла кара, па ёй сцякала цёплая вада, капала на твар, на рукі. Моклі плечы.

Дождж сек са злосцю і ахвотай, здавалася, ён шалеў ад вялікай радасці, што змог нарэшце адхвастаць, абмыць засмужаную пасля бруднага верхаводдзя зямлю.

Часам рваў вецер, тады ён глытаў струмені, і над полем і дарогай стаяў шэры туман, губляўся немаведама дзе густы і востры покат кропель,— ад зямлі ішоў несціханы шум, бы гэта бура гнала ў поле дробны жвірок з шашы.

Зноў зашапацела кара, забулькалі прыціхлыя на хвілю лужыны, па траве заскакаў буйны белы град...

Зноў наплыла нізкая барвова-дымчатая хмара, апала долу. Ад зямлі ўзнялася пара.

З бярозы цурком палілася вада, мокла вопратка. Не мог уберагчы і брызентавы плашч, шырокі, як на дваіх: намок, сцяжэў, стаў халодны і слізкі...

— Дурныя сховы... Зусім вымакнем... Бяжым пад мост...

— Далёка, Лёнік... Лепш ужо тут мокнуць... Усё адно. Ну і сячэ... Ты падумай...— Галіна туліцца да яго ўся, цёплая, мокрая; горача дыхае яму на самае вуха...

Хмара была найшла з-за лесу, з-за Віліі, выплыла ціха, засцячы бурай пенай шэрае неба. Сунулася высокавысока насупраць ветру на Гальдараду, на гасцінец і хавала разамлелае, засмужанае сонца.

Першы гром быў ядраны і звонкі, малады і ўзбуджаны, як і сама зямля па вясне, як і сама прырода.

Неба сівое-сівое, што свінец... Варушыцца, як дым ад ветру, кіпіць. Маланкі, як белыя вяроўкі, хвошчуць яго недзе над Паліком,— туды сплываюць хмары.

Пад'ясніваецца,— і тады дождж спарнее, асталёўваецца, цэдзіць роўна, праймае ўсё на свеце; ад такога пры дарозе пад дрэвам ніякага ратунку, хоць і ўлёгся вецер.

Здаецца, заціхае, мрэ жыццё, толькі шум, густы і бяс-

концы, абкладае ўсё навокал. Шум спорны, роўны. І калі доўга слухаеш і слухаеш яго, мроіцца, што ўсюль нейкая трывожная ціша... Яна апала надоўга, і ад гэтага нязвыкла востры слых,— чуеш, як падае долу, як шуміць-шапоча кожная дажджынка...

У цёплы дождж хіне на сон, у цёплы дождж думаецца, думаецца пра добрае і лагоднае. Можа, таму, што наўкол зелянее, расце трава? Можа, таму, што дыхае парай абуджаная громам маладая вясной зямля?

У лужыне пад бярозай зялёная пена: распарыла, абмыла летняй вадой маладое ліпкае лісце. Пахне бярозавым сокам.

Блішчыць мокрае каменне на шашы, вымытае ад пылу, пяску і мазуты... Здаецца, ад цёплага дажджу нават на жвіры шуганула расці трава...

— Бяжым дарогай... Пад мост!..

— Бяжым!..

Шуршыць пад нагамі жвір, шваргочуць каменьчыкі, падаюць у лужыны, булькаюць. На вадзе плаваюць пузыры, павольныя, леныя: дождж зарадзіў надоўга.

Бегчы трэба назад, з горкі, бо яны былі ўжо мінулі мост. Іх дагнала на павароце машына, паўнюткая дзяўчат — вымаклых, прылізаных. Яны спяваюць пад дажджом неяк ціха, але ўпарта. Слізганулі яшчэ дзве машыны, ішлі паражняком. Дарога не супакойвалася.

— Хутчэй, Лёнік!..

Яны дабеглі да моста і спыніліся: насустрач ім з-за павароткі выпаўзлі два зубры-самазвалы. Таркануліся, абдаўшы мокрую зямлю сінім дымам.

— Сядайце!.. Да другога павароту... Да самага Дзераўна...— высунуўся з кабіны чарнявы шафёр, пасля саскочыў на падножку.

— Нам у раён!..— крыкнула яму Галіна.

— А-а-а... Прыйдзецца вымакнуць... А не — сядайце... Згрузім камяні — зноў сюды падкінем... Гм-м... Чакайце... Дык гэта вы? Вы! Помніце, мяне ноччу гэтай дарогай вялі?.. Я першы раз тады апынуўся ў вашым баку. На Краснае мы праязджалі. Калонай... Помніце?.. Ну, летась... Вас Галінай зваць...

— Ды гэта я... Добры дзень...

— Давайце ў кабіну... Раскажыце...

Ззаду на чарнявага насядаў ягоны, відаць, сябра, бо ўсміхаўся і безупынку сігналіў, аж вушы закладала. Яны, відаць, спяшалі.

— Хаця... Што вам мне расказваць...— чарнявы шафёр чагось не даказаў, нырнуў у раскошную кабіну, і машына рванула з месца. Высунулася была яшчэ раз яго чарнявая галава і знікла ў сінім густым дыме.

Машыны аж раўлі, беручы па гразкіх калдобінах ад моста пад гару. Дрыжала зямля.

— Ад Гальдарады павядуць шашу... За дарогі ўзяліся.— Леанід глядзеў услед самазвалам, а дождж хвастаў яго па спіне, па шыі, па шчоках — востры, густы. Забылася на хвіліну, як хтось цёплы туліцца да пляча, сцягвае плашч. Успомнілася пасля, што такое ён сказаў толькі сам сабе.

Здалёку, з гары, дзе прайшлі машыны, беглі да рэчкі белыя ў пене ручаі. Пасвятлела неба, і яны блішчалі, што на сонцы. З лагчыны дыхнуў вецер — запахла прэлым леташнім лісцем, яго размачыў дождж, распарыў.

Ногі тут грузлі ў жвір, мякка, глыбока: раскісала зямля.

— Бяжым жа, Лёнік...

Пад мостам суха і цёпла. Гэта ад нагрэтай яшчэ да дажджу сасны. Пахне смалой — востра, густа. Мост новы, на свежа засмаленых рудых па́лях. На няўтоптаным яшчэ бурым пяску ляжаць адна на адной, відаць лішнія, дзве доўгія дылі і валяюцца сухія тонкія трэскі са стружкай.

Цяпер дождж шуміць недзе далёка наверсе і аж там у лозах на вадзе з ветранага боку. Здаецца, хтось шпурляе туды — жменю за жменяй — шорсткі пясок. Сцякае з моста дажджавая вада, кропля за кропляй, адтуль з-пад парэнчаў, дзе пачалі ляпіць гняздо пліскі, і ля самых ног цокае па камені, бясконца, назойліва, бы хтось намерыўся марудна і ўпарта праклінаць яго наскрозь.

Хораша сядзець упобачкі на сухіх трэсках, грэць адно аднаго і глядзець у бяздонную прорву ракі — глыбокую, цёмную...

Люба адчуваць, як пахнуць абмытыя чыстым вясновым дажджом дзявочыя валасы... Тады няма дажджу... Пачынае здавацца, што ты ў лесе, сухім і гарачым сасновым бары, дзе так пахне смалой разагрэтая сонцам хвоя... І тады думаецца пра бясконцыя дарогі, якімі давялося ісці, пра вёсны, якіх было небагата і якія так непадобны адна на адну...

Як добра, што ёсць на зямлі гэты шлях, па якім штодня калесіць гэтулькі людзей і які прывёў аднаго чалаве-

ка ў далёкі лясны кут, чалавека, які цяпер пойдзе з табой у жыццё.

І, можа, сёння гэтым шляхам крочыць апошні раз маладосць?

Яе не забыць... Яе шкада... Яе бярэ памяць на ўсё жыццё, як чалавек кнігу, якая раскрыла яму аднойчы вочы, паказала, хто ён, падказала ступіць, можа, на тую сцежку, на якую ён выбіўся ўрэшце.

Ён, Леанід, раскажа пра сваё маленства і маладосць усё... Раскажа Галіне... Чалавеку заўсёды хочацца расказаць пра сябе... І перш-наперш каму блізкаму...

І што думае цяпер яна, гэтая самая родная ў свеце дзяўчына, якая туліцца да яго зусім жа, як дзяўчынка, і якая, можа, так нягадана прынесла яму шчасце?

— Скажы, што ты думаеш?

— Ты — дзіця... Дзіця яшчэ зусім... Які ты малады, ты падумай... Ты дзіця маё...— яна хінецца, яна цалуе яго ў мокрую шчаку, ловіць вусны. Ад таго яму робіцца горача.— Я люблю цябе. Ты нават і сам не знаеш, як я люблю цябе... Мне часам здаецца, што я нават расла з табой недзе на адным двары, што я люблю цябе даўно-даўно... З той пары, калі я ў першым ці ў другім класе пабілася з хлопчыкамі. Адзін там быў задзірысты-задзірысты... Гэта — ты... І тады, калі я цябе сустрэла ў горадзе,— гэта быў не ты, а той задзірысты хлопчык...— Яна змаўкае.— Я ведаю, што і ты любіш мяне. Як я рада, што цяпер заўсёды буду з табой... Як я рада, што я твая...— яна гладзіць яго паблытаныя пад дажджом валасы, туліцца да яго ўся, падатлівая, дрыготкая, як сама не свая.— А можа, мы дзеці? Вялікія дзеці, а? Давай скочым у раку, а? Давай... А не, выбежым на дарогу і пеша пусцімся да самага гарадка, каб вымакнуць да нітачкі, каб забалелі-забалелі ногі і каб...— яна раптам змоўкла.

— Што каб?..

— І каб быць заўсёды-заўсёды з табой... А ты ж едзеш. Надоўга едзеш. Я не змагу, я кіну ўсё, паеду з табой і не вярнуся сюды з горада ад цябе. Застануся там, пакуль ты... Не. Я вярнуся, вярнуся. Сюды, у тваю вёску, але буду ездзіць да цябе заўсёды, калі знайду час. Буду... А ты да мяне не едзь. У цябе экзамен. А пасля...

— А пасля я прыеду назусім... Стану адразу на работу. У рэдакцыі даўно не хапае чалавека. Ты ж ведаеш... А Чыжыкаву ў раённую бальніцу патрэбен дзіцячы ўрач.

— А як мне кінуць Грыні? Барысаўну, Нінку... Усіх, усіх іх.

— А ты не думай пра гэта. Само ўладзіцца, вось убачыш... Я некалі не мог ступіць за парог, калі вучыцца трэба было ехаць. Слёзы не давалі. Так я любіў вёску, гэты свой куток, што здавалася, пакідаю самае дарагое... А цяпер... А цяпер я яшчэ больш люблю сваю вёску і мяне яшчэ мацней цягне сюды... Але я люблю і горад...

— І я... Я так люблю свой горад. І я так хацела паступіць у медыцынскі. Рыхтавалася... Але цяпер...

— Любіла горад, палюбіш і гарадок. А Барысаўна — не адна на свеце...

— Не жартуй... Будзь сур'ёзны. А Барысаўна добры чалавек... Колькі яна робіць тут для людзей... Дзень і ноч... Ніхто пра гэта не ведае.

— Ну, даруй... Я пажартаваў... А што я мог табе сказаць? Давай лепш не думаць пра гэта? Ты чакай мяне ў Грынях, а там жыццё само вырашыць.

— Во... Жыццё вырашыць... Само... Пасля таго, як ты сам даўно вырашыў...

Яны засмяяліся, пасля змоўклі і доўга маўчалі.

Дождж драбнеў, далёка над ракой успыхвалі чырвоныя, што ноччу, сполахі. Заціх, надарваў горла гром.

Раптам аднекуль да іх данесліся нязвыклыя гукі... Шумела нешта цяжка і глуха, несучыся з гары, адтуль, куды нядаўна памчалі машыны і пасунуўся за імі неўзабаве непаваротлівы бульдозер. Гукі былі таропкія, частыя,— бліжэлі.

Яны ўсхапіліся, выбеглі з-пад моста. Сталі на самым беразе і ўтаропіліся на дарогу. Адтуль каціўся вялізны, чырвоны ад гліны камень. Ён тырчаў на абочыне на выспе, падмыты веснавымі водамі. Цяпер апоўз на размоклай гліне, асеў, не ўтрымаўся і пасунуўся-пакаціўся ў лагчыну да ракі. Знік у вадзе ціха, непрыкметна, бы яна загадзя чакала, каб глынуць яго назаўсёды. За каменем па разоры бег успенены, мутны ад гліны ручай.

На хвіліну зноў усё аціхла. І тады з голых альховых кустоў, адтуль, дзе жаўцеў намыты ў паводкі пясок, дзе ля берага боўтнуў камень, выскачылі два зайцы. Адзін такі ж белавухі, якога бачыла Галіна тады ў Чар-чагу ля Ваўкаўні; другі — сівы-сівы, прылізаны дажджом. Відаць — пара. Спыніліся, каб перавесці дух, прыніклі аж да зямлі, тады ў два скачкі сіганулі цераз ручаіну, на

другі бок, мігнуліся перад вачыма яшчэ на зялёным узбярэжжы і зніклі на чорнай раллі ў полі...

— Лёнік... Пабеглі і мы на дарогу. Дажджу больш не будзе. Холадна стала. Не хачу, каб ты прастудзіўся... Бяжым...

Ён стаяў вышэй на беразе і падаў ёй руку.

Ветравое шкло ў дробных кроплях — глядзіш на свет, што праз густое рэшата, пакуль не забегаюць знадворку дзве чорныя стрэлкі-вусікі. Тады расплываюцца белыя, як срэбра, кроплі, сцякаюць уніз пісягамі. Насустрач цягнецца мокрая, шэрая, бліскучая дарога, бы палатно, што вынялі з рэчкі і сцелюць бяліць. На абочынах, парэзаных, парытых дажджавымі ручаямі, цьмяна адсвечвае вымытае з пяску сівое каменне; бягуць напярэймы, туды далей, за дарогай, белыя кветкі і знікаюць з воч.

Пахне гумай і мокрым брызентам у новенькім ГАЗ-69. З-пад дзверцаў дзьме халодны вецер, як хто студзіць ногі. Струмені пругкія, вострыя,— яны вырываюцца недзе насупраць Галіны, збоку ля бліскучага даўгаватага карабочка — радыёпрыёмніка. Ад таго знікае стома і зморaная млявасць, адпадае санлівая цеплыня, што адразу атуліла яе ў машыне. Цягнецца да прыёмніка рука, хочацца павярнуць уключацель, але ж навальніца — адзін недзе трэск цяпер у гэтым бліскучым карабочку,— і Галіна толькі датыкаецца пальцам да цьмянай шкляной шкалы.

«Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць... Цікава, што значаць гэтыя лічбы да дзевяці?»

Цягне спытаць, але людзі заняты гутаркай. Яна адрываецца нарэшце ад дарогі, ад прыёмніка і слухае. Бывае, хочацца ўставіць слова самой,— тады яна ўглядаецца на дарогу, пасля зноў на мужчыну за рулём.

Мужчына малады, год мо толькі за трыццаць, чарнявы. У яго кучаравыя валасы, чысты, аж белы твар, сімпатычны, нават прыгожы. Строгі і задумлівы — калі чалавек гаворыць ці ўзіраецца далёка на дарогу. Вочы сінія, цемнаватыя; позірк мяккі і разумны. Усмешка прыгожая, зусім жа хлапечая. На правай шчацэ ў яго маленькая ямка, як у Леаніда. Мужчына гаворыць без аддухі, змаўкае толькі, каб выслухаць, што скажа яму Леанід.

Галіна бы толькі цяпер заўважае, што мужчына ў чорным адпрасаваным касцюме, у белай сарочцы і пры такім жа, як касцюм, чорным гальштуку.

«Да твару яму...» — думаецца ёй проста так, мімаходзь. Яна зноў слухае яго, забывае на нейкі час, што ў машыне. Гэта ён падабраў іх ужо аж там, дзе на шлях выбягала нешырокая шашэйка. Спыніўся, адкінуў дзверцы з абодвух бакоў.

— Вось дык вымаклі... Такі дождж... Зямлю мые... А-а... Дык гэта ты, Гаўрылаў?.. Не пазнаў. Добры дзень. А хто з табой?.. Давайце знаёміцца...— Ён назваў сябе пасля таго, як ужо стукнуў дзверцамі.

Галіна толькі цяпер успомніла, што гэта першы сакратар райкома, якога яна бачыла не адзін раз.

Хліпае пад ветрам брызент, шуршаць па мокрым бруку колы, зусім глуха, прыцішана, калі, бывае, змаўкае, перастае звінець матор.

Насустрач па шашы мчалі машыны — шумелі на размінс то мякка, лагодна, то раптам злосна. Здавалася тады, нехта дужы шматае знадворку мокры брызент: шар-р-р!..— гэта калі размінаўся гружаны МАЗ; рве рэдзенькі, слабенькі паркаль: шась!..— калі мігала побач лёгкая «Пабеда».

Стала холадна. Галіна адварочвалася, пазірала ў самы куток машыны, дзе, уваткнуты між рамай і брызентам, калыхаўся адубелы ад вады зялёны плашч-накідка.

«Сакратар недзе доўга быў пад дажджом...» — падумалася ёй і захацелася раптам запытаць, дзе гэта яму надарылася так, бо чалавек раптам стаў зусім жа блізкі, як даўні-даўні знаёмы, але яна не рашылася.

Успомніла пасля, як расказваў аднойчы на калгасным сходзе пра яго дзед Тодар.

...— Гэта ж толькі на зару занялося. Самы сон. Спалі-то мы ў калгасе, што казаць, ад пуза. Я тады за конюха быў, не помніце ўжо. Дзе ты ўпомніш. Конюхі ў нас мяняліся, што старшыні ў благіх калгасах.

Пайшоў я ў тую раніцу на ферму. Не ведаю ўжо чаго: ці то Дзедзіха за канём паслаў — запрэгчы яму якога, ці проста мне самому патрэбен быў конь.

Валаводжуся сабе ў канюшні, стукаю бомкамі ў праварынах; у кладовачку, дзе вупраж мы скідалі, пакуль без ключа залез... Выпала ж некаму замкнуць... Адным словам, занятак меў, дзе там было прыслухоўвацца, што на двары робіцца.

Азбруіў каня, цягну яго, выводжу з канюшні да калёс. Не ідзе, нораў паказаць хоча. Што гэта?..— думаю. Гляджу, машына легкавая ля самых варот стаіць, як печ-

ка, цяплом такім на майго каня дыхае. І нікога ў ёй. Плашч брызентавы, вялікі такі, наверсе на машыне ляжыць ускінуты. Прыгнала ж некага ліха да дня. Ці не з леспрамгасаўскага ўчастка начальнік, думаю. Часта той з-за коней заязджаў лаяцца, пасвіць-то пасе на нашым Выганчыку, аж пад Доўгія крынічкі пускае, а плаціць за нас нарыхтовачку сянцом — не хоча. Дык я тых коней — ашкір з выгана, як авечак. Калі ты такі мудры, не баішся, не слухаеш старшыні, то мы да цябе свае ключы падбяром. Навастрыўся я і іду. Ну, і дам, думаю. А коней я ўчора да аднаго сагнаў і конюху іхняму сказаў: «Сунешся — паглядзіш, што будзе...» Абрыдла.

Іду я гэта, мінуў машыну; саломка пад нагамі шуршыць; ціха так, нікога нідзе; гляджу, ажно ля кароўніка, ля тых дзвярэй, дзе малако заўсёды даяркі мераюць і загадчык у бітоны злівае,— чалавек. Сагнецца,— і адгінаецца. Гляджу — мужчына. Спрытны. Відаць, малады. З віламі ў руках. Гной адкідвае ад дзвярэй, далекавата так, аж на поле, на дарожку, дзе да капца па бульбу хадзілі.

Я да таго яшчэ ніколі не бачыў гэтага чалавека, але я пазнаў, хто гэта. Адчуў. Можаце сабе не верыць.

Пазнаў — і бягом да Дзедзіхі, ён тады яшчэ старшынёй быў. Бягу, і ногі пада мной трасуцца... Што ж, як той мех з пацярухай. Старасць... Ды ча́паю, як магу, думаю, чорт яго знае, што можа пасля гэтага выйсці.

А гною там у нас ля кароўніка, ля самых дзвярэй — светніца. Ніхто ніколі не згінаўся. Ні даяркі, ні загадчык, ні старшыня. Па нараду хіба калі вясной ужо вывозілі... Свайму чалавеку не прайсці, ды і вачам мулка, калі на ўсё гэта паглядзець, а тут... Хто яго ведае.

Бягу і задыхаюся.

Добра, што з фермы недалёка да Андрэя было. Прыбягаю, а ён храпе, аж на вуліцы чуваць.

Прыбеглі мы на ферму; гной знадворку расчышчаны, дзверы насцеж расчынены,— а то ж не расчыняліся ўжо,— ходзіць па кароўніку чалавек, прывязь мацае ў кароў, ці не правярае, тады возьме ды ў блакноце алоўкам водзіць.

Прывіталіся. Стаім з Дзедзіхам, чакаем. Што ж будзе, гляджу гэтак і я... Ажно кажа нам чалавек, што будынак зусім пахіліўся, да зімы сцяну трэба ў новыя шулы ўзяць; засталіць лепш, гэта пасля малацьбы, як салома лішняя з'явіцца; пасля кажа, што цяляткі ў гразі летам стаяць, а мох пад бокам, у Ваўкаўні. Ты скажы, новы ча-

лавек, а і Ваўкаўню адразу ведае. Пасля падвёў нас да бітонаў, якія тады ў кутку тут жа на саломе стаялі, і кажа, што, відаць, кладовачку трэба будзе недзе асобную зрабіць. Падумаў і гаворыць, гледзячы мне проста ў вочы: «Ад прывязі вераўчанай прыйдзецца, можа, адрачыся, ланцужкі ў продажы добрыя ёсць. А вяроўкі каровы рвуць, а на бычках пянька тая гарыць проста... Скаціна праз гэтыя павадкі прасадзіцца можа, ды і табе, кажа, Тодар, недзе рукі ад кручкоў баляць, пакуль прывязі накруціш... На другі нарад можна на гэты час пайсці, на лягчэйшы і, можа, больш патрэбны». Як у кнігу якую глядзіць, ты скажы, усё ведае... А пасля паляпаў Дзедзіху па плячы: «Што галаву звесіў? — пытае.— Ранавата. Абдумай усё. Паглядзі тут. У райкоме пасля на бюро дабавіш, калі, можа, мы не ўсё будзем ведаць. А да зімы трэба, відаць, будынак агледзець. Каровы ў вас неблагія, дык каб не памерзлі. Ці не так, Тодар? — у мяне ўсё пытае. Пасля падумаў нешта, бровы свае чорныя ўзняў: — Паможам на першым разе, так не пакінем...»

Выйшлі мы з кароўніка, зачыніў ён сам дзверы, запёр на кручок і ні слова пра гной, ні слова...

Праўленне тады сабралі мы хуценька — з пасцелі праўленцаў падымалі. Гаварыў ён з намі і на праўленні. З кожным. Не пытаўся, праўленец хто ці не. А людзей найшло. Зноў жа пра нядбайнасць нашу гаварыў, што не гаспадары мы. А пра гной ні слова. Ты скажы. Пэўна, саромеўся нават сказаць пра такое.

Паехаў ён... Ну і ўсхадзіўся тады Дзедзіха... Усіх, хто на вочы трапляў, гнаў на ферму з віламі.

А сакратар пасля да Дзедзіхі прыглядаўся яшчэ, ды, мусіць, бачыць, што чалавек адбыў на старшынстве сваё, годзе. І правільна закамандаваў. А на ферме тады, ай-ай-ай... Нагнаў сораму. Хаця не мы адны так жыць пачыналі. У Камене вунь, кажуць, новы чалавек як паявіўся з раёна, то могілкі перш-наперш загадаў абгарадзіць...

А я цяпер з сакратаром вялікую дружбу маю, чымся з кім па суседству. Госць ён мой пастаянны. А калі б ён тады мне вілы ў рукі даў і аблаяў апошнім словам, яшчэ лепшы быў бы для мяне. У такіх людзей павучыцца і старым ёсць чаму. Ды і ён жа слухае наша ўсё — і старое і цяперашняе. А ўсё з той фермы пачалася дружба наша...

Галіна ўспомніла, што дзе б ні гаварыў дзед Тодар, заўсёды ўпамінаў пра сакратара.

Галіна раней бачыла яго здалёку, ні разу не прыйшло-

ся з ім загаварыць, а цяпер слухала і думала, што такі чалавек стане рабіць усё, што трэба і што трапляе пад рукі. Ёй чамусьці падумалася, што дзед Тодар ніколі не дабаўляў гэтаму чалавеку хвалы-выдумкі.

Машына брала пад горку. Праязджалі вёску. На краі дарогі, мінаючы лужыну, узагналі чародку мокрых чорных шпакоў.

Па шыбінах раптам зашамацелі, застукалі буйныя кроплі дажджу. Зноў нагнала лівень. Далёка наперадзе над дарогай успыхвалі густыя, чырвоныя заранкі.

Уязджалі ў лес. На абочынах дарогі сівеўся туман, як пара.

— Пятро Фёдаравіч...— чуе яна Леаніда, адчувае яго руку ззаду на спінцы сядзення ля плячэй.— Вось вы сказалі пра шчасце...— Леанід памаўчаў.— Жыццё, работа, ну і любоў... І мне ўспомніўся наш Тодар. Вам ён не расказваў пра свайго дзеда?

— І нават шмат.

— А пра начовачкі?

— Не.

— Саромеўся, можа. Хаця, калі скіраваць размову на гэта — раскажа. Даўно гэта было. Ажаніўся Тодараў дзед... Ну, проста перайшоў, як тады ў нас рабілі, з хаты ў хату, да суседкі, куды бліжэй, штаны ў руках трымаючы, падвязаць не было добрай аборыны... Што вы на мяне глядзіце? Так Тодар расказвае. Ну, перайшоў і ўсё такое. Якраз у дождж. Ну, а кажуць, дарога ў дождж — на шчасце. А ён, відаць, такі лупіў, як сёння. Якія там яшчэ вясельныя цырымоніі былі, не ведаю. Можа, і ніякіх не было, бо Тодар ніколі пра іх не расказваў. Ну, дык пасля ўсяго ляглі маладыя спаць... Слухай, Галіна... Не перапыняй. Дай расказаць. Ды і самой не грэх такое паслухаць... Ляглі. А хата ў маладой саломай крыта, а салома, можа, яшчэ дзедаўская. Столь там недзе з якіх жэрдак... А дождж лупцуе... Ну — хата, як рэшата. Свіціцца, цячэ. «Ты, Ядзя, спі,— кажа малады,— а я буду над табой начовачкі трымаць, лежачы...» Трымаў, трымаў тыя начовачкі, заснуў — і на жонку вады халоднай на сонную... Усю, што сабраў...

Яны доўга смяяліся.

— Ваш гэты Тодар...

— Ды ён не выдумляе.

— Бадай не. Што ж, так людзі некалі ў нас жылі... Дзед Тодар — біяграфія таго, што адышло ў нябыт. Мы не помнім такога. Праўда, у вайну нам давялося знесці...—

Пятро Фёдаравіч задумаўся і доўга ўзіраўся на дарогу, выціраючы рукою запацелае шкло.— Вядома, бліжэйшае больш у памяці, але ж і ранейшае гора не лёгка давялося збыць. Тодар ваш сербануў за жыццё. Ніколі не забуду, як ён расказваў, што баяўся спаць пад саламянай страхой, не мог вачэй звесці: «Згарыш — і ўсё. Не выскачыш...» Пажару баяўся, аж пакуль у калгасе ўжо не перакрыў страху гонтай. А ў лесе ж жылі людзі...

— Так і жылі. Той самы Тодар... Надзею на лепшае галубіў — і ўсё. Каб не нашы часы, то і сёння чакаў бы Тодар шчасця. Хаця тое — даўнейшае. І добра, мажа, што забываецца. Ці Тодар, ці хто другі не вельмі хоча расказваць. Доўга ўжо прасіць трэба...

— Што ж... Лішняе слова пра благое прычыняе боль.

Галіна чула, які неспакойны — аж рвецца з лаўкі — Леанід, нават рукі ў яго гарачыя, калі ён, бывае, незнарок кранаецца яе шыі. Расказвае ўсё, гаворыць...

Яна цяпер глядзела на Пятра Фёдаравіча, не зводзячы вачэй; той маўчаў і, здавалася, яшчэ больш мог маўчаць, каб слухаць, не перабіць. Але яна бачыла па ягоным твары, што гэты чалавек знае ўжо такое ці падобнае, што яму расказалі даўно, а слухае ён,— бо лёс, жыццё, мінулае кожнага чалавека ў раёне — ці не навука з таго, што трэба пакінуць у памяці надалей ці абысці, мінуць.

Здаровае, калі пачынае расці, разбурае да макавага зерняці ўсё старое,— так вясною дужая трава верне ўбітую на дарозе зямлю; узрывае, крышыць асфальт. А для таго трэба сіла. Трава знаходзіць сілу ў зямлі. Чалавек — у народзе. А яго трэба знаць, чуць, прыслухоўвацца да яго.

Пятро Фёдаравіч — новы чалавек у раёне. Пры ім і Грыні пайшлі на добры лад з новым ужо старшынёй.

Яны гамоняць пра былое — далёкае і ўчарашняе,— пра заўтрашні дзень і вунь ужо забягаюць аж праз год, праз два, праз сем. І не сціхнуць яны, здаецца, ніколі.

Іх пачынае гушкаць мякка і доўга. Гэта ля моста ў лагчыне, недалёка «прамгаскія» калдобы.

Да ног Галіны пасунуўся чамаданчык. На ім краплі вады: сцякліся адна да адной, спорныя цяпер, круглыя, што гарох. Аж падскокваюць, калі кідае. Яна раптам угледзела, як на мокрым рукаве на плашчы хліпае крыльцамі жоўты матылёк, зусім сухі. Ён, мусіць, разам з імі яшчэ там пад мастом схаваўся ад дажджу.

Аднекуль тады наплыла, ахапіла яе радасць і пяшчота

да жыцця, да такога блізкага і патрэбнага ёй Леаніда, да гэтага раней незнаёмага смуглявага чалавека за рулём, які цяпер ужо стаў зусім свой, разумны і добры старэйшы таварыш, як Барысаўна, як і яе, Галінін, бацька, што так чакае яе не адну дадому.

Ёй захацелася хутчэй быць у горадзе...

Расступіўся лес, выплыла з-за ўзгорка поле, асмужанае дажджом. Недзе там забялелі будынкі.

Манатонна і ціха гуў матор, па брызенце хлястаў вецер, па шкле секлі вострыя кроплі.

Калі яны выехалі з-за павароткі на раўніну,— пачуўся блізкі рокат, бы гэта дзе побач над полем пракаціўся гром. Галіна прынікла да бакавога акна. За халодным, запырсканым знадворку шклом беглі насустрач разгатыя кусты лазы і альшэўніку. Галіна насцярожана пачала шукаць вачыма некага за дарогай: далёкі, незнаёмы боль спалохаў, пасля здрыгануў яе...

Галіне здалося, што яна ў Грынях у тую рань, калі на трактары да бальніцы Раман Пэрац прывёз скрываўленага і амаль нежывога Аркадзя... А перад гэтым ён жа, Аркадзь, быў у яе... Яна памятае яго ў той вечар — самотнага, узрушанага і задумлівага. Ён любіў, любіў яе... Які ён добры... Якая ў яго чыстая душа... Яна яму тады сказала, яна не магла не сказаць, што цяпер ужо назаўсёды належыць Леаніду і ён, Аркадзь, павінен зразумець... Што яна можа зрабіць? Ды і нашто, нашто гэта?!

Яна ўявіла ягоны твар, збялелы з прыліплай зямлёю...

«Аркадзь!.. Аркадзь!..» — ёй здалося, што гэта яна рванулася да яго, як і тады, каб перaступіць дарогу смерці... А не ведала, што толькі ў нейкім утрапенні выцірала рукамі халодную шыбу.

Ёй успомнілася, як блізка яна прынікла тады да яго грудзей, слухаючы сэрца... Што яна думала тады пра сябе? А ўсе тыя дні? Яна маўчала, яна нічога не казала Леаніду. Яна мела права на гэта. А можа, Леанід сам усё ведаў? Тады яшчэ лепш: не трэба будзе яму расказваць.

Стала душна, падвярнула пад грудзі. Блажыла.

— Стойце... Стойце... Спыніце...

Стукнулі, адарваўшыся, дзверцы. Дыхнула свежым цёплым ветрам. Дождж ішоў спорны і роўны.

Галіна вылезла, сышла на абочыну. Не чула пад сабой гразкай дарогі, не зважала на дождж.

Гулі трактары. Яны валаклі полем недалёка ад дарогі вялізны, цяжкі валун-піраміду. Відаць, як напінаюцца

тросы,— тады стогнуць, захлынаюцца маторы... Марудна, цяжка, як уздыбленыя коні, скачуць-сунуцца ўпобачкі па размоклай зямлі два трактары. Зрываюцца тросы, як бы хто скрыгоча зубамі,— тады саскокваюць на раллю трактарысты і зноў апярэзваюць шэры, недзе халодны, шурпаты валун.

Дрыжыць зямля... Сунецца, калышацца камень, рые, пхне перад сабою раллю, сюды да дарогі, на лог. Заімшэлы, сівы валун, які ў гэты край гліны і падзолы, можа, прыгнала леднікамі і які ляжаў-дзічэў на полі стагоддзі, змушаючы аб'язджаць, абворваць сябе здалёк, цяпер пакідаў навек сваё стойбішча, знікаў з воч, ачышчаў поле.

Раўлі, скрыгаталі трактары...

Сек востры, густы дождж. Спарнеў.

На поле клаўся туман. На захадзе раз'яснівалася. К вечару, відаць, збіралася апагодзіцца.

— На будоўлю пойдзе... У гарадскі пасёлак яго аттарабанім. Ён на нашых палёх, як тут сказаць... на жаль, не адзін...

Пятро Фёдаравіч, было відаць, спяшае.

Леанід узяў Галіну пад руку, і калі яна ўжо села, захлопнуў за ёй дзверцы і перабег на другі бок, каб сесці самому. Пятро Фёдаравіч зайшоў апошні, змахнуў рукамі з пінжака густыя кроплі дажджу.

— Можа, мы адымем шыбу тую, ад вас што? Галіна Фёдараўна? Яна вымаецца...

— Не трэба. Мне лепш. Недалёка ўжо.

— Тады ўключыце прыёмнік. За гэты гузічак, ад мяне. Думкі трэба нечым перабіць. Ведаеце, яно, бывае, калыша і блажыць...

— Дзякую. Са мной такога ніколі не здаралася.

Ехалі паволі. Машыну больш не гайдала.

Дарога адгэтуль падалася на ўсход. З-за павароту выскачылі белыя слупкі, замітусіліся, перамяшаліся, пасля адскочылі на абочыны і роўненька вышнураваліся ля дарогі з абодвух бакоў, застылі — нібыта гусі выцягнулі шыі.

Зноў уязджалі ў лес. Адгэтуль ён цягнуўся ўжо да самага гарадскога пасёлка.

— Вось табе і маеш... А я ўсё, Галіна Фёдараўна, чакаў, думаў, як гэта спытаць у вас...— Пятро Фёдаравіч спачувальна глядзеў на яе.— А цяпер...

— Што вы? Што вы? Гэта проста... Ну, як вам сказаць... Я здурэла... Мне не трэба было вам нічога казаць. Прайшло б. Хаця я і забылася, што ў такім разе трэба

больш гаварыць, дыхаць глыбей і думаць пра што далёкае, вясёлае.

— Во-во... Я якраз пра такое і хачу сказаць. Што гэта вы Чыжыкава не хочаце слухаць. Ён жа, як тут кажуць,— райздраў. Скардзіцца на вас. Гм?..

— Пятро Фё-ё-даравіч...

— Ну-ну... Вось і пачні гутарку пра вясёлае — пакрыўдзіш... Ды зразумейце і яго. Дзіцячы ўрач яму патрэбен. А пакуль, ён кажа, апроч вас нікога не можа знайсці.

— А як жа Грыні?

— Ведаю. Сельскую бальніцу не трэба аслабляць. Але ж там ваша Барысаўна... А тады прышлюць...

— І Чыжыкаву дзіцячага ўрача могуць прыслаць...

— Я не ўгаворваю, Радзько, не. Мне і самому Грыні падабаюцца. Бальніцу там новую пачнём будаваць, можа, нават сёлета. Я не хачу збіваць вас з вашых думак. Ніколі. Але ж я маю права параіць? Маю. А мне хацелася б... Ды і Гаўрылаў... Ён вам расказаў? Мы дамовіліся цвёрда. Здае дзяржаўныя — і да нас, у свой раён. Калі што — сам у абком пайду, даб'юся... Хаця, можа, у вас другія планы? Чыжыкаў мне расказваў...— Пятро Фёдаравіч змоўк, чагосьці не рашаўся сказаць.

— Праўду казаў... У нас цяпер экзамены, ну... і яшчэ раз экзамены,— азваўся Леанід.

— Справа сур'ёзная... Што ж, жадаю шчасця. І рашай сама, Галіна Фёдараўна. Рашай сама.

— Мы ўжо ўдваіх рашылі. Толькі... Толькі я яшчэ павінна многа-многа падумаць. З Барысаўнай пагаварыць. Параіцца...

— Абавязкова. Абавязкова...

Выскачылі на «прамгаскія» калдобіны. Тыя былі свежа замошчаны, пацярушаны дробнымі аскалёпачкамі чырвонага граніту. На абочынах ляжалі крупныя камення.

Адсюль пачыналася роўная і прамая шаша і вяла да самага гарадскога пасёлка.

Леанід прыціх. Аднекуль прынесла тую леташнюю ноч, калі ён угледзеў на гэтай шашы Галіну. Яна тады была якраз такая, як цяпер. І як тое ўжо далёка-далёка, засталося толькі ў памяці...

Яго страсянула: ён раптам успомніў Аркадзя...

У лесе стала цёмна і золка. Вострыя струмені дзьмулі недзе спадыспаду, з-пад машыны, студзілі ногі. Хацелася ўстаць, разагнуць спіну.

Маўчаў быў і Пятро Фёдаравіч. Хацеў закурыць, але ўстрымаўся,— затое налёг на газ. Насустрач беглі шэрыя камлі елак. Дрэвы, здавалася, не тоўпяцца на абочынах, варушацца, мітусяцца і бягуць, бягуць прэч.

— Слухай, Гаўрылаў... Раз ужо мы загаварылі... Скажу. Прызнаюся, не зусім я верыў у Станіслава Пракопавіча. Верыць-то я, можа, верыў, і райком верыў, але ж я сумняваўся. Недзе глыбока ў душы, калі сам-насам заставаўся.

— Вы ж самі яшчэ маладыя і...

— Можа, таму і сумненне было. Думаў, не хопіць у яго вопыту, каб узяць усё на свае плечы. Калгас ваш вялікі. Ажно жыццё само скіравала на дарогу. Ды і жыццёвы вопыт, выходзіць, ёсць і ў нашых маладых камуністаў. І маладое ж гарыць жвавей. Растуць, абганяюць нас... А то і мінуць, абыдуць, калі не будзем самі даваць дарогу маладым. Але ж за вас — і нам чэсць. Кожны бацька рады, калі сын у людзі выйдзе рана. А чаму ж не радавацца райкому, калі малады камуніст стаў добрым старшынёй... А памочнік у яго надзейны. Сталы, стрыманы. Калі трэба,— гарачку маладую пераб'е, дзе, можа, не варта яе паказваць. Я пра Авяр'яна кажу. Ды і праўленне там... Ульяна, Тодар. Няма Дзедзіхі. Шкада. Яго трэба было ўберагчы. А Авяр'ян людзей ведае. Толькі старшынёй не захацеў, ані. Лепш па нараду пайду ад цямна да цямна, кажа, а гэта справа спецыяліста. Ён меў рацыю. Цяпер старшыня...— Пятро Фёдаравіч абарваў і колькі маўчаў.— Сёння на бюро пра пасяўную слухаем. І вашы будуць. У іх — нішто. Пра такіх, можа, і варта напісаць. Захвальваць толькі не трэба, як краснянскага старшыню. А вось з хлопцам, з трактарыстам у вас там, у Грынях, няладнае выйшла. Але... Я званіў Чыжыкаву... Будзе, гаворыць, жыць, хлопец моцны і рабіць зможа. Дзве аперацыі перанёс. Хоць вы ведаеце...

Галіна заўважыла, што Пятро Фёдаравіч, пад'язджаючы да гарадскога пасёлка, паспакайнеў, пачаў павальней гаварыць.

— А з Сабольскім, Гаўрылаў, ведаеце што?.. Архіепіскап сам у аблвыканком хадзіў. Незаконнымі метадамі, гаворыць, айца з прыходу выжылі. Шантажом. Скаргі піша на вас.

— Ну-у... Не ведае тады ён сваёй епархіі. Такога папа, як Сабольскі, ніякім шантажом ніколі б не праняў. Хаця, такі недзе там і епіскап. Але што ён на каго скардзіцца?

Народ адрокся ад царквы, а не поп. Галава ў яго садовая. А на народ куды ты паскардзішся?

— Перапёлка цікавіўся, як і што. З гадзіну мы па тэлефоне гутарылі. Прасіў цябе зайсці ў абком. А епіскапу што? Яму трэба неяк даказаць, што нехта недзе незаконна выгнаў папа. Калі ж не, то для іх гэта — пад корань... Дык ты, браце, забяжы, не забудзь.

— Зайду, што вы...

— А да мяне? Куды вы сёння мокрыя ў тую гасцініцу пойдзеце... Ці цёпла там хаця?

— Дзякуй... мы...

— Ну-у... Чаго ўжо так...

— Пятро Фёдаравіч... У нас ёсць дзе спыніцца. Другім разам калі...

— Ну, шчаслівай тады дарогі...

Мільганула за акном возера. Колы ціха зашумелі па мосце. Мінулі электрастанцыю, уязджалі ў пасёлак.

Вечарэла. Наплыў туман, і здалёку не было відаць гарадка, бялелі толькі рэдкія будынкі.

У пасёлак уехалі хутка. Спыніліся ля райкома.

— Усяго добрага... Вялікі вам дзякуй...

— Шчаслівай дарогі...

Блішчалі лужыны між камення, і па бруку нязручна было ісці. Дождж пераціх, далёка на ўсходзе, недзе над Палікам бялелася неба.

Ад парку патыхала волкай свежасцю, з маладых таполяў на драўляны тратуар пад ногі падалі кроплі вады.

За аўтобусным прыпынкам стаялі гружаныя дрэвам машыны. Па бруку шнырылі веласіпедысты-дзеці. Ім і дажджу, відаць, не было. Па тратуары насустрач бегла купка дзяўчат у плашчыках.

Леанід саступіў ім з дарогі якраз ля тэлефоннага слупа. У вочы кінулася зусім свежая белая паперынка, якая, відаць, была прыбіта пасля дажджу, бо буйныя чарнільныя літары не змыла вада.

«Разпрадаюся»,— Леанід прабег вачыма па буйных радках.— «З Камена Куцка» — стаяла ніжэй, крыва і неразборліва...

«Ты, чалавеча, не раз прадаваўся...» — падумалася неяк смешна і злосна.

— Лёнік... Мне холадна...

Яго кранулі за рукаў: ён не заўважыў быў, што спыніўся.

## 12

Прытомнасць прыйшла да Аркадзя ноччу, калі стала ціха ў палаце. За акном ішлі машыны. На сцяне ўспыхвала святло, доўга мітусілася ў кутку, кралася на столь. Жахала па ёй, як хто сцёбаў жоўтым абрусам, і падала ўніз за ложак, на падлогу. Калі сціхалі машыны, побач на ложку нехта варушыўся, стагнаў. За сцяной брахаў сабака.

Сцяло — не павярнуцца.

Баліць галава. Боль калючы, востры. Не чуваць ног: яны прыкарэлі-прыраслі да чагось тупога і цяжкага. Слізка за спіной, мокра.

Боль, як навала. Схопіць — што хто варам ліне на ногі — пасля адпусціць, змякчэе, тады яны баляць недзе глыбока-глыбока. Іх ціснe, трушчыць вострае каменне, бы яго, Аркадзя, прысыпала крушняй.

Дзе ён? За акном — лямпачка — зыркая, вострая, аж коле вочы.

«Фары...»

Блішчыць шкло — гэта гусеніцы адсвечваюць ад месяца...

Раптам уздрыгвае падыспадам ложак... Успыхвае лямпачка за акном, гарыць, пасля зрываецца і ляціць у чорную бездань...

Зноў робіцца цёмна, ціха і страшна. Пасля настае шум... Блізкі, трывожны. Наплывае гамонка,— сумная, як плач.

Дзе, калі плакала маці? Гэта немцы забілі бацьку... Толькі што прыехаў з атрада Перапёлка...

Разрываюцца ад крыку сцены ў хаце... Маці падымаюць нежывую ад дамавіны.

Тады змаўкае, ціхне хата.

— Мама!..— гэта ён крычыць і не можа нідзе ўгледзець яе, не можа да яе падступіцца.— Пусціце! Пусціце!.. Мама!

Выплывае з вялікай грамады задумлівы, аціхлы Авяр'ян; знебылы дзед Тодар; сумны-сумны Раман Пэрац; знямоглая, счарнелая Анэта... Іх рассоўваюць, просяць расступіцца чужыя жанчыны ў белым...

Прыехалі ўскрываць Дзедзіху. Гэта Дзедзіха ў дамавіне, а не бацька...

Яны ідуць да яго, Аркадзя... Яны суровыя, сярдзітыя, немыя і чужыя. З імі Барысаўна. Не... Галіна... Яна нічога, нічога не адказвае яму... Яна маўчыць, сцяла вусны. Яна

глядзіць на яго... Якія ў яе вялікія, вялікія вочы... Сінія-сінія... Не... Гэта неба нагнулася над ім... Летняе, гарачае, што агонь.

— Галіна!..— ён рвецца з ложка.

Зноў на яго валіцца гарачае неба.

Пасля нахлынае чорная ноч, ціхая-ціхая. За сцяной зноў брэша сабака. Ідзе мінута за мінутай, як кропля падае за кропляй,— цягучыя, самотныя; гадзіна за гадзінай,— доўгія, невымерныя...

І тады хочацца чакаць, па маленькай хвіліне, па маруднай, ціхай да нясцерпнасці...

Некалі прыйдзе дзень з блакітным летнім небам...

Недзе выйдзе на дарогу, каб паспяшыць яму насустрач, Галіна. Толькі яму. Аднаму яму...

— А мне што? Ну і што, што вы фельчар? Вы не наш фельчар... І яшчэ не адны. А ён хто?

Грачухіна, медсястра раённай бальніцы, саракагадовая жанчына, невысокая, мажная, пасівелая і злосная, сказала як адрэзала.

Галіна стала прасіць:

— Ён гэта... Са мной... І мы на хвілінaчку... Адведаць, убачыць. Ён... ад'язджае. Як гэта, не адведаўшы... З адной вёскі. Разам...

— Адведаўшы... Абедаўшы...— Грачухіна і не думала адступіць ад дзвярэй.— Многа вас адведвае. Пазаўчора цэлае праўленне стары нейкі прывёў, учора старшыня, сёння медсястра ваша з нейкім чорненькім...

— Гэта Нінка... Наша Нінка. Яна па лякарствы ўчора прыязджала...

— Чакай! Я кажу, што многа вас... А маці, маці яго яшчэ не адыходзіцца. Знебылася. А яму ад гэтага, думаеце, лёгка, ад адведаў вашых? Хлопец яшчэ непрытомны ляжыць... Трызніць. Спіць цяпер. Ды і ў мяне ад урача загад. Я адказваю. Што? Не знаеце гэтага? Што? У вашай бальніцы не так?

— Дык мы ж толькі ад Чыжыкава, калі на тое пайшло...

— Чыжыкава-Пыжыкава... Бачу, што калі і не былі ў яго, то пойдзеце. Настырныя... Халаты прынясу зараз. Што з вамі зробіш!.. Пачакайце тут ля дзвярэй. Ды плашч хай хлопец скіне. Цячэ з яго. Дзе гэта вы так пад дажджом былі?

— Ішлі мы...

— Аж з Грынёў? Далёка. Ведаю. Не гаварыце мне. І букецік свой аж адтуль неслі. Знаю. Ну, я бягу. А Чыжыкава сёння ў бальніцы няма. У горадзе ён. Выклікалі. Я тут мігам... Халаты толькі знайду...

...Ён глядзеў на яе і маўчаў. Такі знаёмы. Увесь у бінтах. З твару белы-белы, можа, што ад бінтоў, а мо што ў палаце пачынала цямнець. Вечарэла, і нізкая хмара зноў находзіла на самы пасёлак. Жахалі маланкі, і тады твар у хлопца быў, што снег пад сонцам,— аж сіні.

Вочы ў яго глыбокія, вільготныя. Яны ўзрадаваліся, усміхнуліся былі раз-другі і стухлі. Ён увесь цягнуўся да яе, ён нешта гаварыў, было відаць па вачах, але не адкрываліся вусны; сцятыя, яны нават не варушыліся, не шапталі.

І ім, Галіне і Леаніду, было забаронена гаварыць. Хлопец жа, думала Грачухіна, спаў.

«Даруй мне... Ты зможаш дараваць, Аркадзь... Я знала ўсё... Але ж як я магла, ды і ці змагла б ўратаваць цябе?.. Як? Як жа?»

Ён маўчаў. Ён і раней ёй ніколі не сказаў пра свой боль.

Маўчаў. Не мог гаварыць... А каб мог, то сказаў бы, што, калі б яна была вінавата ў чым, ён дараваў бы ёй усё, усё на свеце, бо кахае і будзе кахаць яе, чыёй бы яна ні была. Ён мае на гэта сваё права.

Ён не бачыў Леаніда, бо глядзеў толькі на Галіну, але адчуваў, што ён тут. Ён думаў пра яго: ад гэтага чалавека залежала яе шчасце.

Ім не далі доўга быць у палаце: Грачухіна ўгледзела, як кранууся на ложку хлопец.

Яны не развіталіся, каб мо не выдаць, што моўчкі гаварылі з ім. Выйшлі з палаты ціха-ціха. Ён наперадзе, яна воддаль за ім, пакінуўшы адну Грачухіну і на століку ля Аркадзя букецік ранняй сёлета чаромхі.

На двары ім у твар лінула дажджом. З захаду зноў наплылі цяжкія хмары. Маланкі свяцілі нізка, над самым возерам ля электрастанцыі. Узняўся вецер. Дождж залягаў на ўсю ноч.

## 13

На траве — кроплі расы — учарашняй навальніцы.

Пахне густой смалою парк, што ля самай дарогі; на

дашчатым тратуары, на шэрым мокрым бруку — пупышкі таполі, ацярушаныя ветрам і градам.

Ціха. Далёка за пасёлкам, на ўсходзе застылі барвовыя воблакі. Туды, дзе пачынаюцца лясы, дзе далёка ў тумане Палік, сплылі ўначы апошнія дажджавыя хмары. Адтуль высока ўгору пацягнуліся дзве белыя палоскі... Там самалёты. Іх не чутно.

Смутак засцілае вочы, калі Галіна глядзіць туды. Гэта ад ростані, ад жалю, што застаешся адна.

Шаша верне з пасёлка на поўдзень, узбіраецца высока на пагор'е і на самым небакраі растае, нікне ў ранішнім тумане. Ён цягнецца адтуль аж сюды ў пасёлак на дзядзінец, што на скрыжаванні дарог, дзе прыпыняюцца і адкуль зноўку бяруць разгон цяжкія аўтобусы, каб падняцца на гару.

— Я не хачу, каб ты ехаў... Я не хачу пакідаць цябе аднаго, Лёнік. Я буду чакаць штодня...

Ён чуе яе голас, глядзіць ёй у вочы, ён не можа сказаць нічога...

Яны на самым рагу парку, на тратуары, пад таполямі, што нагнуліся над частаколам. З лісця на твар ім падае раса.

— Я ніколі не любіў чаромхі... У мяне ад яе баліць галава...— голас яго дрыжыць: ён не можа сябе стрымаць.

Мусіць, хочацца плакаць перад малой дарогай, перад вялікай быў бы мужны.

Яна перамагае сябе, усміхаецца. Яна блізка-блізка ля яго...

Пасля, калі паднялося сонца, на дарогу падзьмуў вецер.

*1960*

# АПАВЯДАННІ

## Смалістая хвоя

Лес, што каля нас, заўсёды цёмны, спакойны, велічны, нават суровы.

Але пайду насуперак кожнаму, што ў ціхую надвячэрнюю летнюю пару лес ніколі не бывае суровы...

Варта толькі заблудзіцца паміж шэрымі камлямі сосен, выйшаўшы напрамік праз поле ў лес ад нашага загумення па Мацяёнкавай сценцы, як нейкая духмянасць пацягне адтуль, з Імшар, што за горкай. Там, у Імшарах, якія высахлі пагодным летам, пераспелі чарніцы і ляжаць на высокім куп'і ледзь-ледзь загарэлыя, амаль яшчэ белыя, буйныя, па круглай бабіне, журавіны.

Пад нагамі шуршыць сухі сівы мох і патрэскваюць пакурчаныя ад сонца беленькія палоскі смалістай хвоі, якіх багата настругала наведзеная асялком стамеска падсочніка.

Птаства няма. Яно спачывае: у лесе млявасць. Яна ідзе ад сухой духаты, што стаіць цэлы дзень над кунатымі вершалінамі-шапкамі. Здавалася б, вершаліны вельмі высока, і таму цяплынь павінна распаўзацца недзе там, пад «столлю», як у напаленай хаце... Але яна вісіць над самай зямлёй, над дарогай, над маладзенькім сасняком, над Імшарамі і над палянай... Вісіць, як смуга, як неміласэрнае сонца, павярнуўшы з паўдня...

Сохнуць і лускаюцца яловыя шышкі, аж падскакваюць... Ад іх так пахне падсмажанымі семачкамі і яшчэ нечым знаёмым і прыемным... Не ўгадаеш толькі адразу — чым...

Я іду, то збочваючы з дарогі, то зноў вяртаючыся на яе... Хаця чаго мне прытрымлівацца дарогі ў сваім лесе... Рашуча махнуўшы рукой і кінуўшы на дарогу яловую шышачку, расхінаю ліпучыя лапкі маладзенькага сасняку і іду напрамік да Імшараў.

Дарогай па карэнні тарахцяць падводы. Да водару ягад і смалы спакваля прымешваецца свежы пах ячменю, саломы і жоўтых шапак сланечніку, што, як рэшаты на калках, вісяць у нашым гародчыку пад акном.

Гэты пах распаўзаецца па лесе і дурманіць галаў. Я не магу ісці. Прыпыняюся і п'ю гэты свежы мёд усімі грудзьмі, п'ю прагна, хмялеючы і забываючыся на ўсё. Цяпер я нібы змораны хуткай і цяжкай дарогай і не магу аддыхацца...

Я пакінуў вёску пасля паўдня і думаю надвячоркам пабыць за Імшарамі...

Мацяёнкава сценка, спрадвечная ездавая дарога, якая ідзе паміж спелай пшаніцы з аднаго боку і лапушыстага, у цвеце, бульбоўніку з другога, вывела мяне полем на ўзлессе.

Колькі снапоў перавезена гэтай сценкай... Яна ўбіта, як ток. Паабапал яе, ля самага бульбоўніку і ярыны, чырвонымі галоўкамі нахіляецца высокая, да кален, канюшына. Часам яна пазірае і з разгалістых лазнякоў, што немаведама якім цудам падышлі сценкай аж да самага нашага гумна. Лазнякі растуць кустамі, недалёка адзін ад аднаго і на адлегласці выглядаюць акуратнымі копамі сена... Яны заўсёды абросяць мне твар раніцаю, калі я спяшаюся ў лес, яны стракочуць голлем па спіцах колаў, калі я еду на возе... Яны — сведкі майго маленства — заўсёды клікалі мяне да сябе гуляць у ваўкоў і паляўнічага і цяпер вартуюць мой кожны крок, ці я іду з абходу ці падаюся ў лес. Яны, мне здаецца, варта толькі выйсці на загуменне і ўгледзецца ў бок лесу, прыветна ківаюць мне сваімі галінкамі... Гэта — вітаюць мяне. Так рабіць іх вучыць вецер... І яны любы мне, як і кожнае дрэва, як і ўвесь лес.

Я іду да Імшараў, а там сцежкай па карэнні перабяруся ў Бярэзавец — сасновы бор, дзе ўчора мы дзвюма вёскамі ледзь патушылі пажар. Такая суш... Кінь акурак — і пабяжыць агонь па шыльніку...

Перад вачыма ў мяне на шэрых ад кары і моху соснах мільгаюць хвацкія залысіны — падсочка. Яна тут першы год, і таму варонкі, або, як іх называе наша падсочніца

Надзя, тарніткі, высока на ствалах — не дастаць рукою. А так і хочацца зняць гэтую прыгожую, чарапічнага колеру варонку — удыхнуць пах свежай смалы і напіцца з яе вады, горкай, нясмачнай, ды гаючай на ўсякія раны... Але ведаю, што лета сухое і што варонкі сёння пустыя, гэты ўчастак учора падвячоркам абышла з вядром яна, Надзя — мая смуглатварая мара з белай ямачкай на лбе, адзнакай колішняга ўдару аб нешта вострае.

Бор у Бярэзаўцы ўразаецца клінам у балота — таксама Бярэзавец. Не, хутчэй гэта балота абагнула яго сваёй высокай асакой, хмызнякамі і крыніцамі. Сёлета падсохла і яно, таму месцамі на ім выкашана трава і там блішчыць вада. На самай жа твані, дзе амаль і ў сухое лета не ступае нага чалавека, пагнулася і пачарнела сінюха, трава-елка, бабок і хвошч, згубіў сваю першую зелень і чарот — стаў палавы, нават пабялеў.

Там селяцца дзікія качкі. Колькі раз я палохаў на золку або позна вечарам у мяккай цемені іхнія выводкі... Цяпер там турчаць на ўвесь лес жабы весела і манатонна — таму і надакучліва; шыпяць на купінах лянівыя бурыя вужы і палююць за мышамі вёрткія шэрыя гадзюкі.

Я мінаю Бярэзавец, які некалі, відаць, пасоўваўся ў гэтым месцы на паўночны ўсход — пад нашу вёску — і таму вялізнай імшарынай урэзаўся ў самае сэрца Бярэзавіцкага бору. Тут і сосны ніжэйшыя і танчэйшыя, тут і падсочка мізарнейшая. Вядома, адкуль возьме сасна клёку ў балоце?

Канчаюцца Імшары, і Бярэзавец — балота — застаецца ў мяне збоку. Уваходжу ў высокі, гонкі, здаровы, адвечны сасновы бор.

Я аблазіў цалюткі свет, скалясіў Наддаткі і выбіўся аж пад Сырніцу. Усюль — сосны адна ў адну, усюль пах смалы, спелых ягад і сасновай га́ры. Дзе-нідзе яшчэ дымяць падгнілыя сухія пні. Агонь дайшоў аж сюды і спыніўся перад лініяй — разорай... Ён узяў сваё. Калі таўшчэзныя сосны толькі пафарбавалі камлі ў чорны колер, то маладняк пацярпеў. Падупаў, пажоўк, зрабіўся буры, як воўчы бок. Нават іголкі за ноч пачалі абсыпацца на свежае вогнішча... Але нічога. Ён ачуняе, выжыве, хай толькі пойдзе дождж... Як мне хочацца дажджу, каб ён абмыў гэту чорную смугу-попел з зямлі, каб астудзіў і без агню нагрэтую сонцам зямлю.

Гляджу на неба. Але навокал лес, а над ім угары — лянівае, гарачае сонца, як кавалак распаленага ў горне

жалеза, якое кавалі нагрэлі так, што да яго цяпер не падступіцца...

А лес яшчэ дыміць і невядома, ці перастане за ноч. Леснікова вока патрэбна тут штодня: пырсне іскра праз абкоп — зноў шугане полымя і пакоціцца пад Сырніцу.

Паволі-паволі ідзе час, разліваючы стому па жылах...

Сонца, пералезшы праз Бярэзавец, пачынае зніжацца хутчэй, нібы лес трымаў-трымаў яго ў небе вершалінамі сосен, затым яны самлелі, вывіхнуліся, шар пакаціўся долу і зараз ён рассыплецца залатымі пырскамі недзе ў канцы Імшар... У цяні стала адчувацца прахалода; падкрадаліся пахі балотнай твані і тарфянога вогнішча...

Назад вяртаюся, як і заўсёды, цераз Сырніцу. Іду лесам, між сосен, утоптваючы ў мох сухія шышкі, хоць можна свабодна прытрымлівацца сцежкі, даўнейшай, добра вытаптанай і парослай паабапал густой зялёнай травою.

Іду ад сасны да сасны, углядаючыся ў глыб лесу... Так мне хочацца. Не. Мяне цягне. Тут штодня мільгае сваёй выцвілай ад сонца жоўценькай касынкай яна, Надзя, мая Надзя, як я стаў называць яе ў думках з вясны, калі вярнуўся з арміі. Узрост робіць людзей прыгожымі і разумнымі. Як змянілася яна за тры гады... Якой прыгажуняй вырасла з той кволай школьніцы-падлетка...

Але дзе ж яна? Не відаць нешта жоўтай касынкі, не бразгае почапка па бляшаным вядры са смалой-жывіцай, не шуршыць стамеска, уядаючыся ў дрэва...

А можа, яна сёння без касынкі? Можа, адпачывае, стаміўшыся, дзе на паляне? А мо зусім не прыйшла на работу?..

Але тут мае думкі абрываюцца. Хтосьці вынырае з-за сасны, крычыць рэзкім высокім голасам, штосьці жоўтае мільгае ў мяне перад самымі вачыма, і на мой твар кладзецца пакрывала. Я слупянею, адчуваю, што на патыліцы ў мяне нехта хуценька завязвае вузел. Я рэзкім рухам лаўлю нечую руку, ды яна выслізгвае з маіх пальцаў, і ззаду чуецца залівісты, такі знаёмы смех. Стаю, і ні з месца. Не ведаю, што рабіць. Гэта Надзя. І сёння яна абвяла мяне...

Я зрываю з вачэй касынку і вітаюся з Надзяй за руку. Яна смяецца шчыра, ад душы, паказваючы белыя, як часнок, зубы і кругленькія ямачкі на ружовых шчоках... Яна радуецца хутчэй не сустрэчы, а таму, што так лёгка ўдалося ашукаць мяне, грамаздаватага і непаваротлівага, і гэтым разам.

— Дзе ты ўчора была пажарам, змоўніца? — смяюся і я, адкідаючы рукою доўгую пасму валасоў, якая звісла мне на лоб. Мне здалося, што гэта хоча зрабіць Надзя... Але чаму я, дурны, апярэдзіў яе?

— На Карэнні выбірала тарніткі...

— Чаму ж ты не бегла бараніць?..

— Цябе? — перабівае яна і зноў смяецца.— Я ведала, што такі мядзведзь ад агню сам уратуецца...

Гэта яна так пра мяне. Я лаўлю яе позірк. У ім — гарэзлівасць, нават задзірысты выклік...

— Ах ты, каза...— я набліжаюся да яе і хачу злавіць за рукі, але бачу, як яна пацягнулася да стамескі, што стаяла прыпёртая тут жа да сасны. Я зірнуў на доўгую і ёмкую залепленую смалой ручку і адскочыў убок. Мы абое засмяяліся.

— Пойдзем. Памажы мне данесці да склепа вядро, яно поўнае...

Я ведаю, што вядро было нарыхтавана спецыяльна да майго прыходу, як пазаўчора, як і тыдзень назад. Цяжкае, паўнюткае аж па почапку. Пуды два, няйначай. Надзі было радасна глядзець, як я лёгка бяру вядро і, не пераменяючы рукі, нясу аж да зямлянкі на Карэнне — добрую вярсту. Яна, мне здавалася, зайздросціць маёй сіле.

— Можа, ты пакрыўдзіўся, што я не тушыла лес? — пытае яна, ідучы ў мяне збоку і трымаючы на плячы стамеску.— Дык я ж адна не спраўлюся. Так прэ смала.

— А каб агонь павярнуў у твой бок? — нахіляю я да яе галаву.

— Хіба б ты да мяне не прыбег? Ты тады злосны... А я першая тут бы агонь той сустрэла,— адказвае яна, і мне здаецца, што вочы яе гавораць: «Дурань. Хто ж гэта кідае свой квартал, калі паблізу агонь палае? Ты ж ляснік. Няўжо не цяміш?»

Я пачынаю апраўдвацца, пачынаю запэўніваць, што яна мае рацыю, што я няўмела жартую, і яшчэ, і яшчэ... Адчуваю, што гавару многа і лішняе. Надзя маўчыць, але ўрэшце не можа сцярпець:

— Не лапачы. Мне ад багуну галава за дзень разбалелася. Ратунку ад яго няма...

На Надзю я за гэта сёння не крыўджуся. Змаўкаю, затым ціхенька, не гледзячы на яе, гавару:

— Багуны ў бары не растуць...

Яна тузае мяне за рукаво і здзіўлена глядзіць ў вочы. Мусіць, нешта новае сказаў для яе.

— У бары толькі хвоя, смалістая хвоя,— гавару я тым жа тонам.— Багуны ж у Імшарах, а да іх далёка, як і да вёскі.

— Я сама ведаю, што да вёскі далёка. Але тут з-за кожнай сасны на нас могуць пазіраць. Удваіх у лесе — не тое, што ўдваіх у вёсцы на вуліцы...— зноў той жа гарэзны агеньчык з'яўляецца ў яе пад чорнымі вейкамі. На гэты раз яе позірк насцярожаны; відаць па вачах, што яна як бы ўсхвалявана. Затым яна апускае галаву і доўгі час ідзе моўчкі. Мне здаецца, што яна за нешта дакарае сябе, можа, нават за свае апошнія словы. Маўчу і я.

Здалёк паказваецца склеп. Гэта ладная зямлянка на ўзгорачку паміж дзвюх сосен. Мы ідзем проста на іх. Убачыўшы зямлянку, адчуваю, як у мяне самлела рука. Мне думаецца, што ў зямлянцы цёмна: між дрэў ужо снуецца мрок. Аднак, калі мы ўвайшлі ў яе, я магу добра ўсё разгледзець. У самым кутку стаяць тры маркіраваныя новенькія бочкі. Іх не скранеш з месца: паўнюткія смалы-жывіцы. Яна пахне на ўсю зямлянку. На сучку, уторкнутым у столь, вісіць сетачка (мусіць, з некранутым падвячоркам) і Надзін сівенькі жакет. Яна просіць мяне паставіць вядро на першую крайнюю бочку. Я стаўлю яго так, што яно нават не бразгае. У зямлянцы ціха-ціха, нейк таямніча, і, можа, таму мы маўчым. Столь не дае выпрастацца, і ад гэтага мне яшчэ больш нязручна. Нават сорамна ад сваёй непаваротлівасці.

Надзя дастае сетачку і апранае жакецік. Яна марудзіць: у яе нешта не ладзіцца з рукавом. Я сачу за ёй, але яна баіцца падняць на мяне вочы. Што з маёй дзяўчынкай? Здаецца, насупіўся яе твар...

І тут нечым цёплым і хмельным павеяла на мяне, здаецца, з усяго лесу. Я гляджу на Надзю... Упіваюся ў яе вачыма: у яе твар, у яе шыю, грудзі. Не ведаю, што са мной. Такой прыгожай і такой сваёй я ўбачыў і адчуў яе толькі тут. Я п'янею, нібы ўпершыню панюхаўшы багуну. Хачу наблізіцца да яе, абвіць такі зграбны і такі гнуткі стан... Абняць моцнай, мужчынскай рукой... Ступаю... Надзя падымае спалоханыя чорныя вочы, адхінаецца назад да сцяны, доўга глядзіць на мяне знямелая, затым усхліпвае і залівaецца слязьмі, закрываючы рукавамі твар.

— Што з табой? Надзя... Надзька...— я апынаюся ля яе, але дзявочыя пругкія рукі далонямі ўпіраюцца мне ў грудзі.

— Я змарылася сёння... Адпачнём. Я сяду. А тады

пойдзем дадому. Рукі мае ныюць. Спіна ломіць...— яна адразу перастае плакаць і выцірае пальцамі вочы... такія бліскучыя...

Я саджуся ля яе на мох, прыхіляюся плячмі ваеннай гімнасцёркі да смалістай сцяны і, не ведаючы што гаварыць, маўчу...

Сядзім. Здаецца, пацямнела на двары...

— Паслухай...— Надзя ціхенька называе мяне па імені.— Дык ты ўжо даруй... Можа, я табе не тое сказала... Ці, можа, я гэта толькі думала сказаць. Я на цябе сёння крычаць хацела...

Мне здаецца, што недзе журчыць ручаёк, і я нахіляюся да яе. Яна лёгенька-лёгенька, неяк не так, як заўсёды, прыхінаецца да мяне. Я адчуваю яе цёплую, дрыготную, жаданую...

— Я не ведаю, што казаць...— журчыць ручаёк...— Але калі ж ты нейкі не такі... Ходзіш да мяне колькі ўжо, на вечарынках не выпускаеш з рук, на вёсцы толькі пра нас і гаворацць... А ты мне нават ні разу не сказаў... Адкуль мне знаць, што ты мяне любіш... Можа, ты мне толькі галаву тлуміш...— яна ўздрыгвае ад сваіх слоў, і я нібы прачынаюся ад салодкага сну... Паварочваю галаву, лаўлю яе вочы, але тут яна зноў заліваецца слязьмі:

— Што я нарабіла, што я нагаварыла...

Адчуваю, што разгубіўся. Як суцешыць маю Надзю? Яна не верыць, што я яе люблю, так люблю... Праўда, я ёй ні разу нічога не гаварыў... Але ж гэта вядома і само сабой...

Гляджу, як уздрыгвае каля мяне чарнагаловая кветка...

— Надзька... я табе вось што скажу...— яна ўзнімае галаву і глядзіць на мяне тымі ж бліскучымі і вільготнымі вачыма, што сэрца маё не тахкае больш... Яно дрыжыць...— Ты мая, мая і ўсё... Я цябе даўно так клічу...— і тут я першы падаюся да яе. Не. Гэта яна рванулася да мяне... Я абняў яе, гарачую, моцна-моцна і адчуў, як яна абмякла...

Я лавіў і цалаваў яе вочы і вусны...

Калі мы выйшлі з лесу, вёска схавалася ў тумане. Ён валокся з лагчыны ад лазняку і павіс на загуменні, залазячы ў шчыты і пад стрэхі і блытаючыся ў галінах Мацяёнкавых старых яблынь-дзічак. Зялёны сасняк, што ўзвышаўся ад нас злева, зрабіўся цёмны. З-за яго выныр-

нула чародка дзікіх качак і павярнула ў туманную лагчыну. Гэта бярэзаўскія — я пазнаў. На далёкім цёмна-сівым захадзе свяцілася светла-чырвоная палоска. Ці не там гэта схавалася сонца...

Мы ішлі, размаўлялі і смяяліся, і размове нашай не было канца...

На ферме, якая неўзабаве выплыла з туману, пачулася бразганне вёдзер і жаночая гаманіна. Раптам яна абарвалася.

«Глядзі, Кацярына,— парушыў цішыню знаёмы нам голас,— ці не твая гэта аж цяпер з работы вяртаецца... Не пазнаеш з кім?.. З лесьнічком нашым, з кім жа яшчэ...— Мы бачылі, як жанчыны пасталі і ўзіраліся ў наш бок.— Ты глядзі, баба, прыглядайся, каб сватоў не спазніліся заслаць... Хаця ўсё адно для мяне... Сваццяй жа буду. Па мужыку ж я ваша радня...»

«Чаго ўжо на іх крычаць... Павырасталі дзеці, дзякуй богу, а мы, Верачка, пастарэлі...» — я не ўлавіў, хто гэта сказаў, Надзіна маці ці хто другі з жанчын. На ферме зноў падняўся вэрхал: спрачаліся, каму колькі год. Па тым,якія зацятыя былі спрэчкі, адчувалася, што ніхто з жанчын не хацеў старэць.

Як добра, што ўсё гэта чула Надзя.

На загуменні мы рассталіся, і я аддаў Надзі яе сетачку. Рассталіся моўчкі, нехаця. Развіталіся вачыма. Тут блізка было да людзей, і Надзя чагосьці сёння саромелася.

Я глядзеў, аж пакуль яна не схавалася ў тумане за нейкай пуняй. Яна, мая Надзя. Я ішоў сваім агародам, ішоў баразною ля плота па бульбянішчы і адчуваў, які я малады і бадзёры. Пыл з-пад ног асядаў на росны ўзмежак.

*1958*

## На шчасце

Пасля заканчэння універсітэта мяне, з групай былых студэнтаў, паслалі на месяц за межы рэспублікі на адзін з заводаў для большага азнаямлення з тымі працэсамі, якія нам выпадала хутка выконваць самім на электронных машынах.

Увесь месяц я перапісваўся з Галяй. Я пасылаў ёй амаль штодзень лісты, чакаючы ад яе адказу. Яна пісала мне таксама, пісьмы яе былі простыя і роўныя, як і характар. Толькі тое, што прыйшло ўжо на вёску — дагнала мяне на парозе маёй хаты — было загадкавае і хавала неспакой.

Абмыўшы дарожны пыл і нічога не кажучы маці, я рашыў рыхтавацца зноў у дарогу. Хацелася як найхутчэй быць з Галяй.



Навальніца прагучала і сплыла, абудзіўшы раніцу. Паветра пахла канюшынай, жытамі; прымешваўся водар гурковага цвету, медуніцы і спелых кменаў. Поле ажыло, п'ючы дажджавую расу.

Неба было чыстае, густое і высокае. Хмары зніклі раптоўна, як і наплылі. Здавалася, не раз'юшаны і напорысты самадур-вецер пагнаў іх у белы свет, а яны апалі тут, над палямі і лугам дажджавымі струменямі і парай ды сцяклі незлічонымі раўчукамі ў лагчыны, поячы глебу прэснай і свежай спажывай-вільгаццю.

Да ўсходу сонца мне трэба было трапіць на Даўгінаўскі аўтобус, і я не спаў усю ноч,— а ледзь свет ўскочыў, «ускруціўся», як гаварыла мая маці, і, расчыніўшы акно ў агародчык, засумаваў, гледзячы на пісягі, што цяклі і па шыбах, і па сцяне, і падваконнем. Агародчык ад дажджу яшчэ шапацеў вішнёвым лісцем, аж да зямлі пад ветрам згіналіся вяргіні, грымела зусім блізка над хатай, і маці, папракнуўшы мяне, бразнула рамамі перад самым маім носам. Адвярнуўшыся ад зачыненага акна, я быў зусім раскіс, але яна суцешыла мяне, што дождж перад дарогай абяцаў удачу і што летняя ранішняя навальніца нядоўгая, і падала снедаць.

Брыгадзір, мой дзядзька, абяцаў учора падкінуць мяне ранічкай, але я не захацеў адрываць некага ад работы. Коні ўсе замацаваны за калгаснікамі, і тыя ў нас зарана выязджалі на поле. А пакуль да аўтобуса і назад — цалюткі свет.

І вось меншы брат — дзесяцікласнік, лічы — вязе мой чамадан, прыладзіўшы на багажнік веласіпеда. Ён даўно пакінуў мяне ззаду аднаго, а гэта мне зрукі. Адзін я магу пецъ, марыць, а прысутнасць каго-небудзь свайго неяк звязвае. Здаецца, што ўсё пачутае ад мяне, песню ці жарт, брат абавязкова перадасць маці...

Мінуўшы вёску, спускаюся ў Разанку — так называецца лагчына, парослая бярэзнікам, дзе некалі ў сівой старасвеччыне нашы прародзічы трымалі сечу з ляхамі. Такая легенда і цяпер жыве ў нашай аколіцы. Мне здаецца, што чарнастволыя ад даўнасці бярозы памятаюць пра некалішнія бітвы.

Яны, абступіўшы дарогу, маўчаць у ранішняй цішы, таячы ў сваёй маўклівасці роздум над векаваннем чалавека. Як дамагчыся разгадаць іх думы-летапіс? Яны многа бачылі, яны шмат ведаюць...

Але бярозы неўзабаве застаюцца ззаду.

Вільготныя жыты, што паабапал дарогі, дзе-кольвечы пазгіналіся пад грузам калосся. Як няўпору кранула гэты край дажджавая навала... Ды нічога. Дзень — два пагоды, і калоссе пырсне зернем, просячыся ў бункер камбайна. Скрозь палавое поле ад сонца выдае зусім васковым, дарога, пятляючы, губляецца сярод яго, але мне відаць ўдалечы веласіпедыст і белыя дахі новых будынкаў.

Лёгка дыхаць пасля дажджу, лёгка ісці. Раптоўны буйны лівень прыбівае пясок, змывае са сцежкі сухую травусена і прывялыя спарышы-лісточкі дзяцеліны. Яны плаваюць у лужынах — напоўненых вадою дарожных калдобінах — зялёныя-зялёныя на мутна-жоўтай вадзе.

На прыпынку было няшмат народу, і я, упэўнены, што як-небудзь уладжуся, адпусціў брата дадому. Яму яшчэ ўчора брыгадзір даў нарад акучваць бульбу на загуменні. Паціснуўшы мне руку і апусціўшы галаву,— яму было шкода кідаць мяне: расстаемся ж надоўга,— ён хутка схаваўся ў жыце.

Аўтобус пазніўся. Ад Даўгінава да нашай мясцовасці — лес, карэнне і выбоіны.

Наваколле абудзіла калгасная раніца. Прагналі жывёлу па свежай пасля дажджу вуліцы. Недалёка ад нас жанчыны даводзілі прарэзлівымі галасамі, што нейкая там Палюха ніколі не хадзіла на поле і што добра зробяць, калі ў яе адымуць агарод. Праехала брыгадзірская брычка — жанчын паменшала. Раптоўны на світанні лівень, відаць, дазваляў ім дагэтуль прыпазняцца. Да камбайна, які стаяў амаль ля аўтобуснага прыпынку на дзядзінцы, высыпала аднекуль запырсканая і падкасаная да калень дзетвара.

У думках я гатоў быў пусціцца па мураве разам з дзецьмі, якія, не змаўкаючы ні на хвілю, пачалі ўжо не-

шта барабаніць ля камбайна. Можа, мяне падбіваў да гэтага мой непакой?..

Але раптам я забыўся на ўсё...

Як я дагэтуль не мог заўважыць яе? Гэта Валя, мая аднакласніца па сямігодцы. Цяпер я магу прызнацца сабе, што яна — маё першае хлапечае каханне. Я — вялізны і няўклюдны — рос тады дзікім дрэвам — камлюкаватым дубком — і не заўважыў, як ля мяне расцвіла маладзенькая яблыня...

Я пакахаў яе, але шляхі развялі нас...

Цяпер Валя, якую я ніколі не чакаў сустрэць тут, пазнала мяне і прыгнулася на сваім чамадане, стараючыся быць плячыма да людзей. Я абрадаваўся і, хуценька падышоўшы, прывітаўся. Яна ўстала і загаварыла зусім незнаёмым голасам, уся чырванеючы, нібыта была вінавата перада мной. Затым чырвань на твары ўступіла месца гордасці, нейкай незразумелай для мяне. І яе словы, як халодны вецер у замаразкі, астудзілі маю занадтую шчырасць. Я зноў прыпомніў тую, хто некалі не скупіўся на радасць для мяне; я зразумеў і яе цяперашнюю гордасць маладой жанчыны: яна збіралася стаць маці.

Мы перакінуліся словамі; і яна, і я шукалі — пра што гаварыць. Адчувалася, нам дваім хацелася толькі маўчаць. Нарэшце яна нясмела, але з нейкай пяшчотай і настойлівасцю, якая прыдавала і мне ахвоты да размовы, накіравала нашы думкі па адной сцяжынцы — мы сталі прыпамінаць сяброў-аднакласнікаў: дзе хто і як, стараючыся ўсякім чынам абыйсці сябе. Асабліва гэтага хацела яна, і ёй удавалася. Яна ведала, што я вучыўся ва універсітэце, і я чуў, што яна на заводзе.

І чаго нам саромецца колішняга? Хіба яно цяпер для нас што значыць пасля стольkіх год? Усё даўнейшае забыта. Да яго няма звароту.

Але ж мы нейкія сарамлівыя, як і тады, у нашы няпоўныя гады. Не, хутчэй за ўсё — мы зусім далёкія.

Яна ловіць мой пагляд толькі тады, калі я пазіраю куды-небудзь, толькі не на яе. Я заўважаю гэта і думаю пра тое, што мінулае жыве ў нашых сэрцах, мусіць, толькі як памяць...

Якая сталая і разам з тым прыгожая Валя... Але гэта другая, нават чужая для мяне, не тая, якую я некалі кахаў і з якой даўно развітаўся: я жанаты. Мяне чакала маё каханне ўперадзе. Яго прынёс той, хто цяпер клікаў да сябе так настойліва і нецярпліва...

Значыць, першае каханне не заўсёды тое, што звязвае цябе з чалавекам назаўжды...

У аўтобусе мы сядзелі разам. Калдобістая дарога гайдала нас, і Валі рабілася блага. Ёй было горача, пачынала трудзіць. Яна зняла з сябе жакет, а я з горам папалам зрабіў насупраць Валі фортку, ледзь асунуўшы ўніз шыбіну, якая, бог ведае, ці краталася калі з месца ў нашым даволі-такі новым аўтобусе. Перасесці на лепшае месца не выпадала: мы былі не адны.

Валя перастала размаўляць. Слухаць мяне ёй таксама не хацелася: яна то выцірала хустачкай усчырванелыя шчокі, то зусім закрывала далонямі твар. Я змоўк і прыслухаўся. Уперадзе мяне шафёр у чорных рагавых акулярах (сонца біла якраз нам у вочы) апавядаў некаму, што гэты самы аўтобус хадзіў і на Карэлічы праз Мір, і на Ільлю, і што на Даўгінава дарога самая паганая, асабліва ў Крашчанскім лесе...

Недзе збоку нас на ўвесь маленькі аўтобус моцна, як у бочку, размаўлялі дзве жанчыны. Іх чамусьці слухалі ўсе. Трымаючы на каленях напакаваныя карзінкі, яны ківалі галовамі адна перад адной:

— Бедная... Трудзіцца як. На адкрытую садзілася б...

— Ведаю, любка, што гэта за мэнка. Калі я хадзіла двайнёй і мне трэ было ў Барысаў ехаць...

Гэтыя словы ўчула і Валя. Якая яна ўсё-такі была дзіўная: думала, што я нічога не заўважаю. Неяк спалохана зірнула ў мой бок, спахапілася і нахінула на сябе жакет. Я загаварыў да яе, але яна маўчала, гледзячы то праз фортку на росныя яшчэ ад ранішняй навальніцы маладыя прысады, то недзе проста перад сабой.

Дрыжалі дзверцы, дзесьці ззаду бразгала шыбіна, манатонна і несціхана: мы выехалі на брук.

Вецер рваўся ў адтуліны вокан, свяжыў твар.

Выплылі з прыдарожных кустоў на ўзгорак. Дарога вяла полем-жытамі. Ім не было краю. Яны стаялі ціха і мірна, пакалыхваючыся, бы ў вялікім роздуме. Яны былі прыгожыя ў сваёй маладой спеласці...

Валя не адводзіла воч ад акна. Яе цёмныя валасы, што закрывалі шыю, разляталіся ад ветру, песцілі жаночыя круглыя плечы. Я ў профіль бачыў яе нос, прамы, крышачку прыгнуты і, можа, ад гэтага нават прыгожы; яе вейкі — густыя, узнятыя. А вочы... Яны былі вільготныя ў гэты час бадай ад радасці... Яны глядзелі і глядзелі туды, дзе ў сінечы губляліся жыты, і, мусіць, марылі...

Я ведаў, чаго радуецца сэрца маладой жанчыны, у хуткім часе маці, і шчыра жадаў ёй шчасця...

Мы ляцелі ўніз, з гары, пад Хатаўскія лясы.

Веяла свежым, ранішнім пахам лесу. Тут жыў зусім малады яшчэ жнівень з налітымі малінамі і запунсавелымі ўжо брусніцамі на палянах сярод зялёнага хвашчу і разгатай папараці.

Там, дзе дарога перад лесам выходзіць на шашу, шафёр затармазіў. З лагчыны мы ўзляцелі на ўзгорак, а там зноў раптоўны спуск, якраз ля дарогі з вёскі. Хат адгэтуль не відаць, дарогу таксама цяжка заўважыць, не ведаючы; затое адсюль відна нават далёкая машына на Даўгінаўскім гасцінцы, што ў гэтых месцах роўна і проста лёг праз поле.

Дарогу перагарадзіла фурманка. На калёсах нехта ляжаў, абапіраючыся на локаць. Свежаскошаная трава была заслана пасцілкай. Фурман, малады яшчэ хлопец з ускудлачанымі чорнымі валасамі, да якіх дзе-нідзе папрыліпалі мокрыя травінкі, паклікаў чамусь шафёра на дарогу. Стараючыся схаваць вінаватую разгубленасць, ён вадзіў перад сабой рукамі, аб нечым упрошваў.

«...Па такой калатні... брукам... далечыня. Не вытрымае яна. Ужо трэція схваткі. Не чакалі сёння. Ды і яна не хацела ехаць. Баіцца. А пакуль яшчэ каня запрог. Выручы...»

Я спачатку здзівіўся, але пасля ўсё зразумеў.

Шафёр моўчкі кіўнуў галавой, і чорнавалосы хлопец аж кінуўся да воза абрадаваны і яшчэ больш разгублены. Было несамавіта за яго.

А вось і тая, за каго прасіў хлопец — белавалосая дваццацігадовая жанчына. Яна злезла з калёс, апіраючыся на аглабіцы, і падымалася ў аўтобус. Крыху цеснаваты пыльнік шчыльна аблягаў яе стан. Я ўздрыгнуў: у гэты момант незнаёмая жанчына нагадала мне нечым Галю...

Не, у яе не было паўнаты, нават цяжка было паверыць, што яна цяжарная. Твар яе цвіў той белізной, якую толькі ледзь-ледзь кранула загарам. Яго нібы абветрыла ранняй сонечнай вясной на адкрытай машыне. Ён быў зусім просты, мо нават прыгожы, каб не круглаваты. Толькі вочы былі апушчаны і, відаць, заплаканы. Я не памыліўся. Яны былі вільготныя і блакітныя, як васількі ў расе. Яны дзякавалі мне за месца, якое я ўступіў.

Я сачыў за ёю, і мяне кранала, як яна не хацела пакідаць свайго мужа. Ён быў дарагі для яе цяпер яшчэ больш,

бо яна не ведала, як сустрэнуць яе і ці змогуць хаця памагчы ў тым, чаго так баялася жаночая душа і чаго даўно ўпотай так жадала.

А ён, нейкі радасны, круціў у пальцах дубец, якім паганяў каня ўсю дарогу, і голас яго дрыжаў:

— Я прыеду, Люда... Веласіпедам. Заганю каня і адразу. Спыніцеся ж ля самай амбулаторыі, ля варот. А мо я нават і даганю...— спрабаваў ён жартаваць.

Яна ўсміхнулася куточкамі перасмяглых вуснаў.

— Не трэба. І не думай. Я сама. Лепш пазвоніш...— строга, нават уладарна прагучаў яе голас.

Ён маўчаў і не адыходзіў.

— Ну ідзі, Вася, ідзі... Мне добра. Не стой...— уздрыгнуў ласкай і лагодай гэты самы голас.

Зачыніліся дзверцы; мы ўжо ехалі. Цяпер я стаяў ля іх. Зірнуў на Валю — яна хвалявалася. Але не за сябе, я разгадаў. Ёй боязна было за Люду, якая сядзела разам з ёй і пры кожным уздрыгу машыны моцна заплюшчвала вочы і ашчэплівала твар. Валя памагла ёй скінуць з плеч пыльнік і расшпіліла на плячах у сукенцы некалькі гузікаў. Яна нешта шаптала ёй, распытвала, раіла.

А аўтобус жыў. Варушыўся, пераміргваўся, усміхаўся, спачуваў і нават балбатаў.

Нехта збіраўся быць бабулькай, калі мо прыйдзецца, хваліў мяне, што я пасупіўся, і каб не зрабіў гэта я, то зрабіў бы ён; хтось прарочыў нашай новай спадарожніцы двайнят па нейкіх толькі яму вядомых прыкметах, затым шкадаваў яе мужа, што таму туга прыйшлося, і не без гумору ўстаўляў, што такі смуглявы карантыш, а на вялікае вунь які здольны...

— А бадай вас... Мужчынам заўсёды адно на ўме,— перабіла адна з жанчын размову, якая, вядома, прадаўжалася б у гэтым «далікатным» кірунку.— Тут во, наследдзе чакаецца, шчасце людзям прывальвае, а яны...

— А я пра што, Аўдоська...— гэта гаварыў мужчына з суседняй мне вёскі. Я чуў, што ён сёння едзе ў райцэнтр атрымаць грошы. Яго аблігацыя выйграла, і, відаць было, вялікую суму, хоць ён і хітрыў.— Пра гэта ж,— са смехам прадаўжаў ён.— І вы са сваім Данілкам не такія перастаркі ўжо. Так што бусел вам яшчэ не адно гэтакае шчасце ўкіне... Данілка такі, што... што ад цябе нідзе і не адыходзіцца...

— Дай бог усім такое шчасце, дай бог...— задаволеная яшчэ нешта шваргатала Аўдося, але пасажыры клаліся

са смеху, і яе не было чутно. Усміхаліся і віноўніцы жартоўных размоў.

Думы мае снавалі нешта радаснае і блізкае душы, і яна шчыра смяялася разам з усімі.

Гэтая вечная неспакойная радасць, якою заўжды жыве і поўніцца свет, крынічыла тут, у маім родным калгасным краі, у сэрцах людзей, ішла па зямлі... Яе неслі самі людзі, рупныя, прыгожыя, працавітыя, каб затым, на беразе свайго веку гэтаксама ўцішна, як і цяпер, мыць у халоднай крыніцы ногі, вяртаючыся дадому з поля жніўнаю парою — недзе за межамі яшчэ дваццаці год — разам са сваімі паплечнікамі-дзецьмі і радавацца ім так шчыра і задушэўна, як і цяпер, чакаючы іх...

Аўтобус наш набліжаўся да гарадскога пасёлка. Паветра, густое і ўжо нагрэтае, біла ў адсунутыя шыбіны. Патыхала дымамі. Мы міналі лугавіну, пакідалі збоку лес, раку; удалечыні на высокім у гэтым месцы беразе ў саснячку мільгалі будынкі раённай электрастанцыі і лесапільні.

Хутка прыпыніліся ля новай амбулаторыі, і разам з Людай, якая мацавалася, падбадзёраная Валяй, тут выйшла некалькі чалавек. Я глядзеў, аж покуль Валя не паднялася на ўсходкі ганка і не схавалася за дзвярыма, і доўга яшчэ думаў пра яе.

У горад прыбыў вечарам. Злазіць мне выпадала амаль на акраіне: тут жыла мая дваюрадная сястра, што працавала на тытунёвай фабрыцы.

Трамвай дамчаў мяне да Сельгаспасёлка. Вячэрні горад свяціўся густымі агнямі і мяккім спакоем. Ліхтары-месяцы ўспыхвалі ў мяне на вачах; неба рабілася густое і цёмнае; яно зніжалася над горадам на ноч, каб атуліць яго свежасцю-прахалодай, астудзіць ад дзённай бязвоблачнай жніўеньскай спякоты.

Адтуль, з цэнтра, чуўся роўны, лагодны гул. Услухацца — густы і магутны. На небакраі мігала і расплывалася зарыва-водсвет — гэта цемень рабілася барвовай на прасцягу, нібы там пад ветрам хвалявалася ўтканае пазалотай палатно. Вуліцу атулялі сады, з-за высокіх частаколаў за мной цікавалі налітыя яблыкі, удалечы, дзе за горадам выступаў пасёлак, калыхалася смуга, зусім як у лугах за нашай вёскай. У тым баку толькі што выплыў месяц; круглы і поўны, ён выдаваў самым буйным барвовым ліхтаром над горадам...

Сястра мая абрадавалася і адразу ж пачала дакараць, што забыў дарогу да іх. І яна мела рацыю: даўно не быў у яе. Прыдзірліва і цапытліва паглядзеўшы мне ў вочы, сястра раптам з асцярогай гаворыць:

— Была Галя. Два разы. Прыязджала. Ёй сумна. А ты... Відаць, не пісаў ёй цэлы месяц?.. Муж...

Я ва ўлоннях Нарэчча... У неспакоі расхінаю кусты срэбна-белых ніцых лоз, а ім няма канца.

Нарэчча — возера. Заўсёды нейкае ціхае і ласкавае, асабліва ад вёскі, ад якой яго аддзяляе цяністая і заўсёды прахалодная маладая дуброва. Сёння яно неяк яшчэ больш сцішылася. Можа, ад спакою тоняў ці ад лагодных усплёскаў хваль у ветраны дзень і вунь тыя дубы, якім карціць з берага ўбачыць свае разгалістыя шаты ў люстранай глыбіні, выдаюць мяккімі і задуменнымі. Яны спачываюць, як і возера, як і рыбак, што развесіў невады пасля рыбнага дня; як і жанчыны, што вяртаюцца з поля, бо чутна іх песня з-за далёкага бярэзніку — жніўная, працяжная, павольная-павольная... Яна плыве. Ад яе вее спакоем і нявыказанай радасцю. Яна нясе звыклыя надзеі чалавека поля, яго ўрачыстасць; нараджае ў думках аповесць аб нечым адвечным, шчырым і шырокім-шырокім, бясконцым у сваім раздоллі і багацці... Гэта аповесць аб дарах зямлі і прыроды.

Гойдаюцца на ўзбярэжжы высокія лапкі мятліцы, бо не заснуў яшчэ нанач вецер. А каля зямлі нават не здрыгнуцца кветкі люцікаў і межыперсніцы. Але і без ветру яны губляюць сваю красу-пялёсткі. Шуршаць травы пад нагамі, шастаюць: жнівень занадта пасуравіў іх, такіх мяккіх і аксамітных у маі.

Дуброва застаецца збоку, за лугамі. Тут кусты — крывы і разгаты альшэўнік, з рэдкім голлем бярэзнік, дзе-нідзе жоўты. Торф, балота з гэтага краю. Даволі часта трапляюцца старыя асушальныя канавы; яны заплылі тванню і зараслі плывунамі.

Да Нарачанкі-вёскі рукой падаць; але чаго спяшыць, калі душа падказвае — магу сустрэць яе, Галю, і тут, нават калі і не відаць дзявочай кампаніі, вясёлай і свавольнай. Бо Галя можа і не далучацца да дзяўчат, хадзіць адна, гаманіць у думках з лазнякамі, азёрнымі хвалямі, рыбацкімі лодкамі. Ведаю яе, непаседу і гарэзу. А як яна любіць вёску, лугі і жыты ў расе. Яны ж гадавалі яе ў маленстве, песцячы сваім хараством, гадавалі для мяне.

Галя — жонка. Яшчэ студэнтка. Біялагічка. Праходзіць практыку разам з дзяўчатамі і жыве тут, у Нарачанцы.

Хутчэй убачыць — як яна? Ці так усё блішчаць яе чорныя вочы і ці хаваюцца за яшчэ чарнейшыя і такія густыя вейкі, калі я цалую іх? Можа, блізка прыхінецца яе абветранае загарам плячо? Мо схаваецца яе сарамлівы твар у мяне на грудзях... Што скажа? Мо спытае, ці люблю, як заўсёды?

Хвалююся...

Але сённяшняе хваляванне нараджае радасць.

Сонца, занадта нейкае жывое і дрыготкае, за Нарачанкай запаліла лес. Пурпур і барва пажару дрыжыць па камлях, абнімае вершаліны, паўзе па зямлі. Чырвонае лона плыве золатам за горку на далёкія лугі, каб астыць там у халодным, як крынічная вада, тумане і вільготных начных росах.

Мы з Галяй за вёскай. Яна вядзе мяне ў бок возера, адкуль я прыйшоў. Нейкая ўзрушаная, незразумелая. Што з ёй? Насцярожваюся, але яна ўсё бачыць і адразу пераходзіць на другое. Вось хутка канец практыкі, вось дзяўчаты-непаседы: у суседнюю вёску на вечарынку паперліся... Вось з поля гоняць скаціну. Учора ў гаспадыні была згубілася карова, і нават яна, Галя, хадзіла шукаць яе разам з пастухамі...

А як яна рада, што я ўжо вярнуўся і буду працаваць.

Мы далёка за вёскай. Спіць, стаілася возера, накрыўшыся коўдрай-туманам. Там, дзе днём гасцявала жніўная песня, ракоча матор, гучна, з нейкім бадзёрым перазвонам. Там жыты: яны пачынаюцца амаль адгэтуль. Мы — ля самага возера. Тут на зямлю апала дзённая цяплынь.

Селі на траву. Тут добра. За плячыма шваргочуць дзікія качкі, нават пралятаюць над намі. Калі глядзець на вёску, відаць густыя агні; за ёй патухае лясны пажар: пурпур палавее, затым шарэе. Яго паглынае блакіт і цемната.

Галя туліцца да мяне. Ёй, мусіць, холадна. Мо яна прастыла тут, ля возера? Я адчуваю, як яе цела, усё цёплае, нават саграе мяне. Яно пахне травамі...

Галя ловіць мой позірк, але, убачыўшы ў ім трывогу, апускае вочы долу. Нешта хавае ад мяне.

— Што? Гавары хутчэй! Ну...

Яна ўнурылася, нервова перабірае былінкі мятліцы, нейкая крыху чужая.

З кім яна можа дзяліць цяпер думы? Што ў яе на душы... Што можа хоць на хвіліну адабраць мяне?.. Я пра нешта пачынаю здагадвацца...

Я падаўся да яе. Яна страпянулася і абняла мяне.

— Я... Я хацела напісаць табе...— такі знаёмы, такі ціхі шэпт над вухам...— У нас будзе сын...

Мяне нешта ўсхапіла з зямлі. Я ўскочыў, падняў яе ў абдымках і стаў цалаваць. Моцна, як ніколі.

— Я хачу, каб ён быў, як ты... Увесь, як ты...— дрыжыць голас Галі. Мусіць, умяшаліся слёзы.

Мне хацелася ісці на край свету, несці яе на руках, зморaную, радасную, каханую і слухаць, як стукае яе сэрца — сэрца маці майго сына!

Сутоньвалася. Вёска пасля жнівеньскага дня рана клалася спаць, і нам у нашых думах ніхто не мог перашкодзіць...

Сустрэчы ў дарозе варажылі мне шчасце.

*1958*

# Калістрыха

## 1

Якубёнкавай сцежкай лёгка трапіць на кладкі. Трэба толькі перасекчы загуменне, усё ў высокай і густой пшаніцы, пакінуць убаку канюшынішча, што цягнецца аж пад самы лес, і спусціцца ў лажок. Тут сівец, лаза, за імі пачынаецца бор,— здалёку відаць жоўтая, перакапаная сотні разоў людскімі рукамі сыпучая зямля. Гэта ямы — сховішчы бульбы на зіму. Тут ніколі нішто не расло. Жвір, сыпкі і калючы, гадамі сушыў і нішчыў усё жывое, што трапляла ў яго: насенне, калі лускалася пераспелая сасновая шышка; белы пух асоту і малачаю з падсохлым зернем, калі прыганяў яго сюды вецер з загумення.

У гэтым месцы пад самым лесам, дзе ўжо лёгка дакапацца да гліны, былі і ямы Калістрыхі. Ямы старыя, асыпаюцца,— яна адваявала тут месца яшчэ два гады назад у залоўкі, Ульяны Лазарыхі. Жыве на самым канцы вёскі,

за мостам, а дзе надумалася ямы капаць... Пасекі мала, ці што?

Канюшына на лажку вышэйшая за сівец. Калістрыха падымае падол спадніцы і падторквае пад пояс, каб не змачыць. Сёлетнім золкім летам тут раніцай сыра і холадна.

Калістрыха спяшаецца, ад чаго плечы ў яе ходзяць хадуном. Матляюцца, аж падскокваюць, дзве касы, брынчаць адна аб адну, і яна, Калістрыха, чуе, як звон ад кос паўзе па касільну аж у вушы.

«Вострыя... Даваенныя яшчэ. Сам Калістра выбіраў. Толькі ці добра накляпалі іх «саюзнікі»...

«Саюзнікі» — гэта ўнукі, шаснаццацігадовыя блізнюкі, якія на канікулы прыехалі да яе. Калістрыха не толькі іх звала «саюзнікамі», а і сваю дачку, што была замужам за дырэктарам прамкамбіната і жыла разам з мужам недзе пад Лепелем. Высокая і тонкая, Калістрыха заўсёды спынялася ля кожнага і, калі гаварылі пра радню, бедавала на чым свет стаіць:

— О-хо-хо... Задушаць мяне мае саюзнікі... Не дадуць памерці спакойна... Жартачкі... Усё перацягаюць... Усё ім дай...— Яна тады махала рукамі, нібыта баранілася ад мошкі.— На кожную зімку ім трэба сянца назапасіць... Пасцілкай нацягаць...

Не ўсе верылі ёй. Не давала веры і Ульяна. Яна ведала, што Калістрышыны «саюзнікі» вазілі ёй мяшкамі ласкуты са швейнай арцелі. А Калістрыха тады сядзела за швейнай машынай, а пасля цягнула ў Даўгінава прадаваць ватнія коўдры...

Калістрыха Ульяне братавая. Здаецца, нядаўна прывёз яе Калістра аднекуль з-пад Радашковіч, калі пасля белапалякаў варочаўся дамоў. А ўжо і ўнукі былі б упоравень з ім, калі б ён не паклаў галаву ў гэту вайну.

Не па душы прыйшлася Ульяне Калістрыха. Неўзлюбілі яны адна адну, яшчэ калі жыў брат. Але тады ўмешваўся сам Калістра — мірыў.

У Калістрыхі было і сваё імя — Грыпіна, але ў вёсцы яе так ніхто не зваў. У Ямскім было здавён — усіх, хто прыходзіў замуж у вёску, зваць па мужу. За Калістру выйшла дзеўка — Калістрыха; за Лазара — Лазарыха. А каб Грыпіна жыла ў Ямскім, а да яе прыйшоў у прымы Калістра,— ён быў бы ўжо Грыпінін Калістра: на само яго прозвішча забываліся.

На лажку абабіта раса. Гэта пайшлі наперадзе яе, Калістрышыны, унукі. Яна пабудзіла іх з цямном...

«Гультайё!..— плюе Калістрыха.— Пагляджу, ці многа яны скасілі...»

«Саюзнікі» ішлі побач па лажку. Абабіта раса — на цэлай латочыне,— валяюцца шматкі паперы.

«Курылі шчаняты... Заб'ю!»

Шкада выходзіць з лажка. Накруціць бы дзе тут з капешку. Але на воку... Яшчэ каб мужчынам была — смялей.

На тое, што не даставалася ёй, яна глядзела прыдзірлівым вокам.

— Э-э... Дрэнь...— сіпіць яна прастуджаным горлам.— Тут і не ўгрызеш. Сіўчына. І трасочнік аднекуль паднізам. А-а-а... Тут жа зрубчыкі мужчыны ставілі. Будаваліся з калгаснага лесу. На дурніцу. Але цяпер прышчамілі ім хвасты.— Яна сціхае і пачынае думаць: «Хаця, што ім, мужчынам. Яны і стагоў настаўляюць за лета сабе ў Наддатках, і ў калгасе працэнты яшчэ скосяць...»

Раніца выдалася свежая і ціхая. Маўчыць бор. Усюды густы цень, бо сонца не прабілася яшчэ праз пераплецелыя лазнякі. Яны — адразу за борам, як толькі спусцішся з горкі. Зялёныя, блішчаць ад расы. Трапляецца вербалоз і ніцая лаза. Павытыркваў сваё рэдкае голле альшэўнік. Яму тут сыра, і ён хоча хутчэй вылезці з ценю.

Пачынаюцца кладкі, ад якіх засталося адно званне. Хто і калі іх тут паклаў,— Калістрыха не ведае, ды ніхто ў вёсцы пра гэта не гаворыць, мусіць, не ў памяці ў людзей.

Кладкі даўнія. Можа, ляжаць ад той пары, калі тут ступіў першы раз чалавек з касой на плячы. Бывае, іх ужо не знаходзіць нага, калі правальваецца між куп'я; а ў тых месцах, дзе, відаць, аб'ехала, асунулася ад даўнасці багна, яны — некалі сукаватыя бярвенні — ляжаць цяпер, як тонкія сухія шкілеты ад доўгіх рыб. Сукі — што скабы: засмаліліся на сонцы, іх ужо ніколі не возьме гніль.

Ступаць на іх няма як: лускаюцца, траншчаць пад нагамі.

На твары ў Калістрыхі раса. Хустка з'ехала на шыю, аж на самыя плечы,— павісла на касільне.

Высокая, настылая ад расы асака праймае ногі холадам. Дзе-нідзе яшчэ відаць здалёку туман — перапаўзае з куста ў куст, уцякае ад сонца і ад чалавека.

На кладках узбоўтана гразь: ішлі «саюзнікі».

Радзее бярэзнік, відаць шырокія — некалі скарбовыя — Наддаткі, яшчэ зусім не кранутыя касой. Лета сёлета не

спрыяе, а бліснула пагодка — дай бог мурагі ўпарадкаваць. Уся вёска на лугах ля Віліі. Наддаткі пачакаюць,— хоць падсохнуць. Ды і спрадвеку гаспадары не краталі іх у гэту пару, а пазней, калі ўжо зацвітаў бабок і чырванела рабінка. Тады ад сена ішоў пах, нібы ў ім улежваліся яблыкі-дзічкі. Мусіць, так пахла рабінка і ванжэўнік, што рос на сухім — на куп'і. І каровы любілі такое сена з Наддатак. У Ямскім давалі выспець балоту, а тым часам стараліся скасіць мурагі.

За шырокім Наддацкім клінам зноў пайшоў бярэзнік і лаза. І трава тут суравейшая. Раней калгас не спраўляўся абкашваць гэты кут. Адсюль можна вынесці вязкай сухое сена на той бок, пад Ямскае поле, куды ўжо можна пад'ехаць з падводай. Але той пад'езд быў нязручны, і ў калгасе, бадай, ніхто не ездзіў пад Ямскае поле. Дарога там зарасла пад'ядлоўцам і лазой. Там ездзілі, мусіць, за аднаасобным жыццём — помніць Калістрыха — да сваіх падвалоччаў, якія ўпіраліся ў балота...

Яна зноў схавалася ў мокрай лазе, падаўшыся ў бок Ямскага, і неўзабаве выбілася на шырокую латочыну.

Пачуўшы, як звініць за кустамі пад бруском каса, яна ўзрадавалася: унукі не зблудзілі. Затахкала сэрца,— можа, таму, што першы раз сёлета яна будзе закладаць касу, а можа, і ад стомы. Відаць, ад яе, бо гэтулькі прадыбала ад вёскі па такім балоце.

Пасцябаўшы косы, яна павесіла адну на бліжэйшым кусце, а другой замахала ў траве, падаючыся туды, дзе свісцелі ўнукі.

«А стома разыдзецца ад работы...»

Высокая, густая сінюха пасля касы стаяла рагача, і, каб адкінуць яе назад, трэба была дужая мужчынская рука. Але Калістрыха спраўлялася.

«Каб была мужчынам, не столькі б заняла зараз...»

Сагнуўшыся і прыпаўшы чуць не да травы, яна гнала склад.

## 2

Сонца дрыжала там, дзе Ямскае поле ўпіралася ў Наддацкія імшары; чырвонае, адно на ўсім небе. Здавалася, яму карцела скаціцца туды, дзе ў лагчыне дыхала холадам балота, парослае багунамі і журавіннікам.

На імшарах збіраўся туман і поўз на поле... Ён будзе вісець на полі ўсю ноч і раніцу, аж пакуль гарачае неба зноў не высмажыць яго да расінкі; будзе пераймаць зоры,

што могуць, падаючы з неба, абмалаціць дзе-небудзь не ў пару саспелыя каласы. Туман кожны вечар паўзе з Наддацкіх імшар на Ямскае поле — да вёскі.

Туман ноччу налівае воскам жыты. Гэты даўні сказ жыве яшчэ ад прадзедаў, каго больш веку назад карміла Ямская зямля.

Дарога пачыналася ў вільготным кутку поля, ля Рабога Калодзежа,— кроіла напалам Ямскае і гублялася ў Наддатках, пакідаючы збоку вёску.

Невядома чаму, але ў гэтым баку і вёску, і сядзібы, і далёкае поле людзі звалі Ямскімі. Нават прозвішчаў такіх у вёсцы многа было.

Пайшло ўсё, мусіць, ад месца, якое тут немаведама калі зрылі і перакапалі ў адны ямы. За вёскай пад Наддаткамі і цяпер у лесе шмат перакопаў і ям, на берагах якіх тырчаць, уехаўшы ў зямлю, вострыя валуны, шэрыя, чорныя, а то — аж белыя ад моху.

Да Ямскіх — вёскі і поля — прылягае лес і балота. Ён агінаецца ракой Віліёй,— як прыдаецца да іх. Можа, і завуць яго за гэта — Наддаткі.

...Зморaныя ногі шоргаюць па шэрым жвіру на вузкай лясной дарозе. Яна не пыліць. Толькі за людзьмі, дзе яны пераходзяць па пяску з аднаго боку на другі, курыцца сівы пыл, нібы там успаролі сукаватым пугаўём попел на ўчарашнім вогнішчы.

Праўленцы і прыйшлі гэтай дарогай сюды, у Наддаткі, пад вечар: ішлі, слухаючы далёкія адгалоскі, што плылі аднекуль па лесе. Цяжка было згадаць, адкуль — з поля ці вёскі. У гэтым месцы і днём і вечарам было рэха — ядранае і чыстае.

Ён, шыракаплечы і сутулы, збоку зірнуўшы, нясклaдны, ступаў паволі, як намарыўшыся. Малады, зусім яшчэ хлапец. Твар у яго быў круглы, задуманы. Рукі як усё роўна віселі; бывае, згіналіся ў локцях,— тады, калі ён, шырока ступаючы, абмінаў што пад нагамі. Усю дарогу ён глядзеў у зямлю — думаў, гаворачы, пра сваё...

Яна ішла ззаду. Маўчала, толькі, можа, у душы пагаджалася з тым, што гаварыў ён. Яна была невысокая паважнелая жанчына. Клятчастая паркалёвая хустка ляжала ў яе перакінутая цераз плячо, за хустку начаплялася павучыння разам з сухім лісцем. Яе русыя валасы, запленыя ў слабую касу, адразу кідаліся ў вочы: былі, як ачэсаная ручайка льну. Яны пасівелі — недзе ад перажытага, калі шмат што вярэдзіла чалавеку душу.

— Скубуць Наддаткі...— чуе яна, і супяцца яе бровы, прападаюць маршчыны з ілба. Яна ведае, хто гэта робіць; яшчэ пазаўчора ведала.

Яна хоча пра гэта сказаць яму, Кастусю Сачыўку. Ён старшыня. Хай ведае, што яна, Ульяна, не толькі таму вядзе яго сюды, што яна член праўлення і загадчык фермы. Не, хай ён не падумае і другога... што яна не ладзіць з братавай, Калістрыхай, і навяла на яе след.

У яе баліць душа, бо нядобра робіць чалавек, якога і яна ведае. А можа, яе, братавую, яшчэ можна будзе абразуміць? Можа, тая сама згодзіцца аддаць скошанае ў калгас? Ёй жа працадні налічаць.

І яшчэ карціць Ульяне. Яна хоча сказаць Кастусю, што ў яе ёсць віна перад калгасам. Яна тады заступілася за Калістрыху, калі тая прасілася на ферму даглядаць гусей. Можна было знайсці чалавека. Праўленне, відаць, тады не зусім хілілася да Калістрыхі. Але маўчала. Згадзілася.

«Ты ж сама член праўлення, загадчык. Табе відней. Разам жа рабіць...» — так яны, мусіць, падумалі пра яе.

Калістрыха ў калгасе ўсё хворай слыла, лёгкай работы шукала. Уважылі. А цяпер... Лета, а гусі калгасныя ні разу не падняліся, каб на выган злётаць, бо на выгары за ракой пер'е губляюць. Ля Калістрышыных платоў... А сама Наддаткі абразае...

— Па той бок кладак, туды, пад самае Ямскае, лучка ўся аблажана,— сказаў Кастусь.— Мусіць, Тодар стары. Не захацеў жа на луг за повара ехаць...

— Я ведаю. Не адзін ён. І туды Калістрыха дапала са сваімі «саюзнікамі». На пару са старым Тодарам... Старому, можа, і даравадь можна, вартаўнік жа як-ніяк паляўы...

— Ад каго ён тады беражэ, раз Калістрыху ў спулку ўзяў? Ды і абнаглелі ж яны. На чыстае вылезлі. Летась мы тут калгасам касілі.

— Усе гэтыя кусты. І сёлета...

— Сёлета не будзе чаго...— перабіў ён яе і засмяяўся зусім як хлапец. Пасля змоўк.

Ульяна ведала, што будзе ў яе з Калістрыхай,— думаць пра гэта толькі не хацелася.

Хутка закоціцца сонца. Яно ўжо зусім не грэе. Вісіць над самым Наддацкім борам, адпачывае, як напрацаваўшыся. Касец, намахаўшыся за дзень рукамі, такой пароі ні жывы ні мёртвы. А гэта ж сонца. Колькі яно скалясіла свету ад рання.

Здаецца, што на свеце нічога больш няма,— толькі гэтае, не кранутае касою балота, а над ім — нізкае-нізкае сонца...

Там, адкуль яны прыйшлі, нейк усё прыціхла, стаілася: чуваць былі толькі рэдкія мяккія шолахі. Здалося, замёрлі, насцеражыўшыся, асіны ля кладак. Мусіць, каб крануўся іх, уздрыгнулі б, спалохаўшыся, затрымцелі. І трава каля іх схілілася да зямлі, стала цёмная ў цяні, пабурэла.

Блізка час, калі ў Наддацкіх бярэзніках пачне дражніцца восень...

Канчаецца паляна — трапляецца пад ногі ладнаваты бярэзнік, куп'ё. На ім высокі белы мох. Мяккі-мяккі. Ступіш на яго — нічога не чуваць пад нагою. Толькі з куп'я пырскаюць зусім яшчэ белыя журавіны, нібы ты наступіў у агародзе на градах на сухія струкі фасолі.

Яны ішлі краем Наддаткаў. Тут было сушэй,— блізка да бору. Лучылі скора на сцежку. Яе выдратавалі дзікі; засталіся на гразі і ласіныя сляды. Ласі жывуць у Наддатках... Летась, успамінае Ульяна, такой парой, косячы, узагналі ў гэтым кутку ласіху. Яна днявала ў лазе з малым. І не ўцякала надта, усё на малога галавой матала.

Яны і прыйшлі ласінай сцежкай да стога. Стог быў у самых кустах, у рэдкім і гонкім бярэзніку, дзе можна ісці з касой.

Стог падвяршалі. Ля калка наверсе таптаўся камлюкаваты «саюзнік» Калістрыхі. Сена было знесена і акуратна складзена вакол стажар'я, якое было насцелена каля ацярэбленай бярозы на сушэйшым.

Кастусь Сачыўка, угледзеўшы стог, стаў, таркануўся неяк на месцы, нібы наперадзе была прорва і ён знянацку занёс над ёй нагу. Гэта ўлавіла Ульяна, і ёй здалося, што распароліся на нечым вострым гумавыя боты і халодная вада мочыць ногі аж да калень...

— Б-р-р-р...— страсянула яе.

Заходзіла сонца, хавалася за бярэзнік, як асоўвалася ўсё роўна. Ульяне здалося, што нехта ціене на сонца зверху рукамі. Пасля яна падумала, што гэта туляжок вісіць над ім, цёмны, знізу малінавы, як і само сонца, і апускаецца разам з ім — хаваецца з воч.

Нейк увачавідкі пагусцеў бярэзнік, і змеяшала выкашаная латочына. Пасвяжэла, тыхнула гнілой вадой, прэллю, горкім бабком. Праляцела дзікая качка, нізка, над галовамі. Мусіць, села б тут, каб не людзі, бо, залапатаўшы

крыламі над самым стогам, пераваліласяя цераз куст і недзе чмякнулася ў густую асаку на крыніцы.

Крык быў раптоўны і жудасны, бы хто закрычаў ашалелы. Пачуўся якраз тады, калі яны падышлі да стога. Голас доўга перадражнівалі Наддаткі, пасля Ямскае. Ульяна нізашто не дала б веры, што гэта крыкнула Калістрыха, калі б не бачыла яе на свае вочы.

— А-вой!.. У магілу загнала... Біце яе, сыны! Вунь яна...

Са стога скаціўся камлюкаваты хлопец; кінуў вілкі другі, шустры, і ўжо быў ля Калістрыхі. Яна нагнулася, прыпала на адну нагу і, паказваючы на выкашанае, крычала, не сціхаючы:

— Вунь яна... Там... Біце...

Хлопцы, угледзеўшы людзей, сумеліся і стаялі.

Першы яе ўбачыў Кастусь. Яна паўзла, звівалася па выкасе, шэрая і, мусіць, мокрая, бо блішчала; тыцкала галавою ў мох — шукала схові шча.

— Гадзюка... Вілкі!..— загаманіў тады ён.

Вілкі падаў камлюкаваты ўнук Калістрыхі, той, што быў на стозе, калі яны падышлі, падаў Ульяне.

...Калістрыха разулася пад вечар, калі зусім угрэлася, і не пачула, як яе ўкусіла змяя, бо ўсюды калолася: і знізу ў патрэсканыя ступні, і зверху, калі на нагу сыпалася з ахапка або з вілак перасохлая сінюха і рабінка.

Страпянулася яна, калі запякло ў нагу ля мезенага пальца, калі нага задрыжала і пачала дзервянець. Тады яна выпусціла з рук вілкі і стала памалу падымаць нагу з мокрага і ліпкага імшаніку.

Ля мезенага пальца выступілі дзве кропелькі крыві, усё адно як прыліплі мізэрныя спелыя ягадкі, брусніцы, якія, здавалася, расціснуліся і пачыналі расплывацца пісяжкамі...

Яна пасля ўжо згледзела на выкасе змяю, далёка ад сябе. Закрычала не ад болю, а ад страху і ад таго, што змяя можа ўцячы. Яна ўспомніла, што трэба тут жа выціснуць яд і перавязаць нагу, і клікала ўнукаў...

Яна нават не адразу паслухала, калі Кастусь загадаў ёй сесці на распушчаную вязку сена, а ўсё цягнулася туды, дзе ўнукі таўклі вілачнікамі ў гразі нешта падобнае на хвост чорных, збуцвелых лейцаў, якімі яны насілі вязкі з кустоў да стога.

Кастусь тады крыкнуў на яе:

— Здурнела баба!.. Сядзі!.. Давай лепш нагу сюды...

Ступня ў яе ўжо назызла — пачынала пухнуць.

Выцягнуўшы з-пад вязкі лейцы, Кастусь перацiснуў Калiстрысе нагу вышэй шчыкалаткi i пачаў выцiскаць з ранак кроў.

Калiстрыха маўчала, сцяўшы вусны. Бегалi толькi яе вочы, як ад страху. У iх — Кастусь угледзеў — было поўна злосцi: на яго i на Ульяну. Калiстрыха, мусiць, забылася ўжо на змяю: глядзела ў бок стога, дзе адчытвала хлопцаў Ульяна.

— Бiць трэба бабу i кiй палажыць... Лоб гуза шукае...— падышла тая i да Калiстрыхi.— Надумалася, разулася... Носiцца. Аж з кладак вiдаць, як блiшчаць лыткi.

Калiстрыха хацела ўстаць i не змагла, зноў села. Нарэшце ёй гэта ўдалося, але, ступiўшы балючай нагой на гразь, яна завойкала на ўсё балота.

Кастусь тады скруцiў у жгут Ульянiну хустку i перацяў Калiстрысе нагу там, дзе ўядалiся ў лытку лейцы.

— Iдзём на бор,— сказаў, як загадаў.— Дом далёка. Цямнее. А з табою, Калiстрыха, дрэнь дзялы... Нага пухне. Выйдзем на сухое — перацiснем вышэй. А вы, хлопцы,— клiкнуў ён,— мо ўперад пойдзеце? Конi за ракой. Ушчэмiце якога ў калёсы... яны ў мяне на двары... А ты, баба, шчасце маеш яшчэ... А то б я цябе аперазаў лейцамi не гэтак...

— Ну-ну... Не страш...— Калiстрыха не падымала на яго вачэй, глядзела ў зямлю.

Хлопцы стаялi — нi з месца: вiдаць, чакалi, што скажа сама Калiстрыха. Нарэшце на iх напала Ульяна, i яны, кiнуўшы вiлкi, падалiся напраcткi пад дом.

У Наддатках засталiся трое. Кладкi ад iх былi цяпер убаку. Ды i да кладак было далёка, i людзi пайшлi на расцяроб, што выводзiў iмшарамi пад сядзiбы.

Маўчалi. Калiстрыха павiсла на плячы ў Кастуся, ён абхапiў яе i памагаў, калi яна ступала балючай нагой.

Перад самай крынiцай ля бярэзнiку да Калiстрыхi падышла Ульяна i ўзяла пад паху — з другога боку.

Ужо цямнелася, калi яны пакiнулi Наддаткi...

У расцяробе хмарай вiсела машка i камары. Яны, вiдаць, знiкалi адгэтуль толькi пад ранiцу, калi падымаўся ўгару халодны, як лёд, туман. Над галавой лёталi кажаны, чакаючы начы.

Людзi расхiналi кусты, палохаючы дзiкiх качак, якiя нажыравалiся за дзень i цяпер, седзячы ў старой траве, перабiралi дзюбамi пер'е на ўздутых воллях. Качкi не ўзля-

талі з зямлі, як удзень, а, калышучы высокую балотную папараць і хлопаючы крыллем, стойваліся далей ад расцяробу ў лазе.

Калі людзі выйшлі на бор і азірнуліся,— у расцяробе ўжо бялеў туман.

## 3

Варотцы з вуліцы адчыняліся на двор.

Над імі звісала рабіна — маладая, але ўрадлівая каторы ўжо год. Яна даставала сукамі аж да студні, што была на вуліцы ля гародчыка, і Калістрыха яшчэ пазалетась збіла на яе накрыўку з дошак: пад восень і лісце сыплецца ў ваду, і сарокі злятаюцца на дрэва.

Ля гародчыка лаўка, адным канцом дастае аж да варот.

Праўленцы не рашыліся адразу зайсці ў хату і паселі на лаўку. Ульяна, стоячы, абаперлася была локцем аб накрыўку на студні. Тая не зусім шчытна прычынялася, заскрыпела і стукнула па зрубе. З рабіны пырхнулі вераб'і, пераляцелі на хлеў і са страхі пазіралі на людзей, выцягваючы галовы. Яны не ведалі, што тут будзе, не ведала і Ульяна.

Сонца свяціла праз рабіну, вячэрняе, мяккае. Ад сонца ягады здаваліся вунь якія спелыя, і Ульяне карцела прасунуць між лісця руку і адвіхнуць галінку. Рабін яна не любіла. Проста хацелася знайсці занятак для рук: адрываць па ягадцы і кідаць далёка, аж на сярэдзіну вуліцы.

У тым канцы вёскі, дзе была канцылярыя і адкуль яны прыйшлі, пылілі адна за адной леспрамгасаўскія машыны. Калі пыл падымаўся ўгару і поўз на гароды,— там, дзе паварочвала на грэблю вуліца, відаць быў шэры камень. Гэта ўжо аселіца. Але яе адгэтуль не ўгледзіш. А што яна там,— напаміналі і гусі, якія сёння далей каменя і не крануліся. Памаўзлівыя стварэнні... Калі за імі глядзець,— паадбіваеш ногі: пруцца ў шкоду. А вось няма пастуха, злягла Калістрыха,— не вышкурыш іх далей Скарбовай аселіцы, нібы без Калістрыхі яны не маглі ісці на поле, нібы з ёй ім смялей. Шваргочуць на ўсю вуліцу, мацней за праўленцаў, што прыселі на лаўку.

Пра што гаманілі на лаўцы, Ульяна не слухала, Дажджы... сена... балота... працэнты... Наддаткі...— пра што ж яшчэ будуць гаварыць.

Бразнула на ўвесь двор клямка. Заскрэбла аб камень дошка, што выехала з варотцаў: яна ўпіралася ў зямлю і не давала ім адчыняцца.

Гэта вярнуўся на вуліцу Кастусь.

Ён быў зайшоў у хату адзін, ужо другі раз сёння. Хацеў, мусіць, спытацца, што думае кабеціна, чаму ёй гавораць-гавораць, а яна хоць бы што. Праўленне ж яе кліча. Канцылярыя не так далёка, а на нагу ўжо ступаць можна. У яго было і другое — хацеў паглядзець, ці дома цяпер тая, бо ведаў, што Калістрыха прыкідваецца і, пачуўшы, што да яе прыйдзе ўсё праўленне,— збяжыць.

— У хаце яна. Хворая, і ўсё. І слухаць не хоча. У слёзы яшчэ...— адрывіста загаварыў Кастусь.— І без яе нам хапае, а тут робіць баба невядома што... Пайдзём...— сказаў ён нарэшце, на нешта рашыўшыся.

На вуліцы застаўся толькі пыл, узняты людскімі нагамі, якія набыліся сёння і на полі, і ў балоце, і ў канцылярыі і, нарэшце, нашаргаліся ў жвіры ля Калістрышыных варот.

Ульяна, прапусціўшы ўсіх на двор, падняла на руках варотцы і стукнула імі аб шула, не ўзяўшы на клямку: «Доўга быць не прыйдзецца...»

У хаце стаялі, пасля селі. Самі. Не да таго было, каб чакаць, ці запросіць гаспадыня. Маўчалі, тады загаварыў Кастусь.

— Не хацела ты, Грышіна, прыйсці ў канцылярыю,— у цябе дакончым праўленне. А разбіраць будзем... Тут не Наддаткі, не схаваешся... Паглядзім і ў тваёй пуні. Ацэнім. На адну карову, відаць, хопіць. Лагі ўсе пападразала. Вось і выбрала на свае працадні... А стог у калгас пойдзе.

Калістрыха, здавалася, не слухала. Яна, падпёршы сябе локцем, ляжала на ложку. Калі Кастусь стаў гаварыць, ёй, відаць, цяжка было сцярпець, каб не агрызнуцца,— яна пачала падымацца, каб сесці. З ног у яе ссунулася клятчастая ватняя коўдра; паказалася голая ступня, туга перавязаная жоўтым бінтам, напухлая, пасінелая. Нарэшце Калістрыха села, пасля адкінула ад сябе коўдру і, споўзшы з ложка, стала на ногі. Твар яе пацямнеў, асунуўся, у свежых месцах, як здалося Ульяне, з'явіліся маршчыны. Але вочы, жоўтыя і пранізлівыя, суха blішчалі, як і тады на балоце. Невялічкая тоненькая каса расплялася. На канцы яе, трымаючыся мо якімі трыма зубамі, матляўся грэбень, занадта вялікі для яе малой галавы.

Гаварыў ужо не адзін Кастусь, гаварылі і другія.

Маўчалі ў хаце толькі двое — Калістрыха і Ульяна. Ульяна стаяла ля парога, прыхінуўшыся плячыма да ву-

шака. Яна не села ў хаце, дзе расла аж да дваццаці год, пакуль не пайшла замуж. І думала яна цяпер пра Калістру...

Грыпіна ж, пастаяўшы, пасунулася ад ложка. Не прыступала на ўсю балючую нагу, тупала, як падбітая гуска, цераз хату, сагнуўшыся і валюхаючыся. Здавалася, што ў яе хворая яшчэ і спіна.

Яна дайшла да дзвярэй, што былі ў другі пакой, і прычыніла іх. Мусіць, каб прыхаваць ад чужых вачэй пейкі новы набытак. Што там такое магло з'явіцца, Ульяне не было відаць з парога.

Пасля гэтак жа спакойна прывалюхалася ў парог, дзе сядзелі і гаманілі людзі — яна не слухала пра што,— і намацала клямку. Дзверы, здалося, адскочылі самі.

— Вон, сучка паршывая!..— захрыпела яна.— Каб мае вочы цябе не бачылі, заразіну такую! У Наддаткі прыцягнула начальства... сюды панаводзіла... і дома ўжо месца няма... З'есці мяне хочаш... Каб я была мужчына... Вон! Вон! — Яна дрыжала, здавалася, хацела падскочыць да яе, Ульяны, але гэта ёй не давала зрабіць балючая нага. У хаце стала зусім ціха. Пасля зноў пачуўся яе голас, сухі і калючы: — Можаш ісці, можаш браць... Я ўсё адно выжыву... Буду жыць... Бяры, давіся ўсімі Наддаткамі, хоць горла балотам набівай, слова не скажу... Каб быў Калістра...

Ульяна не раз чула такое ад Грыпіны, але цяпер тая чарніць пры людзях. Ды яшчэ па Калістру шкадуе...

Яна падняла руку, бы ўсё роўна адгарадзілася ад Грыпіны. Тая як хацела яшчэ нешта сказаць, так і сціхла, разявіўшыся. Недзе не чакала, што Ульяна застанецца яшчэ ў хаце і стане гаварыць.

А яна гаварыла:

— Слухай, Кастусь... І вы ўсе слухайце. Тады, летась вясной, я не так зрабіла... Можа, нават і ўсіх вас падвяла. Тады ў Калістрыхі паперка была пра хваробу не такая, як трэба... ёй дасталі. Я гэта ведала і не сказала... Віноўце. Але, як праўленец, я кажу, каб адняць у яе гусей... Хай сходзіць з усімі па нараду... Не будзе тады часу брындацца з касой...

Яна ціха пайшла з хаты. Паволі зачыніла за сабой дзверы, але бачылі ўсе, што яна чуць стаіць на нагах...

«Глянь,— падумала яна яшчэ на двары,— вераб'і зноў вярнуліся да яе на рабіну...»

Было халаднавата пасля гарачага і натруджанага дня.

Уздыхнулася неяк лягчэй... Калі б яна не сказала ў хаце ўсяго, то цяпер бы плакала...

Пазней ад Калістрыхі выйшлі праўленцы. Ішлі памалу, спавагі, Кастусь курыў.

А пад рукой у Калістрыхі ляпалі варотцы, стукала дашчаная накрыўка на студні. У два канцы вёскі нёсся хрыплы голас, бы хто ля студні выскрабаў старое, іржавае вядро:

— І пайду... І скажу... Не буду маўчаць... І на праўленне, і на сходку. У раён дайду... З работы скінулі, кармы забралі... Будзе бандзітцы... Дастанецца...

Яна доўга яшчэ крычала.

## 4

І не хочаш, а думаеш усё і думаеш,— без ніякага складу...

Можа, таму, што ўсё свежа ў памяці... Як раса на бярозавым лісці, калі толькі нарадзілася раніца.

Раніцай, калі сонца яшчэ схаваўшыся і выдае сябе яно маленькім барвовым воблачкам на ўсходзе,— кранецца туман пасля начной спячкі, закруціцца ў валокны, бы яго хто ўзмуціў, падымецца над невысокім бярэзнікам — у рост чалавека — і папаўзе. Кажуць, ён збірае пахі з усяго лесу і нясе тады праз Наддаткі да вёскі на лагі і на гумны.

Здаецца, дымяць Наддаткі — нібыта яны высахлі ў такое лета і гараць каторы ўжо дзень, тлеюць пад прыскам...

Ціха на балотах; маўчыць і Ямскае поле — яно блізка адсюль, цераз пасеку.

Пасека пачынаецца з кутка, дзе зелянее між рэдкіх бяроз стог. Мусіць, гэтым месцам вышэй, і вада адгэтуль сцякае заўсёды пад вёску да рэчкі. Высокі белы мох, падняўшы на сабе журавіннік, глушыць тут усё на свеце. Яшчэ далей — зусім суха; можна трапіць на пні — гэта ідзе граніца між балотам і пасекай. Пні даўнія, высокія, але лёгка пазнаць, што яны з-пад пілы. Мусіць, тут некалі была вада, і людзі, валячы лес з пня, не згіналі спіны і не станавіліся ў мокры мох на калені...

Гэтым зашыйкам заўсёды пускаліся са скацінай вясной ці ўжо на скошаныя лагі ямскія пастухі.

Ульяна думае пра Калістрыху...

Хай нават яна застаецца на ферме, хай глядзіць гу-

сей... Ды і бог з ім, са стажком... Але душа яе не можа даравань крыўды.

Каб жыў Калістра...

Калістра быў з розумам мужчына...

Такі ён быў і ў сям'і,— старэйшы сын у бацькі, такім слыў і на рабоце. Трымала язык і рукам волі не давала пры ім Калістрыха...

Сёння ён усю раніцу перад вачыма і сніла нават яго... Яны разам у Наддатках... Ідуць кладкамі, выходзяць на пасеку ласінай сцежкай... Наддаткі скасілі калгасам і цяпер дзеляць на працадні,— копамі. Нумарок з паперкі ўшчэмяць у пруток, уткнуць у капу, а ты, выцягнуўшы такі ж нумар ў брыгадзіра з шапкі, бегай, шукай сваю капу.

Калістра — брыгадзір. У белай кашулі — спацеў, расшпіліўся...

У Наддатках крык... Гэта Калістрыха падмяніла нумаркі, і яе злавілі...

І гэта трэба было перажыць Ульяне... Вёска хоць і даруе што, затое як пойдуць перасуды... Лягчэй хваробу перанесці...

Ульяна ідзе з логу, што цягнецца пад самы лес,— туды падаліся сёння пастухі са скацінай на ўвесь дзень. Ідзе і думае пра Наддаткі, дзе ўчора яна была з пастухамі вечарам. Абгарадзілі Калістрышын стог у тры жэрдкі, бо ганяюцца тут са скацінай кожны дзень...

Сцежка падымаецца ад саснячку на гарушку, дзе па канюшынішчы паварочвае да калгасных пунь. Пуні ля лесу — сюды звозяць снапы, салому з-пад камбайна, а то і познюю ярыну ўвосень.

Цяпер тут толькі сцежка, бо калёсы не хадзілі ад леташняга, хоць добра відаць выбоіны — уеліся ў цвёрдую зямлю. Пуні пустыя, парасчыняныя: яшчэ вясной забралі з іх апошнія пласты саломы скаціне на подсціл. Як ідзеш,— яны ловяць крокі і перадражніваюць іх глухімі адгалоскамі.

Калі Ульяна мінала пуні, дыхнуў вецер. Пацягнуў з-пад Наддатак — запахла нечым рэзкім, гаркавым. Такога яшчэ ніколі не было чуваць на загуменні — ні адной раніцай...

Нешта гарэла, як усё роўна торф...

Забарабанілі раптам калёсы ля кузні ў другім канцы вёскі. Пасля там узняўся вэрхал. Нехта верхам на кані памчаўся ў лес Якубёнкавай сценкай. Здалёку цяжка бы-

ло пазнаць — хто. Тады кучка мужчын з подбегам пусцілася ўслед за ім і схавалася ля логу ў пшаніцы...

Ульяна заспяшалася.

Ён стаяў на двары, апёршыся на плот. Змарыўся, выпацкаўся ў сажу, спацеў... Быў спакойны, можа, таму, што ўжо ўсё прайшло, засталося мо толькі ў памяці.

Недалёка, пад хатай, пад страхой, дзе быў халадок,— ад стрэх падаў цень,— стаяў конь. Повад ад аброці накінулі на калкі, якраз у тым месцы, дзе яны паверх жэрдкі былі пераплецены свежай бярозавай віткай.

Конь пераменьваўся з нагі на нагу,— паварочваючы ў бакі галаву: ці не закрычаць яшчэ, ці не прыйдзецца зноў несці седака на балота...

— Згарэў увесь, аж да калка сатлеў. Добра не злежылася асака, стаяла ворахам. Мусіць, звечара яшчэ падпалілі. Дыму дык поўныя Наддаткі...

Ульяна, седзячы, слухала ўсё, што гаварыў Кастусь, і думала: гэта зрабіла Калістрыха.

Ульяне карціць спытаць, хто ўгледзеў агонь, але цяжка павярнуць язык...

«Што будзе, што цяпер будзе з Калістрыхай?..»

Пра гэта не хочацца пытацца ў Кастуся...

Яна пачула, як закалола пад павекамі,— бы на двор прыпоўз дым з Наддаткаў і лез ў вочы... Задрыжалі неяк самі плечы...

Пасля яна супакоілася і прыціхла. Можа, ад таго, што зафорскаў і тупаў блізка конь,— яна сядзела на калодцы ля сцяны пад страхой.

Пасля яна ўстала лёгка, не апіраючыся на калодку. Ці не ад слёз палягчэла? Убачыла, што Кастусь узяў яе пад руку. Ён і памог устаць, а ёй здалося, што гэта Калістра асцярожна крануў за плячо...

— Не трэба... Супакойся... І пайдзем да канцылярыі...— пачула яна. Тады паглядзела на вуліцу: там гамanілі людзі.

*1958*

# Браканьер

З вады сухому не выйсці.
Народная прымаўка

Снег не злёгся, а нібы павіс на старой няскошанай на Крайскім баку мятліцы і сінюсе, бо ўсю ноч, пачаўшы ўчора з полудня, валіў з неба мокрымі вохлапкамі; яны аж шамацелі, падаючы.

Стары збуялы алешнік стаяў спрэс белы. Вечарам ён выдае здалёку неабмераным полем; зблізу — высокім узгоркам, які бярэ пачатак ля моста ад самых Выселцаў і падымаецца недзе туды, пад Вір.

А сцямнее — здаецца неба ў тым баку зацягнута скамечанай прасцінай...

Так заўсёды выдавала Піню, калі ён пускаўся з коньмі да рэчкі. Гнаў іх на вадапой, каб пасля звярнуць на канюшню і, не закладаючы за кожным праварыны, заперці дзверы. Хто гэта ноччу пойдзе правяраць? Хаця яно варта было б і прыперці кожнага, бо старшыня апошні час спанатрыў брындацца па гаспадарцы не толькі днём. Вось навала! Сядні няма.

Не было часу ў Піні, каб дагледзець вараных вечарамі, рабілася ўсё збольшага, і старшыня быў ужо двойчы прыдраўся: першы раз калі з вартаўнікам прыходзіў, другі — калі правяраў гэтага самага вартаўніка. Ліха з ім. Дзеці ж у яго не плачуць, можа, і раней прыцягнуцца на пост; спакайней тады і за коней будзе.

Утоптваецца пульхны снег, прасуецца, прыбіваецца да зямлі, і падковы цокаюць, звіняць аб каменне. Гэта тут, ля сасняку, дзе жвір і камяніца. Тут спрадвечны прагон, буй. Нішто тут не бярэцца расці.

Звіняць падковамі коні, будзяць вечар, агаломшваюць маладую зіму. Фыркаюць, нюхаючы снег. Свежасць б'е ім у ноздры, яшчэ зусім непрывычная. І коней абуяла радасць, яны ўзбуджаныя і дураслівыя.

— Гэ-гэй!.. Буланы... Скура сырамятная...

Буланы — самы маладзейшы, перагодак. Але гарэзлівы, таму што пачаў расці адзін: маці няўдала ажарабілася. І вырас упарты. Пад сасняк, чамусь, мае нораў завярнуць. І гэтага сысуна, глядзі во, нават Бар'ян любіць і слухае. А за імі дваіма — табун ніякім сабакам не завернеш да рэчкі.

А тут якраз сабакі няма. Прапаў з учарашняга, не прыйшоў нанач. Другія суткі вось ужо мінула, а той ні гаўкне. Не дай бог, які ваўкарэзіна заткнуў ім сабе горла. До-о-брае псё было... Ні з якога сляда не збівалася...

— Гэ-гэй!.. Буланая скура!..— шнырáць у вячэрняй смузе зыркія вочы і круціцца з боку на бок насцярожаная галава.

Гэта зноў Буланы звярнуў на Крайскі бок. Там жа віры, усё адно іх не напоіш. Стромкія берагі. Але хай пагарцуюць. А тады трэба падвярнуць да броду.

Тыдзень ужо, як лягла санная дарога. Тыдзень ужо, як Піня не мог упарадкаваць як след коней, а калясіў па паляўнічай сцежцы Крайскім бокам.

Тады, калі ён угледзеў след, яму здалося, што тут гарцаваў Буланы. Але такая думка толькі мільганулася і дала месца другой: бык сноўдаўся. І толькі тады, калі Піня прайшоў за канавы і на каленьках абмацаў след, яму цюкнула: рагаты кабан, лось...

З гэтага і пачаўся пакутлівы і потны для Піні тыдзень. Чыкіляў ён у лёгкіх кірзавых ботах па балоце, насіўся за Вірам па пушчы, а начамі варочаўся ад бяссонніцы.

І ні разу Піня не ўгледзеў той карычневай спіны, якая цяпер не дае спакою. Толькі бачыў сляды.

І вось пазаўчора вечарам адбылося ўсё нечакана-негадана. Лось прыйшоў да крыніцы, пад Выселцы. Прыйшоў вечарам, у вадапойны Піняў час. Прыйшоў і піў, не зважаючы на рысакоў. Маладзы, шыракагруды, з разгатымі рагамі.

Можна было падумаць, што не Піня знайшоў лася, а лось Піню. Прыйшоў, каб пасмяяцца з нягеглага паляўнічага.

Піня не адразу стрэліў. Спачатку ён, разгубіўшыся, пашкадаваў, што забыўся стрэльбы, хоць яна і вісела ў яго на плячы, як і ўвесь тыдзень...

Перад ім стаяў лось, ахутаны цемнатой, але не схаваны ад воч. Стаяў, прыпаўшы на пярэднія ногі. Смактаў ваду, доўга і прагна, нібы суткі пажыўшы на салёным сіласе, толькі краталіся рогі: уніз-уверх, уніз-уверх. Быццам іх паклалі на вагі і ўзважвалі.

Прыклад тарканўў Піню ў плячо, зазвінела ўвушшу. Стрэлу ён не пачуў. Толькі нешта скрабанула заціхлую на зіму пушчу і гэйкнула глухім рэхам далёка ззаду, недзе за Выселцамі.

Рогі падскочылі і аселі, нібы схаваліся ў крыніцы. Паказаліся зноў і зніклі. Пасля вытыркнуліся яшчэ. Лось як прыпаў на пярэднія ногі, так ужо больш і не мог узняцца. Затупаў заднімі нагамі і стаў выцягваць перад з канавы, нібы машына, якая, не зведаўшы пераезду, усунулася ў роў і цяпер карабкалася назад. Яму ўдалося выцягнуцца наверх, і ён, перабіраючы заднімі нагамі, так і валокся задам у заснежаны алешнік. Невядома, магла б яшчэ жывёла застацца жывою ці не, але яна ратавалася, і Піню прыйшлося мецiць у рухомы цёмны сілуэт яшчэ раз...

Коні падыбалі да рэчкі, вось ужо і назад яны трамбуюць снег, а Піня думае пра адно. Хутчэй бы праляцеў час, вось каб заўтра ўжо вясна пачалася, да вясны напэўна пра ўсё ўжо забудзецца. Але ж і цяпер ніхто пра гэта не ведае. Ён адзін, праўда, з сабакам, лупіў скуру, а пасля адзін прывалок у карах мяса і пасек яго ў дзяжу з-пад капусты, якую ўжо нельга было засмаліць увосень для шаткоўкі.

Ніхто не бачыў нават, як ён адганяў на ферму кары. На благі канец, толькі адзін вартаўнік. Дык калі што якое, таму можна будзе адшкадаваць паляндвічку, не стане плявузгаць па вёсцы. А калі суседзі пачуюць пах з коміна, дык можна будзе сёння сёлетняга кабанчыка прыцiснуць. Карысці з тае здыхляціны не будзе, затое квіку наробіць на ўсю вёску. Вось і заткнуць тады рот людзі. А не — дык жа ён і паляўнічы: можа ж ён прыносіць і смажыць зайчаціну?

Але ўсё адно ныла душа, бы дзесь унутры адарвалася селязёнка. Ды хто ведае, можа, і пэнкнула яна, калі кары былі зачапіліся ў крыніцы за вывараць і прыйшлося іх падымаць на руках?.. Было сумна і страшна. Кашуля ад плячэй рабілася халоднай.

— Яно ўсё гэта, сум гэты, ад таго, што знік сабака. Але знойдзецца воўча лыка...— цешыў сябе Піня ўжо на канюшні, скубучы аброслы падбародзіч.

Вартаўнік яшчэ не прыйшоў, і Піня, за ўсе тыя разы, агледзеў праварыны, пазакладаў у зазубні калкі і, акуратна прычыніўшы дзверы, падыбаў дахаты.

Выселцы ў рэдкім мроку, які наступае вечарам з першымі снягамі, цьмяна паблісквалі аконнем. Недзе выў сабака аж у канцы вёскі. Але гэта быў не Піняў, ён пазнаў.

* * *

Вецер узняўся пад дзень. Выў, свістаў у кастрыцы ў падваконніку, бразгаў крукам ля студні, брынчаў драніцаю ў сенцах. Вокны неахвотна пускалі раніцу ў хату на покут: замерзлі. Нават верхнія шыбіны не хацелі адтайваць ад хатняй цеплыні.

Вецер завярнуў з поўначы; браліся калядныя маразы. Закруціла сухая і калючая мяцеліца. Набівала сыпкага снегу пад стрэхі, пад дзверы, церушыла ў дзіравыя шыбы без падвойных акон.

Піню прабудзіла, мусіць, зара, якая пунсовым рогам пасцілкі зацягнула акно.

Ён прыпаў да шыбіны. Пахукаў. За акном віхрыла снегам. Неба было ў хмарах. Толькі за фермай яны прасвечваліся барвай; там у марозе ўзнімалася сонца.

Трэба было ісці да коней.

Сабака не скокнуў Піню на грудзі, калі ён пераступіў парог сенцаў і спыніўся на ганку.

«Згінула недзе ў пушчы воўча мяса».

Двор замяло. Гурба была высокая, але жоўтая ад пяску, які дзерла разам са снегам.

Піня ўжо хацеў звярнуць на загуменне, як нейкія галасы насцярожылі яго і адштурхнулі да вушака. Ён і сам не ведаў, што яго цягнула хавацца з воч.

Галасы раслі, радзелі і зноў гусцелі. Іх растрасаў вецер. Яны сцябалі Піню лазовым голлем па твары, білі аброццю з жалезнымі здаровымі цуглямі па галаве, штурхалі ў грудзі прыкладам дубальтоўкі... Мутнела ў галаве.

— Піня ляся забіў!.. Піня ляся забіў!..

Не, гэта не мяцеліца, а віхор слоў нёсся вуліцай.

Піня яшчэ шчыльней прырос да вушака, але вуліца была ўся перад ім, і вецер нёс насустрач яму не толькі словы, але і гурбу дзетвары.

Размахваючы партфелямі і дубцамі, яна мчала ад моста ўздоўж вуліцы — вярнулася са школы — і крычала на чым свет стаіць:

— Піня ляся забіў!..

Нарэшце ён убачыў і нешта неверагоднае.

Спераду ў дзяцей нёсся, здавалася, аж прыпадаючы да зямлі, ягоны сабака і валок доўгую бурую скуру лася, якую Піня тады, мокрую ад крыві і снегу, цяжкую, ледзь узвалок на не такую ўжо і нізкую елку.

Параўняўшыся са сваім дваром, сабака хацеў знай-

сці паратунак у гаспадара, але дзеці насядалі на яго і ён, ведаючы, што з цяжкай скурай кепска будзе знянацку шмыгнуць на двор, прамчаўся вуліцай недзе ў той канец Выселцаў.

А за ім стагнала вуліца:

— Піня ўгробіў лася!.. Піня ўгробіў лася!

Пра што думаў цяпер прыгорблены, невысокі чалавек ля вушака?

Відаць, пра тое, што сабака не заўсёды прыяцель чалавеку.

*1959*

## Партфель з жоўтай скуры

Гэта ж вунь як чыста трэба вымыць і вышараваць вёдры, каб, божа барані, ні адной жоўтай плямкі не трапілася яму на вока. І цадзілкі палатняныя трэба ў цёплай вадзе патрымаць, а то і выварыць. З-пад жалязка яны будуць, як новыя.

Добра, што ўчора гной такі ўдалося вывезці на загуменне. А то праходу не было. І ўсё ён, Паплёўка. Прыйшоў той першы раз пазаўчора раннем. З канцылярыі проста праз агароды. З партфелем. Дастаў руку з кішэні сівой паддзёўкі, падышоў і пастукаў па плячы:

— Парадак, жанчынкі, цяпер будзе заўсёды. Я чысціню і сам люблю. І возьмемся мы за яе адразу, аўтарытэтна заяўляю. І патрабую. Самі ж змусілі мяне даць згоду. Што, хіба мне ў канторы холадна было? Як маеш думаць на гэты конт ты, Сарафіна?

— Мусіць, холадна, бо па вёсцы даўно гасла плыло, што ты з рахункавода знімацца будзеш. І яшчэ... Змусілі цябе, кажаш. Не ў самога ж сэрца рвалася сюды...

— Сам, жанчынкі, пайшоў сам. На раённым актыве са словам выступіў на тым тыдні. Калі ж хварэеш, гледзячы на няўпраўку з жывёлай.

Загадчык Паплёўка гаварыў толькі з адной даяркай, Сарафінай, але звяртаўся да яе няйнакш, як словам «жанчынкі». Мо таму, што за перагародкай шумелі сенам пярэзімкі і там беспярэдыху гаманілі даглядчыцы і маглі яго ўчуць.

— Дык цяпер у нас будзе не так, як за Ігнасём? Во дзе завала быў, бо-о-о... Колькі я ні гаварыла... Ну і адлежаўся ж ён на ферме. І, нябось, пакруглеў. З падбародавічам нас пакінуў. Не тоўпіўся ўжо карак у тую цяганку-зашмальцоўку. Што ж, ключыкі ў кішэні заўсёды насіў. Бярог. Было за што. А ты як? Ключы пры сабе будзеш мець ці мо ў канцылярыю напач адносіць станеш? Хаця табе можна і пры сабе... Ты ж у той канторы чынам быў...

— Так ужо і ўхапілася за ключы. Падмяці во лепш свіронак. А то вунь патруха, дзе Ігнась спаў, загнілася. Мышэй развялі на жывёльнай ферме...

— Так ужо і мышэй. Гэта ж сена яшчэ тое ляжыць, калі ты прыводзіў начаваць сюды віцінара летам. Памяць хіба адняло, што не помніш і гаворыш абы-што?..

Ён нібы не слухаў — не падаў выгляду, што апошнія словы зачапілі яго за жывое. Махнуўшы партфелем, ён шырнуў ля прысценка недзе туды, за перагародку да пярэзімкаў.

Сарафіна завіхалася ля парога ў свіронку, дзе паблісквалі бітоны. Венік-дзяркач хадзіў ходырам у яе руках.

Быў адвячорак, мяккі і лагодны, якія не часта выдаюцца ў студзені. Сонца не відно, але па той смузе, што неяк гусцее на загуменні, але яшчэ не сцінаецца, угадваеш, што яно яшчэ не зайшло. А смуга ад таго, што на вачах спадае мароз, мякчэе, і ў цішы вечара адчуваеш, што ноччу з-за рэчкі патыхне адлігай.

Прайшоў тыдзень. Якраз у такую надвячэрнюю пару, калі каровам ужо закінута напач і даяркі збіраюцца ля кладоўкі, каб рассыпацца загуменнем да хат, на ферму пад'ехаў старшыня, адзін, у вазку.

— Во. З Паплёўкам вы зажылі. Відно. Добры вечар!

— Ды ўжо ж. І вечар такі ж добры, як і Паплёўка. Як вылітыя абое. Адзін на мароз бярэцца, другі холадунам паддаць пнецца...

Узняўся вэрхал.

— Відаць, вы замочвалі яго ў халоднай вадзе, калі ён такі халодны. Трэба было ў парніку, ля цёплых катлоў яго новую пасаду абрасіць... Нічога. Працаваць ён будзе. Сам узяўся. Яшчэ да праўлення прагудзеў вушы, калі ўчуў, што Ігнася выкураць. Улік павядзе. У кармах разбіраецца. Рацыёны складаць можа. Чым не загадчык? Што галавой махаеш, Сарафіна?

— Не я махаю, а Паплёўка; і не галавой, а партфелем. Вось такім, жоўтым,— узяла яна жменю саломы і зашамацела ёю аб крыліну кажуха, растрасаючы.

Жанчыны ад смеху браліся за бакі.

— Партфель у яго ёмкі, благога не скажаш...

— Дык гэта ў яго той яшчэ, з якім ён ехаў з намі на нараду? Вунь, калі ўгразлі, і ён зачэрпнуў ім вады? Лянку тады завёў быў на ўсю дарогу. Паперы адказныя замачыў. Ну і мітусіўся ж...

— Нешта ты, Сарафіна, не вельмі прыяеш яму?

— А мне што? Вам відней. Вы ж і ў канцылярыі разам паперы пісалі, вы і нам яго ўсваталі. У мяне не спыталі. Ды і вам з ім працаваць, а не нам, бабам. Мы з партфелямі не ходзім. Мы з вёдрамі каля цялух і пры Ігнасю і пры Паплёўку...

— Але дарэмна ты на яго. Твае ж памочніцы во маўчаць. Другое думаюць недзе.

— А за нас Сарафіна... З работай мы ўправіліся, а цяпер во печы трэба выпаліць, бо вам, мужыкам, не будзе дзе жываты пагрэць. А мароз нанач пацісне...— гэта гаварыла Тэкля. Яна жыла на другім канцы вёскі.

— Не збядняйся задужа. Па языку відно, што мужыка твайго ёсць яшчэ каму сагрэць і без печы... Але ж язычкі ў вас свайго ж гаспадара, як тую вяроўку, уюць і павіваюць... Ну, не буду бавіць вас... Паліце ў печах. А ты, Сарафіна, куляйся да мяне, падвязу. У ваш канец еду. А так чаго табе цягнуцца агародамі...

Селі. Скіравалі на гумны.

— Я гэта вось што хацеў. Ты, Сарафіна, не пагадзілася ўзяць на сябе ферму, я ізноў скажу — шкада. Не падумала. Вопыту ў цябе колькі. Ніхто гэтулькі не выбыў на ферме. Але што ж, мы нікога не змушаем...

— Божачкі... Ды малаграматная я. А цяпер балансы тыя. Падбіць усё трэба, зрахаваць...

— Ну пакінем іх, балансы тыя. Ёсць цяпер іх каму рахаваць. Паплёўка зможа.

— Ды ў яго галава ёсць на карку...

— Я вось пра што... Мы яго не вельмі і трымалі ў канторы. Маладога знайшлі. А ён, скажу табе, на руку хворы. Пры ранейшых злаўчыўся. Мы трохі яго прысцічылі, але дзе ты за ўсім угледзіш. Не будзеш жа кожную паперку за ім перагортваць...

— Што вы, што вы...— Сарафіна аж павярнулася і нейкі момант глядзела старшыні ў вочы.— Я нічога не

ведаю, я ніколі гэтага не гаварыла. Вам там відней, вы ж у канторы разам паперы падпісвалі...

— Ну хіба можна так? Ты і мяне вінаватым робіш. Выходзіць, што і я грэў рукі з Паплёўкам?..

— Няўжо я гэта сказала? Я больш вам нічога не скажу.

— Не думаў я цябе пакрыўдзіць, ды і не лёгка гэта... Я проста пра чалавека параіцца... Ты скажаш, ведалі і паставілі. Значыць, зноў паперкі ў абедзве рукі падпісваць будзеце? Не-е... А каго ж было на ферму ўзяць?

— Ды яно так...

— А гэты будзе рабіць. І можа. Хоча нават. А тое, пра што я гаварыў, дык заўважай. Адвучым. За такім глядзець трэба...— гаварыў ён ціха, але голас выдаваў рашучасць і ўпартасць.

— Нічога я не ведаю і нічога не буду рабіць. У мяне цялушкі, і ўсё. Я іх дагледжу. А каб яшчэ за самім загадчыкам... Мо і паіць і карміць яго, як жывёлу, загадаеце, калі наглядаць гаворыце...— Яна ўзлавалася адразу. Тузанула за лейцы: — Тпру!..— і саскочыла, хутчэй выкінулася з вазка.

Звярнула адразу з дарогі і паўз гумны падалася на агароды. З подбегам. Па цаліне.

Партфель ляжаў у свіронку. Справа ля дзвярэй. Там дзе ўвязла ў зямлю сячкарня, недалёка ад бітонаў. Ён хутчэй стаяў, бы ладная скрынка з фанеры, прыхаваная пад скуранай накрыўкай, разбухаў. Здаецца, на вачах яго распірала.

Быў не зусім жоўты, бы той куль саломы, які прыхапіла ўжо з часам дзе-небудзь пад падстрэшкам дажджом і сырасцю, і ён прычарнеў. Гэта ён, відаць, вышмальцаваў свае бакі аб раскошна скроенае галіфэ Паплёўкі. Ён увесь быў падобны на гаспадара: такі ж прысадзісты, раздуты, цяжкі. Яго, здавалася, не лёгка скрануць з месца, як часам і самога Паплёўку. Гэтай жоўтай распухлай скуранай пасудзіне не хапала толькі фанабэрлівай галавы, каб, задраўшы яе, можна было закрычаць: «Я вам не партфель! Я сам Паплёўка!»

Падмятаючы, Сарафіна ўперлася ў яго. Скрабанула дзеркачом па баку, згарнуўшы доўгую салому. Прыгнуўшыся, яна ўгледзела паперу, якая тырчала з-пад скуранога века. Не чыстая. Відаць, газета. Зверху партфель

быў мокры, у пісягах ад малака. Ці не яна гэта, палошчучы вёдры, не дагледзела? Хаця ж ён быў зверху прыкіданы. Ліха з ім. Ніхто ж не бачыў, што гэта яна, чэрпаючы вядром ваду з цэбра, пырскала на гэты жоўты кубелец.

Хутчэй пайсці адгэтуль. А то як уваліцца Паплёўка... Каму гэта хочацца лішняй звягі...

Выкруціўшы цадзілкі і развесіўшы іх на шасток над бітонамі, Сарафіна стала збірацца дадому. Выйшаўшы за парог кладоўкі, яна саламяным вехцем выцерла запырсканую малаком спадніцу і рукавы фуфайкі і накіравалася да замка, што, разявіўшыся, ляжаў на сячкарні.

«Гм... І што такое ў ім... гэтым разбухлым атопку?»

Яе абуяла цікавасць, якая змусіла пагнуцца і пацягнуць за ражок паперыны. Газеціна, луснуўшы, адарвалася тут жа; партфель нават не павярнуўся.

І чаму ён пакінуў яго? Ага... Самога ж нечага ў раён паклікалі, учора звечара. Старшыня за ім сам заехаў. Паплёўка ў раёне ды без партфеля? Гм...»

Яна доўга і не думала. Прысела. Рассунула абапал яго салому. Расшпіліла спрожкі. Партфель разявіўся; зашамацела газета, і на салому вылузнуліся два жоўценькія сухарыкі камбікармоў, што ляжалі ў кладоўцы за перагародкай пад Паплёўкавым бліскучым замочкам. Такім, якія вісеў раней на шафе ў канцылярыі.

Перад яе вачыма адразу ўзнік старшыня. «Заўважай... Адвучым...— гаварыў ён.— А што... А тады адбрыквалася, га?» — смяяліся яго вочы.

— Дык вось якія балансы насіў Паплёўка ўсю зіму...

Яна акуратна ўзяла партфель на спрожкі, прыкрыла саломай, схадзіла на парнік, там, яна памятала, ляжала на акне жалезнае конскае пута, і на два замкі прышчаміла дзверы ў кладоўку.

«Старшыня вечарам будзе. А датуль ніхто сюды не чыкільне і кроку...»

Расквашаны адлігаю снег распаўзаўся пад нагамі. Загуменне было ў тумане. Выдавала, тлее нешта сырое, аж шыпіць там, на ўзлессі, і адтуль паўзе мокры дым. Пахла перагарам. Гэта позняя гаспадыні, відаць, заграбалі жар у пячуркі, каб засланіць печ.

Сарафіна звярнула ў вуліцу.

На Ігнатавым дзядзінцы стаяў трактар, зачапіўшы доўгія цяжкія кары.

Гаманілі жанчыны. На некага насядалі. Відаць, на Ігната.

«Гной будуць вывозіць. Многа зробяць на трактары за дзень».

Капала са стрэх. Далёкая вясна прасілася ў вёску.

*1959*

# Прахадная пешка

— Бяру каралеву!

— А гэтага не хочаш? Шах!

— Ракіровачка-а!..

— ?!

Ігралі яны ў канцылярыі — у Маньчынай хаце. Вялікая, на дзве палавіны, новая Маньчына хата служыла за канцылярыю другі ўжо год. Манька нядаўна ажаніла сына і засталася адна. Быў бы муж,— дажывалі б разам да старасці, але ж таго, як правяла ў сорак першым на вайну за грэблю, дык і пахавала. Пастарэла пасля вайны Манька, не захацела працаваць у калгасе і паехала да сына ў горад. Кажуць, там яе і на добрую работу сын уладзіў. Але хаты Манька не манілася прадаваць, хоць купцы здараліся і грошы давалі не благія. Жыць у горадзе Манька любіла, але ўвёў ёй нехта ў вушы, што, калі зноў будзе вайна, то на горад кінуць «бомбу з атамa», а ў вёсцы можна і жыць застацца,— і вось хаты не прадавала. А мо і не ўвёў ёй у вушы ніхто такога, можа, яна помніла яшчэ, як у нядаўнюю вайну з горада сыпалі ў вёску людзі?..

Так і стаяла Маньчына хата без жыльцоў — вокны забіты, дзверы на замку. Стаяла, як на паяўку якую, і першы не абышоў яе Картуль, калі стаў бухгалтарам. Так у Сіняле пачалі «арандаваць» Маньчыну хату ні за што якое. Гаварылі, што ў Картуля з Манькай ёсць угавор: кожны месяц пераводзіць ёй грошы. Казалі,— нібыта ён і хату глядзіць — тут жа і вокны, і лавы, і пасудак у бакоўцы. А калі вечарынку згуляюць, то дзяўчаты заўтра ж памыюць падлогу і выпаляць грубку,— Картуль дагледзіць. Праўда гэта ці не пра ўгавор — ніхто добра не

ведаў: Манька далёка, калі што якое — Картуль гаспадар,— і ў канцылярыі кожны быў, як у сябе дома.

...Каралеву ўзяў Картуль. Цяпер і дурны скажа, што выйгрыш на яго баку, а Бадзюля не залюбіў — адразу спацеў. Добра, што людзі разышліся з канцылярыі. Хаця цяпер, калі няма вечарынкі, у Маньчыну хату рэдка хто нос паказвае, кожны знаходзіць занятак там, дома. Зіма ж, нядаўна спраўлялі Новы год. Сена ў пунях, салома ў сціртах: справаздача пабыла ў раёне, зацверджана, чакае сходкі,— пакуль прыедзе Чарнавец. На працадні, што памецілі,— выдалі. Гной вазіць яшчэ не скора возьмуцца, хоць і насядаюць з сельгасаддзела: давай зводку,— дадзім, напішам... Торфу каля блізку няма,— і добра. Паставіў у графе прочырк і шлі. Гэта адзін прочырк, за які Бадзюлю галаву мыліць не будуць, адгаворыцца: ён не вінаваты, што ля вёскі сухое поле — стэп. Радавацца трэба, што балота няма. А калі Бадзюля рад,— ён, прыйшоўшы ў кантору, з-за парога адразу падыходзіць да Картулёвага стала і падае руку:

— Расстаў. Я цябе, брат, паганяю, як лісу па пасецы...

Бадзюля любіў палянаць, пакуль яго не паставілі старшынёй у калгасе. Але ж хадзіць на паляванне, усё роўна што рыбу вудзіць, і Бадзюля, калі не трэба было куды адлучацца па старшынству, цяпер проста нічым не займаўся: што скажуць людзі? Толькі ж не сядзець рукі склаўшы.

Шахматы ў Сіняло прывёз упаўнаважаны райвыканкома Чарнавец. Прыехаў ён у калгас праз два гады пасля вайны. Калгас ледзь ліпеў: у вайну Сіняло спалілі немцы. Здавалася, Чарнаўца замацавалі за Сінялом навек: з вёскі ён не вылазіў.

Чарнавец быў сярэдняга росту, шыракаплечы, тоўсты, з лысінай. Валасы зачэсваў спачатку ўверх, па даўняй звычцы, калі, мусіць, насіў польку, пасля стаў набок і ззаду наперад — хаваў лысіну: у вёсцы было шмат удоў. Апранаў ён заўсёды чорную суконную гімнасцёрку — навыпуск і пад дзягу,— з вялікімі кішэнямі на грудзях і з калодачкамі ад двух медалёў.

Раніцай Чарнавец разам са старшынёй «ганяў баб» на работу, бегаў па полі, крычаў, што навядзе парадак, пасля знікаў недзе да самага вечара, аж пакуль не вярталіся з поля жанчыны, тады ён «штрафаваў» іх на ўсю вуліцу, што рана разбегліся,— здымаў працадні, на якія тады і так амаль нічога не давалі.

Калі днём пусцела вёска, Чарнавец са старшынёй замыкаліся ў канцылярыі, пацелі над планам і пасля пілі самагонку, якая была ў старшыні ў запасе кожны дзень.

Але сталі наракаць людзі: такое не схаваеш — магло дакаціцца да раёна.

— Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць...— Чарнавец задумаўся.

І тады ў канцылярыі паявіліся шахматы. Вялікая новая фанерная скрыначка ў чорныя шашачкі з вялікімі драўлянымі «фігуркамі і конікамі», як гаварыў Кардуль. Іграць у шахматы ў Сіняле тады ніхто не ўмеў.

Чарнавец пачаў вучыць спачатку старшыню. Нічога ў таго не выйшла. Здарылася неяк раз налучыць Чарнаўцу на Бадзюлю. Бадзюля тады быў учотчыкам у брыгадзе. За якія два дні Бадзюля налаўчыўся так, што ўжо «ганяў Чарнаўца, як лісу па пасецы».

Калі калгас заваліў зімою план лесавывазкі, старшыню знялі і на яго месца паставілі Бадзюлю.

Цяпер Чарнавец, калі прыязджаў у Сіняло, і не вылазіў ад Бадзюлі, а калі калгас налета не здаў дзяржаве «закуп», Бадзюлю ніхто не крануў і пальцам.

Казалі, што дома Бадзюля рэзаў Чарнаўца ў шахматы напавал, але ніхто ніколі не бачыў, каб ён абыграў яго ў канцылярыі. Калі хто хацеў «зрэзацца» з Чарнаўцом, Бадзюля даваў таму «мат хады за тры» і распінаўся:

— А Панцялеевіч,— так зваў ён Чарнаўца,— ганяе мяне, што лісу па пасецы. А ты да яго рвешся. Ты, брат, мяне спачатку пакладзі, а тады ўжо мецься, куды, можа, твой нос не дарос. Не, ты спачатку мяне пакладзі на лапаткі, як на чэмпіянаце, так сказаць, выйдзі ў паўфінал, а тады ў фінал, а пасля ўжо садзіся за адзін стол з Панцялеевічам...

Чарнавец тады падхопліваўся, вочы яго блішчалі, як іскры ў прыску, калі яго раздувае вецер, і крычаў:

— Факт! Толькі Бадзюлю вам не збасці! Факт!

Бадзюля стаў насіць такую ж чорную суконную гімнасцёрку: навыпуск і пад дзягу, гэтак жа ў яго былі набіты на грудзях шырокія кішэні паперамі і тырчаў тоўсты чырвоны незавостраны аловак. Здавалася, Бадзюля нават пачаў лысець толькі дзеля таго, каб зачэсваць валасы набок і ззаду наперад, як Чарнавец.

Калгас па зводках быў на самым апошнім месцы ў раёне, і Бадзюля дрыжаў, што могуць не зацвердзіць спра-

ваздачны даклад, пакуль не прышлюць камісію, але званіў учора Чарнавец... Ён, выходзіць, даў там бой. І не прызнаваўся, халера. Сядзіць недзе цяпер, усміхаецца, вочы свецяцца, размяклы, як памыўся ў лазні,— чуе сілу.

Пры Бадзюлю зажыў і Картуль, калгасны бухгалтар. Перакрыў хату, пачаў рубіць другую, пасадзіў пад рэчку сад з калгасных прышчэпаў, купіў чатыры калоды пчол у Даўгінаве на базары і пасеяў у садзе канюшыну.

Картуль жыў у Сіняле побач з Бадзюлем. Калі Бадзюля бегаў учотчыкам у брыгадзіра — брыгадзір без нагі, на міну ўзышоў у партызанах, і яму цяжка было дагледзець на полі за касцамі і жнеямі,— Картуль быў у калгасе ўсяго толькі за конюха.

Пры Бадзюлю ўжо ён рабіў і ўчотчыкам у таго ж брыгадзіра, і ключнікам, а цяпер макам сеў у канторы. У яго руках пячаць, накладныя, цэтлікі, па якіх, выпісаўшы, усё можна ўзяць і ў ключніка, і ў загадчыка фермы. Казалі, што ён налаўчыўся падводзіць любы подпіс: і самога Бадзюлі, і кладаўшчыка. На членаў праўлення ён гыркаў больш, як Бадзюля, і тыя маўчалі. Агрызаўся з ім толькі адзін Кірыла.

Пры Бадзюлю Картуль купіў матацыкл, і хоць да канторы было блізка — прайсці па вёсцы з канца ў канец,— на работу ездзіў кожную раніцу. Матацыкл у яго быў без выхлапной трубы і нарабляў стрэлу на ўсю вёску, палохаючы на аселіцы ля ракі калгасных гусей. Казалі, што дастаўся гэты матацыкл Картулю ад загадчыка склада ў леспрамгасе, якому Картуль «падпісаў» накладныя на дзве тоны, якіх у таго пры рэвізіі не хапала; гаварылі пра гэта раз на сходзе, збіраліся здымаць яго з бухгалтарства,— і зняло б праўленне, калі б Картуля не падтрымаў Бадзюля і калі б тады на сходзе не сядзеў Чарнавец.

Ездзіў Картуль шпарка, затое хадзіў паволі-паволі, нібыта баючыся растрэсці сябе, хоць не меў яшчэ і саракоўкі за плячыма. Ён неяк і ў канторы пры ўсіх краўся, што кот, ля сцяны. Высокі, чарнявы, з густымі валасамі — каб лысеў, то стаў бы зачэсваць іх, як і Бадзюля! — з чырвоным, як палепая цэгла, тварам, у акулярах. Вочы ў яго былі застылыя, заўсёды да чалавека ён паварочваў галаву — паволі-паволі, бы ў яго была гумавая шыя і не хацела расцягвацца. І гаварыў ён ціха, асцярожна. Заўсёды з усімі ў вёсцы вітаўся, нават голы ў лазні. Адны ў Сіняле гаварылі, што ён разумны, другія — што хітры і сквапны, але ўсе ведалі, што гэты чалавек

п'яніца з усяго свету, што ён за шклянку бацьку роднага даканае, што ён, пакуль сеў у канцылярыі, валяўся пад плотам у кожнага ў Сіпяле, але цяпер пра гэта маўчалі: звыкліся, ды і выпісаць жа аванс на працадні кожны хоча. А скажы на Картуля што, ды хай пачуе... Гаварылі раней, што ён працашчы чалавек, але Картуль не прапаў, жыў, а цяпер і Бадзюля яму рады не дасць, калі той не захоча. Спаяліся: адзін аднаго баяцца і адзін аднаго страшаць — трымаюць на прывязі.

...— Да мацiка, брат, далёка. Ой, як далёка, хаця ты і прарваўся на мае агнявыя. Я цябе, як чарвячка, расцісну, я цябе навылёт бачу... Шах! Яшчэ разок. А-а-а... Падумай... А тады, брат, я Чарнаўца паганяў, як мыш... Паганяў... Ну і пацеў... Я ў яго тады выйграў бы, чэсна. У мяне ж прахадная пешка была на левым. Але сам знаеш,— Чарнавец... Ага. Ты так? А я — туру сюды. А ты так?.. А я пешачку крану. Коней ты маіх паеў чэсна, я не падазраваў. Ага! Вось ты, Картулёк, куды... Ага! Пешачку прахадную навастрыў... Гэта козыр — нічога не скажаш. Толькі не выйдзе. Я яе — пад корань. А без прахадной пешачкі ты, хлопчык, лапкі ўверх, як мыш. Шах! Падумай.

Картуль і сам задумаўся: цяжка цяпер было прайграць.

— Усё, здаецца, ідзе няблага...— запеў Бадзюля.— Ты, Картуль, заседзеўся ў канцылярыі. Што спалохаўся? Баішся, што з'ем прахадную? Не з'ем. У цябе ў самога зубы вострыя. Агрызнуцца можаш добра. Давай, брат, да мяне бліжэй. Даклад зацверджаны... А хто што скажа супроць, калі даклад чысты, як гэты стол? Значыць, і работа мая чыстая. А калі я раблю чыста, значыць, і прэч з маёй дарогі. Я чысты, і мне намеснік чэсны трэба. А то дагэтуль без намесніка былі. Калгас вялікі, расце. А бухгалтара знойдзем. Паўлюка можна было б паставіць, калі б... Я ведаю, што многія на мяне зубы точаць, шушукаюцца, што калгас да ручкі даводжу, што пры мне ўсё ўніз пайшло. Не выйдзе. Ведаю, хто муціць: Паўлюк гэты самы, Сідарчык і Мірон з Кірылам. Учатырох думаюць супроць калгаса лайсці, супроць мяне, супроць праўлення. Што? Кажаш, Кірыла — член праўлення? Не. Да сходу. А тады — не. Ён адкалоўся, даўно... Я яго нутром чую. Я гэту чацвёрачку на прыкол... Чарнавец будзе. Ён мне даўно казаў, вучыў добры чалавек, а я з імі няньчыўся. Ды за ману і плёткі на начальства... Шкадаваў. Але

цяпер Кірылу — вон, кажу табе, як старшыня. Ён дастукаўся да таго, што адкрыта выступае супроць мяне на праўленні. Людзі ж чуюць. А пачуўшы, і яны стануць абы-што плявузгаць, а тады можа ўсё дайсці ў раён. Ды і куды хочаш дойдзе. А так у нас дагэтуль было няблага, скажу я табе, хоць калгас і не першы. Не блага... А-а-а... Папаўся... Вось твая пешачка... У мяне на далоні. А цяпер — шах! Каб ты здох... Не выкруціўся ў мяне... Мат!

Бадзюля ўстаў з-за стала, закурыў, прыгладзіў папярок галавы валасы на лысіне, доўга глядзеў на Картуля, як кот, бліскучымі вачыма, ляпаў сябе па папакаваных нечым кішэнях і думаў. Тады стаў ля акна і глядзеў недзе на рог стала:

— А намеснік мне трэба, і я ўжо яго выбраў. Але да сходу... Ні адна жывая душа каб не ведала. А там адразу на галасы. «За» — большасць, «супроць» тры, устрымаўся... А гэтыя ўжо ролі не іграюць. Пара, відаць, узяцца за калгас. А то мы ўсё так сабе, жарцікамі. Не пайшла бабка на работу, што ж, не ідзі. Па галоўцы гладзім! А цяпер — не! Не штрафаваць. Не-е... Гнаць з калгаса, абразаць усё па вуглы, аддаваць пад суд і судзіць. А так патачку даём... Адна не пайшла, другая — на яе гледзячы, трэцяя, а там і ўсім захочацца. Ну, дык што ў іх новае? Ну, у Кірылы ў гэтага...

— Нічога страшнага. У іх няма доказаў. Хто падцвердзіць тое, што яны скажуць? Ніхто. А так усякае плявузгаюць...— Картуль быў памаўчаў.— Грэчку, кажуць, пасеялі позна на семнаццаці гектарах — прапала... Зааралі пад жыта. Тут яны і на цябе, і на Чарнаўца ківаюць. Кірыла, кажа, сам тады чуў, як Чарнавец загадваў везці на поле грэчку і ў твар ключніку сыпнуў прыгоршчы...

— Ключнік, думаеш, падцвердзіць?

— Ключнік, ключнік... Хто яго ведае. Чалавек інвалід, без нагі. За словам у кішэньку не лезе. І каго яму баяцца?

— Не, ты, Картуль, аднаго недаацэньваеш. Я ж гэтага чалавека з брыгадзірства перавёў у свіран. Па полі цяпер яму не трэба бегаць з кавялой. Ды і ў свірне... Ля мукі апылішся...

— Не ведаю. Робіць ён чэсна. Ніводная наша накладная, калі што, праз яго не прайшла. Так што глядзі...

— Не хныч. Гэта мы чулі. А адзін чалавек пагоды не робіць. Яшчэ што?

— Сена з лугу два стагі, што летась прадалі ў Стахі,

лес калгасны мужчыны ўвесь выразалі. Будавалі зрубы і прадавалі ў горад. Семя было прапала з пуні ў Захаркі, тона, кажуць, і ўсё шыта-крыта...

— До... Хопіць, пачынаеш успамінаць чорт ведае што... За гэта — пад суд, калі хто дакажа. А што яшчэ шчанягы хочуць? Пішчаць усё...

— Яны б не пішчалі, калі б не Паўлюк. Як толькі вярнуўся з арміі. Старшыном быў, шышка вялікая. Ён з Кірылам спеўся. Але ў Паўлюка другое.

— Чаго ён хоча? Не цягні!

— Хоча, каб я аддаў свой зруб пад клуб у калгас. За дармовы лес, кажа, збудаваўся. А я яго прадам калгасу.

— Гм...— Бадзюля пачаў церабіць лысіну.— Нябдага. Колькі ты просіш?

— Дванаццаць.

— За колькі аддасі?

— За дзесяць. Як і ўсе.

— Гм... Народ. Просіць... Аддае. Спекуляцыя!

— Ніякая не спекуляцыя. Як і ўсе...

— Давай да сходу адложым. Падумаем. І што гэта, мы кожнаму рот павінны затыкаць перад справаздачай! Нас не настрашыш. Не такіх відзілі... Справаздачу зацвердзіў раён. Во! Можа, хто яшчэ і раёнам недавольны? Га?! Хай тады прама перад усімі скажа. Віш, чаго яны захацелі. Зладзеяў выкрываць, культуру ў вёсцы навадзіць! А ў саміх нас — што? Галовы не вараць? Мы не ведаем, што такое клуб? Не-е... Трэба меру знаць... Ты што, Картуль? Яшчэ раз расставіў фігуры? Не-е... Тут не да гуляў... Адсунь з-пад носа... Адсунь...

Бадзюля спацеў. Бегаў ад акна да шафы і назад. Падбяжыць, адкіне дзверцы, прысядзе, парыецца на ніжняй паліцы, зноў устане і курыць.

Пасля супакоіўся. Падышоў да сцяны, дзе вісеў прыбіты наглуха шэры тэлефонны апарат, і доўга стаяў, разглядаючы яго, бы толькі цяпер угледзеў. Пасля хуценька зняў трубку, але не звапіў: выцерся ад поту хустачкай, запхнуў яе ў кішэню і тады ўжо стаў доўга круціць маленькую ручку. Кінуўшы круціць, адразу закрычаў:

— Завішня! Завішня? Раён. Чарнаўца. Што? Не ведаеце, дзе шукаць? Райвыканком. Доўга чакаць не збіраюся...— адвярнуўшыся на хату да Картуля, ён вылаяўся: — Яны не ведаюць, хто такі Чарнавец...

Было ціха. Картуль толькі цяпер пачуў, што ў хаце гудуць правады.

Бадзюлю хутка звязалі з раёнам.

— Што? Няма ў райвыканкоме? Што? Позна? Бывае, я знаю! Дайце кватэру.

Кватэры чакалі доўга. Пасля ўжо Бадзюля закрычаў — на ўсю канцылярыю:

— Здароў. Што крэкчаш, стары? Што не на рабоце? Гэта я, Бадзюля. Забывацца, стары, стаў. Ведаю, не гавары... Дзябнуў недзе добра напач, таму і няма цябе ў кабінеце. Што-што? Што-о-о? Што ты, Панцялеевіч... Ды кі-інь ты. Знайшоў чым жартаваць. Пагналі... Гэтым не жартуюць. Ну, дык хто будзе ў нас на справаздачным? Давай — сам. Мы тут... Што-о-о?.. Хто?.. Нашы?! Ды я ім... Яны ў мяне паскачуць. Што? З абкома? — Бадзюля пабялеў. У яго дрыжаў і голас, і рукі: — Да нас? А ты? Ужо не ўпаўнаважаны?..— Завішня! Завішня! Алё, алё! Раён... Разлучылі, мілая... Кватэру Чарпаўца. Прашу, мілая. Што? Кватэра не адказвае? Не можа быць... Прашу яшчэ раз, мілая... Што? Не будзеце? Ды я вам... Ды вы ведаеце, з кім разлучылі...— Бадзюля папярхнуўся і маўчаў...

Ён доўга яшчэ трымаў трубку, пасля хацеў павесіць на рычаг, не патрапіў, і яна, бразнуўшы, упала на лаву.

Пасля ён сам чмякнуўся на лаву. Са шчок у яго руччом цёк пот. Мокрая пасма валасоў спаўзла з цемя і агаліла лысіну.

— Што будзе цяпер, Картуль? Кірыла напісаў пра ўсё... У раёне камісія з вобласці... Ты сам чуў... Ну, што ты маўчыш?

У канцылярыі было ціха. Капала недзе ў парозе з лаўкі ў парожняе вядро вада, гудзелі правады, і скрыпела пад Бадзюлем лава...

На двары стаяла ціхая і цёплая ноч, што ўвосень, хоць даўно пайшоў студзень. Пахла адталай зямлёй — адліга стаяла трэці тыдзень, ішлі дажджы і сагнала снег.

Сёлетняя зіма была на вялікае дзіва цёплая — на сухіх лагах ля рэчкі пачала расці крапіва, як вясной. А мо пачнецца вясна?

Бадзюля з Картулём сунуліся дамоў ля платоў, агародамі. На вуліцы гразь,— шкода ботаў-кірзавікаў. Ішлі моўчкі. Саплі. Асцярожна міналі Маньчын агарод-яміну, поўную вады. У яміну з вуліцы нехта кідаў каменне — мусіць, дзеці.

Мінуўшы яму, яны выйшлі ля плота на вуліцу і спыніліся. Ля старой Маньчынай рабіны стаяў хлопец, да яго тулілася маленькая дзяўчына. Нават смешна было глядзець на іх, калі яны стаялі ўпобачкі. Такі высокі і такая нізенькая. Але Бадзюля не смяяўся.

— Каб ім свет збрыдаў... У некага яшчэ любоў у галаве. Чые гэта, Картуль?

Картуль маўчаў.

На дварэ пасвятлела. Раз'ехаліся хмары, і за ракой над самым Сінялом паказаўся маладзік. Маленькі, але яркі-яркі. Зоркі былі цьмяныя, нерухомыя, як прыстылі да неба. Пад нагамі пасушэла зямля, пад раніцу мог выскачыць мароз. Паказвала на змены. У вёсцы гарэлі агні. Недзе за мостам у гародах іржаў конь — ядрана, звонка, на ўсё зарэчча. У другім канцы Сіняла на вуліцы пелі дзяўчаты.

*1962*

## Алёшка

Над зялёнымі жытнімі каласамі таўкуць мак і звіняць камары — цененька-цененька, як вецер увосень за акном у саломіну. Іх чуеш нават тады, калі ідзеш з подбегам і пачынаеш задыхацца,— ці, можа, гэта звон засеў у вушах яшчэ там, за Сушкавам у Бярозах, калі Алёшка спыніўся і доўга варажыў, кудою падацца: сцежачкай на Лаўкі ці ездавой дарогай, што вяла па гары, якую скапалі снарады і здраталі гусеніцамі танкі, калі тут тыдні два назад цэлыя суткі ішоў бой.

Амяльян, якога ў вёсцы пакінулі за старшыню калгаса, расказваў, што нашы ля Бяроз «паступілі на хвост» эсэсаўцам і тыя ішлі ўрукапашную з аўчаркамі на прывязі. У кожнага немца аўчарка...

Алёшка шлёпае босымі ў пыле нагамі па выбітай сцежцы, што, як палоска, бялее з боку шырокай парытай дарогі ля самага жыта. Ля Бяроз жыта ўсё ляжыць, здратаванае, на зямлі, пасохла і пабялела, а тут, у лагчыне, яго, здаецца, і пальцам ніхто не крануў — высокае, густое, на ім толькі выплылі каласы і закрасавалі. Шмаргні іх

рукою — на далоні асядае жоўты пылок і пахне... Жыта — аж да самага Крайска, да вялікіх старых яўрэйскіх могілак, што на гары ля рэчкі. Дарога вядзе якраз да іх.

Колецца ў ногі: на сцежцы жвір і вострыя каменьчыкі — увесь дзень да вечара шалеў вецер, павыдзімаў пясок. Алёшка не баіцца гэтага: усю вайну, усе тры гады, ад снегу да снегу — босы.

І чаго да яго прыстаў гэты звон — аж баліць галава.

Алёшка спыняецца. Вечарэе, і наўкол так нудна, што яшчэ больш пачынае звінець у вушах. Кажуць, калі зазвінела ў вуху, трэба хоць пра што задумаць — і будзеш ведаць, ці збудзецца. Але хто адгадае: Алёшка ж адзін. А задумаць у яго ёсць пра што.

Ці вернецца тата, ці прынясе маці заўтра ад Сяльвестрыхі кошык бульбы, ці пусціць іх у «вуглы» на зіму Танька, бо ад сваёй хаты толькі печ асталася, і то развалілася пасля дажджу,— жывуць у хляве.

«Ці вернецца тата?..»

Ён там, на захадзе, дзе грыміць дзень і ноч, то набліжаючыся, то далеючы...

Алёшка глядзіць туды, дзе за Крашчанскі лес у туман закацілася чырвонае-чырвонае сонца, і яму хочацца плакаць. Слёзы неяк самі, ніхто іх не просіць, засцілаюць вочы, а вунь як цягне паглядзець, што там за Крашчанкай у лесе — ці астаўся цэлы касцёл у Альковічах, бо старой царквы, што была ў Крайску, не відаць, яе, мусіць, разбілі снарадам; а ці стаіць ля возера белы млын, які партызаны не далі спаліць немцам.

Алёшка даўна тут не быў.

Ён падымаецца на пальчыкі, але нічога не відаць за жытам, толькі над каласамі таўкуць мак і звіняць камары. Іх несамнога — адна жменька. Але яны нечага далёка-далёка, ля самага сонца, і не мітусяцца, а скачуць у вачах. Самалёты,— здагадваецца Алёшка.

Яму тады робіцца шкода таты... Ён помніць, як нядаўна ноччу праводзіў яго аж сюды ў Бярозы, а вярнуўся дамоў — плакала маці. Ён не хацеў, каб яна плакала, і супакойваў яе. Яму ўсяго дзесяць гадоў, і маці сказала тады, што ён мужчына. Шкода таты. Ён хворы, яго нават у партызаны не ўзялі. Але калі Алёшка ўспамінае, што ён «мужчына», яму не так шкода таты. Тады, калі былі партызаны,— гэта была не такая вайна. Паліцаяў лёгка біць, іх біў бы і Алёшка, а тут фронт пайшоў, вайна, эсэсаўцы з аўчаркамі, з імі недзе цяжка справіцца. І на фронце ж

цяпер усе. Адзін Амяльян з мужчын у вёсцы, бо яму ў партызанах паранілі нагу, і яна не гнецца.

Алёшка бачыць, як заходзіць сонца, як адтуль, дзе яно хаваецца, паўзе лагчынай туман сюды, на дарогу. А можа, гэта паднялі пыл танкі ў Крашчанскім бары? Чуваць, як, бывае, яны ракочуць і ляскаюць нечым. Стаяць там з першага дня, як прыйшлі нашы,— іх нават раз бамбілі нямецкія самалёты. Чуваць яшчэ, як стракоча недзе блізка ў васільках ля дарогі конік, і зноў ныюць камары над самай галавой, аблепліваючы каласы на жыце.

Алёшка зрываецца з месца і зноў з подбегам пускаецца па сцежцы: да Крайска яшчэ далёка, кіламетры са два. Ён прайшоў толькі палавіну дарогі, а яшчэ трэба вярнуцца дамоў. Каб не ацямнець... Хаця назад ён стане бегчы ўсю дарогу, не баючыся, што будзе, можа, хацецца есці, бо і цяпер вунь як ужо хочацца: раніцай з'еў дзве бульбіны ў шалупінах — усё, што дала маці. А вечарам яна зварыць зацірку — здзярэ на тарцы бульбу і перамесіць з тоўчаным у ступе ліпавым лістом. Бабовы цвет — самы голад, кажа маці. Яна пачынае пухнуць, як і Марыля, што асталася адна пасля блакады. У яе, у маці, робяцца тоўстыя ногі, ён бачыў. Ён не будзе многа есці бульбы, калі маці прынясе ад Сяльвестрыхі. Добра, што тая адкапала бульбу ў засыпанай яме, хоць і старую ўжо, праслую, цвёрдую, як дрэва,— адны «маткі». Сяльвестрыха дасць, яна ж ім свая.

Учора быў Амяльян, гаварыў з маці, сказаў, што на тым тыдні прывязе з Крайска «рацыёны» і сіняй фасолі — дадуць з сельсавета «помач». З «рацыёнаў» мала, можа, што выпадзе, людзей у вёсцы многа, затое фасолі з паўпуда ім выпіша, пастараецца. Хоць і не наская яна, фасоль, Марылю ад яе блажыла і рвала, але з яе, змалоўшы, з бульбай ці з ліпай і вобаратнікам спячы нешта можна.

Ён, Амяльян, і прывёз ім першае пісьмо ад таты.

За вайну ў вёсцы адвыклі ад пісем, як казала маці, а ён, Алёшка, дык нават і не помніць добра, якія былі пісьмы: ім, мусіць, да вайны ніхто не пісаў. А цяпер прывёз Амяльян з Крайска маленькі трохкутнічак, складзены як самалёцікам лісток са сшытка ў касую лінейку, якраз такога, які быў у Алёшкі, калі ён пайшоў у першы клас. Пісаць і чытаць Алёшка яшчэ і тады ўмеў: пакуль пайсці ў школу, перачытаў буквар і каляндар. З календара перад вайной лісткоў не зрывалі, ён і астаўся; вісеў усе тры га-

ды на сцяне пад ходзікамі, аж пакуль у апошнюю блакаду не згарэў разам з хатай. Чытаў яго ўсягды Алёшка, чыталі і партызаны, якія казалі, што гэта не каляндар, а «савецкая ўласць» у хаце жыве пры немцах.

Пісьмо тату адпісала сама маці (Алёшка толькі распісаўся ў канцы), склала такі ж трохкутнічак з белай цвёрдай паперы (папрасіла ў канцылярыі ў Амяльяна), і ён цяпер ляжыць у Алёшкі за пазухай. І не адзін. За пазухай і татаў трохкутнічак. Маці не давала з сабой, баялася, каб не згубіць адрас. Алёшка яе перахітрыў... Ён учора яшчэ быў забраў яго з сабой і спаў нават, паклаўшы пад падушку.

Завезці пісьмо ў Крайск, дзе, казалі, у Арцюховічавай хаце, што адразу за яўрэйскімі могілкамі, была пошта,— не знаходзілася каму. Амяльян жа не збіраўся ехаць у сельсавет «на гэтым тыдні», чакаў, пакуль «прышлюць позву». А праз каго яму прышлюць тую позву? Пісьмо і так ляжала дзень неадсыланае. А тата блізка зусім ад дому, ля Гродна; калі паспяшыць, ён яго скора палучыць: ваенная пошта — гэта не Амяльян, які на рабой кабыле за дзень чуць справіцца вярнуцца з Крайска. Ваенную пошту самалётам возяць. Як добра, што да Гродна блізка. Там тата. Ён не трапіў на перадавую: хворы. Ён у трафейнай роце, піша, што звозіць з поля «нямецкія абломкі».

Алёшка мацае рукою пад пахай: там, за палатнянай пафарбаванай кашуляй, шамаціць папера: два пісьмы.

«Хаця б не згубіліся».

Алёшка спацеў. Раптам стала цяжка ісці,— можа, таму, што бег цераз усю лагчыну. Не трэба было спяшацца.

Ён бачыць здалёку на горцы сасновыя яўрэйскія могілкі, збоку ад іх — разбураная царква: ужо блізка. Ён сцішае хаду, але ўсё не можа аддыхацца. З ілба цячэ ў вочы і на шчокі пот: едкі, салёны. Алёшка аблізвае вусны. Дзіва, на лбе пот, а губы сохнуць. Ён гладзіць — выцірае — даланёй лоб і стрыжаную рыжую галаву. Яго ўсягды стрыг тата, а цяпер нядаўна пастрыгла маці — «авечымі» ножніцамі, у рады. Алёшка прасіў, каб часта стрыглі, бо ў яго раслі рыжыя валасы, а ў вёсцы яго тады звалі Чырвоным. А што ён вінаваты? Маці таксама рыжая, але яе не завуць ніяк, а толькі па імені — Ганула. А да яго прысталі. Сяльвестрышын Вовік дык Рабым яшчэ заве. Добра, што ў яго самога твар поўны і чысты. А ў яго, Алёшкі,

худы. І што ён зноў вінаваты, што ў яго на носе з аднаго і з другога боку жаўтаватыя крапінкі. І маленькія зусім.

Алёшка ідзе памалу: адпачне, а як будзе варочацца назад — зноў перабяжыць лагчыну ля Бяроз. Самае страшнае месца.

Тады ён думае, што з дому ж уцёк. Маці яго не пусціла ні ўчора, ні сёння, сказала нікуды не хадзіць, не адыходзіцца ад хаты... Калі заўтра ніхто не паедзе ў Крайск, яна сама панясе пісьмо да Арцюховіча.

«Яна сама...— думае Алёшка.— У яе ж балючыя ногі. Стогне...»

Алёшка ведае, што яму «ўляціць» за самаўпраўства, але ён усё знясе, каб толькі тата хутчэй палучыў пісьмо. Учора дзень, сёння дзень...

Калі маці вечарам адлучылася да Сяльвестрыхі «на мінуту», ён, Алёшка, выбег аселіцамі да моста і схаваўся ў кустах па грэблі. Ліха з ім, што вечарэе, не страх. І тое, што па вёсках бегаюць аўчаркі і хапаюць дзяцей,— выдумкі. У іх жа, у Задарожжы, нікога яшчэ ніхто не схапіў. А тое, што расказваў Амяльян — дык хай бы ён зусім не расказваў. Алёшка ўжо яму не верыць. Не верыць, што эсэсаўцы шлі ўрукапашную з аўчаркамі на прывязі і што тыя аўчаркі разбегліся па Крашчанскім лесе і цяпер нападаюць на людзей. А што Амяльян загнуў сабе ў кузні жалезны прут і завастрыў у ім канец, дык гэты прут яму за кіёк служыць, кульгаваму ж трэба на нешта апірацца. З вострым прутком і смялей: вайна — усякае можна напаткаць. Быў бы цяпер такі ражон у Алёшкі — смялей было б і яму. Толькі на чорта ён: цяжкі, і так ногі не падымаюцца, а малога — хто зачэпіць? Немцы?

Пра немцаў — можа, і праўда, бо Амяльян склікаў нядаўна ўсіх у вёсцы ў Марыліну хату — канцылярыю — і расказваў, што немцы выходзяць з акружэння кучкамі, як ваўкі ў калядніцу, і цягнуцца на захад, дзе фронт. Яны робяць тое, што і рабілі, таму трэба «трымаць вуха востра», і калі што якое — бегчы ў Крашчанку, дзе стаяць нашы.

Сонца ўжо зайшло за лес, асталіся толькі чырвоныя доўгія палосы. Перасталі звінець камары, можа, таму, што тут, ля дарогі, кончылася жыта і пачынаўся лажок. Зноў пайшла лагчына, але меншая, як у Бярозах,— Алёшка яе хутка праскочыць.

У лагчыне на дарозе няма пяску: прымятая, здрапежаная трава. Ступаць па ёй мякка, як па сене, што рас-

трэслі сушыць,— толькі з-пад ног устае цэлымі клубамі пыл, як попел над вогнішчам, калі яго ўспораш... Гэта — пакуль сцямнее ды ападзе раса.

За кашулю крадзецца халадок, і ад яго бярэ млявасць.

З лагчыны добра відаць белы млын, што ля возера пад Крашчанку: уцалеў. Над ім чырванаватае ад зары неба, відаць, там воблакі, бо над галавой неба чыстае, як і днём, калі без аддухі смаліла сонца, і Алёшка не выходзіў з хлява, дзе быў цень: на сонцы балела галава і з носа кідалася ісці кроў.

Алёшка ўжо мінаў лагчыну і зноў хаваўся ў жыце, як пачуў зусім побач голас. Нехта гаварыў у жыце, не змаўкаючы, але адзін,— сам з сабою...

Алёшка перайшоў на другі бок цераз дарогу, на якой у гэтым месцы ручаі павымывалі калдобіны — відаць, яшчэ перад боем, калі лілі дажджы, і спыніўся.

— Я Зямля! Я Зямля!..— пачуў ён нешта зусім незнаёмае і ўбачыў ля дарогі — і не ў жыце зусім, як здалося, а на сцежцы ля жоўтага каменя,— салдата. Той стаяў на каленях, да Алёшкі плячыма. У гімнасцёрцы, зусім новенькай, і такой жа новенькай пілотцы, якая ледзь трымалася ў яго на валасах. Перад салдатам на камені стаяў у драўлянай зялёнай скрыначцы тэлефонны апарат. Салдат падпёр адной рукой тэлефонную трубку ля вуха, другой торкаў у зямлю белыя металічныя пруткі, пасля крычаў у трубку тонкім голасам:

— Я Зямля!.. Я Зямля!.. Я Зямля!..

Гэта быў і не салдат, а дзяўчына ў ваеннай форме. Алёшка здагадаўся пра гэта тады, калі яна, зняўшы пілотку, паклала яе роўненька на камені ля зялёнай скрыначкі і паправіла рукой свае доўгія валасы: яны рассыпаліся і закрылі ёй шыю.

— Я Зямля! Я Зямля!..— крычала яна, не сціхаючы, і, калі ўгледзела яго, Алёшку, толькі спалохалася і неяк дзіўна паглядзела, не сказаўшы ні слова.

«Якая яна прыгожая. І валасы ў яе, як у Надзі Бохanавай. Тэлефаністка...»

Ён згледзеў на зямлі два туга напятыя правады: чырвоны і сіні. Яны цягнуліся цераз дарогу і хаваліся ў жыце.

«Відаць, з Крашчанкі»,— падумаў ён і, азіраючыся, перайшоў зноў цераз дарогу — ён прывык ужо ісці тым бокам.

— Я Зямля! Я Зямля!..— чуў ён і ніяк не мог зразу-

мецъ, чаму такая ўстрывожаная тэлефаністка — не загаварыла нават — і што значыць гэтае: «Я Зямля».

Цяпер яму было смялей: на дарозе ваенныя.

Зноў пачалося густое жыта, але за ім былі відаць недалёкія хаты ў Крайску. Толькі аднекуль падкралася трывога. «Я Зямля! Я Зямля!» — стаяла ўвушшу. Пад нагамі стала больш пяску. Сюды, у лагчыну, яго, відаць, гнала ў тыя вялікія дажджы. Пашырэла раптам дарога — гэта да яе далучылася другая, што вяла з Хадакоў праз ельнік, які вунь далёка збоку. Хадацкай дарогі адгэтуль не відаць, яна вузкая, выбягае з жыта неяк раптоўна і пад гару. Тут на абочынах шмат валуноў, а пад нагамі пяску — аж па калені. Алёшка зноў марыўся.

Калі ён убачыў на хадацкай дарозе немцаў, то не спалохаўся. Яму толькі раптам прыбегла ў галаву, што маці крычала на яго ўчора, каб не згубіў адрас, і ён дзвюма рукамі хуценька схапіўся за падпашша, дзе былі пісьмы. Ён не помніў: пабег ці, можа, прыкарэў да зямлі, як камар да саломінкі, і не варушыўся. Калі ж ён апамятаўся, заўважыў, што ідзе паціху-паціху, ледзьве ступае.

Немцаў было сем, ён добра помніць, Усе ў пілотках, з аўтаматамі ў руках. Пярэдні толькі, валасаты, быў без пілоткі і з пісталетам у руцэ — маленькім, чорненькім. Яны саплі, бегучы трушком з хадацкай дарогі. Здалося, ад іх пахне потам і дымам. Яны заўважылі яго і спыніліся, ледзь не збіўшы з ног, але не зачапілі. Нават не гергеталі, перабеглі толькі цераз дарогу і схаваліся ў жыце: падаліся нацянькі на Сушкава, абмінаючы Крашчанку. Зніклі адразу, як і паявіліся. Доўга толькі краталася і шумела на гарушцы жыта.

Ён бег дарогай, пакуль не пачаў задыхацца. Пасля спыніўся: да Крайска яшчэ далёка. Згарэлі б тыя могілкі, як да іх не дабегчы: зноў схаваліся з вачэй.

Ён падумаў быў, што калі ў Арцюховіча пошта, то там і тэлефон. Пазваніць толькі ў Крашчанку, тут жа рукой падаць. Пасля ён успомніў: на дарозе ж тэлефаністка...

Там, дзе ён толькі што бачыў немцаў, хлыснуў зусім ціхі і сухі стрэл. Алёшку здалося, што гэта далёка на хадацкай дарозе.

«Яны могуць уцячы. За Сушкавам лес, дабягуць і — прапала. А ў Крашчанцы — танкі...»

Ён пераменьваўся з нагі на нагу.

«А пісьмо — вярнуся і занясу. Не страх, калі і ацямнее...»

Ён бег назад,— спатыкаўся і бег. З горкі вунь як лёгка бегчы: адрывай толькі ад зямлі ногі і перастаўляць іх не трэба.

Падымаецца пыл, лезе ў горла, пяршыць. Калючыя зялёныя каласы сцёбаюць халодным асцём па твары. З-пад дзяжкі вылазіць кашуля, і вецер гуляе па грудзях. Усё роўна як выскачыў, распарыўшыся, дома з лазні і пусціўся бегчы па аселіцы да рэчкі.

Адсырэла вечарам зямля, ад жыта пахне расой і саломай, у лагчыну цягнецца паласаты туман, у Сушкаве высока ўгару падымаюцца дымы — прамыя, як слупы: на пагоду.

Як далёка ён адышоўся ад каменя... Гэта ж быў бы ўжо ля яўрэйскіх могілак.

Алёшка стаў: многа ўжо прабег, відаць, мінуў той жоўты камень і тэлефаністку. Агледзеўся — быў у самай лагчыне. Толькі тут неяк было ўсё па-другому. Здрапежана дарога, стаптана жыта, над лажком падняўся быў пыл і цяпер асядаў, не даючы дыхаць.

На дарозе, на пяску былі сляды ад падкаваных ботаў.

«Пятнаццаць... Дзевятнаццаць... — Алёшка не мог злічыць, колькі тут прайшло людзей, зблытаўся.— Як хто кароў з усёй вёскі перагнаў цераз дарогу...»

Да жоўтага каменя ён падышоў паволі-паволі.

Тут, здавалася, нічога не змянілася. На тым самым месцы стаяла зялёная скрынка з апаратам, ля яе роўненька ляжала новенькая пілотка, гэтак жа на каленях стаяла дзяўчына ў ваеннай форме. Толькі дзяўчына неяк нізка схілілася над каменем, выпусціўшы з рук трубку. Густыя светлыя валасы ўпалі ёй на лоб і схавалі твар.

У Алёшкі задрыжалі ногі. Ён падышоў да самага каменя і кашлянуў, спалохаўшыся сам.

Ніхто не адгукнуўся. Наўкола было неяк надта ціха. Пасля недзе над Крайскам загудзелі самалёты. Алёшка зірнуў туды, у бок могілак, пасля на дарогу.

Правады — чырвоны і сіні — былі перарэзаны ля самага каменя...

Тады ён успомніў, што Амяльян казаў, калі што якое,— бегчы ў Крапчанку, дзе стаяць нашы. І ён пабег, выціраючы кулачкамі з твару халодны пот.

На поле ў лагчыну, што вяла да Крапчанскага лесу, поўз туман. Поўз з возера, дзе на беразе стаяў белы млын.

На полі ўставала з зямлі прытаптанае жыта, падымала нанач угару каласы — расло. Недзе крычала перапёлка: «піць-палоць», чыкалі і чыкалі конікі. У Крашчанскім бары бліскалі агні і ракаталі танкі.

Яны і заглушылі былі сухі стрэл у жыце...

Алёшка пачуў толькі, як яго моцна тузанула за кашулю на грудзях; пасля яму здалося, што ён упаў на мяккую капу сена і напароўся на зуб ад вілак. Дзіва: не балела і не хацелася плакаць.

Ён бачыў яшчэ, як у жыце краталіся чорныя цені, бачыў, што цямнее і шарэюць, стухаючы, чырвоныя палосы над лесам, дзе зайшло сонца.

Пачуў, што выехала з-пад дзяжкі кашулька і выпалі пісьмы. Ён хацеў іх падняць, ён вунь як хацеў іх падняць... Але над галавой зазвінелі камары. Іх цэлае поле... Яны засцілаюць вочы: нічога не ўгледзіш...

Пасля стала ціха-ціха.

*1962*

## Алені

Як толькі пераехалі ў Бярэзавец, Ірка ўбачыла, што на двары восень. А ў вёсцы яе яшчэ не відаць.

Бярэзавец — кіламетра паўтара ад вёскі, ля ракі Бярэзаўкі, што цячэ лугам і ўпадае недалёка за Ліпнікамі ў Вілію. У Бярэзаўцы пачынаецца пушча — Палік. Тут яны жылі да вайны, Ірка помніць, пасля пераехалі ў вёску. Бацька ў Іркі быў ляснік, і жылі яны ў лесе. Ірчын бацька яшчэ вартаваў і карміў зімою ласёў і аленяў у запаведніку, які быў недалёка ад Бярэзаўца за Высокім Берагам.

Ірка любіла лес, і калі пасля вайны яны зноў пераехалі жыць у Бярэзавец, Ірка была рада. У вайну з Бярэзаўца разбегліся алені і ласі. Бацька казаў, што яны пайшлі Віліёй далёка, аж у Аўгустоўскія лясы, дзе не было гэтулькі партызанскіх лагераў і блакад.

У Бярэзаўцы ў вайну немцы спалілі іхнюю хату, астаўся толькі хлеў, які быў недаканчаны — без страхі — і не ўзяўся гарэць. З яго цяпер Ірчын бацька склаў хату, напрывёз у вайну з застават з чатырма вокнамі. Вокны ён прывёз у вайну з заставы, якая была на Высокім Беразе ля Віліі, і схаваў у хля-

ве. Заставу тады ўсе разбіралі — немцы ж усё адно спаляць. Цэлыя ў хляве асталіся толькі два акны; з іх, перарэзаўшы папалам, зрабілі чатыры, і не зусім каб малыя. Ірка праз акно бачыць увесь луг ля Бярэзаўкі і нават далёкія Старыя Вольхі, ля якіх рака паварочвае да Віліі, там яна глыбокая і ў ёй — рабыя шчупакі.

Ірка любіла восень. Можа, таму, што ў Бярэзаўцы тады было ціха-ціха. Цішыня плыла недзе адтуль, з Паліка, з пушчы, плыла ракою, гэткай жа ціхай, як і сам Бярэзавец. Яна ніколі не разлівалася і не стагнала, вясной у паводкі ў ёй толькі падымалася вышэй цёмная вада.

Увосень у Бярэзаўцы мялела рака і рана жаўцелі бярозы — можа, таму, што раслі на балоце. Жаўцелі заўсёды знізу, паволі, не так, як вольхі, якія чакаюць першых маразоў, тады чарнеюць і асыпаюцца за адну ноч.

Цішыня стаяла ўсюды: і ля хаты, і на пасецы, і на балоце — з вёскі сюды не далятае ніводнага гуку. Затое тут жыло сваё рэха — дзень і ноч, зіму і лета і больш за ўсё ўвосень.

— Гэ-гэй! — так заўсёды гукаў Ірчын тата, калі адыходзіўся ад дому, так гукала і Ірка. Яе дражніў тады Бярэзавец, рэха плыло на Палік, на вёску, а надвячоркам яно варочалася назад, зноў дражнілася і плыло далёка-далёка, толькі цішэй — адкуль жа яму ўзяць сілы? Ірка ж малая яшчэ, ёй толькі пайшоў дванаццаты, мала што яна рослая, падцягнулася за вайну, затое тонкая. І крычаць яна, мусіць, добра не ўмее — ціхенька і дзярката — і заўсёды тады папярхаецца, бо дзярэ ў горле. Вось каб крыкнуў тата, тады б рэха варочалася ў Бярэзавец не адзін раз, але тата ніколі блізка ля хаты не крычаў і не даваў Ірцы, каб не «папудзіла аленяў», і так за вайну, якія асталіся, нацярпеліся страху,— чалавека сталі баяцца.

Увосень у Бярэзавец злятаюцца сарокі і сіваваронкі. Сарок Ірка не любіла: яны зладзеі і стракочуць без аддухі, лезуць усмоль на двор у карытца да парасяці, хоць тады яны і «варожаць на госця», як кажа маці. Нехта ж выдумаў — сарок, дык тых хоць ты палкай гані, а гасцей, як пераехалі ў Бярэзавец, ні разу і не было.

Увосень, калі стаіць пагода, шасціць пад нагамі мох і трава сівец, гараць сіняватыя пупышкі верасу на пасецы — верас высокі, што трава ў лучках. Па ім поўзаюць мурашкі, вялікія, з крылцамі, і лётаюць пчолы. Сядзе пчолка на верасовую галінку, калышацца, пасля нахіне яе аж да самай зямлі, абдыме ножкамі, перагнецца ўся,

адтапырыць крылцы і лезе з галоўкай у маленькую кветачку. Пасля застыне, не кранецца, як памерла,— п'е.

З балота ад ракі прылятаюць вялізныя зялёныя стракозы, лапочуць над верасам сваім доўгім бліскучым крылем, але пчолы іх не баяцца.

Ірка любіць пчол: яны збіраюць мёд. А позні мёд — зелле.

На пасецы яшчэ зялёная трава і мох, але пастарэлі ўжо грыбы лісіцы, пабялелі, пачалі сохнуць. Затое ў Бярэзаўцы — маладыя баравікі, бурыя, цвёрдзенькія і кругłыя — як хто іх высеяў у адну ноч. У вайну тут гарэў лес, і яны любяць гарэлае. Маладыя жаўтаватыя апенькі і варушкі абляпілі пні. Іх несамнога: не іхняя яшчэ пара. Далей пад лагі ў бярэзніку — чырвоныя падасінавікі і белыя чашчавікі. Маладзенькія, на тоўстым корані і з тоненькай галоўкай,— зусім як напарстак на пальцы. На грыбах — слімакі-смаўжы. Яны — Ірка вычытала — сеюць грыбы. Смаўжоў няма толькі на мухаморах. Ды і наліха тыя сеяць, атруту. Яны і самі, вунь, аж на двор залезлі. Ля ганка і ля студні пясок рыюць — так растуць. Але дзе мухаморы — там і казлякі. На пясчанай гарушцы за хатай іх не злічыш. Казлякоў надта не бяруць. Не бяруць і сыраеж, яны паразрасталіся на зямлі, як рэшаты.

На імшарах — у саснячку за гарушкай — перапелі дурніцы; на іх кропелькі вады — ад расы. Дурніцы кіслыя, і ад іх не хочацца піць, як ад чарніц; але ад іх баліць галава. Не, гэта не ад дурніц, а ад багуну, з якім яны растуць. А багун у Бярэзаўцы высокі, дастае Ірцы аж па пахі. Пачырванеў спадыспаду ад зямлі — асыпаецца. І пахне-пахне. Толькі чаму ад яго баліць пасля галава, як ад чаду ў хаце, калі маці рана заложыць у печы юшку? Ірка баіцца чаду.

Да імшар праз саснячок вядзе старая ездавая дарога. На ёй — ababітае калясьмі белае сасновае карэнне, зацярушанае прычарнелым сенам. Сена выносілі сюды з балота, сёлета было шмат вады, і на яго ніхто не ўз'язджаў. Балота нават не ўсё абкасілі: не было каму. Цяпер і па лагах ля вёскі адны бабы з косамі ходзяць: мужчын многа з вайны не прыйшло. Так і стаіць балота; пажоўкла, пачарнела. На корм яго ўжо ніхто не скосіць.

Можа, калі падмерзне пазней, траву «абаб'е» Ірчын бацька, каб вясной, калі яна высахне, не ўклюнуўся ў Бярэзавец пажар.

Ля імшарын — бярозы-чачоткі з грыбамі-губамі і цэ-

рам. У вайну тата з губы і цэру «крэсіў» агонь, добра, што цяпер сталі прывозіць у магазін сярнічкі. Ірка так і не навучылася «крэсіць» агонь з цэру. Яна рабіла па-свойму: скручвала з ваты, якую скубла са старой матчынай фуфайкі, кнот, падпальвала яго, пасля тушыла ў бліскучым жоўтым патроне ад нямецкай вінтоўкі. На крэмені чорны кнот загараўся ад першай іскры. Але за вату крычала маці: збіралася яшчэ на зіму «пацягнуць» фуфайку кортам, якога тата прывёз з раёна за воўчую скуру.

З бярозамі растуць вольха, асіна і маленькія дубкі. Ім тут сыра, і яны дробныя. У жоўтым бярозавым лісці чырванеюць рабіны і спеюць каліны — іх у Бярэзаўцы шмат. Іх, калі балота ляжа аблогай пад снегам, доўга яшчэ будуць кляваць сарокі і гілі. Але цяпер рабіны горкія, і гілі іх не чапаюць; яны дзяўбуць сасновыя шышкі: на моху, на рудзяках панацярушана сухога сасновага насення.

Ёсць яшчэ позвія маліны, але пачырванела ўжо мядзведжае вушка і пачалі чарнець ажыны. На ажынніку калючкі і павуцінне. І ягады яшчэ ялкія: не выспелі.

Найсмачнейшыя цяпер брусніцы — як вінныя яблыкі, не раўня ім маліны. Ірка ўмее збіраць брусніцы. Яны на пасецы растуць шышкамі, як бабок на балоце. Сашмаргнеш шышку — поўная жменя. А ля пнёў іх — як хто ўзяў ды рассыпаў з кошыка.

У імшарах на куп'і — змеі і журавіны. Пахаваліся ў мох. Ірка не так ужо і баіцца змей, але журавіны яшчэ толькі пачалі ружавець. Па іх пазней яна пойдзе з маці, калі ўжо асыплецца бярэзнік, і пойдзе на ўвесь дзень аж туды, дзе Старыя Вольхі, узяўшы мех. Увечары падыдзе тата: адны не дадуць рады прынесці, журавіны цяжкія, як бульба.

Калі ў Бярэзаўцы стане ціха, Ірка чуе тады, як высока ў небе за маленькімі воблачкамі грукае самалёт, за ім ззаду цягнецца белая дарожка. Такія самалёты над Бярэзаўцам сталі лётаць нядаўна. Ірка чуе яшчэ, як за Высокім Берагам гудуць машыны — там леспрамгасаўцы згружаюць лес. Ірцы хочацца на Высокі Бераг, яна там яшчэ не была, але ж маці паслала яе з кошыкам па бабок парасяці, ды і бацькі няма дома ад раніцы: сышоў у пушчу да сваіх ласёў, а ў каго адпросішся — маці яе ніколі не пускае.

Ірка чуе, як шастае сухая трава ля ракі, як нехта пляскае там на ўвесь рот. Дзікі. Яны прыходзяць з пушчы аж сюды ў бабок, у самым куце яго ўжо даўно здрабяжылі.

Шваргочуць у траве дзікія качкі, недзе над галавой дзяцел дзяўбе сухую без верху сасну,— яна аж звініць. Ля дзятла цінькаюць сініцы, пырхаюць з сучка на сучок, на ляту ловяць пыл і кавалачкі кары.

Да імшар падкралася ліса, падняла хвост і нюхае мох — чуе мышэй. Пасля, падцяўшы хвост, схавалася ў папараці — пачула, як Ірка ішла з імшары,— і зноў стала ціха-ціха. Сонца вярнула на захад, у небе застылі рудыя хмары, і на пасеку з балота падзьмуў халадок. Загудзеў над галавою жук, ткнуўся ў шчаку і ўпаў на мох пад ногі. І тады Ірка пачула, як за двума чырвонымі ад смалы карчамі мые лапамі вушы заяц. Пачула, а тады ўгледзела яго, шэрага-шэрага. Нацёршы вушы, заяц пакруціў мордачкай і паскакаў на горку.

— Зайчо-о. Мылася нанач, во зайчо.— Ірка глядзела, як устае ля пня прымяты мох, як поўзаюць па чырвоных карчах жукі-разакі і мурашкі, хаваючыся ў паточаных дзірках.— Мяне, мусіць, пачула.

Угледзеўшы раптам аленяў, Ірка выпусціла з рук кошык. Мусіць, спалохалася: аленяў яна ніколі не бачыла. Яны ішлі якраз на яе і грукалі нагамі па карэнні. Іх было чацвёра, і ішлі яны адзін за адным. Пярэдні быў сівы і ў чорныя латы. Вялікі і прыгожы, ён дыбаў, задзёршы галаву. Рогі ў яго ляжалі аж на спіне, як загнуты абруч на вялікі кошык. За ім ішла бязрогая, мусіць, аleніха, азіраючыся на сваіх, такіх жа бязрогіх, цялят. Яны ішлі да ракі і не баяліся Іркі. Толькі, калі пабліжэлі, зафорскалі насамі і схаваліся ў бярэзніку.

— Гэ-гэй!.. — пачула Ірка, як крычыць тата; прыйшоў ужо з Высокага Берага і, мусіць, шукае яе.

Вечарэла. У тым баку, дзе вёска, заходзіла сонца — і, здавалася, загарэўся лес. Над ракой, дзе Старыя Вольхі, засінеўся туман, як дымок. Над пасекай нізка праляцелі дзікія качкі — цяжкія, чуць неслі сябе,— падаліся ў далёкі кут Бярэзаўца, дзе пачынала цямнець.

— Гэ-гэй!.. — неслася па лесе рэха.

Ірка прыклала да шчакі далонь, як рабіў яе тата, і закрычала:

— Гэ-гэй! І-ду-у-у...

Высокі Бераг — застава, і туды да вайны не пускалі. Ды Ірка была тады малая, не дайшла б: да заставы далей, чым да вёскі.

Тут самае высокае месца. Сташ, як узлезшы на хату, на страху. Недзе ўнізе ў кустах — глыбокая рака, за ёй лог, дзе рудыя стагі, а далей поле, жоўтае на сонцы, аж блішчыць. На ім жнуць жанчыны ў белых хустках і зносяць у кучкі снапы. Некалі там, за ракой, жыла Ксеня — Ірчына цётка, і перад вайной прыходзіла да іх.

Ксеню забілі немцы.

На небе ні хмурынкі; сонца пячэ, як летам; па маладым сосніку на пасецы плыве на белых нітках, як на павуціне, насенне высокай чырвонай травы рабінкі, што расце ля пнёў.

Пахне сасной, зямлёю і мокрай глінай. Гэта з пажарышча.

Заставу спалілі паліцэйскія ў сорак першым годзе. Нехта «падаткнуў», што ў ёй хаваецца стары шавец з Даўгінава — Шлёма. Забралі тады і Шлёму — павезлі на машыне.

Цяпер на тым месцы, дзе некалі была вялікая будыніна, парос густы сасняк. Ён вышэйшы за той, што на пасецы, вышэй за Ірку.

На пагарэлішчы ляжыць вялікае чырвонае каменне, патрэскалася, парасло чорным і сівым мохам; валяецца чыстае бітае шкло, паленая цэгла; далей на былым падворку, дзе цяпер узаралі зямлю, блішчыць вялікі кубак, што быў на тэлефонным слупе,— беленькі, ачышчаны ад пяску. Ірка помніць, што некалі на заставу вялі тэлефонныя слупы; адзін слуп з белымі кубачкамі стаяў ля іхняй хаты і звінеў зімою, усё адно як дзе на Паліку вылі ваўкі.

На ўзараным двары і пасецы пасаджаны маленькія сасонкі. Яны яшчэ ў дзве галінкі і здалёку — як елка-трава, што на балоце. Над імі стракочуць конікі. У баразне слупок з надпісам:

«КВ. 29 ПОС. СОС. ПЛ. 2,40 г. 194... г.»

Ірка помніць, што такія слупкі рабіў і надпісваў яе тата, калі жылі яшчэ ў вёсцы.

На беразе — старыя дубы, разгатыя, сучча ў іх аж да зямлі. Пад дубамі на беразе — партызанскія акопы. Яны глядзяць на вёску, што за ракой, на луг, дзе буслы і скаціна, на поле, дзе дымок ад трактара, але ўжо засыпаліся, параслі мохам, брусьнічнікам, верасам і сіўцом; зацерушыліся іголлем і сасновымі шышкамі. Тут у апошнюю блакаду вялі бой кутузаўцы, не падпускаючы немцаў да Віліі.

Прыгожыя лозы ля ракі ўвосень. Яны — чырвоныя, зялёныя, бурыя, жоўтыя, аж блішчаць на сонцы і цягнуц-

ца лугам далёка-далёка, пакуль не хаваецца за лесам рака. Ірцы хочацца ісці і ісці туды, куды схаваліся лозы, дзе далёка яшчэ большыя, чым у іхнім Бярэзаўцы, лясы, дзе зусім невядомы свет. І тады яна ўздыхае, папраўляе свае доўгія і тоўстыя чорныя косы, што распляліся на грудзях, выцірае з ілба пот — горача як! — і расшпільвае раскошную матчыну старую нажутку.

Як хочацца паплыць туды, дзе Палік, ракою. Не. Ірка не хоча плыць ракою, яна хоча ісці дзень і ноч, і ўсё лесам. Яна пойдзе туды некалі з татам.

На Высокі Бераг вядзе пясчаная дарога цераз усю пасеку. На дарозе сляды ад леспрамгасаўскіх машын: яны яшчэ ўчора вазілі на бераг лес, цяпер іх не чуваць. Сёння Ірка, калі ішла на бераг, бачыла на пяску вялікія воўчыя сляды. Воўк перайшоў дарогу. Ваўкоў Ірка, можа, і баіцца, але ж днём воўк не стаіць на адным месцы.

На беразе за дарогай вялікія шліхты бярвення. Адтуль, калі павее вецер, пахне свежай смалой, як з падсочкі.

«Гэтулькі выразалі... Пасека недзе адна асталася».

Ірка не любіць ні леспрамгасаўцаў з піламі, ні іхніх машын з прычэпамі і печамі, куды шафёры засыпаюць бярозавыя чуркі і перамешваюць іх жалезнымі качэргамі. Не было б машын — не рэзалі б гэтулькі лесу.

Ірка не хоча глядзець шліхты: пара дамоў, яе ж ніхто сюды не пускаў.

На дарозе пыл; па жвіры і сасновых шышках колецца ў босыя ногі. На пасецы сіне, як ад дыму,— гэта ад пагоды. Пачынае балець галава — мусіць, ад сонца. Ные пята — пракалола яе недзе на дуддзі, а мо і на шкле ля заставы.

Першага выбуху яна не пачула: пасека неяк застагнала сухім рэхам і запыліла, схаваўшы з воч дарогу. Ірка ўся сціснулася, прыпала аж да зямлі, пасля пабегла, нічога не бачачы.

Ёй раптам успомнілася, як яны ў блакаду з бацькам беглі так з вёскі на пасеку, дзе былі бульбяныя ямы, а ўсюды рваліся міны. Такі ж ад іх сухі трэск, такі ж дым і пыл. Тады яны з татам ледзь праскочылі, тады ў таты на руках забіла маленькую Верачку, яе, Ірчыну, сястру.

Яна бегла і бегла цяпер па карчах і пяску, не чуючы пад сабою ног, закрываючы вочы, бо па твары секла печым калючым, мусіць, жвірам, і ад дыму аж блажыла.

Выбухі сціхлі адразу, як і пачаліся. Стала зноў ціха.

Ірка тады апусцілася на халодны, свежы пясок ля не-

глыбокай ямкі і выцерла вочы. У іх калола, мусіць, ад пылу і поту. Суха было ў роце.

«Здурнела... — Ірка пачала страсаць пясок з нажуткі.— Гэта ж карчы рвуць».

— Адбой, Прахор! Перакурым,— пачула яна і баялася паказацца на вочы мужчынам, што ўдвух, сагнуўшыся, падымалі з дарогі сякеры і торбачкі.

«Хаця б не сказалі тату... Заб'е».

Трава на пасецы была ўсыпана белым пяском. Валялася тоненькае карэнне ад маладых сасонак, бы яго хто надзёр на кошыкі.

Ірка ўгледзела толькі цяпер каля сябе ямы, як ад мін, і велізарныя, чырвоныя, пашчапаныя карчы, што ляжалі на пасецы, як заморапыя ў плузе быкі.

Ірка ўбачыла яшчэ, што да нагі ў яе прыліплі кавалачкі мяккай чырвонай гліны і смаляныя аскалёпачкі ад карчоў. Збоку, на вырваным з зямлі верасе, ляжалі раскручаная белая бліскучая паперка, як ад цукерак, і шнурок — шэранькі, доўгі і тонкі,— як слівень.

Ірка ўскочыла з зямлі і пабегла саснячком да дарогі; калі і ўбачаць мужчыны,— не пазнаюць.

Яна бегла, не аглядаючыся, па разоры ля дарогі, бегла доўга і пачала задыхацца. Тады стала, каб перавесці дух, і ёй здалося, што за ёю нехта бяжыць. Яна пусцілася зноў і, азірнуўшыся ўжо на дарозе, ля лужка, дзе драбнеў лес і ад расцяробу пачынаўся бярэзнік, які вёў на балота ў Бярэзавец, убачыла, што ззаду бягуць алені. Бягуць з пасекі,— аж чатыры.

Пярэдні быў з рагамі-абручамі, закінутымі на плечы, і ў плямах, заднія трое беглі за ім, збіўшыся ў кучку.

Ірка спынілася — сталі і яны. Дыхалі часта-часта, бакі ў іх хадзілі хадуном.

«Пазналі...» — Ірка хацела выставіць руку, але пярэдні, у чорныя латы, адскочыў раптам назад, спалохаўшыся. Тады яна саступіла ім з дарогі, і яны, не зварочваючы, пабеглі расцяробам у Бярэзавец.

Больш Ірка не бачыла «сваіх» аленяў аж да зімы.

У Бярэзаўцы на балоце вымерзла вада, лёд пабялеў, патрэскаўся, асыпаўся, і яго выдзьмуў вецер. Чорная трава палегла на груду, высахла і шасцела пад нагамі, як сена.

Стала рака. Вада пад тонкім лёдам была чыстая, і

праз яе свіцілася жоўтае глеістае дно. Лес стаяў заінелы, пусты і халодны, як парожняя пуня. Пабялеў, насупіўся, трашчаў — яго даймаў мароз. Каркалі ўдзень над ракой вароны і стукалі без аддухі па дрэве дзятлы — грэліся. Мароз узяўся нагалец і пёк, не адпускаючы: зіма пачалася ранняя. Днём была пагода, ярка свяціла нізкае чырвонае сонца, і аднекуль з чыстага неба сыпаўся сіні іней; ночы стаялі месячныя, ядраныя — была поўня, зоркі дрыжалі і мітусіліся, падалі густа на лес, як іскры з коміна на страху, калі гарыць сажа. Ноччу вылі ваўкі, але далёка, на самым Паліку; было чуваць, як у вёсцы рыпелі вароты і ляскаталі на грудах калёсы. У небе гулі самалёты; успаміналася тады, як некалі па начах партызаны палілі агні і пераймалі парашуты.

Зніклі з Бярэзаўца звяры — падаліся ў пушчу: там цяплей.

Аднойчы з начы ўсхадзіўся вецер. Ірка чула, як ён стагнаў у коміне — яна спала на печы,— стукаў у вокны, шастаў па шыбах, як хто вадзіў саломай. Шумеў лес, трашчалі сосны; здавалася, нехта бегаў па гары. Ірка не спала.

Раніцай яе не хацелі пускаць у школу — мяцеліца. І двор, і дарога, і лес — усё было занесена белым снегам, ад яго балела ў вачах. Ірка дастала з гары самаробныя лыжы. Іх зрабіў у вёсцы тата; яна на іх бегала лепш за ўсіх. Школа ў вёсцы, недалёка; а хіба Ірка пабаіцца мяцеліцы? У яе цёплая чорная матчына хустка, старая фуфайка, «пацягнутая» кортам — маці насіла «пацягваць» яе ў вёску да Танькі, у якой пасля вайны асталася швейная машына,— на нагах буркі, пашытыя з суконак, на бурках — бахілы, склееныя з гумы і слізкія-слізкія. Кнігі Ірка носіць у пафарбаванай чорнай торбачцы; яе можна перакінуць цераз плячо, калі едзеш на лыжах.

Раніцай у школу трэба выязджаць зацемна, затое вечарам Ірка прыязджала дамоў, калі яшчэ відна. Урокі Ірка робіць хутка: пайшла ў трэці клас, а за вайну ж пасталела, магла б пайсці і ў чацвёрты, ды ў вёсцы чацвёртага няма, трэба ісці аж у Камена — гэта за пяць вёрст. Ірка магла б туды ездзіць на лыжах, але адну не пусціла мама, а налета з вёскі пойдуць яшчэ дзеці.

Пасля ўрокаў Ірка дома карміла парася, але яго на тым тыдні прадалі, нават буракоў усіх не скармілі, ляжыць кошыкі са тры ў парозе пад ложкам; сабе варыць. Парасяці няма чым карміць. У саміх вунь колькі той бульбы з

буракамі. Бацька за парася прывёз з базару жыта, казаў — цяпер хопіць на вясну, а там крапіва. Жыта сушылі, панясуць у вёску малоць у жорны. На вячэру будуць варыць толькі зацірку. Тата гаворыць, што яму не пашэнціла. Думаў, што купяць цяліцу на зіму, нават стажок сена назапасіў. Але ж да цялічкі і ўвосень і цяпер на базары было не падступіцца. Тата яшчэ думаў, што яму, можа, удасца забіць ваўка, за скуру добра плацяць і даюць прэмію, але ж і ваўкі, як наліха, сышлі з Бярэзаўца. Тата за восень падстрэліў толькі двух зайцаў. Мяса патроху клалі ў булён, які варылі на палудзень. Які з таты паляўнічы? У яго нават сабакі няма. Абы-якога тата не думаў карміць, а дзе дастанеш добрага? Хацеў прывезці раз з раёна, дык жа трэба было аддаць увесь стажок сена. Ліха з ім, з такім сабакам. Ці будзе выйгранка, можа, калі ваўкі сабе горла заткнуць, кармі толькі, а сена хай стаіць. Прадасца пад вясну, не прападзе.

Пасля ўрокаў Ірка цяпер хадзіла глядзець, ці цэлы стажок, бо бацька асачыў раз, што стажок знізу аб'елі, відаць, алені, і абгарадзіў яго. Толькі алені ўсё адно даставалі сена. Ірка бачыла іх сляды.

Сёння Ірка не адразу пабегла на балота — падалася на пасеку. Там яна ставіла петлі на зайцаў. Колькі яна навязала іх, і ўсё попусту. Ніводнага не злавіла.

— Дурныя зайцы... — Ірка злуе і цяпер іх ужо зусім не шкадуе. Яна з імі яшчэ справіцца. Вось толькі петлі апусціць ніжэй і зробіць большыя.— Дурное зайчо! І сена яму ў пятлю паклала, а не зачапіла ж. Касое. Не бачыць зусім. Касое і дурное,— Ірка хукае ў пальцы, якія мерзнуць нават у рукавіцах.— Ну і мароз! Нос адкусіць... — Яна пачынае церці свой маленькі чырвоны ад холаду нос. І ў хаце надта не нагрэешся цяпер. Маці, як толькі выпаліць печ, адразу закладае юшку. А ў хаце тады чад, і ў Іркі баліць галава. Толькі ж маці ніяк не ўпросіш.

— Палілі-палілі цэлы дзень, а цяпер неба будзем грэць? Што? Агонь сіні ў пячурцы? Ліха з ім. Чаду баішся? На двор пайшла, праветрыся. Зловіш сінюка на нос — не гэта запяеш. Марш на двор!

Маці ніколі не слухала Іркі.

А Ірцы добра і на пасецы. Толькі вось рукі адубелі, ніяк у пальцы пятлю не возьмеш. Каб гэта тата петлі паставіў... Але ён нешта іх не любіць.

— З пятлі ўжо мяса наясі... Гуляй, калі ўрокі парабіла.

Пачынала цямнець, неба стала густое, чорнае. Нанач браўся мароз, і пад нагамі скрыпеў снег — прасіўся — аж рэха ішло па лесе.

Да стажка яна не хацела ісці. Чаго? Хто яго днём мог крануць? Каму трэба,— прыйдзе ноччу. А ноччу ні Ірка, ні тата да стажка не поідуць. Ночы цяпер звечара цёмныя, і цямнеецца хутка. Агонь ужо ў хаце захоць вока выкалі, і цямнеецца хутка. Агонь ужо ў хаце запалілі, мігціць праз ельнік.

Яна спынілася, але ёй доўга здавалася, што снег ўсё скрыпіць пад нагамі. Тады яна ўслухалася: нехта стукаў далёка ў лесе, і недзе рыпеў снег. Мусіць, тата хадзіў сам да стажка... Яна хацела крыкнуць, але перадумала: можа, усё ёй здаецца.

Пасля адышлася далей на балота і пачула, што ля стажка шастае сена.

«Недзе з таго боку. Ад пушчы».

Яна адышлася яшчэ далей на балота, і тады ўгледзела аленяў. Здалёку яны былі ўсе чорныя і маленькія. Яна пазнала іх і пабегла да стажка. Верхняя жэрдка была скінута з віткі, а яны стаялі, уткнуўшыся галовамі ў стажок, як цяляты карове пад вымя. Пачуўшы яе, адскочылі, пасталі. Трое. Чацвёрты быў яшчэ ля стажка, стаяў, паклаўшы рогі на спіну. Ён быў увесь у чорныя латкі, іх яшчэ можна было разгледзець.

Яны... Яе алені...

Ірка падышла да самага стажка. Рагаты тады паволі вылез з загарадкі і не ўцякаў. Стаялі і другія, Ірка падышла блізка-блізка да яго. Ён нратаў вушамі, выцягнуў да яе шыю і адставіў нагу. З храп у яго ішла пара, і яны былі белыя — заінелі.

«Холадна яму»,— Ірцы стала яго шкада, шкада і тых маленькіх, што стаялі, прытуліўшыся адзін да аднаго, воддаль.

Яна выцягнула руку. Рагаты панюхаў рукавіцу, лізнуў языком. Тады яна дастала з кішэні акрайчык купленага ў магазіне хлеба — яго сёння прынёс тата — і падала рагатаму. Ён панюхаў яшчэ раз руку, лізнуў цёплым языком за палец, а хлеба не зачапіў.

— Цяля-цяля... — паклікала тады Ірка.— Дурненькі... Гэта ж хлеб...

І другі раз хлеба ён не зачапіў.

Тады яна, выставіўшы руку, пайшла да тых, што былі воддаль. Але тыя крутнуліся і, падняўшы снег, панесліся па балоце. Рагаты дагнаў іх і завярнуў у зашыек.

Ірка паправіла ў стозе сена і падняла на калкі жэрдку.

— Гэ-гэй!.. — крычаў тата на ўвесь лес.

...Яна яму нічога не сказала.

Назаўтра алені зноў прыйшлі да стога. Ірка карміла рагатага буракамі — узяла з сабой з гаршка з-пад прыпечка. Рагаты браў бурак з рукі вялікімі адтапыранымі губамі і жвакаў, не адкрываючы рот. Галава ў яго была зусім малая, вочы — сівыя, мутныя, поўсць блішчала, гладкая-гладкая, бы яе прычасаў хто. Грудзі ў яго ўсе аб'інелі,— відаць, дыхаў на іх.

Ірка аж здзівілася была: як гэта такія вялікія рогі могуць быць на малой галаве?

Рагаты ад яе ўжо не ўцякаў. Яна гладзіла яго па гарбатым носе, па халодных рагах, па шыі,— ён стаяў і слухаў.

Алені ішлі нанач у зашыек; назаўтра ў прыцемку зноў былі на балоце.

Адзін раз Ірку не пусцілі да стажка.

— Вучы ўрокі!.. — крыкнуў на яе тата. Ніколі з ім такога не было.

Ірка ўсё роўна вырвалася вечарам на балота, але аленяў не застала. Калі яна вярнулася ў хату, угледзела, як маці ў парозе, закасаўшы за локці рукавы, у вялікіх новых драўляных начоўках накрывала засланкай кішкі... Ірка здзівілася: як парася ўсё роўна закалолі... У печы гарэлі смалякі, і на прыпечку стаяла патэльня. За сталом сядзеў яе тата і Язэп з вёскі — рыжы і злосны чалавек.

— Неблагія галавіны, Андрэй,— ківаў ён сваёй вялікай галавой.— Каб жа веданне, што ўдача, узяў бы... У вёсцы ёсць. Гоняць. Нясі, баба, з прыпечка, тут астыне.

Угледзеўшы яе, Ірку, ён змоўк, але бацька махнуў рукой, і Язэп паклікаў Ірку да стала, даў відэлец.

— Садзіся з намі і ты, маладая гаспадыня. У такім разе я табе, Андрэй, скажу,— крануў ён бацьку за плячо,— усіх за стол.

Бацька маўчаў. Ірка вунь як хацела есці: на стале была вараная бульба — яе пасыпалі на абрус,— і скварлося ў патэльні мяса, пахла на ўсю хату.

Ірка ніяк не магла даўмецца, пра што гаварылі: думала ўсё, чаму не прыйшлі сёння алені. І калі Язэп, панюхаўшы відэлец, сказаў: «Лясное лесам і пахне»,— яна папыталася ціха, як сама ў сябе:

— Дзе ўзялі?

За сталом ніхто не крануўся, усе як застылі. Павярнулі толькі галовы.

— Дзе ўзялі? Не буду есці! Не зачаплю... — Яна ўскочыла, адсунула лаўку і выбегла з-за стала.

Маці дагнала яе ля печы:

— Паскудніца. Яна не будзе! Дзеля яе дзень і ноч стараюцца, дзеля яе на ўсё... дзеля яе... а яна... Ану, марш на печ! Я з табой пагавару, пачакай, хай чужы чалавек з хаты пойдзе. Вырасла... Капрызы... Не ўгадзілі ёй, не з таго боку падышлі, скажы ты... Я з табой, шчаня...

— Не трэба, маці... Крык тут лішні. Яна ж не ведае, што Язэп купіў нам бычка... За сена вытаргаваў. А яна чорт ведае што падумала. Расце нейкая далікатная. Тое ёй не так, гэта не гэтак. І-ірка! Доўга цябе будзем клікаць? Не зважай, Язэп, дзяўчо заўрагавала. Бывае...

Ірцы раптам стала нечага шкада; яна залезла на печ у куток і не стрымалася, заплакала.

— Кінь хныкаць, нябітая!..— крычала на яе з-за стала маці. Пасля Ірка суцішылася і задумалася:

«Чаму не прыйшлі алені?»

— Супакоілася. Заснула. Нічога, пасля павячэрае, не зважай надта, сусед,— чула яна, як упрошваў Язэпа бацька. Пасля яна пачула, як зашаптаў Язэп:

— А скуру ты, Андрэй,— пад лёд. Пад лёд яе, сам ведаеш, усё бывае. А я ў вёсцы буду прыслухоўвацца.

— Язэп, праз цябе, Язэп. І ты ведаеш, чым гэта пахне. Адзін бы я... ніколі ў свеце. Калі ж у хаце посніца. І то, каб не ты, ніколі б я не зачапіў. Першы і апошні...

— Ну, запеў. Хто іх лічыў пасля вайны? Бегаюць па лесе, і ўсё. А скуру... — Язэп зноў пачаў шаптаць.

Ірка засынала. Яна чула, але не ведала, пра што гавораць.

І назаўтра яе алені не прыйшлі. Не прыйшлі яны і праз дзень. Ірка больш не магла чакаць...

Балота прысыпана снегам, на снезе — жоўтая карыца ад сасны, яе прынесла сюды з бору ветрам; дробныя жоўтыя яловыя іголкі, злёны, у клубочак, мох-паўзун — яго прыкаціла па шэрапі. На куп'і снег стаіць ворахам: пад ім старая, сухая і пруткая балотная мятліца і хвошч — яны вытыркаюцца, і па іх цяжка ісці на лыжах. Спатыкаешся, не памагаюць і кійкі.

Баляць ногі: Ірка прыбегла са школы і, не распранаючыся, нават добра не пад'еўшы, схапіла ў сеначках лыжы. Як добра, што дома нікога не было. Бацька ў пушчы, маці, мусіць, пайшла ў вёску.

Ірка прабегла на лыжах усю пасеку, скалясіла зашыек у Бярэзаўцы, дзе крыніца, але нічога не знайшла. Учора ноччу валіў снег, пазамятаў усё на свеце, добра, што сёння хоць перастаў. Але ж зноў узяўся мароз: там, дзе заходзіць сонца,— чырвонае неба, і ўгары раз'ехаліся хмары. Яны цяжкія, густыя і цёмныя. І нізкія-нізкія, за сосны чапляюцца. Холадна ў пальцы: настыла дрэва. Ірка часта бярэ кійкі пад паху і тады бяжыць па снезе, хукаючы ў рукі. Заінелі вейкі, не чуваць шчок,— пякло, цяпер перастала; добра, што яна надзела бацькаву старую вушанку — хоць не холадна ў вушы.

Ірка часта спыняецца ля ракі, прыкладае да шчакі руку і крычыць на ўвесь лес:

— Цяля-я... Цяля-я... Цяляты мае, цяляты...

«Я-я-я...» — дражніцца з Паліка рэха, глухое, далёкае.

Ірка баіцца крычаць — яшчэ пачуе тата. Але ціха. Нехта ля вёскі стукае сякерай; каркае ля стажка на калку варона, цылькае дзяцел над галавой, стукае ў гнілую сасну, як у сухую шчапу. Вунь ён, варочае галавой з боку на бок і дзяўбе, як усё адно высякае паз. На Высокім Беразе гудзе трактар, калі адтуль зойдзе вецер, і зноў робіцца ціха.

— Цяля... Цяля-я... — Ірка ідзе ля ракі, яна пойдзе аж туды, дзе старыя чорныя вольхі, пад Ліпнікі; не страх, калі і сцямнее. Яна ведала, што алені ходзяць да вады, яна ўгледзіць іх. Яна ведае яшчэ, што ў запаведніку іх няма, казаў тата, не мог жа іх хто злавіць і заперці ў загарадку. А можа, яны маразамі сышлі ў Аўгустоўскія лясы?

Лес сіні, як ад дыму, і ціхі, натапыраны. Малады сасняк пажаўцеў і, здаецца, сухі — загарыцца ад сярнічкі. У сасняку — старая бяроза з абламаным верхам, у грыбах-губах. Адламаны, відаць, перуном, верх вісіць, звесіўшыся; на голлі папрысыхала жоўтае лісце.

На балоце паабапал сенажаці — бярэзнік. Белы, як аблеплены снегам. Далёка над ім — вострыя цёмныя вярхі елак — гэта ў Ліпніках. У бярэзніку растуць і малыя сасонкі, дробныя, прыземістыя, з вярхамі, як парасончыкі,— што кроп у агародзе.

Чым далей ад дому, меней гілёў са сваімі чырвонымі грудкамі,— не пырхаюць з куста на куст. Затое пад зялё-

ным пад'ялоўцам, дзе сухая трава сівец, і ў лазовых кустах — сляды зайцаў. Зайцы гойсалі па балоце і згрызалі галоўкі сухой травы, з якіх на снег высыпалася насенне.

Па рацэ — па лёдзе — бегла ліса; коўзалася — знаць па следзе.

На снезе ля куп'я — сляды дзікоў. Тыя падышлі да ракі, здрабяжылі снег і вярнуліся назад, у кут.

Цямнелася. Ёй хацелася плакаць, хацелася вярнуцца дамоў. Яна доўга стаяла, пачынаючы мерзці. Падгіналіся разамлелыя ногі, хацелася сесці, марыў сон. І тады яна знянацку ўбачыла аленяў. Глядзела на іх і не верыла сабе.

— Мае алені... Цяля, цяля-я... — паклікала яна.

Алені выйшлі з расцяробу, што вёў з пасекі ад Высокага Берага, і падаліся пад Старыя Вольхі. Іх было толькі трое. За бязрогай маці бегла двое малых.

«Дзе ж рагаты?»

Ірка стаяла і доўга клікала яго, пасля пусцілася следам за імі. Яны ўбачылі яе і сталі ўцякаць. Яна зноў пачала іх клікаць. Яны тады выбеглі на балота і пусціліся берагам ля ракі. Ёй было здалося, што яны спыніліся і чакаюць яе; яна тады забывалася, што цяжка дыхаць, бегучы, што баляць у каленях ногі, што трэба было адшпіліць ля шыі гузік — ён вунь як душыць, і бегла, бегла. У зашыйку, ля кустоў, трапіўся глыбокі снег, грузлі лыжы, правальваліся кійкі аж недзе на той свет — яна зноў узяла іх пад паху.

Алені беглі адзін за адным, як і кожны вечар. Яе алені. Дзе ж рагаты? Ён зараз выскачыць ім напярэймы, заверне і пагоніць назад, у самы кут Бярэзаўца, дзе стажок... Хутчэй бы ён выбег, Ірка не можа так спяшыць — задыхаецца.

Цямнелася хутка. У небе загарэліся зоркі, дрыготкія-дрыготкія і — зялёныя. Алені ўжо зліваліся ў адну цёмную пляму, стаялі на адным месцы, як куст, пасля разбягаліся і зноў беглі адзін за адным. Здавалася, што наперадзе бабы нясуць за плячыма вязкі з сенам, спыняюцца, кладуць іх на зямлю, каб адпачыць, пасля паддаюць адна адной і — бягуць. Бягуць па такім балоце...

Тады Ірка зноў клікала. Яна баялася, каб не згубіць аленяў. Яны збягуць. Збягуць у Аўгустоўскія лясы. А можа, рагаты збег ужо туды, кінуўшы сваіх? Рагаты — добры, ён не збяжыць. Толькі чым яна цяпер пакорміць яго?

Ёй часам здавалася, што ён сам бяжыць наперадзе,

уцякае ад яе. Яна тады спынялася і клікала — моцна, на ўсе грудзі.

Аленяў было толькі трое, і яны блізка былі ад яе. Яна дагоніць іх, ёй бы толькі дагнаць, а там яна заверне іх сама ў Бярэзавец...

Ірка хрыпла і не магла больш крычаць. Горка стала ў роце. Неба пачало рабіцца зялёным-зялёным...

Вунь ужо Старыя Вольхі. Гэта ж далёка ад дому, думае яна.

Наперадзе ўжо згіналася і закідала на плечы вязку сена толькі адна баба і рабілася ўсё меншая і меншая. Пасля раптам вязка ўпала ў яе з плячэй і рассыпалася. Па белым балоце пабеглі маленькія алені. Многа-многа... Усё поле ўкрылі... І ўсе рагатыя, сівыя ў чорныя плямы...

Ірка пачула, як яе нешта душыць, сціскаючы горла. Пракляты гузік, не адшпіліла. Яна выпусціла кійкі і хацела зняць з галавы шапку, каб можна было адвязаць рагі ў хустцы. Але рукі не слухаліся. Падвярнула раптам пад грудзі і моцна-моцна стукнула ў галаву.

Па полі пабеглі зялёныя алені.

Ірка ўпала на снег.

Ноччу, калі ўжо ўзышоў злізаны месяц, Ірку знайшоў тата. Ён прыйшоў у Старыя Вольхі па следзе, пазнаў лыжы. Ірка была жывая. Прынёсшы дамоў перад сабой, ён доўга адціраў яе снегам.

Усю ноч Ірка кідалася спрасоння, блузніла — гарачая, не падступіцца,— і клікала сваіх аленяў.

Назаўтра, чуць святок, Андрэй пабег у вёску, каб паехаць па доктара.

У Іркі было запаленне лёгкіх.

*1962*

## Бежанка

Іх звалі бежанцамі. Паявіліся яны ў нас перад канцом вайны, у сорак трэцім годзе ўвосень. Шапталі ў вёсцы, што гэта паліцэйскія сем'і, якія баяцца нашых і ратуюцца, падаючыся на захад, далей ад фронту; гаварылі, што

немцы проста эвакуіравалі іх з Браншчыны, адступаючы і гонячы ўсіх перад сабой; казалі яшчэ, што гэта толькі голыя, галодныя і бяздомныя людзі, якіх багата было вайной і якія, бадзяючыся па свеце, прыблукалі нарэшце ў наш кут.

Аселі яны ў Сушняках, можа, не дабраўшыся да нашай вёскі праз гразь на грэблі. Было іх тры сям'і. Дзве пасля нешта не залюбілі Сушнякоў і зімой падаліся шашой далей на захад са сваімі хатулькамі.

Асталіся толькі Барабанавы, дзве пажылыя, змардаваныя жанчыны — сёстры. Адна з іх была з дачкою Валяй.

Валю я за вайну бачыў толькі адзін раз, калі немцы бамбілі Сушнякі і нашы Ельнікі і калі абедзве вёскі, не чакаючы такога ліха, сыпанулі да ракі ў альшэўнік. Валя з маці не пабеглі, як усе, яны ўпалі нічком на дзядзінцы недалёка ад могілак за вёскай, дзе іх засталі самалёты, і калі мы вярталіся назад, яны сядзелі ўпобачкі і пра нешта ціха гаварылі. Прыйшоўшы з-пад фронту, яны не баяліся бамбёжкі.

Валю я тады бачыў здалёку, не разгледзеў і не запомніў.

Жылі Барабанавы спачатку ў адзінокай старой Сымоніхі, пасля перайшлі да Жардэцкіх — на самы канец вёскі пад нашы Ельнікі. Сымоніха не магла адна пракарміць траіх чалавек, а ў Барабанавых з сабой толькі таго і было, што лахманы на плячах ды рукі. Жанчыны, каб пражыць, не стыкаліся ніколі дома — шылі ў каго, мялі лён, а то і пралі кудзелю: людзі ў вайну жылі, як хто ўмеў і як хто мог.

Жардэцкія ж раптам разбагацелі, калі з немцамі вярнуўся сам гаспадар, якога судзілі за кражу.

Вярнуўшыся, Жардэцкі не пайшоў ні ў паліцыю, ні ў партызаны, а з сынам пачаў карчаваць пасеку. Яму трэба былі рукі, і ён узяў у хату Барабанавых.

Так і жылі ў Сушняках у Жардэцкіх Барабанавы, аж пакуль не прыйшлі нашы.

Ніхто не ведаў чаму, але да сябе дамоў яны не спяшаліся. Зноў у вёсцы пра іх пачалі гаварыць благое («Дурная тая птушка, якой сваё гняздо не міла»), не даючы веры, што ад іхняга сяла нават вугалля не асталося. Але Барабанавы ні на кога не злавалі, з усімі былі ветлівыя і заўсёды віталіся, чаго ні ў Сушняках, ні ў нашых Ельніках не было ў модзе.

Я неўзлюбіў Пецю Жардэцкага яшчэ да вайны, калі мы хадзілі ў школу і ён загадваў насіць яго кнігі. Можа б, мы з ім ніколі і не спаткаліся больш на дарозе, калі б яму, васемнаццацігадоваму бамбізу, не захацелася вучыцца і ён разам з малымі не пайшоў у шосты клас. Школу ён быў ужо кінуў — за два гады перад вайной, калі пасадзілі бацьку. Яго ні на якім ланцугу тады не змаглі зацягнуць у Грыневічы, дзе была школа,— ні старшыня сельсавета, ні настаўнікі. Не бацькава віна была прычына — гультай знайшоў зачэпку, каб закінуць «арыхмеціку»: быў тупы.

— М-муха, мазгі сушыць. Кароста ад яе на лбе выступіць...

«Мухай» ён зваў не толькі арыфметыку: гэта слова было ў яго заўсёды напаяўку.

Ён быў на тры гады старэй за Валю, але яны пасля вайны пайшлі ў адзін клас.

За Валяй ён поўзаў усюды, не спускаючы з яе вачэй: відаць, дзеля гэтага пайшоў зноў і вучыцца. Спачатку ён на ўсіх, хто быў бліжэй да Валі, глядзеў здаля, пасля стаў адпіхаць і нарэшце перасеў ад грубкі з задняй парты ледзь не наперад — да Валі. Але толькі на адзін дзень: яго назаўтра ж адсадзілі на заднюю парту, аднаго — на ім на ўроках аж скура гарэла.

Валя была невысокая, чорнавалосая, свае дзве тоўстыя касы яна заўсёды перакідала на грудзі. Вочы ў яе былі чорныя і бліскучыя. Яны ў яе, мусіць, балелі і слязіліся. Яна яшчэ смяялася, ціха, нясмела, але доўга. Закіне галаву, як маладое бусляня на гняздзе, і смяецца, аж пакуль яе хто не пачне тузаць за косы. Смяялася яна і на перапынках, і на ўроках,— забывалася. Але яе ўсе любілі. Яна, як і яе маці, была прыветная з усімі, з кожным дружыла і добра вучылася. Толькі Пецю Жардэцкага яна ніколі не кратала. Невядома, як яны былі між сабой дома, Валя ж пражыла ў Жардэцкіх цэлы год, але пра тое ніхто не ведаў, бо нідзе не гаварылі. Калі Пеця браў яе кнігі ці сшыткі, яна давала яму адразу: няважна — перапісаць ці толькі паглядзець. Яна не шкадавала, але ніколі з ім не гаварыла.

Мы вучыліся ў чацвёртым класе. Школа ў Грыневічах была ў даўнейшым панскім двары — новую спалілі немцы,— цёмная, з вузкімі класамі і козламі замест парт. Наш чацвёрты быў у самым апошнім вузкім пакоі, і мы заўсёды на перапынках бегалі праз шосты клас, абыходзячы здалёку Пецю Жардэцкага, які з лінейкай стаяў у дзвя-

рах і хвастаў па нашых стрыжаных галовах. З ім мы не гаварылі, як і Валя.

Але Валі ён не чапаў, а з нас на дарозе віў вяроўкі: настаўнікам жаліцца на сябе ён забараніў,— гразіў расшчапіць галаву.

Ад Сушнякоў у Грыневічы трэба было ісці кіламетры з чатыры па густым ельніку, які рос у нізкіх лагах, дзе заўсёды стаяла вада.

З Ельнікаў нас хадзіла чатыры хлапчукі, усе ў чацвёрты клас; ля Сушнякоў далучаліся Валя з Пецем Жардэцкім, і мы ўшасцёх ішлі праз лагі ў «другую змену». Увосень, калі мы вярталіся дадому, заўсёды нам цямнела ў ельніку, і калі б не Пеця, мы баяліся б. Але Пеця, бачачы, што мы азіраемся па кустах, выпроствайся, разгінаў свае шырокія ў кажуху плечы і знарок ступаў паволі, як бык ад ракі, напіўшыся вады. У вачах у яго тады, і праўда, было нешта бычынае: яны цьмяна паблісквалі ў цемнаце, як зацягнутыя дымам. І тады ён рагатаў на ўвесь лог:

— А-а-а... Муха! Выдатнікі!.. Ану, падхапіце мой чамадан. Я паддам вам смеласці.

Ён даваў нам свой чамадан каторы ўжо раз, і мы неслі яго — вялікі, з белай фанеры, якая, відаць, збольшага была прыбіта, бо цвікі рвалі штаны.

— Не хныч! Матка новыя паш'ёць і старыя падаб'ёць,— рагатаў ён сам сабе.

Чамадан быў цяжкі: напакаваны асінавай шчапой. Пасля вайны не было ні сшыткаў, ні паперы, і ў першыя дні, калі пайшлі ў школу, мы пісалі на шчапе. Лепш за ўсё было пісаць на асінавай: яна белая-белая, як папера, і адмывалася, не тое што сасновая — рашыў задачу, занёс у школу і выкідай у печ. Толькі асінавай шчапы цяжка было дастаць, як і любой. Але Пеця даставаў. Яна ляжала ў хляве ў Сымоніхі, пад сенам. Сымоніха пры немцах пачала перакрываць хату і не кончыла: не хапіла дроту на цвікі. Шчапу яна берагла, але ж ад Пеці Жардэцкага нічога нельга было ўпільнаваць: кожны дзень у яго быў поўны чамаданчык шчапы.

У чамадане яшчэ былі: крэйда — белая, зялёная, чорная; сухія скарынкі хлеба, «энзэ», якімі ён хрумсцеў ля грубкі на ўроках; патроны ад нямецкай вінтоўкі; паўлітровая бутэлька чорнага чарніла з фарбы; кавалак сала і яшчэ нешта ў маленькіх баначках. Казаў ён, што там пёры і кручкі ад вуды, але нам не паказваў.

Мы бачылі ўсё яго багацце, калі ён сам вытрасаў чамадан, дастаючы патроны, якія заўсёды ляжалі на дне.

Аддаўшы нам чамадан, ён даставаў з кішэні кажуха страшэйку. Страшэйка — пята ад гільзы з-пад гарматы-саракапяткі, адрэзаная так, каб яе толькі можна было ўзяць у руку. Капсуль з гільзы быў выбіты — у дзірку гладкім каменем альбо малатком заганяўся патрон ад нямецкай вінтоўкі. Гільзу тады трэба было браць у левую руку і настаўляць на капсуль патрона баёк. Баёк — стальны асяродак ад бранябойнай пэтээраўскай кулі, што ўстаўляўся ў раменьчык, які пасля прыціскаўся пальцамі да гільзы. Па такому байку трэба было добра ўдарыць тым жа каменем ці малатком.

Страшэйка біла моцна, як нямецкі карабін, нават куля з яе ляцела далёка, метраў на сто, і цюмкала. Парваную гільзу са страшэйкі трэба было доўга выбіваць «шомпалам» — кавалкам ржавага жалезнага шыла, якім стары Жардэцкі пры немцах калоў па вёсках свіней.

Выбівалі гільзы мы, нюхаючы дым. Ёмкі стрэл, ад якога шумела ў ельніку рэха, агонь, што вырываўся з гільзы, прыдавалі нам смеласці, а Пеця Жардэцкі бурчаў і лаяўся:

— Э-э-э, муха... Выдатнікі...

Страляць са страшэйкі было боязна, але вунь як хацелася, ды Пеця Жардэцкі даваў страляць толькі таму, хто яго баяўся і слухаўся. Мяне ж да сваёй страшэйкі ён не падпускаў і блізка:

— Смаркач, муха...

Я быў маладзейшы за Валю аж на тры гады, а ў нашай кампаніі — самы меншы. Можа, таму за мяне заступалася Валя. Учэпіцца за руку Пецю, нічога нават не скажа, і той выпускае мяне з лап.

— Шчасце маеш, што яна за цябе, абрымзонік, душу роніць. А так бы... Паглядзі, на каго ты падобны.

Я, худы, у рваных матчыных чаравіках, якія яна яшчэ купляла да вайны і берагла, у пашытым з абноскаў кажушку, выкачаны ў снезе і мокры, быў, і праўда, падобны невядома на каго. Але Валя дружыла са мною. Яна, мусіць, шкадавала мяне. Калі мне трэба было цягнуць Пецеў чамадан, яна сама брала яго ў мяне з рук і несла; яна падносіла і мае кніжкі, абівала ў мяне з плячэй снег, калі Пеця качаў нас у гурбах. Ён тады забіраў у яе з рук свой чамадан і аж рыкаў са злосці, як бычок:

— Пашкадавала... У мужыкі, мусіць, яго гадуеш... Ска-

жу дома, хоць старая Барабаніха парадуецца... А ты, муха, з дарогі прэч! — і ён замахваўся на мяне, але не біў.

Валя ж маўчала. І так усю восень.

Прыйшла зіма. Адразу ўдарылі маразы і закруцілася мяцеліца. З усяго поля дзень і ноч дзёрла снег і пясок і несла ў вёску. Ад марозу трашчалі вуглы і лёд ля студні — вымярзала вада, у ельніку на дарозе з-пад снегу падымалася пара — там была крыніца.

Занесла лагчыны, не прайсці — правальваешся па пахі. Па твары, як сухім надзежнікам, хвастаў вецер, мерзлі шчокі і нос. Цяжка было хадзіць у Грыневічы, але нас не распускалі: мароз не даходзіў да дваццаці пяці градусаў.

Трэба было мясіць снег уцэла — пракладаць сцежку.

Пецю Жардэцкаму на зіму пашылі доўгі чырвоны кажух з вялікім чорным каўняром; на валёнкі Пеця надзяваў боты, раскошныя, бацькавы. Бацька яго сам выраблаў скуру, сам і шыў. Боты пахлі дзёгцем усю дарогу і ўвесь дзень у школе: Пеця іх сушыў, паставіўшы ля грубкі, а па класе гойсаў у валёнках. Чырвоны, з круглым тварам, з вялікім носам і тоўстай шыяй, ён ішоў у сёмы клас «да дзяўчат», аж пакуль яго не сталі вадзіць у настаўніцкую на педсаветы.

Хацелі састрыгчы яму польку — ён не даўся, затое пацішэў. Але рот у яго не закрываўся.

— Ну дык не збіраешся?..— падступаўся ён да Валі. «Не збіраешся» — значыла ў яго «не збіраешся замуж».— Усё малішся. Гады недзе ўрвала. Пара. Ты, мусіць, мая равесніца, факт.

Валя раз не сцярпела. Дала яму па твары і плакала ўвесь урок. Яе ніхто тады не мог суцішыць: у яе разбалелася галава. Валя адпрасілася дадому.

У той вечар мяцеліца зусім ашалела. Ад снегу не было відаць ні дарогі, ні ельніку. На горку ад Грыневіч мы падымаліся, пабраўшыся за рукі.

Снег увачавідкі мякчэў, не сек па твары,— відаць былo, што адваліцца мароз,— але сыпаў, як хто мякіну шуфлем. Дарогу зраўняла, поле было белае і чыстае, як абрус на стале. Добра, што Валя пайшла дадому днём.

Мы былі ўпяцёх; пяты — Пеця Жардэцкі. Ісці было цяжка, нылі і балелі ногі. Пеця цягнуўся ззаду, наставіўшы каўнер кажуха, і соп. Ён быў сёння ціхі і злосны.

Калі мы выйшлі з лагчыны на поле,— выбіліся з сілы. Вецер тут быў у вочы і валіў з ног. Мы адварочваліся і ішлі задам наўгад, але зрываліся з дарогі і правальваліся

па пояс. Пеця, ідучы па нашых слядах, улазіў у снег аж па калені.

— Я вам, муха, адвярнуся! Ану!.. — ён крычаў на ўсё горла, і вецер гнаў яго голас па полі.— Сняжку баіцёся, выдатнікі. Папрабуй хто яшчэ збіцца з дарогі — там і астанецца. Шчаняты. Яны вучыцца захацелі... Кіну школу, дык некалі воўк без мяне... Я ў вашы гады... А ты, смаркач,— гэта ён крычаў на мяне, я ішоў наперадзе,— у жаніхі ўжо збіраешся... Сняжку яшчэ многа трэба паталтаць... Гэта табе не задачку рашыць ды адказ зверыць, ці правільна. Тапчы, тапчы, падмяніць няма каму. Усе яны слабей за цябе, ты самы жылісты. Гэ-гэ... З тваёй сілай яшчэ мяне можна... Давай, давай, выдатнік, муха... Тая бежанка днём лінула дахаты, збаялася снегу заступніца ваша,— аж скрыгатаў ён зубамі.

У мяне вылазіў з рота язык і ў горле рабілася горкагорка: я не мог нікуды ўцячы па такім снезе...

Чаго на нашай дарозе кожны дзень гэты чалавек?

Пасвятлела. У небе за хмарамі над самай галавой паявіўся далёкі месяц, яшчэ не зусім круглы. Здавалася, пацішэла, толькі ўгары хмары несліся некуды, як шалёныя, набягаючы адна на адну. Сыпаліся цяпер зверху адны дробненькія крупы.

Былі ўжо відаць агні ў Сушняках за ельнікам. Хоць бы адчапіўся Пеця Жардэцкі.

Ён, здавалася, раптам субожыўся:

— Ну, выдатнікі, вярні ў кусты. Ламі лапкі і кладзі пад сябе. Аддуха. Слабыя вы яшчэ, а ад Сушнякоў да Ельнікаў яшчэ вярста. На гары ля могілак замяло не так. Ну, не стойце, бярыце мой чамадан... Вунь пад тую елачку, дзе сухая папараць.

Я ніколі б не астаўся з Пецем Жардэцкім у ельніку, але ісці далей не мог.

Агню мы не расклалі: не гарэлі ні папараць, ні яловыя лапкі. Пеця распальваў сам; у нас скрэплі рукі і былі што граблі. Пасля ён вылаяўся і засоп, бы за дарогу намарыўся горш за нас.

— Нічарта, муха, не адубеем. Больш лапак пад сябе. Мароз адваліўся — што, не чуеце сваімі насамі? Што, яны ў вас паадмярзалі? Га-га... А тая бежанка драпанула. Ну, я... Эх вы, смаркачы. Нічога вы не разбіраеце. Вам толькі табліцу грызці: два ў два — чатыры... А тут... Яна мне, гэта бежанка, душу назнайніцу вывернула... Што натапырыліся? Вочы гараць, як у катоў. А ты, малы, што нос ад-

вярнуў? Што? Ніколі такога не чуў? Ці, можа, слухаць не хочаш? Га-га-га... Школу скончыўшы, усё трэба знаць. Думаеце, вам Валянціна Мікітаўна пра тое раскажа, выдатнікі? Яна толькі пра табліцу. А я, муха, вас трошкі адукую. А то так і памерзнеце, не ведаючы, што на свеце яшчэ нешта ёсць, не толькі табліца, х-ха...

Мне не хацелася слухаць, бо такое ад Пеці Жардэцкага я чуў ужо не адзін раз. Я надумаў быў пайсці адзін, але той дагнаў мяне, прыцягнуў назад і кінуў у снег ля тых лапак, дзе я быў сядзеў.

— Звяжу, муха! Што, мамка адлупцуе, калі дачуецца? Пара ўсё знаць. Што? Сам я нічога не знаю? А-а-а, смаркач. На вечарынку прыйдзі да Сымоніхі... Мне вось толькі гэта бежанка... Як дзічка якая. І цяпер рубцы во, не пагаіліся. Што? Варта было? Я табе зараз заткну рот. Думаеце, яна такая ціхая, як на дарозе і ў школе? Не-е... Дома яна горш за Сымоніху. Сымоніха, калі ўсходзіцца,— адна вечарынку з хаты выганіць. І гэта... Толькі... — Ён раптам паляпаў па кішэні ў кажусе; забразджэла, відаць, ударыўшыся аб шомпал, страшэйка.— Нічога, скора ўсё будзе ясна, на гэтым тыдні. Толькі вы, дзеці, замок на губы. Хаця, хто вам паверыць? Ты, малы? — чапіўся ён усё да мяне.— Думаеш, калі я не люблю гэтай алгебры, а плюс бэ, то ні на што і не здатны?.. Ну, выдатнікі, марш на дарогу. Пасінелі, што курыныя пупы. Памерзнеце, праз вас тады яшчэ і па мяне прыедуць...

Мы зноў выйшлі на дарогу. Мне хацелася яму сказаць, што па яго трэба было прыехаць яшчэ тады, калі перад вайной па бацьку прыязджалі — разам жа хадзіў красці ў калгасны свіран,— але я маўчу. Маўчу, злосны на яго самога, на яго бацьку. Я не люблю яго цяпер больш за ўсё на свеце, больш за паліцэйскіх, якія ў вайну бегалі па вёсцы за Веркай Язэпкавай, я гатовы яго прасадзіць цяпер наскрозь, каб у мяне быў ражон. Але ў мяне няма ражна, і я са злосці раскідваю нагамі снег наперадзе ва ўсіх. За мной ззаду сапуць хлапчукі, за імі недзе цягнецца спацелы ў кажусе, абслімачаны Пеця Жардэцкі. Ён, мусіць, дурны, пачынае здавацца мне, і я пра нешта здагадваюся: «Ага, яго ж не ўзялі ў армію, значыць, ён і праўда дурны!..» Але я забыўся, што ў Пеці Жардэцкага зменены гады, што яму запісалі васемнаццаць... Пасля вайны гэта рабілі. Калі Пеця Жардэцкі і не дурны, то ён дэзерцір. Ён схаваўся, не пайшоў у армію. Ён думае, што я нікому не скажу, збаюся. Я сам пайду да старшыні сель-

савета, людзі пацвердзяць, што ён стары бугай, хай толькі ён стане чапіцца да Валі.

Пецю Жардэцкага мы пакінулі на гарушцы,— ён пайшоў у Сушнякі не гародамі, як заўсёды да сваёй хаты, а яму нечага захацелася пайсці цераз усю вёску.

Мы яшчэ не сагрэліся пасля седні ў ельніку, і цяпер у нас ні ў кога не трапляў зуб на зуб.

Зноў паваліў снег і ўсхадзіўся вецер. Сухі, калючы. Адлігу, мусіць, скруціла. Пасля апагодзілася; далёка над галавой за белымі хмарамі зноў пабег месяц, ля яго блішчаў вялізны круг — на вецер; пад нагамі пачынаў шорхаць снег — падмарожвала.

У Сушняках ва ўсіх гарэлі агні. Вецер нёс дым: пахла падгарэлай бульбай і смаллю. Брахаў сабака, звінелі ў некага ля студні пустыя вёдры.

Ад Сушнякоў трэба было падымацца дарогай да могілак па чыстым полі. Замяло. Мы ішлі адзін за адным, як галодныя гусі, ледзь цягнучы свае палатняныя торбачкі з кнігамі. У мяне былі адталі ў ельніку чаравікі і цяпер зноў змярзаліся, стукаючы адзін аб адзін, як капыты, калі я спатыкаўся. Я не чуў на нагах пальцаў.

За нашымі Ельнікамі завылі ваўкі,— нам здалося, што ля могілак. Добра, што на горцы, дзе да вайны была школа, нас дагнаў начальнік леспрамгасаўскага ўчастка і забраў усіх у вазок. Начальнік быў у такім кажусе, як Пеця Жардэцкі. Мне ён даў у рукі лейцы і загадаў паганяць каня, каб я грэўся, бо, едучы, магу зусім акалець. Ён слухаў разам з намі воўчыя песні і расказваў, як учора ноччу конюх у іх на ўчастку з кладоўкі праз акно аблажыў аднаго старога канятніка. Цмокаў усё губамі і гаварыў, што звяры абнаглелі зусім і каб мы без агню не хадзілі больш поначы.

Я паганяў каня і не слухаў, як вылі ваўкі і як гаварыў, не сціхаючы, начальнік участка. Я думаў пра Валю. Яна стаяла ўвесь час перад вачыма: смуглая, у сваёй маленькай цюбецеечцы, якую насіла ў класе, з чорнымі доўгімі косамі на грудзях, вясёлая і ціхая...

Мы ўз'ехалі на грэблю. За кустамі паказаліся агні з нашых Ельнікаў.

За мастом начальнік участка сагнаў нас з саней, каб мы не «пакачанелі», і хлыснуў лейчыной каня. Нам не хацелася злазіць. У нас не гнуліся ногі, але вылі ваўкі — і мы пусціліся даганяць сані. Беглі аж праз усю грэблю.

Праз дзень пачаліся вялікія маразы, і нас распусцілі.

Маразы пяклі тады цэлы тыдзень. На дварэ было ціха-ціха, трашчалі толькі зрубы ў студнях. Усё наўкола аб'інела — хаты, платы, дрэвы. З комінаў увесь дзень валілі дымы і ў нашых Ельніках і ў Сушняках; у такія маразы было халадна ў хатах. Мерзла ў хлявах жывёла і бульба ў выстопках.

Калі адпусціла, мы зноў пайшлі ў школу. Дарога за тыдзень была расцёрта і блішчала на сонцы — леспрамгасаўцы маразамі вазілі з Грыневіч на ўчастак сена,— і па ёй было лёгка бегчы. Мы былі рады: не трэба мясіць цалік.

У Сушняках да нас не далучыліся ні Пеця Жардэцкі, ні Валя, і мы ішлі ў Грыневічы сваёй кампаніяй.

Пеця Жардэцкі, кінуўшы школу, паехаў маразамі ў Данбас на шахты. Пра гэта нам сказалі ў школе.

І вечарам мы ішлі дамоў адны, не баючыся без страшэйкі. Дарога была выслізганая палазамі, і мы, коўзаючыся, беглі і беглі адзін за адным.

Пасля маразоў не пайшла ў школу і Валя. Не было яе тры дні запар. Дырэктар напісаў запіску і папрасіў мяне па дарозе перадаць Валінай маці.

Да Жардэцкіх я ішоў першы раз, але мяне не пусцілі ў хату.

На ганак выбегла старая Жардэцкая, зірнула на мяне, кальнуўшы вачыма, схапіла запіску з рукі, нічога не сказаўшы, зачынілася ў сенцах — запёрла за сабой дзверы.

Я стаяў на двары: хацелася хоць у каго запытацца, дзе Валя.

Валя больш не хадзіла з намі ў школу: казалі, паехала з маці і цёткай да сябе на Браншчыну,— прыйшло ад Валінага бацькі пісьмо.

Валі больш я не бачыў. Усё чакаў — яна прыедзе некалі яшчэ раз у Грыневічы: па даведку, што вучылася ў шостым класе. Але яна не прыехала.

Бежанка збегла... Я ўспомніў, што Валю ніколі не назваў бежанкай. Пачуў, што мне нечага не хапае і ў школе, і дома, што я згубіў нешта назаўсёды.

*1962*

# Танцы

Ён доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма, глядзеў у закураную ўгары ля коміна столь і ніяк не мог даўмецца, чаму над ім шуміць лес... Шуміць, як бы сабраліся з усяго канца вёскі бабы і шэпчуць над вухам.

Яшчэ ён чуў, як нешта лопае ў галаве, як адубелі ногі,— іх не скранеш, не варухнеш пальцамі. Ён тады адно толькі і зрабіў, што павёў вачыма — рэзала, як бы малаціў у таку цэлыя суткі ячмень і ў іх набілася дробнага-дробнага, пасечанага асця, якое можна дастаць толькі языком. У нагах убачыў, як з'ехала да брыжа і звісае аж на падлогу некалі чырвоная ў жоўтыя клеткі, тканая ў два ніты са зрэбнага ачосся пасцілка, што прыкрывала салому. Пасцілка выліняла, але і цяпер яшчэ калючая, уся ў кастрыцы,— адчуваеш босымі нагамі. Ён убачыў і брыж ложка з белых негабляваных яловых дошак. У ложку былі клапы, і Юлька іх выганяла лучынай з агнём,— на дошках чарнелі палосы, нібы хто сцёбаў па іх анучай, якой бяруць з прыпечка гаршчок з бульбай.

Ён здагадаўся, што прачнуўся, што яго разбудзілі, калі ён, мусіць, сніў сон. За сцяной недзе крычалі і дугалі па зямлі нагамі: дуг, дуг, дуг...

«Каторы раз вачэй не даюць звесці,— падумаў ён.— Пазбіраецца баб з усёй вёскі... Панаводзяць з сабой пісклят...»

Ён сеў, звесіў ногі з нізкага ложка аж на падлогу,— яна тут, у парозе, была халодная, як сырая зямля,— і падпёр рукамі падбародак. Сядзеў доўга, аж пакуль ад вострых худых локцяў не забалелі калені. Тады стаў пагойдвацца,— мусіць, каб адышла балючая паясніца,— паволі-паволі. Пад ім зашастала збітая на ўмецце салома і зарыпелі дошкі ў брыжы, што ад сцяны. І яму зноў здалося, што над галавой шуміць лес, сасняк, праз які яму, Піліпёнку, заўсёды трэба ганяць леспрамгасаўскіх коней з участка, дзе былі дзве новыя канюшні, да вады — на Плавы. Зімой і летам. Другі ўжо год пасля вайны ў іх, у Лесніках, быў леспрамгас. Дзень і ноч ён, Піліпёнак, шлэпаў за коньмі да самай ракі,— за тымі, якіх позна выпрагалі возчыкі, і труха́ў конна за жарабятамі, якія пёрліся куды глядзелі вочы. Зімой пад нагамі ў коней хрумсцеў снег, летам звінела аб падковы каменне, і толькі лес заўсёды на адны лады шумеў над галавой: манатонна, густа і нудна. Да яго

цяжка было прывыкнуць, ад яго заўсёды ішоў па спіне шорах і балела доўга галава. Тады Піліпёнак стараўся хоць што гаварыць: калі не да коней, дык сам да сябе,— каб толькі не маўчаць. Так у Лесніках сталі шаптаць, што ён вар'яцее, і, сустрэўшыся з ім, кожны спыняўся і доўга глядзеў услед. Гаварылі, што Піліпёнак не любіць людзей, бо ён не ішоў ні да каго ў вёску. Жыў на ўчастку ў кладоўцы, дзе скідвалі, а зімой сушылі хамуты і ўсякую леспрамгасаўскую вупраж, і рэдка паказваўся ў Лесніках. Аднаго яго нідзе ніхто не бачыў — толькі з коньмі.

Не хадзіў Піліпёнак і ў кантору на ўчастак, што была недалёка ад канюшні,— за лазняй, дзе сушылі бярозавыя чуркі для леспрамгасаўскіх машын — «чугрэяў». Не браў у касіра, які прыязджаў заўсёды на легкавой машыне на ўчастак, зарплаты. Хадзіў толькі ў магазін, які быў у канторы з прыходу ля дзвярэй, і браў уваспаваценькага магазіншчыка Федзі, на якога ніколі не падымаў вачэй, бохан хлеба і кіло цукерак «падушачак». Ніколі не плаціў грошай і прыходзіў да Федзі, надта не пільнуючыся,— відаць, тады, калі не было чаго есці. Затое за ягоную зарплату ў касіра ў ведамасці заўсёды распісваўся Федзя. Казалі, што ён абдурваў Піліпёнка (адным хлебам зарплаты ніколі не выбераш!), казалі і другое,— што вось добры чалавек знайшоўся: дарма корміць людзей, і што на яго месцы так зрабіў бы кожны. Ды з рабочага па якому граму і схітрыць можна: рабочыя народ добры.

Ніколі б не пайшоў Піліпёнак у вёску, калі б не захварэў. Бальніцы блізка не было, у раён ехаць ён не даўся, не ўгаварылі, хоць прыслалі па яго з лесу з дзялянкі нават легкавушку, на якой касір прывозіў зарплату. Але ж хто яго, старога і хворага Піліпёнка, стане даглядаць у той кладоўцы? І яго адвезлі на той жа легкавушцы ў хату да Юлькі, якая жыла ў Лесніках ля самага лесу і хадзіла мыць падлогу і паліць зімою грубкі ў канторы. Цэлы месяц праляжаў Піліпёнак у Юлькі ў запечку, пакуль зноў не вярнуўся да коней. А вярнуўшыся, пацягнуўся ў сушылку і ў магазін да Федзі. Перастаў гаварыць сам з сабой, прыходзіў адзін раз удзень у вёску да Юлькі і сядзеў у яе на двары пад варывенькай, гледзячы за раку на выган, дзе пасвіліся коні. Юлька яго ніколі не праганяла, чулі нават, як яна казала яму, што ён можа жыць у яе ў першым пакоі (там жа ніхто не начуе), але ён не ішоў. Толькі часам — з суботы на нядзелю, калі за яго на начлег ездзіў напарнік, Піліпёнак мыўся тады самы апошні

ў лазні — сушылцы для чурак, якую сам паліў і ў якой грэў каменнем у бочках з-пад селядцоў ваду. Першы мыўся начальнік участка, які любіў хвастацца, не баяўся чаду і якому трэба было ехаць дадому аж за пяць вёрст; потым — мужчыны-рабочыя, што заставаліся на ўчастку, пасля Юлька з бухгалтаркай канторы, і калі была цёплая вада, мыўся і Піліпёнак. Пасля лазні апранаў новую фуфайку, якую яму выдаў Федзя вясной з магазіна, і ішоў у вёску. Ішоў начаваць перад нядзеляй у хату да Юлькі,— на той ложак, які стаяў ля самага парога ў запечку і на якім гэтулькі праляжаў ён «пасля прастуды».

...Яму хацелася спаць. Учора ўсю ноч калясіў па балоце на Плавах, выбіўся аж на луг пад пушчу, пабываў ля крыніцы, анідзе не было і звання таго жарэбчыка, перазімка. Ён быў ад сівой маленькай кабылы-сібірачкі, такі ж малы і шалёны,— скура на ім гарэла.

Толькі пад самую раніцу, калі на Плавах закурэўся туман і лагі сталі белыя, як ад снегу, жарэбчык адгукнуўся,— заіржаў у Земфондзе на пасецы: залез у грэчку.

«Лезе пад ваўкоў... Зарэжуць — не адробіш да смерці».

Пад раніцу, калі Піліпёнак заняў і пагнаў жарэбчыка да коней, усхадзіўся вецер; сыры і востры, ён працінаў да касцей. Было холадна ў ногі і зябла спіна. Тады, раніцай, пад ветрам зашумеў лес. Зноў — густа і нудна, і зноў па спіне пайшоў шорах, як і раней, пачалі бегаць мурашкі. Ён адчуў, што яго водзіць галава.

«Воўк іх рэж, гэтых коней...»

Так ён сказаў сёння раніцай начальніку ўчастка, чулі ўсе возчыкі,— запрагаліся ехаць на тралёўку.

Начальнік маўчаў, заняты быў, ці што, і Піліпёнак, не падымаючы на яго вачэй, зноў сказаў: «Воўк іх рэж!» — і пайшоў на дарогу, што вяла ад канюшні да Леснікоў.

Ён пагойдваўся на ложку,— пад ім шамацела старая салома,— і думаў, што, калі ён ішоў сёння да Юлькі, здавалася, не было і ветру, а так шумеў лес... А можа, і тады, калі ён зганяў з грэчкі жарэбчыка, не было ветру?.. Мо стала холадна ад таго, што вымак, поўзаючы па кустах?

На дварэ быў дзень і свяціла сонца. На падлозе ля парога блішчэла жоўтая вышчарбленая квадратная палаоа — ад акна, якое рогам закрывала старая Юльчына шырокая шафа. Яму, калі ён, расплюшчыўшы вочы, утаропіўся ў падлогу, здалося спачатку, што там валяецца далікатная новая жоўтая хустка з загнутым ражком. І яму тады захацелася падняць яе з-пад ног («Такое дабро топчуць!»).

Ён выпрастаўся, з-пад падбародка ў яго выкаўзнуліся рукі і, матлянуўшыся, апусціліся на калені. Недзе ў парозе на судніку, дзе была пасуда, бразнула і зазвінела нешта шкляное.

Падняўшы рукі, ён доўга цёр пальцамі вочы, аж пакуль яны не сталі балець. Яму здалося яшчэ, нібыта трапіў у цёмную, як ноч увосень на начлезе, хату, дзе па сценах ходзяць жоўтыя кругі. Жоўтыя і чырвоныя, як полымя ноччу ад агню з печы,— ліжуць сцены. Ён адчуў, што і пальцы ў яго шорсткія-шорсткія, як старая яловая карына... Перад вачыма ў яго ўсё яшчэ вісела шэрае, што туман, павуцінне. Ён выпрастаў тады пальцы і правёў далонямі па твары. Падумаў, што не помніць, калі бачыў сябе ў люстэрку. Можа, перад самай вайной. Але ўспомніў, што і тады ў яго быў лоб увесь у складках і на шчоках пажаўцела скура. Пачалі расці дробныя сівыя валасы каля самых вачэй, хаваючы маршчыны. Цяпер яму здалося, што твар яго шорсткі, цвёрды і халодны, як камень, і яму стала на нейкую хвіліну шкада чагосьці далёкага-далёкага і зрабілася ўсяму горача. Успомнілася чамусьці самае высокае месца ў бары за Леснікамі, дзе людзі капалі жоўты пясок і ямы; белае каменне — валуны, і сырая-сырая зямля... Ён нават пачуў, як яна пахне... Гэта самае першае, што ён, мусіць, пачаў помніць малы, бо прападаў на выспе дзень і ноч... Яму здалося цяпер, што ён зусім дзіця, як і Колечка, яго ўнук. Тады адразу падумаў, што трэба было падстрыгчы бараду хоць бы ножніцамі, калі не пагаліць. Схадзіць бы да Федзі, у яго ёсць яшчэ даваенная машынка, і ён перад лазняй заўсёды стрыжэ леспрамгасаўцаў, за што яны скідваюцца па рублю і п'юць з ім самагонку. Леспрамгасаўцы-возчыкі любяць піць. Але ж дзе ты таго Федзю ўпросіш: ён ад цямна да цямна ў магазіне. Калі няма возчыкаў ці баб з Леснікоў ля прылаўка, ён, замкнуўшыся ў кладоўцы, грукае нечым там увесь дзень. Каб толькі падпільнаваць Федзю, калі будзе лазня. Але ж цяпер лета, начальнік участка даўно не мыўся, відаць, купаецца ў Віліі, калі ездзіць да возчыкаў. То хіба і яму, Пілipёнку, лезці ў раку на старасці? Не, у ваду ён не палезе, ён вунь як баіцца змачыць на начлезе на Плавах ногі. Толькі ж каб узяў ды напаліў для сябе аднаго лазню. Чурак там цяпер процьма. Але ж так на ўчастку ніхто яшчэ не рабіў.

Зноў пачалі дугаць нагамі, бегаючы на дварэ вакол хаты; дуг, дуг, дуг. Скрыпелі вароты, што былі ў гародчыку,— відаць, на іх каталіся, насеўшы, дзеці.

Калі ён стаў на ногі, у яго зашумела і залопала ў галаве, падперла ззаду шыю — не выпрастаеш. Тады ён падумаў, што віною ўсяму дзеці.

«Так грукаць... Пісклявы. Галаву адбіць можна... Хату абярнуць можна...»

Ён падаўся да парога, цярэбячы рукою худыя грудзі. Ішоў памалу, думаючы, што пачынае балець галава і вунь як цягне на сон. І не сціхае шум, як бы вісіць зашыты ў мяшку там, пад столлю, дзе шасток з цыбуляй. Ён гэтыя два гады не любіў так свой чорны з магазіна хлеб і чырвоныя «падушачкі», як сон. У сне ён бачыў выспу, парытыя ў сырым пяску ямы і малога сябе. У сне над ім ніколі не шумеў лес, не было коней і не было так нудна. Не балела сярэдзіна і не трэсліся рукі. У сне ён бачыў Колечку...

З-пад дзягі ў яго выехала чорная, колькі ўжо разоў не мытая картовая кашуля, напялася, як накінутая на абруч, і калі ён, ідучы, махаў рукою, чуў, што яна здубела, як мокрае на марозе. У сенцах ён доўга не мог знайсці клямкі, а знайшоўшы, доўга не мог адчыніць дзвярэй, пакуль не здагадаўся, што яны, мусіць, аселі. Падняўшы іх і адкінуўшы да сцяны, ён выйшаў на падворак і ўбачыў, што, мусіць, сваім грукам спалохаў і прагнаў ад ганка белых Юльчыных курэй, і яны адскочылі аж пад асвер, дзе ляжала падсцілкі са дзве растрэсенага сена. Успомніў, што Юлька загадала раніцай дзецям ганяць з панадворка курэй. Прыхінуўшыся да сцяны, ён заўважыў, што падгніло з двара ў старой Юльчынай хаце бярвенне і што між пазоў вісіць сухі мох чортведама якой даўнасці; падумаў, што Юльцы вунь як трэба перасыпаць хату і што ёй цяжка насіць на плячах травы карове на ўсю зіму, хоць Юлька і маладая — па гадах яго дачка. І памагчы ёй няма каму: жыве з малой. Знайшоўся, калі былі партызаны, Юльцы муж, але пасля вайны пра яго ні слуху ні духу, відаць, кінуў бабу, бо казалі, што бачылі яго аднаго разу на рынку.

На дварэ ярка свяціла сонца — біла ў вочы,— і ён, засланяючыся далонню, падаўся да частаколу; у цяні, дзе сцяна, не было за што трымацца. Між частаколу з гародчыка на двор лез агрэст і калоўся ў пальцы; ён адрываў тады рукі ад частаколін і цёр пальцамі аж злубянелую кашулю.

Пакуль дадыбаў да варотцаў у гародчык, задыхаўся,— сэрца трапяталася, як у птушкі, ад поту змоклі і лоб, і бровы. Ён прыхінуўся да старога дубовага вушака, на якім

віселі варотцы, і доўга яшчэ не мог угледзець, што ж робіцца ў гародчыку: з-за маладога дубка, што рос ад вуліцы, па вачах сцябала калючае сонца, як хто махрамі ручніка.

Ён тады апусціў вочы долкі.

Убачыў, што з прыходу ад варотцаў было чыста падмецена і пасыпана жоўтым пяском. Пяском былі спырсканы і камлі дуба і маладой яшчэ грушы-дзічкі. На пяску валялася прытаптанае абабітае зялёнае лісце ад бэзу і чаромхі. Тут жа, пад самымі варотцамі, стаяў жоўты ржавы магазын ад старога, даваеннага яшчэ ліхтара, з якім у Лесніках хадзілі ўначы на ферме вартаўнікі; валяліся парожнія бутэлечкі з-пад адэкалону, карабкі ад запалак, на шчарбатым сподачку ляжалі пакрышаныя грушы-дзічкі. Воддаль, пад прызбай, ляжаў чырвоны круглы камень ад старых Юльчыных жорнаў, якія яна купіла ў вайну і ў якія насілі да яе мліва з усіх Леснікоў. На камені сядзела Юльчына Лінка (ён заўважыў яе толькі тады, калі падняў галаву) — плячыма да яго. Схіліўшы калматую белую галоўку на плячо і закінуўшы нагу на нагу, яна дзвюма рукамі расцягвала вялікі гармонік, зроблены з цэлай газеціны, перабірала па далонях пальчыкамі і лапатала на чым свет стаіць:

А-ля-ля́-ля ля-ля-ля́,
А-ля-ля́-ля ля-ля-ля́...

Ён доўга лыпаў вачыма, пасля, падняўшы рукі, пачаў церці вочы пальцамі, як і тады ў хаце. Праклятая шэрая павуціна вісела і тут, недзе перад самым носам, і ён ніяк не мог яе змахнуць.

Ён цяпер нічога не бачыў, чуў толькі, што дугаюць і дугаюць нагамі.

«Пісклянты...» — падумаў ён і, яшчэ не ведаючы, што стане рабіць, падаўся адшчапіць кручок ад варотцаў у гародчык.

Яго, мусіць, яшчэ ніхто не згледзеў: у гародчыку былі заняты сваім.

Юльчына Лінка расцягвала на ўсе рукі папяровы гармонік, а ля самай прызбы (ён толькі цяпер убачыў іх) на ўбітай дарожцы пад старым разгатым бэзам круціліся ў парах дзяўчынкі. Дзве пары — чатыры дзяўчынкі. Адну з іх, самую меншую, ён не пазнаў, трое ж былі дочкі Юльчынай суседкі Шульгі, якая рабіла на ўчастку дарожніцай і не мела мужа. Іх пазнаў ён адразу: яны былі як бліз-

няты, усе чорнагаловыя з бліскучымі чорнымі вачамі і ў аднолькавых сукеначках з карычневага пакамечанага і палінялага корту. У валасы яны пазаплятаді белыя стужкі, відаць, падраўшы на палосы паркалёвую хустку, акрамэскі ад якой віселі на частаколе. Босыя ногі іх былі чыста вымыты, і да іх паналіпала жоўтага пяску. Апчапіўшы адна адну за плечы, яны круціліся і топалі па ўбітай сцежцы нагамі: дуг, дуг, дуг.

«Танцы...» — чамусьці першае падумалася яму; пасля ён падумаў, што яны зусім жа яшчэ малыя. Юльчына Лінка то хоць хадзіла ўжо ў школу, зіму ці дзве, ён добра не помніць... А Шульгі... Адной трэба было ўжо, відаць, і пайсці, але маці летась яшчэ не пусціла: не было з кім пакінуць меншых. Ён доўга думаў, што яны ж яшчэ зусім малыя і што ім за гэтыя танцы трэба было ўсыпаць дзягі. Пасля яму неяк стукнула ў галаву, што ў іх усё гэтак жа, як і ў Лесніках на вечарынках. Ён, Піліпёнак, помніць, як колькі тут дзён назад, калі прыязджалі ў вёску салдаты на машыне вазіць снапы, справілі на ферме вечарынку. На дварэ, на дзядзінцы. Тады гэтак жа, як цяпер Юльчына Лінка, сядзеў ля плота на камені маладзенькі салдат і расцягваў белы гармонік, тады гэтак жа, як цяпер дзеці, танцавалі з салдатамі на дзядзінцы леснікоўскія дзяўчаты...

Ён толькі цяпер убачыў, што ў Лінкі на галаве была пілотка з газеты, маленькая, трымалася на самай макаўцы, як прылепленая.

Дзяўчынкі дугалі нагамі, выгіналіся, прысядалі, «факстроцілі», крычалі «злева» і перабягалі адна да другой.

«Малыя — што старыя...» — ён уздыхнуў, цяжка, на ўсе грудзі, сам не ведаючы чаму. Пасля абапёрся на дубовы вушак; зашумела ў галаве — недзе ззаду, у патыліцы. Падперла нечым шыю, не крануць было галавы. Стала цяжка дыхаць. У гародчыку закружыліся карычневыя матылькі. Ён падумаў, што з ім такога яшчэ не было, што ён можа зваліцца з ног,— хацеў закрычаць, але сцінула горла... Ён ухапіўся абедзвюма рукамі за частаколіну і сціскаў яе з усёй сілы...

Пачуў пасля, што баляць пазногці, як бы хто совае пад іх чым вострым.

Ён яшчэ не ўпаў.

У яго перад вачыма кружыліся карычневыя матылькі, раслі, рабіліся вялікімі матылямі, махалі крыллем, перагіналіся і ўзляталі ў неба. Здалося, што ў вёсцы з хат

пазрывала стрэхі, падкінула ўгару, і яны вісяць там, вісяць і кружацца; здалося, перагнулася вуліца, і ён тады ўбачыў далёка-далёка, недзе на краі свету, другі канец вёскі і свой пусты агарод пад раку, на якім ад пажарышча засталося толькі белае каменне... Белае як снег; бліпічыць на сонцы. Пасля другі канец вёскі падняўся высока-высока, пад лес, на ферму, пакацілася вуліцай белае каменне. Белае як снег... Ён нават чуў, як яно грукае, коцячыся: дуг, дуг, дуг; лясь, лясь, лясь...

Толькі б не зваліцца з ног,— яно прыдушыць, засыпле. Але яно не кранула яго; яно падкацілася да яго ног і застыла... Каменне... Яго каменне і яго хацішча, дзе ён некалі жыў — даўно-даўно... Сто гадоў назад... Дзе ў яго быў бацька, маці, дзе ў яго быў сын і ўнук Колечка... Дзе праз акно з хаты была відаць рака — доўгая-доўгая і белая. Белая, што каменне ля ног. Якое яно халоднае! Як лёд... Ведама, воблакі з неба, гэта ж вунь аж куды паднялася вуліца ў тым канцы... Ён гладзіў яго рукамі,— яно было халоднае і шорсткае і, калі доўга гладзіў яго, балелі пазногці...

Тады яму раптам здалося, што ён маленькі-маленькі пабег у поле ў Земфонд за авечкамі. На выспе гарыць агонь, ля агню яго бацька — стары, нямолены, у запошанай картовай кашулі. Восень, мароз сцяў зямлю, на полі груда, белая груда, а па ёй разбрыліся авечкі. Пасвяцца па зялёнай руні... А рунь зялёная і ў белым інеі. Цёпла ля агню, і хочацца капаць зямлю — выкідаць наверх, на самую выспу, жоўты пясок. Але мароз сцяў зямлю ў камень, і ад таго баляць пазногці, калі доўга грабеш пясок...

Пасля ён неяк падумаў, што гэта не ён, малы, быў з бацькам на полі, а Колечка, з ім жа, дзедам. І гэта не ён, а Колечка так любіў корпацца на выспе ў жоўтым пяску...

Раптам ён адчуў, што яму холадна, і ўспомніў, як у Земфондзе, не на выспе, а сюды бліжэй да вёскі, дзе былі бульбяныя ямы, пасля апошняй блакады ў партызанскім акопе знайшоў кажух. Кароткі кажух, да кален, заплесніўся быў ужо, але з добрых аўчын і цёплы. У яго ён хутаўся ўжо дзве зімы, калі начаваў у канюшні ля коней у праварыне ці склеў у сушылцы.

Ён добра помніць, што тады, пасля блакады, калі ў вёсцы нікога не было і калі летам стаяла такая цішыня, што шумела ў вушах, хадзіў адзін па вогнішчах і партызанскіх акопах, чакаючы, што з Паліка вернуцца людзі, сын Міша і Колечка... Колечка ўжо быў тады, калі з Лес-

нікоў уцякалі на Палік, такі, як цяпер дзеці Шульгі... I ў яго за плячыма была маленькая белая торбачка... З сухарамі. Торбачкі многа ў каго былі за плячыма... У маленькага Колечкі торбачка... Усё адно як да авечак у поле выпраўлялі...

З Паліка не вярнуліся ні Міша, ні нявестка, ні Колечка. Ён пасля неўзлюбіў белыя торбачкі, не мог на іх глядзець, калі ў іх насыпалі аўса і давалі коням леспрамгасаўскія возчыкі. Тады ў яго пачынала шумець у галаве.

Калі ён успомніў пра коней, успомнілася чамусьці, што недзе на свеце — ён забыў, што гэта ля яго ў гародчыку,— ёсць танцы. Носяцца ў крузе карычневыя матылькі-людзі, носіцца ён сам, яго сын Міша з нявесткай і Колечка...

Колечка... Ён добра помніць яго твар — белы-белы і белую галоўку. Белыя рукі... Не, Колечка не быў белы. Але чаму ён у памяці белы-белы?

Тады Колечка стаў карычневы, як дзеці Шульгі, і закружыўся ў танцы. Маленькі-маленькі і раптам вялікі, як Міша, а тады зноў маленькі. Яго падхапіла пад пашкі тая маленькая дзяўчынка, якой не ведаў ён, Піліпёнак, якая, мусіць, была дачкой Юльчынай сястры,— прыехала з горада і давай дугаць нагамі: дуг, дуг, дуг. Пасля адбеглася ад яго некуды далёка-далёка на вуліцу, аж у той канец вёскі і закрычала:

— А я балетніца!.. А я балетніца!..— і пусцілася адтуль у скокі на адной назе, стоячы на белым камені.

Камень каціўся проста на Колечку...

— Колечка!.. Ко-ле-чка!.. Тваю маць!..

Яму стала шкада Колечкі, яму здалося, што на Колечку коціцца з таго канца вёскі, дзе былі могілкі, смерць.

— А я балетніца!.. А я балетніца!..— на камені была Юлька, уся ў белым, пасля — ягоная, Піліпёнкава, бабка, якой ён зусім ужо не помніць, пасля — маці. Ён хацеў крыкнуць: «Мама!» Яму так захацелася крыкнуць: «Мама!» Ён даўно-даўно такога не крычаў — сто гадоў. Але на камені быў ужо нехта чужы, пасля сталі скакаць адна за адной бабы з усіх Леснікоў.

— А я балетніца!.. А я балетніца!.. А-ля-ля!..— каціўся і каціўся белы камень, проста на Колечку. Над каменем круціліся стрэхі, пазрываныя з хаты.

Колечка стаяў адзін, ужо не ў гародчыку, а за Леснікамі на выспе, і ў яго на плячах была белая торбачка. Стаяў там, адкуль кожны дзень два гады чакаў яго Пі-

ліпёнак, чакаў, што ён будзе ісці і весці за руку Мішу...

— Колечка!.. Сынок!..— ён закрычаў і выцягнуў уперад рукі, і тады адразу знік белы камень, тады памчаўся, запрэжаны ў калёсы, белы конь. Леспрамгасаўскі Баян, шалёны, раз'ятраны, на якім ездзіў начальнік участка. Памчаўся проста на выспу, на Колечку. На сонцы блішчэлі, як агонь, белыя колы ў калёсах.

— Колечка!..— выцягнуўшы рукі, ён кінуўся пад калёсы.

Выпусціўшы частаколіну, Піліпёнак падаў на каменне пад прызбай.

«Янук!.. Янук!..»

Яго клікала Юлька, а яму здавалася, што ён бег з вёскі, бег, як толькі мог на выспу, на ўчастак, дзе былі яго коні, яго сушылка, у якой зімой цёпла і ціха трашчаць у печы дровы,— і гэта Юлька хоча вярнуць яго.

«Янук!.. Янук!..» Здавалася, над полем вечар і крычыць, плачучы, груган; здавалася, за ім, Януком, бегла ўся вёска, бег Федзя і начальнік участка. Яны смяяліся, што стары Янук звар'яцеў па Колечку... Яны лавілі яго ў лейцы, як ён, Янук, часта лавіў са сваім напарнікам на Плавах начальнікавага Баяна. Яны крычалі яшчэ, што не дадуць больш яму глядзець коней, што ён здурнеў, што яго не пусцяць на ўчастак, не пусцяць начаваць у сушылку... А ён быў рады, што бяжыць з вёскі, ён ім крычаў, што ён ніякі не вар'ят, што Колечка яго жывы. І што яго, Янука, ніхто не можа прагнаць ад коней, бо ў яго ж нікога, нікога няма, толькі коні, і што яго не прагоняць з сушылкі, бо дзе ён тады будзе жыць. Да Юлькі ў вёску ён ніколі ўжо не вернецца, бо там ёсць дзеці, бо дзеці спраўляюць танцы, а з імі няма Колечкі.

Яны яго ніколі б не дагналі, каб не дождж. Дождж урэзаў ужо ля самага лесу...

Калі ён расплюшчыў вочы, убачыў над сабой Юльчыну ў чырвоныя клеткі хустку, пасля — яе вялікія-вялікія вочы. Калі яна адхінулася, ён убачыў неба, высокае-высокае, з белымі маленькімі воблачкамі, як насенне малачаю. Там, недзе ўгары, было сонца. Яшчэ ён убачыў над загуменнем цяжкія белыя хмары,— яны паўзлі на вёску. Пад імі над галавой дрыжала груша-дзічка, на малым дубе былі зялёныя жалуды, на адцвілай дзікай грушы завязаліся зялёныя збаночкі. На частаколіне ля яго віселі дзіцячыя хустачкі.

Ён крануў рукою, каб за што зачапіцца і ўстаць,— намацаў ля сябе паперыну. Убачыў пасля, што гэта пакамечаны гармонік з газеты.

Калі яму памагла падняцца Юлька і ён сеў,— угледзеў ля сваіх ног перавернуты дагары магазын ад ліхтара; пад ім ляжала, прыціснутая, папяровая пілотка.

На двары было ціха і пуста, па сене ля студні хадзілі куры, у куточку, між частаколам і хатай, збіліся ў кучу дзеці і пазіралі на яго, як спалоханыя птушаняты. Ён убачыў, што ў іх чорныя, у гразі і ў крыві, паабдзіраныя ногі.

«Бегалі па Юльку на поле, дзе жнуць»,— падумалася яму.

Ідучы па двары і абапіраючыся на частакол, ён бачыў, як за ім ідуць ззаду дзеці і маўчаць.

Ля ганка яго падхапіла пад руку Юлька, і ён змог яшчэ азірнуцца назад. Варотцы ў гародчык былі расчыненыя, а там, дзе ён ляжаў, скакала на адной ножцы незнаёмая дзяўчынка. У руках у яе быў пакамечаны папяровы гармонік.

І тады ён успомніў усё, што здарылася, і ўжо на парозе заплакаў на ўсе грудзі — сіпата і хрыпла.

Дзеці прыйшлі за ім аж у хату і пасталі ў парозе, ззаду за Юлькай.

Калі ў яго зноў залопала ў галаве, ён, не чакаючы, памалу апусціўся на ложак, на разгоеную старую салому.

Над ім зноў шумеў лес.

*1963*

# «Эфка»

## 1

«Эфку» знайшоў Пашка Жарскі ў кароўніку пад саломай пасля дубаўцаў.

Дубаўцы — партызаны брыгады Дубава,— выйшаўшы з блакады з Паліка, перайшлі праз раку Дзвінасу і сталі ў Замошшы — панабіваліся біткам у хаты і хлявы; на ферме занялі два пустыя з пачатку вайны доўгія кароўнікі пад лесам. Кароўнікі былі застолены жэрдзем і саломай,

старой, даваеннай — уцеплены на зіму; салому, рассунуўшы жэрдзе ў адным і ў другім кароўніку, дубаўцы паскідалі на цвёрды, убіты яшчэ калгаснай скацінай дол, узгаілі і ляглі на яе аблогай на цэлы тыдзень. Змучаныя пасля прарыву, яны храплі на ўсю ферму; днём на гарачым чэрвеньскім сонцы пад чыстым сінім небам яны, падняўшы з-пад плота старое доўгае пашчапанае карыта, вычасанае з сасновага камля, з якога да вайны паілі скаціну і якое, лежачы высака пад плотам, не згніло, раздзяваліся дагала і мыліся, як у лазні. Мылі і адзежу: шэрую, жоўтую, бурую ад крыві і сцялілі яе на дзядзінцы на дзірван — сушылі на сонцы.

Замошша было, лічы, пустое: ратуючыся ад немцаў, пайшло перад блакадай за Дзвінасу на Палік і цяпер пасля прарыву варочалася дамоў па адным, па два чалавекі ў дзень — перасохлы ручай пасля навальніцы збіраўся па кропельцы і, было відаць, што не збярэцца. Дубаўцы былі галодныя і ў пустых хатах падымалі ўсё ўверх дном, шукаючы, што б можна было ўзяць на зуб: жменю жыта ў лукбачцы ў шафарні ці парослую бела-сінімі расткамі аж у калена старую бульбу ў варывеньках. Пасля немцаў і гэта цяжка было знайсці: адны чыстыя хаты і вытаптаныя рудыя парасчыняныя двары, усыпаныя белым курыным пер'ем і доўгенькімі жоўтымі гільзамі ад нямецкіх вінтовак, густа, кучкамі, не ступіць: колюць ногі. Дубаўцы тады пайшлі па гародах і па жоўтых ад пяску загонах пад соснікам, пайшлі з доўгімі шампаламі ад пэтээраў — паролі зямлю, шукаючы закапаныя — схаваныя ад немцаў — куфры і кадзі з жытам. Знайшоўшы, сушылі жыта на бляхах у печы, малолі па чарзе ў жорнах дзень і ноч, саставіўшы аўтаматы дзе-небудзь у пароэе; учынялі хлеб у дзежах, закасаўшы рукавы, і, не даўшы яму добра падысці, клалі на драўляныя лапаты буханкі і ныслі ў натопленыя печы ў дымны і чадны ад памяла дух. Гарачыя яшчэ, не даткніся, буханкі кроілі на ацеслівыя лусты, накладалі на бляхі і ставілі ў печ — сушылі сухары.

І так — па ўсёй вёсцы.

Напакаваўшы сухарамі рэчмяшкі — палатняныя торбачкі з папрывязанымі знізу за ражкі аборкамі і сціснутымі зверху пятлёй — і падчысціўшы на градах пад хлявамі зялёную лапушыстую мультанку і летешняе сухое пучча на гарышчах, дубаўцы праз тыдзень зняліся і пайшлі назад у свой раён: Віцебск, казалі, быў ужо заняты нашымі.

Пасля іх асталіся раскопаныя ямы ля лесу з парасчы-

нянымі парожнімі куфрамі, запыленыя ў муку жорны ў сенцах, павыскрабаныя дзежачкі і чыстыя, прапахлыя падгарэлым ржаным хлебам бляхі на прыпечках.

І разгоеная салома ў кароўніках, дзе яны спалі.

У разгоенай саломе ў першым кароўніку Пашка Жарскі і знайшоў «эфку». Новенькую, чорненькую, як жук, з бліскучым рычажком і колцам на бліскучым, аж пырскаў на сонцы, шпяньку; з чырвоненькім пахнючым, калі адкруціш, запалам усярэдзіне. «Эфка» была рубцаватая і цяжкая: апусціў за пазуху — выцягнула з-пад дзяжкі кароценькую старую чорную картовую рубашку і груднула аб зямлю, як камень.

«Эфку» ён знайшоў не адразу. Прыбегшы ў кароўнік самы першы, нават апярэдзіўшы Вайду Толю — Бізуню, ён доўга поўзаў па саломе на каленях, падымаючы яе пластамі і перасяваючы рукамі дробную пацяруху,— у вочы і ў горла лез чорны, едкі пляснівы пыл ад перацёртай саломы. Спачатку трапіліся пад пальцы патроны ад нашага аўтамата — кароценькія, з тупымі насамі, яны ляжалі ў жмені, як боб; калі ён падносіў іх да вачэй — блішчэлі пад сонцам, што праціснулася праз дзіркі ў страсе, як жар. Ад іх, здавалася, было горача ў пальцы, і ён доўга не дзяржаў іх на далоні — сыпаў за пазуху, дзе яны ціхенька бразгалі і свяжылі голае цела холадам, што каменьчыкі. Пасля пачалі трапляцца патроны ад нашай вінтоўкі, чырванаватыя, з кулямі, афарбаванымі на кончыках у чорнае з чырвоным, з чырвоненькімі, залітымі фарбай капсулямі на пятцы. Ад патронаў абвісла рубашка на жываце — вось-вось вышмыкнецца з-пад дзягі, як усё роўна ад агуркоў, нарваных з чужых град,— але ён сыпаў і сыпаў і кароценькія і доўгія патроны за пазуху, як струкі гароху. Пад рукі трапіліся кавалкі бінту, рудога, акрываўленага; складны ножык — паляцеў за пазуху, бразнуўшыся ціха аб патроны; бітыя друзалачкі толу, як цэру з бярозы; разабраны дыск ад ручнога кулямёта — дзве чорныя талеркі; стаптаны нямецкі чаравік з цвічкамі на падэшве і дротам замест шнурка; жоўтая папера; кавалачак бікфордавага шнура, спаленага, пустога,— усё адлятала набок пад сцяну: ад іх не было радасці. Радасць была толькі ад новых, жоўтых, відаць, нядаўна скінутых з парашутам патронаў. І калі нарэшце ён знайшоў «эфку»: апёрся даланёй пад саломай, як на камень,— ён ухапіў яе і, як патроны, кінуў за пазуху: каб раптам ніхто не згледзеў. Але рубашка вышмыкнулася з-пад дзягі, і разам з «эфкай» пад

ногі на салому вытрасліся патроны. Падперазаўшыся папава, ён хуценька сабраў за пазуху патроны, а «эфку» трымаў у руцэ, як вялікае качча яйка падняў з купіны на балоце з гнязда. Толькі не блакітнае, а чорнае...

Узгоеная салома ў кароўніку праціўна пахла мышамі, на загуменні, здалося, чуваць былі галасы, і ён, асцярожна ступаючы па саломе, пайшоў да дзвярэй: баяўся, што яго могуць застаць з «эфкай».

З чыстага сіняга і высокага неба з-пад белага сонца, якое ўжо ладна адарвалася ад лесу, сыпалася гарачыня: на шчокі, на закасаныя рукі, на босыя ногі. І ўсюды было ціха: у вёсцы, на ферме, на загуменні: дубаўцы пакінулі вёску, відаць, додніцай — зняліся і пайшлі. Не было чуваць ні гоману, ні крыку, ні бразгату, як перш; не ляпалі вароты, не краклі асверы і не валілі на зямлю густыя чорныя дымы ад смаляных дроў. У дабавак — не рыкала скаціна, не галяшылі пеўні, нават птушкі не пелі. Вёска — як вымерла. І ў гэтай цішыні і спакоі паднялося раптам на загуменні між дробнага бульбеўніку воблачка сівога пылу, павісла над дарогай, якая вяла за гумны ў канец вёскі, і з-пад яго, як мышы з-пад капы сена, пачалі выскокваць дзеці — Вайды ўсе да аднаго — беглі на ферму, як на пажар. Відаць, заспалі...

Першы, адарваўшыся ад астатніх, растапырваў шырака ногі, як перакідваў сажань, сам Вайда Толя — Бізуня. Ён ужо добра быў відаць на загуменні: стрыжаная пад машынку з адрослымі шчотачкай, як атава пад плотам, валасамі, з шырокім тварам — блішчыць на сонцы, з вузкімі прыплюснутымі вачыма. Яму было дванаццаць гадоў — на два гады старэйшы за яго, Пашку Жарскага. Звалі яго Бізуня: у Даўгынаве, дзе яны жылі перш усёй сям'ёй, пакуль яго старэйшы брат не перайшоў з паліцыі ў партызаны, Вайда Толя краў у паліцаяў патроны, за што яго, злавіўшы, паліцаі лупілі бізунамі, пасля чаго ён стаў заікацца: «П-палучыў б-бізуня...» Яго і сталі зваць Бізунем... Яго брата высачылі паліцаі, і ён перабег у партызаны. Яны ўсе, Вайды, ратуючыся, перабеглі тады разам з Даўгынава ў Замошша: бацька — высокі худы Вайда Ігнась; маці — маленькая, тоўсценькая, кругленькая, з чырвонымі поўнымі шчокамі — Вайда Анеля; пасля дзеці, маладзейшыя адзін аднаго гады на два — Вайда Толя, Вайда Казя — чорненькі, пузаценькі, касы на адно вока, рослы, Толю па плячо, гадоў дзесяці; Вайда Збысь — цененькі, як дубчык, з выцмуглым ладным носам, са светлымі, як у

Анелі валасамі — Ігнась быў чорны; Вайда Здзісь — святлейшы за Збыся, з поўненькімі, як у маці шчокамі — пускаў увесь час з носа і рота бурбалкі, у доўгай палатнянай кужэльнай кашулі да калень, без штаноў: большыя насілі пафарбаваныя ў мучанічніку чорныя палатняныя штонікі; і Вайда Рымуся — светленькая, вочкі сіненькія, чыстыя; валосікі беленькія, дробненькія; шчочкі, пальчыкі на руках і калені, вымазаныя ўсягды ў гразь; у такой жа самай палатнянай, толькі вузенькай і кароценькай — сагнецца — усё відаць — сукянёшцы. Беглі яны з Даўгынава праз Вілію і праз лес ноччу — у Ігнася двое на руках, у Анелі двое, Вайда Толя бег сам — не схапіўшы нічога з хаты: ратаваліся. Не пабеглі б — іх бы ўсіх расстралялі і спалілі б разам з хатай... Іх паставілі партызаны да старой Петрусіхі; вёска іх прытуліла, і яны, прыбегшы ўвосень, пражылі ў Замошшы зіму і вясну, выжылі і на лета: не пайшлі з вёскай на Палік, асталіся ля дому ў Цянях у балоце — і выжылі. Усе з вёскі, хто не пайшоў на Палік, і ён, Пашка Жарскі з хворай маці — уцалелі. Старэйшага сына ў Вайдаў забілі недзе зімой, калі бралі гарнізон у Мільчы: прывязлі на санях і ўняслі ў хату адубелага. У вёсцы іх усіх звалі Вайдамі, а каб не блытаць аднаго з адным, да Вайды дабаўлялі імя: Вайда Толя, альбо Вайда Тудзеля — пасля паліцэйскіх бізуноў ён заікаўся і не выгаварваў словы: на кудзелю гаварыў тудзеля; Вайда Казя, Вайда Збысь, Вайда Здзісь, Вайда Рымуся, альбо Айдарымуся; нават старых, бацьку і маці, звалі Вайда Ігнась і Вайда Анеля. Жылі яны пасярод вёскі, а ён, Пашка Жарскі, з канца, ля самай фермы. Калі пайшлі дубаўцы, ён і пашастаў першы па кароўніку, апярэдзіўшы Вайду Толю — Бізуню — і набіўшы патронамі запазушша. Патроны можна было яшчэ «падзяліць»; пасля, паклаўшы патрон на пляскаты камень, лупіць па ім другім пляскатым каменем з высокага частаколу: страляць на ўсю вёску, а «эфку» Бізуня адразу забярэ...

«Эфку» трэба было хаваць...

Над галавой загудзеў камень, стукнуў у шчыт у свірне, як усё роўна стрэліў — воддаль двух кароўнікаў стаяў пусты калгасны свіран — і ўпаў на падарожнік пад ногі. Вайда Толя «біў» са сваёй пушчалкі па ім — «вёў агонь». Было відаць, як ён згінаецца, падымае з-пад ног камень, кладзе яго ў пушчалку — у чорнае скуранае гняздо паміж дзвюх аборак — раскручвае пушчалку і кідае з яе камень. Камень ляціць і пяе, як куля...

Вайда Толя не мог даравацъ, што нехта першы палазіў па ферме пасля партызан. Пасля таго як ён уцёк з Даўгынава, ад яго стагнала ўсё Замошша. Лазіў увосень па садах і па градах; краў у хлявах з-пад курэй яйкі і піў іх сырыя; не хадзіў, а бегаў вечна з пушчалкай у руках і біў вокны. Знайшоўшы ў Віры ржавы ствол ад вінтоўкі, адрэзаў напільнікам канец і зрабіў сабе самаробны пісталет. Страляў з аўтаматных патронаў сарок, варон, бацяноў, курэй, сабак... Калі стаялі ў вёсцы партызаны — і дняваў і начаваў з імі. За што за якое — але яны ўсягды давалі яму страляць. А любіў ён страляць як чорт ведае што і страляў ужо з вінтоўкі — з нашай і з нямецкай, з аўтамата, з ручнога кулямёта, з сэвэтэ, з пісталета,— з усяго таго, што было ў партызан. Толькі з пэтээра ён не страляў — у партызан было мала патронаў; а з зялёнага кулямёта, з таго, у які трэба заліць вады перад тым, як страляць, ён хацеў «пусціць вочарадзь» сам, нават ленту дастаў са скрыначкі, але яго партызаны ўзялі за вуха і завялі праз вёску дамоў да бацькі... Самаробны пісталет быў недзе ў яго і цяпер; была ў яго і новенькая цынкавая скрыначка патронаў ад нашай вінтоўкі — украў у кутузаўцаў, калі тыя дзялілі скінуты ноччу перад блакадай парашут; былі і нямецкія патроны ў абоймах — цэлы кошык у хляве пад сенам. Не было ў яго толькі гранат — глушыць рыбу. Хваліўся, што ён кідаў гранаты на Віліі: нямецкія — з доўгімі драўлянымі ручкамі: адкруціў крышачку ў пяце на ручцы, тузануў за шнур і шпурнуў пад лазу ў вір... Рыбы пасля глухога выбуху і белага слупа вады аж бела ў рацэ. Хваліўся, што кідаў і нашы «эфкі», вырываючы драцяное колца, але пасля іх не было рыбы: «эфкі» дзёрлі з карэннем і лазу з берага і аер са дна; секлі высака ўгары альшэўнік і рвалі на кавалкі плотак у рацэ — пасля выбуху мутная вада вірыла, як зацірка ў гаршку на агні ўперамешку з пасечанай на кавалкі рыбай... Доўга пасля была белая ад лускі рака... Кідаў ён гранаты ці бачыў, як кідалі — ніхто гэтага не знаў.

Гудзела над галавой каменне, і крычалі ў пыле ўсе малыя Вайды — пёрліся, каб скарэй наваліцца на яго гамузам. І так шкода зрабілася «эфкі»: новай, халоднай, цяжкай, рубцаватай, якой ніколі не дзяржаў у руках за ўсю вайну... Што ён — сам яе не кіне ў раку? Не зможа глушануць рыбу?

Уцякаць было позна; ды і куды ўцячэш ад Бізуні?

Хаваючыся, ён скочыў за свіран — за вугал — і цяпер

толькі згледзеў, што свіран высака падняты ад зямлі і каменне ў падмурку толькі па вуглах. Дастаўшы з-за пазухі «эфку», ён сціснуў яе ў руцэ — чуць ашчапіў пальцамі — і засунуў ля каменя пад ніжняе вянцо — глыбака, як дастаць рукой. Зірнуўшы, убачыў яшчэ бліскучую дужку. Справіўся яшчэ падняцца і абабіць з калень сухую шуму і пясок... І тут яго схапіў за грудзі Вайда Толя і, падставіўшы ззаду нагу, піхнуў з усёй сілы. Ён ляцеў дагары і чуў, як бразгаюць ля ног патроны — пасыпаліся з-пад рубашкі. Стукнуўшыся галавой аб цвёрдую зямлю, ляжаў і не ўставаў: цёмна стала ўваччу.

— Пат-роны... бляха... Кароўнікі абчысціў... Падымайся і вытрасай усе да аднаго.

Закруціў пад вуглом вецер, сыпнуў у вочы чорнай сухой патрухі. Пашка Жарскі заплюшчыўся і пачаў падымацца, памалу-памалу: балела галава. Крычалі немаведама што, збіраючы ў траве патроны, Вайда Казя і Збысь са Здзісем. Адскочыла да плота і выставіла свае вочкі-васількі з высокай мятліцы і лебяды Вайда Рымуся. У роце і ў жменьцы ў яе было поўна шчаўя — доўгага, зялёнага, якое расце на загуменні на межах у густой высокай траве.

Калі ён падняўся, Вайда Толя паставіў яго «смірна», задзёр яму ўгару рукі і, выцягнуўшы з-пад дзяжкі рубашку, абмацаў усяго з верху да нізу.

— Сабр-раць патр-роны!..— закамандаваў ён.— І ўзяць з сабой. Ножык бяру сабе... Табе, смаркач, халоднае аружые не спатрэбіцца...

Чэцвера Вайдаў, нават Рымуся адной ручкай — у другой заціснула шчаўе — сабралі патроны ў прыпол Вайду Казю. Ён стаяў з імі ў прыполе, як усё роўна яму насыпалі маладой бульбы, накапаўшы ў гародзе.

— Не рассып! — камандаваў Вайда Толя, і Вайда Казя падняў вышэй падол з патронамі. З-пад палатнянай рубашкі ў яго паказаўся беленькі стручок, і ўсе засмяяліся. Вайда Казя нагнуўся, але падала не апускаў: баяўся рассыпаць патроны.— Цяпер усе марш у кароўнікі. Робім вобыск. І ты...— піхнуў ён Пашку Жарскага ў плечы.— І глядзі ў мяне. Калі яшчэ што выцягну з-за пазухі...

Толькі цяпер Пашка Жарскі згледзеў, што Вайда Толя быў як «камандзір»: цераз плячо ў яго вісела кірзавая сумка, у ёй, чуваць было, нешта бразгала: можа, яго пісталет з патронамі, а можа, пазбіраныя на дарозе адумыслыя круглыя каменьчыкі, якія ён пускаў з пушчалкі. Ад сумкі, прычэплены з аднаго і з другога боку, звісаў

беленькі бліскучы нямецкі ланцужок-шомпал. Дагэтуль у яго не было ні сумкі, ні ланцужка. Чым не камандзір? Не хапала толькі пісталета збоку, як у партызан, і гранаты, якую можна было накласці ў мяшэчак і павесіць на жываце на дзягу... Ён ніколі яшчэ не меў сваёй гранаты і цяпер, відаць, думаў яе знайсці: рваўся ў кароўнікі. Прыплюснутыя вочы ў яго гарэлі, шырокі твар сцякаў потам, з разяўленага рота, з абвіслай ніжняй губы цякла сліна — яму на рукі і на сумку.

Ён пабег наперадзе да першага кароўніка і расчыніў адны і другія дзверы, каб было відней. Адзін толькі Вайда Казя з задзёртым падалом астаўся стаяць у парозе — дзяржаў патроны,— астатнія Вайды і з імі Пашка Жарскі з крыкам і піскам кінуліся ў салому і сталі падкідаць яе ўгару і рукамі і нагамі, падняўшы праз мінуту пыл, што свету не было відаць.

Патроны ніхто не знаходзіў.

—Смар-ркачы! — крычаў Вайда Толя.— Хрэн з імі, з патронамі... Грайснаты шукайце...— у яго ўпіраўся ў зубы, не месцячыся ў роце, доўгі язык, і ён каверкаў словы.— Рукамі зверху мацайце. Грайснаты цвёрдыя, як каменне...

Сам ён, лёгшы на спіну, пачаў качацца па саломе ад сцяны да сцяны і разам з ім качаліся яго чорная кірзавая сумка і белы ланцужок. Качаліся па саломе і ўсе Вайды, гледзячы на яго; качаўся і Пашка Жарскі; пасля, узлаваўшыся, падкідалі салому вышэй галоў, перасыпалі патруху на пальцах; перааралі нагамі і перабаранавалі пальцамі ўвесь першы кароўнік — ніякага ўлову: гранат не было. Знайшлі толькі два пагнутыя жоўтыя патроны ад нямецкай вінтоўкі і — ўсё.

— П-падпаліць бы к чортавай мацеры!.. Толькі няма чым...— Вайда Толя вылаяўся, як стары, адшпіліў сумку, адагнуў пругкае кірзавае вечка, высыпаў з яе дробненькае белае каменне пад ногі, і Вайда Казя перасыпаў яму ў сумку патроны з падала. Вайда Толя зашпіліў сумку і яшчэ раз вылаяўся:

— У д-другі к-кароўнік, б-бляха... Не знойдзеце грайснаты — галаву адкручу кожнаму і зад заткну, як затычкай...

І ў другім кароўніку паднялі салому і пыл. Качаліся, перасявалі праз пальцы мякіну, кашлялі і перхалі, наглытаўшыся трухі — не знайшлі ні гранат, ні патронаў. У другім кароўніку ў саломе былі толькі бінты — рудыя, чырвоныя ад свежай крыві, скомканыя ў жмуты і расцягну-

тыя на ўсе рукі; валяліся кавалкі ваты, рудой, аж чорнай, пахлі ёдам і яшчэ нечым едкім і горкім. Гарката лезла ў нос і шчыпала ў горле.

У другім кароўніку ў дубаўцаў, відаць, ляжалі адны раненыя.

— П-падпаліць усё к ч-чортавай мацеры... Б-бляха...

Пад саломай у другім кароўніку былі адны мышы — і вялікія, і малыя. Шэранькія, буранькія, з маленькімі бліскучымі чорнымі вочкамі, яны пішчалі пад саломай і беглі з-пад ног да сцен у норы. Падымала ўгару босыя ножкі — адну, тады другую — і пішчала, як мышы, маленькая Рымуся.

Узлаваўшыся, што нічым не ўдалося пажывіцца ў двух кароўніках, Вайда Толя пачаў душыць мышэй — таптаў босымі нагамі. Згледзіць мыш, падскочыць, ступіць нагой, пакаўзнуўшыся на ёй, жывой, як на лёдзе, і, лаячыся, валіцца ў салому. Мышы кусаліся, акрывавілі яму пальцы на назе і ён звярэў: мацюкаўся і крычаў на ўвесь кароўнік. Цяпер усе глядзелі толькі на яго: пасталі і ўтаропіліся. Для Вайды Толі, здавалася, нічога цяпер на свеце больш не было: толькі мышы. Забыўся ён на патроны, якія бразгалі ў яго ў сумцы; на гранаты, якія ўсю вайну шукаў, так і не знайшоўшы; ён цяпер, як прагавіты кот, душыў мышэй — расціскаў босай пятой — і, хапаючы за хвост, кідаў іх у дзверы — дзецям пад ногі. Вялікую сівую мыш з белым, як у малацэ, вушкам ён ніяк не мог задушыць — ступаў пятой, а мыш вышмыквала з-пад яе, што ў ката з лап; ён злаваў, мацюкаўся і ў яго з рота яшчэ больш цякла сліна. Мыш з белым вушкам пішчала на ўвесь кароўнік; закрычаў і ён нема: па вялікім пальцы на назе ў яго пацякла кроў. Ён пабег на двор, на траву, кульгаючы і падскокваючы на адной назе, і яны ўсе пусціліся за ім. Згледзелі, што на траве, расхінаючы лісце падарожніка, бяжыць сівая мыш з белым вушкам. Вайда Толя цяпер баяўся ўжо прыціскаць яе нагой, падымаў з зямлі каменне і кідаў у яе, не могучы лучыць.

Сівая мыш з белым вушкам бегла хутка, яны ледзь паспявалі за ёй. Мінуўшы першы кароўнік — не пабегла ў расчыненыя дзверы пад разгоеную салому,— яна павярнула да свірна. Вайда Толя быў ужо дагнаў яе і занёс над ёй нагу, каб ціскануць апошні раз, не пабаяўшыся вастранькіх зубоў, але яна і на гэты раз вышмыкнула ў яго з-пад пяты і шуснула пад свіран — якраз тым месцам, дзе нядаўна ляжаў распластаны на траве Пашка Жаркі.

Вайда Толя як бег за мышшу, так і расцягнуўся на траве, высалапіўшы язык і выцягнуўшы пад вугал руку, як кот лапу, каб учапіцца за мыш кіпцямі. Здурнеў, ці што? Пасля раптам аціх, выпрастаўся роўненька, што прут, нават сліна перастала цячы ў яго з рота — застылі і ўсе, нагнуўшыся над ім — тады памалу пачаў адсоўвацца назад, і ўсе згледзелі, як ён, стаўшы на калені, падняў з зямлі руку... У руцэ была чорненькая з наліплай сырой зямлёй, сівой патрухай і дробненькім павучыннем «эфка». З белага бліскучага рычажка і кругленькага колца ім усім сцебанула па вачах яркае калючае сонца...

— Б-бляха...— Вайда Толя вышчарыў зубы, вочы ў яго ўтапіліся недзе за шчокі ад радасці; ён хацеў падняцца з калень на ногі, але яму на плечы скочыў Пашка Жарскі, і яны, счапіўшыся, пакаціліся клубком па траве пад плот у лебяду і канаторжнік. Толькі рука ў Вайды Толі была выцягнута з «эфкай», зацiснутай у пальцах, і яе, намагаючыся, хацеў вырваць Пашка Жарскі. Яны качаліся па траве — пад плот у лебяду і назад на дарогу на камяне — саплі, дзёрлі нагцямі адзін аднаму рукі, шыю, шчокі і не маглі даць адзін аднаму рады. За імі бегалі ўслед усе меншыя Вайды — ад свірна да плота і назад пад свіран. Вайда Толя змогся на траве, соп; лавіў, каб сцяць Пашку Жарскага за горла, і не мог; на мокрыя ад поту твары ім абаім паналіпала пяску, насыпалася ў рот, і яны плявалі адзін на аднаго і не маглі адпляваццa. Скруціліся ў адно, нібыта хто іх аплёў калючым дротам,— каб, здавалася, і хацеў разняць — не разнімеш. Толькі рука з заціснутай «эфкай» адтапырвалася далей, і за ёй цягнулася другая рука — карацейшая — вось-вось дастане да маленькага бліскучага колца...

«Эфка» грукнула на дарозе аб камень. Бразнула колца...

— Лажысь!..— закрычаў Вайда Толя нейкім дзікім голасам. Тады яны адразу адпусцілі адзін аднаго і ўскочылі на ногі. «Эфка» асталася ў Вайды Толі.

— Станавісь...— закамандаваў ён.— Цяпер увесь Вір мой. Б-бляха...— вочы ў яго зноў паявіліся з-пад шчок і загарэліся. Заміргалі павечкі, атрасаючы пясок. Пасля ён пакруціў «эфку» ў далонях і пачаў здзьмухваць з яе пясок і дробненькую травіцу.

Пад сонцам на далані ў яго «эфка» чарнелася, як сажа...

## 2

Вада ў Віры была чорная, круціла пад вербалозам белую, як ад сырадою, пену і блішчэла, пераліваючыся на сонцы, каструбаватай луской. Здавалася, вялікая рыбіна б'ецца між берагоў і дыхае вялікімі жабрамі.

Рака цякла з далёкай пушчы, віляла часта між старасвецкіх альшэвін на лагах і балотах, пакідаючы на загібах круглыя глыбокія цёмныя віры. Самы большы, Вір — і лог ля яго і балота звалі Вірам — быў недалёка ад вёскі за балотцам — старым разгатым лазняком і маладым альшэўнікам. На ім яны вымазалі ў рудую гразь босыя ногі аж па калені.

У рацэ вяліся шчупакі, плоткі, яльцы, ментузы; ля вёскі на мялейшым — сліжыкі, якіх калолі відэльцамі і лавілі рукамі — прыціснеш зверху жменяй — і дастанеш разам з пяском; курмялі і сіляўка — гэтых лавілі кошыкам. У Вір ніколі ніхто не лез ні з сеткай, ні з броднем — было глыбака, хата, казалі, магла схавацца: ні Вайда Толя, ні Пашка Жарскі ні разу не даставалі дна, калі, купаючыся, давалі з берага нырца.

З берага цяпер добра было відаць, як глыбака ў чорным Віры, падсвечаным знізу жоўтым дном, хадзіла плотка — касякамі.

Не крануты касой перастоены лог блішчэў пад раннім сонцам павучыннем і пераспелай мятліцай. Ад разагрэтага за лета балота пахла наўкола рабінкай і валяр'янавым коранем; з сівога неба ляніва змахвалі смугу застылым крыллем засмяглыя за свой век канюхі. Пасля адтуль, дзе кружылі канюхі, пайшлі самалёты — зусім блізка за ракой над балотам,— на іх былі знаць чырвоныя зорачкі. Самалёты заслалі ўсё неба; ад іх пабег цень па сівым лагу і па бліскучым Віры.

Пішчалі Збысь са Здзісем; аставалася ззаду Рымуся, і на яе крычаў Вайда Толя. Тады яна даганяла іх: прабяжыць, стане, выцера ад гразі ножкай ножку і зноў даганяе Вайду Казю, каб схапіць яго за руку. У ручцы ў яе было шчаўе — як сціснула ў жменьку на загуменні, так і не выпускала. Змарыўшыся, яна засела ў балоце, і яе нёс на руках Вайда Казя.

Падбегшы да Віру, яны ўселіся на нізкі бераг і, апусціўшы ногі ў ваду, паласкалі іх ад свежай гразі; адна толькі Рымуся не даставала з берага ножкамі да вады. Памыўшы ногі, адбегліся недалёка, як на хату, за сухі бугарок,

парослы сіўцом і вобаратнікам — адаслаў Вайда Толя,— і ляглі, павытыкаўшы адтуль галовы, як ваўчаняты з ямы. Сам ён мітусіўся ўсю дарогу, калі ішлі да Віру, і цяпер бегаў па беразе, як сабака; зачырванеўся, з твару ў яго цёк пот і з рота сліна на рукі і на чорную «эфку». Ён выціраў памінутна то пот, то сліну, то «эфку». Яе ён сціснуў у нейкім палахлівым утрапенні ў свае доўгія дзіцячыя пальцы — была відаць толькі бліскучая дужка і маленькае колца — біла па пальцах.

— Б-бляха!.. Згінайце галовы і растапырвайце пады... Рыба мая!..— закрычаў ён і чмякнуўся на сівец за бугарком. Разам з ім чмякнулася і цяжкая ад патронаў чорная сумка, акручаная бліскучым ланцужком. Згледзеўшы, што ён нешта збіраецца рабіць з «эфкай», да яго папаўзлі ўсе Вайды; ён, мацюкнуўшыся, адагнаў іх назад ад бугарка.

Пачуўшы крык і тузаніну на беразе, на лагу запішчалі кнігаўкі. Насіліся, як учадзелыя; над бугарком апускаліся нізка да зямлі, гатовы былі зачапіць крыллем галовы.

— Па в-ворагу!.. Пяском па чэрапе...— закрычаў Вайда Толя высокім, асіплым ад страху голасам і, ускочыўшы на калені, выцягнуў уперад правую руку з «эфкай» — рука дрыжала і траслася «эфка» — зачапіўся вялікім пальцам левай рукі за колца і тузануў яго з усёй сілы, якую толькі меў... Ён ніколі не кідаў «эфкі», але ведаў, што пасля гэтага будзе стрэл, пачуўшы які, трэба размахнуцца і кідаць гранату, не дзяржаць ні секунды... Але над вухам трэснуў такі востры і дзяркаты стрэл, якога ён ніколі не чуў, страляючы і з пісталета і з вінтоўкі — здалося, сарвала з галавы чэрап,— і ён, забыўшыся на ўсё, спалохаўся і замест таго, каб тут жа шпурнуць «эфку» ў Вір пад вербалоз, а самому ўпасці на зямлю за бугарок і ўткнуць галаву ў сівец, прарэзліва закрычаў і адкінуў яе ад сябе, як усё роўна гадзюку, якую раптам выцягнуў з-пад карча. «Эфка» пакацілася з бугарка і схавалася ў белай дзяцельніцы, як дзікае качаня, уцякаючы з гнязда.

Ён ведаў, што яна вось-вось рване, і, падняўшыся на ногі, скочыў з берага ў раку. Ля Віру пад высокім берагам было намыта белага пяску — астраўком; там можна было стаць, купаючыся, адтуль можна было даць нырца. Ён і скочыў туды, на пясок пад бераг. Згледзеў яшчэ, як з-за бугарка паказаліся дзіцячыя галовы...

— Хавайся, б-бляха!..— крыкнуў ён і захліпнуўся ад свайго крыку.

І хай бы ён лепш не крычаў...

Вайды, усе чэцвера, спужаўшыся, падняліся на бугарку, каб перабегчы пад бераг — туды, дзе схаваўся ён. З ім — смялей...

Іх усіх чатырох, у яго на вачах, як усё роўна карова языком злізала... Выбуху ён не пачуў — заткнула толькі вушы нечым гарачым...

Калі ён пасля вылез з-за берага, на зямлі, дзе схавалася была ў дзяцельніцу «эфка», у неглыбокай ямцы блішчэла ўскалочаная чорная гразь. Белыя галоўкі дзяцельніцы ля яе былі чырвоныя ад крыві... На бугарку, на белым сіўцы, валяліся кавалачкі парудзелага палатна ад адзежы — хліпалі пад ветрам — і ляжала Рымусіна маленькая беленькая — сышла кроўю — ручка па локаць з заціснутым у жменьку прывялым шчаўем з загумення...

З-за бугарка падняўся на ногі Пашка Жарскі — не пабег хавацца пад бераг і астаўся жыць.

З чорнай ямкі доўга ішоў сівы дым. Над логам шалелі ад крыку кнігаўкі, сабраўшыся як усё роўна з усёй зямлі — угары ад іх ажно краталася неба. Чорныя канюхі падняліся да самага сонца і згарэлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хавалі Вайдавых дзяцей назаўтра. Вайда Ігнась з Анеляй думалі пахаваць іх у адным дамаўі — дзе возьмеш дошкі, але вёска не захацела, заўпарцілася. І тады Вайда Ігнась зняў на ферме ў першым кароўніку адны і другія дзверы і збіў са старых дошак чатыры маленькія дамаўі.

Іх адняслі на могілкі і закапалі бабы — восем баб, якія знайшліся ў вёсцы. Вайда Ігнась і Анеля дамаўя не нясці — у вёсцы свае не насілі ніколі ні дамаўя, ні вечка...

Вайда Толя на могілкі не пайшоў: прагналі бабы «з воч далоў...».

## 3

Цэлы тыдзень Вайда Толя не выходзіў нікуды з дому.

Праз тыдзень праз вёску пайшлі нашы. Гаварылі, што яны — і танкі і машыны — ужо даўно ідуць па шашы з Плешчаніц на захад, але праз вёску яны пайшлі толькі цяпер: праехала легкавая машына з адкрытым верхам, з афіцэрамі ў бліскучых жоўтых пагонах — на каленях у афіцэраў ляжалі аўтаматы — і за машынай, пачакаўшы, пайшоў абоз. Паркі коней, шэрыя, у яблыкі, чорныя, гня-

дыя, запрэжаныя з аднаго боку дышля і з другога, цягнулі вялікія калёсы з вялікімі заднімі коламі — вышэй плота. На калёсах, і адкрытых, і прыкрытых брызентам, ляжалі зялёныя скрынкі і скрыначкі, катушкі кабелю, нечым поўна набітыя мяхі, вяроўкі, шлеі, катлы, вёдры, кацялкі... Зверху на мяхахківаліся аўтаматы з жоўтымі прыкладамі і брызентавымі рамянямі і сядзелі высака на скрынках салдаты — у выгаралых гімнасцёрках з пакамечанымі пагонамі, у злінялых пілотках, расхрыстаныя, загарэлыя, чорныя з твару, вусатыя, з пасівелымі валасамі. У вёсцы яны не станавіліся: паварочвалі адразу да маста, але не ехалі на мост, а зварочвалі з дарогі і, пераехаўшы брод — паілі коней,— падымаліся з ракі і ехалі берагам аж на выганчык. Падвод было многа, яны занялі і альшэўнік, і лог па гэты бок ракі ля вёскі, і выганчык на тым баку аж да балота. Якраз вечарэла, сонца садзілася за вёску, і ў вячэрняй цішыні заіржалі распрэжаныя коні; забразгалі цуглі і вёдры; зазвінелі глухім звонам катлы, застукалі тапары, затрашчаў на балоце альховы сухастой і задымілі на адным і на другім беразе ракі агні пад катламі.

Нанач на лог і на выганчык лёг туман, схаваў з воч і коней і калёсы, толькі доўга яшчэ да самай недзе поўначы — гарэлі агні за ракой: уверх высака ляцелі іскры і доўгія цёмныя цені калыхалі густы туман і мрок. Доўга былі чуваць адтуль людскія галасы.

І хацелася Пашку Жарскаму пайсці туды — пабегчы з двара і сядзець упобачкі з салдатамі ля агню, як перад вайной з калгаснымі начлежнікамі, сцюцюрыўшыся, падагнуўшы да грудзей калені і паклаўшы на іх галаву.

Але Пашка не пайшоў: ён цяпер баяўся ісці з двара, а ў хаце стагнала хворая маці.

Усю ноч ржалі ў тумане коні. Раніцай усходам сонца абоз зняўся і неяк надта хутка схаваўся на грэблі. Туман над пустым выганчыкам падняўся ўгару і было відаць, як на начных вогнішчах курыцца сівы дымок.

Калі абоз з'ехаў з грэблі, усюды стала пуста і ціха: на лагу, на выганчыку і ў вёсцы. І ў гэтай цішыні разам з туманам і з лёгкім ветрыкам, што пацягнуў з-за ракі, на двары запахла вараным мясам — густа і востра, як пахла ў партызан з гаршка, калі яны даставалі яго з печы і садзіліся ў хаце за стол.

Пашка Жарскі не выцерпеў; забыўшыся, што яго нікуды не пускае маці, сарваўся з двара і пабег гародам на

лог. На лагу за платамі была зблэчапа трава і знаць сляды ад падкоў і калёс; курэла вуголле ў вогнішчах, валяліся драўляныя парожнія скрыначкі, кабель, шлеі ад збруі, вёдры і — ?! — ленты з патронамі ад нямецкіх кулямётаў... Доўгія, расцягнутыя, як змеі; халодныя і мокрыя ад расы... Ён іх не браў — ад яго яны нідзе не дзенуцца: ляжаць пад самым плотам. Мінаючы яшчэ нешта дрыўлянае, жалезнае, драцянае, нагрувашчанае ў кучы, ён бег да вогнішча, якое тлела на самым беразе ракі і над якім быў відаць здалёку вялікі чорны кацёл. Перакуліў нагамі вядро — яно было парожняе і паляцела, забразгаўшы, з берага ў раку.

Кацёл быў яшчэ цёплы — можна было пагрэць халодныя раніцай рукі — і на дне ў ім ляжалі вялікія — па мужчынскім кулаку — кавалкі мяса...

«Каніна...» — падумаў ён: калі бег, бачыў, што ля плота ляжаў зарэзаны маладзенькі конь... Ён падумаў яшчэ, што каніны ў вёсцы ніколі не елі, але, успомніўшы, адразу забыўся на гэта: ад голаду падводзіла духі.

Кавалак мяса быў цёплы і салодкі і з яго капаў тлушч — на грудзі — на рубашку, на штаны, на траву пад ногі; пацёк па руках пад рукавы аж да лакцей...

— Стой! Р-рукі ўверх! Б-бляха... Тут то ты мяне не абскакаў... З-заморак... Каніну я ўжо еў. На выганчыку за ракой...

Аглянуўшыся, Пашка Жарскі ўбачыў, што перад ім стаіць Вайда Толя, нацэліўшы на яго наш аўтамат з круглым дыскам, з жоўтым прыкладам, з брызентавым рамянём — такія ляжалі ўчора вечарам на калёсах у ваенных.

Вайду Толю Пашка не пазнаваў: на галаве ў яго была выцвілая белая пілотка, на грудзях з аднаго і з другога боку віселі шырокія, у дзве столкі, пафарбаваныя ў ваенны колер металічныя шчыты, якія, мусіць, вешалі салдаты сабе на грудзі, каб не прабіла куля, і якіх, мусіць, забыліся тут на лагу разам з аўтаматам. На шчыты з-за альшэўніка свяціла сонца — стаяла якраз над Вірам — і сцёбала па вачах, як шырокім ручніком. Пашка аж заплюшчыўся...

— К-канчай жорці... Б-бляха... На́ аўтамат — і страляй у грудзі...— Вайда Толя пастукаў кулаком у шчыты, і яны азваліся сухім стальным звонам.— Цяпер мяне ніякая зараза не возьме. Не брала і не возьме... Можаш начапіць і сабе. Там іх, гэтых шчытоў,— Вайда Толя паказаў за раку,— груды. На ўсю вёску хопіць... А аўтаматаў

больш няма-а... Аўтамат быў толькі адзін. Б-бляха... Патронаў поўны дыск. Блішчаць, як капейкі...

Вельмі хацелася ўзяць аўтамат, Пашка Жарскі аж выпусціў з рук на траву недаедзены кавалачак каніны...

Аўтамат быў цяжкі — не ўдзяржаць дзвюма рукамі.

— Адыдзіся да катла, адцягні затвор і лупі мне ў грудзі... Ніякая зараза не возьме праз двайны шчыт...

Пашка Жарскі і да катла адышоўся, і падняў цяжкі аўтамат, і нацэліўся ў грудзі Вайду Толю... Колькі разоў ён хацеў стрэліць з такога аўтамата, а тут — не змог... Адвярнуўся і закрыў локцем вочы. Мусіць, што трэба было страляць у чалавека — у дрэва стрэліў бы.

— С-страляй, б-бляха!.. Клоп худы і галодны... Заморак няшчасны... Духі падцягнула, косці адны, як у падлы... Сілы не хапае на курок націснуць...

І другі раз Пашка Жарскі не змог націснуць на курок. Трэці раз ён ужо не падняў аўтамат: забалелі рукі.

— Не можаш страляць — сам надзявай шчыты, б-бляха... Расці трэба, заморак... Давай аўтамат...

Вайда Толя падбег, бразгаючы шчытамі, зняў іх у сябе з грудзей і павесіў абодва яму, Пашку Жарскаму, на грудзі. Шчыты былі цяжкія,— ад іх аж падгіналіся калені,— але віселі добра на плячах, зачапіўшыся адмысловымі выгібамі — не спадалі. Пашку зусім не хацелася надзяваць шчыты. Ён пагладзіў іх спераду далонямі — шчыты былі халодныя і мокрыя з начы ад расы.

— Вучыся, б-бляха, як трэба...— Вайда Толя паставіў яго побач з чорным катлом, сам адышоўся на сваё ранейшае месца, падняў аўтамат, як крывую чорную галавешку з-пад катла з вогнішча, доўга трымаў уперадзе перад вачыма і, відаць, стрэліў... Чорная галавешка пыхнула на канцы жоўценькім агнём і патухла... Разам з ёй патухла адразу сіняе ранішняе неба, сіняя раса на выганчыку, сіні туман над ракой і сінія вокны ў хатах у вёсцы... І бацька ў канцы грэблі з торбачкай у руках, якога правялі на другі дзень вайны ў ваенкамат...

Праз шчыты ў грудзі стукнула востра і балюча — як усё роўна той маладзенькі конь падковай, што ляжаў на лагу блізка ля плота...

Куля з аўтамата прашыла наскрозь дзве столкі бранiраванага шчыта і прабіла навылёт худыя грудзі Пашку Жарскаму. Надта зблізку страляў Вайда Толя, каб ён хоць трошкі адышоўся далей...

Пашка Жарскі ўпаў на стаптаную траву ля чорнага

вогнішча і чорнага катла, і яго накрылі зверху два шчыты, афарбаваныя ў ваенны колер...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пахавалі Пашку Жарскага назаўтра побач з Вайдавымі дзяцьмі.

Вайда Толя ў той жа дзень сышоў з вёскі.

Гаварылі пасля, што відзелі яго на базары ў Даўтынаве. Нехта казаў, што бачыў на «студары» з ваеннымі. Яны злавілі яго на шашы — ішоў у Плешчаніцы: стаяў пасярод дарогі і баяўся ступіць на брук — ішоў шашой, пакуль не было бруку...

Ён баяўся ісці брукам: яму здавалася, што пад нагамі не каменне, а «эфкі» — гранаты, шэрыя, круглыя, рубцаватыя...

Пра яго больш не чулі.

З'ехалі з вёскі і старыя Вайды — невядома куды: дамоў у Даўгынава яны не вярнуліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З Паліка ў вёску ўсё яшчэ прыходзілі людзі.

*1983*

# Львы

*Міколу Мятліцкаму прысвячаю*

## 1

Джукі блажыла.

Яму вываройвала нутро і язык,— язык рабіўся доўгі, выцягваўся з рота, чырванеў, як агонь, слаўся на траву і на жоўтыя ў цвеце кунатыя адуванчыкі, і з яго цякла зялёная сліна — пенай. Калі блага адпускала, яго адразу хапаў кашаль —сухі, дзяркаты, глыбокі, ад яго падцінала духі, спірала ў вузкіх, маладых яшчэ сабачых грудзях — Джукі не было яшчэ і двух гадоў — і ён тады задыхаўся ад сухой гарачкі, якая паліла ў горле і востра пахла растаптаным палыном і ёдам.

Ён бег тады з двара, пасля бег вуліцай з Бабчына на лог, пасечаны на чорныя сцежкі кароўімі капытамі яшчэ ад згону зімы, шукаў жыватом халодную пляйстру зям-

лі, клаўся аблогай і выцягваў сваю чорную як смоль, з белай ласачкай на носе морду ў купіну — у густую цёмную ніжыперніцу, на якой увесь дзень, ці горача ці холадна, віселі буйныя, па ягадзе, кроплі расы. Тады адпускала, можна было перавесці дух. Язык цямнеў, рабіўся ліловы, не лез назад у рот,— ляжаў на купіне, выцягнуты і здранцвелы, не хацеў нават злізваць расу. Па языку адразу пачыналі поўзаць мурашкі. Маленькія, худзенькія, рудыя і жоўта-выцвілыя, яны абсыпалі яго і пяклі, што крапівай ці чорт ведае чым... І тады Джукі чуў, што ён яшчэ жывы... Падымаў сваю доўгую чорную з ласачкай морду з купіны і адплюшчваў балючыя вочы. Яны рэзаліся ад пяску, пылу, дыму, смуроду і былі мокрыя ад гарачых слёз. Ён цёр тады іх сагнутай крывой правай лапай — зраслася абы-як пасля таго, як ён сунуў яе ля магазіна пад машыну; калі апускаў лапу — уваччу было жоўта ад адуванчыкаў. Яны раслі, і старчма і абвісшы, на купіне, на сцежцы, воддаль на лагу, усыпалі поле, як скінуць балючымі вачыма, перабягалі за шэры асфальт і знікалі пад самым лесам ля Вялікай Пелі — балотца. Ад іх уся зямля, увесь Бабчын і нават зацягнутае густой тумановай заваламчу сіняе неба акрывавілася нейкай праціўнай успененай чырвонай жаўцізной... Здавалася, што ўвесь свет жоўты... Каб хоць сонца ўгары не было жоўтае. А то і яно крывава-жоўтае і, падняўшыся над лесам і над дарогай, круціцца і круціцца, як вялікае сабачча вока... Ад яго пачынае круціцца зямля падыспадам з полем, Бабчынам, шэрай шашой, далёкім лесам,— каб і хацеў, дык не ўдзержыш яе пад сабой сваімі пакалечанымі кволымі сабачымі нагамі... Як ні чапляйся...

І тады зноў падступае блага... Так тузае, што, здаецца, галаву сарве з карка і адкіне за жоўтую купіну...

Блажыць пачало тыдні два назад, калі з начы выпаў сіні іней. Джукі тады сарваўся з прывязі — адцяў два кружочкі ад ланцуга, яны і цяпер, калі ён бяжыць, бываe звіняць на ашыйніку на грудзях, там, дзе спірае кашаль. Ён бег у тую раніцу вуліцай, а над ёй вісеў густы, нейкімі жоўта-бурымі клубамі — ад ранішняга сонца, ці што? — туман. Ні хат, ні платоў не было відаць. Вуліцу ён чуў толькі носам — пахла пылам і палыном, што рос ля платоў і частаколаў. Туман быў цёплы, як пара, і пах нейкай праціўнай мазутай, перагарам, паленай гумай, бензінам, гнілой ворванню, ад якой выварачвала нутро, і... ёдам. Джукі бег за вёску, шукаючы ў рудым тумане

хоць які ўзмежак з прытаптанай вільготнай дзяцельніцай, куды можна было б уткнуць нос. Спачатку ён дыхаў палыном. Пасля і палын пачаў смярдзець бензінам, гнілой ворванню і... ёдам... Ні ля калгаснай студні, ні на дзядзінцы ля фермы не было ратунку...

Выбегшы за вёску на лог, Джукі згледзіў, што ўсюды на траве ляжыць сіні дробненькі іней — насыпаўся, як увосень. Іней лез у нос, нічым не пах, можа, трохі сухім торфам, але хацелася перхаць. Ад перхаўкі шорсткі, як пілавінне, сіні іней лез у грудзі і тады іх разрываў кашаль. Праз якую гадзіну пачало блажыць — вырвала на жоўтыя адуванчыкі ўсё, што Джукі падабраў учора позна вечарам на двары ў курыным карыце, і пагнала зялёную пену... Ужо нічога не давала рады: ні палын на межах, ні зверабой, ні лебяда ў гародзе, ні жоўтыя адуванчыкі, якія ён жвакаў у роце зубамі,— адуванчыкі буялі такім цветам, які Джукі ніколі яшчэ не бачыў. Не ратаваў ні густы пырнік, ні дзяцельніца, ні жычка ля хлеўчыка, ні маліннік у гародчыку ля студні, дзе Джукі качаўся. Куды толькі ён ні соваў нос... Нідзе не было спасу. Ратавала толькі ніжыперніца — расла, сцелячыся сваім шырокім, пажмаканым, як мяхі ў гармоніку, лісцем, па самай зямлі. Яе прыкрывалі зверху ад інею і пылу густая трава і адуванчыкі, ніжыперніца была халодная як лёд, і на ёй вісела раса.

На другі дзень Джукі шукаў носам адну толькі ніжыперніцу. Спачатку ён злізваў сваім доўгім языком з яе халодную расу. Пасля пачаў жаваць лісце і глытаць. Блага мінала.

І Джукі пасля таго, як выпаў сіні іней, усе гэтыя дні, калі яго душыла блага, шукаў ніжыперніцу...

## 2

Пасля ніжыперніцы адпусціла, Джукі мог дыхаць усімі, ахрыплымі за гэтыя дні грудзьмі, і, падняўшыся з лагчынкі ля купіны, ён пабег, форскаючы ад пылу і задзіраючы морду, назад у Бабчын — на свой двор, дзе з учарашняга былі расчынены насцеж і вялікія вароты, куды заязджаў гаспадар на трактары і на грузавой машыне, і маленькія варотцы, праз якія ўсягды хадзілі да іх на двор па ваду суседзі. Джукі на суседзяў ніколі не брахаў; лянiва глядзеў і на курэй, што беглі на двор з усяго канца вёскі і лезлі ў карыта да свіней. Іх ганяла

сама маладая гаспадыня — гальнікам, дзержачы на руцэ малое.

На двары было пуста, дзверы ў хату і ў хлеў былі пазачыняны. У хлеве, чуваць было, грукала рагамі аб сцяну карова і рохкалі свінні. Куры, выдзяўбаўшы гразь у карыце, паселі на ганку і круцілі галовамі. У хаце крычала на ўсё горла радыё — не выключылі.

Джукі, прыбегшы з логу, як і ўчора раніцай, шукаў маладога гаспадара: станавіўся на заднія лапы і пярэднімі дзёр па дзвярах у хату, пішчаў і скуголіў. Ніхто не адчыняў. Тады ён даставаў лапамі да акна ў хаце і стрэпаў кіпцямі па шкле. У хаце было пуста. Джукі бачыў у шыбіне толькі сваю чорную вострую морду з белай плямкай на носе і доўгі чырвоны язык — выцягнуўся за гэтыя дні, аж не месціцца ў роце. Каб хоць яго можна было схаваць за зубамі, а то целяпаецца, ловячы пыл, пясок, мух і мурашак, робіцца за дзень шорсткі, як тарка. Мякчэў язык толькі пасля благі — ад зялёнай пены.

Джукі глядзеў праз акно ў хату, дзе былі параскіданы па падлозе лыжкі і дзіцячыя чырвоныя лялькі, і чакаў. Вот выйдзе на ганак малады гаспадар, высокі, стройны, чорна-кучаравы, у чорных штанах і белай рубашцы. Джукі падскочыць з зямлі, пакладзе яму на плечы пярэднія лапы і лізне языком у самы кончык носа, асцярожна, далікатна — і ўсё: малады гаспадар не любіў, каб яму вадзілі па шчоках мокрым языком, як анучай, гэта маладую гаспадыню можна было лізаць, ніколі не закрывалася,— і тады малады гаспадар пусціць у хату, адчыне шафку і адрэжа яму кавалачак кілбасы, што прынёс з магазіна. Джукі яе вельмі падабаў.

Джукі лёгка клаў маладому гаспадару лапы на плечы — быў у свае няпоўныя два гады рослы — на высокіх лапах; доўгі — калі клаўся пад дзверы, займаў увесь ганак; з доўгім хвастом — хвост чорным цяжкім выцягнутым сярпом цягнуўся за ім аж па зямлі. Сам Джукі быў, відаць, беспародны, аблавухі дварняк, толькі, што ні кажы,— разумны і ў дабаўку да ўсяго чорны, як бог ведае ў што афарбаваны, і бліскучы, аж палыскаўся. Малога яго звалі Бімам, пасля, калі падрос і ўжо ганяў курэй, сталі зваць Жукам. А летась увосень на цэлы месяц прыехаў дамоў іхні сусед — таксіст з Кіева. Высокі, вышэй маладога гаспадара, ценкі, цяней за гаспадара, з доўгімі, аж на плечы, кучаравымі чорнымі валасамі, даўжэйшымі, чымся ў маладога гаспадара, з чорнымі вусамі, боль-

шымі, чым у гаспадара, хадзіў ён заўсёды ў белых штанах, чырвонай рубашцы, пад чорным, як у яго, Джукі, хвост, доўгім гальштукам і ў чорных, такіх бліскучых туфлях, што на іх не было як глядзець — слеплі сабачыя вочы. Ён зваў яго не Жук, а Джукі — на заграпічны манер. І перахрысціў сваёй лёгкай рукой. Адразу...

За акном усё яшчэ звінела радыё і муха — білася ў шкло. Гаспадар не выйшаў ні з хаты, ні з хлева. Джукі тады скочыў у сад — у кут да студні. У два скачкі, з ганка цераз частакол... Закалыхалася толькі ўгары голле на яблыні і пасыпаўся на сцежку пад лапы позні белы цвет... Джукі не бачыў яшчэ, каб так цвіў сад — быў увесь белы ад цвету, як ад пены, зрабіўся нейкі празрысты, нібы шкляны, і цягнуўся ўгару — здавалася, за гэтыя дні ён пачаў шугаць у неба адным белым цветам. І трава ў садзе так буяла, што ў ёй хавалася дзежачка з вадой, якая стаяла пад яблыняй...

У садзе было ціха — каб дзе муха зазвінела. Джукі, не знайшоўшы ў садзе гаспадара, бег ад студні белай ад цвету сцежкай на двор і чуў, што ступае лапамі на мёртвых пчол... Яму яшчэ здалося, што ў хаце заплакалі малыя гаспадаровы дзеці. Ён спыніўся ля ганка і задзёр угару галаву — у сінім небе над вёскай нылі самалёты, цягнучы за сабой белыя, як цвет на яблыні, пеністыя дарожкі і за сцяной у хаце звінела радыё...

І Джукі, як і ўчора, не знайшоўшы дома маладога гаспадара, выбег на вуліцу і пусціўся ў канец вёскі да школы, дзе ён бачыў свайго гаспадара апошні раз. Выбегшы на вуліцу, ён быў яшчэ спыніўся — хацеў павярнуць на шашу, каб пабегчы ў лес да Свінакомплекса, дзе ўсягды дзень і ноч прападалі яго малады гаспадар і маладая гаспадыня і дзе ў дзесяці доўгіх і высокіх мураваных будынках было гэтулькі свіней, што, калі б давялося забрахаць на кожную адзін толькі раз, не хапіла б сабачага жыцця... Але ён ужо бегаў туды ўчора. Маладога гаспадара там не было. Адно галодныя свінні верашчалі так, што, здавалася, поўсць стане дыбам...

І Джукі пабег у канец Бабчына пад Стралічава.

## 3

Пацягнуўшы носам густы пыл з палыном і мазутам, Джукі адразу пачуў, што ягонага маладога гаспадара няма ў грумадзе. Але ён бег, усё нюхаючы пыл і форскаю-

чы носам, у грумаду да школы на канец вёскі. Усюды пахла палыном і саляркай, здратаванай травой, дымам ад папярос і праціўным вінным перагарам, як ад кіеўскага таксіста, а ён, Джукі, цягнуў і цягнуў носам пыл: не ля школы, дык ля магазіна гаспадар будзе — мала што ён у тую раніцу сеў з маладой гаспадыняй — у яе на руках было двое малых, а ён валок два вялікія чамаданы — у біткам набіты аўтобус. Перад тым гаспадар пусціў яго ў хату і доўга гладзіў па галаве, гледзячы ў вочы. Пасля сам лізнуў яго, Джукі, у нос і заплакаў. Джукі бег ззаду за аўтобусам аж за Стралічава, не дабегшы да Хойнік. Джукі не раз быў у Хойніках, ведаў, што малады гаспадар мог сесці ў вялікі чырвоны аўтобус і паехаць далей — у Гомель. Ну і што?.. Не раз было: паедзе — прыедзе...

У грумадзе ля школы на дзядзінцы неяк прарэзліва і праціўна звінелі галасы і вёдры — ну і што? Хіба так не было? Завялі трактар, застракатаў матацыкл, зараўлі цяжкія крытыя брызентам машыны, пускаючы сіні дым вышэй стрэх. Ля магазіна стаялі ў рад вялікія чырвоныя аўтобусы...

Джукі адразу сунуўся ў грумаду — пад ногі: яму раптам здалося, што ён пачуў знаёмы пах гаспадара — пах свіней на Свінакомплексе, саляркі, варанай бульбы і яшчэ нечага рэзкага — так пахлі двое маленькіх дзяцей, калі гаспадар трымаў іх на руках: малаком і сікамі. Гэты пах быў недзе зусім блізка, і Джукі аж спёрла ў горле. Ён бег, цёршыся ля босых, мокрых ад расы і апырсканых граззю ног, ля халяў кірзавых запыленых ботаў і заляпаных гноем гумовікаў, ля новых беленькіх кедаў, красовак, туфелек, чаравік і басаножак... Ён круціўся ўзад-уперад, задыхаючыся ад пылу, яму сталі абцасам на балючую правую лапу, і ён закульгаў... Кульгаў, пакуль не пачаў задыхацца ад пылу і знямогі. Падумаў тады, што і боты, і босыя ногі, і штаны, і спадніцы — усе пахнуць сёння гаспадаром: свіным хлевам, гарам і дзіцячымі сікамі, збіваючы яго са штыху.

Рыкала недзе скаціна, крычалі і плакалі людзі, брахалі сабакі, хлебястаў блізка трактар, але Джукі ні шмаляў — такое бывала і ля школы, і ля магазіна, не раз. І не такое нават, калі сюды сыходзілася вечарам шафярня і калі сярод іх быў кіеўскі таксіст. Але сёння над усім гэтым — над вёскай, над людзьмі, над доўгімі чырвонымі аўтобусамі і вялікімі кузаўнымі машынамі, крытымі бры-

зентам, у кабінах якіх сядзелі ваенныя, вісела пейкая ўтрапёная, гарачая чалавечая трывога, якую Джукі ўлавіў ужо тыдні два назад. Яна адрознівалася ад звычайнай сабачай трывогі і яе Джукі ніяк не мог зразумець сваім маладым яшчэ розумам... Нарэшце яна вылілася ў адну кроплю, чыстую і празрыстую, як раса на ніжыперніцы: ён больш ніколі не ўбачыць свайго маладога гаспадара з маленькімі дзецьмі на руках...

Над вёскай павісла гарачае сонца — паліла з засмужанага жоўтага неба — і плач. Дзяцей адлучылі ад грумады і пасадзілі ў вялікія чырвоныя аўтобусы — садзілі людзі ў белых шапачках на галовах. Ад іх пахла ёдам — аж зрывала нос.

У аўтобусах шчыльна пазачынялі вокны.

Астатняя грумада, грукаючы кірзавымі ботамі, шлёпаючы гумовікамі і сіляючы басаножкамі пясок, села ў крытыя брызентам машыны.

Ля школы асталося некалькі чалавек з вёскі — пусціліся бегчы за машынамі. Джукі абагнаў іх і пабег першы. Бег аж за Стралічава, пакуль язык ад пылу, што падымалі машыны, не зрабіўся шорсткі, як кара...

Тады яго зноў зблажыла...

## 4

Зморапы, Джукі сядзеў на пагурку ля шашы пад Стралічавам і глядзеў на поўдзень, дзе несціхана гулі ў небе самалёты і далёка, недзе ўжо на Украіне, падымалася і стаяла, як і ўсе гэтыя дні, густое бурае воблака. Ён не ведаў чаму, але яму раптам захацелася завыць, і ён, задзёршы галаву і гледзячы на рудое воблака, над якім кружылі дробныя чорныя мушкі — самалёты, зацягнуў, як воўк. Раз, другі, цягнуў доўга, як выліваючы з душы і страх, і бяду, і сабачыя слёзы па гаспадару, якога вельмі любіў, і самому яму ад таго рабілася жудасна — уставала на хібе поўсць...

У Бабчыне пачалі адзывацца сабакі.

Яны і атакавалі яго, калі ён збег з пагурка ад Стралічава на вялікі лог з асушальнымі канавамі, у якіх блішчала на сонцы вада. Бабчын разросся, пайшоў паўкругам да шашы і да лесу, акруціўшы шырокай, доўгай абтаполенай вуліцай хат на дзвесце вялікі лог, дзе нядаўна яшчэ было возера. Па ім плавалі на чаўнах па траву, лавілі карасёў і стралялі качак.

Яны сабраліся з усяго Бабчына на лагу ля канавы. Вада ў ёй была роўна з берагамі. На беразе стаяў чырвоны трактар — пампаваў яе ў два вялікія, укрытыя цэлафанавай плёнкай, душы — адзін і воддаль яго — другі. За плёнкай відаць былі цьмяныя сілуэты голых людзей; вуха лавіла халодны баязлівы смех. Да душаў — аднаго і другога — выцягнулася доўгая чарада людзей, як бывае да магазіна; знадворку ля цэлафану падымалася высока ўгару мыльная пена і яе разносіў гарачы вецер, які дзьмуў з самай раніцы з гары — з Украіны. Ля душаў, ля трактара і ля крытых брызентам машын завіхаліся людзі ў белых халатах, з белымі шапачкамі на галовах і з белымі павязкамі на тварах...

Атакавалі яны яго з гэтага боку, ад людзей з белымі шапачкамі. Джукі згледзіў яшчэ здалёку, з гары, што яны, збегшыся, круціліся пад нагамі ў людзей з белымі шапачкамі, перабягалі ад трактара да канавы і назад, ляжалі хто як на траве, кашлялі, перхалі, ванітавалі, падпаўзалі да душа і лізалі белую пену. Былі злосныя, гыркалі на людзей і самі на сябе.

Джукі іх усіх адразу пазнаў: леглі, згледзіўшы яго, на беразе канавы на стоптанай траве ў адзін раз і натапырыліся ў яго бок, нават хвастамі не краталі — чакалі.

Самая першая ляжала, выцягнуўшы ўперад лапы і паклаўшы на іх морду, сучка Брынза. Была яна старая, худая, доўгая, касцістая і ўся жоўтая — і вочы ў яе былі жоўтыя. Жыла яна з таго канца Бабчына, пад Свінакомплексам, у старой будцы з дзіравай жоўтай, як сама, ржавай бляшанай стрэшкай ля хлеўчыка ў такой жа старой гаспадыні. У Брынзы быў гадаванец — Тузік, такі ж жоўты, кудлаты, толькі недаростак. Ляжаў ён цяпер за ёй ззаду і церабіў нагой за вухам.

Воддаль Брынзы, павярнуўшыся да яе галавой, кашляў Руды. Дварняк з выбітым вокам. Невядома чый. Аціраўся каля ўсіх свіных карыт у Бабчыне і ў дабавак еў курыныя яйкі ў гнёздах.

За Рудым ніяк не мог улежаць — усё торгаўся і круціў па баках галавой — Палкоўнік, высокі, калі стане на ногі, рыжы, стройны ганчак-мяшанец. Жыў цераз вуліцу ад старой сучкі Брынзы. Гаспадар яго, прыйшоўшы некалі без нагі з вайны, крычаў, напіўшыся: я — палкоўнік! Гаспадар так і стаў у вёсцы Палкоўнікам, а цяпер і ягоны сабака. Палкоўнік-сабака быў усягды дагледжаны, накормлены. Меў раскошную новую, пафарбаваную ў чыр-

воны колер, як страха на хлеве, будку і кожны раз кідаўся з яе на Джукі і хапаў адразу за горла, калі той забягаў на двор.

За Палкоўнікам ляжалі ўпобачкі Пушок і Чапа — Чапкоўскі. Пушок — маленькі, рыжанькі, кудлаценькі. Хатні. Жыў пасярод вёскі ў маленькай хаце адзінокай гаспадыні. Чапа — Чапкоўскі — быў чорны, прыземісты, даўгавухі — вушы аж па зямлі. Ніколі не задзіраў галавы, любіў дзяцей, бегаў за імі па вёсцы, і яны цягалі яго за вушы. Гаспадара яго Джукі не ведаў.

За імі, ускочыўшы раптам з зямлі, пачалі нюхаць адзін аднаго два Бімы — Вялікі Бім і Малы Бім. Абодва чорныя, у белыя плямы. Раўеснікі Джукі. З новага пасёлка пад Стралічавам. Жылі яны на размалёваных верандах, будак у іх не было.

Скочыўшы наперад, падбеглі і ляглі бліжэй за ўсіх да яго, Джукі, Вермут — карычневы, як спелы каштан, падобны на аўчарку шыракагруды здаравяк і сучка Білія — такая ж карычневая аўчарка — дзесятая вада на кісялі. Гэтыя жылі ў канцы вёскі ля школы. Ні будак у іх не было, ні жыцця добрага. Прывёз іх некалі абаіх са Стралічава п'яніца-трактарыст смаркатымі шчанятамі і кінуў на вуліцы... Яны і цяпер ляжалі ўсягды на вуліцы на пяску ўпобачкі, перахлябістыя, галодныя, і куры клявалі ім хвасты.

Далей кратаўся ў траве, як усё роўна рыў сабе яму, чорненькі маленькі Маркіз з белай манішкай на грудзях і стаячымі вушкамі. Гэтага Джукі добра не ведаў — прывязла яго фельчарка з Гомеля і рэдка выпускала з хаты.

Была тут і сучка Малекула, бурая, падгалая. Жыла ў настаўніка ля самай школы ў хітрай будцы з шыфернай стрэшкай. Лавіла курэй.

Апошнім у гэтай сабачай гайні, якая часта збіралася вечарамі ў Бабчыне на лагу, ля школы, на ферме, а то і аж на шашы пад Свінакомплексам і рэдка разыходзілася з мірам жывая і здаровая, быў Мірон — чорная няўдалая барзяціна. Жыў Мірон на двары ў старшыні калгаса. Сядзеў усягды ці на ланцугу ля будкі, ці ў легкавой машыне з гаспадаром.

Ён першы і кінуўся на яго, Джукі, падскочыўшы з зямлі, як мячык... І ў гэту кароценькую долю імгнення, пакуль Мірон вісеў угары, Джукі згледзіў, што той аблез... Быў увесь шэры, нібы ўкачаны ў попел. Доўгая чорная кудлатая поўсць у яго асталася толькі на шыі і на

канцы хваста, як у льва... Дагэтуль Джукі бачыў львоў толькі ў тэлевізары, калі гаспадар быў добры і пускаў яго вечарам у хату... Ён спопаразку затрымаўся на міг на месцы — а так бы ён скочыў убок! — тут яго і збіў з ног Мірон, пакаціўшы па траве... Коцячыся ўніз з беражніцы, Джукі згледзіў яшчэ, як усе яны, пачынаючы ад жоўтай Брынзы і канчаючы прагавітай Малекулай з Бімамі, Чапамі і Маркізамі — няшчаснай малечай, адзін на адзін дык — на адзін зуб з кішкамі ў прыдачу — распласталіся ўгары ў шалёным скачку. І зноў Джукі разанула па вачах — усе яны аблезлі: і Брынза, і Малекула, і два Бімы... Хто знізу з жывата, хто зверху са спіны. Жоўтая Брынза была ўся голая...

Яго збіў з ног Мірон, Мірон яго і выратаваў. У той міг, калі жоўта-гола-шэрая беспародная гайня, сплёўшыся яшчэ ўгары над ім у раз'юшаны разяўлены клубок, сапучы гарачынёй, яхкаючы і рычачы, упала на яго зверху — яна лучыла на спіну Мірону, які ў гэты час прыціснуў яго, Джукі, перакуленага дагары, да зямлі, і намагаўся сцяць зубамі за горла. Мірон заекатаў на ўвесь свой пярхаты, ахрыплы голас; пад ім распаўзліся ногі, і ён прыціснуў сабой — з усёй гайнёй, якую не ўтрымаў на спіне — Джукі да зямлі... Джукі пачуў, як у яго палезлі з вачніц вочы... Пасля гэты калючы, гарачы, раз'юшаны аблезлы клубок падхапіў яго вострымі кіпцюрамі з зямлі і, здзёршы ашыйнік, пакаціў па беражніцы, парытай кратамі, па ліпкай траве, запырсканай пенай, слінай, сікамі і кроўю. Ён чуў, як яго рвалі зубамі за спіну, за бакі, за хвост... і сам выпусціў кіпцюры і запусціў зубы, чуючы ў роце пясок, поўсць, якая была асталася яшчэ на баках аблінялай зграі, і салёную кроў, ад якой ён звярэў... Але іх, аблезлых, было многа... А ён быў адзін... І яны кацілі яго берагам да чырвонага трактара, пасля людзям пад ногі на мокрую траву і мыльную пену. Кацілі і рвалі зубамі... Калі яго выкацілі на чыстую беражніцу на чорны торф і сівы пясок, ён пачуў, што задыхнецца ад пылу, не вытрывае... Хапіў кашаль і падступіла блага... Як кожную раніцу... Злавіўшы момант, калі яго зноў распласталі на спіне, ён сабраў у абкусаныя лапы ўсю сваю сабачую сілу, спружыўся, адштурхнуў ад сябе гарачы, запылены зубаты клубок і... астаўся ляжаць на зямлі... на спіне... Гарачы, раз'юшаны клыкасты клубок у гарачцы забыўся на яго і пакаціўся, гыркаючы, форскаючы і якочучы, сівым пясчаным логам, падымаючы з зям-

лі пыл, поўсць, камякі торфу, траву і жоўтыя адуванчыкі...

Джукі ляжаў на мокрай ад крыві траве на спіне, не могучы адразу падняцца. Напружыўшыся, ён задзёр галаву і глядзеў на запылены аблезлы львіны клубок, які нібыта гарачым ветрам гнала на шашу пад Стралічава...

Блізка недзе ракатаў трактар, бразгалі вёдры і крычалі людзі.

Яны і падышлі да яго пачакаўшы — двое, у белых шапачках і з белымі павязкамі на тварах. Нахіліліся, падклалі рукі і паставілі на ногі...

Ён не даўся, каб яго пагладзілі па галаве.

## 5

Ён начаваў гэту ноч на ганку пад дзвярыма. Расцягнуўся па дашчатай пафарбаванай падложцы, паклаў галаву на лапы і глядзеў усю ноч на вуліцу праз расчыненыя вароты. Усю ноч было ціха ў вёсцы, як у яме; толькі звечара далёка на шашы пад Свінакомплексам ціхенька шумелі машыны, лыпаючы падслепаватымі фарамі, позна ныла за акном у хаце радыё, падалі пасля спалоханы голас куры ля хлева, як усё роўна іх узагнала памаўзлівая Малекула, і ўсё сціхла, як вымерла. Толькі капала ў студню аднекуль зверху вада — ці не з дзіравага вядра на ланцугу — манатонна, раз за разам і не давала звесці вочы. Джукі так і не заснуў да самай раніцы — на жываце і на задніх лапах балела скура, востра, як пасыпаная прыскам. Калі ён кратаўся, чуў, што пад ім мокра і ліпка — з жывата, з раны, цякла сукравіца.

Усю ноч ён глядзеў на вуліцу і ўсю ноч думаў: чаму на яго напалі сабакі? Перш яны на яго так не нападалі: баяліся. Гыркалі, рвалі, бывала, у зборышчы за бакі, гыркаў, рваў і ён таго, хто лез яму на ражон ці пах такой паскуднай гнілой псінай, што лепш бы яму, такому, здыхаць у будцы, а не лезці нюхацца, разявіўшы паскудны рот...

Можа, напалі за тое, што завыў па-воўчы днём на гары пад Стралічавам, павёўшы жуду на сабачыя вушы. Сабакі выюць рэдка, можа, толькі чуючы смерць, і не любяць гэтага.

Пасля недзе ў яго напятым сабачым розуме мільганула здагадка, у якую ён і сам не хацеў верыць: напалі за

тое, што ён не аблез... Яны аблезлі, а ён не. У яго толькі высыпалася поўсць з маленькай белай ласачкі на носе. Ён не ведаў, што гэта была за бяда, але яна яго мінула, а іх не. А што бяда прыйшла, ён гэта чуў; не ведаў, не разумеў сваім сабачым розумам, якая яна, гэта бяда, але счуў — хацелася выць. Ляжаў усю ноч галавой да расхрыстаных варот на пустую вуліцу, а яму хацелася выць — хоць здохні. Ён пробваў выць ноччу, але ад натугі балеў паранены жывот і густа цякла на ганак сукравіца.

Звёў вочы ён пад раніцу, у час, калі ўсё жывое млее і пускае па губах салодкую сліну, і адразу прачнуўся ад грукату. Спаць яму не далі.

Яшчэ не падымаючы галавы з лап, ён добра ўбачыў, як з шашы ад Свінакомплекса паўзлі сюды, у вёску, машыны. Нізенькія, зялёныя, крытыя зялёным брызентам, яны лязгалі бліскучымі гусеніцамі, як трактары. Узышло сонца за Свінакомплексам і сцябала па бліскучых гусеніцах крывавым золатам. За нізенькімі машынамі ішлі высокія, дзюбатыя, як буслы, за імі парожнія кузаўныя; іх, здавалася, падпіхалі чырвоныя трактары, сунучы па зямлі перад сабой вялізныя металічныя белыя лемяхі. Джукі ўздрыгнуў, пачуўшы нешта нядобрае. А ўцякаць яму сёння нікуды не хацелася: балеў паранены жывот. З логу з ветрам прынесла гар — зноў падвярнула пад грудзі блага, як і кожную раніцу. Але на лог у ніжыперніцу не пабяжыш: там зялёныя машыны...

Пачакаўшы, Джукі ўбачыў, што ў вёску яны не ідуць: з'ехаўшы з дарогі, пачалі ссоўваць у кучы зямлю, і на дарозе, і на полі, падымаць яе каўшамі ўгару, насыпаць у кузавы і адвозіць у бок Свінакомплекса. Над полем і над дарогай падняўся высока пыл, засланіўшы рудой пасцілкай сонца. Ад грукату ўздрыгваў паднізам ганак. Ну і што? Джукі такое бачыў і чуў і вясной і ўвосень. І не раз.

Блага прайшла. Захацелася раптам есці. Учора цэлы дзень блажыла, вярнула ахапкам сліна, і ў роце не пабывала нават макавай расінкі. Джукі ведаў, дзе яда: учора вечарам, калі людзі ў белых шапачках, выгнаўшы з хлева кароў і свіней, завярнулі іх на выган, дзе цяпер равуць машыны, а адтуль з усёй вясковай стадай пагналі ў лес пад Свінакомплекс, суседка выпусціла з іхняга хлева на двор курэй і насыпала ім у карыта варанай бульбы. Джукі падумаў, што ў вёсцы асталіся цяпер адны куры...

Падняўшыся на лапы — чуць адліпла ад ганка мокрая ад сукравіцы скура на жываце,— Джукі асцярожна

пацягнуўся, пазяхнуў на ўвесь сабачы рот, не могучы пасля схаваць за зубамі абвіслы язык — патрэскаўся за ноч і з яго пасачылася кроў — сышоў паціху з ганка і пакавыляў да студні — да дзежачкі з вадой, што стаяла пад яблыняй,— піць хацелася больш, чымся есці: у роце было суха і горача.

Вярнуўшыся ад студні, ён не ўтрымаўся, каб не высунуць галаву на вуліцу...

Яму адразу заклала вушы...

Ён ляжаў дагэтуль на ганку, за двума сценамі, і яму здавалася, што грукатала толькі на лагу ад шашы...

Свайго канца вёскі ён не пазнаў...

Вуліца была заслана пылам. Такія ж самыя дзюбатыя, як буслы, машыны ўзрывалі вуліцу, сілялі з яе пясок і сыпалі ў кузавы. Машыны, поўныя чорнага пяску, цяжка равучы, паўзлі гародамі пад сіні лес да Свінакомплекса. І нідзе не было відаць людзей... Толькі з кабін высоўваліся чалавечыя галовы, бліскаючы замест вачэй шклом. Пад шклом у іх матляліся пажмаканыя трубкі, як кішкі...

Джукі пасмялеў і высунуўся ўвесь на вуліцу — падцяў толькі пад сябе паміж ног свой доўгі, паранены пасля ўчарашняга хвост. Цяпер ён добра бачыў, што зямлю бралі не толькі на вуліцы; забіралі яе і з гародаў. Секлі тапарамі яблыні — з іх сыпаўся на чорную ўзрытую зямлю белы цвет, як снег. Ламалі трактарамі платы і частаколы ад вуліцы, грузілі на машыны і звозілі. Раскрывалі стрэхі на хатах, знімалі гонту, салому, бляху. Стрэхі адразу накрывалі нечым белым...

Пахла глінай, торфам, гноем, палыном, падсмаленай шэрсцю і дымам... І сярод гэтага грукату і смуроду Джукі раптам выразна пачуў пах свайго гаспадара: рэзкі дух Свінакомплекса і дзіцячых сікаў... Джукі не мог памыліцца: такі рэзкі дух ён ні з чым бы не зблытаў...

Ён рвануўся туды, адкуль ішоў дух — удоўж разрытай вуліцы: гародамі ля знесеных платоў. Цягнучы носам пыл, ён прабег аж да магазіна. Ля магазіна было цішэй. Зямля з вуліцы тут была скапана, зеўрала толькі неглыбокая жоўтая лагчына, і ў яе адзін за адным зялёныя самазвалы ссыпалі шэры грудаваты пясок з дробным каменнем. Палівалі яго вадой і прыціскалі зверху цяжкім катком, як на дарозе пад Свінакомплексам — Джукі такое ўжо бачыў.

Ён падбег да адной машыны, да другой. Густа запахла гаспадаром... Ён і да трэцяй падбег... Не мог злавіць толь-

кі сваім сабачым розумам — чаму ўсе расступаюцца перад ім і даюць дарогу. Стаяць, апёршыся на рыдлёўкі, пазрывалі з твараў белыя павязкі...

Джукі хацеў падбегчы і да чацвёртай машыны: яе ён заўважыў толькі цяпер... Яна стаяла воддаль, ля самых дзвярэй магазіна. І тут Джукі раптам згубіў пах гаспадара і пацягнуў глыбока носам... Ён не згледзіў здалёку, што было ў кузаве чацвёртай машыны — самазвала, старога, зношанага, пагнутага, заляпанага белай вапнай, але сваім сабачым нюхам пачуў учарашні горкі і працяўны пах кіслай псіны — львінага клубка з логу... Ён тузануўся адразу назад, нібы яго рванулі за хвост, акруціўся ў адзін міг і ўбачыў, што стаіць адзін на чыстай шырокай пясчанай лапіне, а яго акружаюць з усіх бакоў людзі... Яны яго адумысла пускалі ад машыны да машыны, не праганялі — заманьвалі... Іх многа, і стаяць яны шчыльна — адзін ля аднаго. Ён чхаў на іхні зман, не ў такіх пераплётах бываў... Хоць і баліць рана на жываце, ён скочыць на таго, нізенькага, што стаіць з лапатай у руках і выціраецца ад поту. Нагамі ў грудзі — і лаві яго за хвост... Толькі яму раптам зрабілася горка-горка — дзе ж гаспадар?

Скочыць яму не даў стрэл — грымнуў якраз адтуль, куды ён хацеў сігануць — з-за недалугага чалавека з рыдлёўкай. Куля свіснула ля вуха і шлёпнулася пад ім, пад заднімі нагамі, узняўшы пыл. Стрэл быў ядраны, густы — з ружжа. Джукі чуў не раз такія стрэлы. Іх лавіла вуха і сёння раніцай. Лавіла і прапускала міма. Страляюць — хай страляюць... Джукі памыліўся... Ён ведаў, як адстрэльваюць сабак. Летась па ім стралялі на шашы. Толькі ён шмыгнуў у бульбеўнік і лёг на зямлю. Пабегла шашой сучка Ванда, якая была з ім. Пачуўся стрэл, і яна, падскочыўшы, лягла і закруцілася на асфальце... Пасля заціхла, і яе драцянай пятлёй закінулі ў крыты металічны фургон.

Джукі ўсё адно б скочыў на таго недалугага з рыдлёўкай у руках, але ён раптам згледзіў міліцыянера: той, паявіўшыся у недалугага з-за плячэй, ішоў проста на яго, наставіўшы ружжо. Джукі крутнуўся да машын, што стаялі на дарозе,— і там расставіў ногі міліцыянер з ружжом... Тады Джукі тузануўся да магазіна, дзе стаяў самазвал, ад якога несла кіслай псінай... Ля магазіна — вароты... Плот... Джукі ведаў тут усе падваротні...

Але і ля старога самазвала стаяў чалавек у клятчатай

рубашцы з закасанымі рукавамі, з белай шапачкай на галаве і з ружжом у руках...

Джукі забегаў па пясчанай лапіне і закруціў хвастом. Пасля стаў рабіць вялікія кругі, шукаючы надваротні, куды можна было б шмыгнуць. Але надваротня ля магазіна была застаўлена скрынкамі. За старым самазвалам бялела доўгая магазінная сцяна з цэглы. Можна было рвануць толькі на вуліцу, але адтуль загарадзілі дарогу рабочыя і два міліцыянеры з ружжамі — вадзілі за ім доўгімі чорнымі ствaламі. Ён не хацеў соваць нос пад ствалы. Не хацеў і бегчы: помніў, як пабегла летась сучка Ванда...

Ён кружыў, узад-уперад, ціснучыся да людзей. Людзі пры людзях баяцца страляць сабак — баяцца параніць сябе.

Ён кружыў усё хутчэй і хутчэй, аж у вачах пайшлі кругі. Чорныя кругі, як дома дзверы ў будцы, тады кругі з беленькай тасьмы, якія, здавалася, лезуць яму на шыю і цягнуць у ваду на дно. Круг з беленькай тасьмы раптам сашмыкнуўся ў яго з галавы, і ён, маленькі яшчэ, толькі ўбачыў свет сваімі падслепаватымі вачыма, выплыў наверх, на ваду. Па вадзе ішлі кругі, і ён ніяк не мог тады вырвацца з іх, каб даплыць да берага ў мячэўнік...

Доўга кружыць ён цяпер не мог: упадзе ад знямогі на пясок і яго пасля стрэлу, узяўшы за ногі, ускінуць, як Ванду, у кузаў, адкуль пахне кіслай псінай...

Ён пачаў рабіць усё меншыя і меншыя кругі па пяску, ціснучыся да машыны пад магазін. Расчыненая кабіна з адвіслымі заляпанымі вапнай дзверцамі пасоўвалася да яго ўсё бліжэй і бліжэй. Чуваць было ўжо, як з яе запахла мазутам і хлебам...

Вось грымне стрэл: міліцыянеры паднеслі да вачэй ружжы...

Джукі тады рвануўся ўперад, пакаціўшыся па пяску да самазвала, і... скочыў у кабіну... Пачуў пасля, як за ім грукнулі дзверцы, як стрэл з ружжа. Калі ён агледзеўся, убачыў, што ў кабіне ўжо сядзеў за рулём мужчына ў белай шапачцы і клятчатай рубашцы з закасанымі рукавамі і гаварыў — нешта добрае і лагоднае, як малады гаспадар.

Каб жа Джукі мог разумець, што ён гаворыць.

— Жыві, маць тваю так!..— вылаяўся мужчына ў клятчатай рубашцы, выціраючыся ад поту.— Жыві, дарагі мой... Калі ты ўжо з такой крутаверці ад міліцыі выр-

ваўся, то жыві-і... Тут ужо я сам не дам цябе застрэліць. Гэта ж падумаць... Ён да мяне ў кабіну. Ратавацца. І правільна зрабіў: жысь твая на валаску вісела. Правільна, брат, зрабіў... Жыві! Глянуў я на цябе, а ты з лапкі на лапку пераступаеш, вочы такія пакорлівыя і такая ў іх натуга, нібы гэта ты адзін вінаваты за ўсё тое, што мы натварылі. Нібы ты гэта сам нарабіў... Стаю і рукі мае з ламачынай самі апусціліся. Не магу стрэліць, і ўсё... Аж пад грудзі падкаціла. Аж галаву маю павяло... Нагледзеўся я за дзень на вашага брата праз мушку... А ён што, ваш брат, вінаваты? Жыві, маць тваю барабан... Толькі ўбірайся з зоны к чортавай мацеры... Гэта табе я кажу. Вывезу на шашу пад Свінакомплекс і дуй на поўнач, на маю Віцебшчыну...— Джукі чуў, што яны едуць па нечым няроўным: гайдала машыну.— Я, брат, з Віцебшчыны. Пасля вайны мяне малога сюды судзьбіна занясла. Ідзі, брат, на поўнач. Дабірайся. Там, гавораць, чыста, няма гэтай заразы. Я разумных цаню. А ты — не дурны-ы... Да мяне ў кабіну... Гэта ж падумаць... Жыві, брат, калі ўдалося выкруціцца. Тако-о-е звалілася на нашы галовы... Ніхто і не чакаў. Вецер, брат, падзьмуў на нас з табой з Чарнобыля. Далёка тут да яго. Узыдзі на гару за Стралічава... Відаць, як над ім вісіць рудая хмара. А ты не дурны-ы... Гэта ж падумаць... У кабіну. Каб расказаць — дык не паверыць. І ўмудрыўся — не аблез. Яны ўсе,— кіўнуў ён галавой на акенца ззаду ў кабіне,— аблезлі, а ты — не. А ты ведаеш, якую дозу яны хапянулі? Не ведаеш. А я ведаю. Павер. Усім ім — капцы б усё роўна... А колькі б яны гэтай заразы яшчэ разнязлі б. Ды схавай ты свой дурны язык. Высалапіў аж на падлогу... Трэба было б цябе праверыць. Хаця, калі ты не аблез дагэтуль... Можа, і выжывеш. Я, брат, і сам ратуюся, як і ты. Ёд п'ю, а ў дабавак і белую і шэрую. Адным словам, не жысь, а кабернэ... А хто скажа, чым усё кончыцца. Такія дозы... І скаціна, і сабакі... зашкальваюць. А ваш брат рухавы, на адным месцы не сядзіць — разносіць усё гэта. Вось і спусцілі на вас загад. Усіх да аднаго ў зоне... Падчыстую. Але цябе я... Жыві, брат, можа, і выжывеш. Што не сядзіцца? Скрабешся на сядзенне? Залазь. Ды схавай ты свой сабачы язык, апух ён у цябе, ці што? Глядзець не магу... Жыві, можа, і выжывеш... Што? Не верыш, што я гавару? Паглядзі ў аконца. Там такія, брат, як ты-ы... Адвязу ў лес за Свінакомплекс і... Як парасят. Пад агонь... Ці пад бетон... Ім ужо адзін хрэн. Такі, брат, загад...

Матор страляў, як з ружжа. У кабіне пахла гарам, бензінам, бядой і, здавалася, маладым гаспадаром.

Мужчына ў клятчатай рубашцы загаварыў зноў, ласкава, як, бывала, малады гаспадар, прыйшоўшы дамоў пасля работы і адчыняючы шафку, але машыну пачало кідаць з боку на бок па рытвінах, і Джукі пачуў, як зноў падступае блага. Яго пачало тузаць, ён стаў на заднія лапы і паскрэбаў кіпцюрамі па шкле ў дзверцах, просячыся на волю. Шкло шчыльна загараджвала свет. Ён тады ўскочыў на сядзенне і высунуў, як толькі мог, галаву ў задняе аконца, дзе было выбіта шкло.

Каб хоць дыхнуць...

У кузаве ляжалі львы. Голыя, з доўгімі грывамі ля шыі. Ён іх добра бачыў.

Зверху былі ўчарашнія — ён пазнаў,— усе, хто качаўся на лагу ў дзікім клубку: Малекула, Палкоўнік, Брынза, два Бімы, Чапа, Руды, Вермут і Вілія... Воддаль іх, ля задняга борта,— Маркіз і Мірон...

Джукі тады споўз з сядзення і завыў на ўсю кабіну...

Мужчына ў клятчатай рубашцы змоўк і затармазіў. Пасля перагнуўся і адчыніў ля яго, Джукі, дзверцы:

— Убірайся з вачэй к чортавай мацеры... Ідзі! Можа, і выжывеш. Не хачу на цябе глядзець, воўча лыка. Ідзі! І схавай свой дурацкі язык...

Джукі скочыў на асфальт.

Стары самазвал рвануў з месца і стаў падымацца шашой на гару.

У кузаве ляжалі львы.

*1987*

# Арчыбал

*Георгію Данілавічу Коласу*

## 1

Яго пагрузілі ў крытую брызентам машыну вечарам, перад захадам сонца. У намордніку. Грузілі ваенныя — узялі ўчацвярых адмысловую мядзведжую клетку, абабітую металічнымі лістамі, у якой ён сядзеў, паднялі па легарах у кузаў, працягнулі па падложцы і паставілі ля

самай кабіны. Двое ваенных селі ў кузаве на адмысловых, прывінчаных да падлогі сядзеннях, двое палезлі ў кабіну да шафёра.

Разам з ім, Арчыба́лам, пагрузілі ў кузаў кавуны ў мяшку — ён добра чуў нюхам,— бліскучыя на святле бутэлькі ў скрынцы, з якой пахла гарэлкай,— пах гарэлкі ён вельмі любіў; салдаты доўга бразгалі цынкавымі вёдрамі і бляшанкамі, і цяпер, калі ён, Арчыбал, астаўся адзін у клетцы, сярод паху тырсы — пілавіння з пяском — з манежа, якой ён прапах сам, бензіну, каўбасы, батонаў, рафінаду, пячэння, яблык, шакаладных цукерак, лавіў носам пах мёду — густы, здавалася, не той са слоікаў, які яму давалі ў цырку, а з лесу, што ў асінавых дуплах, якім пахла некалі маці, і ад гэтага ў яго пяршыла ў горле, круцілася галава і хацелася хутчэй на волю, якую ён нанава пачуў сваім мядзведжым нутром толькі цяпер, калі бразнулі дзверцы ў машыне і загудзеў матор. У душы ў яго як усё роўна што азвалася — далёкае і вабнае.

Клетка была з жалеза, не з пруткоў: пруцікі для яго, што салома, мог рассунуць іх,— толькі б праціснуць лапу,— як частакол, ці ўзяць і павязаць у вузлы; у дзвярах уверсе зеўрала шырокая — паласой — адтуліна, можна было, задзёршы галаву, высунуць яе на волю па самы ашыйнік і вадзіць у бакі, разяўляць пашчу, наколькі даваў намордпік, і чмыхаць ад паху, што лез у нос, у горла і аж у самае мядзведжае галоднае нутро.

Праз адтуліну ён скупа бачыў адрэзаны зверху брызентам машыны, як нажом, кавалак яркага, як у агні, неба. Заходзіла сонца, падпальваючы ядраным агнём чорнае цяжкае воблака, і яму здавалася, што там, на захадзе на небе, мядзведзіца. І ён тады, стары, пятнаццацігадовы, падумаў, што пачне ўсё нанава: будзе ў яго яшчэ і мядзведзіца, Маргарыта, і маленькая Люська. І не ў канюшні ў цырку, а там — на волі, якую ён даўно чуў нутром, а апошнія гады яшчэ больш — да дурнаты, да болю.

Яго Маргарыта любіла волю, як і ён, і вырывалася з канюшні на вуліцу як магла. Любіла яна і маленькую Люську. Але Люську любілі і людзі: дрэсіроўшчык, даглядчыкі, прыбіральшчыкі, дырэктар, адміністратар і... артысты. Усе лезлі яе пагладзіць і совалі цукеркі. А як пенавідзіла іх за гэта Маргарыта! Кожны раз хапала Люську і сціскала, ашчапіўшы ў абдымкі,— хавала ад людскіх рук і воч. Сціснула была адзін раз і задушыла... Больш у іх малых не было. Пасля смерці Люські Марга-

рыта, парваўшы ланцуг, выбегла з канюшні днём у самую гарачыню — было гэта летам, як цяпер,— на вуліцу і трапіла пад машыну. Маргарыту прывезлі ў канюшню яшчэ жывую...

І Арчыбал зноў астаўся адзін.

Зароў недзе падыспадам пад нагамі матор, падпаленая сонцам бурая мядзведзіца на небе тузанулася і знікла з воч, захістала з боку на бок жалезную клетку... Крытая брызентам машына лёгка рванула з месца — мільгнуў ззаду шэры чэрствы купал цырка, густы зялёны парк над рэчкай і высокая, у самае неба вышка — усё, што ён паспеў згледзець.

У прагале пад брызентам замітусіліся стрыжы і машка.

Горад пакінулі неяк адразу — спачатку несла пад брызент гар ад бензіну і саляркі, раўлі машыны, хоць ты было затыкай лапамі свае мядзведжыя вушы, пасля раптам ўсё аціхла і пад брызент у нос зноў дыхнула як усё роўна мёдам — Арчыбал не ведаў, што гэтак пахла за горадам жытнёвае поле, якога ён дагэтуль не бачыў. Павяла ў бакі галава.

І ён, прыпадняўшыся на заднія лапы, застыў у сваёй жалезнай клетцы, якую падкідала на выбоінах разам з машынай, выцягнуў толькі з адтуліны морду ў наморднiку і, хліпаючы ноздрамі, лавіў густы салодкі пах жыта — глядзеў і глядзеў у праём пад брызент на блізкую волю, аж мітусілася ў падслепаватых хворых вачах. У цырку ён пачаў слепнуць ад рэзкай перамены святла — на арэне пад яркім агнём — пражэктарам, у канюшні — у цемнаце.

Сумнымі вачыма глядзелі разам з ім на волю і салдаты, што прыліплі ў кузаве да адмысловых, прывінчаных да падлогі сядзенняў.

Доўга падкідала машыну, а ён усё лавіў носам, сціснутым намордпікам, пах гною і малака з фермы, пах рэчкі, што цьмяна блішчэла пад рэдзенькім туманам, пах кропу і дыму; чуваць былі галасы людзей: ехалі міма вёсак. Неяк хутка сцямнела, зноў доўга была відаць зара на захадзе, дзе села сонца, падпаленая хмара-мядзведзіца расплылася, выцягнулася, нібы хацела скочыць за гарызонт следам за сонцам; пасля ўсюды адразу змерклася, запахла сырым халодным сасновым лесам, у якім ён не быў гадоў пятнаццаць, але які, здавалася, помніў і які пазнаваў нейкім астылым, але неўтаймаваным чуццём.

Адразу сцямнела, на дарозе ўспыхнулі фары, разануўшы па хворых вачах: даганяла машына. Салдаты ў кузаве закурылі, і агні ад іхніх сігарэт паблісквалі ў цемпаце, як воўчае вока пад месяцам.

У кузаў пагнала пах імшары і сцебанула па носе рэзкім і едкім дымам ад спаленай табакі...

Ён быў тады маленькім цёплым камком — схаваеш у рукавіцу — калі паявіўся на свет у бярлозе мацi, вялікай бурай ласкавай мядзведзіцы, ад якой і зімою пахла — ён успомніць тыя пахі пасля і будзе памятаць увесь час! — мёдам, ягадамі, травой, грэчкай, птушкамі, мурашкамі, тухлаватым мясам,— усім тым, што яна ела на волі і што цяпер ён ссаў разам з цёплым густым салодкім малаком, якога ў мацi для яго аднаго было ўволю, але ад чаго яна пачынала ўвачавідкі худзець,— гэтага, прынікшы да яе, ён не ведаў.

Не ведаў ён і што мацi легла позна: доўга шукала ў пушчы зручнае месца і знайшла яго пад вялікім яловым вываратнем, у такім гушчары, што і камар летам не заляціць.

Не ведаў ён, што і зіма была лютая, што недзе пасля Новага года вызверыўся нагалец мароз, не адпускаючы, і ноччу, страляючы па лесе, ён лез пад скуру з такім імпэтам, што яго, Арчыбала, грэла мацi, прыціснуўшы мяккімі цёплымі лапамі да сябе, аж пакуль у бярлозе не стала цёпла — пайшоў снег, не сціхаючы ні днём ні ноччу. Снег зраўняў зямлю, закідаў усюды сляды і можна было спакойна чакаць вясны.

Але тоі раніцай, калі ў маленькай адтуліне ў бярлозе заіскрылася золатам сняжынка — даўно ўжо ў яго прарэзаліся вочы — і каля яе пажаўцеў іней — узышоўшы, праз густыя, цяжкія ад снегу яловыя лапкі прабілася калючае сонца,— ён — яму было ўжо каля трох месяцаў — пачуў рэзкі пах дыму ад табакі — пачуў першы раз чалавека... Пачула і мацi, але была спакойная — таўханула толькі: маўчаць!.. Трэба было вычакаць. Сабак не было чуваць, і мацi думала, што бяда магла мінуць, абысці краем. А выскачыць на снег у такі мароз і апынуцца ў лесе між людзей і ваўкоў — нажыць яшчэ горшую бяду.

Некалькі дзён было ціха: шмат разоў загаралася жоўтым агнём сняжынка перад вачыма... Загаралася і тухла, нагапяючы сон.

Пасля ў лежбішча адноічы зноў густа дыхнула дымам — і ад табакі і ад машын. Яго нёс вецер, выючы над галавой, рассыпаў па лесе са снежным свежым пылам, але яго можна было пачуць у бярлозе: мядзведжы нос не такое ўловіць. Яны не спалі, але не пакідалі бярлогі. Ён цiснуўся да мацi, яна была напружаная, але спакойная: перачакаюць.

Тады пачала ўжо грукаць зямля, як усё роўна кідалі з пня сосны; вецер часцей даносіў рокат і густы пах гару ад машын...

Назаўтра зямля звінела, бразгала і грымела. Усё бліжэй і бліжэй... А яна, ягоная маці, старая мядзведзіца, ляжала і ляжала, прыціскаючы яго да сябе. А калі выскачыла, было позна — пабегла і сослепу ці з гарачкі лучыла пад тралёвачнік — пад гусеніцы. Калі ён, Арчыбал, выскачыў за ёю, убачыў, як яна яшчэ корчылася ў перамешаным снезе, як у чырвонай гразі... Іх спачатку, відаць, і не заўважылі: раўлі, як і перш, тралёвачнікі, гудзелі пілы, ныў вецер і звінелі ядрана на марозе людскія галасы.

Калі ўсё адразу сціхла, ён згледзіў, што стаіць сярод лесу, а кругам людзі. Ідуць да бура-чырвонай плямы на снезе і да яго. Ціха-ціха ідуць, чуваць толькі, як скрыпіць у іх снег пад нагамі.

Ён яшчэ хацеў уцячы, рвануць з гэтага людскога круга — хто дагоніць мядзведзя, калі ён пусціцца бегчы, хоць і малы,— але са страху — знайдзі каго больш палахлівага, чымся мядзведзь — ці па сваёй, можа, маладой дурноце — які ён яшчэ мядзведзь у тры месяцы — ён крутнуўся ў адзін бок, у другі і... замёр на месцы, прыліпшы да снегу, як да мацерынага жывата. Людзі доўга не чакалі: крычучы, яны накрылі яго адразу брызентам, пасля закруцілі ў яго — брызент пахнуў дымам ад табакі, хлебам, салёнай траской — ён не чуў яшчэ такога паху — і панеслі. Як ён пішчаў, стрэпаючы лапамі па брызенце! Кінулі спачатку, відаць, у кабіну цягача, бо было горача, калі калыхала ў дарозе, пасля, мусіць, у кузаў машыны, як цяпер, бо стала раптам зноў холадна пад брызентам, свістаў адусюль калючы вецер і ныў падыспадам матор. Ён тады, малы, без маці, раптам супакоіўся: не хацелася ні пішчаць, ні драпаць лапамі брызент, і, калі яму зрабілі дзірку ў брызенце для носа, каб не задыхнуўся, і нехта смелы паднёс яму ў руцэ пад нос пячэнне,— ён нават на яго не глянуў...

Ехалі ўсю ноч, і салдаты ўсю ноч не спалі — курылі. Не спаў і ён — глядзеў у цёмны прагал ночы, якая сляпіла яго ядранымі фарамі, як святло на арэне, ад якога ён пачаў слепці.

У той вечар ён, Арчыбал — Арчыбалам яго назвалі ў цырку, ён любіў гэту імянушку і заўсёды адклікаўся на яе: заміраў, паварочваў галаву ці станавіўся на дыбкі, падымаючы ўгару пярэднюю лапу,— адкатаўся на ролікавых каньках, пасля паўзы зноў выехаў на матацыкле ў сваіх шэрых штанах у чорную клетку і малінавым каптаніку, у намордніку і шлёме, які быў прышпілены дзяжкамі да намордніка; лапы на рулі — учапіліся кіпцямі...

Трэск ад матацыкла і ад апладысментаў закладваў вушы...

Пасля другой паўзы — яму за гэты час надзелі баксёрскія пальчаткі — ён павінен быў выйсці на манеж і схапіцца са сваім «праціўнікам» Барыбалам. Барыбала ён не любіў — вострая морда, цыбаты, гладкая кароткая поўсць, як прылізаная, не буры, а скарэй за ўсё чорны, у дабавак да ўсяго канец вострай морды жоўты, аж белы — так і хочацца ў яго тыцнуць баксёрскай пальчаткай. І надта ўжо той любіў рафінад, а яшчэ горш — лізаў руку дрэсіроўшчыку. Арчыбал гэтага цярпець не мог: быў горды.

Выйшаў ён тады за падцыглястым худым Барыбалам на манеж... Нават замахнуўся, каб ударыць таго ў яго вострую паганую морду і... вочы заслала жоўтая тырса... Увесь свет, здалося, быў з адной тырсы — і далёкія людзі, і манеж, і дрэсіроўшчык, што падбег і мітусіўся побач, і неўздаляка Барыбал, і музыка... У вачах перасыпалася адно жоўтае пілавінне і пясок... Ён доўга круціўся на адным месцы, засланіўшы ад Барыбала пальчаткамі вочы, і яго павялі з манежа...

На манеж пасля таго яго ўжо не выводзілі — прайшло месяцы са два.

У цёмнай канюшні ён добра ўсё бачыў, а пры яркім святле ўвесь свет рабіўся жоўты — як нос у Барыбала.

Яго лячылі: задзіралі галаву ў намордніку, адцягвалі пальцамі куток у пашчы, і ветэрынар выліваў у рот лякарства. Гладзілі пасля таго па горле, затыкалі нос, каб ён глытаў сліну і разам з ёй іхняе лякарства...

Патухлі агеньчыкі салдацкіх папярос, з шашы больш

не рэзалі вочы вострыя пражэктары фар, недзе далёка, як у бяздонні, бліснула сіняя калючая зорка, знікла, і пад брызент ваеннай машыны зірнуў месяц. Жоўты, як нос у Барыбала, поўны, вялікі і круглы — здавалася, ён ацяжэў і ніколі не падымецца ад зямлі. Затрымаўся быў на якую кароткую хвіліну, каб паглядзець на яго, Арчыбала, пасля раптам тузануўся і паляцеў за борт у цемнату.

Месяц больш не паказваўся. Машыну не трасло, яна ціха неслася ўначы па халодным асфальце немаведама куды. Падыспадам, пад клеткай, манатонна ныў і ныў матор, як камар ля носа, наганяючы нуду і сон.

Калі падкідала машыну, яму здавалася яшчэ, што ён стаіць на задніх лапах на манежы на высокім грудку, складзеным з цэглы, і выкідвае лапай з-пад сябе па адной цагліне...

Пасля на яго зноў паглядзела аднекуль здалёку жоўтая вострая морда Барыбала, і ён праваліўся ў мяккую тырсу, як на той свет...

## 2

Бразнула недзе блізка жалеза, і ён адплюшчыў вочы. Усюды стаяла такая густая цішыня, што ажно ныла ў вушах. Калі ён услухаўся — пачуў, як цыльгікае побач дзяцел і блізка шваргоча па каменні рака.

Салдат не было і звання. Выерзаныя сядзенні ля бартоў былі пустыя і блішчэлі цьмяным бляскам. Праёміна пад брызентам была ўся ў ружовых плямах — праз лес на яе свяціла сонца. І сосны, гладкія і чыстыя, перад вачыма былі ружовыя.

Значыць, ён спаў, і яго цяпер разбудзіў бразгат.

Зноў кляцнула жалеза, і адваліўся задні борт у машыны. Ля яго стаяў падгалісты мужчына сярэдніх гадоў — даглядчык з цырка Дзімыч; была відаць яго галава і грудзі. Як ён тут апынуўся, у кабіне яго не было, туды да шафёра падселі два ваенныя? Дзімыч падняў вялую руку — прывітаў. Быў ён у чорным пакамечаным касцюме, пасыпаным зверху нечым белым, як мукой. Яго доўгі, рыхлы, чырвоны, як кавалак пабітага мяса, твар увесь зморшчыўся; вочы заплылі, і ён іх зусім не падымаў — глядзеў у зямлю. Ад яго востра пацягнула дымам ад папярос і кіслым вінным перагарам.

Арчыбал тузануўся ў клетцы яму насустрач. Даглядз-

чык Дзімыч, да якога Арчыбал даўно прывык і які карміў яго і паіў, мыў і падбіраў за ім на канюшні гадоў недзе з дзесяць — помніў ён і ягоную Маргарыту і Люську,— зноў падняў руку і загаварыў:

— Спакойна, дарагі... Вось мы і прыехалі... З козамі на торг... Зараз саскочым на травіцу, сходзім да ракі. Загадана прыняць ванну, адным словам. Накармлю пасля і — на волю... маць іх на талерку...— Даглядчык Дзімыч гаварыў глуха, сіпата, і ў яго дрыжаў голас.

Калі Арчыбал нарэшце скочыў на зямлю, у яго закружылася галава. Ад дарогі? Ад волі? Ад сасновага смалістага паху? Ад багуну і ад малін, ад якіх адразу зрывала нос? І не трэба было даглядчыку Дзімычу браць яго на ланцуг, не трэба было пстрыкаць жалезам ля вуха, чапляючы ланцуг за ашыйнік: ён раптам адчуў на якое адно імгненне, што спужаўся гэтай волі і нікуды не збяжыць...

Ён стаў на заднія лапы і замёр ля Дзімыча: толькі ноздры ў яго хадзілі ходырам...

Лес быў увесь у расе: чырвоная ад сонца, як спелыя брусніцы, яна капала з сасновага шылля яму на поўсць, на грудзі, на галаву, на нос; аж чуваць было, як яна падае на высокі, у калена, чарнічнік — шапацела. Запахла чарніцамі, мохам з імшары, грыбамі і малінамі — мацерай з логвішча... Ён злавіў нюхам усё гэта адразу — адным дыхам — як сваё: нібыта і не было доўгіх гадоў сцятага клеткай жыцця на канюшні, на манежы, у зачадзелых кузавах машын, у дрогкіх цягніках, у цесных самалётах... Упоплечкі са звярамі і людзьмі... Цяпер усё тое далёкае, з той пары, калі ён быў малы, клалася ў душы на сваё месца.

Перамагала воля... Ён пачне ўсё спачатку, пачне жыць нанава, з таго дня, як помніць сябе,— калі яго малога прыхінала да сябе ў халоднай зімовай бярлозе маці...

Язык у маці, калі яна яго лізала, патыхаў тады малаком, мёдам, прэллю і мурашкамі — лесам... Цяпер ён гэта ведае...

Ён пачне ўсё спачатку — не позна. Ён знойдзе яшчэ мядзведзіцу... Знойдзе Маргарыту...

Ад волі пад ім калацілася зямля — гэта дрыжалі ногі — здрадзілі — і грукала ў грудзях сэрца. Але воля была яшчэ прывідная — на чалавечым ланцугу.

— Што здранцвеў, дарагі? Не пазнаеш роднай ха-

ты? — даглядчык Дзімыч зноў загаварыў хрыпатым іржавым голасам.— На волю пусцім самі, не тузай... Гм... На во-о-лю...

Арчыбал быў дрэсіраваны і пакорна пайшоў за Дзімычам — зазвінеў ланцуг і напяўся ашыйнік, у ступні спадыспаду закалола сасновае шыллё і старыя ашчэраныя шышкі... Ён падымаў ногі, як з гарачага вугалля.

Сцежкай па траве ісці было мякчэй, і яны падышлі адразу да вялікага з шырокімі вокнамі дома, завешанымі нечым чырвоным. Дом быў на два паверхі, зрублены са свежага сасновага бярвення — аж б'е ў нос смала. Зямля перад домам была ўся здрабежана машынамі і людзьмі. Сляды былі свежыя, ад іх яшчэ пахла мазутам і гуталінам...

Толькі людзей нідзе не было — ні душы. Яму тады раптам закарцела аглянуцца: здалося, што іх повен лес...

У дом яны не пайшлі. Даглядчык Дзімыч узяў з жоўтай доўгай лаўкі, што ўпіралася канцом у зашклёную веранду, ручнік, мыла ў чырвонай мыльніцы і павёў па сцежцы — па калючым жвіры — за дом.

Мыла з чырвонай мыльніцы пахла малінамі...

За домам, за зялёнай грыўкай логу, была рака. Яны падышлі да самай вады і сталі. З-пад ног у іх, пісnуўшы, пырхнулі дзве чысценькія пярэстыя пліскі.

— Ну што, дарагі? Загадана пабултыхаць цябе ў ванне. Змыць твой дух, каб твайго цырку тут і блізка не было. Каб ты пах малінамі... Ад цябе тырсой цягне на дзве вярсты...— Дзімыч раптам задзёр руку і доўга глядзеў на гадзіннік.— Ванна адмяняецца! — сказаў ён пасля, аж здрыгануўшыся.— Спазнясмся мы з табой, чорт вазьмі!.. Пайдзём, хоць пакарміць цябе ўспею...— Дзімыч шпурнуў навотліж чырвоную мыльніцу ў чорную прорву ракі.— Хай іх саміх мыюць... Вот так, Арчыбал... І не лезь да мяне ў кішэні з лапамі. Нічога там сёння няма: ні папярос, ні рафінаду.— Дзімыч памаўчаў і ўздыхнуў: — А ў мяне была грэшная думка, што я адвязу цябе ўвосень у запаведнік... Ды не лезь ты ў кішэні, каму сказана! Мужчына ты ці не? А я думаў, што адвязу цябе ў запаведнік...— Даглядчык Дзімыч вёў яго назад, не заўважыўшы, што выпусціў з рук белы доўгі ручнік і стаптаў яго нагамі.

— Вот табе і запаведнік...

Ад Дзімыча несла перагарам.

На верандзе Дзімыч зняў у яго намордпік і адразу падаў міску з чарніцамі.

— Мяса загадана не даваць. Наеўшыся мяса, возьмеш яшчэ ды заснеш!.. А мёду дам, не абману...

Дзімыч усё адварочваўся і глядзеў у зямлю.

Чарніцы з місачкі былі горкія.

Ён бег з усіх чатырох — куляўся, лахматы і круглы, як капа; пад ім падгіналіся лапы, хаваючыся глыбака ў мяккі, вільготны з начы мох,— лучаў толькі, каб віхляць між тоўстых, у мядзведжы ахват, сосен і не стукнуцца ў камель галавой, на якой ад усяго нечаканага аж падымаўся чэрап. Намордніка больш не было, не было і ашыйніка на шыі, які надзелі былі раз і назаўсёды, і без якога цяпер, здавалася, цягне ўніз галаву. Ашыйнік, шырокі, скураны, цвёрды, разрэзаў нажом Дзімыч, калі вывеў сюды, на вузкую лінію — прасеку між высокіх старых, аброслых белым мохам сосен. Вёў доўга, можа, з гадзіну...

Ён, Арчыбал, спачатку быў ап'янеў на лініі ад волі і цёплага сасновага смалістага духу. Устаў на заднія лапы і закружыўся на месцы, сам не ведаючы чаму — ад радасці? Пасля адразу пусціўся бегчы на чатырох вузкай лініяй у той бок, куды падаўся Дзімыч. Ён не мог так адразу астацца без людзей, без Дзімыча і, як чуючы што, баяўся волі...

Але Дзімыча ўжо нідзе не было, як скрозь зямлю праваліўся. Не пахла нават ягонымі папяросамі і перагарам.

Ён зноў падняўся на заднія лапы і тады пачуў, што папяросамі пахне адусюль: спераду, з аднаго і з другога боку. Ён здагадаўся: спераду і з бакоў — людзі.

Ён тады крутнуўся, каб пабегчы лініяй назад,— там, здалося, пахнуў цяпер перагарам Дзімыч, але лес ззаду і з бакоў як усё роўна прарвала. Забрахалі спачатку сабакі, пасля загалёкалі людзі, заляпалі ў далоні, як у цырку, калі апладзіравалі яму, Арчыбалу, загрукалі нечым цвёрдым па камлях сосен...

Такога ён не чакаў. Яго раптам схапіў страх: даганяць, накінуць зноў ашыйнік з намордпікам... Павядуць на ланцугу і пасадзяць у жалезную клетку...

Мала пабыў на волі, без ашыйніка...

Ён зірнуў наперад — лініяй перад сабой. Там не было людзей... Там, недзе ў густых сасновых вярхах свяціла сонца, пачынаючы ўжо грэць, там было ціха і адтуль пахла верасам і малінамі. Там стаяла адвечная пушча, з моракам і звярыным прыстанішчам, дзе жыве Маргарыта,— сама ўся залацістая, грыва і шыя палыскаюцца срэбрам; галава з маленькімі вочкамі і маленькімі вушкамі...

Ён знойдзе яшчэ сваю Маргарыту... У яго ўсё наперадзе...

Чалавечыя галасы і праціўны сабачы брэх былі ўжо зусім блізка...

Ён не ведаў, што быў дужы, што ўдоўжкі вырас амаль два метры, што пацягнуў бы на вазе з паўтоны, што мог перабіць хрыбетнік каню, падняць забітага быка з зямлі пярэднімі лапамі і панясці перад сабой, што нават з куляй у сэрцы мог бегчы далёка...

Ён не ведаў гэтага і бег, спужаўшыся людзей і сабак... Перабіраў і перабіраў нагамі, як у цырку, скочыўшы з тумбы на шар...

Вузкая лінія наперадзе пасвятлела — глянула зверху на яго сінім шкляным кавалкам чыстага неба.

Чыстага неба ён не чакаў: бег у глухую вечна пушчу, пад цёмныя нават у ядраны дзень шырокія, нізкія, аж сцеляцца па зямлі, яловыя лапкі...

Лапы пайшлі цішэй — нібы закруцілі пад сабой на манежы цяжкія педалі веласіпеда...

Ён яшчэ раз спыніўся, на мінуту, каб перавесці дух і агледзецца... Пасля зноў пабег...

У канцы лініі была паляна — чыстая і круглая, як арэна ў цырку. Яе высвеціла ядранае калючае сонца — зверху, з-за лесу, нібы цыркавымі пражэктарамі.

Ён не мог глядзець на сонца — слеплі вочы.

Ззаду і з бакоў зноў забрахалі сабакі...

## 3

Гаспадара мучыла нага. Ён, круглы з твару, лысы, з адтапыранымі вушамі, з хітрымі разумнымі ўжо старэчымі вочкамі, тоўсты, з адышкай згінаўся ўсё і разгінаўся, сапучы,— стараўся дастаць рукой да балючага месца на назе: хацелася пагладзіць.

Учора з Замежным Госцем ездзілі за горад на Курган

ускладаць гірлянды. Замежны Госць, высокі, стройны, скроены, здавалася, на ўсё жыццё па-маладому, з гордым профілем і барадой, у ваеннай форме — ваенную форму ён насіў заўсёды, у цывільным адзенні Гаспадар яго ніколі не бачыў — на самым версе Кургана, зірнуўшы па-арлінаму ўніз ад высокага абеліска, рашыў раптам спускацца не па бетонных прыступках, а па зямлі, па траве. Што яму стукнула ў галаву, ад чаго закружылася яна — ад вышыні? Ад бязмежнага прастору навокал, зацягнутага сіняй летняй смугой? Ад гарачага сонца? Ад чаго закіпела яго неўтаймаваная гарачая кроў? Хто ведае. Можа, усё жыццё ён пагарджаў любымі прыступкамі? Можа, ніколі не любіў падымацца ўгору па іх, цвёрдых, вычышчаных ветрам, як усё роўна вылізаных языком — аж блішчаць? Тым больш — апускацца ўніз, сагнуўшыся і дрыжачы,— чалавек быў горды.

Ён і пайшоў з самай вяршыні ад высокага чорнага абеліска ўніз па зялёнай, чуць зрыжэлай ад вятроў і сонца траве ў сваіх карычневых новых чаравіках-крагах, у халяўкі якіх былі хвацка запраўлены калошыны штаноў. Пайшоў — нікога за сабой не запрашаючы, цвёрда, горда ўзняўшы галаву. Не глядзеў нават пад ногі на зямлю, дзе можна спатыкнуцца і паляцець уніз на злом галавы: чалавек ніколі не спатыкаўся.

Спачатку ўсе разгубіліся — на якую хвіліну. Пасля — усе да аднаго — пайшлі за Замежным Госцем — не кідаць жа яго аднаго, ды апускацца па бетонных прыступках. Як тады глядзець яму ў вочы? Ішлі — хто як, ужо не думаючы пра Госця, а пра сябе: спатыкнешся — паляціш бурдой уніз, а там — як пашанцуе.

Госць увесь час ішоў наперадзе, смела, цвёрда, не азіраючыся — як арол па скале, і сышоў першы. Стаяў, не паварочваючыся, і глядзеў у сінечу на горад.

Сышлі і ўсе, ідучы памалу, асцерагаючыся, падтрымліваючы адзін аднаго — ён, Гаспадар, не даўся, каб яго падтрымлівалі,— што скажа Госць? — ішоў сам — і, дзякуй богу, усе жывыя і здаровыя. Толькі ён, Гаспадар, падвярнуў правую нагу ў костачцы і нацёр мезеныя пальцы ў сваіх новых, лакіраваных чорных туфлях з вострымі насамі...

І цяпер, стоячы тут, у густым старасвецкім ельніку, з тульскім двухствольным ружжом цэнтральнага бою напагатове — Госць з такім жа ружжом стаяў, лічы, побач,

крокаў за дзесяць — ён, Гаспадар, не мог апёрціся цвёрда на правую нагу — разбалелася пасля ўчарашняга і тупа ныла ў костачцы ўсё больш і больш. І пяклі мазалі... Нават у раскошных бліскучых гумовых ботах па калені, мяккіх, ступаеш, што ўсё адно не па зямлі, пяклі, праклятыя, як прыскам. Ён, Гаспадар, нікому не сазнаваўся. Кіўнуў бы пальцам — дактары, што былі непадалёку, палічылі б за гонар збегчыся, памазаць далікатненька мазалі і перабінтаваць нагу ў костачцы — тут ужо не далікатненька, а тужэй! — але ён маўчаў і цярпеў: а калі пачуе Госць?

Гаспадар, стоячы, моршчыўся. Нават рукі, якія трымалі тульскую двухстволку напагатове, занылі, як ногі ад мазалёў, і пачыналі дрыжаць — нікуды не варта, к чорту!

Замежны Госць быў у крагах — не захацеў абуць гумовыя боты. Стаяў, прыціснуўшы імі мох і брусьнічнік з буранькімі ягадамі, як укопаны — не зварухнецца. Ружжо — такая ж двухстволка цэнтральнага бою, як і ў Гаспадара — у адной, выцягнутай руцэ. З таго часу, як паплылі па лесе першыя пошчакі загону...

Пошчакі бліжэлі... Ядрана былі чуваць людскія галасы: улюлюкалі з двух бакоў, гонячы мядзведзя на паляну, што была перад імі, Гаспадаром і Госцем,— падыходзіла блізка, метраў за дваццаць.

Паляна, вялікая, круглая, як адумысла створаная прыродай, ляжала сярод лесу, нібы на паяўку. Яна была выкашана яшчэ ўчора — гаспадар гэта ведаў; нідзе не было відаць і травы: яе зграбілі і прынялі — чыста. Толькі з другога боку паляны, ля лесу, яна калыхалася ад ранішняга вільготнага ветру доўгай грывай: чарот, рабінка, асака, маліннік, крапіва і высокая, у рост чалавека, пераспелая лясная мятліца.

Адтуль павінен быў паявіцца мядзведзь — прама пад ружжо Замежнаму Госцю. Гаспадар першы не страляў, як і ахова, якая была — і не толькі з ружжамі — з усіх бакоў, але якой не бачылі ні Гаспадар, ні Госць — толькі дагадваліся.

Мядзведзь і выскачыў з гэтай травяністаї грывы на выкашаную паляну. Выскачыў смела, нічога не баючыся, не азіраючыся і нават, здавалася, не зважаючы на праразлівыя пошчакі загону, што засталіся цяпер далёка ззаду.

Гаспадар пачуў, як хруснула пад ім падгнілая ў імху

галінка — захваляваўся, відаць, і стаў з усёй сілы на праву нагу,— як рэзка павярнуў у ягоны бок галаву Госць, пасля падняў адной рукой ружжо вышэй і стаў узірацца на паляну — цэліўся.

Для стрэлу мядзведзь быў яшчэ далекават,— павінен выйсці на сярэдзіну паляны...

На сярэдзіну паляны мядзведзь не пайшоў. Выскачыўшы з травы, ён спыніўся, як спатыкнуўшыся, пакруціў галавой у бакі — нюхаў паветра. Вецер хоць быў ад яго, але круціў, і мядзведзь мог пачуць пах жалеза — сталі ад ружжаў — і мог здагадацца, што яго чакае на выкашанай паляне. Прабегшы яшчэ якія тры дробныя крокі палянай, ён пачаў падымацца на заднія лапы. Прыемна было глядзець, як ён ціха і плаўна, што ўсё роўна пад музыку, адгінаецца ад зямлі, павярнуўшы галаву якраз у той бок, дзе быў Госць; як ён паволі пачаў разводзіць у бакі лапы, агаляючы грудзі, на якіх шырокім клінам быў відаць прыродны белы гальштук... Выпрастаўшыся, вызцягнуўся ў струнку і стаяў — высокі, буры, стройны, замёр на міг, быў як вычасаны з вялікага каменя, які нялёгка знайсці. Замёр, застыў, падставіўшы белыя — гальштукам — грудзі адразу пад два жаканы Замежнага Госця, толькі краталася пад вільготным раніішнім ветрам яго цёмна-бурая поўсць: на галаве і на грудзях. Пасля, ступіўшы ўперад на паляну, аддаў адной лапай салют, вітаючы, як у цырку з арэны, Гаспадара і Замежнага Госця, і пайшоў, пружынячы на задніх лапах, не на Госця, як перш, а па крузе па паляне, махаючы лапамі — прыхінаў адну да грудзей — да белага гальштука, другую адкідваў набок наводліж, ківаючыся ў такт сваёй пружыністай хадзе — пайшоў у танец.

І калі ён на жоўта-зялёнай скошанай паляне пусціўся ўпрысядку, Замежны Госць, падняўшы высака ўгару над галавой ружжо, кінуў яго вобземлю — яно глуха чмякнулася ў вільготны мох — моцна і выразна плюнуў пад ногі, загаварыў, відаць, вылаяўся па-свойму, завярнуўся і пайшоў адзін у глыбіню яловага лесу, не глянуўшы нават на яго, Гаспадара...

У неба адразу ўзляцелі дзве чырвоныя ракеты...

Гаспадар ведаў, што на паляне быў стары цыркавы мядзведзь з манежа — ад Гаспадара гэта пабаяліся схаваць,— што круглая паляна здалася мядзведзю арэнай...

Не ведаў гэтага раней толькі Госць.

Замежны Госць быў разумны і быў вялікі дыпламат. Ні ў машыне, у якой ён вяртаўся ў горад разам з Гаспадаром, ні за сталом у палудзень ён не сказаў пра мядзведзя ні слова.

Не сказаў пра гэта і назаўтра на аэрадроме перад адлётам; нават выгляду не падаў, што было нешта такое...

Гаспадар таксама быў разумны і быў не горшы дыпламат. І ён не сказаў пра гэта ні слова: у вялікіх кіраўнікоў быў больш важны, дзяржаўны клопат. Толькі ў іх вачах увесь час гарэлі хітрыя агеньчыкі, нават на аэрадроме пры расстанні.

На аэрадроме яны моцна абняліся і пацалаваліся, як і пры сустрэчы.

А Арчыбала ў той жа дзень салдаты даставілі ў той жа машыне, запёршы ў тую ж клетку, назад у горад, у цырк ля ракі — у канюшню. Туды — адкуль і ўзялі. Салдаты — народ з дысцыплінай.

Назад у кузаве з імі ехаў і даглядчык Дзімыч...

## 4

Апошнія два гады Арчыбал жыў у запаведніку, вялікім, на сотні гектараў лесу і балота. У лес на волю яго не пусцілі — «непрыстасаваны», хутка загіне.

Ён жыў у клетцы каля старожкі.

Мядзведзі, як і людзі, любяць курыць і любяць піць.

Рабочыя леспрамгаса, прыходзячы ў запаведнік у магазін, давалі Арчыбалу спачатку акуркі — ён жаваў і папяросы, і махорку,— пасля хлеб, абліты вінам. Арчыбал хутка прывык да «чарніла» і пасля, калі рабочыя не давалі яму ў лапы бутэльку, ён ламаў клетку, праціўна скрыгаў зубамі, аж кроў ішла з рота, і роў немым голасам на ўвесь лес.

Рабочыя занадта часта давалі яму «чарніла», і ён піў яго з бутэлькі з рыльца, як і яны.

Праз два гады ён «схапіў» цыроз печані і «пасадзіў» сэрца, як гаварылі рабочыя.

Памёр ён на трэці год, раніцай у глухую восень.

Додніцай прайшоў снег і ляжаў белай рыхлай яшчэ паласой каля жалезнай рашоткі — у яго перад самым носам.

З рота ў Арчыбала пайшла гарачая, як вар, кроў — пырснула за металічную рашотку на волю,— ён убачыў ля сябе толькі чорна-чырвоны краёк шырокай белай лясной паляны.

Падумаў яшчэ, што зямля, засыпаная снегам, пахла мядзведзіцай...

P. S. Дакументальны кінафільм пра двух паляўнічых і Арчыбала загадалі змыць.

*1988*

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# КАМЕНТАРЫІ

## Чакай у далёкіх Грынях

Упершыню — Маладосць, 1960, № 9 — 12.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Чакай у далёкіх Грынях. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1962.

Перакладаўся на рускую мову.

## Смалістая хвоя

Упершыню пад назвай «Багуны ў бары не растуць» — Літ. і мастацтва, 1958, 15 сак.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Зерне падае не на камень. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1959.

Перакладалася на рускую мову.

## На шчасце

Упершыню — Маладосць, 1958, № 12.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Зерне падае не на камень. Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1959.

Перакладалася на рускую мову.

## Калістрыха

Упершыню ў такім варыянце ў перакладзе на рускую мову — Дружба народов, 1959, № 12.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн.: Беларусь, 1966.

Перакладалася на латышскую і балгарскую мовы.

## Браканьер

Упершыню — у кн.: Пташнікаў І. Зерне падае не на камень. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1959.

Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладалася на рускую мову.

## Партфель з жоўтай скуры

Упершыню — у кн.: Пташнікаў І. Зерне падае не на камень. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1959.

Друкуецца па тым жа выданні.

Перакладалася на рускую мову.

## Прахадная пешка

Упершыню — Чырвоная змена, 1962, 9 снеж.

Друкуеца па кн.: Пташнікаў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн.: Беларусь, 1966.

Перакладалася на рускую мову.

## Алёшка

Упершыню — Полымя, 1962, № 4.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн.: Беларусь, 1966.

Перакладалася на рускую, украінскую, эстонскую, армянскую, малдаўскую, узбекскую, чувашскую, асецінскую, балгарскую, нямецкую, венгерскую, верхнялужыцкую мовы.

## Алені

Упершыню — Полымя, 1962, № 4.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн.: Беларусь, 1966.

Перакладалася на рускую, украінскую, літоўскую, польскую, англійскую і французскую мовы.

## Бежанка

Упершыню — Полымя, 1962, № 4.

Друкуецца па кн.: Пташнікаў І. Сцяпан Жыхар са Сцешыц. Мн.: Беларусь, 1966.

Перакладалася на рускую і польскую мовы.

## Танцы

Упершыню — Беларусь, 1963, № 3.

Друкуецца па тым жа выданні.

## «Эфка»

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1983, 26 жн.
Друкуецца па тым жа выданні.
Перакладалася на рускую мову.

## Львы

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1987, 18 верас.
Друкуецца па тым жа выданні.
Перакладалася на рускую, азербайджанскую, чэшскую і польскую мовы.

## Арчыбал

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1988, 18 лістап.
Друкуецца па тым жа выданні.
Перакладалася на рускую мову.

## ЗМЕСТ

**Пташнікаў І.**

П87 Збор твораў. У. 4 т. Т. 1. Раман; Апавяданні/Прадм. С. Андраюка] — Мн.: Маст. літ., 1990.— 478 с., [5] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00509-7.

Пташников И. Собрание сочинений. Т. 1. Роман; Рассказы.

У першы том вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Івана Пташнікава ўвайшлі яго ранні раман «Чакай у далёкіх Грынях» і апавяданні, напісаныя ў розныя гады.

П $\frac{4702120201—133}{М302(03)—90}$ 104—90 **ББК 84Бел7**

*Литературно-художественное издание*

ПТАШНИКОВ ИВАН НИКОЛАЕВИЧ

**СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ**

**ТОМ ПЕРВЫЙ**

Роман, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

ПТАШНІКАЎ ІВАН МІКАЛАЕВІЧ

**ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ**

**ТОМ ПЕРШЫ**

Раман, апавяданні

Рэдактар *М. І. Котаў*

Мастак *Н. У. Сустава*

Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*

Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*

Карэктар *Л. М. Маслоўская*

ІБ № 3303

Здадзена ў набор 25.09.89. Падп. да друку 09.04.90. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 26,99. Ул.-выд. арк. 28,18. Тыраж 4200 экз. Зак. 2929. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.